УДК 811.161.3'36
ББК 81.2Бел
С 92

Р э ц э н з е н т ы :
*Любоў Антанюк*, доктар філалагічных навук
*Аляксандра Станкевіч*, доктар філалагічных навук

**Сцяцко П.**
С 92 Культура мовы / П.Сцяцко. — Мн.: Тэхналогія, 2002. — 444 с.

ISBN 985-458-062-8.

Аўтар дзеліцца сваімі развагамі пра шляхі ўдасканалення беларускага правапісу, аналізуе тыповыя парушэнні сістэмы нашае мовы ў галіне марфалогіі і сінтаксісу, на шматлікіх канкрэтных прыкладах разглядае праблемы яе лексічнага нармавання.

Будзе карыснаю журналістам, выдаўцам, настаўнікам, студэнтам, усім, хто цікавіцца пытаннямі культуры сучаснай беларускай мовы.

**УДК 811.161.3'36**
**ББК 81.2Бел**

ISBN 985-458-062-8

© Сцяцко П., 2002
© "Тэхналогія", 2002

# АД ВЫДАВЕЦТВА

Вострую патрэбу ў адраджэнні і далейшым самабытным развіцці беларускай нацыянальнай мовы досыць выразна выказаў славуты навуковец, аўтар манаграфіяў, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі беларускай літаратурнай мовы для вышэйшых навучальных установаў Беларусі, доктар філалагічных навук Леў Шакун. З прыроды сваёй чалавек вельмі асцярожны, свае думкі ён выклаў у замежным друку ў публікацыі (на рускай мове) "Проблемы белорусского языка в свете национального возрождения Белоруссии", змешчанай у польскім часопісе "Rozprawy Sławistyczne" Lublin, 1995. С. 235—244.

Навуковец справядліва лічыў, што рэформа 1933 года здзяйснялася з мэтай набліжэння беларускай мовы да рускай ("Она была направлена на слияние национальных языков"). Спыняючыся на надзённых задачах нацыянальнага беларускага адраджэння, Л.Шакун адзначаў: "Теперь особенно важно заняться упорядочением литературных норм, всей национальной языковой практики... Необходимо решить и ряд других вопросов культуры белорусского языка. Это касается прежде всего принципов отбора лексико-фразеологических средств, отношения к заимствованиям, "забытым" словам и выражениям, вообще активизации внутренних ресурсов языка, всего того, что составляет его национальную специфику" (С. 242).

Мінула тры гады ад таго часу, як Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы выдаў кнігу Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" (Гродна, 1998. 294 с.), і два гады, як выйшлі "Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы" таго самага аўтара (Гродна, 1999. 292 с.)

Кнігі прыхільна сустрэла беларуская нацыянальная інтэлігенцыя — пісьменнікі, навукоўцы, настаўнікі і выкладчыкі ВНУ, супрацоўнікі рэдакцыяў і выдавецтваў. Сведчаннем таму — шматлікія замовы на кнігі, атрыманыя аўтарам, а таксама выдавецкім аддзелам універсітэта. У рэспубліканскім перыядычным друку з'явіліся ўхвальныя водгукі (*Я.Зэльвіч*. Чысцец для мовы (ЛіМ. 10.04.1998); *І.Германовіч*. Дзеля нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, захавання нас як нацыі (Наша слова. 6.05. і 13.05.1998); *М.Даніловіч*. З руплівасцю і пашанай да роднага слова (Роднае слова. 1998. № 3); *А.Каўрус*. Служэнне роднаму слову (Полымя. 1999. № 1); *І.Германовіч*. Працяг размовы: Дзеля нашага нацыянальнага адраджэння, захавання нас як нацыі (Наша слова. 15.08.1999)).

Высокую ацэнку атрымалі згаданыя кнігі і ў публікацыях з нагоды юбілею аўтара (*М.Шавыркін*. Карыфей айчыннага мовазнаўства. Звязда. 4.03.2000; *М.Скобла*. Рыцар вяльможнага слова. ЛіМ. 3.03.2000 ды іншыя).

У новым выданні, якое чытач трымае ў руках, матэрыялы дзвюх ранейшых кнігаў спалучаныя ў межах адной (з захаваннем усяго іх зместу), пад агульным назовам "Культура мовы". Мовазнаўчы тэрмін "культура мовы" выкарыстоўваецца з значэннем моўнай нармалізацыі — ачышчэння савецкага варыянта беларускай літаратурнай мовы ад беспадстаўных пазычанняў і калькаванняў (асабліва з былога ўсесаюзнага стандарту — расійскай мовы), ад штучных структураў, неўласцівых беларускай мове.

Народны паэт Беларусі, акадэмік Максім Танк у 1993 годзе, падчас адраджэння нашай культуры і мовы ў суверэннай краіне, запісаў: "Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанасцяў" (Полымя. 1997. № 12. С. 69).

У дапрацаваным выданні падаюцца дадатковыя прыклады выкарыстання нармаваных адзінак у нацыянальным друку. Лексікалагічныя артыкулы размешчаныя ў кнізе без уліку іх алфавітнай паслядоўнасці. Пры канцы кнігі змешчаны паказальнік прааналізаваных моўных адзінак.

У артыкулах звычайна на першым месцы стаіць тое слова, якому аддаецца перавага. Калі другі кампанент вызначаецца як неадпаведны моўнай сістэме, то дублеты спалучаюцца словамі "а не" ("Мовазнаўчы — а не моваведскі"); калі яны разглядаюцца як магчымыя сінонімы, то аб'ядноўваюцца злучнікам "і" або працяжнікам ("Мапа і карта", "Спадзеў — надзея").

Матэрыялам для аналізу ў кнізе паслужыла багатая картатэка аўтара (да 100 тысяч моўных адзінак), складзеная з прыкладаў з нацыянальнага перыядычнага друку, манаграфічных даследаванняў, слоўнікаў ды іншых крыніцаў.

# УСТУП

Сучасная беларуская літаратурная мова мае не толькі свае набыткі, але і страты. Сучасны варыянт літаратурнай мовы складваўся ў няпростых грамадска-палітычных варунках. Пасля важкіх дасягненняў у фармаванні нацыянальна-культурнай свядомасці беларускага народа ў 20-х адраджэнскіх гадах пазней наступіў перыяд заняпаду. У СССР панавала "глабальная камуністычная ідэалогія, якая мела на мэце сціранне граняў і адрозненняў паміж нацыямі і народнасцямі, стварэнне адзінага савецкага грамадства, што будзе ўжываць адзіны сродак камунікацыі, інфармацыі і самавыяўлення — рускую мову. Астатнія мовы, у іх ліку і беларуская, у новай будучай супольнасці людзей асуджаліся на забыццё" (Браніслаў Плотнікаў. Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў / / Роднае слова. 2000. № 12. С. 8.) У выніку рэпрэсіяў 30-х гадоў ад працэсу далейшага натуральнага ўсталявання літаратурных нормаў нашай мовы была адлучаная нацыянальная інтэлігенцыя, знаныя беларускія пісьменнікі і мовазнаўцы. У 1933 годзе СНК БССР прыняў спецыяльную пастанову па рэформе беларускай мовы. Паводле гэтае пастановы далейшае развіццё беларускае мовы скіроўвалася ў рэчышча актыўнага набліжэння да ўсесаюзнай мовы — расійскай. Лексікаграфічныя набыткі 20-х гадоў адкідваліся, касаваліся як "буржуазна-нацыяналістычныя". У 1937 годзе быў выдадзены новы "Русско-белорусский словарь", які меў выразную асіміляцыйную скіраванасць. Пятро Глебка ў рэцэнзіі на слоўнік пісаў, што шмат словаў у ім засталіся без перакладу, а толькі напісаныя па-беларуску. Першы сакратар ЦК КПБ (1938—1947) П.Панамарэнка ў лістах да Сталіна абураўся выкарыстаннем у беларускім друку шэрагу адмысловых беларускіх словаў і патрабаваў замяніць іх на "ўсесаюзныя".

З пабудоваю камунізму ўсе мовы народаў СССР мусілі актыўна збліжацца, аж да поўнага іх зліцця, у "адзіную мову" для абслугоўвання "адзінага савецкага народа". Дзеля ажыццяўлення гэтай ідэі роднымі абвяшчаліся дзве мовы, дзе апрача нацыянальнай была і ўсесаюзная — расійская. Гэта засведчыў і "Русско-белорусский словарь", які выйшаў у 1953 годзе ў Маскве. У прадмове чытаем: "Ставший вторым родным языком народов Советского Союза, русский язык является также средством общения между всеми народами нашей Родины". У гэтых варунках нацыянальныя, адметныя моўныя рысы свядома ігнараваліся. "У межах БССР вялася моўная палітыка, скіраваная ... на выкасаванне правапісных, граматычных, словаўтваральных, лексічных і сінтаксічных асаблівасцяў беларускай мовы"[1].

---

[1] У.Самайлюковіч, У.Пазняк, А.Сабалеўскі. Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994. С. 3.

У 1972 годзе кіраўніцтва ЦК КПБ правяло ў Акадэміі навук БССР спецыяльную нараду з мэтаю "нармалізацыі" беларускай мовы, падчас якой нацыянальны друк і беларускія пісьменнікі абвінавачваліся ў адхіленні ад магістральнага шляху на збліжэнне моваў. Невыпадкова, што ў пазнейшых беларускіх слоўніках бачым безліч расійскіх словаў. Янка Скрыган зазначаў: "Нядобра, калі пазычаюцца такія словы, якіх поўна ў мове народа, якія складаюць аснову гэтай мовы"[2]. Асабліва вылучаюцца ў гэтым двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (1977—1984). Пра апошні Максім Лужанін пісаў: "У Тлумачальны слоўнік, абвешчаны таксама нарматыўным, наўшывалася багата прыкладаў з таго, што ніколі не было літаратурай і можа ілюстраваць хіба няўмельства аўтара абыходзіцца са словам або няўмельства складальніка слоўніка выбраць з твора трапна ўжытае, ва ўсім гучанні і красе роднае слова. А то вушы вянуць. Наша мова называецца беларускаю не толькі таму, што належыць беларусам, — у яе свой адметны граматычны лад, сваё вымаўленне... свае спосабы будаваць сказы, нарэшце вялікі элеватар лексікі... Мы павінны дбаць аб яе чысціні, ёмкасці гучання, каб яна, растучы і развіваючыся, не траціла самабытнасці, а праз гэта паўней выяўляла нацыянальныя скарбы для агульнанацыянальнай культуры"[3].

Бяздумнае пазычанне, неапраўданае набліжэнне да ўсесаюзнага стандарту вяло да разбурэння беларускай нацыянальнай мовы, бо месца цэласнай сістэмы займала тут трасянка — моўная сумесь з элементаў "дзвюх родных" моваў — беларускай і расійскай. У 1988 годзе Максім Танк з горыччу засведчыў: "Не ведаю, як будзе з нашай мовай, бо асіміляцыя, як ракавыя метастазы. Пранікла, закранула самыя глыбінныя яе словатворчыя народныя слаі"[4].

У часы распаду імперыі і культурна-нацыянальнага адраджэння паўстала вострая патрэба аднавіць занядбаныя ці ўжо амаль выкарчаваныя адмысловыя нацыянальныя моўныя рысы. Гэты працэс цяпер актыўна ідзе ў народаў былых савецкіх рэспублік, дзе іх нацыянальныя мовы сталі дзяржаўнымі.

Калі ў Рэспубліцы Беларусь мову карэннага насельніцтва абвясцілі дзяржаўнаю, у першай палове 90-х гадоў разгарнуліся шырокія магчымасці для адраджэння і натуральнага развіцця беларускай мовы і нармавання яе савецкага варыянта. У Беларусі адбыліся два міжнародныя кангрэсы беларусістаў, дзве нацыянальныя канферэнцыі "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі" і шэраг іншых аўтарытэтных міжнародных і рэспубліканскіх форумаў па праблемах нацыянальна-культурнага адраджэння. Апублікаваныя шматлікія артыкулы на тэму адраджэння і натуральнага развіцця нацыянальнай беларускай мовы, нармавання яе савецкага варыянта.

Патрэба адрадзіць беларускую мову, нармаваць яе савецкі варыянт відавочная. У сваіх запісах Максім Танк занатаваў: "Узяўся гартаць слоўнікі. Бясконцая і бяздумная запазычанасць чужых слоў, як у нас, не можа не пагражаць дэградацыяй самой мове"[5]. У часопісе "Роднае слова" ў рэдакцыйным

---

[2] Янка Скрыган. Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 152.

[3] Максім Лужанін. Мова — гоман векавога бору // Звязда: Спадчына. 1996. 6 чэрвеня.

[4] Максім Танк. Дзённікі // Полымя. 1997. № 10. С. 144.

слове да рубрыкі "Лінгвістычны досвед" засведчана: "У школьнай практыцы часта ўзнікаюць пытанні, цяжкія не толькі для вучняў, але нават і для настаўнікаў. Галоўная прычына гэтаму — неўнармаванасць беларускай літаратурнай мовы ў сучасным яе варыянце. Спадзяемся, што парады вядомых беларускіх мовазнаўцаў, аб'яднаныя ў новай рубрыцы, дапамогуць настаўнікам"[6].

Перад беларускімі мовазнаўцамі стаіць актуальная задача — аднавіць натуральныя, структурна-сістэмавыя рысы беларускай мовы, парушаныя за гады ажыццяўлення бальшавіцкае ідэі на "зліццё нацыяў", вярнуць нашай мове яе натуральнае нацыянальнае аблічча.

У кнізе, якая прапануецца чытачу, аналізуюцца найбольш відавочныя парушэнні сістэмы беларускай мовы на розных яе роўнях (ярусах). Асвятляюцца разнастайныя аспекты гэтай праблемы, паказваюцца і абгрунтоўваюцца розныя шляхі яе развязання.

Па згаданых праблемах аўтар гэтых радкоў выдаў дзве кнігі: "Праблемы нормы, культуры мовы" (1998) і "Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы" (1999), апублікаваў у беларускім друку, а таксама ў міжнародных выданнях шматлікія артыкулы і практычныя парады. Пры немагчымасці поўнага і разгорнутага асвятлення пэўнага пытання робіцца адсылка да друкаваных працаў. У канцы раздзелаў кнігі падаецца спіс найбольш актуальных публікацыяў па адпаведных тэмах.

---

5 Максім Танк. Дзённікі // Полымя. 1997. № 6. С. 161.
6 Роднае слова. 1993. № 3. С. 45.

# СКАРОТЫ

Анат. сл. — Анатомический словарь: русско-белорусско-латинский, белорусско-латинский, латинско-белорусский / С.П.Ярошевич, Л.Н.Бойцов, Д.В.Ковалёва и др. Мн., 1998.

БРС — Беларуска-расійскія (рускія) слоўнікі.

БРС-26 — М.Байкоў, С.Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1926.

БРС-62 — Беларуска-рускі слоўнік / Пад рэд. К.Крапівы. М., 1962.

БРС-88 — Беларуска-рускі слоўнік / Пад рэд. К.Крапівы. Т. 1. Мн., 1988.

БРС-89 — Беларуска-рускі слоўнік / Пад рэд.К.Крапівы. Т. 2. Мн., 1989.

ПРК(Б)С — В.Ластоўскі. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924.

РБС — Расійска- (руска-) беларускія слоўнікі.

РБС-53 — Русско-белорусский словарь / Под ред. Я.Коласа, К.Крапивы, П.Глебки. М., 1953.

РБС-82 — Русско-белорусский словарь / Под ред. К.Атраховича (К.Крапивы). Т. 1—2. Мн., 1982.

РБС-93 — Русско-белорусский словарь. Мн., 1993.

РБС-98 — Русско-белорусский словарь. Мн., 1998.

РБС-99 — Русско-белорусский словарь общеупотребительной лексики / Сост. Н.Н.Кривко. Мн., 1999.

РБСМ — Лупачоў В.Р., Рагаўцоў В.І. Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні. Мн., 1998.

РБФС — Самайлюковіч У., Пазняк У., Сабалеўскі А. Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994.

РБФС-99 — Каладзінскі А.М., Карацінская Д.М., Сцяцко П.У. Руска-беларускі фізічны слоўнік / Пад рэд. Л.М.Ківача. Гродна, 1999.

ТСБЛМ і ТС-96 — Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1996.

ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / Пад агульнай рэд. К.Крапівы. Т. 1—5. Мн., 1977—1984.

СРЯ — Словарь русского языка: В 4 т. М., 1981—1984.

Раздзел 1

# ФАНАЛОГІЯ І ПРАВАПІС

**1.1. Сістэма галосных. 1.1.1. Аканне, яканне.** Вакалізм беларускай літаратурнай мовы мае шэсць фанемаў: [а], [і], [о], [у], [ы], [э]; фанемы [о], [э] у ненаціскных складах рэалізуюцца ў гук [а]: *добра — дабрыня, шэсць — шасці, сем — сямі, вёсны — вясна, весела — вясёлы, весяліцца.* Гэты пераход [о], [э] у [а] называюць аканнем (пасля мяккіх зычных, з улікам літарнага абазначэння — яканнем). Аканне ў сучаснай літаратурнай мове пашыраецца пасля цвёрдых зычных на ўсе ненаціскныя склады — пераднаціскныя і паслянаціскныя (таму яго называюць поўным, або моцным): *дом — дамы́ — дамаўла́снік, збор — вы́бар;* пасля мяккіх зычных (яканне) — толькі на першы склад перад націскам (першая ненаціскная пазіцыя): *вёсны — вясна́,* але *веснавы́, ве́села — вясёлы, весялу́н, весялуны́.*

Аканню падлягаюць усе спрадвечнабеларускія словы. Словы ж іншамоўнага паходжання нашая сучасная арфаграфія раіць пісаць па-рознаму: славянскія пазычанні поўнасцю падпарадкоўваюцца аканню: *кавадла* (пол. kowadło), *робат* (чэш. robot), *Ажэшка* (пол. Orzeszko), *Анега, Арол* (рас. Онега, Орёл).

Неславянскія іншамоўныя словы пішуцца неаднастайна. Фанема [о] у ненаціскных складах перадаецца літарай **а**: *брута, сола, крэда, лібрэта, Атэла, Ака, Асвенцім, рэвалюцыя, аперэта.* Праўда, "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959, с. 19) патрабуюць захоўваць **о** пасля папярэдняй галоснай у канцавым адкрытым складзе ў словах іншамоўнага паходжання: *Більбао, Ватэрлоо.* Аднак гэта пярэчыць агульнаму правілу — "пераходу [о] у гук [а] у ненаціскных складах". Таму сучасны перыядычны друк гэтае рэкамендацыі "Правілаў" не трымаецца — у рэкламах, па тэлебачанні, у газетах і часопісах бачым: *відэа, Ватэрлоа, Більбаа, Барнеа, Мантэвідэа,* што адпавядае натуральнаму стану беларускай мовы, яе арфаэпічным законам. Бо як можа быць іначай: пішы *відэо,* але ***відэазапіс, відэатэлефон***. Вось чаму такое напісанне геаграфічных назваў з літарай **а** (на месцы ранейшага **о**) падаецца і ў даведніках. У "Кароткім слоўніку беларускай мовы" Г.Арашонкавай і В.Лемцюговай (Мн., 1994) на с. 24 і 81 чытаем: "***Барнеа***, нескл., м. (востраў), ***Мантэвідэа***, нескл., м. (горад)".

Як бачым, пераходу **о** ў **а** (аканню) падлягаюць практычна ўсе словы ў беларускай мове — як спрадвечнабеларускія, так і іншамоўныя. Тут аканне пе-

радаецца як у вымаўленні, так і пры напісанні. А пераход [э] ў [а] — тое ж аканне — чамусьці абмяжоўваецца: на пісьме яно перадаецца ў спрадвечнабеларускіх і славянскага паходжання словах, а неславянскія іншамоўныя словы яму ўжо не падпарадкоўваюцца. Ці апраўдана гэта? Ці не разбураецца праз гэта адна з найадметнейшых рысаў беларускай мовы?

Варта нагадаць, што паводле зменаў 1933 года на пісьме захоўвалася і напісанне **о** ў ненаціскных складах іншамоўных словаў, а таксама сярод уласных назваў, прытым нават беларускіх. Да 1958 года пісалі: *большэвік, совет, піонер, Олег, Орол, Одоеўскі, Ожэшко, Гродно...* Гэтае парушэнне натуральнага ладу літаратурнае беларускае мовы пазней было скасаванае. У пастанове 1957 года чытаем: "Ненаціскное **о** перадаецца праз **а** незалежна ад паходжання слова". А вось у дачыненні да ненаціскнога **э** гэтага не зрабілі. У распрацаваных на падставе згаданых зменаў "Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959, с. 21—22) запісана: "Ва ўласных імёнах са славянскай лексічнай асновай і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў напісанне ненаціскных іншамоўных **э**, **е** падпарадкоўваецца агульным правілам акання — пасля зацвярдзелых і цвёрдых зычных галосная **э** ва ўсіх ненаціскных складах абазначаецца на пісьме літарай **а**: *шаўро, шаўрон, рамонт, рамеснік, адрас, адрасат, сакратар, хедар, лiтара, літаратура, літарны, характар, бухгалтар, майстар, сакрэт, Беразіно, Чарапавец, Жамчужнікаў, Чарнышэўскі, Шаўчэнка* і інш., а пасля мяккіх зычных галосная **е** абазначаецца літарай **я** ў першым складзе перад націскам і літарай **е** ў астатніх ненаціскных складах: *дзяжурства, Бялынічы, каляндар, яфрэйтар, Лемяшэвічы, Нява, Пячэнга, Аляксандр, Сярго, Бялінскі, Няхода, Няедлы* і інш., у тым ліку ў пачатку слова: *Ялец, Яршоў, Яфім* і інш.". Далей ідзе "Заўвага": "Ва ўласных імёнах, якія не падыходзяць пад гэтыя правілы, галосныя **э**, **е** захоўваюцца: *Герцэн, Шэкспір, Эсхіл, Эзоп, Ерэван, Эстонія...*"

На практыцы ж у іншамоўных словах-апелятывах (няўласных назвах) ненаціскное **э** амаль скрозь захоўвалася з выняткам пералічаных у правіле словаў. І гэта добра стасавалася з ідэяй набліжэння моваў (каб не было адрознення беларускае мовы ад расійскае). Гэтаму спрыяла і фармулёўка правіла. Бо хто з неспецыялістаў можа вызначыць, дзе ў слове славянская лексічная аснова, а дзе неславянская, даўно запазычанае слова ці нядаўна? Невыпадкова ў перыядычным друку прозвішча пасла Польшчы ў Беларусі (з славянскай лексічнай асновай) пісалі з літарай **э**, а не **а**: *Смулэк* (Smułek). Параўн. *Смаляк, Смалякоў*. Зазначым таксама, што насуперак згаданаму правілу час пазычання іншамоўнага слова часта не ўплывае на яго правапіс. Так, словы ***дэкрэт***, ***рэлігія*** і іншыя існавалі ў беларускай мове яшчэ ў XV—XVI стагоддзях, але і сёння не падлягаюць аканню, а даволі маладое слова ***латарэя*** яму падпарадкуецца (параўн. рас. *лотерея*). Дый зусім нядаўна сталі пісаць ***сяржант*** (з літарай **я**, раней яно пісалася аднолькава з расійскаю моваю: *сержант*).

Каб не расхістваць, не разбураць закон акання (якання) у нашай мове, трэба пасля мяккіх зычных пісаць літару **я** ў першым складзе перад націскам ва ўсіх шырока, актыўна ўжываных словах, не зважаючы на тое, якая ў іх аснова — славянская ці неславянская, даўно трапіла слова ў беларускую мову ці нядаўна. Тым больш што пэўную частку словаў з неславянскаю лексічнаю асновай мы ўжо падпарадкоўваем правілу якання: *дзяжурны, каляндар, слясарны, сяржант, ялейны, янот, ярмолка, яфрэйтар, яўрэй, яхідны* і пад. Таму натуральна пісаць і *арсянал, арыянтацыя, галярэя, калянкор, лягенда, мядаль, разярвовы, сякунда, мятровы* і пад.

Безумоўна, няма ніякай падставы рабіць выключэнне з гэтага правіла для спрадвечнабеларускіх лічэбнікаў *дзявяты, дзясяты, васямнаццаць, васямнаццаты, сямнаццаць, сямнаццаты* і вытворных ад іх, бо пішам жа мы *сем*, але *сямі, сямігодка*. У такім разе трэба пісаць і "*веснянка*" замест натуральнага *вяснянка*. У гісторыі нашай арфаграфіі былі шавіністычныя спробы прымусіць беларусаў адмовіцца ад якання і пісаць *весна, земля*. Але з гэтага нічога не атрымалася. Наадварот, паступова яканне пашыраецца і на іншамоўныя словы. І, трэба думаць, наша арфаграфія пераадолее беларусафобства, і ў іншамоўных словах мы будзем пісаць літару **я** на месцы **е** ў першым складзе перад націскам.

І пасля цвёрдых зычных у іншамоўных словах замест **э** трэба пісаць у ненаціскных складах літару **а**, не зважаючы на час іх пазычання і на неславянскую лексічную аснову. Параўн. у Я.Скрыгана "Ніяк не магу прымірыцца, што як чужаземнае трэба пісаць прозвішча *Герцэн* (а не *Герцан*)" (Беглыя запісы // Літ. і маст. 1970. 31 жніўня. С. 14).

І гэта справядліва, бо іначай нельга нічым растлумачыць, чаму іншамоўныя словы па-рознаму (то з літараю **а**, то з **э**) пішуцца ў тоесных фанетычных пазіцыях: а) у першым пераднаціскным складзе: *рамонт* (параўн. рас. *ремонт*) — але *рэкорд, адрасат* — але *вадэвіль*; б) у іншых пераднаціскных складах: *сакратар* — але *прэтэндэнт, літаратура* — але *прэрагатыва*; в) у паслянаціскных складах: *адрас* — але *лідэр, бухгалтар* — але *камп'ютэр, майстар* — але *шніцэль*.

Дарэчы тут нагадаць, што III з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны 26.03.1993 года ў пастанове зазначыў: "Пашырыць аканне ў запазычаных словах на -ар (з -er) і -аль (з -el): *карцар, прынтар, грэйдар, лідар, фламастар, ваўчар — як характар; шніцаль, шпаталь, шпіндаль — як буталь*" (Рэкамендацыі камісіі па ўдасканаленні правапісу беларускай мовы Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны // Наша слова. 1993. № 15. С. 2). Гэтую прапанову бачым і ў "Выніковым дакуменце Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы" (гл.: Наша слова. 1994. № 5), дзе запісана: "Канцавыя спалучэнні асновы **-эр**, **-эл**(ь) іншамоўных слоў перадаваць у ненаціскным становішчы праз **-ар**, **-ал**(ь): *ваўчар, ордар, містар, кампутар, карцар, світар, шніцаль, Картар, Геншар, Гендаль, Карал*".

**1.1.2. Збег ("зеўранне") галосных у іншамоўных словах.** Беларускай мове неўласцівы збег галосных у межах адной марфемы, таму ён раздзяляецца зычным дзеля гармоніі гукаў. Гэтаму закону падлягаюць і словы іншамоўнага паходжання, дзе спалучэнне (збег) галосных раздзяляе зычны гук [й]; параўн.: *біялогія* [бійалогійа] з *biologia*. Такую адмысловасць нашай мовы добра засведчыў і акадэмічны "Русско-белорусский словарь" (М., 1953) пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі. У ім бачым: "*Ион* физ. *іён*; *ионийцы* ист. *іянійцы*; *ионизационный* — *іянізацыйны*; *ионизация* физ., мед. *іянізацыя*; *ионизировать* несов. физ., мед. *іянізаваць*; *ионийский* — *іянійскі*; *Ионические острова* — *Іянічныя астравы*; *Ионическое море* — *Іянічнае мора*; *ионный* — *іённы* (с. 183), *адажио* муз. — *адажыё* (с. 15), *сольфеджио* муз. — *сальфеджыё* (с. 645); *трио* в разн. знач. *трыё*, *триод* — *трыёд*, *триолет* — *трыялет*, *триоль* — *трыёль*" (с. 697).

Аднак гэтая адметнасць беларускай мовы пазней была па сутнасці зліквідаваная — дзеля хутчэйшага "зліцця моваў". Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года ў беларускай частцы ўжо бачым тое ж "зеўранне" галосных, што і ў расійскай: *іон* — *ион*, *іонны* — *ионный*, *адажыо* — *адажио*, *трыо* — *трио*. Праўда, у сярэдзіне слова яшчэ захавалася гармонія гукаў: *трыёд* (*триод*), *трыялет* (*триолет*), *трыяда* (*триада*). Відаць, таму, што прыхаваная (не аголеная), не "вытыркаецца" так, як у пачатку ці пры канцы слова.

І ўсе наступныя акадэмічныя слоўнікі, ідучы ў фарватары набліжэння да расійскай мовы, захоўваюць гэтую недарэчнасць — "зеўранне" галосных. У "Русско-белорусском словаре" 1993 года чытаем: *адажио* — *адажыо*, *трио* — *трыо*, *ион* — *іон*, *ионизация* — *іанізацыя*, *Иордания* — *Іарданія*. Але ў такім разе трэба ўжо пісаць "Іарданіа", бо канцавая частка гэтага слова таксама мае ў арыгінале спалучэнне галосных **іа** (Iordania). А гэта ўжо цягне за сабою напісанне: *біалогіа*, *Эстоніа* і пад. З разгледжанага вынікае, што збег галосных **іо (ыо)**, **іа (ыа)** у іншамоўных словах не павінны захоўвацца не толькі ў сярэдзіне слова, але і ў пачатку і пры канцы яго: ён скрозь мусіць падзяляцца зычным гукам, што адпавядае прыродзе гукавога ладу нашай мовы. Таму другім элементам гэтага спалучэння галосных павінна быць ётавая літара: *іён*, *біёлаг*, *трыё*.

Новыя тэрміналагічныя слоўнікі 1993—1994 гг., створаныя падчас адраджэння ў суверэннай дзяржаве Рэспубліцы Беларусь, трымаюцца гэтай заканамернасці. У "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн.: Навука і тэхніка, 1994) (далей — РБФС-94) бачым: *иатрон* — *іятрон*, *ионизирующее* — *іянізацыйнае*, *деионизация* — *дэіянізацыя* і пад.

Гэтыя натуральныя формы слова падаюцца і ў пазнейшых тэрміналагічных даведніках. У кнізе "Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні" (Мн.: Веды, 1998. 136 с.) В.Р.Лупачова, В.І.Рагаўцова (далей — РБСМ) чытаем: *іён*, *іянізацыя*, *іянізаваць* (с. 41), а таксама ў "Руска-беларускім фізічным

слоўніку" (Гродна, 1999. 498 с.) А.М.Каладзінскага, Д.М.Карацінскай, П.У.Сцяцко (далей — РБФС-99): *іённая атмасфера, іянізацыя, іён*; у навучальным дапаможніку В.С.Лучко "Біяфізіка: Метадычныя парады да лабараторных работ" (Гродна, 1998): *іянізаваная форма.*

Нагадаем, што ў "Выніковым дакуменце" (1994 г.) Дзяржаўная арфаграфічная камісія этымалагічнае **іо (ыо)** на канцы слова раіла перадаваць як **іё (ыё)**: *адажыё, сальфеджыё, трыё.*

У спалучэннях галосных **іу (ыу)** мусіць дзейнічаць тая сама заканамернасць, што і пры **іо (ыо)**, **іа (ыа)**: галосныя падзяляюцца зычным гукам [j], што на пісьме абазначаецца літарамі **ію** (на месцы **іу**): *калёквіюм, натарыюс, радыюс, сімпозіюм.* Гэта пацвярджаюць і тэрміналагічныя слоўнікі. У згаданых фізічных слоўніках (РБФС-94 і РБФС-99), напрыклад, чытаем: *радиус — радыюс.* Такое напісанне ёсць і ў даведніку: Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 148): *радыюс — радиус.* Гэта бачым і ў Рэкамендацыях камісіі ТБМ: *трыюмф, радыюс, прэзідыюм, кансіліюм* (Наша слова. 1993. № 15).

Зеўранне галосных у пачатку слова ліквідуецца шляхам спрашчэння збегу галосных — адпадзеннем пачатковага **і**: параўн. рас. *Иосиф* і бел. *Восіп.* Нацыянальнае беларускае імя менавіта так гучыць і пішацца: "Руцкі Восіп (1574, маёнт. Рута Карэліцкага раёна — 5.02.1637), беларускі асветнік, пісьменнік..." (Аляксей Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік. Гродна, 2000. С. 258). І імя па бацьку — ад гэтай формы: Мальдзіс Адам Восіпавіч... (Тамсама, с. 200).

Збег галосных **ау, оу** нейтралізуецца за кошт пераходу галоснага гука [у] у зычны гук [ў], што абазначаецца і на пісьме: *аўдыторыя, паўза, фаўна, шлагбаўм, умляўт.* Вынятак складаюць словы *саксаул* і *трыумф*, у якіх націск прыпадае на *у*. Але ў нашых акадэмічных слоўніках усё яшчэ бачым: *фауна, клоун* і пад.

Устаўка гука [j] адбываецца ў жывой народнай мове і ў іншых спалучэннях галосных у межах адной марфемы. Так, **эо (ео)**, **эа (еа)** таксама падзяляецца ётам, пры гэтым гук [j] уплывае на першы галосны **э (е)** і "пераводзіць" гэты гук з сярэдняй зоны вымаўлення ў верхнюю — гук **і (ы)**: *фразіёлаг, акардыён, паліянталогія, геніялогія.* Акадэмічныя слоўнікі замацавалі ў гэтым выпадку як нармаванае напісанне *акіян* ([oceaп]), *акіянскі, акіяналогія*, але ў астатніх выпадках пакінулі расійскамоўную іх перадачу на пісьме: *акардэон, фразеолаг*, парушаючы тым самым беларускую гармонію гукаў, хоць і ў слоўніках знайшло свой адбітак вымаўленне гука [ы] на месцы [э] у словах іншамоўнага паходжання: *арышт* (параўн. рас. *арест*), *арыштаваць, брызент, дрызіна, інжынер, канцылярыя, рысора, цырымонія* ды інш. А гэта дадаткова пацвярджае заканамернасць спалучэнняў **іё (ыё)**, **ія (ыя)** на месцы **эо, эа** (*акардыён, акіян*). Параўн.: *фрынгеяльны* (рас. *фрингеальный*) у даведніку "Анатомический словарь: русско-белорусско-латинский, бело-

русско-латинский, латинско-белорусский" (Мн., 1998. 480 с. Далей — "Анат. сл.").

Адзначым таксама, што беларускай мове неўласцівае "зеўранне" галосных не толькі ў складзе каранёвай марфемы, але і ў суфіксавай, таму на месцы такіх іншамоўных суфіксаў выкарыстоўваюцца свае, беларускія: параўн. *бінномны* — (рас.) *биномиальный*, *паліномны* — *полиномиальный* і пад. Гэта таксама адлюстравалі тэрміналагічныя даведнікі 1993—1994 гг. Напрыклад, у "Русско-белорусском математическом словаре" (Мн., 1993): *биномиальный* — *біномны*, *полиномиальный* — *паліномны* (с. 21, 185) ды інш. Падрабязна пра гэта гл. у раздзеле II "Марфеміка. Словаўтварэнне".

**1.2. Сістэма зычных. 1.2.1. Збег зычных з удзелам санорных.** Беларуская літаратурная мова мае адметныя заканамернасці ў гукаспалучэнні (збегу) зычных. Як слушна заўважае фанетыст А.Падлужны, санорныя "гукі *л*, *р* сустракаюцца выключна перад галоснымі ці пасля іх[1]". Пры збегу зычных у суседстве з санорным узнікае паміж імі ці ў пачатку слова перад санорным беглы галосны: *рубель* (параўн. рас. *рубль*), *карабель* (*корабль*), *віхор* (*вихрь*), *імжа*, *іржа*, *ілгун*, *аржаны*, *аўторак* (рас. *вторник*), *ільняны* і пад. Гэтак званыя прыстаўныя галосныя перад санорнымі пры збегу зычных паслядоўна замацаваныя ў сучасным беларускім правапісе. А вось у канцавым збегу зычных беглы галосны, які падзяляе гэтае фінальнае спалучэнне, у сучасным правапісе адлюстроўваецца толькі часткова — галоўным чынам, калі галосны знаходзіцца пад націскам: *бабёр*, *віхор*, *журавель*, *карабель*, *рубель* і пад. У ненаціскным становішчы беглы галосны (які ўзнікае перад канцавым санорным і папярэднім зычным) наш сучасны правапіс, які фармаваўся ў рэчышчы збліжэння беларускай мовы з расійскай, амаль не адлюстроўвае, і мы змушаны пісаць *артыкль*, *метр*, *міністр*, *монстр*, *цэнтр* і пад. у адпаведнасці з былым усесаюзным стандартам. Але ж у расійскай мове без прыстаўнога галоснага ў пачатку слова і ўстаўнога галоснага ў фінальным спалучэнні зычных пішуцца ўсе словы: *ржавчина*, *лгун*, *бобр*, *вихрь*, *журавль*, *корабль*, *рубль* і пад., якія ў нашай мове маюць тут прыстаўную ці ўстаўную галосную літару: *ілгун*, *бабёр*, *віхор* (і *віхар*), *журавель*, *карабель*, *рубель*.

Каб не калечыць натуральнае беларускае вымаўленне, на пісьме павінна адлюстроўвацца гэтая фанетычная з'ява паслядоўна, ва ўсіх пазіцыях (а не толькі ў пачатку слова і ў націскным канцавым складзе, г.зн. і ў ненаціскным фінальным складзе, трэба пісаць: *ансамбаль*, *артыкаль*, *бурмістар*, *літар*, *метар* (ці *мэтар*), *міністар*, *монстар*, *цэнтар* і пад., а не толькі *бабёр*, *віхор* і пад. Дарэчы, нашыя слоўнікі некаторыя словы з ненаціскным галосным у фінальным складзе падаюць на сваіх старонках: *алябастар*, *міністар*, *зубар*, *вапёр* (БРС-26), *венгерац* (а не *венгр*), *віхар*, *горан*, *кегель* (рас. *кегль*), *свідар*, *асяцёр*; *вяпрук* (БРС-93) і інш. У нацыянальным друку бачым:

---

[1] А.І.Падлужны. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. Мн., 1977. С. 74.

*літар, міністар, мэтар, цэнтар.* Напрыклад: "*Літар* атруты ("Роял"), які можна набыць амаль у любой гандлёвай кропцы" (Звязда. 1993. 24 лют.). "Хутка... памёр Тамаш Грыб, таксама член ураду БНР, наймалодшы яго *міністар*" (Л.Геніюш. Споведзь. Мн., 1993. С. 35). "Чаму да вас столькі людзей прыходзіла, гэта як амерыканскі шпіёнскі *цэнтар*" (Тамсама, с. 45). "Геаграфічны *цэнтар* Эўропы — у Беларусі" (Спадчына. 1994. № 6. С. 109).

Дарэчы, захаванне на пісьме ў фінальным складзе беглага галоснага абгрунтаванае і этымалагічна. Параўн. *майстар* і ням. Meister, *магістар* і лац. magister, *міністар* і лац. minister. Дык чаму адны з гэтых словаў нашыя акадэмічныя слоўнікі падаюць у адпаведнасці з іх жывым народным вымаўленнем (дзе няма цяжкага для вымаўлення збегу зычных), якое стасуецца і з этымонам адпаведнага слова, напрыклад *майстар*, а іншыя насуперак усяму гэтаму маюць невымоўны збег зычных: *бурмістр, бургамістр, міністр* і пад.

Зазначым, што і ў французскай мове, адкуль трапілі да нас некаторыя словы, санорныя таксама маюць сваіх "суседзяў" — галосныя літары, што на карысць нейтралізацыі збегу зычных у фінальным складзе. Параўн.: фр. cadre (*кадр*), litre (*літр*), metre (*метр*) і пад. Дарэчы, у жывой народнай мове збег канцавых зычных можа нейтралізавацца і паяўленнем галоснага ў абсалютным канцы слова. Нейтралізацыя канцавога збегу зычных знайшла сваё адлюстраванне і ў формах *мэтра* (дроваў), *літра* (літр), *тыгра* (тыгр) (БРС-26), *разерва* (рэзерв), *кадра* (кадр) і пад. І ў беларускіх уласных асабовых імёнах таксама: *Пётра*, *Пятро* і *Пятрусь*, *Пятрук* (а не *Пётр*, дзе збег зычных тр), *Зміцер* ці *Дзмітар*, *Эрнэст* (а не *Эрнст*), *Аляксандар*. Параўн. у Якуба Коласа: *Аляксандар Галубовіч* (Анамастычны слоўнік твораў Я.Коласа. Мн., 1990). Дарэчы, і ў германскіх мовах фінальны збег зычных таксама падзяляецца галосным (Piter, Alexander і пад.), не кажучы ўжо пра славянскія: славац. liter, manever, meter, minister, jeseter 'асяцёр'.

Гэта толькі ў расійскай мове збег зычных з фінальным санорным не падзяляецца галосным. І гэта зразумела: канцавы санорны тут аглушаецца і такім чынам здымае цяжкасць у вымаўленні. А гэтага якраз няма ў беларускай літаратурнай мове, што выразна пацвярджаецца і гэтак званай "трасянкай" — прадуктам беларуска-расійскага мяшанага маўлення, калі расійская форма мае ў маўленні беларуса сваю, беларускую, адметнасць. Так, у расійскамоўным маўленні беларуса нярэдка чуем: *акцябар, рубаль* на месцы рас. *октябрь, рубль*.

**1.2.2. Збег зычных на стыку марфемаў.** Збег зычных у фінальнай частцы асноваўтваральнага слова таксама нейтралізуецца, калі да яе далучаецца суфіксавы элемент **-с-** (суфікс *-ск-*). Гэтая нейтралізацыя мае тры выявы.

1. Фінальная зычная ўтваральнай асновы зліваецца з суфіксавым **с** і на іх месцы ўзнікае **ц**, што знаходзіць сваё адлюстраванне і на пісьме. Для больш лёгкага і трывалага запомнення тут карыстаюцца г. зв. правілам "*ЦёТаЧКа*", дзе кожная зычная гэтага слова як фіналь утваральнай асновы пры спалучэнні

з суфіксавым **с** дае на месцы двух гукаў адзін зліты гук [**ц**] (гэта перадаецца і на пісьме): *шавец-ск-і → шавецкі, студэнт-ск-і → студэнцкі, ткач-ск-і → ткацкі, мастак-ск-і → мастацкі*. Гэтае правіла можна запісаць і так: *(Ц, Т, Ч, К) + С = Ц*. У друку нярэдка яно парушаецца. Так, на шыльдах некаторых установаў чытаем: *Парэчская* сярэдняя школа (Гродзенскі раён, 1994 г.); *Баранавічская* аптэка, *Гарадокскі* раён (у газетах). Такое напісанне праваку-юць і нашыя акадэмічныя слоўнікі, дзе бачым: *таджыкскі, узбекскі* на месцы натуральнага *таджыцкі, узбецкі* — як і *казацкі* (ад *казак*) і *рыбацкі* (ад *рыбак*), *славацкі* (ад *славак*). У "Выніковым дакуменце Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу" таксама засведчана: *узбецкі, таджыцкі, каракалпацкі, калмыцкі*.

2. Фінальная зычная ўтваральнай асновы перад суфіксавым **с** (суфіксы *-ск-*, *-ств-*) не вымаўляецца. На пісьме гэта падаецца па-рознаму: а) у нетэрміналагічнай лексіцы фінальная зычная асновы **ж, ш, с** на пісьме не абазначаецца (напісанне паводле фанетычнага прынцыпу): *прыгож(ы)-ств-а → прыгоства, хараша → хараство, таварыш-ск-і → таварыскі, Палесс(е)-ск-і → палескі, беларус-ск-і → беларускі;* б) у геаграфічных і этнічных найменнях фінальная зычная асновы (**г, ж, з, х, ш,** для запомнення "**ГоЖаЗоХШы**") у спалучэнні з суфіксавым **с** хоць і не вымаўляецца, але на пісьме абазначаецца: *пецярбургскі, рыжскі, каўказскі, казахскі, чэшскі*. У "Беларускай граматыцы" Б.Тарашкевіча і ў гэтай катэгорыі словаў фінальная зычная ўтваральнай асновы не пісалася: *францускі, боскі* (замест *французскі, божскі*). Часам каб захаваць утваральную аснову цалкам, у гэтых прыметніках не пішуць суфіксавае **с**: *французкі, каўказкі* (як у польскай і ўкраінскай мовах). Але гэтага не дазваляе ўтваральная аснова з зычнымі **г, ж, х, ш,** дзе без суфіксавага **с** узнікае невымоўны збег зычных, напрыклад: *Волга — волжкі*. А вось без фінальнай зычнай асновы — усё гучыць натуральна: *Волга і волскі, Чэхія — чэскі, Рыга — рыскі*.

3. Фінальны гук [**д**] або [**т**] (пры памякчэнні [**ц**]) пры збегу зычных утваральнай асновы выпадае, калі апынаецца ў сярэдзіне спалучэння трох зычных з апошнім санорным (суфіксавым **н** або **л**): *праезд — праязны, капуста — капуснік, няшчасце — няшчасны, свістаць — свіснуць, вобласць — абласны, шчасце — шчаслівы*.

Выпадаюць таксама сярэднія гукі [**г**], [**к**] у спалучэннях *згн, скн*, якія ўзніклі пры ўтварэнні дзеясловаў закончанага трывання з суфіксам *-ну-*: *бразгаць — браз-нуць, бліскаць — бліс-нуць*.

Як бачым, сярэднія гукі ў спалучэннях трох зычных выпадаюць — спрашчаецца збег зычных за кошт больш цяжкага для вымаўлення выбухнога гука (*д, т, г, к*). Гэтая арфаэпічная і разам з тым арфаграфічная заканамернасць беларускай літаратурнай мовы ў 60—80-х гадах стала парушацца (на карысць усесаюзнага стандарту) пры напісанні словаў, утвораных з дапамогаю суфікса *-н-* ад іншамоўных назоўнікаў з фінальным спалучэннем зычных *ст*: *кампост — кампостны, кантраст — кантрастны, баласт — баластны*. Зды-

мае гэтую штучную праблему замена суфікса *-н-* больш пашыраным у беларускай мове суфіксам *-ав-*: *кампоставая яма* (Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Мн., 1994), *баластавы, кантраставы.* Хоць не пярэчыць правапісу і напісанне гэтых прыметнікаў з суфіксам *-н-* без літары **т**: *кампосны, кантрасны*, як і *пост — посны, капуста — капусны.*

Такім чынам, аналіз збегу зычных на марфемавым стыку сведчыць, што ў беларускай мове нейтралізацыя ці спрашчэнне гэтага спалучэння (збегу) зычных знаходзіць сваё адлюстраванне не толькі ў вымаўленні, але і ў напісанні. Адзінае выключэнне складаюць напісанні з фінальнымі зычнымі ўтваральнай асновы **г, ж, х, ш** (*пецярбургскі, волжскі, казахскі, латышскі*).

Ёсць магчымасць унікнуць "небеларускага" напісання прыметнікаў з спалучэннем трох зычных на марфемавым шве (*двухкантны, рэцэптны, кантрапунктны, аванпостны* і пад.), выкарыстаўшы суфікс *-ав-(-ов-,-ев-)*, які здымае гэты цяжкавымоўны збег зычных і дае натуральнае беларускае іх вымаўленне: *двухкантовы, рэцэптавы, кантрапунктавы, аванпоставы* ...

## 1.3. ЛІТАРАТУРА

*Скрыган Я.* Беглыя запісы // Літаратура і мастацтва. 1970. 31 жніўня.

*Падлужны А.* Нарыс акустычнай фанетыкі. Мн., 1977.

*Сцяцко П.* Захаваць нацыянальнае аблічча беларускай мовы // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1991. № 10. С. 6—8.

*Сцяцко П.* Зберажэм усё роднае // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1991. № 1. С. 7—11.

*Сцяцко П.* Надзённыя пытанні рэфармавання сучаснага беларускага правапісу // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі. 10—11 снежня 1991 г. Мн., 1991. С. 156—160.

*Сцяцко П.* А мы ўсё аддаем даніну... Якім быць правапісу? // Настаўніцкая газета. 1992. 14 лістапада. С. 2.

*Сцяцко П.* Удасканальваць і развіваць, а не кансерваваць. Сённяшні і заўтрашні дзень роднага слова // Роднае слова. 1992. № 1. С. 16—20.

Рэкамендацыі камісіі па ўдасканаленні правапісу беларускай мовы Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны // Наша слова. 1993. № 15.

*Сухая Т., Еўдакіменка Р., Траццякевіч В., Гудзень Н.* Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн., 1993.

*Сцяцко П.* Не калечце вымаўлення. Пра гукаспалучэнне з санорнымі *л, р* у беларускай мове // Наша слова. 1993. № 26.

*Сцяцко П.* Праблемы ўдасканалення беларускага правапісу // Беларусіка/Albaruthenika. Мн., 1993. С. 108—112.

*Сцяцко П.* Пытанні адраджэння і ўнармавання беларускай літаратурнай мовы // Праблемы нацыянальнай філалагічнай адукацыі ў ВНУ Беларусі: Матэрыялы рэспубліканскай навукова-метадычнай канферэнцыі (22—23 красавіка 1992 г., Гродна). Гродна, 1993. С. 114—123.

*Плотнікаў Б.* Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў // Роднае слова. 2000. № 12. С. 6—14.

Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай мовы // Наша слова. 1994. № 5.

Зберагчы нацыянальную адметнасць беларускай мовы: Пастанова Гродзенскай абласной і Гродзенскай гарадской радаў ТБМ // Наша слова. 1994. № 10.

*Сяцко П.* У мовы свае законы // Полымя. 1994. № 1. С. 238—256.

*Сяцко П.* Трымацца закону гармоніі гукаў // Наша слова. 1995. № 47.

Раздзел 2

# МАРФЕМІКА І СЛОВАЎТВАРЭННЕ

Праблемы марфемнага і словаўтваральнага нармавання таксама надта надзённыя для сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У акадэмічныя слоўнікі трапіла шмат штучных для беларускай мовы словаўтваральных структураў з неўласцівымі ёй марфемамі: *бакавушка, ваеннаслужачы, выхавацель, лежбішча, міністэрша, мовавед, птушкавод, упраўленне* і пад. Гэта — калькі ці лексічныя пазычанні з расійскае мовы, на месцы якіх беларуская мова мае свае натуральныя адпаведнікі: *бакоўка, вайсковец, выхаваўца (выхавальнік), лежыва (лежня), міністрыха (міністарка), моваэнавец, птушкагадовец, кіраўніцтва (кіраванне)*. Перш чым пазычаць тое ці іншае слова, трэба, як папярэджваў Якуб Колас, "добра абшарыць кішэні сваёй памяці". І не імкнуцца да "зліцця моваў".

**2.0. Фіналі *-ий, -ый*.** Кожная мова мае свае адметныя марфемы, мадэлі і сродкі словаўтварэння (фарманты) і формаўтварэння (фарматывы). Напрыклад, у расійскай мове надта пашыраная фінальная марфема *-ий/-ый*. Як канчатак яе маюць амаль усе атрыбутыўныя ("азначальныя") часціны мовы ў форме мужчынскага роду: 1) прыметнікі: *синий, красный, свежий, деревянный, печальный, отцовский*; 2) дзеепрыметнікі: *возбуждающий, возглавляемый, скошенный*; 3) лічэбнікі: *пятый, девятый, двухсотый, двухтысячный*; 4) займеннікі: *каждый, всякий, самый*. Апрача таго, фіналь *-ий* выступае як словаўтваральны суфікс у прыналежных прыметніках і некаторых лічэбніках: *козий, лисий, медвежий, третий*.

Беларускай літаратурнай мове такая марфема-канчатак і марфема-суфікс неўласцівыя, гэта зусім чужыя для яе афіксы. На іх месцы наша мова скрозь мае канчатак **-і/-ы**: *сіні, чырвоны, паўсталы, скошаны, пяты, двухтысячны, кожны, усякі, самы*, а ў прыналежных прыметніках суфікс *-ін-(-ын)* або *-ав-, -ов-(-ёв-), -аў-, -оў-(-ёў-)*: *казіны, лісіны або лісаў (лісавы), мядзведзевы, тыгравы (тыгровы)* і пад.

У расійскай мове формы на *-ий/-ый* пры выкарыстанні з "прадметным" значэннем набываюць уласцівасць назоўнікаў, а некаторыя поўнасцю перайшлі ў назоўнікі (*вожатый, лесничий* і інш.). Фіналь *-ий/-ый* маюць і прозвішчы гэтага кшталту: *Жуковский, Белинский, Чернышевский*. А таксама ўласныя асабовыя імёны: *Анатолий, Аркадий, Василий, Кондратий*.

Беларуская мова і тут мае канчатак **-і/-ы**: *важаты, ляснічы, Жукоўскі, Казлоўскі, Сакалоўскі*. Уласныя імёны асобы (пазычанні з класічных мо-

ваў — найперш праз стараславянскую) першапачаткова сталі афармляцца ў пісьмовай мове паводле гэтай марфалагічнай мадэлі — з фіналямі *-і, -ы*: *Анатолі, Базылі, Віталі, Грыгоры, Яўгені*. Потым такія пераходныя формы набылі выгляд (форму) назоўнікаў з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку (відаць, дзеля размежавання формаў адзіночнага і множнага ліку: адзін *Анатоль* і два, тры, чатыры *Анатолі*). І ніхто з нацыянальна свядомых беларусаў не піша сваё імя з гэтым вось канцавым *-ій / -ый*: *Аркадзій, Васілій, Кандрацій, Грыгорый*. Усе мы ведаем дарагія нам імёны: *Аркадзь Куляшоў, Васіль Быкаў, Кандрат Крапіва, Рыгор Шырма*. У сучасным нацыянальным друку зрэдку сустракаюцца імёны на ***-ый*** (***Валерый, Дзмітрый, Юрый, Георгій***). Але і яны паступова прыстасоўваюцца да сістэмы нацыянальнай мовы — выкарыстоўваюцца без гэтай штучнай фіналі ***-ый***. Напрыклад: *Валер* Санько. Дахаты пойдуць усе: Аповесці, апавяданні. Мн., 1999; *Георг* Сысой. Па воўчым следзе. Мн., 1999; Гільдзюк *Юры* Мікалаевіч (А.Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны. С. 65); Даўгалёў *Дзмітры* Мікалаевіч, беларускі кампазітар (А.Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны. С. 85).

Усё згаданае ёсць найлепшы доказ і паказчык натуральнасці афармлення ў беларускай мове лексемаў без гэтае фіналі *-ій / -ый*, бо яна супярэчыць марфалагічнай і словаўтваральнай сістэмам беларускай нацыянальнай мовы, расхіствае іх, вядзе да разбурэння. Таму сілком навязаныя нашай мове ў 1933 годзе формы з фіналямі *-ій, -ый* — *алюмініій, магній, пралетарый, каментарый, сцэнарый* ды іншыя ў наш час свядома замяняюцца на адпаведныя прыродзе беларускай мовы формы без гэтых чужых фіналяў: *пралетар, каментар, сцэнар*... Натуральнае афармленне тэрмінаў пры адаптацыі іншамоўных этымонаў у хімічнай тэрміналогіі бачым у працы “Назовы хімічных элементаў” Я.Міляшкевіча, З.Санько, А.Глушко, выдадзенай у 1995 годзе з грыфам Рэспубліканскае тэрміналагічнае камісіі[1]. Без штучных для беларускай мовы фінальных спалучэнняў ***-ій, -ый*** афармляюцца іншамоўныя біялагічныя (анатамічныя) тэрміны ў згаданым ужо “Анатамічным слоўніку”: *эндаметр* (рас. *эндометрий*), *эндаліз, эндаиейр, эндатэль, эпіноўр, эпітэль, эпаніх*. Падаюцца ў беларускім афармленні іншамоўныя тэрміны і ў іншых тэрміналагічных слоўніках: ***алюмінь*** (рас. ***алюминий***), ***крэмень*** (***кремний***) (РБСМ), ***актын, алюмін, амерыц, антыгель, бар, ванад, галь, герман, дэйтэр, дыспроз, інд, ірыд, кадм, каль, кальц, калод, крэмень, крытэр, кюр, літ, лаўрэнц, лютэц, магнэз, мендзелеец, натр, планетар, эйроп*** (РБФС-99).

І ў публікацыях слынных майстроў слова: “Мяркуючы па ***каментары***, аўтарам выкарыстана процьма патрэбнай літаратуры (Я.Брыль. З новых запісаў // Полымя. 2000. № 11. С. 9); “Стараннае вывучэнне такіх слоў можа служыць цікавым ***каментарам*** да гісторыі культуры” (В.Рагаўцоў. Агульнае мовазнаўства: Практыкум. Частка першая. Магілёў, 1999. С. 78);

[1] Гл. таксама: Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі. Мінск, 4—6 мая 1994 г. Мн., 1995. С. 192—205.

"У А.Смоліча галоўны *крытэр* нацыі — яе мова" (Андрэй Болатаў, Генадзь Рыдзеўскі. Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне: Аркадзь Смоліч. Мн., 1999. С. 28). Падрабязней пра нюансы гэтае праблемы можна прачытаць у артыкулах аўтара гэтых радкоў[2].

**2.1. Назоўнікавае словаўтварэнне і яго фарманты.** У 30—80-х гадах у беларускую мову заганяліся не толькі неўласцівыя ёй лексемы, але і чужыя словаўтваральныя сродкі (суфіксы *-ш-а*, *-ыш*, *-цель* і пад.) і мадэлі — дзеепрыметнікі з суфіксамі *-ач-(-яч-)*, *-уч-(-юч-)*, *-ем-*, *-ім-(-ым-)*. Усё гэта рабілася нібыта дзеля "ўзбагачэння" беларускай мовы, але мэта была іншая — растварыць нашую мову, замяніць яе на расійскую. Таму ў граматыках нярэдка апісваліся тыпы і мадэлі ("узоры") з чужымі для нашае мовы фармантамі, хоць іх ролю ў беларускай мове спраўна выконвалі свае, спрадвечна беларускія. Разгледзім найбольш тыповыя з іх.

**2.1.1. Утварэнні з суфіксам *-цель* (<*-тель*).** Яны не маюць пашырэння ў беларускай мове, бо сам гэты словаўтваральны сродак чужы нашай мове. Як справядліва зазначаюць даследчыкі словаўтваральных сістэмаў усходнеславянскіх моваў, "агульнаславянская мадэль утварэння назоўнікаў на *-тель* старабеларускаю мовай не была засвоеная"[3]. Гэтая мадэль трывала замацавалася ў расійскай мове пад моцным уплывам стараславянскае мовы. Там, дзе расійская мова мае словы з суфіксам *-тель*, у беларускай мове звычайна выкарыстоўваюцца адпаведнікі з іншымі суфіксамі: *-льнік*, *-нік*, *-ец/-ца*, *-овец/-айца*, *-чык*, *-шчык*, *-ун*, *-іт*, *-ач*, *-ар*, *-аль*, *-к-а*, *-ыр* ды іншымі (усяго 18 фармантаў): *наймальнік — наниматель*, *збіральнік — собиратель*, *кідальнік — метатель*, *выразнік — выразитель*, *вынаходнік — изобретатель*, *шкоднік — вредитель*, *руплівец — рачитель*, *пераможца — победитель*, *выхавайца — воспитатель*, *наглядчык — надзиратель*, *адпраўшчык — отправитель*, *вяшчун — вещатель*, *просьбіт — проситель*, *чытач — читатель*, *глядач — зритель*, *валадар — властитель*, *лекар — целитель*, *пэцкаль — маратель*, *служка — служитель*, *правадыр — предводитель* ды інш.

Найчасцей беларускія эквіваленты да расійскамоўных лексемаў на ***-тель*** маюць суфікс ***-льнік***. У "Русско-белорусском словаре" 1982 года ўтварэнняў з *-льнік* 294 (56% ад агульнай колькасці 525 адпаведнікаў). Другое месца належыць утварэнням з *-нік* (80 лексемаў). А вось словаў з суфіксам *-цель* у беларускай частцы гэтага слоўніка ўсяго 50 (у расійскай — 525). Амаль усе яны пазычаныя з расійскае мовы ці калькі з яе словаў[4]. Большыня з іх — гэта дуб-

---

[2] П.Сцяцко. Фіналі *-ій*, *-ый*. Ці ўласцівыя яны беларускай мове? // Роднае слова. 1993. № 8. С. 28—31; У мовы свае законы // Полымя. 1994. № 1. С. 238—256; Да ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі // Полымя. 1996. № 7. С. 294—304.

[3] Гл.: Суффиксальное словообразование существительных в восточнославянских языках 15—17 вв. М., 1974. С. 59.

[4] Больш падрабязна пра гэта гл.: П.В.Стецко. Агентивные отглагольные существительные в современных русском и белорусском литературных языках // Русский язык: Межведомственный сборник. Вып. 8. Мн., 1988. С. 8—18.

летныя да беларускіх словы, якія нічога новага не дадаюць, а толькі разбураюць лексічную сістэму беларускай літаратурнай мовы. Параўн.: *дубільнік* і *дубіцель, збаўца* і *збавіцель, натхняльнік* і *натхніцель, акісляльнік* і *акісліцель, выхавальнік* і *выхавацель, гасільнік* і *гасіцель, запаўняльнік* і *запаўніцель* ды іншыя, якія бачым у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (Мн., 1988—1989). Гэтыя неўласцівыя беларускай мове структуры з ***-цель*** заганяліся ў нашыя слоўнікі дзеля набліжэння беларускай мовы да ўсесаюзнага стандарту (расійскай мовы). Пры гэтым складальнікі як бы і не заўважалі, што гэтыя штучныя словы з ***-цель*** стаяць ізалявана нават на старонках слоўніка (ад іх не ўтвараюцца новыя словы — прыметнікі і прыслоўі): *азеляніцель* — але *азеляляльны* (не *азеляніцельны*), *аддзяліцель* — але *аддзяляльны* (не *аддзяліцельны*), *акісліцель* — але *акісляльны* (не *акісліцельны*), *аднавіцель* — але *аднаўляльны* (не *аднавіцельны*) і пад.

Апрача таго, на штучнасць іх паказвае і тое, што словы на ***-цель*** не маюць сваёй утваральнай базы: іх словаўтваральнае слова (аснова) або зусім не выкарыстоўваецца ў беларускай мове, або мае іншую марфемную будову. Параўн.: *правіцель* — але *кіраваць* (а не *правіць*), *паручыцель* — але *даручаць* (а не *паручаць*), *збавіцель* — але *пазбыцца* (а не *збавіцца*) і пад.

Менавіта гэтая дублетнасць, неадпаведнасць структуры ўтваральнага слова і вытворнага з ***-цель***, няздатнасць слова з суфіксам ***-цель*** мець вытворныя прыметнікі і прыслоўі выдаюць лексемы з ***-цель*** як чужыя ў беларускай мове. Тым не менш дзеля "зліцця моваў" вытворныя з гэтым суфіксам нярэдка падаваліся ў слоўніках, а іх беларускія адпаведнікі з іншымі суфіксамі — як другарадныя дадаткі да гэтых "усесаюзнага стандарту" лексемаў. Так, у згаданым двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" бачым: *адлучнік* см. *аддзяліцель, выпрамнік* см. *выпраміцель, дубільнік* см. *дубіцель, збаўца* см. *збавіцель, натхняльнік* см. *натхніцель*. Праўда, слоўнік падае зрэдку і адваротнае, дзе перавага аддаецца ўтварэнням не з суфіксам ***-цель***, а з іншымі (уласцівымі беларускай мове): *акісліцель* см. *акісляльнік, выхавацель* см. *выхавальнік, гасіцель* см. *гасільнік, запаўніцель* см. *запаўняльнік*. Але дзеля чаго тады гэтыя "прыдаткі" з ***-цель***? Каб хутчэй наблізіць нашую мову да ўсесаюзнага стандарту. З гэтае прычыны ўтварэнні на ***-цель*** нярэдка зусім не маюць у слоўніку сваіх іншасуфіксавых эквівалентаў, хоць у жывой народнай мове, у мастацкіх творах яны выкарыстоўваюцца. Напрыклад, у згаданым слоўніку як адзіная лексічная норма падаюцца наступныя назоўнікі з ***-цель*** (хоць нашая мова мае і тут свае натуральныя адпаведнікі): *аслабіцель* (а натуральнае — *аслабнік*), *вызваліцель* (*вызвольнік*, параўн. *вызвольны рух*), *згубіцель* (*згубца* ці *згубнік*), *праявіцель* (*праяўнік*), *рыхліцель* (*разрыхляльнік*, яго падаюць тэрміналагічныя слоўнікі, у іх ліку "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі". Мн., 1994), *цепланасіцель* (*цепланосьбіт*, яго падаюць перакладныя слоўнікі).

Суфікс ***-цель***, як неўласцівы беларускай мове, не ўваходзіць у склад вытворных суфіксавых сродкаў. Замест штучных для беларускай мовы словаў з суфіксамі ***-тельн-***, ***-тельск-*** мы маем утварэнні з іншымі фармантамі: *давер-*

*чая грамата* (рас. *верительная грамота*), *плавальны* (*плавательный*), *здзеклівы* (*издевательский*) і інш.

Замест паўкалькавага *гучнагаварыцель* (*громкоговоритель*) беларуская мова мае простае слова *галоснік* ці складанае *гучнамоўнік*. На месцы паўкалькі выхавацель выкарыстоўваецца сваё ўтварэнне з суфіксамі **-ўца** ці **-льнік**: *выхаваўца* (яго актыўна выкарыстоўваў Васіль Вітка ды іншыя пісьменнікі) ці *выхавальнік*. На месцы штучнага *вадзіцель* варта ўжываць *шофер*, якое актыўна бытуе ў жывой народнай мове (вучыцца на *шофера*, *шоферскія курсы* і пад.), або *кіравальнік* (*кіраваннік*) ці *кіровец*, якія добра матывуюцца ўтваральным словам *кіраваць*. У народзе пачуеш: "*Кіруй у правы бок, там гладчэй*". "*Ты не туды кіруеш, а то трапіш у калдобіну*". А вось слова *вадзіцель* такое натуральнае матывацыі не мае. Бо можна *вадзіць* (на павадку) казу ці карову (на пашу). А машына (аўтамабіль) бяжыць сама, толькі *кіруй* ёю.

І ніяк нельга пагадзіцца з БРС-88, 89, калі ён касуе натуральнае беларускае слова *просьбіт* (утварэнне ад *просьба*), кваліфікуючы яго як застарэлае, а на яго месцы ставіць слова з неўласцівым беларускай мове суфіксам **-цель**: *прасіцель* (<рас. *проситель*). Замест штучнага для нашае мовы ўтварэння з **-цель** — *любіцель* — у беларускай мове здаўна бытуе *аматар*, якое мае і свае вытворныя: *аматарскі*, *аматарства*, чаго не скажаш пра *любіцель* і *любіцельства*.

Пра неўласцівасць беларускай мове ўтварэнняў з суфіксам **-цель** сведчаць і найноўшыя тэрміналагічныя слоўнікі. Так, РБФС-99 не фіксуе ніводнага слова ў беларускай частцы як адпаведніка расійскім на **-тель**: *альфавыпраменнік і альфавыпрамянялънік, антыраспушчальнік, водавымяральнік, водаадлучнік, водаачышчальнік, водаразмеркавальнік, водараспыляльнік, паветраўлоўнік, хвалетушыльнік, хвалеўтваральнік, выпроствальнік, выраўноўвальнік, газавымернік, газаносьбіт, газапаглынальнік, групавальнік, дзельнік, замацавальнік, запавольнік, замыкальнік, гуканосьбіт, гуказдымальнік, шукальнік, выпарнік, рэактар-размежавальнік* і пад. Тое сама і ў РБСМ. Але да расійскіх словаў з суфіксам **-тель** падаюцца беларускія адэкваты на **-нік** (суф. **-нік** і **-льнік**) і няма ніводнага на **-цель**. Напрыклад: *аднойнік* (рас. *восстановитель*), *аварачальнік* (*вращатель*), *глушнік*, *грузаадпраўнік*, *замацавальнік*, *замыкальнік*, *выпраменнік*, *лоўнік* ды інш.

**2.1.2. Вытворныя словы з суфіксамі *-ш-а*, *-к-а*, *-іх-а*.** Неўласцівыя нармаванай літаратурнай мове ўтварэнні з суфіксам ***-ш-а***. "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1962) зазначае, што ўтварэнні на ***-ша*** сустракаюцца ў размоўным стылі мовы. Аднак "Беларуска-рускі слоўнік" таго часу выдання, што і згаданая "Граматыка", не падае ніводнага слова з суфіксам ***-ша*** з азначэннем асобы жаночага полу (як утварэнняў ад назоўнікаў мужчынскага роду). Новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985.

С. 256—257) кваліфікуе словы ***манікюрша***, ***міністэрша*** і ***педыкюрша***, якія падае на сваіх старонках “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы”, як ненарматыўныя. “Русско-белорусский словарь” 1982 года расійскія словы ***маникюрша*** і ***педикюрша*** перакладае на беларускую мову ўтварэннямі з суфіксам ***-к-а***: ***манікюрка***, ***педыкюрка***, а ***министерша*** — словам з суфіксам ***-ых-а***: ***міністрыха***. Назвы асобы жаночага полу з суфіксам ***-ш-а*** сустракаюцца ў творах мастацкай літаратуры. Напрыклад, ***камандзірша*** (Е.Лось), ***інжынерша*** (Э.Ялугін), ***касцюмерша*** (Л.Арабей). Іх аўтары — нараджэнцы ўсходу Беларусі, дзе такія ўтварэнні бытуюць у дыялектнай мове (гл. Р.Яўсееў. Маці казала так: З гаворак Бялыніцкага раёна. Мн., 1978).

У нармаванай беларускай літаратурнай мове функцыю фарманта ***-ш-а*** (ён уласцівы расійскай мове) выконваюць два суфіксы: 1) Суфікс ***-к-а***, які мае значэнне ‘асоба жаночага полу’ і далучаецца да асновы назоўнікаў мужчынскага роду: *аптэкарка, арандатарка, бібліятэкарка, бухгалтарка, доктарка, дырэктарка, кандуктарка, касірка, лектарка, мільянерка, сакратарка*. 2) Суфікс ***-іх-а*** (***-ых-а***), які мае значэнне ‘жонка асобы, названай утваральным словам’: *брыгадзірыха, Лявоніха, каваліха, генераліха*. У двухтомавым “Беларуска-рускім слоўніку” (Мн., 1988, 1989) падаецца больш за 50 утварэнняў на ***-ка*** і ***-іха*** (***-ыха***) — адпаведнікаў да расійскамоўных на ***-ша***. На жаль, у ім бачым побач з натуральным *манікюрка* і штучнае, ненарматыўнае *манікюрша*, хоць аднамадэльнае ўтварэнне *педыкюрка* не мае гэтага неўласцівага беларускай мове суфікса ***-ш-а***. “Русско-белорусский словарь” 1993 года падае толькі *манікюрка* як эквівалент рас. маникюрша (Т. 2. С. 26).

І слова ***паэтка***, як утварэнне з рэгулярным для беларускай мовы суфіксам ***-к-а*** і значэннем асобы жаночага полу (ад слова паэт), павінна лічыцца за нарматыўнае агульнаўжывальнае, [redacted] не стылёва абмежаванае, уласцівае толькі гутарковай мове, як гэта бачым у згаданым “Беларуска-рускім слоўніку” (Т. 2. 1989. С. 166), дзе лексема *паэтка* не перакладаецца, а адсылаецца да *паэтэса* (адпаведна рас. *поэтесса*). Дарэчы, “Русско- белорусский словарь” 1993 года падае слова *паэтка* як сінонім да *паэтэса* без стылёвай паметы: “*Поэтесса — паэтэса*, -сы, ж., *паэтка*, -кі, ж.” (Т. 2. С. 732).

Гэта пацвярджае сучасная маўленчая практыка, нацыянальны друк, у іх ліку матэрыялы даведнікаў. Напрыклад, у даведніку “Людзі культуры з Гродзеншчыны” Аляксея Пяткевіча чытаем: “Бічэль Данута Янаўна... беларуская *паэтка* (с. 32); Булыка Галіна Аляксандраўна... беларуская *паэтка* (с. 39)”.

З усяго згаданага вынікае, што асабовыя жаночыя назвы з суфіксам ***-ш-а*** парушаюць норму літаратурнай мовы, а ўтварэнні з суфіксам ***-к-а*** — нарматыўныя лексічныя адзінкі з азначэннем асобы жаночага полу (без адцення гутарковасці, паніжэння іх у статусе): *касірка, білецёрка, паэтка, сакратарка*.

**2.1.3. Назоўнікі з суфіксамі *-ец / -ц-а, -овец / -оўц-а, -енец*.** Яны актыўна выкарыстоўваюцца ў сучаснай літаратурнай мове. Асабліва апошнім

часам, замяняючы неўласцівыя нашай мове словы, механічна перанесеныя з расійскай мовы. Напрыклад: "Спадар Алесь падараваў у кніжніцу нашага часопіса дзве свае кніжкі. Зборнік... "Далучанасць" (Мн.: Мастацкая літаратура, 1990) быў "першынцам", першай кнігай ***даройцы***" (Роднае слова. 1993. № 4. С. 40). "***Вядоўца*** (у нацыянальным строі). Народная творчасць — няпісаная і нікім да канца не прачытаная, чароўная, мудрая кніга" (Тамсама. С. 39). Або ў даведніку "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (Менск: Белфранс, 1997.): *атаковец* (рас. атакующий, с. 15), *выкаачунёвец* (выздоравливающий, с. 36), *навабранец* (призывник, с. 159), *выканавец абавязкаў* (исполнитель, и.о., с. 76), *выбранец* (гвардеец, с. 39), *вявядзёнец* (ведомый, с. 25), *самалёт-вядзёнец* (ведомый самолёт, с. 184), *вядовец* (ведущий, с. 26), *самалёт-вядовец* (ведущий самолёт, с. 184), *дапытовец* (допрашивающий, с. 57), *дэшыфровец* (дешифровальщик, с. 52), *звальнёнец* (увольняемый, с. 215), *звыштэрміновец* (сверхсрочник, с. 186), *кіровец* (водитель, с. 31), *набоец* (заряжающий, с. 65), *папраўленец* (выздоравливающий, с. 36), *самаабаронец* (обороняющий, с. 117), *самапісец* (самопишущий), *шараговец* (рядовой, с. 183), *вайсковец* (военнослужащий, с. 32), *службовец* (служащий, с. 191).

Фарманты ***-ец / -ца, -овец / -оўц-а*** былі вельмі прадукцыйнымі ў словаўтварэнні назоўнікаў у XIX ст., і найперш ***-ц-а***. Гэты праславянскі суфікс не страціў сваёй прадукцыйнасці і ў наш час. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" падае нямала словаў гэтага тыпу: *абаронца, абвінаваўца, выканаўца, вынаходца, вытворца, дарадца, збаўца, пераможца, празорца* і інш. Аднак падчас рэалізацыі ідэі на "зліццё моваў" у суфіксе ***-ц-а*** ўбачылі перашкоду на шляху "збліжэння моваў" (у расійскай мове бытуе толькі два словы з суфіксам ***-ц-а*** (і то з адмоўным сэнсам: *пропойца* і *убийца*) і сталі выпраўляць яго "падкарочаны мундзір" ***-ц-*** на дзвюхфанемны ***-ец-*** або на іншыя суфіксы (***-чык / -шчык, -цель***). Так, на месцы *знаўца* стала ўжо *знавец* (у РБС-53 і БРС-62: *знаўца*, а ў БРС-88: *знавец*, а форма *знаўца* кваліфікуецца як ненарматыўная), замест *дарадца — дарадчык, выхаваўца — выхавацель*.

Між тым суфікс ***-ц-а*** — актыўны словаўтваральны фармант не толькі ў беларускай, але і ў заходнеславянскіх мовах (польскай, славацкай, чэшскай). Супольныя рысы беларускай мовы з заходнеславянскімі не выпадковыя. Яшчэ акадэмік А.Шахматаў зазначаў, што беларуская мова склалася на скрыжаванні ўсходне- і заходнеславянскіх элементаў.

У наш час, калі мы вызваляемся ад ідэалагічнай зашоранасці і ў дачыненні да заходнеславянскіх моваў, у маўленні і перыядычным друку актывізавалася выкарыстанне суфікса ***-ц-а / -ўц-а*** для ўтварэння новых словаў замест штучнамадэльных для нашай мовы дзеепрыметнікаў на ***-ачы (-ячы), -учы (-ючы)*** і іншых штучных словаў; сталі больш актыўнымі ў выкарыстанні і ранейшыя ўтварэнні з суфіксамі ***-ц-а / -овец***. Так, набылі шырокае выкарыстанне ў нацыянальным друку словы *суразмоўца, навуковец, вядоўца* (замест *вядучы*), *службовец, вайсковец, падліковец* (замест *лічыльнік*), *непаспяхо-*

*вец* (*непаспяваючы*), *спартовец* (*спартсмен*), *змаганец* (*барацьбіт*), *вучнёвец* і *навучэнец*, *выканайўца абавязкаў* (замест *выконваючы абавязкі*), *кіровец* (*вадзіцель*) ды інш.

Суфікс ***-ец/-ц-а*** актыўна ўдзельнічае пры ўтварэнні асабовых назоўнікаў — назваў спецыялістаў ад асновы складаных назоўнікаў — назваў адпаведнай галіны ведаў, спецыяльнасці: *мовазнаўства → мовазнав-ец* (з адцінаннем фіналі *-ства*), *славяназнаўства → славяназнавец*, *правазнаўства → правазнавец* і пад. На жаль, слоўнікі 80-х гадоў замест гэтых натуральных словаў з суфіксамі ***-ец/-ц-а*** падаюць нічым не апраўданыя пазычанні з суфіксоідам ***-вед***: *славянавед*, *прававед* і пад.

Суфікс ***-ец*** актыўны і пры ўтварэнні назваў асобы ад найменняў паселішчаў: *гродзенец*, *слонімец*, *маладзечанец*, *кобрынец*. За савецкім часам выкарыстоўваўся тут усесаюзны стандарт — суфікс ***-чанін***: *гамяльчанін*, *магіляўчанін* і пад. Падчас нашага адраджэння аднаўляюцца беларускія формы гэтых назоваў: "Што новага, асабліва *гомельцам* і *магілёўцам*, можна сказаць пра Чарнобыль?" (Гісторыя злачынства // ЛіМ. 03.10.1997); "Мядзелец... Жыхар Мядзела, Мядзельшчыны" (А.Каўрус. Словы без прапіскі // Роднае слова. 2000. № 12. С. 52).

**2.1.4. Утварэнні з суфіксам *-ушк-а*.** Яны не маюць пашырэння ў беларускай мове. На месцы іх як эмацыйна-ацэнкавыя словы выкарыстоўваюцца вытворныя з адметна беларускім суфіксам ***-ухн-а (-юхн-а)***: *бацюхна*, *матухна*, *долюхна*, *зімухна*. Толькі адно слова *дачушка* мае гэты суфікс. У словах *кадушка* і *цялушка* суфікс ***-ушк-а*** не мае гэтага зместу: слова *кадушка* страціла значэнне памяншальнасці (з гэтай семантыкай выкарыстоўваецца *кадушачка*), а ў лексеме *цялушка* суфікс ***-ушка*** надае значэнне 'самка' (параўн. цяля).

Аднак слоўнікі 60—80-х гг. сталі падаваць і расійскамоўныя словы на ***-ушка*** (у расійскай мове гэты суфікс вельмі актыўны пры ўтварэнні назоўнікаў рознай семантыкі): *раскладушка*, *легкавушка*, *гнілушка* ды інш. Але ж беларуская мова і тут мае свае адмысловыя словы: *бакоўка* (РБС-82), *беражанка* — *береговушка* (БРС-88), *гніляк* (РБС-93), *легкавік* (як і *грузавік*) ці *легкавічка*, *раскладанка* і пад.

**2.1.5. Назоўнікі з суфіксам *-онак (-ёнак)*.** Літаратурнай беларускай мове яны неўласцівыя. Словы з гэтым фармантам бытуюць у дыялектнай мове часткі поўдня і ўсходу Беларусі. Адсюль яны трапляюць у творы некаторых пісьменнікаў (напрыклад: *дзіцёнак* у Е.Лось). У выніку расійскамоўнага ўплыву доўгі час (50—80-я гг.) панавалі ў перыядычным друку чужыя беларускай мове словы: *акцябронак*, *арлёнак*, *зубронак*. Імі называлі дзіцячыя ўстановы, летнікі (лагеры адпачынку). Расійскамоўнаму суфіксу ***-ёнок (-онок)*** з значэннем 'маладая істота' ў беларускай мове адпавядае ***-ян-я (-ан-я)***: *бусляня*, *ваўчаня*, *кацяня*, *лісяня*. А таму натуральныя для нашае

мовы і формы *арляня, зубраня* і з пераносным значэннем — у назвах летнікаў, кінатэатраў.

У формах множнага ліку выступае складаны суфікс ***-янят-(-анят-)***: *бусляняты, вайчаняты, каცяняты, ільвяняты*. Прыгадаем назоў верша Янкі Купалы "Арлянятам". А вось некаторыя пісьменнікі парушаюць гэтую заканамернасць беларускае літаратурнае мовы, выкарыстоўваючы не беларускія, а расійскія формы з суфіксам множнага ліку ***-ят-*** (ён замяняе суфікс ***-ёнок***): *галубяты, ільвяты, арляты*. Напрыклад, у творы І.Шамякіна "Злая зорка" (Полымя. 1991. № 2. С. 100) бачым *галубяткі* (ад *галубяты*, з суфіксам ***-к-і***), у іншых аўтараў — *ільвяты* і пад.

Суфікс ***-янят-ы (-анят-ы)*** мае ў беларускай мове і пяшчотнае значэнне ў словах, утвораных ад назваў частак цела: *вачаняты, ручаняты* (а ў жывой народнай мове і *вушаняты, нажаняты*). Бачым яго і ў іншых утварэннях (*грашаняты*). Парушэнне нормы — выкарыстанне з гэтым значэннем утварэнняў з суфіксам ***-онк-і***: *ручонкі, валасёнкі* (ён уласцівы расійскай мове: *ручонки, глазёнки, девчонки*).

**2.1.6. Суфіксы *-ечк-а (-ачк-а) і -еньк-а (-аньк-а)*.** Нарматыўна беларускай мове ўласцівыя суфіксы ***-ечк-а / -ачк-а***: *галовачка, дочачка, дзядзечка, рэчачка, татачка*. Суфікс ***-аньк-а*** вылучаецца ў некаторых словах з фальклорных тэкстаў: *рэчанька* (у песні "Ой, рэчанька, рэчанька"). У іншым выкарыстанні ён ненарматыўны. Пра гэта нагадваў пісьменнік Я.Скрыган, які лічыў натуральнымі ласкальныя формы імёнаў (з ***-ечка, -ачка***) *Сашачка, Волечка... і "калькаванымі Сашанька, Оленька*"[5].

**2.1.7. Утварэнні з суфіксамі *-ач і -ан*.** Словы з эмацыйна-ацэнкавым суфіксам ***-ач*** негатыўна характарызуюць чалавека паводле інтэнсіўнай прыметы: *галавач, гарлач, лабач, лупач, пузач і трыбухач*. Аналагічныя ўтварэнні з суфіксам ***-ан*** неўласцівыя беларускай літаратурнай мове (іх мае расійская мова: *голован, горлан, губан, брюхан, пузан, лобан*). "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гг. падае толькі два словы на ***-ан***: *лабан* (відаць, пад уплывам прозвішча пісьменніка і мовазнаўцы — Мікола Лобан) і *пузан* (як паралельнае да пузач). У друк, мастацкія творы нядбайных у галіне культуры мовы аўтараў расійскамоўныя ўтварэнні трапляюць не так ужо і рэдка: *губан, гарлан* і іншыя парушэнні словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы.

**2.1.8. Асабовыя назоўнікі жаночага роду на *-уха і -унья*.** Назвы асобы жаночага полу ўтвараюцца ў беларускай мове з дапамогаю суфікса ***-ух-а (-юх-а)*** ад той асновы, што і назвы асобы мужчынскага полу, г. зн. выступаюць як паралельныя ўтварэнні (іх мовазнаўцы кваліфікуюць як кадэрываты): *рагат-уха* (і *рагат-ун*, ад *рагатаць*), *скакуха, спявуха, пяюха*. У

---

5 Янка Скрыган. Блізкія сэрцу думкі // Полымя. 1967. № 9. С. 252.

расійскай мове такія назвы асобы жаночага полу ўтвараюцца ад назваў мужчынскага роду з дапамогаю суфікса *-j-а*: *прыгун — прыгунья (прыгунjа)*, *говорун — говорунья*, *хохотун — хохотунья*. Беларускай літаратурнай мове гэты фемінінны ("жаночы") суфікс *-j-а* неўласцівы. Але ў слоўнікі 70—80-х гадоў сталі трапляць назвы асобы жаночага полу на ***-унняя***: *ілгуння, пявуння, скакуння*. Фармант ***-уння*** ўзнік з суфікса асобы мужчынскага роду ***-ун***, да якога далучаецца суфікс жаночага роду ***-j-а***. У выніку прагрэсіўнай асіміляцыі *-j-* прыпадабніўся да папярэдняга гука і даў яго падаўжэнне (на пісьме — падваенне літары): *пявунjа → пявуння*.

Літаратурная мова мае тры падобныя словы: *красуня, прыгажуня, харашуня*. Але яны належаць да іншага тыпу словаўтварэння: першае слова ўтварылася ад назоўніка з абстрактным значэннем: *краса → крас-уня*, два іншыя — ад прыметнікаў: *прыгожы → прыгажуня*, *харошы (харошая) → харашуня*. Праўда, ёсць у беларускай мове і найменні мужчынскага роду: мала пашыраныя — *прыгажун* і *харашун*. Але лексемы *прыгажуня* і *харашуня* не маюць доўгага гука [н] (падвойнага *нн*), бо яны не ўзніклі ад *прыгажун* і *харашун*, а наадварот: *прыгажун* ад слова *прыгажуня*, *харашун* — ад *харашуня* шляхам рэдэрывацыі (адваротнага словаўтварэння); як і *даяр* ад *даярка*.

Як бачым, назвы асобы жаночага полу на ***-уння*** ненарматыўныя ў беларускай мове. На месцы іх у друку часам сустракаем утварэнні на ***-унка***: *скакунка*.

**2.1.9. Утварэнні з суфіксам *-яг-а*.** Яны неўласцівыя беларускай літаратурнай мове. З такім суфіксам замацаваліся два словы: *туляга* (не без уплыву камедыі К.Крапівы "Хто смяецца апошнім" з яе персанажам Туляга) і *бадзяга*. Утвараюцца яны ад дзеясловаў: *бадзяцца — бадзяга*, *туляцца — туляга* (з адцінаннем фінальнае галоснае ўтваральнае асновы **я**). У расійскай мове такіх утварэнняў шмат, яны належаць да прадукцыйнага словаўтваральнага тыпу: *бродяга, деляга, работяга* і пад. Складальнікі двухтомавага "Беларуска-рускага слоўніка" 1988—1989 гадоў далучылі гэтыя і іншыя расійскія словы і ў беларускую частку даведніка. Ад якіх жа утваральных словаў яны ўзніклі? *Брадзяга* — ад *брадзіць*, *рабацяга* — ад *работаць*, *дзяляга* — ад *дзелаць*. Але такіх дзеясловаў не падае нават гэты слоўнік. Нашая мова мае на іх месцы свае адпаведнікі. У "Русско-белорусском словаре" 1953 года чытаем: "*Бродяга — бадзяга, валацуга*" (с. 43). Тое самае бачым і ў наступных яго перавыданнях (РБС-93. Т. 1. С. 125): "*Работяга* м. и ж. разг. (о мужчине) *працавік* м., *працавіты* м.; (о женщине) *працавітая* ж." (с. 559). Слову *деляга* адпавядае *спраўнік* (ад *справіцца* — з нейтральным і эмацыйным значэннем непахвальнасці).

Дарэчы, не абышлося ў слоўніках 80-х гадоў і без іншых небеларускіх "*ягаў*" (а не толькі *дзяляга* і *рабацяга*). У згаданым двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" спатыкаемся і на словах *сатняга* (пазычыць *сатнягу*, а па-беларуску: *соценка, сотка*), *маладчага* (на месцы свайго натуральнага *малайчына*).

**2.1.10. Назоўнікі з суфіксам *-іск-а* (*-ыск-а*).** Гэты праславянскага паходжання суфікс выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове для ўтварэння назоўнікаў ад асновы саміх назоўнікаў. "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 97) вызнае з гэтым суфіксам "адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду, якія маюць павелічальнае або пагарджальнае адценне: *каніска, агніска, вятрыска, сям'іска, лагавіска* і інш."

Аднак складальнікі слоўнікаў 50—80-х гадоў грэбавалі адмысловымі словамі і падавалі агульнасаюзныя стандарты. Вось чаму ў шасцікнігавым "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" знайшлося месца толькі для аднаго ўтварэння гэтага словаўтваральнага тыпу: *вятрыска*. А ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў гэтага слова ўжо няма. Праўда, у гэты слоўнік усё ж трапіла адно слова з суфіксам ***-ыск-а*** (*дажджыска*, але без тлумачэння (з адсылкай да *дажджышча* — такога немілагучнага ўтварэння — у ім аж чатыры шыпенныя гукі!).

Ідучы ў гэтым фарватары, новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (Мн., 1985. Ч. 1. С. 270) ужо зусім не вылучае словаўтваральнага тыпу з суфіксам ***-іск-а (-ыск-а)*** (што яшчэ фіксавала яе папярэдніца 1962 года). У ёй толькі чытаем: "*У адзінкавых словах вылучаюцца суфіксы/ -іск-а: вятрыска, даміска* (разм.)".

А іх жа — словы на ***-іска / -ыска*** — выкарыстоўвалі класікі беларускай літаратуры. У Янкі Купалы чытаем: "*О, вецер,* ***вятрыска****...*" (пераклад "Слова о полку Игореве"), у Кузьмы Чорнага: "*Зірнуў у акно — аж там за стала* ***сям'іска****... сядзіць, можа, чалавек дваццаць...*"; у Кандрата Крапівы: *каніска* ды інш. Ужываюць гэтыя словы і іншыя пісьменнікі: "*Дзьмухне* ***вятрыскам*** *ля вушэй*" (Р.Барадулін). "*Цэлы* ***равіска*** *вады...*" "*Аж тры талеркі супу,* ***бедачыска****, спаражніў адразу...*" "*Ляжыць на дне з вылупленымі* ***вачыскамі****...*" "*Ладны* ***нямчыска****...*" (А.Карпюк. Данута). "*У твар прыпякае лагоднае красавіцкае сонца, кудлаціць і лашчыць чупрыну* ***вятрыска***" (Л.Левановіч). "*Жоўты пясок нібы свечкі* ***агніска***" (В.Шніп). "*Мы шукалі ў садзе, ля прысад, дзе траву* ***вятрыска*** *пакамечыў*" (М.Скобла. Камень-перунок). "*Каб* ***вятрыска*** *мог лашчыць*" (А.Дудараў).

У жывой народнай мове (асабліва захаду Беларусі) такіх утварэнняў шмат: *гультаіска, нядбайліска, дзяціска, бугаіска, вазіска, зайчыска* ды інш. Вытворныя з гэтым суфіксам маюць не толькі эмацыйна-ацэнкавае, але і шмат іншых значэнняў. Падрабязна пра ўтварэнні з суфіксам ***-іск-а*** гл. у нашай кнізе "Беларускае народнае словаўтварэнне" (Мн., 1977. С. 44, 109, 156, 242), а таксама ў нашым артыкуле "Народнае словаўтварэнне" ў кнізе "Беларуская мова: Энцыклапедыя" (Мн., 1994. С. 375).

**2.1.11. Суфікс *-ыш*.** Ён чужы беларускай мове, як і іншыя з элементам ***-ш-*** (яны ўласцівыя расійскай мове: *солнышко, домишко, мамаша, милаша, лгунишка, донышко* і пад.). Расійскім утварэнням на ***-ыш (-иш)*** адпавяда-

юць у беларускай мове вытворныя з іншымі суфіксамі: *-ак*: *выкармак* (рас. *выкормыш*), *заморак* (*заморыш*), *зародак* (*зародыш*), *паскробак* (*поскребыш*), *сляпак* (*слепыш*); *-к-і*: *абіркі* (*оборыш*); *-нік*: *кормнік* (*выкормыш*). Аднак у слоўнікі 30—80-х гг. хлынулі неўласцівыя словаўтваральнай сістэме беларускай мовы ўтварэнні на *-ыш*: *выкідыш, падкідыш, сляпыш, лядыш, укладыш, паследыш, знайдыш, малыш, глупыш*. Але здаўна беларуская мова карысталася сваімі словамі (без гэтага элемента *-ыш*): *выкідак, падкідак, укладка, паследак, знайдзён, сляпак, лядзяк, малое* (*малеча*).

**2.1.12. Суфікс *-лец*.** Таксама ён неўласцівы словаўтваральнай сістэме беларускай мовы, хоць некаторыя слоўнікі падаюць такія лексемы (*жылец, прышэлец*). Дэрыватам расійскай мовы на *-лец* у беларускай мове адпавядаюць структуры з іншымі суфіксамі: *-нік*: *пакутнік* (*страдалец*), *вандроўнік* (*скиталец*), *-льнік*: *уладальнік* (*владелец*), *-ач*: *уцякач* (*беглец*), *-ар*: *жыхар* (*жилец*). Слову *прышэлец* адпавядае *прыхадзень* і *прыблуда* (суфіксавае з *-ень* і нульсуфіксавае ўтварэнні).

**2.2. Прыметнікавае словаўтварэнне і яго суфіксы. 2.2.1. Прыналежныя прыметнікі.** Яны ўтвараюцца ў беларускай мове з выкарыстаннем двух тыповых суфіксаў, якія маюць строгую размеркаванасць (дыстрыбуцыю): *-ін (-ын)* далучаецца толькі да асновы назоўнікаў жаночага роду: *мамін, матчын, бабулін, сястрын, Марылін, Аленін, Алесін*; *-ов- (-оў, -аў, -ёв-, -ев-)* нарматыўна спалучаецца толькі з асноваю назоўнікаў мужчынскага роду: *гусаковы крылы, Пятроў дом, дзедаў кажух, Петрусёў дыплом, Анатолеў падарунак*.

Парушаюць норму ўтварэнні з *-ін (-ын)* ад назоўнікаў мужчынскага роду: *Васін, Колін, Толін* і пад. Перад суфіксавым *-і-* (суфікс *-ін*) адбываецца чаргаванне **к-ч, х-ш**: *Аленка — Аленчын, Марылька — Марыльчын, парабчышын сын* (К.Чорны), *Андрусіха — Андрусішын*.

Выкарыстанне ўтварэнняў з суфіксам *-ін* ад назоўнікаў мужчынскага роду і з захаваннем у аснове **к** (без чаргавання **к-ч**) — яскравае сведчанне пераносу расійскамоўных заканамернасцяў у беларускую мову, як у прыкладзе: "*з Жэнькіных грудзей*" (І.Шамякін. Глыбокая плынь). У расійскай мове суфікс *-ин* далучаецца да асновы ўсіх назоўнікаў, якія канчаюцца на *-а*, *-я* (*папа — папин, дядя — дядин, Толя — Толин*), г. зн. у аснову дыстрыбуцыі (размеркавання) суфіксаў *-ин*, *-ов* пакладзены не род назоўнікаў (як у беларускай мове), а тып скланення: *-ин* далучаецца да асновы словаў "жаночага" скланення (з канчаткамі *-а*, *-я* ў назоўным склоне адзіночнага ліку), *-ов* — мужчынскага. У расійскай мове з прыналежным значэннем выкарыстоўваюцца і іншыя суфіксы: *-ий*, *-овий*, *-ачий*, *-нин*, функцыю якіх у беларускай мове паспяхова выконваюць *-ін* і *-ов-*(*-оў*,*-аў*,*-ёв-*,*-ев-*): *лісіны* і *лісавы* (*лисий*), *валовы* (*воловий*), *быковы* ці (з пераносн. знач.) *бычыны* (*бычачий*), *даччын* (*дочерний*). *У беларуска-рускім слоўніку 1989 (с. 539): сынаў — сыновний, сыновий.*

Наўрад ці можна лічыць нарматыўнымі формы *бульдожы* (рас. *бульдожий*), *манаршы* (*монарший*), *мядзведжы* (*медвежий*) і пад., якія бачым у "Беларуска-рускім слоўніку" 1988 года, бо натуральнымі маюць быць беларускія формы з тыповым прыналежным суфіксам ***-ав-***(***-ев-***): *бульдогавы*, *манархавы*, *мядзведзевы*.

Формы тыпу *баранняя шапка*, *аленні мох*, *варонне крыло*, *лісі хвост*, *рыбі тлушч* — памылковыя; гэта адаптаваныя расійскамоўныя формы з суфіксам *-ий* (-j-), які пры асіміляцыі даў падаўжэнне папярэдняй зычнай утваральнай асновы (*баранjа* → *барання*) ці адпаў (*лисий* → *лісі*, *рыбий* → *рыбі*).

Такую сама дыстрыбуцыю захоўваюць і вытворныя ад ***-ін*** (***-ын***), ***-ов-*** (***-оў***, ***-аў***, ***-ёв-***, ***-ев-***) складаныя суфіксы ***-інск-*** (***-ынск-***) і ***-оўск-*** (***-аўск-***), г. зн. суфікс ***-інск-*** (***-ынск-***) могуць мець толькі ўтварэнні ад назоўнікаў жаночага роду, а суфікс ***-оўск-*** (***-аўск-***) — ад словаў мужчынскага роду. Прыметнікі тыпу *скарынінскі юбілей*, *скарынінскія чытанні* (памяці Францішка Скарыны) — памылковыя, тут нарматыўнымі ёсць формы з суфіксам ***-аўск-***. Напрыклад, выданне *"Скарынаўскі каляндар"*. Як і *Крапівоўская проза* (ад *Крапіва Кандрат*), а не памылковае *Крапівінская*, якое бачым у школьных праграмах і ў некаторых навучальных дапаможніках і артыкулах. Напрыклад: *"Крапівінская проза падрыхтавала і будучага драматурга"* (Павел Навуменка. Час вяртання даўгоў // Роднае слова. 1996. № 3. С. 14).

**2.2.2. Суфіксы *-ов-(-ёв-,-ав-,-ев-)* і *-ін-* у адносных прыметніках.** Суфіксы ***-н-*** і ***-ов-*** (і яго варыянты не пад націскам пасля цвёрдай асновы ***-ав-*** і мяккай ***-ев-*** ці пад націскам ***-ёв-***) пры ўтварэнні адносных прыметнікаў выступаюць як самыя спалучальныя (валентасныя), г. зн. здатныя спалучацца з найбольшай колькасцю ўтваральных асноваў (параўнальна з іншымі суфіксамі). І ўсё ж сярод іх у беларускай мове ў цэлым шэрагу выпадкаў пераважае суфікс ***-ов-***(***-ав-***,***-ев-***). Так, апошнім часам агульнаю нормаю лічацца ўтварэнні *вясновы* (і *веснавы*), *зімовы*, *цэментавы* (а не *вясенні*, *зімні*, *цэментны*). У тэрміналагічных слоўніках: *сеткавы*, *выбарковы*, *табліцавы*, *блокавы*, *працэнтавы*, *ніткавы*, *стружкавы*, *кнопкавы*, *зборкавы* (РБСМ), *суткавы*, *беспамеравы*, *высокавольтавы*, *дзіркавы*, *клеткавы* (РБФС-99).

Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Мн., 1988—1989) падае нямала дублетных утварэнняў з суфіксамі ***-н-*** і ***-ов-***(***-ав-***,***-ев-***), спрабуючы аддаць перавагу аднаму з іх: *абломкавы* гл. *абломачны*, *аднакаранёвы* гл. *аднакарэнны*, *аліментавы* гл. *аліментны*, *асадкавы* гл. *асадачны*, *асяродкавы* гл. *асяродачны*, *беспрацэнтавы* гл. *беспрацэнтны*, *дзяснавы* гл. *дзясенны*, *задаткавы* гл. *задатачны*, *кішанёвы* гл. *кішэнны*. А таксама: *барбарысны* гл. *барбарысавы*, *абцасны* гл. *абцасавы*, *збройны* гл. *зброевы*, *латунны* гл. *латуневы* ды інш. Некаторыя дублетна-сінанімічныя ўтварэнні слоўнік лічыць раўнавартаснымі і падае асобнымі артыкуламі, без спасылкі на іншы

варыянт: *абрусавы* і *абрусны*, *бабітавы* і *бабітны*, *бесчаўнаковы* і *бесчаўночны*, *бланкавы* і *бланачны*, *бітонавы* і *бітонны*, *бочкавы* і *бочачны*, *вадзянкавы* і *вадзяначны*, *іголкавы* і *іголачны* ды інш.

І ўсё ж слоўнік аддае тут перавагу супольным з усесаюзным стандартам утварэнням з суфіксам -*н*-. Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасці. У моўнай практыцы пераважаюць утварэнні з -*ов*-(-*ав*-,-*ев*-). І вось чаму.

1. Гэты словаўтваральны сродак дае магчымасць захаваць у ранейшым, нязменным выглядзе ўтваральную аснову ў складзе прыметніка, і тым самым вытворнае слова мае празрыстую матывацыю свайго значэння. Напрыклад, *шынкавая* (частка) адразу паказвае на *шынку* ('сцегнавую ці лапатачную частку тушы'), а вось *шыначная* такой празрыстай матывацыі не мае; гэты прыметнік асацыяцыйна звязваецца з назоўнікам *шына* (дарэчы, гэта засведчыў і наш эксперымент з студэнтамі 4-га курса філфака). Або: прыметнік "*таёжны*" далёкі ад утваральнага назоўніка *тайга* (значна змянілася ўтваральная аснова назоўніка), а вось *тайговы* адразу звязваецца з яго ўтваральным словам *тайга*. Назва *чыгункавая станцыя* больш матываваная: *станцыя чыгункі* (а *чыгуначная* — як бы з *чыгункоў*). Або *вачнічны* звязваецца з назоўнікам *вачнік*, а не *вачніцы*. Параўн. у Янкі Брыля: *пры карткавай сістэме* (Вячэрняе. Мн., 1994. С. 280). У перыядычным друку: ***рынкавыя*** *адносіны*, ***астаткавы*** (і ***рэштковы***) *прынцып* і пад.

2. Суфікс -*ов*-(-*ав*-,-*ев*-) дазваляе ўнікнуць немілагучнасці ці амаль невымоўнага збегу зычных на стыку асновы і суфікса -*н*-: параўн.: *вачніцавы* і *вачнічны*, *кантрапунктавы* і *кантрапунктны*, *цэментавы* і *цэментны*, *кансервавы* і *кансервны*.

3. З суфіксам -*ав*-(-*ов*-,-*ев*-) не парушаецца аднастайнасць напісання (і вымаўлення) утварэнняў ад сваіх і пазычаных слоў: *кампоставы*, *кантраставы*, *баластавы* — як і *тайговы*, *рынкавы*. Напрыклад: мікраскоп *фазакантраставы* (РБФС-99). А вось з суфіксам -*н*- утварэнні ад пазычаных слоў пішуцца ўжо не так — *кампостны*, *кантрастны*, *баластны*, хоць *капусны* (ад *капуста*), *посны* (ад *пост*). Пры далучэнні суфікса -*н*- да ўтваральнае асновы з канцавымі санорнымі **рв** узнікае збег трох санорных (**рвн**), які паводле фанетычнага прынцыпу трэба было б пісаць: *рэзерўны*, *кансерўны*. Суфікс -*ов*-(-*ав*-) здымае такое напісанне (*рэзервавы*, *кансервавы*), як і само вымаўленне (неўласцівы збег зычных).

У згаданым двухтомавым слоўніку нямала штучных для беларускай мовы ўтварэнняў (каб было аднолькава ў абедзвюх частках даведніка (*адработачны* — на месцы *адробкавы*, *адрывачны* замест *урыўкавы* і шмат падобных)).

**2.2.3. Суфіксы** -*онн*- **і** -*н*-. Неўласцівы беларускай мове і суфікс -*онн*-, які бачым у штучных для нашай мовы структурах *пенсіённы* і *сесіённы* (*пенсій(а)-онн-ы*, *сесій(а)-онн-ы*). Тут заканамерны суфікс -н-, які далучаецца да асновы слова на -*ія*: *пенсій-ны*, *сесій-ны*, як і *арганізацыя* — *арганізацый-ны*, *аперацыя* — *аперацый-ны*, *камісія* — *камісій-ны*, *канверсія* — *канверсій-ны*. Гэта ў расійскай мове ў такіх словах выступае суфікс

*-онн-*: *организаци-онный, операци-онный, комисси-онный, конверси-онный.* Недарэчнасць утварэнняў *пенсіённы, сесіённы* (яны падаюцца акадэмічнымі слоўнікамі) не падтрымлівае маўленчая практыка, дзе выкарыстоўваюцца іх натуральныя формы: *пенсійны, сесійны* (*міжсесійны*). Форма *пенсійны* адлюстраваная ў "Кароткім слоўніку беларускай мовы" Г.Арашонкавай і В.Лемцюговай (Мн.: Мастацкая літаратура, 1994. С. 98): "*Пенсійны. Пенсійная кніжка*".

Нарматыўнай ёсць і форма *фузійны* (ад фузія), а не *фузіённы* (рас. фузионный), якое бачым у некаторых аўтараў: "...вызначаны тры тыпы моў: флектыўны, ці *фузіённы* (падзяляецца на сінтэтычны і аналітычны)..." (В.Шчэрбін. Тыпалагічнае моваэнаўства // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мн., 1994. С. 564). Параўн.: "Флектыўны (фузійны) тып уключае мовы..." (П.Шуба. Тыпалагічная класіфікацыя моў // Тамсама. С. 565).

**2.2.4. Суфіксы *-енн-* і *-ав-*.** Суфікс *-енн-* таксама неўласцівы беларускай мове. Пры збегу зычных утваральнай асновы (з фінальнымі губнымі **в**, **м**, **п**) у беларускай мове выкарыстоўваецца суфікс *-ав-*: *брытвавы, воспавы, дарэформавы, дратвавы, падэшвавы, фермавы, фірмавы.* На жаль, гэтая заканамернасць у акадэмічных слоўніках апошніх дзесяцігоддзяў адлюстроўваецца толькі часткова. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў фіксуе толькі *фермавы* (рас. *ферменный*) і *язвавы, сібіраязвавы* (*язвенный*), а таксама *фірмавы*, але з адсылкай да *фірменны.* А натуральныя формы гэтай лучнасці падае ў зрусіфікаванай форме: *брытвенны, дратвенны, дарэформенны, падэшвенны.* І гэта зразумела: трэба было як найхутчэй наблізіцца да ўсесаюзнага стандарту. Прыгадаем у гэтым слоўніку *адсеч, насеч* (замест *адсекчы, адсячы, насекчы, насячы*), якія адрозніваюцца ад расійскіх толькі тым, што не маюць на канцы літары **ь** (*насечь*). А вось "Русско-белорусский словарь" 1953 года, які выйшаў пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі, рас. *бритвенный* перакладае як *брытвавы, бритвенный нож — брытвавы нож* (с. 43), *дратвенный — дратвавы* (с. 127); бачым у ім і *воспавы* (с. 365), *дарэформавы* (с. 124). Праўда, і тут побач з беларускаю формаю бачым і ўсесаюзную, прычым ставіцца яна на першае месца: *фірменны* і *фірмавы, дарэформенны* і *дарэформавы.*

Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі (1992—1994 гг.) падаюць свае, натуральныя формы з суфіксам *-ав-*: *брытвавы* (прыбор, нож), *беспісьмовыя* мовы, *бясформавы, дарэформавы* (правапіс), *воспавы, падэшвавы, пахвавы, фірмавы* і *фірмовы.* Напрыклад, у "Руска-беларускім слоўніку сельскагаспадарчай тэрміналогіі" (Мн.: Ураджай, 1994): *ліставы* і *лісцевы* (рас. *лиственный*), *бяссемевы* (*бессеменной*), *язвавы* (*язвенный*); "Анат. сл.": *падэшвавы апанеўроз, стрэмевая галіна, ярмовы адростак*; РБФС-99: *плазмавы рухавік*; РБСМ: *плазмавая ачыстка.*

**2.2.5. Суфіксы *-озн-*, *-атозн-*.** Іх бачым у медычных тэрміналагічных адзінках: *гангрэнозны, экзэматозны, тыфозны.* Але гэтыя афіксы ўсклад-

няюць разуменне семантыкі прыметнікаў, утвораных ад назоўнікаў — назваў хваробы. Куды больш выразна выяўляецца семантыка гэтых прыметнікаў з беларускім суфіксам *-ав-*: *гангрэнавы*, *экзэмавы*, *тыфавы*. Або *венавая* кроў замест *венозная*. На месцы *-озн-* можа выкарыстоўвацца суфікс *-н-*: *амбіцыйны* (характар) (ад *амбіцыя*). Параўн.: *тэндэнцыйны* — *тенденциозный*, *рэлігійны* — *религиозный*, *сентэнцыйны* — *сентенционный*, *трахомны* і *трахаматозны*.

**2.2.6. Суфіксы *-іяльн-*, *-анальн-*, *-уальн-*.** Гэтыя "доўгія" — двухскладовыя — іншамоўныя суфіксы не маюць пашырэння ў беларускай мове. Яны парушаюць гармонію гукаў (збег галосных у межах адной марфемы) і зацямняюць структуру і семантыку вытворных прыметнікаў. На месцы гэтых суфіксаў (іх бачым у расійскай частцы перакладных слоўнікаў) выступаюць тыповыя беларускія словаўтваральныя фарманты *-н-* ці *-ав-*: *эмоцыя* — *эмацый-ны* (рас. *эмоциональный*), *біном* — *біномны* (рас. *биномиальный*), *сінусоіда* — *сінусоідны* (*синусоидальный*), *экватар* — *экватарны* (*экваториальный*), *тэкст* — *тэкставы* (*текстуальный*), *кантэкст* — *кантэкставы* (*контекстуальный*), *прынцып* — *прынцыповы* (*принципиальный*). Такую заканамернасць пацвярджаюць новыя тэрміналагічныя слоўнікі, створаныя ў 1992—1994 гг. А таксама ў "Анат. сл.": *бронхавы* (*бронхиальный*), *трахейны* (*трахеальный*); РБФС-99: *дыспрапарцыйны*, *дыферэнцыйны*; "Тэрміналагічны бюлетэнь" (№ 1. Мн., 1997): *біномныя* каэфіцыенты (рас. *биномиальные*). А вось акадэмічныя слоўнікі 60—80-х гадоў не адыходзяць тут ад расійскамоўных формаў: *бінаміяльны*, *кантэкстуальны*...

Набываюць беларускую будову і яскравую матываванасць і некаторыя пазычаныя прыметнікі з суфіксамі *-альн-*, *-арн-*, на месцы якіх выкарыстоўваюцца суфіксы *-ав-*, *-н-*: *тэатравыя падмосткі* (замест *тэатральныя*), *малекульны* (*малекулярны*), *спектравы аналіз*, *сфероідны*, *трапецоідны* (РБСМ); *альвеолавы* (*альвеолярный*), *ампульны* (*ампулярный*), *дыяфрагмавы* (*диафрагмальный*) (Анат. сл.).

**2.2.7. Суфікс *-н-* і яго штучны дублет *-тыйн-*.** Ад іншамоўных назоўнікаў на *-цыя* прыметнікі ў беларускай мове ўтвараюцца з дапамогаю суфікса *-н-*, які далучаецца да поўнае асновы гэтых словаў: *асіміляцыя* — *асіміляцыйны*, *акупацыя* — *акупацыйны*, *адміністрацыя* — *адміністрацыйны*, *меліярацыя* — *меліярацыйны*, *спекуляцыя* — *спекуляцыйны*. Але гэтая заканамернасць беларускага словаўтварэння нярэдка парушаецца акадэмічнымі слоўнікамі, дзе на месцы натуральнага беларускага ўтварэння з суфіксам *-н-* бачым форму на *-тыйны*: *дысімілятыйны*, *дэдуктыйны*, *камунікатыйны*, *кансультатыйны*, *фіктыйны* і пад. Такія словы ўсведамляюцца як ненатуральныя: яны аднаўляюць палітарную аснову лацінскіх этымонаў на *-tio* (параўн. *асімілятыйны* і лац. assimilatio), тымчасам як ба-

завыя іх словы — назоўнікі на ***-цыя*** — адпавядаюць не транслітарацыі (палітарнай перадачы), а транскрыпцыі лацінскага арыгінала, дзе літара *t* у фіналі *-tio* чытаецца як [ц]: assimilatio — *асіміляцыя*. І як можа ўтварэнне ад назоўніка з цвёрдым гукам [ц] набываць на яго месцы гук [т]: *інтуіцыя — інтуітыўны*? Такога чаргавання беларуская мова не мае. І калі прыметнік матывуецца назоўнікам на ***-цыя*** і ўтвораны ад яго, то ён мусіць мець і яго словаўтваральную аснову: *інтуіцый(а) → інтуіцый-ны*.

Часам акадэмічныя слоўнікі падаюць такія прыметнікі ў дзвюх формах — з фінальнымі часткамі ***-цыйны*** і ***-тыўны***: *вегетацыйны* — 'які мае дачыненне да росту і жыццёвай дзейнасці раслін' і *вегетатыўны* — 'які служыць для жыўлення, росту жывёльных і раслінных арганізмаў'. Як бачым, тут рознафінальныя прыметнікі адрозніваюцца значэннем і адпавядаюць расійскамоўным: на ***-ционный*** і ***-тивный***. Але ж у беларускай мове рознае значэнне можа перадавацца і адною, натуральнаю формай — утварэннем з суфіксам ***-н-***, дзе ў расійскай мове бачым дзве: *мелиорационный — меліярацыйны*, *мелиоративный — меліярацыйны*. Акрамя таго, беларускія прыметнікі на ***-цыйны*** нярэдка адпавядаюць адзінай расійскамоўнай форме на ***-тивный***: *ілюстрацыйны — иллюстративный*, *спекуляцыйны — спекулятивный*, *рэканструкцыйны — реконструктивный* і пад.

Такім чынам, спалучэнне розных значэнняў не можа лічыцца перашкодай на карысць выразнаматываванай, празрыстаструктурнай формы на ***-цыйны***. Форма на ***-тыўны*** — штучная, яна не мае свае дэрывацыйнае асновы і фанетычнае апоры ў беларускай мове. І тым не менш у акадэмічных слоўніках насуперак здароваму сэнсу бачым нават дзве формы прыметніка — натуральнае ўтварэнне з суфіксам ***-н-*** і штучную форму на ***-тыўны*** — на месцы адной расійскай. Напрыклад, прыметнік ***продуктивный*** мае ў расійскай мове тры значэнні (гл. Словарь русского языка. Т. 3. М., 1984. С. 482): "*Продуктивный*. 1. Приносящий результаты, создающий ценности; производительный, плодотворный. Земледелие должно стать ещё более продуктивным. 2. Такой, который даёт продукцию, разводится для получения продуктов животноводства (о сельскохоз. животных, птицах). Продуктивный скот. 3. Лингв. Действующий в настоящее время, способный давать новообразования. *Продуктивный тип словообразования. Продуктивный аффикс*". У беларускіх акадэмічных слоўніках першае і другое значэнні слова *продуктивный* перакладаюцца натуральным утварэннем ад *прадукцыя* — словам *прадукцыйны*, а трэцяе ужо штучным для беларускай мовы словам *прадуктыўны*. Але ж, як паказвае "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 322), базавае для ўсіх трох значэнняў слова *прадукцыя* мае супольную семантыку "прадукты разумовай працы", і гэта выяўляе штучнасць вылучэння аднаго з значэнняў слова *прадукцыя* і замацаванне за ім ненатуральнай для беларускай мовы формы *прадуктыўны* (рас. *продуктивный*). Як бачым, беларускія лексікографы разарвалі трохсемную (трохзначэневую) лексему, вылучыўшы адзін з семантычных варыянтаў у асобную лексему (з мэтаю наблізіцца да ўсесаюзнага стандарту). Але ж для беларус-

кае мовы натуральным ёсць вось гэта: "*Словаўтваральны тып*, які дае плён, і ёсць *прадукцыйны*, г. зн. плённы". Параўн. у ТСБМ (Т. 4. С. 322): "*Прадукцыйны*. 1. Плённы. Сумесная праца куды больш плённая (больш прадукцыйная)". Тэрмін *прадуктыўны* хутчэй стасуецца з назоўнікам *прадукт*, а *прадуктыўны* тып — той, які дае *прадукты* (*прадукт-ыўны*). Значыць, нарматыўным лінгвістычным тэрмінам ёсць *прадукцыйны* (*прадукцый(а)-н-ы*) *тып*, *прадукцыйны афікс*, *прадукцыйныя* і *непрадукцыйныя* мадэлі ўтварэння фразеалагізмаў (В.І.Рагаўцоў. Агульнае мовазнаўства: Праграма для філ. фак. Магілёў, 1999). Утварэнне тэрмінаў ад дзеясловаў III *прадукцыйнага* класа (А.Багдзевіч. Словаўтваральная структура аддзеяслоўных тэрмінаадзінак у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Гродна, 2000. С. 72).

Такім чынам, натуральная беларуская форма прыметнікаў, матываваных назоўнікамі на *-цыя*, — гэта іх аблічча з фінальнаю часткаю ***-цыйны***: *аглютынацыя — аглютынацыйны*, *адміністрацыя — адміністрацыйны*, *асіміляцыя — асіміляцыйны*, *дысіміляцыйны*, *дыстрыбуцыйны*, *інфармацыйны*, *камунікацыйны*, *канцэпцыйны* (ад *канцэпцыя*), *карэляцыйны*, *намінацыйны* і пад.: *Відаць, і засталіся проста рыторыкай гэтыя, мусіць, у нечым залішне **дэкларацыйныя** радкі*... (Полымя. 1997. № 7. С. 290).

Маўленчая практыка і тэрміналагічныя слоўнікі 90-х гадоў XX ст. пацвердзілі нашыя высновы. Вось некаторыя прыклады: "*Намінацыйны* лад мовы. *Камунікацыйныя* рангі мовы. *Дыстрыбуцыйны* аналіз" (В.І.Рагаўцоў. Агульнае мовазнаўства: Праграма... Магілёў, 1999); "Найбольш *прадукцыйным* суфіксам пры ўтварэнні маскулінатываў у апошні час з'яўляецца — нік..." (В.Л.Вárановіч. Асабовыя назоўнікі-наватворы ў беларускай мове (словаўтваральная структура і дачыненні да сістэмы літаратурнай мовы). Аўтарэф. дыс. ... канд. філ. навук. Мн., 2000. С. 15).

**2.2.8. Суфікс *-чат-*.** Ён нехарактэрны для беларускай мовы. Расійскамоўныя ўтварэнні з гэтым суфіксам перакладаюцца на беларускую мову адпаведнікамі з суфіксамі ***-ав-***, ***-ават-***, ***-іст-***, ***-аст-***: *стрельчатый — стрэлкавы* і *спічасты*, *гребеньчатый — грабеньчыкавы*, *уступчатый — уступісты*, *рассыпчатый — рассыпісты*, *линейчатый — лінеісты*. У "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў чытаем: *пузыраваты* і *пузырысты* (рас. *пузырчатый*), *пералівісты* (*переливчатый*), *сеткавы* (*сетчатый*), *складкаваты* (*складчатый*), *створкавы* (*створчатый*). Гэтыя сама беларускія формы фіксуе і "Русско-белорусский словарь" 1993 года.

Аднак не абышлося і тут без "набліжэння" да расійскае мовы. У тлумачальных слоўніках (1977—1984 і 1996 гг.) побач з сваімі натуральнымі прыметнікавымі ўтварэннямі бачым і штучныя для нашай мовы "***-чатыя***": *грабеньчыкавы* і ***грабеньчаты***, *губкаваты* і *губчаты*, *уступісты* і *ўступчаты*, *рассыпісты* і *рассыпчаты*. Падаюцца тут і "адзіныя" (не дублетныя) формы на ***-чаты***: *стрэльчаты* (а ў "Руска-беларускім слоўніку сельскагас-

падарчай тэрміналогіі", с. 486: *стрэлкавы*), *дольчаты* ("які складаецца з долек". Таму натуральнае *долькавы*), *многаступеньчаты* ("які складаецца з некалькіх частак, *ступеней*". Таму натуральнае *многаступеневы* ці *шматступеневы*), *ступеньчаты* ("размешчаны *ступенямі*". Таму *ступенькавы*), *палавінчаты* ("складаецца з дзвюх частак, *палавінак*". Таму палавінкавы; *палавінкавая цэгла*). Зусім няма лексемаў на **-чаты** ў тэрміналагічных даведніках РБСМ і РБФС-99: *іголкаваты* (*игольчатый*), *скрынкаваты* (*коробчатый*), *зубцовы* і *зубчасты* і пад.

**2.2.9. Суфіксы *-ем-, -ім-(-ым-)*.** Як прыметнікавыя фарманты яны чужыя беларускай мове. Ролю гэтых расійскамоўных афіксаў выконвае ў нашай мове суфікс ***-н-*** і яго ўскладнены варыянт ***-льн-*** (зрэдку ***-он-***, ***-ч-***, ***-ев-***): *незабываемый — незабыўны*, *неизлечимый — невылечны*, *неизменяемый — нязменны*, *неизмеримый — нязмерны* і *невымерны*, *несравнимый — непараўнаны* і *непараўнальны*, *неизносимый — нязносны*, *неисчислимый — незлічоны*, *неизъяснимый* і *невыразимый — невыказны*, *непередаваемый — неперадавальны*. Але дзеля "набліжэння моваў" у слоўнікі свядома ўціснулі і альтэрнатыўныя гэтым натуральным беларускім утварэнням формы з ***-ем-***, ***-ім-***. У "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў чытаем: *неажыццявімы*, *недзялімы*, *некіруемы*, *нелюбімы*, *непрымірымы*, *несудзімы*. Гэтыя перанесеныя з расійскай мовы ці штучна створаныя паводле яе мадэлі словы не фіксаваліся слоўнікамі адраджэнскіх часоў. Гэта потым яны жыўцом утыркаліся на першае месца ў слоўнікавыя артыкулы як дублеты да беларускіх словаў. Напрыклад, у "Белорусско-русский словарь" 1953 года: *неосуществимый — неажыццявімы*, *нездзяйсняльны*, *нязбытны*; *нелюбимый — нелюбімы*, *нялюбы*, *нямілы*.

Пра штучнасць іх сведчыць і тое, што гэтыя "імаемы" нічога не дадаюць да семантыкі сваіх словаў, а толькі засмечваюць і разбураюць лексічную і славаўтваральную сістэмы беларускай мовы, што пацвярджаюць прыклады з згаданага слоўніка: "*Непадзельны*. 1. (не поддающийся делению) *неделимый*; *непадзельныя часціцы матэрыі — неделимые частицы материи*; *непадзельныя лікі*, мат. — *неделимые числа*; 2. (не подлежащий разделению) *неделимый*, *неразделимый*; *непадзельны фонд калгаса — неделимый фонд колхоза*". Гэтае падрабязнае апісанне адпаведнікаў у дзвюх мовах бачым на с. 786—787 першага тома. А на с. 781 і вось такое: "*Недзялімы — неделимый*". Або на с. 806: "*Нязбытны — несбыточный*, *неосуществимый*", а на с. 772: "*Неажыццявімы — неосуществимый*, *несбыточный*"; на с. 807: "*Нялюбы* прил. *нелюбимый*", а на с. 785: "*Нелюбімы — нелюбимый*".

З 105 лексічных адзінак, што належаць да прадукцыйнага словаўтваральнага тыпу прыметнікаў, утвораных ад асновы інфінітыва з выкарыстаннем прыстаўкі ***не-(ня-)*** і суфікса ***-н-*** ці ***-альн-***, такіх "імаемых" альтэрнатываў у слоўніку ўсяго 8. Да таго ж усе яны — гэта "дублёры" да сваіх словаў. І ў слоўніку бачым некаторыя з іх: *нязбытны* — і "*неажыццявімы*", *непадзельны* — і "*недзялімы*", *нялюбы* — і "*нелюбімы*", *немажлівы* — і "*немагчы-*

мы". Іншых натуральных беларускіх адпаведнікаў слоўнік не падае, а яны ж бытуюць у мове: *нясуджаны* (*"несудзімы"*), *непрымірэнчы*, *непрымірэнны* (*"непрымірымы"*), *няцерпны* — як і *нясцерпны* — рас. *нестерпимый*, *невыносимый* (*"нецярпімы"*), *некіравальны* і *некіроўны*, бо *некіруемы* парушае і саму мадэль утварэння словаў гэтага тыпу: у ім бярэцца не аснова інфінітыва (*кірава-ць*), а аснова цяперашняга часу (*кіруј-*: *некіруй-эмы*). Да таго ж у слоўніку бачым: *кіравальнасць* (утварэнне ад *кіравальны*), а не *кіруемасць*, што таксама сведчыць пра штучнасць гэтага *некіруемы*.

**2.2.10. Фармант *-часк-(-аск-)*.** Ён не выкарыстоўваецца ў беларускай мове. Расійскамоўным утварэнням з суфіксам ***-ческ-*(*-еск-*)** адпавядаюць у беларускай мове вытворныя з суфіксамі ***-ск-***, ***-ч-***: *утрыманскі* (*иждивенческий*), *краязнаўчы* (*краеведческий*), *мовазнаўчы* (*языковедческий*) і пад. Калі аснова ўтваральнага слова канчаецца на зычны ***к, т, ц, ч,*** то ў спалучэнні з суфіксавым ***с*** тут узнікае ***ц***: *казак* — *казацкі*, *свет* — *свецкі*, *купец* — *купецкі*, *ткач* — *ткацкі*. У расійскай мове фіналь ***-цк-*** у аснове прыметнікаў досыць рэдкая з'ява: *мужицкий*, *немецкий*, *казацкий*, *словацкий*, *турецкий*. Звычайна тут выкарыстоўваецца суфікс ***-ск-*** ці яго ўскладнены варыянт ***-еск-***, ***-ческ-***: *греческий*, *жреческий*, *языческий*, *литературоведческий*.

У беларускай мове прыметнікі наогул не маюць у сваёй аснове фіналі ***-часк-***. Параўнаем: *грэцкі* (рас. *греческий*), *жрэцкі* (*жреческий*), *язычніцкі* (*языческий*), *ромбавы* (*ромбический*). Таму не выпадкова ў 20-х адраджэнскіх гадах слоўнікі падавалі натуральную форму *грэцкі*. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 84) чытаем: "*Грэцкі — греческий; гречневый*". Дарэчы, РБС-53 таксама падае *грэцкі* (поруч з *грэчаскі*) як адпаведнік рас. *греческий*. Пазней яна была заменена на "ўсесаюзную" *грэчаскі* (<*греческий*). Сучасны нацыянальны перыядычны друк ("Полымя", "Роднае слова", "ЛіМ" ды інш.) карыстаецца натуральным для беларускай мовы ўтварэннем *грэцкі* (*грэцкая* мова), якое адпавядае словаўтваральным законам нашае мовы (а *грэчаскі* парушае іх). Форма грэцкі (*грэцкая мова*) падтрымліваецца і лінгвістычным тэрмінам *грэцызм* 'слова з *грэцкай* мовы'.

Дарэчы, штучная форма *язычаскі* (перанесеная з расійскае часткі перакладных слоўнікаў у беларускую: *языческий* — *язычаскі*), якую падавалі яшчэ РБС-53 і БРС-62, у пазнейшых слоўніках ужо не фіксуецца. У двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года ўжо бачым: "*Языческий — язычніцкі, язычество — язычніцтва*" (Т. 2. С. 631). Не падае яго нават найбольш асіміляцыйны БРС-88, 89, дзе бачым: "*Язычніцкі — языческий*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 743). Пара замяніць і апошняе штукарства *грэчаскі* на натуральнае *грэцкі*. Тым больш што новыя тэрміналагічныя слоўнікі ім карыстаюцца.

**2.2.11. Суфікс *-цельн-(-іцельн-)*.** Утварэнні з гэтым суфіксам беларускай мове неўласцівыя. Расійскамоўным дэрыватам з гэтым суфіксам адпавя-

даюць у нашай мове словы з суфіксамі ***-льн-***, ***-н-***, ***-ч-***, ***-лів-*** і інш.: *глядзельны* (*зрительный*), *адукацыйны* (*образовательный*), *даверны* і *даверчы* (*верительный*), *помслівы* (*мстительный*), *недаверлівы* (*мнительный*).

На жаль, не абышлося ў нашых слоўніках і без "іцельных" словаў: *прымірыцельны* (<*примирительный*), *вярыцельны* (*верительный*) і пад. У БРС-62: *вярыцельны — верительный*; *вярыцельныя граматы* дипл. *верительные грамоты*; *прымірыцельны — примирительный*; *прымірыцельны тон — примирительный тон*. Тое сама паўтарае і БРС-88, 89. Праўда, у РБС-82 ужо чытаем: "*Верительный* 1. *даверны*; 2. дипл. *вярыцельны*; *верительные грамоты — вярыцельныя граматы*" (Т. 1. С. 90). А вось у яго перавыданні 1993 года няма гэтага *вярыцельны* і як дыпламатычнага тэрміна. У першым томе на с. 154 бачым: "*Верительный* 1. *даверны*; 2. дипл. *даверчы*; *верительная грамота — даверчы ліст* (*даверчая грамата*)". А вось найноўшы тлумачальны слоўнік зноў дае "*Вярыцельны: вярыцельная грамата*" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 138), аднаўляючы савецкую мінуўшчыну.

**2.2.12. Суфікс *-ічн-(-ычн-)*.** Адлічэбнікавыя ўтварэнні з гэтым суфіксам неўласцівыя беларускай мове. На месцы расійскамоўных утварэнняў з ***-ичн-*** беларускія тэрміналагічныя слоўнікі падаюць вытворныя словы з суфіксам ***-ов-***: *двайковы* (*двоичный*), *дзесятковы* (*десятичный*), *семярковы* (*семеричный*), *трайковы* (*троичный*), *дзесяткова-двайковы* (*десятично-двоичный*) ды інш. (гл. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн., 1993). Але за савецкім часам замест сваіх словаў выкарыстоўваліся пазычанні на ***-ічны*** (толькі адно слова захавалася з гэтага гурту — *дзесятковы — десятичный*; дзесятковыя дробы). Гэта засведчыла і акадэмічная "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 220): "Непрадуктыўны і лексічна абмежаваны тып складаюць запазычаныя з рускай мовы прыметнікі на ***-ічн-ы*** (***-ычн-ы***), якія ўтвораны ад асноў парадкавых лічэбнікаў: *пярвічны*, *трацічны*, *чацвярцічны*; сюды ж адносіцца і прыметнік *утарычны*". "Беларуска-рускі слоўнік" (М., 1962) пад рэдакцыяй (К.Крапівы) з пералічаных у граматыцы не падае слова *ўтарычны*. На яго месцы ўтварэнне з суфіксам ***-асн-***: *другасны* (*вторичный*). Ёсць тут і яшчэ адно слова з гэтым фармантам: "*першасны* в разн. знач. *первичный*; *першасная адмотка трансфарматара*; *першасныя спірты* хим". Але не абышлося і без *пярвічнага*: "*Пярвічны — первичный*; *пярвічная партарганізацыя*".

Новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (1985) ужо не аналізуе гэтых "ічных" структураў. А вось акадэмічныя слоўнікі працягваюць фіксацыю: тут бачым і *пярвічны*, і *трацічны* ды інш.

На месцы словаў з суфіксам ***-ічн-***(***-ычн-***) у беларускай мове выкарыстоўваюцца іх адэкваты з суфіксамі ***-ов-*** і ***-н-***: *тыповы* (рас. *типичный*). "Прырода сілаў, якія забяспечваюць *трацёвую* і *чацвярцёвую* структуру ДНК" (В.С.Лучко. Біяфізіка: Метадычныя парады для лабараторных работ. Гродна,

1998. С. 38). На месцы *пратэтычны* (гук) стала выкарыстоўвацца выразна матываванае *пратэзавы* гук (ад *пратэза*) або *пратэзны*.

**2.3. Словаўтварэнне займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў і яго фарманты.** Словаўтваральны склад вылучаецца сёння толькі ў двух разрадах займеннікавых словаў: у адмоўных і няпэўных. Першыя — адмоўныя — маюць неакцэнтавы (ненаціскны) фармант (прыстаўку) ***ні-***: *ніхто*, *нішто*, *ніякі*, *нічый*; *ніяк*, *нідзе*, *нікуды*, *ніколі*, *ніадкуль* і інш. Другія — няпэўныя — утвараюцца з дапамогаю акцэнтавай прыстаўкі ***не-***: *нехта*, *нешта*, *нейкі*, *нечы*, *недзе*, *некалі*, *некуды*, *неадкуль* (ненаціскную прыстаўку мае толькі займеннік *некаторы*). Фармант ***не-*** сінанімічны постфіксу ***-сьці***: *нехта* і *хтосьці*, *нешта* і *штосьці*, *нечы* і *чыйсьці*, *недзе* і *дзесьці*, *некуды* і *кудысьці*.

Гэтую норму — утварэнне адмоўных займеннікавых словаў з дапамогаю ***ні-*** і няпэўных — з ***не-*** — нярэдка парушаюць нашыя акадэмічныя слоўнікі, пераносячы на свае старонкі расійскамоўныя формы (структуры) з прыстаўкаю ***не-***, якой надаюцца ўжо два значэнні: 1) натуральнае значэнне няпэўнасці (замест словаў з прыстаўкаю ***не-*** можна выкарыстаць беспрыстаўкавую аснову з постфіксам ***-сьці***: *некуды паехалі* і *кудысьці паехалі*, *нехта спытаў* і *хтосьці спытаў*) і 2) чужое (расійскамоўнае) значэнне адмоўнасці, якое ў беларускай мове перадаецца словамі *няма*, *не было*, *не будзе*. Так, у БРС-62 на с. 524 чытаем: "*Нечага* 1. мест(оимение) отриц(ательное) в род п. *нечего*; *нечага чытаць — нечего читать*; 2. мест. неопред. в род п. чего-то; см. *нешта*". І калі другое значэнне гэтай словаформы роднага склону ад *нешта* — 'нечага' ў поўнай згодзе з заканамернасцямі беларускай мовы (параўн.: *нешта пачулі* і *нечага недачулі*), то першае "*нечага*" — чужое беларускай мове. Беларус кажа: *няма чаго* (*не было чаго*, *не будзе чаго*) *чытаць*. Дарэчы, гэтая штучнасць, навязаная беларускай мове, цалкам касуецца на с. 531 слоўніка, дзе бачым: "*няма чаго — нечего*". Тут падаюцца з словам *няма* ўсе адпаведнікі да расійскіх адмоўных займеннікавых словаў з прыстаўкаю ***не-***: *няма куды — некуда*; *няма адкуль — неоткуда*; *няма дзе — негде*; *няма калі — некогда*; *няма каму — некому*; *няма каго — некого*; *няма за што — не за что*; *няма з кім — не с кем*; *няма ў каго — не у кого*.

Пра штучнасць гэтага *нечага* з значэннем 'няма чаго', пра тое, што яно неўласцівае беларускае літаратурнай мове (хоць у гаворках усходу Беларусі яно і сустракаецца як вынік пераходных гаворак), сведчыць і тое, што ў рэестры гэтага слоўніка не бачым слова *некага* (<*некого*), уласцівага расійскай мове. Яму, як мы ўжо бачылі, адпавядае спалучэнне *няма каго*. Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" зусім справядліва фіксуе: "Некага мест. неопред. некого; см. нехта" (Т. 1. Мн., 1988. С. 784).

Такім чынам, выкарыстанне з адмоўным значэннем займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў з прыстаўкаю ***не-*** — парушэнне літаратурнай нормы, яе сістэмы. Натуральныя для беларускай мовы тут спалучэнні "*няма* (*не*

было, не будзе) + адпаведнае беспрыстаўкавае займеннікавае слова": *няма (не было, не будзе) каго, няма чаго, няма дзе, няма куды, няма калі, няма як* і пад.

**2.4. Конфіксавае ўтварэнне адыменных прыслоўяў і яго фарманты.** Адметным для беларускае мовы ёсць утварэнне адпрыметнікавых прыслоўяў з дапамогаю прыстаўкі ***па-*** і суфікса ***-у*** (конфікс ***па- + -у***): *па-беларуску, па-людску, па-гаспадарску, па-мастацку.* У расійскай мове тут выкарыстоўваецца конфікс ***по- + -и***: *по-хозяйски, по-немецки, по-геройски, по-дружески.* Некаторыя з такіх конфіксавых прыслоўяў маюць у расійскай мове паралельныя бяспрэфіксавыя формы: *геройски, дружески, чертовски.* Гл. у *"Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 2. Мн., 1989. С. 70): "Па-жабрацку* нареч. *по-нищенски, нищенски".* Беларускай мове такія — паралельныя да конфіксавых прыслоўяў — утварэнні без прыстаўкі, а толькі з суфіксам ***і-*** неўласцівыя; параўн.: "*дьявольски* нареч. разг. *па-чартоўску*" (РБС-82. Т. 1. С. 236); "*дьявольски* нареч. разг. *па-д'ябальску*" (РБС-53. С. 131). Аднак у нашых акадэмічных слоўніках бачым і гэтакія расійскамоўныя формы. БРС-62 падае: "*Чартоўскі* II нареч. *чертовски, дьявольски*" (С. 1012). Гэтую ж памылку паўтарыла і двухтомавае яго перавыданне (Т. 2. Мн., 1989. С. 692). Перакладныя слоўнікі 1993—1994 гадоў выдання таксама ў адным выпадку падаюць правільную форму беларускага адпаведніка — конфіксавае ўтварэнне (***па- + -у***): *дьявольски — па-чартоўску* (РБС-93. Т. 1. С. 415), а ў іншым — памылковую форму: *чертовски* — нареч. разг. *чартоўскі* (РБС-93. Т. 3. С. 722). Акадэмічная "Беларуская граматыка" такіх утварэнняў не вызнае.

Не адпавядаюць агульнай норме і конфіксавыя ўтварэнні з суфіксаваю часткаю ***-ы***: *па-жаночы, па-жабрачы* і пад. Гэта калькаванні з расійскамоўных прыслоўяў (*по-женски, по-нищенски*). Нарматыўна ім адпавядаюць тыповыя ўтварэнні з конфіксам ***па- + -у***, а таксама з конфіксам ***па- + -аму***: *па-жаноцку* і *па-жаночаму, па-жабрацку* і *па-жабрачаму.* Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Мн., 1985. Ч. 1. С. 349) справядліва зазначае, што ўтварэнні з прэфіксам ***па-*** і суфіксам ***-у*** "выцясняюцца прыслоўямі на ***-аму***: *па-сабачаму*". З трох словаўтваральных варыянтаў конфіксавых прыслоўяў перавага належыць самым тыповым утварэнням з конфіксам ***па- + -у***. Гэта ў пэўнай ступені пацвярджае і двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік", дзе чытаем: "*Па-жабрацку* нареч. *по-нищенски, нищенски*". "*Па-жабрачаму* нареч. см. *па-жабрацку*". "*Па-жабрачы* нареч. см. *па-жабрацку*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 70). Аднак варыянт з конфіксам ***па- + -ы*** — гэта небеларускае ўтварэнне, і падаваць яго на старонках акадэмічных слоўнікаў няма патрэбы. Невыпадкова новыя перакладныя слоўнікі не падаюць іх у беларускай частцы. Напрыклад, у РБС-93 (Т. 2. С. 637) бачым: "*По-женски* нареч. *па-жаночаму*"; "*По-нищенски* нареч. *па-жабрачаму, па-жабрацку*".

**2.5. Дзеяслоўнае ўтварэнне і яго фарманты.** Новыя дзеясловы ўтвараюцца як ад асновы саміх дзеясловаў (*плаціць — сплаціць, пераплаціць, ад-*

*плаціць* і г. д.), так і іншых (іменных) часцінаў мовы. Таму пры ўтварэнні дзеясловаў вылучаюць два разрады: аддзеяслоўнае (унутрыдзеяслоўнае) і адыменнае. Кожнае з іх мае свае адметнасці, якія нярэдка парушаюцца (пад уплывам расійскае мовы).

**2.5.1. Унутрыдзеяслоўнае ўтварэнне і яго фарманты і заканамернасці.** Яно здзяйсняецца як з дапамогаю прыставак, так і суфіксаў. Звычайна пры ўтварэнні новага дзеяслова з дапамогаю суфікса *-ва-* змяняецца яго граматычнае значэнне — значэнне трывання: прыстаўкавы дзеяслоў закончанага трывання пры далучэнні суфікса *-ва-* набывае значэнне незакончанага трывання і дадатковую семантыку паўторнасці: *падскочыць — падскокваць, намачыць — намочваць, загаварыць — загаворваць.*

Утварэнне прыстаўкава-суфіксавых дзеясловаў незакончанага трывання мае ў беларускай мове сваю яскравую адметнасць: у аснове іх перад складам з суфіксам *-ва-* выкарыстоўваецца толькі націскны гук [о] і не можа быць тут гука [а]: *адмачыць — адмочваць, адкалоць — адколваць, выпрастаць — выпроствацъ, вытаптаць — вытоптваць, перамалоць — перамолваць.* Гэтую заканамернасць захоўваюць і ўтвораныя ад гэтых дзеясловаў назоўнікі і дзеепрыслоўі: *адмочваць* і *адмочванне, адмочваючы; адскокваць* і *адскокванне* (ці *адскок*), *адскокваючы.*

Ад гэтых прыстаўкава-суфіксавых дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогаю прыставак *па-, на-* ўтвараюцца суадносныя значэнням дзеясловы закончанага трывання; яны таксама захоўваюць гэты этымалагічны гук [о] пад націскам перад *-ва-*: *засвойваць — пазасвойваць, заломваць — назаломваць, засольваць — назасольваць.*

Узнаўленне, захаванне этымалагічнага [о] пры ўтварэнні дзеясловаў незакончанага трывання ад прыстаўкавых дзеясловаў закончанага трывання лічыць нормай акадэмічная "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 335). Новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985. С. 152) пацвярджае гэтую заканамернасць і ілюструе яе прыкладамі: *абзваніць — абзваньваць, abламаць — абломваць, выканаць — выконваць, падсаліць — падсольваць.*

Аднак у слоўніках розных тыпаў — перакладных, тлумачальных, арфаграфічных — гэтая заканамернасць, на жаль, адлюстроўваецца па-рознаму і часта парушаецца: на месцы этымалагічнага **о** падаецца **а**, што ўласціва расійскай мове, а не беларускай. Напрыклад, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года бачым у адных выпадках натуральныя беларускія формы: *дакалочваць* несов. *доколачивать, дакопваць* несов. *докапывать, дакошваць* несов. *докашивать, дакочваць* несов. *докатывать* і пад.; у іншых — парушэнне гэтай заканамернасці: *дакачваць* несов. *докатывать, даканчваць* несов. *доканчивать, скачваць* несов. *скатывать.* Часам слоўнік, падаючы формы з чаргаваннем этымалагічнага **о** з **а**, кваліфікуе іх як ненарматыўныя: *завалакванне* см. *завалаканне; завалаквацца* см. *завала-*

*кацца; завалакваць* см. *завалакаць; пахаджваць* см. *пахаджаць* (пры спасылкавых формах гэтыя памылковыя не падаюцца). Напрыклад: *пахаджваць* см. *пахаджаць; "Пахаджаць* і *паходжваць* несов. *похаживать, расхаживать*". У "Арфаграфічным слоўніку" (для сярэдняй школы) М.Лобана і М.Судніка (Мн., 1978) таксама бачым ненарматыўныя — паводле патрабаванняў сістэмы мовы — формы: *заскакваць, завалакваць, падскакваць, устанайліваць*. Але ў такім разе і назоўнікі мусяць мець вось гэтакія формы: "*заскак*" (замест натуральнага *заскок*), "*падскак*", "*устанайка*" (замест *устанойка*) і дзеяслоў у мінулым часе — "*завалак*" (замест *завалок*). У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (1988—1989) з паралельных формаў (з націскным этымалагічным **о** і **а** ў складзе перад *-ва-*) бачым ненарматыўную форму, адпаведную ўсесаюзнаму стандарту, — з націскным **а**, а заканамерная беларуская падаецца як другарадная. Напрыклад: *падскокванне* см. *падскакванне*, *падскокваць* см. *падскакваць, падскокваючы* см. *падскакваючы*.

Самы аўтарытэтны даведнік у галіне нармалізацыі мовы "Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнталогія. Словазмяненне" (Мн.: БелСЭ, 1987) улучае ў свой рэестр з нагаданых толькі формы з **о**: *падскокванне, падскокваць*. Аднак утварэнні з прыстаўкаю *у-* маюць ужо — на месцы націскнога **о** — літару **а**: *ускакванне, ускакваць*, а заканамерных формаў — *ускокванне, ускокваць* — ужо няма ў слоўніку. Атрымліваецца, што прыстаўка *у-* перакрэсліла тую заканамернасць, якая была ў вытворных з астатнімі ўсімі прыстаўкамі. А ці не зроблена гэта знарок, каб не разыходзіліся яны ў вымаўленні і напісанні націскнога складу з расійскаю моваю: *ускакваць* — *вскакивать, ускакванне* — *вскакивание*. Але ж, нагадаем, беларуская і расійская мовы маюць тут свае адметныя заканамернасці: у расійскай мове пры ўтварэнні формаў незакончанага трывання ад прыстаўкавых дзеясловаў законченага трывання адбываецца мена націскнога (этымалагічнага) [о] на [а]: *скосить (скосят) — скашивать, спросить (спросят) — спрашивать, упросить (упросят) — упрашивать*. У беларускай мове такога няма: этымалагічны [о] не можа пераходзіць у націскны [а]; нарматыўныя тут формы: *скошваць, зношваць, ускокваць, упрошваць, утойваць*.

Прыстаўкава-суфіксавыя дзеясловы незакончанага трывання могуць утварацца не толькі праз далучэнне суфікса *-ва-*, але і менаю суфіксаў законченага трывання *-ы-*(*-і-*) на суфікс незакончанага трывання *-а-*(*-я-*): *адступіць — адступаць, адшчапіць — адшчапляць, вылучыць — вылучаць, заўважыць — заўважаць*. Часта формы з суфіксам *-а-*(*-я-*) выступаюць як паралельныя да ўтварэнняў з суфіксам *-ва-*. Так іх кваліфікуюць і сучасныя беларускія слоўнікі: *пахаджаць* і *паходжваць, закладаць* і *закладваць, залічаць* і *залічваць, запрашаць* і *запрошваць* і пад. Такія ўтварэнні з суфіксам *-а-*(*-я-*) дазваляюць унікнуць памылковых формаў з націскным [а] замест [о]: *устанайляць, устанайляцца* замест памылковых *устанайліваць, устанайлівацца; завалакаць, завалакацца* замест *завалаквацца, завалакваць*.

Натуральнаю выступае ў беларускай мове і форма *скончваць* (ад *скончыць*), як і *канчаць* (ад *кончыць*), а не *заканчваць* (прыстасаванае *оканчивать*), якая парушае апісаную заканамернасць беларускай мовы: на месцы этымалагічнага [о] узнікае [а] (гэта заканамернасць расійскае мовы). Беларус кажа: "*Пачаў і **скончыў** працу за дзень. Каб ты так **скончваў** заўсёды — было б добра!*". Параўн.: "Свой успамін... стары ўдзельнік Усебеларускага з'езда *закончваў* аптымістычна: "Няхай будзе адзіная, светлая, вольная Беларусь і няхай жыве навекі!" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 192).

У перыядычным друку нярэдка парушаецца апісаная норма беларускай мовы пры выкарыстанні тых дзеясловаў, якія ў слоўніках падаюцца ў нарматыўнай форме: "Жывёлу будуць *закапваць* у зоне" (І.Шамякін. Злая зорка // Полымя. 1991. № 2. С. 33); "Не будзем *спайваць* народ" (Тамсама. С. 50).

Часта ў друку парушаецца літаратурная норма і пры ўтварэнні прыстаўкавых дзеясловаў закончанага трывання ад базавых дзеясловаў, якія таксама маюць прыстаўкі. Напрыклад: Скрозь над вуліцай *паразвесілі* зялёныя каснікі бярозы, іх цэлы гай; Я раю тым празаікам, каб па жаданню ўласнаму яны сабе *павыбралі* зусім інакшы хлеб; Праўда, цяпер *панарасло* трохі маладых печнікоў; *Пасплыло* шмат з вадою і поту, і тлуму. Памылковасць формаў *павытапчуць, панакорміць, павылезлі* замест правільных *павытоптваюць, панакормлівае, павылазілі* паказваў Якуб Колас, адзначаючы моўныя хібы рамана Міхася Лынькова "На чырвоных лядах". У беларускай мове такія прыстаўкавыя дзеясловы ўтвараюцца ад прыстаўкава-суфіксавых дзеясловаў незакончанага трывання з суфіксам *-ва-* і абазначаюць працяглае дзеянне, якое паўтаралася шмат разоў і дасягнула пэўнага выніку (мяжы). У граматыках іх называюць дзеясловамі трэцяй трывальнай ступені, якія ўтварыліся ад другой трывальнай ступені. Гэта ў расійскай мове адпаведныя дзеясловы закончанага трывання (з прыстаўкаю ***по-*** і іншымі) утвараюцца, як правіла, ад прыстаўкавых дзеясловаў закончанага трывання, г. зн. ад першай трывальнай ступені: *понакурить* ад *накурить, понавезти* ад *навезти*.

Акадэмічныя беларускія граматыкі і слоўнікі тут фіксуюць толькі натуральныя беларускія формы. У мове нашых аўтарытэтных пісьменнікаў таксама бачым нарматыўныя формы: "Усе *павылазілі* з-за стала (Я.Колас). Перад жнівом першы клопат — назубіць сярпы, *панапраўляць, панацягваць* шыны на калёсы (В.Вітка)". А вось у мове не надта дбайных да культуры мовы пісьменнікаў згаданая заканамернасць трывальнага ўтварэння дзеясловаў нярэдка парушаецца.

**2.5.2. Прэфікс *у-* у вытворных дзеясловах.** Часта парушаецца літаратурная норма пры выкарыстанні прыстаўкавых дзеясловаў, асабліва з прэфіксам ***у-***. Напрыклад: "Казка, легенда — гэта сувязь тых, хто прыходзіць, і тых, хто *уходзіць*" (У трыдзевятым царстве // Сцяжынкай казкі. Мн.: Універсітэцкае, 1995. С. 3. Прадмова "Чароўны свет народнай казкі"). "*Убірайся,* — крычыць, — прэч са сваімі песнямі. Не хочам мы цябе слухаць.

Ты за мною не *ўгонішся*" (Тамсама. С. 33, 35). Прычына парушэнняў — зблытванне заканамернасцяў беларускае мовы з расійскаю, перанос расійскамоўных формаў (словаў) у беларускую мову. У расійскай мове прыстаўка ***у-*** мае значна шырэйшае выкарыстанне, чым у беларускай. На яе месцы ў беларускай мове звычайна выкарыстоўваюцца іншыя прэфіксы (іх шмат). Параўнаем: "*Убегать — бегчы, выбягаць, адбягаць, адбягацца, забягаць; я убегаю* разг. *я бягу* (*пабег, пабягу*)" (РБС-93. Т. 3. С. 567—568). "*Убирать* — 1. (прочь) *прымаць, забіраць, здымаць, скручваць, падымаць*; 2. (приводить ■ порядок) *прыбіраць*; перен. (устранять) *прымаць*; (с работы, должности) *здымаць*; (удалять) *выдаляць, выганяць, праганяць. Убить: забіць, пазабіваць, знішчыць, прыбіць, патраціць, выдаткаваць, змарнаваць* (пра час), *пабіць* (пра карты); *убить* время — *змарнаваць* час" (РБС-93. Т. 3. С. 570).

Як паказваюць назіранні, функцыю расійскамоўнае прыстаўкі ***у-*** ў беларускай мове бяруць на сябе прэфіксы: ***ад-***: *адбыць* (*убыть*), ***вы-***: *выдаляць* (*удалять*), ***з-***: *збегчы* (*убежать*), ***за-***: *заплаціць* (*уплатить*), ***па-***: *паважаць* (*уважать*), ***пры-***: *прыбраць* (*убрать — со стола*), ***пад-***: *падымаць* (*убирать*) і інш. Функцыю расійскамоўных словаў з прэфіксам ***у-*** выконваюць у беларускай мове і беспрыстаўкавыя дзеясловы і вытворныя ад іх назоўнікі: *убегать — бегчы, убегание — бяга; увеселение* (дзеянне) — *весяленне, гульня; угонять — гнаць* (у поле, на пашу жывёлу), *красці* (похищать), *угонщик — злодзей* (*і згоншчык*).

Прыстаўка ***у-*** выкарыстоўваецца ў нашай мове з значэннем накіраванасці дзеяння ўсярэдзіну чаго-н. (асяроддзя, прадмета) і стасуецца найчасцей з расійскамоўнаю прыстаўкаю ***в-***: *убегчы* (*вбежать*), *убіваць* (*вбивать*), *убягаць* (*вбегать*), *увезці* (*ввезти*), *увіваць* (*ввивать, вплетать*), *увоз* (*ввоз*), *увозіць* (*ввозить*) і г. д.

Але ў нашых слоўніках бачым і неўласцівыя беларускай мове дзеясловы з прыстаўкаю ***у-***, перанесеныя з расійскамоўнае часткі перакладнога слоўніка ў беларускую. Пра гэта сведчыць і тое, што паралельна ў слоўнікавым артыкуле нападаюцца і натуральныя, *беларускія* ўтварэнні з іншымі прыстаўкамі. Напрыклад: "Уступить 1. (кому-чему ■ чём) *уступіць, саступіць, пераступіць*; 2. (кого-что кому-чему) *уступіць, аддаць, адмовіцца, паддацца*" (РБС-53. С. 725). Тое самае бачым і пры дзеяслове незакончанага трывання *уступать*.

Адмысловыя іншапрэфіксавыя беларускія адпаведнікі на месцы расійскіх *уступать — уступить* выкарыстоўвалі і класікі нашай літаратуры Якуб Колас, Кузьма Чорны і іншыя, адчуваючы штучнасць гэтых формаў з ***у-***. Напрыклад, у Я.Коласа чытаем: "Арцём садзіцца так, каб Амелька не бачыў яго ў працэсе творчасці, *пераступае* такім чынам Амельку і лепшае месца і чарніла..." ("Туды, за Нёман"). У жывой народнай мове на месцы гэтага штучнага *ўступіць* выкарыстоўваюцца іншыя словы: *прадаць тавар за пайцаны, даць дарогу, саступіць з дарогі, аддаць пальму першынства* ды інш. На жаль, слоўнікі 60—80-х гадоў дзеля "зліцця моваў" адмовіліся (ці іх скла-

дальнікам "параілі" гэта зрабіць) ад беларускіх словаў і поўнасцю "выраўнавалі" беларускія дзеясловы з расійскімі. Так, двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" ужо не бачыць розніцы паміж дзвюма мовамі ў выкарыстанні дзеясловаў *уступить — уступіць* (Т. 2. Мн., 1989. С. 628). Гэта і вядзе да занядбання роднага слова. Праўда, "Русско-белорусский словарь" 1993 года не згаджаецца з гэтым і падае ў беларускай частцы і некаторыя словы з іншымі прыстаўкамі: *саступіць, перастуліць* (Т. 2. С. 634).

**2.5.3. Адыменнае словаўтварэнне дзеясловаў і яго фарманты.** Ад іменных часцінаў мовы (найчасцей — назоўнікаў) дзеясловы звычайна ўтвараюцца з дапамогаю спрадвечных суфіксаў ***-ава-*(*-ява-*),*-і-*(*-ы-*)** ды інш. Гэтай заканамернасці падлягаюць і ўтварэнні ад іншамоўных словаў: *аналіз — аналізаваць, афіша — афішаваць, блок — блакаваць*. Аднак у 30—80-х гадах у беларускія слоўнікі сталі заганяцца неўласцівыя нашай мове словаўтваральныя структуры з суфіксамі ***-ірава-***, ***-ніча-***, ***-ствава-***: *апламбіраваць, дыскусіраваць, гаспадарнічаць, старшынстваваць* (замест *старшыняваць*) і пад.

**2.5.3.1. Суфікс *-ірава-*** чужы беларускай мове, яго функцыю спраўна выконвае афікс *-ава-*. Элемент *-ір-* нічога не дадае да семантыкі дзеяслоўнае асновы, пра што сведчаць паралельныя формы — з *-ір-* (суфікс *-ірава-*) і без яго (суфікс *-ава-*): *апламбіраваць* і *апламбаваць, гастраліраваць* і *гастраляваць, завізіраваць* і *завізаваць* і пад. Да таго ж гэтага элемента *-ір-* не маюць суфіксы *-ізава-* і *-фікава-*, якія таксама выкарыстоўваюцца ў беларускай мове пры ўтварэнні дзеясловаў ад іншамоўных асноваў: *вітамінізаваць, дэталізаваць, ідэалізаваць, нармалізаваць; газіфікаваць, кінафікаваць, тарыфікаваць*.

Гісторыя мовы сведчыць, што суфікс *-ірава-* быў навязаны нашай мове за савецкім часам усесаюзным стандартам (расійскаю мовай).

Дзеясловы на ***-іраваць*** зусім не ўжываліся ў старажытнай беларускай мове, дзе іншамоўныя дзеяслоўныя асновы афармляліся суфіксам *-ава-*. Не ведае дзеяслоўных формаў на ***-іраваць*** і жывая народна-дыялектная беларуская мова. Слоўнікі 20-х гадоў таксама не фіксуюць іх. Пазычаныя дзеясловы афармляюцца ў гэты час з дапамогаю суфіксаў *-ава-*(*-ява-*) або іншых, а часам даецца іх пераклад ці апісальнае тлумачэнне: *агітаваць* (рас. *агитировать*), *амніставаць* (*амнистировать*), *адміраць* (*атрофироваться*), *адзначыць дату* (*датировать*), *абагульняць* (*резюмировать*).

Упершыню дзеясловы на ***-іраваць*** зафіксаваў "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй А.Александровіча, выдадзены ў 1937 годзе — падчас вядомых рэпрэсіяў. У ім бачым 132 беспрыстаўкавыя дзеясловы на ***-іраваць*** і толькі 70 на ***-аваць*** (як адпаведнікі да расійскіх на ***-ировать***). Пятро Глебка ў рэцэнзіі на гэты слоўнік слушна пісаў, што шматлікія словы расійскае часткі засталіся неперакладзенымі, а толькі напісанымі беларускімі літарамі. У пазнейшых перакладных слоўніках свядома абмяжоўваецца выкарыстанне дзе-

ясловаў і вытворных ад іх словаў з суфіксам *-ірава-*. Так, "Русско-белорусский словарь" 1953 года не падае 47 дзеясловаў на *-іраваць* з тых, што былі ў слоўніку 1937 года; на іх месцы формы з суфіксам *-ава-*(*-ява-*): *балансаваць, групаваць, датаваць, дэлегаваць, іміграваць, прэміяваць, фармуляваць* ды інш.

Выкарыстанне дзеясловаў (і вытворных ад іх) з суфіксам *-ава-* ці *-ірава-* залежыць, як правіла, не ад моўных, а пазамоўных — палітычных стасункаў, а таксама поглядаў навукоўцаў і канкрэтных стваральнікаў моўных тэкстаў. У савецкі час, калі кампартыйнае кіраўніцтва вяло барацьбу за рэалізацыю ідэі на "зліццё нацыяў, іх культуры і мовы", формы з суфіксам *-ірава-* свядома культываваліся і выцяснялі адмыслова беларускія з *-ава-*. Гэта знайшло свой адбітак і ў слоўніках. Але там, дзе складальнік ці рэдактар слоўніка добра адчувалі жывое народнае слова і былі прыхільнікамі нацыянальнай культуры і мовы, такія штучныя для беларускае мовы структуры з *-ірава-* амаль не фіксуюцца. Так, у першым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн., 1977), які выйшаў з удзелам і пад рэдакцыяй пісьменніка і вучонага Міколы Лобана, бачым значнае абмежаванне словаў з суфіксам *-ірава-*, на месцы якіх падаюцца формы на *-аваць* (без элемента *ір-*): *актываваць* (замест *актывіраваць*), *авансаваць, ампутаваць, бальзамаваць, візаваць, дамінаваць, рэзюмаваць, дрэнажаваць, кансерваваць, кантраставаць, пламбаваць, рэпараваць* ды інш. Вядомы лексікограф кваліфікаваў элемент *-ір-* як зусім выпадковы і непатрэбны, бо ён у слове не мае ніякага значэння. Гэтую слушную выснову можна пацвердзіць і тым, што без элемента *-ір-* выкарыстоўваюцца ў беларускай мове, як ужо згадвалася, і суфіксы *-ізава-*, *-фікава-* пры афармленні іншамоўных дзеяслоўных асноваў (гэта ў расійскай мове *-ир-* бачым як элемент усіх трох суфіксаў: *-ирова-*, *-изирова-*, *-фицирова-*). Апрача таго, яго не маюць заходнеславянскія мовы (польская, славацкая ды інш.), ад іх пазбаўляецца апошнім часам украінская мова. Даследчык словаўтварэння дзеясловаў М.Васілеўскі робіць абгрунтаваную выснову: "Афармленне іншамоўных дзеясловаў пры дапамозе суфікса *-ава-* не змяняе лексічнага значэння гэтых асноў. У беларускай літаратурнай мове няма ніводнага прыкладу, каб пры дапамозе *-ірава-* быў утвораны дзеяслоў ад уласна беларускай асновы. Або хоць бы ад іншамоўнай, але каб дзеяслоў гэты быў арыгінальны, не скалькаваны з аналагічнага рускага"[6].

Іншамоўныя дзеясловы звычайна маюць у беларускай мове аднакаранёвыя назоўнікі, з якімі яны суадносяцца ці ад якіх утвораныя, з якімі маюць агульную аснову. Усё гэта і спрыяе выкарыстанню гэтых дзеясловаў без элемента *-ір-*: *амністыя* і *амніставаць, анексія* і *анексіяваць, афіша* і *афішаваць, бальзам* і *бальзамаваць, пломба* і *пламбаваць, міна* і *размінаваць, тэлефон* і *патэлефанаваць, план* і *планаваць, форма* і *фармаваць, рамонт* і *рамантаваць, прагноз* і *спрагназаваць* і пад.

---

[6] М.С.Васілеўскі. Дзеяслоўнае словаўтварэнне: Адыменныя суфіксальныя лексемы. Мн., 1985. С. 78.

Такім чынам, іншамоўныя дзеясловы афармляюцца ў беларускай мове паводле законаў нацыянальнай мовы беларускага народа — з дапамогаю суфікса *-ава-*. Гэта пацвярджаюць і тэрміналагічныя слоўнікі, створаныя ў 1991—1994 гадах у суверэннай краіне Рэспубліцы Беларусь. Так, у “Русско-белорусском математическом словаре” (Мн., 1993) і “Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ” (Мн., 1993) “адхіляюцца як нехарактэрныя для беларускай мовы формы з суфіксальным элементам *-ір-*”; у іх бачым толькі ўтварэнні з суфіксам *-ава-* (на месцы расійскіх з *-ирова-*): *ануляваць, ануляваны; дыферэнцаваць, дыферэнцаваны; інтэграваць, інтэграваны* і пад. Няма ніводнага дзеяслова (і вытворных словаў) з суфіксаvым элементам *-ір-* (*-ыр-*) і ў даведніках: В.Р.Лупачоў, В.І.Рагаўцоў. Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні (Мн., 1998) і А.М.Каладзінскі, Д.М.Карацінская, П.У.Сцяцко. Руска-беларускі фізічны слоўнік (Гродна, 1999. 498 с.).

Падрабязны аналіз штучнасці лексемаў з суфіксам *-ірава-* (*-ырава-*) падаецца ў кнізе Іны Бубновіч “Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю” / Пад. рэд. П.Сцяцко (Гродна, 2000. 107 с.).

Пазбыўшыся ціску ўсесаюзнага стандарту, літаратурная беларуская мова выкарыстоўвае свае формы і на месцы іншых словаўтваральных структураў з неўласцівымі нашай мове дзеяслоўнымі суфіксамі, як *-ствава-* і *-ніча-*. Так, замест ранейшых (савецкага часу) *старшынстваваць, панстваваць, царстваваць* і пад., уласцівых расійскай мове, выкарыстоўваюцца свае, даўнейшыя формы з суфіксам *-ава-*(*-ява-*): *старшыняваць, панаваць, цараваць* і пад. А на месцы штучных, падагнаных пад усесаюзны стандарт *гультайнічаць* (параўн. рас. *лодырничать*), *брыгадзірнічаць, гаспадарнічаць* аднаўляюцца свае *гультаяваць, брыгадзірыць, гаспадарыць*. Такім чынам, на месцы неўласцівых беларускай мове суфіксаў *-ствава-* і *-ніча-* выкарыстоўваюцца спрадвечна беларускія фарманты *-ава-*, *-і-*(*-ы-*).

**2.6. Утварэнне дзеепрыметнікаў і яго фарманты.** У беларускай мове дзеепрыметнікі актыўна ўтвараюцца ад асновы інфінітыва з далучэннем да яе суфіксаў *-л-*, *-т-*, *-ан-/-ен-* (зрэдку *-ён-*) і адпаведных канчаткаў: *пазелянелы, збуцвелы, набыты, асветлены, пакрыўджаны, забруджаны, перакапаны, паяснёны.*

Утварэнне дзеепрыметнікаў ад асновы дзеясловаў цяперашняга (будучага простага) часу з удзелам суфіксаў *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-), -ем-(-эм-), -ім-(-ым-)* неўласціваe беларускай нацыянальнай мове. Гэтая чужая мадэль была перанесеная ў беларускую мову ў савецкі час з усесаюзнага стандарту — расійскае мовы, дзе такія ўтварэнні з *-ащ-(-ящ-), -ущ-(-ющ-), -ем-, -им-* пад былым моцным уздзеяннем стараславянскае мовы набылі шырокае выкарыстанне ў кніжных стылях мовы.

Пра штучнасць для беларускае мовы ўтварэнняў з дзеепрыметнікавымі суфіксамі *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-), -ем-, -ім-* шмат пісалася ў друку. Супраць іх выкарыстання ў беларускай літаратурнай мове выступалі знакамітыя май-

стры слова: Якуб Колас, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва і іншыя. Нагадаем хоць бы словы Якуба Коласа: "Без усякай патрэбы і радыё і беларускія газеты засмечваюць мову неўласцівымі ёй формамі, як *выдаткаваемая, засылаемыя, брыгада ўзначальваемая, навучаючыяся*, якія не бытуюць у беларускай мове". Навуковец і пісьменнік Анатоль Клышка ўдумліва прааналізаваў і грунтоўна давёў неўласцівасць беларускай мове дзеепрыметнікаў з суфіксам *-уч-(-юч-)* і выявіў шмат беларускіх адпаведнікаў[7]. Як нехарактэрная для літаратурнай беларускай мовы кваліфікуецца згаданая катэгорыя словаў і ў акадэмічных беларускіх граматыках. Так, у "Граматыцы беларускай мовы" (Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 377, 379) адзначаецца: "Для беларускай літаратурнай мовы ўжыванне дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-уч-(-юч-)* і *-ач-(-яч-)* не характэрна". "Дзеепрыметнікі з суфіксамі *-ем-, -ім-* у сучаснай беларускай літаратурнай мове з'яўляюцца малаўжывальнымі". Новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 188, 189) пацвярджае выснову граматыкі 1962 года. Тут бачым і наступнае: "Дзеепрыметнікі цяперашняга часу з часціцай *-ся*... трэба лічыць парушэннем літаратурнай мовы". Гэтыя дзеепрыметнікі ў форме мужчынскага роду (назоўнага і вінавальнага склону) маюць канчатак *-ый* (*утвараючыйся*, *усталяваўшыйся*), які разбурае граматычную норму дапасаваных словаў беларускай мовы (ён уласцівы расійскай мове). Не падаюць іх і даведнікі 1998—1999 гадоў — слоўнікі па машынабудаванні і фізіцы — РБСМ і РБФС-99. Штучнасць для беларускай мовы тэрмінаадзінак з фармантамі ***-ачы/-ячы***, ***-учы/-ючы***, ***-емы***, ***-імы*** грунтоўна прааналізаваная ў кнізе Анатоля Багдзевіча "Словаўтваральная структура дзеяслоўных тэрмінаадзінак у сучаснай беларускай літаратурнай мове / Пад. рэд. П.Сцяцко (Гродна, 2000. 150 с.).

Дзеепрыметнікі на *-ачы(-ячы), -учы(-ючы), -емы, -імы* звычайна выкарыстоўваліся як тэрміналагічныя адзінкі мовы (у такім разе яны набываюць рысы прыметнікаў, а часам і назоўнікаў). Аднак тэрміналагічныя слоўнікі 1991—1994 гадоў адмовіліся ад іх "як неўласцівых беларускай мове структураў, чужой мадэлі".

Дзеепрыметнікавыя формы асабліва актыўна заганяліся ў беларускія слоўнікі 70—80-х гадоў — часу актыўнай напругі для завяршэння пабудовы камунізму, зліцця моваў. Так, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў амаль да кожнага расійскамоўнага дзеепрыметніка на *-ащий(-ящий), -ущий(-ющий), -емый, -имый* падаюцца аднамадэльныя (хоць і штучныя — пра гэта трохі пазней) блізкія па форме беларускія. Такіх утварэнняў больш за 230: *асвяжаючы, брыючы, дубліруючы, думаючы* і *мыслячы* (чалавек), *здабываючы, любячы (любячая маці), лечачы* (урач) і пад. А між тым беларуская мова мае свае, натуральнае будовы словы — адпаведнікі да расійскіх дзеепрыметнікаў (ці словаў, утвораных з выкарыстаннем іх суфіксаў). Гэта пацвярджаюць і матэрыялы беларускай часткі перакладных слоўнікаў 1953 і 1982 гадоў.

---

7 Анатоль Клышко. Пра лямантуючых і "лемантуючых" // Полымя. 1964. № 7. С. 162—170.

Функцыю расійскамоўных дзеепрыметнікаў звычайна бяруць на сябе прыметнікі, часцей за ўсё ўтвораныя ад назоўніка (аддзеясловуяага і іншага) ці дзеяслова: параўн.: *спагадлівы* (ад *спагада* ці *спагадаць*) — рас. *сочувствующий, пераменны (перамена) — меняющийся, абслуговы (абслуга) — обслуживающий, пагрозлівы (пагроза) — угрожающий*.

У двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года замест 570 дзеепрыметнікавых утварэнняў расійскамоўнай часткі бачым у беларускай частцы прыметнікі-эквіваленты. 194 з іх маюць суфікс ***-н-***: *прыдатны — подходящий, слізготны — скользящий, гукаправодны — звукопроводящий, навакольнае — окружающее;* 136 утварэнняў з суфіксам ***-льн-***: *абуральны — вызывающий, знішчальны — уничтожающий, заклікальны — зовущий;* 43 словы з ***-лів-***: *бразгатлівы — дребезжащий, зіхатлівы — сияющий, сверкающий, тужлівы — скорбящий;* 19 маюць суфікс ***-ч-***: *апрацоўчы — обрабатывающий, перапрацоўчы — перерабатывающий;* 11 з суфіксам ***-л-***: *падлеглы — подлежащий, хуткарослы — быстрорастущий;* 9 з суфіксам ***-іст-***: *агністы — пламенеющий;* выкарыстоўваюцца прыметнікі і з іншымі суфіксамі: ***-ав-/-ов-***: *гандлёвы — торгующий, прамежкавы — посредствующий;* ***-ск-(-цк-)***: *суседскі — прилегающий, начальніцкі — начальствующий;* ***-ават-***: *ніштаваты — подходящий, сіваваты — седеющий;* ***-ш-***: *далейшы — последующий, бліжэйшы — близлежащий;* ***-ян-***: *палымяны — пламенеющий;* ***-іт-***: *працавіты — работящий;* ***-ашн-***: *цяперашні — текущий*.

Нярэдка функцыю расійскамоўных утварэнняў з суфіксамі дзеепрыметнікаў цяперашняга часу бяруць на сябе тыповыя беларускія дзеепрыметнікі, утвораныя ад асновы інфінітыва з выкарыстаннем суфіксаў ***-ан-/-ен-/-ян-***: *засмучаны — скорбящий, абураны — негодующий, ільсняны — лоснящийся*.

На месцы пэўнай часткі штучных утварэнняў з *-уч-, -ач-, -ем-, -ім-* выступаюць аддзеяслоўныя назоўнікі: *адпачыннік* (хто мае *адпачынак*), *множнік* (замест *множымае*), *нападальнік, непасняховец, пачатковец, самарэгулятар* (замест *самарэгулюючы апарат*), *самарэгістратар, спачувальнік, стрыгун (лішай-стрыгун*, а не *стрыгучы*), *стымулятар, сядунка (фасоля-сядунка*, ■ не *сядзячая*). Ролю расійскіх дзеепрыметнікавых формаў могуць выконваць (у біялагічнай тэрміналогіі ды інш.) назоўнікі з суфіксам ***-ун-***: *пайзуны* (рас. *пресмыкающиеся*), *сысуны* (*млекопитающие*), *лазуны* (*лазящие*), а таксама розныя сінанімічныя сродкі беларускай мовы: *отдыхающие — курортнікі, дачнікі, адпачывальнікі, тыя, хто адпачывае* ды інш. Расійскамоўны зварот *говорить плачущим голосом* можна перадаць, як справядліва лічыць А.Клышка, па-беларуску розным спосабам: *гаварыць* (і *казаць, мовіць*) *плаксівым голасам*, або *гаварыць праз плач* ці *з плачам* або *плачучы*.

Апошнім часам у нацыянальным друку на месцы былых (савецкіх) дзеепрыметнікавых утварэнняў бачым натуральныя беларускія словы: *вернік* (замест *веруючы*), *выступовец* і *выступленец* (*выступаючы*), *вядоўца*

*(вядучы), службовец (служачы), вайсковец (ваеннаслужачы), размоўца* і *моўнік (гаворачы), дублёравы склад (дубліруючы), профільныя экзамены (прафіліруючыя), кіроўны (кіруемы), канверсаваная* і *канверсоўная валюта (канверсуемая), нержавейная сталь (нержавеючая), металарэзны станок, суджаны* і *падсудны (судзімы), нападальнік, спачувальнік, пульсоўны (пульсіруючы), трасоўны (трасіруючы)* ды іншыя.

## 2.7. ЛІТАРАТУРА

Суффиксальное словообразование существительных в восточнославянских языках 15—17 вв. М., 1974.

*Сцяцко П.* Вывучэнне разрадаў займеннікаў і займеннікавых прыслоўяў у беларускай і рускай мовах // Вывучэнне беларускай і рускай моў у ВНУ БССР: Тэзісы дакладаў навуковай канферэнцыі. Гродна, 1990. С. 28—30.

*Сцяцко П.* Нарматыўнасць трывальна-часавых формаў дзеяслова // Роднае слова. 1992. № 11. С. 43—46, 76.

*Сцяцко П.* Прыметнікі з суфіксамі *-ов-/-ав-/-ев-* у беларускай мове і іх адпаведнікі ў рускай // Словаўтварэнне і намінатыўная дэрывацыя ў славянскіх мовах: Матэрыялы IV рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (15—16 верасня 1992 г.) Гродна, 1992. С. 45—47.

*Сцяцко П.* Сваё і чужое: Дзеясловы на *-аваць* і *-іраваць* у сучаснай беларускай мове // Роднае слова. 1992. № 7—8. С. 74—76.

*Сцяцко П.* Натуральныя беларускія словы і іх штучныя заменнікі // Роднае слова. 1993. № 4. С. 37—40.

*Сцяцко П.* Фіналі **-ій, -ый.** Ці ўласцівыя яны беларускай мове? // Роднае слова. 1993. № 8. С. 28—31.

*Сцяцко П.* Функцыянаваць // Наша слова. 1993. № 34.

*Сцяцко П.* Час адраджэння // Полымя. 1993. № 3. С. 247—256.

*Сцяцко П., Капылова Т., Жук І.* Матэматыка па-беларуску: Рэц. на кн.: Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ // Настаўніцкая газета. 1994. 2 лют. С. 4.

*Stecko Paweł.* Намінацыі з фармантам *-іска(-ыска)* / *-isko(-ysko)* у беларускай і польскай мовах // Białostocki przegląd kresowy. T. 2. Białystok, 1994. S. 175—180.

Słownik terminologii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski). Białystok, 1994. 161 s.

*Сцяцко П.* Урыўкавы і адрывачны. Асаблівасці ўтварэння некаторых адносных і якасных прыметнікаў // Роднае слова. 1994. № 4. С. 24—26.

*Міляшкевіч Я., Санько З., Глушко А.* Назовы хімічных элементаў. Мн., 1995.

Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі. Мн., 1995.

*Сцяцко П.* Зразумелае і цьмянае: Заканамерныя беларускія ўтварэнні і іх штучныя іншамоўныя заменнікі // Наша слова. 1995. № 2.

*Сцяцко П.* Родная мова — мова навукі: Праблемы нармавання лінгвістычнай тэрміналогіі // Роднае слова. 1995. № 4. С. 3—14.

*Сцяцко П.* Да ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі // Полымя. 1996. № 7. С. 294—304.

*Сцяцко П.* Крапівоўская проза — а не крапівінская // Наша слова. 1996. № 20.

*Сцяцко П.* Пільнавацца словаўтваральных нормаў // Наша слова. 1996. № 18.

*Сяцко П.* Словы-чужынцы і іх натуральныя эквіваленты: Пра адзін прадукцыйны словаўтваральны тып прыметнікаў і яго парушэнні / / Роднае слова. 1996. № 1. С. 50—52.

*Сяцко П.* Дэкларацыйны / / Наша слова. 1997. № 2.

*Сяцко П.* Шануйма народную казку: Пра некаторыя выпадкі парушэння нормаў літаратурнай мовы / / Роднае слова. 1997. № 3. С. 60—68.

*Сяцко П.* Сучасныя моўныя рэальнасці і праект новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" / / Роднае слова. 2000. № 3.

*Багдзевіч А.* Словаўтваральная структура аддзеяслоўных тэрмінаадзінак у сучаснай беларускай літаратурнай мове / Пад рэд. П.Сяцко. Гродна, 2000.

*Бубновіч І.* Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю / Пад рэд. П.Сяцко. Гродна, 2000.

*Сіплівеня Ж.* Словаўтварэнне прыметнікаў ад іншамоўных назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове / Пад рэд. П.Сяцко. Гродна, 2000.

Раздзел 3

# ФОРМАЎТВАРЭННЕ І ЯГО ФАРМАТЫВЫ

Галоўнымі паказчыкамі граматычнай формы слова ёсць канчаткі зменных часцінаў мовы. Радзей з гэтаю функцыяй выступаюць некаторыя суфіксы і прыстаўкі (пры ўтварэнні формаў ступеняў параўнання прыметнікаў ды інш.). Найбольш частыя парушэнні моўнай сістэмы ў выкарыстанні словаформаў з канчаткамі назоўнікаў, фарматываў загаднага ладу дзеясловаў, формаў ступеняў параўнання прыметнікаў. Разгледзім ім па часцінах мовы.

## 3.1. Назоўнікавае формаўтварэнне і яго фарматывы. 3.1.1. Словаформы назоўнікаў мужчынскага роду роднага склону адзіночнага ліку.

У 20-х гадах у згаданых формах найчасцей выкарыстоўваўся канчатак *-у*: *году, камітэту, інстытуту, гораду, балету, Мінску* і пад. А пасля сумнавядомай пастановы СНК БССР 1933 года назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку набываюць канчатак *-а* (як і ў расійскай мове): *года, камітэта, інстытута, горада, балета, Мінска*. З канчаткам *-у* засталіся назоўнікі абмежаванага кола лексічна-тэматычных гуртоў: абстрактныя, зборныя і рэчыўныя, назвы з'яваў прыроды і некаторыя адзінкавыя назоўнікі іншага кшталту, як *феадалізму* і *капіталізму*; але *сацыялізма* і *камунізма* (нібыта ў канчатку і закладзены сэнс адметнасці сацыяльна-эканамічнай фармацыі); *антыкамунізму* — толькі з *-у* (бо гэта "варожая плынь"). І чым бліжэй рухаліся да "перамогі камунізма", тым меней заставалася словаў з канчаткам *-у*. У 1960 годзе не стала *балету*, яго месца заняла словаформа *балета* (каб на дзвюхмоўных шыльдах было аднолькава: "Театр оперы и *балета*" — "Тэатр оперы і *балета*"). Пазней знайшлі яшчэ адну шчыліну — адну лексему-словаформу разбілі на дзве: *з'езду* і *з'езда*, *народу* і *беларускага народа*, *сінтаксісу* і *сінтаксіса*, каб тым самым наблізіцца да ўсесаюзнага стандарту. Зусім нядаўна і словы *рад, шэраг, тып* прымусілі скланяцца на расійскі ўзор — мець канчатак *-а* ў Р. скл. адз. ліку: *рада, шэрага, тыпа*. Мо ўжо пара і ...*жаночага рода, роднага склона* і г. д.?

У перыядычным друку, у розных афіцыйных дакументах пад уплывам расійскай мовы (дзе канчатак *-у(-ю)* амаль не выкарыстоўваецца) канчатак *-а* (замест нарматыўнага *-у*) нярэдка бачым і ў зборных назоўніках: *калектыва, актыва, флота, абоза*. Асабліва часта парушаецца норма выкарыстання канчатка *-у* ў абстрактных назоўніках, пішуць: *здача экзамена* і *заліка, лінія руха, інтэлекта, ідэала, дыялога, кангрэса, фестываля* і пад. Гэта тлума-

чыцца цяжкасцю размежавання катэгорыяў канкрэтнасці-абстрактнасці, але ў найбольшай ступені — пераносам расійскамоўнай нормы ў беларускі тэкст.

Калі назоўнік абазначае апрадмечанае дзеянне, стан, апрадмечаную якасць, прымету, то ён мае ў родным склоне канчатак *-у(-ю)*: *націску, руху, загаду, заліку, адказу, подпісу, пратэсту, смутку, густу, гіпнозу, кантрасту, колеру* і пад.

Разбурае норму імкненне расшчапіць словаформу на дзве, надаўшы адной з іх "канкрэтызаванае" адценне і замацаваўшы за ёю канчатак *-а*, напрыклад *пераезда* ('месца, дзе можна пераехаць праз што-небудзь') і *пераезду* ('дзеянне паводле дзеяслова пераехаць-пераязджаць'). Гэтым самым "дагаджаем" не сваёй, а расійскай мове. Але расійская мова абыходзіцца адной словаформай — з канчаткам *-а* (*переезда*, параўн.: 1. Остановился около *переезда*; 2. Здесь не будем делать *переезда*). І гэта не лічыцца "збядненнем" мовы. Так што г. зв. "абагачэнне" мовы вядзе толькі да разбурэння яе. Трэба трымацца адной словаформы — з канчаткам *-у* — дзеля стабілізацыі мовы. Тым больш што ў жывой народнай мове гэтых "навуковых" нюансаў ніхто не трымаецца. У вольным нацыянальным друку таксама: *дэлегаты з'езду, удзельнікі кангрэсу, сябры камітэту, навукоўцы з універсітэту, праграма навучальнага курсу, з паседжання факультэту* і пад.

Заўважым таксама, што ўжыванню словаформаў роднага склону г. зв. "канкрэтызаванай" семантыкі, якія замацоўваюцца ў акадэмічнай "Беларускай граматыцы" з канчаткам *-а*, пярэчыць сталая традыцыя выкарыстання лінгвістычных тэрмінаў аддзеяслоўнага ўтварэння, якія насуперак высновам граматыкі маюць канчатак *-у* (а не *-а*): *сталага націску, жаночага (мужчынскага, ніякага) роду, назоўнага склону, галосныя верхняга пад'ёму* і пад., якія ў расійскай мове маюць канчатак *-а* (*рода, падежа, подъёма*).

У выкарыстанні словаформаў роднага склону мужчынскага роду з канчаткам *-у* беларуская мова мае шмат супольнага з украінскаю і заходнеславянскімі мовамі, дзе канчатак *-у* пераважае ці выступае як амаль адзіная норма, тым часам як расійская мова амаль пазбавілася канчатка *-у* на карысць *-а* (*-у* захавалі назоўнікі ў складзе ўстойлівых выразаў: *без году неделя*).

**3.1.2. Словаформы назоўнікаў мужчынскага роду меснага склону адзіночнага ліку.** Тут заслугоўваюць пільнае ўвагі словаформы асабовых назоўнікаў, у іх ліку і ўласных імёнаў і прозвішчаў. Як справядліва сцвярджае акадэмічная "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1962. С. 53), канчатак *-у(-ю)* у месным склоне адзіночнага ліку маюць "агульныя асабовыя назоўнікі незалежна ад характару асноў: (аб, пры) *брату, сыну, трактарысту, паэту, салдату, гаспадару, мужу, байцу, кавалю, будаўніку, конюху, археолагу, драматургу*". Словаформы з гэтым канчаткам выкарыстоўвалі нашыя класікі, славутыя пісьменнікі: *Ганна жыла пры брату* (К.Чорны). *Гутарка аб кепскім гаспадару* (Я.Купала). *У сваіх успамінах аб паэту...* (Я.Колас). *Успомніў аб камсамольцу-сыну...* (М.Чарот). *Заплаканыя вочы прасілі гутаркі аб сыну* (Ц.Гартны). Згаданая

граматыка робіць спецыяльную заўвагу, дзе чытаем: "Ужыванне канчатка **-е** ў агульных асабовых назоўніках з цвёрдай асновай не лічыцца сучаснай літаратурнай нормай" (Тамсама). Новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 68) таксама не адхіляе канчатак **-у** ў асабовых назоўніках з цвёрдай асновай: *пры дзеду, аб прадзеду*.

А вось некаторыя аўтары, ідучы ў фарватары "зліцця моваў", аднаўляюць тут канчатак **-е**, які быў замацаваны "Правапісам беларускай мовы" 1934 года і паўтораны "Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" 1959 года. Напрыклад, у "Слоўніку цяжкасцей беларускай мовы" (Мн., 1987. С. 41) бачым: "*брат*, М. (пры) *браце, дзед*, М. (пры) *дзедзе*". Тое сама і ў "Кароткім слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1994. С. 50): "*дзед*, М. (пры) *дзедзе*". А які тады ў месным склоне будзе мець канчатак слова *тата*? Аб *таце*? Ці ўсё ж натуральнае: *аб (пры) тату*.

Разбурылі катэгорыю асабовых назоўнікаў і ў падручніку "Курс беларускай мовы" (Мн., 1996. С. 313), атаясаміўшы словаформы асабовых і неасабовых назоўнікаў з цвёрдаю асновай і надаўшы ўсім ім канчатак **-е** ў месным склоне: *аб сыне, у раёне, на мосце*. Але як тады растлумачыць, што з асноваю на зацвярдзелыя (таксама цвёрдыя, хоць і няпарныя), мяккія і заднеязычныя гукі асабовыя назоўнікі ўжо адасобіліся ад неасабовых і маюць толькі канчатак **-у(-ю)**: *аб мужу, Рыгору, будаўніку, вучню, кавалю, Мікалаю*, а неасабовыя — пры тых самых асновах — іншыя канчаткі (**-ы,-і**): *аб нажы, трактары, камені, на пні, у гаі*. Адказу тут мы не знойдзем. А ў некаторых аўтараў навучальных дапаможнікаў для ВНУ чытаем і такое: "Уласныя асабовыя назоўнікі могуць мець паралельны канчатак **-і(-ы)**: *аб Васілі, Рыгоры, Мікалаі* ці **-е**: *аб Іване, аб Міхале*", хоць асноўным прызнаюць "канчатак **-у(-ю)**: *аб дзеду, брату, мужу, герою, таварышу, байцу, Івану, Сцяпану, Цімоху, Васілю*" (П.Шуба. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. С. 68). Аднак "Граматыка беларускай мовы" кваліфікуе такія словаформы з канчаткамі **-ы, -і** як ненарматыўныя (Т. 1. С. 54).

Вось да якога разнабою канчаткаў у асабовых назоўніках меснага склону вядзе разбурэнне катэгорыі асабовасці.

Адзіным для асабовых назоўнікаў меснага склону мусіць быць канчатак **-у(-ю)** незалежна ад тыпу іх асновы.

У друку, па радыё, на тэлебачанні нярэдка парушаецца норма ў выкарыстанні словаформаў меснага склону неасабовых назоўнікаў з мяккай асновай, дзе замест нарматыўнага канчатка **-і** ўжываецца **-е**: *у тунеле, у Гомеле, у вестыбюле* (перанос заканамернасці расійскай мовы, дзе канчатак **-е** маюць усе назоўнікі незалежна ад тыпу асновы).

**3.1.3. Словаформы назоўнікаў мужчынскага роду на -а(-я) і супольнага (агульнага) роду.** Назоўнікі мужчынскага роду і супольнага (агульнага) роду з канчаткам **-а(-я)** у назоўным склоне ўсё яшчэ памылкова залічваюцца да "жаночага" скланення. Гэта бачым у навучальных дапаможніках для ВНУ, у "Курсе беларускай мовы", у школьных падручніках.

Напрыклад: "Да II скланення адносяцца і назоўнікі мужчынскага і агульнага роду на *-а(-я)*: *ваявода, мужчына, стараста, прамоўца, выдаўца, майстра, калега, бацька, суддзя, старшыня, няўмека*". І далей чытаем вось такое "абгрунтаванне": "вельмі пашыраны формы гэтых назоўнікаў, адпавядаючыя жаночаму скланенню: *называю дзядзькай, Алёша з Васькай, гаварылі аб Даніле*" (П.Шуба. Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. С. 70—71). Між тым у беларускай мове гэтыя назоўнікі мужчынскага роду, а таксама супольнага роду пры абазначэнні асобы мужчынскага полу ў трох словаформах — давальнага, творнага і меснага склонаў — маюць канчаткі "мужчынскага" скланення: Д. *тату, бацьку, крывулю, румзу, звяругу;* як і *брату, кавалю;* Т. *татам, бацькам, крывулем, румзам, звяругам,* як і *братам, кавалём;* М. (пры) *тату, бацьку, крывулю, румзу, звяругу;* як і *брату, кавалю.* Гэта ў расійскай мове ўсе назоўнікі з канчаткам *-а(-я)* (у пачатковай форме) скланяюцца аднолькава — маюць парадыгму "жаночага" скланення незалежна ад іх роду: Н. *дядя, Володя, папа, мама, жена;* Д. *дяде, Володе, папе, маме, жене;* Т. *дядей, Володей, папой, мамой, женой;* М. *о дяде, Володе, папе, маме, жене.*

Зазначым таксама, што ў расійскай мове супольны (общий) род — чыста лагічная, а не граматычная катэгорыя: яна не мае сваіх формавых паказчыкаў. У беларускай мове супольны род — катэгорыя граматычная. Словы гэтага роду — *сведка, прамоўца, стараста, мямля* і г. д. — маюць адмысловыя канчаткі пры абазначэнні асобы мужчынскага полу: у давальным — месным склонах — *-у(-ю)* і творным склоне *-ам(-ем)*: Д.— М. (*Івану, Васілю*) *сведку, прамоўцу, старасту, мямлю;* Т. (*Іванам, Васілём*) *сведкам, прамоўцам, старастам, мямлем.* Як бачым, у гэтых словах ёсць і свае марфалагічныя паказчыкі, ■ не толькі сінтаксічныя (як у расійскай мове).

Выкарыстанне канчаткаў у словаформах назоўнікаў мужчынскага роду на *-а(-я)* нельга лічыць унармаваным. Асабліва гэта датычыць словаформаў меснага склону, дзе адны аўтары бачаць тут канчатак *-е* пры цвёрдай аснове (у пачатковай форме) і *-у(-ю)* пры зацвярдзелай, мяккай, на **г, к, х**: (аб) *мужчыне, майстру, дзядзьку, дзядулю, Грышу, Янку* (гл. Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 84—85). Іншыя вызнаюць у месным і давальным склонах толькі канчатак *-у(-ю)* незалежна ад тыпу асновы назоўнікаў. Адрозніваюцца канчаткі таксама з улікам таго, падае націск на канчатак ці на аснову: пры націскной флексіі назоўнікі мужчынскага роду маюць ужо канчаткі тыя, што і словы жаночага роду: *тамадзе, старшыні.* Найбольш абгрунтаваней трэба прызнаць выснову акадэмічнай "Граматыкі беларускай мовы", у якой засведчана: "У давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду на *-а(-я)* звычайна скланяюцца па ўзору назоўнікаў мужчынскага роду I скланення": Д.—М. *старасту, Мішу, Міколку, старшыню;* Т. *старастам, Мішам, Міколам, старшынём.*

Канчатак *-е* ў словаформах меснага склону назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай (у пачатковай форме) быў штучна прышчэплены беларускай мове ўсесаюзным стандартам, каб гэтыя словаформы нічым не ад-

розніваліся па канчатках у беларускай і расійскай мовах: *аб Леніне — о Ленине, аб Сталіне — о Сталине, аб Брэжневе — о Брежневе, аб Хрушчове — о Хрушчёве.*

Добра памятаецца, як газета "Звязда" ў прывітанні з нагоды юбілею генсека парушыла норму беларускай мовы (відаць, не без "указаний" цэкоўскіх кіраўнікоў) — пісала: "Дарагому *Нікіце* Сяргеевічу Хрушчову" замест натуральнага *Мікіту (Нікіту)*. І ніяк нельга было ўжо пісаць у месным склоне асабовых назоўнікаў мужчынскага роду натуральны канчатак *-у(-ю)* у словаформах — імёнах ці прозвішчах кіраўнікоў дзяржавы.

Адсюль гэтыя "нормы" былі перанесеныя і ў словаформы назоўнікаў мужчынскага роду на *-а(-я)*: *дзядзькай, Міколай, Васькай, суддзёй, старшынёй*. Націск жа не можа змяняць род назоўніка! Тым больш што нормаю лічыцца *слугу* (а не *слузе*), дык чаму *мурзе*, а не *мурзу* (як і *Міколу, Васю, Янку, Грышу*)? Акадэмічная "Граматыка беларускай мовы", рэдактарам якой быў акадэмік К.Крапіва, падае як асноўны канчатак *-у(-ю)* ва ўсіх словаформах давальнага і меснага склонаў назоўнікаў мужчынскага роду на *-а(-я)*: *мужчыну, старасту, ваяводу, прамоўцу, старшыню, суддзю*. І гэта натуральна, бо іначай разбураецца граматычная катэгорыя асабовасці.

Назоўнікі супольнага роду на *-а(-я)* маюць у давальным — месным склонах тыя сама канчаткі, што і назоўнікі мужчынскага роду: Д.— М.: *плаксу (Івану), лістаношу, тулягу, ціхеню.*

Але і гэтым назоўнікам пры цвёрдай аснове прышчапляецца чужы канчатак *-е* ў словаформах меснага склону: *аб плаксе* (хоць *аб лістаношу, тулягу, задаваку, ціхеню*). У такім разе гэтая словаформа з канчаткам *-е* не адрознівае асобу мужчынскага полу ад асобы жаночага полу, словаформа якой таксама мае канчатак *-е*: *аб плаксе Ніне* (як і *тулязе*). Але ж назоўнікі супольнага роду ў словаформах давальнага, творнага і меснага склонах заўсёды адрозніваюць сваімі канчаткамі асобу мужчынскага і жаночага полу. Параўн.: (каму і аб кім) *плаксу, ціхеню, тулягу;* як і *Міколу, Жэню;* Т. (з кім) *плаксам, ціхенем, тулягам;* як і *Міколам, Жэнем;* і Д.—М.: *Ніне плаксе, тулязе, ціхені, Наталі лістаношы, Жэні;* Т. *Нінай плаксай, тулягай, ціхеняй, Наталяй, Жэняй.*

**3.1.4. Прозвішчы на -а(-я) і праблемы іх словазмянення.** Пытанне пра словазмяненне прозвішчаў на *-а(-я)* вельмі няпростае. У даведніках яно вырашаецца неаднастайна. Нярэдка тут выяўляюцца супрацьлеглыя пазіцыі. Напрыклад, у газеце "Наша слова" (22.02.1995) у рубрыцы "Культура мовы" В.Бразоўская сцвярджае: "Што да прозвішчаў на *-еня (-эня,-аня)* і *-уня (-юня)*, то, згодна з беларускім правапісам, яны ў давальным і месным склонах маюць канчатак *-і: Каратчэні, Ціхіні, Шабуні*". А ніжэй — "*Ад рэдакцыі*. Вельмі часта мы сутыкаемся з супярэчлівымі правапіснымі правіламі нашай граматыкі. Часам складваецца ўражанне, што хтосьці наўмысна перакруціў правілы, каб зрабіць іх складанымі. Вось і цяпер спадарыня В.Бра-

зоўская папраўляе У.Содаля. А калі паслухаць, як кажуць людзі, то пачуем: *"Прэмію далі Каратчэню"; "Пазванілі Ціхіню"; "Перадалі кнігі Шабуню"*.

Высновы рэдакцыі "Нашага слова" слушныя: правілы словазмянення прозвішчаў на *-а(-я)* у беларускай граматыцы заблытаныя, супярэчлівыя, "перакручаныя на небеларускі лад".

Вывучэнне, аналіз пісьмовых тэкстаў і вуснага маўлення паказвае, што ў скланенні прозвішчаў на *-а (-я)* існуе вялікая разбежнасць. Адны прозвішчы скланяюцца заўсёды і змяняюцца так, як назоўнікі супольнага роду. Напрыклад, *Саладусе Ніне* і *Саладуху Івану, з Саладухай Нінай* і *Саладухам Іванам*. Другія прозвішчы змяняюцца ўжо як звычайныя назоўнікі жаночага роду на *-а(-я)* (*сцяна, зямля*), г. зн. не маюць у Д.—М. і Т. склонах адметных канчаткаў пры абазначэнні асобы мужчынскага полу: *Пушчы Наталі* і *Пушчы Язэпу; Пушчай Наталяй* і *Пушчай Язэпам*. Трэція прозвішчы скланяюцца толькі калі абазначаюць асобу мужчынскага полу (*Глебка, Антоненка, Слесарэнка*). Чацвёртыя зусім не змяняюцца (*Калена, Скрэбла, Сала*). Такое абмежаванне словазмянення прозвішчаў на *-а(-я)*, іх паступовае "аняменчванне" (ачужыньванне) прагрэсуе з кожным новым выданнем арфаграфічных даведнікаў. Так, у "Слоўніку цяжкасцей беларускай мовы" (Мн., 1987. С. 184) чытаем: "Не скланяюцца прозвішчы, суадносныя з назоўнікам ніякага роду". Паўторана гэта і ў "Кароткім слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1994. С. 346).

Як паказваюць нашыя назіранні, у пытанні словазмянення прозвішчаў на *-а(-я)* выразна выяўляюцца дзве тэндэнцыі. Першая — імкненне скланяць усе прозвішчы на *-а(-я)* і змяняюць іх на ўзор назоўнікаў супольнага роду, бо прозвішчы ў адной гукавой форме абазначаюць асобу мужчынскага і жаночага полу: Д. *Муравшцы Наталі* і *Мурашку Яўгену;* Т. *Мурашкай Наталяй* і *Мурашкам Яўгенам;* М. (пры) *Мурашцы Наталі* і (пры) *Мурашку Яўгену*. Гэтая тэндэнцыя знаходзіць сваё выяўленне ў жывой народнай гутарковай мове, у мове мастацкай літаратуры, у часопісных публікацыях твораў розных жанраў, напрыклад у "Полымі", "Родным слове", у газетах "Наша слова", "Літаратура і мастацтва" ды іншых выданнях. Вось некаторыя прыклады: "Запомнілася і выступленне Наталлі *Нікіценкі* з Брагіна" (Алесь Крыга. Чарнобыльскі лабірынт // Полымя. 1990. № 4. С.159). "На блакітным экране "Радзімічы". Літаратурна-мастацкі часопіс з Гомеля... Адбудзецца знаёмства з народнай майстрыхай з вёскі Прудок В.*Шаўчэнкай*" (ЛіМ. 13.04.1990).

Другая тэндэнцыя — свядомае ці несвядомае аказёньванне мовы; бяздумная стандартызацыя яе, арыентацыя не на жывую гутарковую мову беларусаў, а на іншыя, "прэстыжныя" мовы. Тут ужо жаночыя прозвішчы скланяюцца рэдка — толькі калі яны супадаюць гучаннем з агульнымі назоўнікамі жаночага роду — назвамі прадметаў (*Бульба, Зязюля, Сініца*), у астатніх выпадках жаночыя прозвішчы не скланяюцца. І хоць у жывым маўленні ўсе прозвішчы скланяюцца, але рэкамендацыі, патрабаванні тут строгія: не скланяць! І паўстае тады перад рэдактарамі і карэктарамі дылема, якую форму пакінуць у

тэксце — скланяльную ці нескланяльную. Многае залежыць у такой сітуацыі ад профілю выдання, яго прызначэння. Напрыклад, часопіс “Роднае слова” (з 1988 па 1991 год выдаваўся пад назвай “Беларуская мова і літаратура ў школе”) шмат робіць для адраджэння і прапаганды роднай мовы і культуры, але і ён не ўхіліўся ад штучнай формы прозвішча (баючыся парушыць патрабаванні арфаграфічных даведнікаў), таму і трапіла гэтая штучная форма ў тэкст (1990. № 3. С. 73): “Двума блізкімі матывамі — родная зямля і родная мова — прасякнута нізка вершаў настаўніцы беларускай мовы і літаратуры СШ № 53 г. Гомеля Таісы Васілеўны *Мельчанка*”. Прыемна бачыць тут натуральныя для беларускай мовы формы *Таіса Васілеўна* (а не *Таісія Васільеўна*), але прыкра — нескланяльнае “*Мельчанка*” замест натуральнага “*Мельчанкі*”.

Разбежнасць сустракаем, на жаль, нават у таго самага аўтара ў розных мясцінах тэксту. Так, у публіцыстычным творы Алеся Крыгі “Чарнобыльскі лабірынт”, які ўжо згадваўся як узор скланення прозвішчаў на *-а(-я)*, пападаецца і нескланяльная форма такога прозвішча: “Вяртаўся са службовай камандзіроўкі ў Гомель з чарговага “радыяцыйнага пасяджэння” разам з медсястрою Брагінскага дзіцячага сада Марыяй Юр’еўнай *Асіпенка*” (Полымя. 1990. № 4. С. 150).

Неаднастайнае выкарыстанне формаў прозвішчаў на *-а(-я)* — змяняльных і незмяняльных — у многім тлумачыцца нераспрацаванасцю гэтага пытання, а таксама рознай ступенню валодання беларускаю моваю як саміх аўтараў твораў, так і рэдактараў адпаведных рэдакцыяў, іх карэктараў.

Уласныя імёны і прозвішчы ўпершыню сталі аб’ектам арфаграфічнага апісання ў “Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” (Мн., 1959). У дадатку першым пад назвай “Заўвагі аб уласных імёнах і прозвішчах” (с. 113—118) сцвярджаецца, што найменні асобаў жаночага полу скланяюцца тады, “калі прозвішчамі служаць назвы прадметаў жаночага роду (*Зязюля, Бульба, Вячэра, Лапша, Дуга, Талака*) і прозвішчы на *-эня(-еня,-аня), -уня(-юня)* — *Ахрамеря, Вершаня (Вяршэня), Грабаленя, Ільеня, Бацюня, Хадзюня, Чабуня* і інш. Калі прозвішчамі служаць назвы прадметаў ніякага роду, а таксама назвы прадметаў, род якіх выразна не выступае, то такія прозвішчы скланяюцца, калі іх носьбітамі з’яўляюцца асобы мужчынскага роду” (с. 113—114). Акадэмічная “Граматыка беларускай мовы” (Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 80) паўтарыла “Правілы”, крыху змяніўшы іх фармулёўкі. Тут чытаем: “Прозвішчы, якія паходзяць ад назоўнікаў ніякага роду на *-а(-я)* (*Шыла, Долата, Ворыва, Сукала* і інш.) або назоўнікаў, род якіх выразна не вызначаецца (*Біруля, Бядуля, Сыракомля, Вайда, Купала, Сапега, Машара, Пічэта, Панчанка* і інш.), пры абазначэнні асоб жаночага полу не скланяюцца”.

Аднак моўная практыка мала трымалася гэтай рэкамендацыі, а кіравалася нормамі жывой народнай мовы. Скланяльныя формы прозвішчаў на *-а(-я)* пры абазначэнні асобы жаночага полу актыўна выкарыстоўваліся ў друку, яны сталі нормай і ў афіцыйна-справавым стылі мовы, асабліва падчас палітычнай адлігі. Вось некаторыя прыклады: “— Хто тут? — спалохана спытала гаспадыня, мабыць, з яркай віднаты не заўважыўшы Веру Паўлаўну. —

Даруйце, ■ да Ані *Кузьменкі*" (Алесь Асіпенка. Непрыкаяны маладзік / / Полымя. 1971. № 3. С. 46). "За заслугі ў развіцці музычнага і харэаграфічнага мастацтва ўзнагародзіць Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР *Давыдзенку* Ніну Сцяпанаўну — артыстку балета; *Шаўчэнку* Лідзію Пятроўну — салістку оперы" (Звязда. 29.04.1971); "*Журу* Марыю Васільеўну..." (Звязда. 31.04.1971). Тут бачым натуральнае гучанне слова. Так размаўляюць людзі. Такая прагрэсіўная тэндэнцыя знайшла сваё адлюстраванне і ў школьных падручніках. У кнізе М.Яўневіча і У.Андрэенкі "Беларуская мова. Падручнік для 5—6 класаў" (Мн., 1971) на с. 66 чытаем: "Жаночыя прозвішчы, якія канчаюцца на *-а, -я*, скланяюцца як назоўнікі I скланення. Р. *Якіменкі Надзі, Петрачэнкі Веры*, В. *Якіменку Надзю, Петрачэнку Веру* і г. д."

Нескланенне прозвішчаў на ***-а(-я)*** пры назве асобы жаночага полу ўзмацнілася пасля нарады па "нармалізацыі" беларускай мовы, скліканай паводле рашэння ідэалагічных кіраўнікоў рэспублікі ў 1972 годзе. Ставілася за мэту адарваць літаратурную мову ад яе кораня — народнагутарковае мовы і скіраваць развіццё літаратурнае мовы па рэчышчы як найхутчэйшага "зліцця моваў" у СССР і найперш набліжэння да афіцыйна-справовага стылю расійскае мовы. Мне, удзельніку гэтай канферэнцыі, добра памятаецца, як беспадстаўна абвінавачвалі нашых народных пісьменнікаў у іх "непісьменнасці" — захапленні народна-дыялектнай мовай і ігнараванні працэсаў "збліжэння моў". І калі ў выступе я падкрэсліваў, што нескланенне прозвішчаў на ***-а(-я)*** вядзе да анямечвання роднай мовы, то на гэта быў адказ дырэктара Інстытута мовазнаўства, які вёў канферэнцыю: "У рускай мове такія прозвішчы (на *-ко, -енко*) не скланяюцца, дык нашто іх скланяць у беларускай, руская ж мова для нас узор".

Але ж імкненне не скланяць прозвішчы на ***-а(-я)*** замінае хутка і дакладна разумець выказанае, пісьмовы тэкст. Трэба перачытваць яго. А калі гэта вуснае маўленне? Не запамятаўшы прамоўленае, не аднавіўшы яго, і зусім можна не зразумець нічога, як у наступных тэкстах: "*Дарашэнка па-ранейшаму дапамагае настаўнікам, асабліва Н.Ганчарэнка*". Тэкст можна зразумець так, што дапамагае настаўнікам не так Дарашэнка, як Н.Ганчарэнка. Але аўтар допісу ў "Настаўніцкай газеце" хацеў паведаміць чытачам, што спрактыкаваны педагог Дарашэнка больш за ўсё дапамагае *Н.Ганчарэнцы*. Скланенне гэтага прозвішча адразу паставіла б усё на свае месца. Цяжка зразумець і такі сказ: "*Гэта пісьмо Г.Галабурда*". Што хацеў сказаць аўтар? Што гэта — пісьмо, уладальнік якога Г.Галабурда? Тады трэба было напісаць: "*Гэта — пісьмо Г.Галабурды*". А можа, што гэтае пісьмо трэба перадаць названаму чалавеку? Тады: "*Гэтае пісьмо — Г.Галабурдзе* (ёй) ці *Г.Галабурду* (яму)".

Пры нескланенні прозвішчаў на ***-ка*** нельга размежаваць словаформы назоўнага склону жаночага роду і роднага склону — мужчынскага. Напрыклад, "*Вуліца Э.Ажэшка*". Можна меркаваць, што прозвішча асобы, у імя якой назвалі вуліцу ў Гродне, — *Эдвард Ажэшак* (у родным склоне —

*Э.Ажэшка*). Відаць, гэта было ўлічана — на месцы штучнае формы цяпер бачым натуральную: "*Вуліца Э.Ажэшкі*".

Закон эканоміі моўных сродкаў, закон зверхнасці той формы, якая найбольш дакладна выяўляе сэнс, патрабуюць скланення прозвішчаў на ***-а(-я)*** незалежна ад таго, асобу якога полу яно абазначае. І з абавязковым размежаваннем асабовых словаформаў у давальным, творным і месным склонах. Паказальным ёсць у гэтым плане адрозненне з дапамогаю канчаткаў у згаданых склонах — Д., Т., М. — мужчынскіх і жаночых памяншальна-ласкальных гутарковых імёнаў, якія супадаюць гучаннем у назоўным склоне, кшталту *Жэня (Жэнька), Саша (Сашка), Шура (Шурка)*. Як і назоўнікі супольнага роду, гэтыя імёны пры абазначэнні асобы мужчынскага полу ў давальным, творным і месным склонах маюць "мужчынскія" канчаткі (як словы *брат, сын, дзед*): Д. *сведку Жэню (Жэньку), Сашу (Сашку), Шуру (Шурку)*, Т. *сведкам Жэнем (Жэнькам), Сашам (Сашкам), Шурам (Шуркам)*, М. (пры) *сведку Жэню (Жэньку), Сашу (Сашку), Шуру (Шурку)*. Пры абазначэнні асобы жаночага роду выкарыстоўваюцца канчаткі "жаночага" скланення (як у слове *жонка*): Д. *сведцы Жэні (Жэньцы), Сашы (Сашцы), Шуры (Шурцы)*, Т. *сведкай Жэняй (Жэнькай), Сашай (Сашкай), Шурай (Шуркай)*, М. (пры) *сведцы Жэні (Жэньцы), Сашы (Сашцы), Шуры (Шурцы)*. Гэтую асаблівасць у словазмяненні згаданых імёнаў засведчылі "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (с. 116).

Такую ж функцыю, як і ў згаданых гутарковых імёнах з канцавымі ***-а, -я***, выконваюць і словаформы прозвішчаў на ***-а(-я)***, што таксама бачым у "Правілах" (с. 114): "Прозвішчы, якімі служаць назвы прадметаў жаночага роду і канчаюцца на ненаціскныя *-га, -ка, -ха*, у давальным, творным і месным склонах маюць канчаткі ў залежнасці ад роду носьбіта: Д. *Кнізе, Мурашцы, Саладусе* (калі носьбіт жанчына), *Кнігу, Мурашку, Саладуху* (калі носьбіт мужчына); Т. *Кнігай, Мурашкай, Саладухай* (калі носьбіт жанчына), *Кнігам, Мурашкам, Саладухам* (калі носьбіт мужчына); М. *аб Кнізе, аб Мурашцы, аб Саладусе* (калі носьбіт жанчына), *аб Кнігу, аб Мурашку, аб Саладуху* (калі носьбіт мужчына)". Але чамусьці гэтая натуральная выснова не пашыраецца "Правіламі" на іншыя прозвішчы на ***-а(-я)***. Хіба яны не маюць уласцівасці назоўнікаў супольнага роду? Нічым не абгрунтоўваецца сцверджанне "Правілаў", што прозвішчы *Бядуля, Гушча* і падобныя мусяць ужо скланяцца не так, як *Мурашка, Кніга, Саладуха*, а як звычайныя назоўнікі-няпрозвішчы. Гэта пярэчыць логіцы і парушае заканамернасць беларускай мовы, якая (заканамернасць) выяўляецца ў тым, што ўсе асабовыя назоўнікі на ***-а(-я)*** у творным, давальным і месным склонах маюць свае, адмысловыя канчаткі пры іх рознаасабовым значэнні. Параўнаем: Д. (каму) *маме*, але *тату*, Т. *мамай*, але *татам*, М. *пры маме*, але *пры тату*. Гэта ў расійскай мове ўсе назоўнікі на ***-а(-я)*** скланяюцца аднолькава, не зважаючы на пол асобы: Д. (каму) *маме, папе*, Т. *мамой, папой*, М. *о маме, о папе*.

Далей "Правілы" прапануюць зусім не скланяць жаночыя прозвішчы на

***-а(-я)***, калі імі служаць назвы прадметаў ніякага роду, а таксама назвы прадметаў, род якіх выразна не выступае (*Сукала, Бядуля, Біруля, Купала, Панчанка, Манюшка*). Аднак чым адрозніваюцца прозвішчы *Васіленя, Шабуня*, якім дазваляецца скланяцца, ад прозвішчаў *Біруля, Бядуля*, якія ўжо не маюць права на скланенне? Абгрунтавання не знойдзем. Дый ці ёсць тут якая-небудзь паслядоўнасць? А хіба не аднолькава ўсе яны скланяюцца ў гутарковай мове: *Саладухам Пятром* і *Бядулем Змітраком, Саладухай Зінай* і *Бядуляй Нінай, Шабуняй Надзяй* і *Панчанкай Марысяй?* Такую ж непаслядоўнасць пры развязанні пытання пра скланенне прозвішчаў на ***-а(-я)*** бачым і ў акадэмічнай "Граматыцы беларускай мовы", не кажучы ўжо пра пазнейшыя даведнікі. У граматыках і спецыяльных слоўніках, надрукаваных пасля згаданай нарады 1972 года, насталі яшчэ больш жорсткія абмежаванні ў формазмяненні прозвішчаў на *-а(-я)*. Не ўхілілася ад гэтага і згаданая школьная граматыка. У выданні 1981 года чытаем: "Некаторыя жаночыя прозвішчы на *-а, -я* скланяюцца..." А далей і такое: "Жаночыя прозвішчы на *-ла* тыпу *Ліпіла, Дзюбайла* і некаторыя іншыя на *-а, -я* не скланяюцца". Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985) ужо не робіць выключэння для жаночых прозвішчаў на *-еня, -эня, -уня, -юня*, якім у ранейшай акадэмічнай граматыцы дазвалялася скланяцца. Тут чытаем: "Прозвішчы, якія не суадносяцца з назвамі прадметаў, скланяюцца ў тым выпадку, калі яны адносяцца да мужчын. Не скланяюцца такія прозвішчы, калі яны адносяцца да жанчын: Р. *Галіны Янчанка*, В. *Галіну Янчанка*".

У самых новых даведніках — "Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы" (1987. С. 184) і "Кароткі слоўнік беларускай мовы" (1994. С. 346) — ужо забараняецца змяняцца ўсім — і мужчынскім і жаночым — прозвішчам, якія суадносяцца з назоўнікамі ніякага роду. І тут зноў выяўляецца тэндэнцыя ісці ў фарватары расійскае мовы, дзе прозвішчы з суфіксамі *-енк-, -к-*, маючы канчатак *-о*, фармальна ўспрымаюцца як словы ніякага ("среднего") роду, а адушаўлёныя (асабовыя) назоўнікі гэтага граматычнага роду расійскай мове неўласцівыя. Нават словы з значэннем маладых істотаў перааформіліся ў мужчынскі род (з выкарыстаннем суфікса *-ёнок*): *жеребёнок, телёнок, ягнёнок*. (Адно слова *дитя* захавалася тут, і то ва ўскосных склонах амаль не выкарыстоўваецца, саступаючы месца лексеме *ребёнок*.)

У беларускай мове гэтага не адбылося: усе назвы маладых істотаў належаць да ніякага роду (*жарабя, цяля, ягня*). Да таго ж сучасная беларуская літаратурная мова мае вельмі шчыльныя сувязі з народна-дыялектнай, на аснове якой яна склалася, прычым параўнальна нядаўна, і сокамі якой і сёння сілкуецца. Гэтымі варункамі і тлумачыцца адметнасць беларускае мовы параўнальна з расійскаю. І калі ў афіцыйных стылях расійскай мовы прозвішчы на *-о, -ко, -енко* з ненаціскным канчаткам (у беларускай мове тут пішуцца *-а, -ка, -енка*) не змяняюцца, то ў беларускай мове пры абазначэнні асобы мужчынскага полу, як мы ўжо бачылі, яны скрозь скланяюцца: выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя *Петруся Броўкі*, творы *Пятра Глебкі* і пад.

Рэкамендацыі нашых даведнікаў "не скланяць беларускія прозвішчы на *-а(-я)*, калі імі выступаюць назоўнікі ніякага роду ці род іх выразна не вызначаецца", вядзе да "анямечвання" мовы, да адрыву літаратурнае мовы ад яе жыватворнае крыніцы — народна-гутарковае мовы. Дый хто з сведамых беларускіх нацыянальных інтэлігентаў — пісьменнікаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў — будзе кіравацца ў сваім маўленні, пры стварэнні пісьмовых тэкстаў гэтымі вось рэкамендацыямі, калі яны патрабуюць не скланяць прозвішчы такіх славутых людзей Беларусі і іншых краінаў, як *Сапега, Купала, Шаўчэнка, Сыракомля, Касцюшка* ды інш.

Пісьмовая практыка паказвае, што ў мове класікаў беларускай літаратуры, слынных пісьменнікаў, вучоных, усе прозвішчы на *-а(-я)* скланяюцца. Вось толькі некаторыя прыклады: "Бясслаўнае адступленне пана Тарбецкага ад калодзежа паддае *Грындзе* яшчэ больш пыху і прыводзіць яе ў поўны стан натхнёнай лаянкі" (Якуб Колас. У двары пана Тарбецкага). У Пімена Панчанкі: "Пасланне" (З прысвячэннем). Тамары *Фаменцы*, талінскай беларусцы" (ЛіМ. 21.08.1992). "З *Галінай Краўчанкай* гутарыла Жана Лашкевіч" (ЛіМ. 03.10.1997. С. 11). "Таісе *Мельчанцы* — 50" (ЛіМ. 10.10.1997). "Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне старшаму навуковаму супрацоўніку Аксане Аляксееўне *Слесарэнцы* з прычыны вялікага гора — смерці маці" (Тамсама).

Падсумоўваючы, яшчэ раз нагадаем і падкрэслім: 1) усе прозвішчы на *-а(-я)* павінны скланяцца, без увагі на род асобы, абазначаны імі; 2) скланенне прозвішчаў на *-а(-я)* не дыктуецца родам сугучнага з ім агульнага назоўніка, бо прозвішча належыць да словаў супольнага (агульнага) роду; 3) прозвішчы на *-а(-я)* скланяюцца на ўзор назоўнікаў супольнага роду, г. зн. у давальным — месным склонах маюцьканчатак *-у(-ю)*, у творным *-ам(-ем)* пры абазначэнні асобы мужчынскага полу. Гэта пацвярджаецца і словаформамі мужчынскіх імёнаў на *-а(-я)* і іншымі: Д. *Янку Купалу, Францішку Скарыну, Міколу Бірылу;* Т. *Янкам Купалам, Францішкам Скарынам, Міколам Бірылам;* М. *пры Янку Купалу, пры Францішку Скарыну, пры Міколу Бірылу*. Жаночыя словаформы таксама маюць адпаведныя — аднолькавыя — канчаткі ў прозвішчах і імёнах: Д. *Уладзіславе Купале, Ніне Бірыле;* Т. *Уладзіславай Купалай, Нінай Бірылай;* М. *пры Уладзіславе Купале, пры Ніне Бірыле*. Або: Д. *Аленцы Цімашэнцы*, Т. *Аленкай Цімашэнкай*, М. *пры Аленцы Цімашэнцы*.

Пара вярнуць нашай мове ў незалежнай краіне — Рэспубліцы Беларусь — яе натуральныя словаформы імёнаў, а не падладжвацца пад іншыя, для некага больш "прэстыжныя", мовы.

**3.1.5. Словаформы "клічнага склону" і іх фарматывы.** Нашыя граматыкі, акадэмічныя і для студэнтаў ВНУ, бяздоказна сцвярджаюць, нібыта формы клічнага склону ў наш час не з'яўляюцца літаратурнаю нормай. Калі чытаеш такое ў граматыцы, то адразу адчуваеш, што гэта — выснова не аўтара, які старанна прааналізаваў пісьмовыя тэксты майстроў беларускага

слова і добра ведае жывую народную мову, а перапісанае з граматыкаў расійскай мовы, дзе формы клічнага склону выйшлі з ужытку (сёння іх сустракаем хіба што ў рэлігійных тэкстах: *Боже, Отче* і пад.). У беларускай мастацкай літаратуры — гэтай лабараторыі літаратурнай мовы — формы клічнага склону шырока выкарыстоўваліся не толькі ў першай палове XX стагоддзя, але ўжываюцца і сёння. Гэта пацвярджаюць прыклады з мастацкіх твораў класікаў беларускай літаратуры, слынных сучасных літаратараў: "Павесь шапку, мой *сыне*" (Я.Колас). "Смялей, *беларусе*-араты! Смялей уздымай к сонцу вочы" (Я.Купала). "Не едзь туды, *Селівоне*, не едзь" (М.Лынькоў). "Сходзі, *Ігнаце*..." (А.Куляшоў). "*Народзе* ты мой, *народзе!*" (А.Петрашкевіч. Полымя. 1993. № 1). "Па сорак пяць пражылі мы, *браце Іване*" (Я.Брыль. Вячэрняе. Мн., 1994. С. 266). Прыклады можна доўжыць і доўжыць. Гэтыя формы выкарыстоўваюць і Васіль Быкаў, і Вячаслаў Адамчык, і Аляксей Карпюк і шмат маладых пісьменнікаў. Дый як іх не выкарыстоўваць, калі яны такія эмацыйныя, перадаюць задушэўнасць, замілаванасць, шчырасць, спагаду або крык душы, боль, як у згаданым артыкуле Алеся Петрашкевіча "*Народзе ты мой, народзе!*" Нагадаем яшчэ: "Гэй ты, братка Новы *годзе*, што з сабою нам нясеш?" (Цётка). "Усё ў табе, мой родны *краю*, апавіта горам" (Я.Колас).

Словаформы клічнага склону маюць фінальныя галосныя: ***-е*** — пры цвёрдай аснове (у Н. скл.): *сыне, народзе, браце;* ***-у*** — пасля зычных **р, ц, к**: *гаспадару, малойцу, каханку* і ў словаформе *дзеду;* ***-ю*** — пасля мяккіх і **j**: *ягамосцю, Чэсю, гаю;* ***-а*** — пасля **ж, ч** (пры чаргаванні *г—ж, к—ч, ц—ч*): *дружа, хлопча, чалавеча.*

А хіба выйшлі з ужытку і парушаюць літаратурную норму клічныя формы-звароткі, якія мы чуем штодзень у маўленні спагадлівых бацькоў, у іх звароце да дзяцей ці ў размове блізкіх, родных: *сынку, хлопча, унучку, браце, куме, швагру, дружа, зяцю* і пад.? Дык ці трэба ўсё гэта руйнаваць? Адмаўляцца ад свайго, роднага?

**3.1.6. Фарматывы множнага ліку (назоўны склон).** У нармаванай беларускай мове формы назоўнага склону множнага ліку ўтвараюцца флексійным спосабам — далучэннем флексіі ***-і(-ы)***: *корань — карані, камень — камяні, брус — брусы, зуб — зубы, крыло — крылы, ліст — лісты.* У расійскай мове — і шляхам суфіксацыі, калі да асновы словаформы адзіночнага ліку далучаецца суфікс *-j-* ці ***-овj-*** (і адпаведны канчатак): *корень — коренья /коренjа/, лист — листья, сын — сыновья /сыновjа/, крыло — крылья, зуб — зубья, кол — колья.*

У "Беларускай граматыцы" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 63—64) чытаем: "У творах мастацкай літаратуры і ў гутарковай мове адзначаецца ўжыванне формаў тыпу *бруссі, бярвенні, валоссі, зуб'і, каменні, калоссі, карэнні, коллі, крыллі, лісці, паводдзі, пер'і, праменні* і некаторыя іншыя, якія па марфалагічнай структуры суадносяцца са зборнымі назоўнікамі *брусce, бярвенне, валоссе, зуб'е, каменне* і г. д. і ўспрымаюцца як формы множнага ліку ад гэтых назоўнікаў".

Формы тыпу *карэнні, каменні*, якія падаюць нашыя акадэмічныя (перакладныя) слоўнікі, ёсць не што іншае, як кантамінацыя расійскамоўных суфіксавых формаў множнага ліку і беларускіх флексійных: *каменья + камені → каменјі → каменні, коренья + карані (корані) → карэнјі → карэнні*.

Такое ўражанне пакідаюць прыклады з "Русско-белорусского словаря" 1953 года і "Беларуска-рускага слоўніка" 1962 года, выдадзеных у Маскве. У слоўніку 1953 года чытаем: "*Коренья* мн. *карэнні*, -нняў" (с. 214). "*Камень* м. в разн. знач. *камень*, -ня м.; *камяні*, -нёў, *каменні*, -нняў" (с. 194). У слоўніку 1962 года: "*Корань*, мн. *карэнні и корані*, рака вымыла *карэнні вярбы* — река вымыла *корни вербы; класавыя карэнні — классовые корни; пусціць карэнні — пустить корни*" (с. 397). Або: "*Бервяно*, мн. *бярвенні* ср. прям., перен. *бревно*" (с. 123). Праўда, у "Беларуска-рускім слоўніку" падаюцца ўжо і нармаваныя флексійныя беларускія формы да расійскіх суфіксаваафлексійных: "*Брусы* ед. нет, спорт. *брусья; паралельныя брусы — параллельные брусья*" (с. 132); "*Палоззе* собир. ср. *полозья* мн." (с. 600).

Слоўнікі 80-х гадоў ужо не падаюць гэтых памылковых суфіксаваафлексійных множналікавых формаў *карэнні, каменні, бярвенні*, а толькі нармаваныя флексійныя: *карані (і корані), камяні, прамяні (і прамені, промні), пёры* і г. д.

Расійскамоўным формам множнага ліку могуць адпавядаць беларускія зборныя назоўнікі (яны ўтвараюцца ад асновы словаформы адзіночнага ліку з далучэннем фарманта *-јэ* (суфікс *-ј-* і канчатак *-э*): *пяро — пер'е [пер'јэ]*. Суфікс *-ј-* асімілюецца (не пасля губных і *р*) і дае падаўжэнне канцавога гука асновы: *камен'-јэ → каменне)*. Напрыклад, у "Русско-белорусском словаре" 1982 года бачым: "*Коренья* мн. *карані*, -нёў, собир. *карэнне*, -ння ср." (Т. 1. С. 375). На жаль, у перыядычным друку і сёння яшчэ бачым памылковыя, флексійна-суфіксавыя формы множнага ліку: "Шэкспіра забіваюць *каменнямі*" (Полымя. 1995. № 8. С. 132). "Кураводка, распасцёршы *крыллі*, кінулася ў пагоню за чорным катом" (Полымя.1995. № 8. С. 21). "Цэлы прычэп *бярвенняў* з лесу мне прывалок" (Наша слова. 1995. № 37). Гэтыя трасянкавыя формы сустракаем у пісьменнікаў, недасведчаных у пытаннях моўнае нормы. А вось У.Дубоўка, які пісаў артыкулы і па культуры мовы, выкарыстоўвае толькі нармаваныя формы: "Дубы... шумяць *лістамі* нам пра гэта. Сушыў балоты, біў *каменне*".

Замацаваная слоўнікамі, гэтая норма мусіць ахоўвацца і не парушацца нават у мастацкіх творах, не зважаючы на тое, што ў некаторых гаворках бытуюць і гэтакія трасянкавыя формы.

**3.1.7. Словаформы назоўнікаў множнага ліку роднага склону і іх фарматывы.** Справядліва піша акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 66): "Пры скланенні назоўнікі адрозніваюцца канчаткамі толькі ў адзіночным ліку. У множным ліку назоўнікі маюць агульную сістэму склонавых

канчаткаў. І толькі ў родным і творным склонах у частцы назоўнікаў назіраюцца адрозненні, якія залежаць ад граматычнага роду назоўніка і тыпу асновы".

Гэтыя адрозненні найперш датычаць словаформаў роднага склону, дзе апрача генералізаваных канчаткаў *-аў(-оў)*, *-яў(-ёў)* выкарыстоўваюцца і два наступныя: а) нулявы канчатак (*дарог, ног, рук*) і б) *-ей* (*гусей, людзей, чарцей*). Канчаткі *-оў/-аў/-яў* уласцівыя словаформам назоўнікаў роднага склону множнага ліку ўсіх трох скланенняў — першага: *братоў, сватоў, гарадоў, мястэчкаў, тэлефонаў, палёў*; другога скланення: *просьбаў, пасмаў, роляў, доляў*; трэцяга: *печаў, рэчаў, сувязяў, плыняў, арцеляў, доляў*.

Нулявы канчатак, як сцвярджае "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1962. С. 72—73), маюць назоўнікі, аснова якіх канчаецца адным зычным: *рам, рыс, моў, веж, меж, руж, мар, кніг, хваль, жней, змей*. Але ж у гэтае "пракрустава ложа" ніяк не ўкладваюцца словаформы згаданых назоўнікаў у класікаў беларускай літаратуры: *бярозаў* (Я.Купала), *межаў, хвояў, струнаў, глыбіняў, шыбаў, кнігаў, размоваў, паляў, водаў, крыгаў, гораў, хваляў, падзеяў* (Я.Колас), *церніцаў* (К.Крапіва), *зораў, каляінаў, жанчынаў* (М.Танк), *галінаў* (П.Броўка), *ягадаў* (А.Куляшоў), *сем'яў, плітаў, бібліяў, жылаў, багіняў, манераў, вышыняў* (Я.Брыль). Скарыстанне гэтых словаформаў граматысты згаданага даведніка беспадстаўна лічаць "адхіленнем ад агульнай літаратурнай нормы" (с. 72). Але паўстае натуральнае пытанне: дык хто ж устанаўляе норму: выдатныя знаўцы мовы, класікі літаратуры ці аўтар раздзелу, перапісаўшы яго з расійскай граматыкі? Новая акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 91) падае ўжо словаформы назоўнікаў з асновай на адзін зычны і з канчаткам *-яў*: *доляў, паляў, пядзяў, роляў, цаляў, шаляў, леяў, рэяў*. Але і ёю ўсё яшчэ кваліфікуюцца згаданыя ў творах нашых класікаў словаформы на *-аў(-яў)* як нелітаратурныя, а нармаванымі прызнаюцца вось гэтыя куртатыя словаформы з нулявым канчаткам: *веж, меж, мэт, шый, фей, жмень, баз* і пад. Аднак у найноўшым падручніку "Курс беларускай мовы" (Мн., 1996) чытаем: "У апошні час назіраецца тэндэнцыя да ўжывання з канчаткамі *-оў(-ёў) // -аў(-яў)* і назоўнікаў жаночага роду, якія традыцыйна ўжываліся з нулявым канчаткам: *гадзінаў, краінаў, хатаў, песняў* і г. д. Такія варыянты дапусцімыя, аднак перавага павінна аддавацца чыстай аснове" (с. 316). Гэтая заўвага, пададзеная ў спасылцы, як бачым, амаль нічога не мяняе, бо аўтары кнігі засталіся на пазіцыі сваіх папярэднікаў. Узорам для іх ёсць больш "прэстыжная" — расійская — мова. Пра гэта сведчыць і небеларускае слова *"дапусцімыя"* (пабеларуску *дапушчальныя*) і сам калькаваны лад тэксту заўвагі.

Між тым моўная практыка нашых дзён (калі не трэба трымаць у памяці, арыентавацца на ўсесаюзны ўзор) сведчыць, што назоўнікі I скланення жаночага роду (а не толькі II скланення — мужчынскага і ніякага роду) звычайна выкарыстоўваюцца ў нацыянальным друку, у тэрміналагічных слоўніках, у творах чуйных да слова аўтараў у словаформах роднага склону множнага ліку звычайна з канчаткам *-аў(-яў)* (а не з "чыстай асновай"). Вось толькі некаторыя прыклады.

З кнігі "Праблемы навуковай беларускай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі" (Мн., 1995): *структурныя блокі катэгорыяў* (с. 65), *гэтых з'яваў* (с. 64), *для розных групаў* (с. 65), *зацяжных войнаў і эпідэміяў* (с. 183), *мераў, алгебраў, каардынатаў* (с. 260—261), *навуковых установаў*.

З штотыднёвіка "Наша слова" (1997. № 14): *менскай і барысаўскай мэрыяў, дзвюх гадзінаў, нацыянальных сілаў, гэтых публікацыяў, нашых акцыяў, грамадскіх арганізацыяў, да праблемаў краіны, вялікіх стратаў*.

З часопіса "Роднае слова" (1997. № 3): *аналіз з'яваў жыцця* (с. 33), *літаратурных традыцыяў* (с. 47), *асабістых крыўдаў, шматлікіх легендаў, беларускіх земляў* (с. 103), *жывёлаў* (с. 155), *культ змеяў* (с. 157), *культурных раслінаў, страваў, праблемаў* (с. 184), *песняў* (с. 222); "Роднае слова" (1997. № 4): *сімфоніяў* (с. 21), *песняў-малітваў* (с. 27), *брусніцаў* (с. 29), *формаў* (с. 37), *сілаў* (с. 40), *з'яваў* (с. 41), *праяваў* (с. 44), *вяршыняў, пасадаў, вышыняў* (с. 103, 104), *групаў* (с. 112), *нарадаў* (с. 114), *п'есаў* (с. 116), *драмаў, навэлаў* (с. 117), *перашкодаў, сцэнаў, операў* (с. 120), *замежных моваў* (с. 172); "Полымя" (1997. № 3): *крыўдаў* (с. 196), *ахвяраў* (с. 292); "Народная воля" (11.04.1997) у рубрыцы "Духоўны скарб": *з'яваў, ідэяў, нацыяў, перавагаў, умоваў, земляў, спецслужбаў, утопіяў, імперыяў*.

У.Арлоў, Г.Сагановіч. "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" (Свабода. 30.04.1997): *сілаў, войнаў, прычынаў, акцыяў, кафедраў, ордаў, межаў, перашкодаў, каля Сініх Водаў*.

"Народная воля" (30.04.97): *калегіяў, сотняў, ільготаў, ідэяў, дабротаў*.

Або назва верша К.Крапівы *"Ліга нацыяў"* (не *нацый*). У "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" (Мн., 1993): *ардынатаў, абсцысаў* (с. 51), *целаў, сілаў*.

Прыклады сведчаць, што ў словаформах назоўнікаў жаночага роду таксама асноўным канчаткам ёсць ***-аў(-яў)***. Калі нашыя граматыкі раяць выкарыстоўваць нулявы канчатак нават у словаформах з збегам зычных у аснове тыпу *норм, форм, іскр, рэформ, ферм, рыфм*, то гэта пярэчыць фанетычнай заканамернасці беларускай мовы, якая (заканамернасць) патрабуе падзелу збегу зычных на канцы слова, каб санорны апынаўся ў суседстве з галосным: *бабёр, карабель, рубель* — а не *бобр, карабль, рубль*. Таму натуральнымі і ёсць словаформы з канчаткамі ***-аў(-яў)***, дзе галосны *а(я)* нейтралізуе гэты збег, ставіць санорныя перад галоснай: *іскраў, нормаў, формаў* і пад. Словаформы ж кшталту *іскр, норм, форм* уласцівыя расійскай мове, дзе фінальны збег зычных з удзелам санорнага — звычайная з'ява: *бобр, корабль, рубль, форм, искр*.

Замена ў сучасным друку словаформаў жаночага роду з нулявым канчаткам у родным склоне множнага ліку на словаформы з канчаткам ***-аў(-яў)*** тлумачыцца тым, што формы з нулявым канчаткам — гэта вынятак з агульнай

сістэмы склонавай парадыгмы, якая мае 11 словаформаў з пазітыўным (выражаным рэальнымі гукамі) канчаткам і толькі адну з негатыўным (нулявым) канчаткам. Паводле закону аналогіі гэтая адна з 12 формаў таксама "хоча быць падобнай" на ўсе астатнія. Тым болей, што такіх пазітыўных словаформаў у мове — бальшыня, а нульфлексійныя абсалютна неўласцівыя назоўнікам трэцяга скланення і толькі зрэдку выкарыстоўваюцца ў назоўніках мужчынскага роду (як правіла, паралельна з пазітыўна-флексійнымі: *год* і *гадоў*, *салдат* і *салдатаў*). Да таго ж словаформы множнага ліку тыпу *год*, *салдат* і пад. граматычна непаўнацэнныя, яны аманімічныя формам адзіночнага ліку і таму ствараюць пэўную перашкоду на шляху паразумення іх семантыкі. Аднаскладовыя словаформы тыпу *сіл*, *зон*, *нор*, *рам*, *зор* беларускай мове неўласцівыя, яны збядняюць форму слова, робяць яе куртатай (меншай за пачатковую): *сіла* і *сіл*. Дый беларус слова *сіла* выкарыстоўвае звычайна ў форме адзіночнага ліку (а не множнага). Нагадаем у Якуба Коласа: "Мой родны кут, як ты мне *мілы*, забыць цябе не маю *сілы*" (па-расійску тут было б: "*мил*" і "*сил*").

Нулявы канчатак у сучасным нацыянальным друку захоўваюць толькі некаторыя словаформы з асноваю на **г**, **к**, **х**: *дарог*, *сох*, *рук*. Але і тут яны складаюць нязначную частку. Бо формы *дуг*, *кніг*, *крыг*, *фіг*, *вех*, *сох*, *стрэх* замяняюцца ў маўленчай практыцы нашых дзён на формы з канчаткам *-аў*: *кнігаў*, *дугаў*, *крыгаў*, *фігаў*, *рэкаў*, *вехаў*, *сохаў*, *стрэхаў*. І тут выразна выступае згаданая ўжо заканамернасць. Толькі калі аснова слова канчаецца збегам зычных з канцавым **к** і паміж папярэднім зычным і **к** узнікае беглы галосны, які нейтралізуе гэты збег, тады словаформа з нулявым канчаткам гучыць натуральна: *кніжка — кніжак*, *булка — булак*, *зорка — зорак*. Хоць і ў гэтым выпадку могуць быць паралельныя формы з канчаткам *-аў*: *булак* і *булкаў*, *зорак* і *зоркаў*, *птушак* і *птушкаў*. Але пераважаюць тут словаформы з нулявым канчаткам.

Назоўнікі трэцяга скланення, як сцвярджае "Граматыка беларускай мовы" (с. 84), маюць у родным склоне множнага ліку пасля губных і мяккіх зычных канчатак *-ей*, пасля шыпячых пад націскам *-эй*, не пад націскам *-аў*: *цяжкасцей*, *сенажацей*, *начэй*, *рэчаў*. Але далей у тэксце граматыка заўважае, што "ў мове мастацкай літаратуры] назоўнікі III скланення часта ўжываюцца з канчаткам *-яў* (пры мяккай аснове), *-аў* (пры аснове на шыпячыя)". І падаюцца прыклады назоўнікаў з твораў класікаў беларускай літаратуры, славутых пісьменнікаў: *вочкі даляў* (Я.Колас), *з густаты ночаў* (К.Чорны), *разнастайных трэляў* (З.Бядуля), *пахі сенажацяў* (П.Броўка), *дым печаў* (П.Галавач), *сярод сенажацяў* (М.Танк) ды інш.

У "Беларускай граматыцы" 1985 года (с. 93—94) ужо сцвярджаецца, што ў родным склоне побач з канчаткам *-ей* усе двухскладовыя і шматскладовыя назоўнікі з асновай на адзін зычны і большасць аднаскладовых назоўнікаў могуць мець і канчатак *-яў*: *аброцяў*, *арцеляў*, *бандэроляў*, *граняў*, *плыняў*, *скроняў*. І далей: "З канчаткам *-аў(-яў)* ужываюцца назоўнікі *рэч*, *флеш*, *шчолач*, *даль*: *рэчаў*, *флешаў*, *шчолачаў*, *даляў*".

Але здзіўляе безапеляцыйнае сцверджанне гэтай граматыкі, што "назоўнікі з асновай, якая заканчваецца збегам зычных, маюць ненаціскны канчатак *-ей*: *акалічнасцей, адлегласцей, асаблівасцей, верфей, лопасцей, мясцовасцей, плоскасцей, радасцей, чэцверцей* і г. д." Аднак чаму пры збегу зычных у аснове не можа быць канчатка ***-яў***, граматыка не тлумачыць. Як паказваюць яе прыклады, гэтыя словаформы нярэдка проста перанесеныя ў беларускую граматыку з расійскае: *чэцверцей (четвертей)* на месцы беларускай *чвэрцяў, плоскасцей (плоскостей), ведамасцей (ведомостей)* і пад. У расійскай мове канчатак ***-ей*** адзіны ў назоўніках трэцяга скланення: *моделей, пристаней, солей, связей* і пад. Апрача таго, яго маюць і назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на мяккі зычны і шыпячы: *автомобилей, дирижаблей, полей, дядей, мужей, ножей, плащей* і пад. У беларускай мове ў такім разе словаформы маюць канчатак *-яў(-аў), -ёў(-оў)*: *аўтамабіляў, дырыжабляў, палёў, дзядзькаў, мужоў, нажоў, плашчоў.*

Штучнасць ненаціскнога канчатка з літарай **е** ў назоўніках жаночага роду добра разумеў выдатны мовазнаўца 20-х гадоў прафесар Пятро Бузук, таму ён ужываў тут толькі **я** — як у словах жаночага роду другога, так і трэцяга скланення: Т. адз. *роляй, песняй;* Р. мн. *тых сенажацяй, гэтых даляй.* Гэтую норму засведчыў і БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча. "*З іншых асаблівасцяй слоўніка трэба адзначыць наступныя...*" У наш час тут стаў выкарыстоўвацца з той сама галоснай літарай **я** канчатак ***-яў*** — пад уплывам словаформаў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду першага скланення і жаночага роду другога скланення (*дахаў, дамоў, стужаў, межаў, фарбаў*). Гэтаму спрыяла і мена канчаткаў (як у словах *коней* і *коняў, грошай* і *грошаў*), а таксама мажлівасць чаргавання санорных *j-ў* (*сеj-аць* і *сяў-ба*). Мену націскнога канчатка ***-эй*** на ненаціскны ***-аў*** вызначае і акадэмічная "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1962. С. 84): "...назоўнікі з асновай на шыпячыя зычныя маюць націскны канчатак ***-эй***, а ненаціскны — ***-аў***". Прыкладам, *начэй — ночаў, пячэй — печаў.*

Моўная практыка нашых дзён выбірае менавіта беларускі генералізаваны канчатак *-яў(-аў, -оў, -ёў)* і ў словаформах назоўнікаў трэцяга скланення, незалежна ад таго, канчаецца іх аснова збегам зычных ці не. Вось некаторыя прыклады:

У Васіля Быкава: "Між тым існаваў пераканаўчы прыклад палітычнай культуры Блізкага Захаду, выпрацаваны ў выніку няпростага гістарычнага існавання ў выглядзе ўніверсальных *каштоўнасцяў*-імператываў: Рынку, Дэмакратыі, Правоў чалавека. Суверэннага існавання, нарэшце. Чаму б не запазычыць іх, калі не хапіла розуму ці *здольнасцяў* стварыць лепшыя" (Што можа чакаць беларускі народ ад ідэалагічных імпатэнтаў / / Народная воля. 03.05.1997).

У публікацыі У.Арлова і Г.Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" (Свабода. 30.04.1997): асновы шляхоцкіх *вольнасцяў*, без асаблівых *цяжкасцяў, валасцяў* ды інш.

У Максіма Танка ("Дзённікі"): умацаванне творчых *сувязяў*, прыватных

*дробязяў*, гаючых *мазяў* (Полымя. 1997. № 3). Кніга *споведзяў* (Тамсама. С. 188).

"Наша слова" (1997. № 14): наладжванне новых *сувязяў*, камісія займаецца праблемай вяртання культурных *каштоўнасцяў*.

"Роднае слова" (1997. № 4): Элегія непражытых *радасцяў* жыцця, зімовых *іпастасяў* (с. 24) (аўтар — прафесар У.Конан).

"Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі" (Мн., 1994): *плоскасцяў*, *імавернасцяў*, *паслядоўнасцяў* (с. 260).

"Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" (Мн., 1993): выбар з дзвюх *магчымасцяў* (с. 19), матрыца пераходных *імавернасцяў* (с. 39). ЛіМ (03.10.1997. Кола дзён): *прадузятасцяў*, *дамоўленасцяў*; *прыкрасцяў*, *вольнасцяў* (с. 3).

Як бачым, канчатак ***-яў(-аў)*** маюць назоўнікі і пры збегу зычных у аснове: *каштоўнасцяў*, *плоскасцяў*, *паслядоўнасцяў*... Дый чаму ў адных выпадках пры збегу зычных граматыкі раяць выкарыстоўваць менавіта канчатак ***-яў(-аў)***: *прызбаў*, *просьбаў*, *бітваў*, *кегляў*, а ў іншых — гэты канчатак ужо не дазваляецца выкарыстоўваць: *аповесцей*, *каштоўнасцей*, *меншасцей*? Адказу ў іх мы не знойдзем.

Моўная практыка скрозь кіруецца лагічнай тоеснасцю, аналогіяй і выбірае тыя нормы, якія бачыць у выдатных майстроў слова. Да таго ж граматычныя даведнікі нярэдка пярэчаць адзін аднаму. Так, у 1987 годзе выйшлі з друку тры даведнікі: "Слоўнік беларускай мовы", "Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы", "Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія". У іх бачым розныя, нават супярэчныя рэкамендацыі ў выкарыстанні канчаткаў роднага склону множнага ліку ў словаформах назоўнікаў трэцяга скланення. Напрыклад, "Слоўнік беларускай мовы" бачыць у слове *печ* дзве нармаваныя словаформы: з канчаткам *-эй* і *-аў*. На с. 594 чытаем: "*печ*, *печчу*, мн. *печы*, *пячэй* і *печаў*". "Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы" вызнае за норму толькі адну словаформу — з канчаткам *-аў*. Тут на с. 138 чытаем: "*печ*. Т. скл. *печчу*, Р. мн. *печаў* (а не *пячэй*)". Прычым рэдактар абодвух слоўнікаў — той самы (М.Бірыла). У навучальным дапаможніку для ВНУ П.Шубы "Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія" сцвярджаецца (с. 72), што канчатак ***-аў(-яў)*** "трэба лічыць асноўным у словах *даляў*, *зданяў*, *напасцяў*, *трэляў* і некаторых іншых". Але ж у згаданым "Слоўніку беларускай мовы" асноўнымі ў гэтых словах лічацца словаформы з канчаткам *-ей*, а варыянтамі — з ***-яў***: *далей* і *даляў*, *зданей* і *зданяў*, *трэлей* і *трэляў*. Дарэчы, у складаных выпадках гэты слоўнік зусім не паказвае словаформаў роднага склону множнага ліку, напрыклад, у словах *высь*, *напасць* ды інш.

Згаданы слоўнік, выдадзены дзесяць гадоў таму, не спрыяў нармалізацыі склонавых формаў назоўнікаў множнага ліку. І ягонай рэкамендацыі — выкарыстоўваць у гэтых словаформах канчатак *-ей* ці нулявы — наш перыядычны друк не прытрымліваўся раней і не трымаецца сёння. Нормай, якая стасуецца з сістэмай мовы, адпавядае ёй, служыць выкарыстанне тут у пераважнай бальшыні словаў канчаткаў ***-оў(-ёў)***, ***-аў(-яў)***, а не ***-ей*** ці нулявога. Дарэ-

чы, пры выкарыстанні натуральнага канчатка *-яў* (а не *-ей* ці нулявога) пазбягаецца аманімія назоўнікавых словаформаў і прыслоўяў: *гэтых даляў* і *ішоў далей.*

Як бачым, ідзе натуральны працэс выраўноўвання і словаформаў роднага склону на ўзор усіх астатніх склонаў, якія не маюць адрозненняў, звязаных з тыпам скланення. Яго прыняў на сябе генералізаваны канчатак *-аў(-яў) / -оў(-ёў).*

Гэтую заканамернасць засведчылі і тэрміналагічныя слоўнікі, дзе чытаем: "У назоўніках роднага склону множнага ліку, як правіла, паслядоўна ўжываецца поўны канчатак *-аў(-яў): алгебраў, рэштаў, адхіленне нябесных целаў, паралельных сілаў, матрыца пераходных імавернасцяў, вось абсцысаў, вось ардынатаў*" (Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн., 1993. С. 8 ды інш.). Паслядоўна выкарыстоўваецца канчатак *-аў (-яў), -оў (-ёў)* і ў пазнейшых па часе выдання тэрміналагічных слоўніках — "Руска-беларускім слоўніку па машынабудаванні" (1998): *хуткасцяў, рабочых месцаў, стратаў, каардынатаў* ды іншыя; а таксама ў "Руска-беларускім фізічным слоўніку" (1999): *лінзаў, сістэмаў, малекулаў, масаў, целаў, з'яваў, радыёхваляў, фазаў, лініяў, хуткасцяў, атамных ядраў, планетаў, блізнятаў, сумаў.*

### 3.2. Прыметнікавае формаўтварэнне і яго фарматывы

**3.2.1. Словаформы прыналежных прыметнікаў і яго фарматывы.** Словаформы прыналежных прыметнікаў выяўляюць у літаратурнай мове два тыпы словазмянення: 1) субстантыўны (назоўнікавы) з нулявым канчаткам (мужчынскі род) ці з канчаткам *-а* (жаночы і ніякі род) у назоўным склоне (пры неадушаўлёных назоўніках — і ў вінавальным, калі ён супадае з назоўным, або з канчаткам *-у* (жаночы род): *буслава гняздо, матчына хустка, удовін сын, бацькаву рукавіцу;* 2) ад'ектыўны тып словазмянення — з прыметнікавымі канчаткамі ў ускосных склонах: Р. *буславага гнязда* (як і *новага*), *матчынай хусткі* (як і *новай, добрай*), *удовінага сына* (як і *роднага*) і г. д.

У расійскай мове субстантыўныя (назоўнікавыя) канчаткі маюць прыналежныя прыметнікі не толькі ў назоўным (вінавальным — пры неадушаўлёных назоўніках), але таксама ў родным і давальным склонах: Н. *Мамаев курган, Прометеев огонь;* Р. *Мамаева кургана, Прометеева огня;* Д. *Мамаеву кургану, Прометееву огню.* Адсюль — з расійскае мовы — яны былі перанесеныя і ў беларускія тэксты (для хутчэйшага зліцця моваў). Іх бачым не толькі ў перыядычным друку, але і ў спецыяльным даведніку — "Слоўніку цяжкасцей беларускай мовы" (Мн., 1987). На с. 141 чытаем: "*Праметэеў: праметэеў агонь.* Скланенне: Р. *праметэева агня,* Д. *праметэеву агню...*" Гэты тэкст поўнасцю супадае з аналагічным у "Словаре грамматических трудностей русского языка", пра што сведчыць і словаформа *агня* (замест *агню*). Аднак акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 115) вызначае наступную норму: Р. *дзядзькавага,* Д. *дзядзькаваму.* Гэтае

нормы і трэба трымацца: Р. *праметэевага агню*, Д. *праметэеваму агню*; Р. *Мамаевага кургана*, Д. *Мамаеваму кургану*.

У новай працы тых сама аўтараў (Г.Арашонкава, В.Лемцюгова. Кароткі слоўнік беларускай мовы. Мн., 1994. С. 103) згаданая памылка, паказаная намі ў 1989 годзе ў "Полымі" (№ 11. С. 208), ужо выпраўленая. На с. 103 чытаем: "Р. *праметэевага агню*, Д. *праметэеваму агню*".

**3.2.2. Словаформы якасных прыметнікаў і іх фарматывы. 3.2.2.1. Поўныя і кароткія формы якасных прыметнікаў і іншых дапасаваных словаў.** Кароткую форму маюць у беларускай мове прыналежныя прыметнікі. Набываюць яе якасныя прыметнікі і дзеепрыметнікі ў функцыі выказніка, і таксама фіксуецца яна ў асобных займенніках (*гэта, наша, ваша*).

Як норму кароткую форму маюць прыналежныя прыметнікі назоўнага склону, а таксама вінавальнага ў спалучэнні з неадушаўлёнымі назоўнікамі: *удовін сын, бабіна хустка, буслава гняздо* (і ўбачыў *буслава гняздо*), *братавы дакументы, Надзіны падарункі*. Страчваючы значэнне індывідуальнай прыналежнасці асобе ці жывой істоце і набываючы больш шырокую семантыку ўласцівасці, прыналежныя прыметнікі выступаюць у поўнай форме: *авечая галава, курыная слепата, барановы лой, лісіны каўнер*. Напрыклад, у "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 77) чытаем: "*Баброевая хатка. Баброевая шапка*".

У гутарковай мове і творах мастацкай літаратуры поўную форму могуць набываць прыналежныя прыметнікі і ў назоўным (і вінавальным — пры неадушаўлёных назоўніках) склоне: "...Сегенецкі ў *братавую* хату носа не патыкаў" (К.Чорны). "Белае *Ларысінае* адзенне першае кінулася ім у вочы" (Р.Мурашка).

На выкарыстанне поўнае формы замест кароткае ўплывае найперш аналогія — выштурхоўванне кароткае формы як адметнасці адной словаформы з дванаццаці (пры неадушаўлёных назоўніках — дзвюх). Дый прыналежных прыметнікаў у мове значна менш, чым адносных, а яны маюць толькі поўную форму.

"Кароткая форма прыметніка у сучаснай беларускай мове ўжываецца рэдка... У ролі азначэння яна наогул не сустракаецца", — справядліва зазначаецца ў кнізе "Беларуская мова: Энцыклапедыя" (Мн., 1994. С. 435). У функцыі выказніка кароткую форму могуць набываць якасныя прыметнікі жаночага і ніякага роду і радзей — мужчынскага роду і множнага ліку. Гэта бачым у паэтычных творах, у фраземах, прыказках, дзе кароткая форма звычайна вымагаецца рытмікай і рыфмай. А ўвогуле кароткія формы якасных прыметнікаў не маюць пашырэння ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Іх ролю бяруць на сябе поўныя формы і ў ролі выказніка. Гэта выразна відаць на выкарыстанні словаформаў жаночага і ніякага роду, не кажучы ўжо пра мужчынскі род і словаформы множнага ліку. Вось некаторыя прыклады: "Калі кожны, у каго засталася жывая і чуйная душа, памкнецца хаця б проста ахінуць далонямі

парастак мовы, які, відавочна, адрадзіўся і трохі падняўся над патаптанай глебай за апошнія гады. Проста ахінуць — і тое *вартае* павагі" (Вольга Іпатава. Ахінуць далонямі). "А на гэта *патрэбныя* значныя сродкі. Нам *патрэбная* літаратура. А сімваламі нашага рэгіёну сталі абрыс возера Байкал і партрэт Чэрскага, імя якога *вядомае* ва Усходняй Сібіры кожнаму" (Наша слова. 1996. № 44). "Каму ты там *патрэбны*?" (Полымя. 1996. № 10. С. 91). "Большасць турыстаў добра *знаёмыя* між сабою і сядзяць парамі" (Тамсама. С. 18). "Курдыянка, ты мусіш чакаць сваёй часіны, сваёй долі, якая *невядомая*, якой не відно" (Тамсама. С. 165). "Адзначым, што на сённяшні дзень ніводнае прыватнае пісьмо паэта *невядомае*" (Тамсама. С. 216). "Аб'яднанне двух пачаткаў — *магчымае*" (ЛіМ. 08.11.96). "Наталлі Арсенневай увогуле *ўласцівая* пазіцыя адстароненага назірання. Найбольш выяўленая ў творчасці 20—30-х гадоў" (Ала Сямёнава. Лёс і над лёсам // Наталля Арсеннева. Яшчэ адна вясна. Мн., 1996. С. 13). "Усе, каму *дарагія* гісторыя краю і святая памяць, прыйшлі ў дзень нараджэння Божай маці да будынка касцёла" (ЛіМ. 03.10.1997).

Выкарыстанне поўнае формы прыметнікаў множнага ліку вымагаецца тым, што яна дае магчымасць размежаваць розныя граматычныя значэнні: значэнне множнасці і значэнне адзінкавасці (у мужчынскім родзе). Напрыклад: " — Як брат Міро?" — "*Жывы-здаровы*". — "Як суседзі, знаёмыя?" — "Усе *жывыя, здаровыя*", — запэўніў адказам малодшы брат" (Полымя. 1996. № 10. С. 151).

А ўжыванне поўнае формы жаночага і ніякага роду дазваляе ўнікнуць аманіміі кароткіх формаў гэтых прыметнікаў і адпаведных гучаннем (напісаннем) прыслоўяў. Параўнаем: 1) *Гэтае выданне будзе **цікава і карысна** студэнтам і вучням.* 2) *Гэтае выданне будзе **цікава і карысна** пачытаць студэнтам і вучням.* У першым сказе прыметнікі *цікава* і *карысна* супалі з аманімічнымі прыслоўямі, якія бачым у другім сказе. Такім чынам, застылыя ў адной форме (назоўнага склону) кароткія формы прыметнікаў успрымаюцца як штучныя, яны не адрозніваюцца ў гучанні і напісанні ад адпаведных прыслоўяў, сваімі фарматывамі (канчаткамі) не размяжоўваюць катэгорыі роду (і ніякі і жаночы род маюць канчатак ***-а***: *выданне цікава і карысна* і *кніга цікава і карысна*). Усё гэта і вымагае выкарыстаць поўную форму, якая дазваляе паставіць гэтыя прыметнікі і ў творным склоне, унікнуць аманіміі з прыслоўямі і дакладна перадаць значэнне роду: *Гэтае выданне будзе **цікавае (цікавым)** і **карыснае (карысным)** студэнтам і вучням.*

Поўная форма стала ў наш час ці не адзінаю і ў дзеепрыметніках мужчынскага роду і ў множным ліку. Яе паслядоўна выкарыстоўваюць сёння нацыянальныя выданні, беларускія газеты і часопісы: "У Іркуцку ёсць музей народнага дойлідства, дзе *сабраныя* дамы бурацкія, казацкія ды ўсіх іншых народаў, што жывуць у краі" (Наша слова. 1996. № 44). "Усе лепшыя месцы на рынку былі, вядома, *занятыя*" (Полымя. 1996. № 10. С. 25). "Адны *задаволеныя*, другія *расчараваныя*, як звычайна" (Тамсама. С. 31). "Новымі чле-

намі-карэспандэнтамі АНБ *абраныя*: па аддзяленню фізікі...” (Звязда. 21.12.1996). “Толькі на справе аказваецца, што я як грамадзянін Рэспублікі Беларусь гэтага права *пазбаўлены*” (Народная воля. 1996. № 121).

Выкарыстанне поўнае формы ў множным ліку вымагаецца патрэбаю размежаваць розныя граматычныя значэнні — адзіночнага і множнага ліку: *выкарыстаны (матэрыял)* і *выкарыстаныя (матэрыялы)*. Да таго ж трэба мець на ўвазе, што дзеепрыметнік — гэта ж прыметнік (хоць і дзеясловўны), ён змяняецца ў родзе, ліку і склоне. Нярэдка дзеепрыметнікі ад'ектывуюцца (пераходзяць у звычайныя прыметнікі). А прыметнікі становяцца паступова поўнасцю дапасавальна-скланяльнымі словамі. Гэтую сваю якасць яны перадаюць і іншым дапасавальным словам, у іх ліку і дзеепрыметнікам.

Набываюць (і досыць актыўна) поўную форму ў наш час і дзеепрыметнікі жаночага і ніякага роду: “Грунтоўна *апісаная* барацьба і пакутніцтва падляскіх беларусаў-уніятаў за сваю веру” (Наша слова. 1996. № 44). “Найперш я сама *зацікаўленая* як мага лягчэй прамінуць мяжу” (Полымя. 1996. № 10. С. 21). “І жыццё нашае *перакручанае*, да скону дзён тваіх нейкай скулаю за цябе *спланаванае*” (Тамсама. С. 102). “Твая душа *сатканая* з вясёлак і зарніц” (Наталля Арсеннева).

І тут выкарыстанне поўнае формы дазваляе размежаваць дзеепрыметнікі і аманімічныя прыслоўі, дакладна перадаць катэгорыю роду дзеепрыметніка. Параўнаем: 1) *Яна* ***зацікаўлена*** *ў нашай сустрэчы*. 2) *Яна* ***зацікаўлена*** *паставілася да нас*. 3) *Яна* ***зацікаўленая*** *ў нашай сустрэчы*. У трэцім сказе бачым натуральную форму дзеепрыметніка. І гэта адпавядае сінтэтычнаму ладу нашай мовы, дзе граматычныя значэнні выяўляюцца ў формавых паказчыках (найчасцей — канчатках) самога слова, а не па-за словам, як у аналітычных мовах (балгарскай, англійскай ды інш.).

Поўныя формы сталі сёння надта актыўна ўжыванымі і ў абагульнена-якасных займенніках ***наш, ваш, гэты*** пры выкарыстанні іх у словаформах жаночага і ніякага роду (*нашая, нашае; вашая, вашае; гэтая, гэтае*) і множнага ліку (*нашыя, вашыя*). Поўная форма і раней актыўна выкарыстоўвалася беларускімі пісьменнікамі, але ў афіцыйных кніжных стылях пазбягалася, каб не супярэчыць усесаюзнаму стандарту. Напрыклад, словаформы займенніка ***гэты*** ў мужчынскім родзе і множным ліку маюць натуральныя фарматывы (канчаткі) поўнае формы: *гэт-ы, гэт-ыя*. І яны выступаюць як кадыфікаваныя (замацаваныя ў правілах граматыкі). А вось у жаночым і ніякім родзе — невядома чаму — кароткую форму: *гэта кніга, гэта вядро*. Акадэмічная “Граматыка беларускай мовы” (с. 283) таксама прызнае, што займеннік *гэты* ў жаночым і ніякім родзе можа мець поўную форму: *гэтая хата, гэтае поле*. Аднак поўная форма “не з'яўляецца літаратурнай нормай”. Праўда, чаму гэтая форма — ненармаваная, граматыка не кажа. А між тым такія словаформы бачым у нашых знаных пісьменнікаў: “Каб *гэтае* здарэнне раней, у ранейшай яго звычайнай абстаноўцы, кравец бы охкаў, тросся, гаварыў бы бесперапынна...” (К.Чорны). “Нібы рвалася на кавалкі цішыня *гэтая*...” (М.Лынькоў). “Ларысе зусім не хацелася гаманіць на *гэтую* тэму”

(Р.Мурашка). Кароткую, аманімічную для двух родаў, словаформу кадыфікавалі насуперак логіцы, відаць, таму, каб не разыходзіцца з усесаюзным стандартам — расійскаю мовай. Але ж у расійскай мове адпаведны займеннік і ў мужчынскім родзе і множным ліку мае кароткую форму (*этот*, *эти*), а ў беларускай — поўную (*гэты*, *гэтыя*). Да таго ж словаформы жаночага і ніякага роду арфаграфічна дыферэнцаваныя ў расійскай мове: *эта книга*, *это поле*.

Кароткая форма *гэта* заканамерная толькі з прадметным значэннем, дзе яна выкарыстоўваецца ў ролі дзейніка, або з значэннем звязкі ці часціцы: "Трэба берагчы сваю нацыянальную культуру, мову, гістарычную спадчыну: *гэта* — нашыя святыні". "Жыць пад пятою акупантаў і маўчаць, па-рабску выконваючы іх волю — *гэта* злачынства" (Наша слова). "Чаго *гэта* ты так разрагатаўся?"

Пад уплывам поўных прыметнікаў і формаў іншых абагульнена-якасных займеннікаў словы ***ваш, наш*** у мове мастацкіх твораў, гутарковай мове, сучасным перыядычным друку набываюць адметныя для жаночага і ніякага роду канчаткі ***-ая*** і ***-ае*** і поўную форму ў множным ліку: ***-ыя***: *вашая і нашая хустка, вашае і нашае адзенне, вашыя і нашыя рукавіцы:* "Байцы ж *нашыя* — героі" (Я.Купала). "Ён пра *нашае* свята дазнаўся з газет" (А.Куляшоў). "За *нашае* права мы будзем змагацца" (П.Глебка). "*Нашае* маўчанне, *нашая* пасіўнасць гэтую бездань адчувальна набліжаюць" (В.Іпатава). "*Нашая* мэта — захаванне нас як народу ў замежжы" (Наша слова. 1996. № 44). "Божа, ратуй душы *нашыя*" (Полымя. 1996. № 10. С. 152).

Яны — гэтыя поўныя формы: *вашая, вашае, вашыя* і *нашая, нашае, нашыя* — узаконеныя выкарыстаннем у творах славутых майстроў слова — мусяць лічыцца і кадыфікаванымі, літаратурнаю нормаю.

Поўная форма прыналежных займеннікаў *ваш, наш* у словаформах жаночага (*вашая, нашая*) і ніякага (*вашае, нашае*) роду падтрымліваецца і прыналежнымі займеннікамі *іхняя, іхняе; ягоная, ягонае*, утворанымі ад формаў асабова-прыналежных займеннікаў *іх* і *яго* (*іх-н-і, яго-н-ы*). Гэтыя словы (*іхні, іхняя, іхняе; ягоны, ягоная, ягонае*) апошнім часам набылі статус нарматыўных лексічных адзінак і выкарыстоўваюцца не толькі ў мастацкім, але і навуковым стылі. Напрыклад: "*Іхны*. Абл. *Іхні*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 565).

**3.2.3. Словаформы прыметнікаў і іншых дапасаваных словаў у родным і творным, а таксама давальным і творным склонах адзіночнага ліку і іх фарматывы.** Беларускай мове ўласцівыя словаформы прыметнікаў, а таксама дзеепрыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў і абагульнена-якасных займеннікаў роднага склону адзіночнага ліку з двухскладовым канчаткам ***-ое, -ае (-яе)***: *для маладое, упрыгожанае, восьмае, нашае гаспадыні*. Гэтыя канчаткі не толькі больш мілагучныя, чым аднаскладовыя (*маладой, упрыгожанай, восьмай, нашай*), але дазваляюць размяжоўваць розныя склонавыя формы — роднага і творнага склону: *прыдатны падарунак для (каго?) маладое гаспадыні* і *ганаруся (кім?) маладой гаспадыняй*.

Гэтае размежаванне добра разумелі ў адраджэнскіх 20-х гадах. Словаформы на *-ое, -ае(-яе)* выкарыстоўвалі не толькі ў гутарковым і літаратурна-мастацкім стылі, але і ў кніжных стылях, напрыклад навуковым. Так, кніга Максіма Гарэцкага мела назву "*Гісторыя беларускае літаратуры*". У пазнейшы час, у выніку выраўноўвання граматычнага ладу нашае мовы на расійскі ўзор, гэтую адметную форму роднага склону неабгрунтавана занядбалі.

Беларуская мова мае адмысловыя словаформы для прыметнікаў (і іншых дапасаваных словаў) давальнага і творнага склонаў: для давальнага склону з канчаткам ***-ай(-яй,-ой)***: *прысвечаны* (каму?) *святой Еўфрасіні* і *ганарымся* (кім?) *святою Еўфрасіняй*.

**3.2.4. Словаформы ступеняў параўнання якасных прыметнікаў і іх фарматывы.** Якасныя прыметнікі маюць дзве ступені параўнання: вышэйшую і найвышэйшую. Словаформы ступеняў параўнання бываюць сінтэтычныя (простыя) і аналітычныя ("складаныя").

*Аналітычныя* формы *вышэйшай* ступені складаюцца з якаснага прыметніка і слова з граматычным значэннем ступені (часціцы меры і ступені) ***больш*** *(болей)*, ***менш*** *(меней)*: *больш дысцыплінаваны, менш адказны*.

*Найвышэйшая* ступень складаецца з якаснага прыметніка і слова ступені ***найбольш*** *(найболей)*, ***найменш*** *(найменей)* ці слова ***самы***: *найбольш падрыхтаваны, найменш прыдатны, самы таленавіты*.

Парушаюць норму словаформы, якія складаюцца з словаў *больш* і *найбольш (менш* і *найменш)*, *самы* і формаў вышэйшае ступені прыметніка: *больш спялейшы, менш падрыхтаванейшы, самы смялейшы, найбольш спрытнейшы*. "Трактат Буднага "Пра *найбольш важнейшыя* палажэнні хрысціянскай веры" пераважна палемічны" (Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995. С. 55). "Ды *больш глыбейшай* падасновай усіх працэсаў была тая філасафічнасць" (Роднае слова. 1993. № 3. С. 3).

Недарэчнасць такіх словаформаў у тым, што ў іх двойчы (формамі абодвух словаў) перадаецца значэнне ступені параўнання: *больш важнейшы* — замест нармаванага *больш важны; найбольш важнейшы* — замест *найбольш важны*. Такое дубляванне толькі зацямняе сэнс. Для ўзмацнення эмацыйнага эфекту ў такім разе выкарыстоўваюцца замест слова *больш* ці *найбольш* часціцы ***яшчэ*** або ***куды***: *куды цікавейшы, яшчэ весялейшы*. Або да нарматыўнае аналітычнае словаформы вышэйшае ступені дадаецца часціца ***яшчэ*** ці ***куды***: *куды больш цікавы, яшчэ больш знакаміты*.

Сінтэтычныя словаформы ступеняў параўнання — гэта афіксавыя ўтварэнні. 1. ***Вышэйшая ступень*** утвараецца далучэннем да асновы якаснага прыметніка акцэнтавага суфікса ***-ейш-(-эйш-)*** і адпаведнага родавага канчатка, які паказвае на дапасаванне прыметніка да назоўніка: *спрытны — спрытн-ейшы скакун, прыгажэйшы малюнак*. У гутарковай мове на месцы націскнога суфікса ***-ейш-(-эйш-)*** можа выступаць неакцэнтавы ***-айш-***: *вышайшы, дужайшы, шырайшы* ці суфікс ***-ш-***: *старшы сын, дужшы хлопец*.

Нельга лічыць нармаванымі ўтварэнні з суфіксам *-ей(-эй)*: *дом вышэй, вучань смялей*, бо гэта — нязменныя словы, якія ў беларускай мове выкарыстоўваюцца як прыслоўі (а не прыметнікі). Гэта ў расійскай мове вышэйшая ступень параўнання прыметніка супадае з вышэйшаю ступенню параўнання прыслоўя: *он смелее* (прыметнік) і *сказал смелее* (прыслоўе). У друку сустракаецца механічны перанос нормаў расійскае мовы ў беларускую: "Ісціна *даражэй* за ўсё" (Звязда. 11.03.1993). "Бацькі *мудрэй*", — падумаў я" (Наша слова. 20.01.1993).

2. ***Найвышэйшая ступень*** — гэта прэфіксавае ўтварэнне: да сінтэтычнай формы вышэйшай ступені далучаецца прэфікс ***най-***: *старэйшы — найстарэйшы, смялейшы — найсмялейшы*. Зрэдку гэтая форма ўтвараецца конфіксавым (прыстаўкава-суфіксавым) спосабам: *вялікі — найвялікшы, новы — найноўшы*.

Адхіленні ад літаратурнае нормы: 1) утварэнні з прыстаўкаю ***най-***, якая далучаецца да якаснага прыметніка: *найсветлы* (замест нармаванага *найсвятлейшы*), *найадважны (найадважнейшы)*; 2) выкарыстанне прыслоўяў найвышэйшай ступені: *ён найстарэй з нас* (на месцы нармаванага *ён найстарэйшы з нас*).

У расійскай мове найвышэйшая ступень параўнання ўтвараецца суфіксавым спосабам — далучэннем акцэнтавага суфікса ***-ейш-*** ці ***-айш-*** да асновы якаснага прыметніка: *мудрый — мудрейший, краткий — кратчайший, великий — величайший*.

Словаформы найвышэйшай ступені параўнання могуць абазначаць лімітавую (самую высокую ці самую нізкую) ступень якасці прадмета без параўнання з якасцю іншых прадметаў: *адзін з найстаражытнейшых помнікаў, найбагацейшыя паклады карысных выкапняў*. Такое значэнне называюць *элятыўным* (ад лац. elativus — узвышаны, пераўзыдзены). У расійскай мове гэтае значэнне перадаецца бяспрэфікснымі словаформамі найвышэйшай ступені з суфіксамі ***-ейш-, -айш-***: *величайшие достижения, древнейшие поселения*. У выніку зблытвання заканамернасцяў расійскай і беларускай моваў нярэдка бачым выкарыстанне элятыўных бяспрэфіксавых формаў з суфіксам ***-ейш-(-эйш-)*** і ў беларускім друку: "*У бліжэйшыя суткі чакаецца воблачнае надвор'е...*" (калька з рас. "*В ближайшие сутки*"). Або: "*Тэкст звароту будзе надрукаваны ў бліжэйшых нумарах газеты...*"; "*Адзін з цікавейшых твораў*" (з рас. *в ближайших номерах, один из интереснейших*). У беларускай мове гэтыя значэнні перадаюцца формай найвышэйшае ступені: *у найбліжэйшыя суткі, у найбліжэйшых нумарах газеты, адзін з найцікавейшых твораў*. "Людзі ішлі да адной з *найкаштоўнейшых* святынь — абраза Божай Маці..." (ЛіМ. 03.10.1997). У гэтым значэнні (элятыўным) выкарыстоўваюцца прыметнікі і ў спалучэнні з прыслоўямі *надзвычай, надта, вельмі* і пад.: *надзвычай цікавая кніга; надта дасведчаны чалавек; вельмі старажытны горад*.

Такім чынам, тое, што ў расійскай мове перадаецца суфіксавымі (з ***-ейш-,***

-*айш-*) формамі, у беларускай — прыстаўкавымі (з ***най-***). Гэтую заканамернасць адлюстраваў і "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў: *найбагацейшы — богатейший, найбліжэйшы — ближайший, найбуйнейшы — крупнейший, найдрабнейшы — мельчайший, найразумнейшы — умнейший, найсаладзейшы — сладчайший, найцікавейшы — интереснейший, найцяжэйшы — труднейший, тягчайший, найшырэйшы — широчайший, найяснейшы — светлейший* (Т. 1. С. 731—732). Але на іншых старонках слоўніка бачым парушэнне гэтай заканамернасці, дзе беларускім формам вышэйшай ступені прыпісваецца неўласцівае ім значэнне найвышэйшае ступені ці элятыўнае: *бліжэйшы — ближайший, бліжэйшая задача — ближайшая задача, буйнейшы — крупнейший, дакладнейшы — точнейший; дакладнейшыя прыборы — точнейшие приборы.* Па-беларуску не *дакладнейшыя*, а *найдакладнейшыя* ці *вельмі дакладныя прыборы*, і толькі яны адпавядаюць рас. *точнейшие приборы.*

Функцыю расійскамоўных прыметнікаў на ***-ейший / -айший*** у беларускай мове могуць выконваць, апрача прыстаўкавых утварэнняў, таксама формы з суфіксам ***-утк-(-ютк-)***. Так, у перакладзе тэксту "*Тончайший* резиновый зонд с миниатюрным объективом на конце — главный помощник врача" бачым — "*Танюткі* гумовы зонд..." *Драбнюткі — мельчайший* (БРС-88).

Бяспрэфіксавыя словаформы з суфіксам ***-ейш-(-эйш-)*** па сваёй сутнасці не здатныя перадаць тое значэнне, якое маюць аналагічныя формы расійскай мовы на ***-ейший, -айший***. Так, адпаведнікам расійскае канструкцыі *ближайшая станция метро* не можа быць беларуская *бліжэйшая станцыя метро*, бо *бліжэйшая* — гэта толькі *больш блізкая* за нейкую іншую, а не за ўсе іншыя. *Ближайшая* — гэта *самая блізкая, найбліжэйшая*. Беларускай словаформе *бліжэйшая* адпавядае расійская *ближе*. Параўн.: *Гэтая станцыя **бліжэйшая** за тую — Эта станция **ближе** той.* Такім чынам, формы з суфіксам ***-ейш-(-эйш-)*** заканамерныя там, дзе ў расійскай мове выкарыстоўваюцца прыметнікі з суфіксамі ***-е, -ее(-ей)***: *этот дом выше — гэты дом вышэйшы* (за іншы); *день был светлее — дзень быў святлейшы* (за іншыя).

Асабліва засмечаная ненармаванымі словаформамі з суфіксам ***-ейш-(-эйш-)*** спартыўная і публіцыстычная тэрміналогія: *майстар вышэйшага класа* (рас. *высшего*) замест *найвышэйшага класа*; *карацейшая дыстанцыя* (рас. *кратчайшая дистанция*) замест *найкарацейшая*; *сустрэча на вышэйшым узроўні (высшем уровне)* замест *найвышэйшым узроўні*. Або ў транспарце: "*Сумленне — лепшы кантралёр*" (рас. *лучший*) замест натуральнага — *найлепшы кантралёр*. Гэтыя ўсе канструкцыі — альбо штучна скалькаваныя, альбо жыўцом перанесеныя з расійскае мовы. У нашай мове яны не маюць выразнага значэння, іх сэнс незразумелы, а пераклад расійскага тэксту з выкарыстаннем такіх псеўдаэквівалентаў — неадэкватны арыгіналу. Так, згаданы ўжо сказ "*У бліжэйшыя суткі надвор'е не зменіцца*" беларускаю нарматыўнаю моваю трэба было перадаць: *У наступныя суткі надвор'е не зменіцца.* Бо што значыць *бліжэйшыя суткі*? Гэта ж *бліжэйшыя* за пэўныя згаданыя, а не *самыя блізкія*, не *найбліжэйшыя*, не *наступныя*.

Словаформы з суфіксам **-ейш-(-эйш-)** патрабуюць абавязковага адказу: *за што?* (*бліжэйшыя, святлейшыя*) і таму элятыўнага значэння яны не перадаюць, яго выражаюць прыстаўкавыя формы (з **най-**).

**3.3. Лічэбнікавыя словаформы, іх фарматывы і словаўтваральныя структуры з іх удзелам.** У акадэмічнай "Беларускай граматыцы" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 130—131) справядліва сцвярджаецца: "Лічэбнікі *пайтара* ў спалучэнні з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду і *пайтары* ў спалучэнні з назоўнікамі жаночага роду ва ўсіх склонах маюць аднолькавую форму *пайтара* і *пайтары* і захоўваюць родавыя адрозненні". (Па радыё памылкова нярэдка падаюць: "Гэта працягвалася каля *палутара* гадзін".)

З згаданага заканамерна вынікае, што лічэбнікі *пайтара* і *пайтары* павінны мець гэтыя формы і калі выступаюць часткамі складаных словаў. Таму натуральнымі трэба лічыць утварэнні з захаваннем родавых формаў гэтых лічэбнікаў у першых частках складаных назоўнікаў і прыметнікаў: *пайтара месяца — пайтарамесячны* (курс навучання), *пайтары гадзіны — пайтарыгадзінны* (сход) (а не *пайтарагадзінны*).

Ад спалучэння *пайтары тоны* натуральная структура назоўніка *пайтарытонка* і прыметніка *пайтарытонны*. Форма *пайтаратонка*, якую падаюць слоўнікі (гл. ТСБМ, РБС-82 і інш.), — гэта калька расійскага *полуторатонка*, дзе першаю часткаю выступае *полутора* — форма роднага склону лічэбнікаў *полтора* (года) і *полторы* (недели). Беларускай мове словаформа *палутара* неўласцівая. Выкарыстанне яе — парушэнне літаратурнае нормы.

Гэтак жа скалькавалі і складаныя словы з першымі часткамі — колькаснымі лічэбнікамі жаночага роду *дзве, абедзве*, уніфікаваўшы іх ускосныя склоны з формамі мужчынскага роду і атрымаўшы штучныя ўтварэнні кшталту *двухвосевы, двухзменка* (на месцы натуральных *дзвюхвосевы, дзвюхзменка*).

Гэта падтрымлівалася і правапісам 1933 года, які патрабаваў, каб лічэбнікі *два, дзве* і *абодва, абедзве* мелі родавыя формы толькі ў назоўным склоне (дый у вінавальным, калі ён супадае з назоўным); у астатніх склонах форма жаночага роду знікала (як і ў расійскай мове): *дзве вясны, два дні*, але *двух вёснаў* (замест *дзвюх*) і *дзён*.

Змены і ўдакладненні правапісу 1957 года адхілілі гэтую недарэчнасць. У "Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959. С. 13) чытаем: "Лічэбнікі *два, дзве* і *абодва, абедзве* ў адпаведнасці з жывым вымаўленнем не ўніфікуюць родавых формаў і маюць наступныя канчаткі: *два, двух, двум; дзве, дзвюх, дзвюм..., абодва, абодвух, абодвум..., абедзве, абедзвюх, абедзвюм...*"

Але чаму гэтыя родавыя формы павінны ўніфікавацца, калі становяцца часткамі складаных словаў? Адказу на гэтае натуральнае пытанне даведнікі не даюць. Калі ісці ад здаровага розуму, то "ў адпаведнасці з жывым вымаўленнем" такой уніфікацыі родавых формаў не можа быць і ў частках

складаных словаў. Родавыя формы лічэбнікаў *два* і *дзве, паўтара* і *паўтары* павінны захоўвацца не толькі пры скланенні гэтых лічэбнікаў, але і пры выкарыстанні іх як частак складаных словаў.

У сучасным нацыянальным друку сталі актыўна выкарыстоўвацца такія натуральныя формы адлічэбнікавых частак у складаных словах: "Дыглосія (або *дзвюхмоўе*). *Дзвюхмоўе* і шматмоўе." (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн.: Тэхналогія, 1995. С. 94). "*Дзвюхкроп'е* (рас. двоеточие)" (Руска-беларускі слоўнічак па кнігазнаўстве. Мн., 1997.) "Завезлі столькі, што да *дзвюхтысячнага* хопіць" (Полымя. 1998. № 5. С. 85). "Працытуем віншавальны ліст Купалы рэдакцыі "Савецкай Беларусі" з нагоды выхаду яе *дзвюхтысячнага* нумара" (Г.Колас. Карані міфаў. Мн., 1998. С. 113). У "Руска-беларускім фізічным слоўніку" 1999 года: *дзвюхмерны, дзвюхвосевы, дзвюхшрубавы, дзвюхдарожкавы, дзвюхвадкасцевы, дзвюхкамерны, дзвюхлямпавы, дзвюхфазны* (с. 74—75).

Штучнае калькаванне, недарэчнае пазычанне вядзе да расхіствання нормаў, разбурае мову. На жаль, не абышлося без гэтага і ў новым Тлумачальным слоўніку, дзе на с. 430 бачым: "*Палутарка* — і, ж. (разм.) Грузавая машына грузападымальнасцю 1,5 тоны". Як магло ўтварыцца гэтае слова ў беларускай мове? Аніяк, бо няма ў нас *палутара*, а ёсць і ва ўскосных склонах родавыя формы *паўтара* і *паўтары*. Ад спалучэння *паўтары тоны* ўтварылася *паўтарытонка*, а скарочаны, сціслы яго варыянт *паўтарачка* — ад асновы *паўтар-(а)*, да якой далучыўся суфікс *-ачк(а)*: *паўтар-ачка*.

**3.4. Дзеяслоўныя словаформы і іх фарматывы. 3.4.1. Інфінітыў і яго фарматывы.** Інфінітыў (пачатковая форма дзеяслова) мае як норму фарматывы: **-ць** (пасля асновы на галосны: *піса-ць, збіра-ць*), **-ці** (пасля асновы на зычны: *нес-ці, вез-ці*) і **-чы** (пасля асновы на **г, к**: *маг-чы, сек-чы*). "Суфікс *-чы*, які ўзнік у выніку фанетычных зменаў канцавых зычных *г, к* асновы перад суфіксам інфінітыва *-ти*, мае невялікая колькасць дзеясловаў: *бегчы, берагчы, валачы, легчы, магчы, прэгчы, пячы, секчы (сячы), стрыгчы, сцерагчы, таўчы, урачы, цячы*" (Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 148). Фарматыў **-ч** (на месцы **-чы**) неўласцівы беларускай літаратурнай мове, яго не згадвае ніводная беларуская граматыка. Эквівалентамі расійскіх словаформаў на **-чь** у беларускай мове выступаюць інфінітывы на **-чы**, што і засведчылі перакладныя слоўнікі. Так, "Русско-белорусский словарь" 1982 года падае: *высечь — высекчы, засечь — засячы, засечься — засячыся, насечь — насячы, отсечь — адсячы* і пад. А вось "Беларуска-рускі слоўнік" 1988— 1989 гадоў падае на сваіх старонках і гэтыя ненарматыўныя формы: *абсеч, адсеч, дасеч, засеч, насеч, падсеч* ды інш. Дык дзеля чаго гэта? Дзеля хутчэйшага зліцця моваў?

Беларускай літаратурнай мове неўласцівы і інфінітыўны фарматыў **-сці**, які бачым у дзеясловах з асновай на зычны: *грабсці, дзяўбсці, скрабсці, скубсці, чаўпсці, храпсці*. Фіналь **-сці** ў нарматыўных словаформах (пасля

галоснай літары) паходзіць з старажытных *-дти, -тти*, дзе ў выніку дысіміляцыі на месцы першага **д** ці **т** узнік **с**: *идти —ісці, метти — месці*.

Літаратурнымі, нармаванымі лічацца толькі паралельныя формы *плыць* і *плысці, гніць* і *гнісці*.

**3.4.2. Словаформы абвеснага ладу і іх фарматывы. 3.4.2.1. Нетэматычныя дзеясловы і іх словаформы.** Дзеясловы ***есці*** і ***даць*** захавалі ў беларускай літаратурнай мове свае спрадвечныя формы: *ясі, дасі, ямо, дамо, ясце, дасце*. Гэтыя формы бачым у творах класікаў беларускай літаратуры, знакамітых нашых сучасных пісьменнікаў: Янкі Брыля, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Вячаслава Адамчыка і інш. Напрыклад: "Абжытасць новага жылля не толькі ў тым, што мы тут ужо спім, *ямо*, працуем" (Я.Брыль. Вячэрняе. Мн., 1994. С. 233). У "Полымі" № 6 за 1997: "Мы ўсяго *дамо*" (С. 144). У Я.Коласа: "Няхай Сцёпка не баіцца — *аддамо* з падзякай. І руку мы вам падамо. *Дамо* рублёў тры і гатова. Быка, карову прадамо". "А вось мы іх зараз падсмажым і *з'ямо* за мілую душу" (В.Быкаў. Ваўчыная яма). "Але *дамо* слова мастаку Кастусю Харашэвічу" (В.Іпатава // Полымя. 2000. № 4. С. 188). "*Дадамо*: на той шалёны, звар'яцелы час" (Г.Колас. Карані міфаў: Жыццё і творчы шлях Янкі Купалы. Мн., 1998. С. 245).

А вось акадэмічная "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1962. С. 326), падаючы паралельныя формы *ядзім* і *ямо, дадзім* і *дамо*, у адмысловай заўвазе зазначае: "Магчымыя ў мове мастацкай літаратуры формы абвеснага ладу *ямо* і пад. лічацца дыялектызмамі". Гэтую недарэчнасць паўтарыла і "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 186). Дык чаму яны — словаформы *ямо, дамо* і вытворныя ад іх — засведчаныя, замацаваныя ўзорамі мастацкай мовы славутых майстроў слова, ужо не норма для некаторых аўтараў граматыкі? Дык, можа, трэба адмовіцца і ад усіх астатніх адметных словаформаў гэтых дзеясловаў і "ўзаконіць" іх "усесаюзныя" стандарты: *еш* (замест *ясі*), *ядзім (ямо), ядзіце (ясце), ядзяць (ядуць)* і *даш (дасі), дадзім (дамо), дадзіце (дасце)*. Спачатку "*ядзім*", "*дадзім*", а затым і... "*ядзіце*", "*дадзіце*", "*еш*", "*даш*".

Відаць, не выпадкова і дзеяслоў ***хацець***, які ў беларускай мове належыць да І спражэння і мае натуральныя асабовыя формы (*хачу, хочаш, хоча, хочам, хочаце, хочуць*), у некаторых даведніках кваліфікуецца на расійскі лад — як рознаспрагальны (гл.: П.Шуба. Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. С. 210; а таксама яго ж "Дзеяслоў у беларускай мове". Мн., 1968).

**3.4.2.2. Словаформы 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу і іх фарматывы.** У 20-х гадах і аж да пастановы Саўміна БССР 1957 года мелі згаданыя словаформы націскны канчатак *-ем(-эм)* як літаратурную норму. І гэта добра стасавалася з агульнай заканамернасцю — захаваннем у канчатках дзеясловаў І спражэння націскнога гука [э] (арфаграфічна: э, е): *ідзе*,

*ідзеш, ідзем; нясе, нясеш, нясем*. З гэтым канчаткам такія словаформы выкарыстоўвалі класікі беларускай літаратуры — Я.Купала, Я.Колас, К.Чорны ды інш. Іх бачым і ў мове сучасных знакамітых майстроў слова. Напрыклад, у Янкі Брыля: *ідзем, жывем, грызем, жахнемся, спадзяемся* і пад. (Вячэрняе. Мн., 1994. С. 196 ды інш.). Або ў В.Быкава: "— П'ем! — замест прывітання строга канстатаваў ён" (Народныя мсціўцы / / Полымя. 1997. № 6. С. 8). "Па гэтай легендзе мы яшчэ не нарадзіліся. Так і *памрэм*, не нарадзіўшыся" (Полымя. 1997. № 6. С. 142). "Мы не *памрэм* як народ: свецяць нам зоркі надзеі" (Роднае слова. 1997. № 9. С. 217). "А мы *жывем* — даем жа дыхту" (Р.Баравікова / / Полымя. 1998. № 11. С. 19). "Усе адценні ранку тут *збярэм*, мы *п'ем* віно" (Тамсама. С. 24—25). "*Прывядзем* прыклады з тэкстаў" (А.Каўрус / / Роднае слова. 1999. № 12. С. 16). Паводле згаданае пастановы 1957 года і створаных на яе падставе "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959) ужо трэба пісаць у словаформах 1-й асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу ў канчатку літару ***о(ё)***: *бяром, нясём, прынясём, кладзём, жнём*. Аднак гэтым самым разбураецца агульная сістэма (параўн. у расійскай мове: *идёшь, идёт, идём, идёте*). Не выпадкова апошнім часам па радыё і тэлебачанні ўжо чуем: "*Куды ты ідзёш? Ці ўсё занясёш?*"

**3.4.2.3. Словаформы загаднага ладу і іх фарматывы.** Загадны лад мае ў беларускай мове адмысловыя словаформы 1-й і 2-й асобы множнага ліку: *чытайма, нясеце, бярэце*. Формы 1-й асобы ўтвараюцца далучэннем фарматыва ***-ма*** да асновы дзеяслова цяперашняга часу: *едз(ем) — едзьма, кін(ем) — кіньма*. Паводле вонкавай формы яны стасуюцца з словаформамі загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку і адрозніваюцца ад іх фарматывам множнасці (сумеснага дзеяння) ***-ма***: *будзь* і *будзьма, устань* і *ўстаньма, чытай* і *чытайма, едзь* і *едзьма*.

Словаформы 2-й асобы множнага ліку ўтвараюцца праз далучэнне фарматыва ***-еце(-эце)*** да асновы дзеяслова цяперашняга (будучага) часу: *загрым-еце, бяр-эце, няс-еце*. Такія словаформы стасуюцца з формаю загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку з націскным фарматывам ***-і(-ы)***: *кладз-і* і *кладз-ем*. Яны пашыраныя ў мове Я.Коласа, К.Чорнага, К.Крапівы, М.Танка, М.Чарота, П.Галавача, Р.Мурашкі ды іншых аўтараў і былі літаратурнаю нормай да часу сумнавядомай рэформы 1933 года, якая зліквідавала гэтую адметнасць беларускай мовы і "ўзаконіла" ўсесаюзны стандарт, у якім бачым аж два канчаткі ў адной словаформе: *ідз-і-це, бяр-ы-це, кладз-і-це* (замест натуральнага — аднаго: *ідз-еце, няс-еце*).

А як па-народнаму гучаць гэтыя словаформы на ***-еце (-эце)***? "*Загрымеце* громам... толькі не *пабеце* жыта градам", "Прывет шчыры ў вёску *занясеце*" (Я.Колас). "І мяне з сабой *вазьмеце*" (М.Танк). "*Зрабеце* ўсё на месцы" (К.Чорны). "Пачакайце, *прыпынеце*" (К.Крапіва). І сёння іх выкарыстоўваюць маладыя пісьменнікі: *скажэце*, чалавеча... (Полымя. 1997. № 6. С. 138),

*памажэце* (тамсама, с. 139), *бярэце* (с. 151), *саступеце* месца (с. 154). Дык ці трэба аказёньваць мову на чужы лад? Ці маем мы права лічыць іх нелітаратурнымі, як гэта бачым у некаторых даведніках, напрыклад "Граматыцы беларускай мовы" 1962 года і навучальным дапаможніку для ВНУ П.Шубы "Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія" (Мн., 1987). Дарэчы, гэта меркаванне аднаго (таго самага) аўтара (яму належыць і адпаведная частка акадэмічнай граматыкі).

Словаформы 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу ўтвараюцца ў беларускай мове і з дапамогаю фарматыва ***-ем(-эм)*** ад дзеясловаў, якія ў 1-й асобе адзіночнага ліку маюць націскны канчатак: *лаўлю (ловяць) — лавем, жыву — жывем, хаджу (хадзіць) — хадзем*. Гэта засведчыла і акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 160). Аднак некаторыя аўтары дапаможнікаў для ВНУ (напрыклад, П.Шуба) пра гэты спосаб утварэння імператыва не згадваюць зусім, а першыя два — з фарматывамі ***-ма*** і ***-еце(-эце)*** — кваліфікуюць як дыялектныя. Для іх, відаць, узорам служыць расійская мова, дзе ролю загаднага ладу выконваюць адпаведныя формы цяперашняга (будучага простага) часу абвеснага ладу. Таму адзінымі нармаванымі яны лічаць формы *ўстанем, наляжам, напішам, успомнім* і г. д. Нават адмысловую форму *хадзем* замяняюць на " ўсесаюзнае" *ідзём*.

Але ж, як вядома, граматычнае значэнне не можа існаваць без свайго фармавага паказчыка (фарматыва). Гэта выразна выяўляе беларуская мова, якая мае адметныя фарматывы і для загаднага ладу (імператыва). Таму натуральнымі ў адпаведнасці з логікай, здаровым сэнсам трэба лічыць словаформы імператыва *ўстаньма, наляжма, напішэм, хадзем, злавем*, а не граматычныя амонімы — словаформы абвеснага ладу *ўстанем, наляжам, напішам, ідзём, зловім*. І як можна кваліфікаваць іх як дыялектныя, калі імі карыстаюцца ў афіцыйнай мове? "*Будзьма разам!* Шаноўныя чытачы, працягваецца падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 1997 года" (ЛіМ. 05.09.1997). "Шаноўныя педагогі! Пачатак новага тысячагоддзя стане для часопіса "Роднае слова" этапам абагульнення дасягнутага аўтарскім актывам і рэдакцыйным калектывам. *Будзьма разам.* Заставайцеся з "Родным словам" (Роднае слова. 2000. № 11. С. 39).

## 3.5. ЛІТАРАТУРА

*Сцяцко П.* Шанаваць слова // Полымя. 1968. № 8.

*Сцяцко П.* Унармаваная і жывая: Рэц. на выданне "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—5" // Літаратура і мастацтва. 1970. 22 траўня.

*Сцяцко П.* Структура і змест спецкурсу "Культура вуснай і пісьмовай мовы" // Беларуская мова і літаратура ў школе: Матэрыялы рэсп. навук. канф. Брэст, 1971.

*Сцяцко П.* Скланенне прозвішчаў // Настаўніцкая газета. 1972. 26 студзеня.

*Сцяцко П.* Шанаваць роднае слова // Полымя. 1989. № 11.

*Сцяцко П.* Да праблемы скланення прозвішчаў // Рэгіянальныя асаблівасці ўсходнеславянскіх моў. Тэзісы дакл. рэсп. канф. Гомель, 1990. С. 103 — 105.

*Сцяцко П.* Увага: формы ступеняў параўнання! // Наша слова. 1991. 28 жніўня; 3 верасня.

*Сцяцко П.* Форма дыктуецца зместам // Полымя. 1991. № 6. С. 237 — 244.

*Сцяцко П.* Жонкай, Аленкай, Шаўчэнкай // Роднае слова. 1992. № 2.

*Варановіч В.* Мае права на жыццё: Ці апраўдана скасавана правапісная норма накшталт бярэм, нясем? // Роднае слова. 1992. № 5.

*Сцяцко П.* Пытанні адраджэння і ўнармавання беларускай літаратурнай мовы // Праблемы нацыянальнай філалагічнай адукацыі ў ВНУ Беларусі: Матэрыялы рэсп. навук.-метад. канф. Гродна, 1993.

*Сцяцко П.* Ступеняў ці ступеней? // Роднае слова. 1993. № 6.

*Сцяцко П.* Час адраджэння // Полымя. 1993. № 3.

*Содаль У.* Усё ж вы мужчыны // Наша слова. 1994. № 14.

*Сцяцко П.* У мовы свае законы // Полымя. 1994. № 1.

*Сцяцко П.* Сапега, Сапегу, Сапегам: Як скланяюцца прозвішчы // Роднае слова. 1995. № 6.

*Сцяцко П.* Раіліся з Хімаю Чыгрын: Пра беларускія формы прозвішчаў і іх перадачу на іншыя мовы // Наша слова. 1995. № 7.

*Кайрус А.* Ну будзем ехаць. Едзьма // Полымя. 1995. № 1.

*Сцяцко П.* Корань, карані, карэнне: Натуральныя і штучныя множналікавыя формы назоўнікаў // Роднае слова. 1996. № 4.

*Сцяцко П.* Так пісаў Якуб Колас: Пра некаторыя формы ўласных асабовых імёнаў // Наша слова. 1996. № 14.

*Сцяцко П.* Поўныя і кароткія формы дапасаваных словаў // Роднае слова. 1997. № 6.

*Сцяцко П.* Шануйма народную казку: Пра некаторыя выпадкі парушэння нормаў літаратурнай мовы // Роднае слова. 1997. № 3.

*Сцяцко П.* Паўтаратонка, двухзменка, сардэчнік? Пра небеларускую структуру гэтых і некаторых іншых словаў // Роднае слова. 1997. № 10.

Раздзел 4

# СІНТАКСІЧНЫЯ НОРМЫ І ІХ ПАРУШЭННІ

Адметнасць мовы выяўляецца не толькі ў яе лексіцы, фанетыцы, марфеміцы, словаўтварэнні і марфалогіі, але і ў будове фразы — сінтаксісе. Гэта добра разумелі нашыя славутыя майстры слова.

Даследчыкі мовы трапна заўважылі: душа мовы — сінтаксіс; якраз тут выяўляецца адметнасць спосабаў і сродкаў перадачы думкі, волевыяўлення і пачуцця моўнікамі рознага этнасу. Глыбока авалодаць чужою моваю няможна без спасціжэння яе сінтаксічнага ладу; пры павярхоўным засваенні найбольш хібаў якраз у сінтаксісе — пабудове фразы. Тут і пануе "шашаль мовы — калька" (К.Цвірка). Яна жорстка працінае адметныя рысы прыніжанай мовы, навязвае ёй лад валадарнае мовы пры дзвюхмоўі.

Калькаванне мовы — гэта глыбінёвая асіміляцыя. К.Чорны называў яе злачынствам. "Гэтае злачынства, — пісаў ён у артыкуле "Небеларуская мова ў беларускай літаратуры" ў 1928 годзе, — цалкам ляжа на сумленне такіх літаратараў, якія сталі на працу як бы дзеля таго, каб патаптаць і знішчыць моўнае багацце, якое Беларусь збірала і ахоўвала ўсе доўгія вякі свае падвойнае няволі". Гвалтаванню мовы аднаго з самабытных славянскіх народаў давалася ў савецкі час поўная воля, бо трэба было як найхутчэй вынішчыць беларускую нацыю. "Беларускую літаратурную мову трэба сёння лячыць, лячыць ад... кароcты шматвяковай русіфікацыі, ад суцэльнага калькавання, вызваляць з-пад чужой ёй структуры", — справядліва пісаў К.Цвірка ў артыкуле "Шашаль мовы — калька" (ЛіМ. 12.03.1993).

Бяздумнае калькаванне фразы, калецтва мовы бачым найчасцей у малатыражных ведамасных і раённых газетах. Вось адзін з такіх прыкладаў: "Калі ў газеце будзе мазгавы цэнтр *у твары* вядучага рэдактара, творча *працуючы* калектыў, то і мы, чытачы, у *прыватнасці* гісторыкі, будзем дапамагаць газеце супрацоўнічаць з ёю, знаходзіцца *на ўзроўні тых задумак,* якія стаяць перад калектывам". Падобнае часта чуем і па беларускім радыё і на тэлебачанні, чытаем на старонках рэспубліканскага друку і ў мастацкіх творах некаторых не надта патрабавальных да культуры маўлення аўтараў.

З рэкламнай абвесткі: "*Арганізацыя прадае тавары па цэнах, ніжэй рынавых*". Гэта цалкам небеларускі тэкст (*Организация продаёт товары по ценам, ниже рыночных*), а толькі напісаны па-беларуску. Беларус скажа куды прасцей і натуральней, можа, так: "*Арганізацыя* (*суполка*) *прадае тавары танней, чым на рынку* (ці *за больш нізкі, чым на рынку, кошт*)".

У газеце "Звязда" (16.02.1991) чытаем: "Павялічыць з 1 красавіка 1991

года *прадаўжальнасць* часткова *аплачваемага* водпуску *па догляду за дзіцём* да дасягнення ім трох гадоў". Тут таксама амаль цалкам чужы тэкст, чужая сінтаксічная канструкцыя (Увеличить с 1 апреля 1991 года *продолжительность* частично *оплачиваемого* отпуска *по уходу за ребёнком* до достижения им трёх лет). Штучныя ўтварэнні *прадаўжальнасць* і *аплачваемага,* і чужая канструкцыя *па догляду за дзіцём* на месцы беларускіх *працягласць, аплатны, догляд дзіцяці.* Тэкст мог мець выгляд: "*Павялічыць з 1 красавіка 1991 года працягласць часткова аплатнага адпачынку для догляду дзіцяці да трох яго гадоў*".

Або ў творы І.Шамякіна "Злая зорка" (Полымя. 1991. № 2. С. 55): "*Пад крышай грэчка будзе цалей*". Тут пісьменнік "моўна думае па-расійску" (К.Чорны): (*Под крышей гречка будет целей*). Дый пададзены без усякага перакладу, толькі паводле беларускай арфаграфіі. Дзе тут ужо да таго, пра што пісаў К.Чорны, — "уласцівы кожнай мове свой уласны кірунак сказаў".

Прыклады памылковых сінтаксічных канструкцыяў, што бачым у друку, можна доўжыць і доўжыць. Спынімся на тыповых памылках, якія нярэдка сустракаюцца, на жаль, і ў акадэмічных слоўніках.

**Словаспалучэнне з прыназоўнікам *па* і словаформай давальнага склону.** Гэта — небеларуская сінтаксічная канструкцыя (яна ўласцівая расійскай мове). У БРС-26 М.Байкова, С.Некрашэвіча бачым натуральную сінтаксічную канструкцыю "*па + словаформа меснага склону*". На с. 201 чытаем: "*Па чым, кім. Па ім атрымаў спадчыну. Па палёх*".

Гэтая натуральная сінтаксічная канструкцыя была нармаванаю ў 20-х адраджэнскіх гадах. Яе бачым у "Беларускай граматыцы" Б.Тарашкевіча: "Якая галоўная розніца між прыметнікам і дзеясловам *па значэнні (па сэнсе)?*" У кнізе У.Ігнатоўскага "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" (Мн.,1926. С. 81): "А мы, літвіны, будзем маліцца *па нашым звычаі*, бо ўсе мы паважаем аднаго Бога".

Але падчас рэалізацыі бальшавіцкае ідэі на зліццё нацыяў, іх культуры і мовы (30—80-я гады) у беларускую мову жыўцом заганялася расійскамоўная канструкцыя "*па + словаформа давальнага склону*" — дзеля растварэння нашай мовы ў расійскай. Гэта бачым і ў акадэмічных перакладных і тлумачальных слоўніках, створаных гэтым часам. На жаль, і ў перавыданнях "Русско-белорусского словаря" 1993 і 1994 гадоў, хоць у тэрміналагічных слоўніках, выдадзеных у 1992—1994 гадах, яна не сустракаецца.

Адмыслова пастараліся ў прышчэпванні беларускай мове чужое канструкцыі складальнікі БРС-88 і БРС-89. Другі том яго як бы знарок пачынаецца літарай *п* і прыназоўнікам *па*, дзе ўжо даецца шырокі прастор канструкцыі "*па + словаформа давальнага склону*": *прамова па аграрнаму пытанню, будаваць па тыповаму праекту, выбраць па свайму жаданню, па свайму росту, па добраму знаёмству* і пад. Тут замацоўваецца і "раздвоеная" ("кульгавая") канструкцыя, дзе словаформы множнага ліку маюць натуральны канчатак меснага склону *-ах*, а адзіночнага — чужы — давальнага склону *-у / -ю*: *атрымаць па заслугах* і *свайму жаданню; сумаваць па бацьках* і *па*

*сваймy дому*. Гэта — кастрацыя мовы, калі з яе выдаляюцца свае і накідваюцца чужыя словаформы.

Чарговы націск на нашу мову быў "абгрунтаваны" падчас г. зв. нарады па "нармалізацыі" беларускай мовы, праведзенай ідэалагічным кіраўніцтвам ЦК КПБ у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР у 1972 годзе. А праз два дні пасля нарады ў газетах быў надрукаваны артыкул віцэ-прэзідэнта АН БССР К.Крапівы "Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства", дзе ўжо тэарэтычна ўзаконьвалася канструкцыя *"па + словаформа давальнага склону"* (*па загаду, па заданню, па густу, па сэнсу*). У артыкуле памылкова атаясамліваюцца словаформы давальнага і меснага склону. К.Крапіва піша: "*Выступленні па гэтаму пытанню ў друку можна толькі вітаць*", дзе бачым "*па + давальны склон назоўніка*" (*па гэтаму пытанню*), а не месны (*па гэтым пытанні*), хоць сам акадэмік усур'ёз лічыў, што тут словаформа меснага склону. Але паставім на месца *па* натуральныя для меснага склону прыназоўнікі ***на*** ці ***у*** і пераканаемся, што канструкцыя стане іншай: *у гэтым (на гэтым) пытанні* (а не *пытанню*). Пазней К.Крапіва пераканаўся ў памылковасці такой канструкцыі (*па гэтаму пытанню*) і ў наступным артыкуле ў канструкцыі з прыназоўнікам *па* ўжыў словаформу меснага склону: "Ці будзем мы ездзіць *па левым* баку". Пасля згаданай нарады перыядычны друк прымусілі карыстацца чужою канструкцыяй *"па + словаформа давальнага склону": па Савецкаму Саюзу, па вялікаму гораду, па тонкаму льду* і пад. Каб было так, як у расійскай мове. Такія знявечаныя словаформы знайшлі месца і ў слоўніку-даведніку Г.Арашонкавай і В.Лемцюговай "Кіраванне ў беларускай і рускай мове" (Мн., 1991), калі пры натуральным пытанні *па чым?* і *аб чым?* падаецца канструкцыя з словаформаю давальнага склону. На с. 177 чытаем: "*Пастанова па чым, аб чым. Гарадскі савет... прыняў пастанову па важнаму пытанню*" (замест натуральнай канструкцыі: *...па важным, аб важным пытанні*). І ці не відаць была аўтарам гэтая недарэчнасць, тым больш — з выкарыстаннем паралельнага пытання *аб чым? Пастанова — аб важнаму пытанню?!*

Памылкі гэтага даведніка былі прааналізаваныя ў артыкуле аўтара гэтых радкоў "Трымацца родных каранёў: Даведнік па чым? ці Даведнік па чаму?" (Наша слова. 1992. № 18—19). У сваёй новай кнізе "Кароткі слоўнік беларускай мовы: Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўжыванне" (Мн.: Мастацкая літаратура, 1994) Г.Арашонкава і В.Лемцюгова ўжо адмовіліся ад штучнае для беларускае мовы сінтаксічнае канструкцыі *"па + словаформа давальнага склону"*. На трох старонках слоўніка (257—259) даецца грунтоўная семантычная характарыстыка прыназоўніка ***па***. Тут мы ўжо не бачым той трасянкі, што падавалася дагэтуль беларускімі слоўнікамі і спецыяльнымі даведнікамі, у іх ліку і па сінтаксічным кіраванні і арфаграфіі. Прыназоўнік ***па*** кіруе, як справядліва сцвярджаюць аўтары, вінавальным і месным склонам назоўнікаў (а не давальным). Прыклады, якія падаюцца тут, касуюць ранейшыя "інтэрнацыянальныя" (расійскія) сінтаксічныя канструкцыі з канчаткам давальнага склону ***-у(-ю)*** і маюць словаформы меснага склону з

канчаткам *-е, -і(-ы)*: *ісці па компасе, курсы па павышэнні кваліфікацыі, работа па выхаванні моладзі, матч на першынство свету па футболе, спаборніцтвы па тэнісе, па белым білеце, па творы, звольніцца з працы па ўласным жаданні, стральба па горадзе, разьба па дрэве, чаканка па метале, памяць па ім, перабраць па каліве, давалі па адным рублі, адзявацца па сезоне, рабіць па даўнім звычаі, калега па пяры, таварыш па інстытуце, не выходзіць на працу па тыдні, не працаваць па годзе* і інш.

Словаформа пры прыназоўніку ***па*** можа мець і канчатак ***-у(-ю)*** у месным склоне: *сумаваць па сыну, хадзіць па парку, таварыш па Пецярбургу.* Яго маюць у месным склоне ўсе асабовыя назоўнікі, а таксама неасабовыя з асновай на **к**; неасабовыя назоўнікі з асновай на **г**, **х** выкарыстоўваюцца з канчаткам *-у* ў словаформах меснага склону толькі тады, калі **г**, **х** не чаргуецца з свісценнымі **з**, **с** (пры чаргаванні *г—з, х—с* выступае канчатак *-е*): *па універмагу* (і *па універмазе*), *па даху* (але *ў кажусе*).

У наш час нацыянальныя выданні ("Полымя", "Роднае слова", "Літаратура і мастацтва" ды інш.) выкарыстоўваюць на сваіх старонках толькі нармаваную сінтаксічную канструкцыю "*па + словаформа меснага склону*". Чуем яе і па радыё і па тэлебачанні. На жаль, некаторыя выданні ўсё яшчэ захоўваюць гэтую застарэлую, неўласцівую беларускай мове сінтаксічную канструкцыю (праўда, нярэдка карыстаючыся і нармаванаю). Такую трасянку, на вялікі жаль, бачым і ў новым, аднатомавым "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996). Разам з выкарыстаннем натуральнае канструкцыі "*Кніга для навучання* ***па якім-небудзь прадмеце***" (гл. артыкул "Падручнік") на старонках слоўніка бачым і штучную: "*Курс практычных заняткаў* ***па якому-небудзь вучэбнаму прадмету***" ("Практыкум"). І самае жахлівае: у ім захавалася ранейшая (савецкая) характарыстыка прыназоўніка ***па*** і яго словаспалучальнасці. Тут чытаем: "*Па*, прыназ. з *давальным склонам у адзіночным і месным склонам у множным ліку*". Вось вам і "навуковы" падыход! Аказваецца, форма давальнага ці меснага склону залежыць... ад формы ліку назоўніка! Значыць, трэба казаць (пісаць): "*Блукаў па лесу і па лясах*". Уся гэтая трасянка лёгка тлумачыцца: аўтары новага тлумачальнага слоўніка перанеслі на свае старонкі без усякай дапрацоўкі тое, што было ў 5-томавым ТСБМ (1977—1984), або механічна перапісалі з расійскіх слоўнікаў (найбольш з аднатомніка: С.Ожегов. Словарь русского языка). Пра гэта сведчаць і самі прыклады: *кляваць па зярнятку* (па-беларуску *дзяўбці*, бо няма ў нашай мове слова *клюв*), *па знешняму выгляду (выгляд вонкавы, знадворны)* і пад. А як зразумець вось такое: "*па аднаму* і *па адным*"?!

Трасянка гэтая падтрымліваецца і тым, што прыназоўнік ***па*** не мае ў нашай мове такога пашырэння, як у расійскай. Тое, што ў расійскай мове перадаецца сінтаксічнаю канструкцыяй "*прыназоўнік по + словаформа давальнага склону*", у беларускай мове мае шмат іншаструктурных адпаведнікаў, што відаць хоць бы з наступнай табліцы:

| Беларускія адпаведнікі | Расійскія канструкцыі з *по* + Д. скл. |
|---|---|
| жанчынам (сказаць, паведаміць) пад сакрэтам | женщинам по секрету |
| выбраць на свой густ | выбрать по своему вкусу |
| падабраць пад свой рост | подобрать по своему росту |
| вялікі памерам | большой по размеру |
| з нагоды свята (юбілею) | по случаю праздника (юбилея) |
| ісці лесам | идти по лесу |
| ісці ўздоўж самага берага | идти по самому берегу |
| дым ідзе з ветрам | дым идёт по ветру |
| у кірунку да ракі | по направлению к реке |
| на ўсіх кірунках | по всем направлениям |
| у адпаведнасці з законам | по закону |
| паводле паведамлення радыё | по сообщению радио |
| на маю думку | по моему мнению |
| на мой заклік | по моему зову |
| у выхадныя дні | по выходным дням |
| у святы | по праздникам |
| раніцамі | по утрам |
| увесну | по весне |
| страляць у бандыта | стрелять по бандиту |
| створаны на ўзор | создан по образцу |
| жыць у суседстве, жыць па-суседску | жить по соседству |
| праз цябе | из-за тебя |

Беларуская мова мае і шмат іншых адмысловых параўнальна з расійскаю мовай сінтаксічных канструкцыяў, якія нярэдка парушаюцца ў друку праз зблытванне розных моваў.

| Беларуская мова | Расійская мова |
|---|---|
| захварэць на адзёр | заболеть корью |
| здзівіцца з чаго | удивляться чему |
| жыць каля самага мора | жить у самого моря |
| стаяць пры мікрафоне | стоять у микрофона |
| чытаць самому сабе | читать про себя |
| сказаць на поўны голас | сказать во весь голос |
| жаніцца (ажаніцца) з кім | жениться на ком |
| дзякаваць каму | благодарить кого |

| Беларуская мова | Расійская мова |
|---|---|
| здзекавацца (смяяцца, кпіць) з каго | издеваться (смеяться) над кем |
| на святочны стол | к праздничному столу |
| выпраўленне памылак | работа над ошибками |
| заданне дадому | задание на дом |
| загадчык чаго | заведующий чем |
| два разы на тыдзень | два раза в неделю |
| два (тры, чатыры) дні | два (три, четыре) дня |
| два новыя падручнікі | два новых учебника |

Спынімся на аналізе некаторых іншых, памылковых, неўласцівых сінтаксічнай сістэме беларускай мовы канструкцыях, якія нярэдка бачым на старонках друку.

**Дзеясловы і аддзеяслоўныя назоўнікі з семантыкай руху і яго мэты + прыназоўнік *за* і словаформы творнага склону.** "Чарговы *паход за славай*" (Звязда. 02.04.1993). "Чаму няма *чаргі за чэкамі?*" (Культура. 23.11.1994). "Па Маскве *за "Вожыкам"* (ЛіМ. 07.04.1989). "*За адказам* на гэта і іншыя пытанні мы звярнуліся да юрысконсульта..." (Звязда. 05.10.1991).

Некаторыя стыльрэдактары адчуваюць штучнасць такіх зрусіфікаваных канструкцыяў і ў загалоўках тэкстаў выпраўляюць памылкі. Прыкладам, у газеце "Звязда" ад кастрычніка 1991 года бачым у загалоўку "У Беларусь *па трафеі*". А ў самім тэксце — "звярнуліся *за адказам*" (замест: *...па адказ, атрымаць адказ*). На жаль, такія сінтаксічныя памылкі часта застаюцца нявыпраўленымі. У адной газеце чытаем: *"Паездка ў Польшчу за набыццём тавараў"*. А чаму не напісаць па-людску: *...для набыцця тавараў*". У народзе скажуць: *"Паехалі па тавар..."*. Або: *"Паехалі набыць тавар"*. Канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** пры згаданых дзеясловах невыразная зместам, двухсэнсоўная. Калі пішуць (кажуць): *"Сын пайшоў за бацькам"*, то гэта можа азначаць, што *спачатку пайшоў бацька, а затым сын* (*следам за ім*).

Такой недарэчнасці, як выкарыстанне пры дзеясловах руху і волевыяўлення (і вытворных ад іх назоўніках) залежных словаў у форме творнага склону з прыназоўнікам ***за***, мы не ўбачым у рупліўцаў мовы, у класікаў беларускай літаратуры. Прыкладам, у Якуба Коласа чытаем: "Ды глядзі, хто спытае, куды *едзеш*, — скажы — *па канаплі*" ("Малады дубок"). "Вёска памалу зачынала свой звычайны дзень. Губанава маладзіца *ішла па ваду*" ("Крывавы вір"). "*Пасылае* маці думы ў свет *па сына*" ("Пасылае маці думы"). "Хачу я новы шлях знайсці. У Індыю *па шчасце*" ("Сон над Нёманам"). Або ў Максіма Танка: "Скрыпіць Зорны воз ля аселіц. Яго *па мяне прыслалі* на нечае ехаць вяселле, пакінуўшы родныя далі". У Паўлюка Труса: "Як туманіцца поле раніцай, *бягу* з вёдрамі *па ваду*".

Слынныя майстры слова добра ўсведамляюць недарэчнасць і недаклад-

насць, неадназначнасць зместу згаданай канструкцыі з прыназоўнікам ***за***, таму Якуб Колас напісаў толькі так: "*Хтось з хлопчыкаў імчыцца стралою **па стоража***" ("Туды, на Нёман"), бо напісанне "*за сторажам*" чытач зразумеў бы, што хтось з хлопчыкаў *даганяе стоража (бяжыць за ім)*.

Прыназоўнік ***за*** ў словазлучэннях з дзеясловам (ці аддзеяслоўным назоўнікам) і словаформай творнага склону набывае апошнім часам "агрэсіўнае" памкненне ў недасведчаных у пытаннях мовы аўтараў і выкарыстоўвацца там, дзе яго зусім не павінна быць (як і ніякага іншага прыназоўніка) або мусіць быць ужыты іншы прыназоўнік. Так, аддзеяслоўны назоўнік ***догляд (дагляд)*** нармавана кіруе родным склонам залежнага слова, і тут не можа быць ніякага прыназоўніка. Гэта засведчылі і слоўнікі. Напрыклад: "*Догляд пасеваў. Догляд жывёлы*" (ТСБМ. Т. 2. С. 187). А вось у друку бачым штучную канструкцыю з гэтым словам: "*Догляд за хатнімі раслінамі*" (Родны край: Каляндар на 1992 год. С. 303). "*Са старадаўніх рэцэптаў догляду за валасамі*" (Звязда. 29.01.1993). Адкуль узялася такая штучная для нашай мовы канструкцыя? Гэта калька расійскамоўнай структуры "*Уход за волосами*", "*Уход за домашними цветами*". Як і ў згаданым раней сказе, канструкцыя "*водпуск па догляду за дзіцём*" (на месцы нармаванага "*водпуск для догляду дзіцяці*").

Або яшчэ такое "прыклейванне" прыназоўніка ***за*** да аддзеяслоўнага назоўніка ***паляванне***: "*Паляванне за арфаграмамі*", якое бачым у дапаможніку для настаўнікаў і вучняў "Мова: Цікава і займальна". Аўтар гэтага дапаможніка — ведамы метадыст В.І.Паўлоўская. Крыўдна, што такая непісьменнасць прапануецца настаўнікам і вучням. Нармавана тут мусіць быць сінтаксічная структура *паляванне на арфаграмы*, бо па-беларуску: ***паляваць*** (на каго-што?) *на ваўка, ліса, зайца*, а не *паляваць за кім*. Зноў-такі механічнае калькаванне расійскамоўнае канструкцыі "*Охота за орфограммами*". Па-беларуску такую сінтаксічную канструкцыю — з прыназоўнікам ***за*** — стварае слова *пагоня* — утварэнне ад *ганяцца (паганяцца)* (за кім?): *пагоня за ворагам*. У згаданай працы В.І.Паўлоўскай і некаторых іншых выданнях выдавецтва "Народная асвета" бачым і іншыя небеларускія сінтаксічныя канструкцыі. Напрыклад, у публікацыі "Билеты для выпускных экзаменов за курс средней школы на 1967 / 1968 учебный год" (Мн.: Народная асвета, 1968): "Білет № 9. Расказаць на памяць урывак з трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" (*па выбару*). Білет № 4. Прачытаць верш М.Танка (*па выбару*)". А трэба ж — *на выбар*.

Штучную канструкцыю з прыназоўнікам ***за*** бачым і ў подпісах пад малюнкамі (фота). Напрыклад: "*Колас за работай*". А нармалёва мусіць быць па-беларуску: "*Колас працуе (Колас падчас працы)*". І гэтая небеларуская сінтаксічная структура — пазычанне з расійскае мовы (Параўн.: "*Ленин за работой*").

Небеларускай, штучна скалькаванай з расійскае мовы ёсць і сінтаксічная канструкцыя колькаснай семантыкі, у склад якой уваходзіць прыназоўнік ***у***,

колькасны лічэбнік і назоўнік: *у дваццаці кіламетрах (мілях, метрах), у 20 чалавек* (<рас. *в двадцати километрах, в 20 человек*). "*У некалькіх дзесятках кіламетраў ад Алма-Аты* на вышыні ў тры тысячы метраў размясцілася высакагорная абсерваторыя Аддзела фізікі Сонца АН Казахстана" (Вячэрні Мінск. 1972). "Адным словам, прыехалі ў санаторый "Крыніцы", што *ў дваццаці кіламетрах ад Мінскаj*" (ЛіМ. 23.04.1968). "Пад вечар атрад *у дваццаць чалавек* на чале з Арджанікідзе рушыў у баявую разведку" (І.Гурскі. Агнявыя гады).

Пры абазначэнні адлегласці ў беларускай мове выкарыстоўваецца згаданая канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** (а не з прыназоўнікам ***у***): "*за дваццаць кіламетраў ад Мінска*". У Якуба Коласа чытаем: "*Вярсты за дзве, па той бок яру, стаяла іх сяло*" ("Дачакаўся"). "*Дон быў за тысячу вёрст адгэтуль*" ("Трыумф"). А ў першым прыкладзе "*...на вышыні ў тры тысячы кіламетраў*" гэты прыназоўнік зусім непатрэбны, ён лішні. Сказ натуральна гучыць па-беларуску: "*За некалькі кіламетраў ад Алма-Аты на вышыні тры тысячы метраў...*"

Пры абазначэнні колькаснага складу ўдзельнікаў гэтае спалучэнне "колькасны лічэбнік з назоўнікам" выкарыстоўваецца з прыназоўнікам *з* (а не *у*): "*атрад з дваццаці чалавек*". Або зусім без прыназоўніка, дзе колькаснае словазлучэнне выступае як удакладненне: "*Пад вечар атрад — дваццаць чалавек — рушыў у разведку*". Без прыназоўніка выкарыстоўваецца і сінтаксічная канструкцыя кшталту "*На адлегласці 20 кіламетраў ад Мінска была "Крыніца*" (а не *на адлегласці ў 20 кіламетраў*).

А што значыць такая калькаваная канструкцыя *на баку (зарабляць)*, як у тэксце: "Да 80 працэнтаў студэнтаў, піша часопіс "Эр клэр", вымушаны *падзарабляць на баку* нават у разгар экзаменацыйнай сесіі" (ЛіМ. 01.12.1972). Можна мець заробак *збоку*, г. зн. па-за асноўнай працай, а не *на баку* (ці *на спіне, на каленях*). У расійскай мове "*на стороне (зарабатывать)*" — натуральная канструкцыя, а беларуская яе калька *на баку* — недарэчнасць.

Або: "*Абстаіць справа*": "*Як жа абстаіць справа з асваеннем задзелаў школ на 1 кастрычніка?*" (Настаўніцкая газета. 23.10.1971). Уся канструкцыя гэтага сказа — бюракратычная "тарабаршчына". У звычайнай, натуральнай мове пачулі б хіба што так: "*Ну што мы маем з асваеннем грошай на пачынанне школаў на 1 кастрычніка?*" А між тым гэтая штучная калька *абстаіць справа* (рас. *обстоит дело*) сустракаецца і ў перакладных слоўніках, і ў публікацыях уплывовых мовазнаўцаў. Але ж матывацыя гэтае структуры "*абстаіць (справа)*" нагадвае аднаструктурныя *абкусіць, абляпіць* і выдае сябе як чужое ў беларускай мове.

Механічна перанесеная ў беларускую мову і сінтаксічная структура *за цаной не пастаім* (Загаловак у газеце "Звязда". 13.02.1993). Гэта *за цаной* можна *стаяць* (ці *не стаяць*). А калі ідзе гаворка пра цану, то беларус кажа: "*Цана мяне не палохае*" ці "*Кошт гэты не адпалохае*". А то: як бы стаіць цана, а нехта за ёю.

Прычынна-выніковыя складаназалежныя сказы не маюць у жывой беларускай мове калькаванага злучніка "*пакольні*" (<рас. *поскольку*). На яго месцы слынныя майстры слова выкарыстоўваюць злучнікі *а як — то*, *а раз — то (дык)*, *раз — то*. У Якуба Коласа чытаем: "***А як** рабіць тут не было чаго, **то** можна было чуць, як стукала саракоўка аб тоўстую мазолістую руку*" ("Андрэй выбаршчык"). "***А як** нічога такога не было, **то** прыходзілася даваць якую раду сінім штанам*" ("Так і трэба ашуканцу"). "(Перагуд): "*Ясна, я тут лішні! **А раз** лішні, **дык** і няма чаго блытацца пад нагамі ў людзей*" (К.Крапіва). "***Раз** ужо Пракоп хоча азнаёміцца з калгасам, **то** мінуць яму гэты будынак не выпадае*" (Я.Колас).

Штучнасць злучніка *пакольні* відаць з таго, што яго не фіксуюць слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў, няма яго і ў дыялектных слоўніках беларускай мовы. Яго сілком ўціснулі ў беларускія слоўнікі з расійскіх. Гэта пацвярджае і сама дэфініцыя яго ў ТСБМ-79 (С. 617) і адпаведна ў "Словаре русского языка" (Т. 3. Изд. 2-е. М., 1984. С. 315): "*Пакольні*, злучн. Ужываецца пры даданых прычынных сказах у значэнні: *так як, таму што*" і "*Поскольку*, союз. Употребляется для присоединения придаточного предложения причины, в значении: *так как*". Аднак слоўнікі беларускай мовы і акадэмічныя граматыкі не фіксуюць у беларускай мове гэтага *так як*. Да расійскага *так как* перакладныя слоўнікі падаюць беларускае *таму што, бо*. Таму ў беларускай дэфініцыі і падаецца побач з чужым *так як* і сваё *таму што*. Згадаем ілюстрацыі ў слоўніку да слова *пакольні*: "Стрэлкі, якая раней вяла на ветку (чыгункі), не было, відаць, яе проста знялі, *пакольні* ветка не дзейнічала" (Лынькоў). "*Пакольні* мы цябе знайшлі ў лесе, тваё прозвішча будзе... Лясны" (Шахавец). Прыклады таксама сведчаць пра калькаванасць тэксту. Дый яны — з твораў пісьменнікаў, якія не вылучаюцца высокай культурай мовы. (Прыгадаем крытычны аналіз рамана Лынькова "На чырвоных лядах", які зрабіў Я.Колас.) Замест калькаванага "*пакольні ветка бяздзейнічала*" натуральным было б "*бо ветка была бяздзейнаю*". І ў другім сказе замест *пакольні* натуральна было б ужыць *а раз*: "***А раз** мы знайшлі цябе ў лесе, (**то**) прозвішча тваё будзе Лясны*". З слоўнікаў і пайшлі гуляць па творах некаторых аўтараў вось гэтыя штучныя, неўласцівыя беларускай мове злучнікі *пакольні, так як*: "*А пакольні прырода для людзей бяздушных, хцівых уся на адзін твар, то якая ім розніца, дзе яе знішчаць*" (Пятро Сабіна. Плач вады). "*На першым плане павінен быць чалавек як асоба, так як ён ёсць мера ўсёй каштоўнасці*" (Звязда. 28.08.1992). А натуральна, па-беларуску: "*...бо ён — мера ўсёй каштоўнасці*".

Выкарыстанне злучнікаў *а як — то, а раз — то, раз — то* надае тэксту нязмушанасць, натуральнасць. Нашто, скажам, пісаць: "*Акрамя таго, п'еса, **пакольні** яна камедыя, перапоўнена ўсялякімі вадэвільнымі "кві-пра-кво"*" (ЛіМ. 23.04.1968), калі можна было б падаць: "*Акрамя таго, **раз** яна камедыя* (або: *як камедыя*), ***то** і перапоўненая ўсялякімі вадэвільнымі "кві-пра-кво"*". Або вось яшчэ адна калькаваная канструкцыя (з "*так як*"):

*"**Так як** ступеньчатае навучанне патрабуе амаль поўнай індывідуалізацыі, **то** нагрузка на прафесара ўзрастае ў вельмі значнай меры"* (Настаўніцкая газета. 26.02.1972). Па-беларуску тут замест *так як* (паўкалька з *так как*), трэба выкарыстаць злучнік "*а раз (а як) — то*". Дый тут не толькі небеларуская структура сказа, але і яго лексічнае напаўненне: *ступеньчатае* (замест *ступеневае*), *узрастае (павялічваецца)* ды інш.

Найчасцей псуе, нявечыць сінтаксічную структуру тэкстаў небеларускае *спалучэнне словаў з словаформамі прыметнікаў і прыслоўяў вышэйшай ступені параўнання*. Сінтаксічная сістэма беларускай мовы патрабуе, каб залежныя ад словаформаў вышэйшай ступені прыметнікаў і прыслоўяў словы мелі форму *вінавальнага склону з прыназоўнікам **за*** (зрэдку *ад + Р. скл.*) ці *параўнальны зварот з злучнікамі **як, чым**: "То ж здалося камару, што ён **большы за гару**"* (П.Броўка). "Выбары новага складу Вярхоўнага Савета назначаюцца ***не пазней, чым за тры месяцы*** *да заканчэння паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета*" (Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь // Полымя. 1994. С. 14). *"**Больш за сорак** карт рознага тыпу складаюць атлас, які адлюстроўвае геалагічнае мінулае Беларусі"*. *"Званілі доўга, **больш за пяць** хвілін"* (К.Чорны). *"І чужое дзіця стаў даглядаць **не горш, як сваё**"*.

Парушаюць гэтую норму сінтаксічныя канструкцыі, у якіх залежныя ад прыметнікаў і прыслоўяў словы ставяцца ў форме роднага склону без прыназоўніка (*большы гары, больш сарака, горш свайго*). "*Душа куды шырэй, ёмісцей памяці*, што яе і сотняю вершаў не перагрузіш". "Ужо цяпер ферма налічвае *больш* 60 трусоў" (Настаўніцкая газета. 17.11.1971). "Роял" каштуе *больш тысячы рублёў*" (Звязда. 24.02.1993). "Лічыцца, што выбары адбыліся, калі ў галасаванні прынялі ўдзел *больш паловы* грамадзян Рэспублікі Беларусь, уключаных у спіс выбаршчыкаў" (Закон аб выбарах).

Беспрыназоўнікавыя словаформы роднага склону, залежныя ад прыметнікаў і прыслоўяў вышэйшай ступені, уласцівыя расійскай мове. Адсюль яны, пры змешванні заканамернасцяў розных моваў, і трапляюць на старонкі беларускага друку. Гэтай моўнай "трасянцы" ў пэўнай ступені спрыяюць і акадэмічныя слоўнікі, у якіх таксама бачым механічны перанос расійскамоўных нормаў у беларускую мову. Робячы копіі з расійскіх слоўнікаў, аўтары-складальнікі беларускіх слоўнікаў пераносяць у беларускую мову і небеларускія сінтаксічныя структуры. Гэта вельмі выразна відаць на прыкладзе аднатомавага "Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996). Так, пры словах *больш, менш* і пад. бачым амаль даслоўна перапісаныя артыкулы з аднатомавага "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982 і іншыя гады выдання). Параўнаем. У ТСБЛМ: "*Вышэй.* прыназ. з Р. За межамі, звыш чаго-небудзь, па-за чым-небудзь. Гэта *вышэй майго разумення*" і ў СРЯ: "*Выше*, предлог с род. п. За пределами, вне, сверх чего- нибудь. Это выше моего понимания". Як бачым, аўтар гэтага лексікаграфічнага артыкула амаль сфатаграфаваў яго з слоўніка С.Ожагава. Механічна перапісваючы тэкст з расійскае мовы, ён перанёс у беларускую мову і чужы граматычны лад

мовы, не бачачы адметнасці розных моваў. Але ж слова ***вышэй*** у беларускай мове кіруе не родным беспрыназоўнікавым склонам, як у расійскай мове (*выше чего*), а вінавальным склонам з прыназоўнікам ***за*** (ці родным з прыназоўнікам ***ад***). І гэта вынікае з прыроды лексемы *вышэй* як прыслоўя вышэйшай ступені да *высока*. Яно захоўвае свае кіравальныя ўласцівасці і тады, калі выкарыстоўваецца ў ролі службовай часціны мовы (дый у расійскай мове слова *выше* захоўвае свае здольнасці кіраваць тым самым склонам — родным). Таму па-беларуску: *вышэй за што* (як і *вышэйшы за што*). Дарэчы, у гэтым артыкуле "*Вышэй*" падаецца і яшчэ адно сінтаксічнае выкарыстанне слова "*вышэй*" з значэннем "больш за які-небудзь узровень або ўверх ад якога-небудзь месца". У гэтым тлумачэнні (яно паўторана з ТСБМ. Т. 1. С. 596) бачым натуральныя сінтаксічныя канструкцыі: *больш за...*, *уверх ад...* А вось у прыкладах-ілюстрацыях — небеларускія канструкцыі (з чужога маўлення). "*Тэмпература вышэй нуля*". "*Пабіць руку вышэй локця*". У гэтых прыкладах якраз і трэба выкарыстаць залежнае слова ў форме роднага склону з прыназоўнікам ***ад***: "*Пабіць руку вышэй ад локця. Тэмпература два градусы вышэй (ніжэй) ад нуля*". Хоць натуральна было б: "*Тэмпература плюсавая (вышэй ад нуля) ці мінусавая (ніжэй ад нуля)*". А калі ідзе гаворка пра канкрэтныя градусы цяпла ці марозу, то кажуць (выкарыстоўваючы гэтыя найменні тэмпературы): *два градусы цяпла*, *два градусы марозу*, а не гэтыя казённа-бюракратычныя (з чужога маўлення) "*вышэй нуля, ніжэй нуля*".

Такі ж штучны і ілюстрацыйны прыклад "*Гэта вышэй майго разумення*" (калька з "*Это выше моего понимания*"). Беларус тут хутчэй скажа так: "*Гэтага я не разумею*". Ці ў высокім стылі, кніжна: "*Гэта — непадуладна майму разуменню*", "*Гэта над маім разуменнем*".

## 4.1. ЛІТАРАТУРА


*Сцяцко П.* Трымацца родных каранёў: Даведнік па чым? ці Даведнік па чаму? // Наша слова. 1992. № 18—19.

*Сцяцко П.* Пытанні адраджэння і ўнармавання беларускай літаратурнай мовы // Праблемы нацыянальнай філалагічнай адукацыі ў ВНУ Беларусі: Матэрыялы рэсп. навук.-метад. канф. (22—23 красавіка 1992 г.). Гродна, 1993.

*Цвірка К.* Шашаль мовы — калька // ЛіМ. 1993. 12 сакавіка.

*Сцяцко П.* Калькі-калекі // Полымя. 1995. № 6.

*Сцяцко П.* Больш таго... Штучнае словаспалучэнне, памылковая сінтаксічная канструкцыя // Наша слова. 1996. № 4.

*Сцяцко П.* Трымацца сінтаксічнай нормы // Наша слова. 1996. № 13.

*Сцяцко П.* Шануйма народную казку: Пра некаторыя выпадкі парушэння нормаў літаратурнай мовы // Роднае слова. 1997. № 3.

*Каўрус А.* Сінтаксіс адкрыты і схаваны // Полымя. 1997. № 5.

Раздзел 5

# ЛЕКСІЧНАЕ НАРМАВАННЕ

За гады савецкай улады беларуская мова шмат страціла з свае лексічнае адметнасці і самабытнасці. Рэалізацыя ідэалогіі камунізму накіроўвала развіццё моваў у адным рэчышчы — набліжэння і зліцця іх у адну мову. Паняцце "родная мова" касавалася пад выглядам існавання дзвюх родных моваў.

Першым крокам да вынішчэння адметнасці ў нацыянальных мовах было стварэнне гэтак званага "адзінага лексічнага фонду грамадска-палітычнай тэрміналогіі", бо якраз гэты фонд меўся адлюстраваць г.зв. "адзінства савецкага народа", той самы сацыялістычна-камуністычны грамадскі лад. А раз так, то і словы мусяць быць аднолькавыя. Нашто, скажам, беларусам мець свае адметныя словы *падлік, супраць, першасны* і пад., калі ёсць усесаюзныя: *учот* (учёт), *процій* (против), *пярвічны* (первичный) і пад.

Літаратурная мова, асабліва пісьмова-кніжная, ператваралася ў беларуска-рускую "трасянку" — сумесь з калькаваных расійскіх выслоўяў ці цалкам перанесеных у беларускую мову расійскіх словаў, заштампаваных яе канцылярытаў, далёкіх ад жывых моўных крыніцаў беларускай нацыянальнай мовы. І гэта на той час было як бы натуральнаю з'явай, бо асвячалася ідэяй "перамогі камунізму". Гэтая "трасянка" актыўна замацоўвалася ў слоўніках, асабліва абсяжна ў першым у гісторыі беларускай лексікаграфіі "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (1977—1984), а таксама двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (1988—1989).

Вось толькі некаторыя словы з згаданага "Беларуска-рускага слоўніка": *аддзелаць, адтаргаць, безагаворачна, безрэзультатны, брусчатка, бумажнік, быстра, водпаведзь, вузы, вызаў, вырасціць (дзяцей), граза, гразіць, дварэц, запрос, пастулак, пустыр, пусцяк, рабяты, рызіна, распалагацца, саветнік, самадзельны, саставіць, стакан* і інш. А на с. 290 другога тома чытаем: *"Процій: праставіць адзнакі процій прозвішчаў — проставить отметки против фамилий; Хто процій? — кто против? Узважыць усе за і процій — взвесить все за и против"*. Бачыце, якая тут мова! Ці будзем здзіўляцца пасля гэтага, што ўласна беларускія словы заганяліся ў цёмны закутак рознымі стылістычнымі паметамі. У згаданым слоўніку беларускае слова *просьбіт* ужо кваліфікуецца як застарэлае, яго месца займае *прасіцель*. І такіх выпадкаў, калі свае беларускія словы заганяюцца ў норы, а на першым месцы падаюцца расійскія, у нашых апошніх акадэмічных слоўніках безліч. Вось толькі некаторыя прыклады з БРС-88, 89: *адлучнік* гл. *аддзяліцель, вайсковец* гл. *ваеннаслужачы, вывнова* гл. *вывад, галас* абл.

гл. *гам, леваруч* абл., *мястэчка* уст. Не знойдзем у слоўніках шматлікіх народных, адметна нацыянальных беларускіх словаў.

Або знявечанне беларускай фразеалогіі, калі замест беларускіх фраземаў падаваліся расійскія (скалькаваныя ці ў жывым выглядзе): *трымаць у вожыкавых рукавіцах, праліць святло, засячы час, два боты — пара, паставіць да ганебнага слупа* і пад.

Вельмі негатыўна адрэагавалі на гэта беларускія пісьменнікі. Максім Танк у 1977 годзе занатаваў: "*Узяўся гартаць слоўнікі. Бясконцая і бяздумная запазычанасць чужых слоў, як у нас, не можа не паграsevereжаць дэградацыяй самой мове*" ("Дзённікі" // Полымя. 1997. № 6. С. 161). Максім Лужанін, паплечнік Я.Коласа, адмысловы знаўца беларускай мовы, у 1979 годзе пісаў: "У Тлумачальны слоўнік, абвешчаны таксама нарматыўным, наўшывалася багата прыкладаў з таго, што ніколі не было літаратурай і можа ілюстраваць хіба няўмельства аўтара абыходзіцца са словам, або няўмельства складальніка слоўніка выбраць з твора трапна ўжытае, ва ўсім гучанні і красе роднае слова. А то вушы вянуць!" (гл. Максім Лужанін. Мова — гоман векавога бору // Звязда. 06.06.1996. Рубрыка "Спадчына").

Гэтак званая "інтэрнацыянальная" лексіка надта актыўна "ўкаранялася" і ў тапаніміку, пра што, напрыклад, сведчыць "Трасянкава-беларускі слоўнік назваў населеных пунктаў Беларусі" настаўніка геаграфіі з Бабруйска Валянціна Жыдца. Рукапіс быў дасланы ў 1993 годзе ў рэдакцыю газеты "Звязда". Часткова абнародаваны Максімам Яновічам у допісе "Купіна "Акцябр" на трасянкавым мацерыку". У ім больш за 200 прыкладаў такіх чужых найменняў. Вось некаторыя з гэтых назваў. Пасёлкі: *Акцябрскі, Луч, Надзежда, Фруктовы, Васток, Вазраждзенне, Пабядзіцель, Непабядзімы, Уютны, Землядзелле, Юны Пахар, Трудавік*... Вёскі: *Акцябр, Акцяброва, Брацтва, Зашчыта, Дасціжэнне, Каўровая*...

Ёсць падобныя назвы і ў іншых мясцінах Беларусі: *Сярэнеўка, Атраднае, Бальшавік, Южны* і пад. Гэта свядома рабілася, каб знішчыць асобныя этнасы і іх мовы і захаваць адзіную ўсесаюзную мову на ўсім абшары СССР. Гэтаму служылі і ўсесаюзныя намінацыі калгасаў, саўгасаў, мікраранаў і вуліцаў у гарадах і мястэчках. На месцы сваіх родных словаў укараняліся штучныя калькі, якія мусілі выціснуць нацыянальныя словы, каб запанавала ўсё "інтэрнацыянальнае", усесаюзнае.

Наданне нашай мове статусу дзяржаўнай у незалежнай краіне — Рэспубліцы Беларусь запатрабавала крытычна паглядзець на лексічны склад літаратурнай мовы 30—80-х гадоў, калі ў беларускі слоўнік свядома — дзеля "зліцця моваў" — заганяліся чужыя словы, іншыя лексічныя адзінкі "ўсесаюзнага стандарту", хоць на іх месцы беларуская мова мела (і мае) натуральныя словы, найменні. Найболей такіх недарэчных адзінак у грамадска-палітычнай лексіцы, бо менавіта яна мусіла дапамагаць набліжэнню этнасаў, перамешванню, перамолванню іх у "адзіны савецкі народ". Так з'яўляліся шматлікія штучныя для беларускай мовы словы. Прыкладам, *вярыцельны (вярыцельная грамата)*. Слова *вярыцельны* — утварэнне ад *вярыцель*

(*верител* → *верительный*). У беларускай мове, як сведчыць "Русско-белорусский словарь" 1953 года, яму адпавядаюць свае, беларускія словы (без штучнага для нашай мовы суфікса *-цель-н-*), на с. 53 чытаем: "*веритель — вернік, верительный — даверны*..." Але як дыпламатычны тэрмін тут ужо і ў беларускай частцы бачым: *вярыцельныя граматы*. А чаму не *даверныя граматы*, калі гэтаму *верительный* адпавядае беларускае *даверны*. У спецыяльным даведніку "Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии" (Мн., 1970. С. 69) як эквівалент рас. *верительная грамота* падаецца *даверчая грамата*. У перыядычным друку выкарыстоўваецца і *даверны ліст*. Але акадэмічныя перакладныя слоўнікі падаюць толькі недарэчнае для нашай мовы *вярыцельная грамата*. Напрыклад, у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 301): "*вярыцельны* дип. *верительный; вярыцельная грамата — верительная грамота*". "Русско-белорусский словарь" 1982 года таксама не дазваляе беларускаму слову *даверны* выступаць у складзе дыпламатычнага тэрміна. На с. 90 першага тома чытаем: "*Верительный* 1. *даверны;* 2. дипл. *вярыцельны; верительные грамоты — вярыцельныя граматы*".

Наш сучасны нацыянальны друк ("Літаратура і мастацтва", "Полымя", "Спадчына", "Наша слова", "Роднае слова" ды інш.) не трымаецца рэкамендацыяў гэтых акадэмічных слоўнікаў, а падае беларускія найменні: *даверны ліст, даверчы ліст* і *даверчая грамата*. Улічыўшы факты моўнае практыкі, чацвёртае выданне "Русско-белорусского словаря" (Мн., 1993. Т. 1. С. 154) падае ўжо *даверчы ліст (даверчая грамата)* як эквівалент рас. *верительная грамота*.

А вось некаторыя газеты і сёння яшчэ парушаюць гэтую лексічную норму беларускай мовы, пішучы *вярыцельная грамата*. Відаць, яны ўсё яшчэ "кіруюцца" ранейшымі нормамі. Бо нават у нарматыўным "Слоўніку беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн., 1987. С. 169) бачым: "*вярыцельны* кніжн." І не знойдзем тут натуральнага *даверчы*. Падаецца толькі *даверны* (с. 192) як юрыдычны тэрмін.

Сёння нам трэба шырока ўводзіць у карыстанне выразныя значэннем, добра матываваныя словы з жывой народнай мовы ці створаныя паводле ўласцівых беларускай нацыянальнай мове мадэляў наватворы, не забываючы пра запавет Якуба Коласа: "...*Трэба смялей ствараць новыя словы* і ў патрэбных выпадках звяртацца да запазычання. Але мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе".

Тонкі знаўца мовы Я.Скрыган пісаў: "Трэба лічыць заканамерным, калі адна мова пазычае ў другой, багацейшай, словы, якіх не магла сама гістарычна стварыць або якія прыходзяць у побыт народа разам з развіццём культуры, навукі, эканомікі, тэхнікі. Але *нядобра, калі пазычаюцца такія словы, якіх поўна ў мове народа, якія складаюць аснову гэтай мовы*" (Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 152).

Падчас нацыянальна-культурнага адраджэння асабліва значныя змены назіраюцца ў лексічным складзе мовы: узнікаюць новыя словы для адлюстра-

вання новых рэаліяў грамадска-палітычнага жыцця і адыходзяць у нябыт застарэлыя словы; аднаўляюцца лексічныя адзінкі беларускай літаратурнай мовы, рэпрасаваныя ў 30-х і наступных гадах; утвараюцца новыя лексемы, цалкам адпаведныя сістэме нацыянальнай беларускай мовы, і выштурхоўваюцца з маўленчай практыкі неапраўданыя пазычанні і штучныя калькі, што расхістваюць, разбураюць моўную сістэму.

Лексічная дублетнасць дазваляе выбраць і замацаваць як літаратурную норму тую моўную адзінку, якая найбольш адпавядае сістэме, структуры нацыянальнай мовы.

Далей у тэксце кнігі падаюцца *артыкулы* з адпаведнымі словамі, паказваюцца ненармаваныя адзінкі мовы (выяўляюцца аспекты парушэння лексічнай нормы) і прапануюцца нармаваныя іх адпаведнікі. На першае месца выносяцца нармаваныя адзінкі, а пасля іх — тыя, што саступаюць ім ці парушаюць норму. Прыклады браліся з перакладных і тлумачальных акадэмічных слоўнікаў (30—80-я гады), а таксама з іншых крыніцаў. Для пацвярджэння высноваў аўтара выкарыстоўваліся звесткі з тэрміналагічных слоўнікаў, створаных падчас адраджэння беларускай культуры і мовы, а таксама з аўтарытэтных нацыянальных выданняў ("Полымя", "Роднае слова", "Наша слова", "Літаратура і мастацтва" ды інш.). Загалоўкавыя словы нарысаў падаюцца без уліку іх алфавітнага парадку. У канцы кнігі змешчаны паказальнік прааналізаваных моўных адзінак і старонкі, дзе яны разглядаюцца.

***Пазычанне*** і ***запазычанне, пазычаны*** і ***запазычаны, пазычаць*** і ***запазычаць*** (і ***запазычваць***), ***пазычыць*** і ***запазычыць***... Першыя словы гэтых параў бытуюць на ўсім моўным абшары, другія ж — функцыйна абмежаваныя, выкарыстоўваюцца ў пісьмова-кніжнай мове (навуковы стыль) і ў слоўніках жывой народнай мовы не фіксуюцца. Толькі адна лексема *запазычыць* адзначаецца І.К.Бялькевічам у яго "Краёвым слоўніку Магілёўшчыны" (Мн., 1970). Ды ёсць падставы лічыць, што яна трапіла сюды з кніжнай мовы. Двухтомавыя акадэмічныя слоўнікі падаюць іх упоруч, лічаць магчымым выкарыстоўваць іх паралельна.

Першыя перакладныя слоўнікі беларускай мовы да расійскага *заимствовать, перенять* падавалі словы з прыстаўкаю *за-*: *запазычваць, запазычаць, запазычванне*. Праўда, у БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 131) падаецца і *пазычанне*. Але ўжо ў шасцідзесятых гадах побач з прыстаўкавымі выкарыстоўваюцца і беспрыстаўкавыя варыянты. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 591), беручы пад увагу жывую народную мову (быў падрыхтаваны "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы", які выйшаў у 1963 годзе), падае ўжо словы *пазычанне, пазычацца, пазычаць, пазычыць* як адпаведныя (у адным з сваіх значэнняў) расійскім *заимствовать, заимствование, перенимание*.

Двухтомавы акадэмічны "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы пацвярджае гэта. Так, у першым яго томе (Мн., 1988. С. 462) і прыстаўкавыя ўтварэнні *запазычанасць, запазычыцца* выступаюць як адэкватныя расійскім *задолженность, задолжать*. У другім томе гэтага слоўніка (Мн.,

1989. С. 81) зафіксаваны лексемы: *пазычаны* 1. одолженный, ссуженный; 2. занятый; *позаимствованный; пазычацца* — одолжаться, ссужаться; заниматься; *заимствоваться; пазычаць* 1. (каму) одолжать, ссужать (кого); 2. (брать взаймы, в долг) занимать; *заимствовать; пазычыць* 1. (каму) одолжить, ссудить (кого); 2. Занять, *заимствовать, позаимствовать.*

У РБС-82 пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 2. С. 40) адпаведнікамі расійскага *перенимание* выступаюць тры словы: *пераймание, пазычанне* і *запазычанне*, а дзеяслову *перенимать* у другім яго значэнні (заимствовать) — *пераймаць, пазычаць, запазычаць, запазычваць;* зваротнай форме дзеяслова *перениматься* (у другім значэнні) — *пераймацца, пазычацца, запазычацца, запазычвацца.*

Такім чынам, у акадэмічных слоўніках 1962, 1982, 1988—1989, 1991, 1993, 1994 гадоў слова *пазычаны* мае тыя значэнні, што і рас. *перенятый, заимствованный,* і выступае побач з *запазычаны*, і нават на першым месцы. Так, у трохтомавым выданні “Русско-белорусского словаря” (Т. 2. С. 497) бачым: “*Перенятый... 2. пераняты, пазычаны*; запазычаны; перенять... 2. (заимствовать) пераняць, *пазычыць*, запазычыць; перенимание... 2. пераймание, *пазычанне*, запазычанне, запазычванне; перенимать... 2. (заимствовать) пераймаць; *пазычаць*, запазычаць, запазычваць; перениматься... *пераймацца; пазычацца*, запазычацца, запазычвацца”.

Згадаем тут словы слыннага сына Беларусі, акадэміка Язэпа Лёсіка, дырэктара Інстытута навуковай мовы, аўтара грунтоўных школьных падручнікаў беларускай мовы і навуковых працаў, самага аўтарытэтнага беларускага тэрмінолага, выказаныя ім яшчэ ў 1924 годзе: “*Бяда не ў тым, што літаратурная мова пазычае словы, пазычаць трэба, калі іх няма... Зусім неразумна браць чужыя словы, калі ёсць свае, беларускія*” (Цытуецца паводле публікацыі “З кагорты пачынальнікаў: Цярністы шлях Язэпа Лёсіка” // Наша слова. 1994. № 43. С. 4).

Я.Скрыган у нарысе “Ненадрукаваныя апавяданні” (Янка Скрыган. Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 152), аналізуючы дасланыя ў рэдакцыю рукапісы маладых пісьменнікаў (В.Карамазава), піша: “Вельмі многа сустракаецца неапраўданых русізмаў. Трэба лічыць заканамерным, калі *адна мова пазычае ў другой*. Але нядобра, калі *пазычаюцца тыя словы*, якіх поўна ў мове народа, нават якія складаюць аснову гэтай мовы”.

У.Юрэвіч, арганізатар і кіраўнік шматгадовай радыёперадачы “Жывое слова”, у выданні “Слова жывое, роднае, гаваркое. Навукова-папулярная кніга” (Мн., 1992. С. 9—10) піша: “Слова гэтае (павітанне — *П.С.*) утворана ад дзеяслова *вітацца*. Слова *пазычанае*. Корань яго трэба шукаць у лацінскай мове”. І на с. 82: “Ада, Адэлаіда, Адэля. Усе гэтыя імёны *пазычаныя*”. А таксама: “Усе кананічныя імёны былі *пазычаны*...” (с. 107).

Сёння беларуская тэрміналогія мае найбольшыя дасягненні ў галіне матэматыкі. Спецыялісты, вучоныя гэтае галіны ведаў падрыхтавалі выданне “Матэматычная энцыклапедыя”. У штотыднёвіку “Наша слова” (1995. № 4) змешчаны артыкул “Тэрміналагічныя праблемы беларускай матэматычнай

энцыклапедыі". Яго падрыхтаваў калектыў сяброў Тэрміналагічнае камісіі ТБМ імя Ф.Скарыны: Васіль Бернік, прафесар; Павел Міхайлаў, загадчык кафедры беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта; Адольф Навумовіч, дацэнт Белдзяржуніверсітэта; Зьміцер Санько, кандыдат біялагічных навук; Тамара Сухая, дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі; Рэгіна Тышкевіч, прафесар Белдзяржуніверсітэта; Людміла Майсеня, дацэнт Беларускага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. У артыкуле чытаем: "Для ўдасканалення тэрмінатворчасці мы... 3. Імкнуліся пазбегнуць неапраўданага *пазычання*, калькавання, стараліся дакладна і выразна перадаць сэнс матэматычных тэрмінаў сродкамі роднай мовы (словаўтварэннем, дыялектнай лексікай, тыпова беларускімі фармантамі). 4. Улічвалі набыткі тэрміналагічнай працы ў 20—30-х гадах, бо менавіта тады праца над тэрміналогіяй была зарыентавана на ўласныя моўныя сродкі". Як бачым, знакамітыя, аўтарытэтныя аўтары-тэрмінолагі пішуць пра *пазычанне* (а не *запазычанне* — кальку рас. *заимствование*).

Такім чынам, беспрыстаўкавыя дзеясловы *пазычаць, пазычацца, пазычыць* і іменны дэрыват *пазычаны* набываюць усе значэнні аднакаранёвых прыстаўкавых слоў. Жывая народная мова заваёўвае свае пазіцыі, і ў пісьмова-кніжных стылях выкарыстоўваюцца агульнанародныя лексемы. Яны больш ёмістыя сваёю семантыкаю і маюць трывалыя карані ў народна-дыялектнай мове: "Свая скасілася (каса), трэба ***пазычыць*** у Хведара выкасіць гэты замежак"; "Аддай ***пазычаны*** малаток суседу"; "Такое гадства зрабіць можна толькі ў сабакі вочы ***пазычыўшы***" (Н.Гілевіч). І ніхто не скажа *запазычыць* ці *запазычаны*.

Тэрміналагічныя даведнікі — "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн., 1988) і "Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў" (Мн., 1990), а таксама "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", не адлюстроўваюць стану моўнае практыкі сённяшняга дня. Нацыянальныя перыядычныя выданні ("Наша слова", "Роднае слова", "Полымя" ды інш.) і навуковыя кнігі сёння актыўна карыстаюцца словамі *пазычаць, пазычыць, пазычанне* і вытворнымі ад іх. Вось некаторыя прыклады: "Аўтар спрабуе давесці, што слова "прыкмета" — ненатуральнае, *пазычанае* ці дыялектнае (Роднае слова. 1995. № 5—6. С. 70). "Беларуская тэрміналогія ачышчаецца ад розных непатрэбных *пазычанняў*" (Роднае слова. 1999. № 12. С. 33). "Сляпое калькаванне, неапраўданае ўжыванне на месцы натуральных беларускіх формаў *пазычанняў* з чужой мовы" (Тамсама, с. 37). "Таму аказваецца, што большасць развітальных формулаў — *пазычанні* з іншых этыкетных сітуацый" (Роднае слова. 2000. № 1. С. 32). "***Пазычанне*** канчаткова атрымлівае правы грамадзянства ў мове ў тым выпадку, калі яно пачынае даваць вытворныя шляхам словаўтварэння або шляхам змены значэння..." (Ж.С.Сіпліценя. Словаўтварэнне прыметнікаў ад іншамоўных назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Гродна, 2000. С. 5). "Развіццё словаўтваральнай актыўнасці... гэта галоўная прыкмета засваення іншамоўнай лексікі ў мове-***пазычальніцы***" (Тамсама). "Рэцэпцыя — ***пазычанне*** і асіміляцыя прынцыпаў і нормаў

з сістэмаў замежнага права" (Г.Дзербіна. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн.: Тэхналогія, 1997. С. 166).

Тэрміны *пазычанне, пазычаныя словы, пазычаць, пазычацца, пазычыць*, засведчаныя найноўшымі двухтомавымі акадэмічнымі слоўнікамі і пацверджаныя сучаснай маўленчай практыкай, маюць права на тэрміналагічнае выкарыстанне не толькі ў спецыяльных тэкстах, але і ў падручніках па мове.

З прааналізаванага відаць: беспрыстаўкавыя формы, пра якія ішла тут размова, — заканамерныя для сучаснае беларускае літаратурнае мовы. У час адраджэння нашай нацыянальнай мовы ім варта аддаць перавагу перад скалькаванымі формамі з прыстаўкаю. Тым самым будзе мацавацца сувязь літаратурнае мовы з жывою моваю беларускага народу.

***Складнікі поспеху (складовыя часткі, чыннікі поспеху) — складаемыя поспеху***. *"Складаемыя поспеху"* — штучная калька з рас. *слагаемые успеха*. А натуральныя іх адпаведнікі: *складовыя часткі поспеху* ці *складнікі, чыннікі поспеху*. Гэтыя словы — *складовыя часткі, складнікі, чыннікі* — падаюць і новыя тэрміналагічныя матэматычныя слоўнікі 1993 года: "*Слагаемое*, с. — *складнік*, -а, -у м. (Русско-белорусский словарь математических терминов. Мн., 1993. С. 181); *складнік — член, слагаемое*" (Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн., 1993. С. 155); "*складовы — составляющий*" (Тамсама. С. 155). Бачым іх і ў пазнейшых выданнях: *складнік — слагаемое* (Тэрміналагічны бюлетэнь. 1997. Вып. 1).

І тут абыходзімся без небеларускае структуры з суфіксам *-ем-* (складаемыя). Месца такіх чужых будоваю словаў займаюць натуральныя ўтварэнні з суфіксам ***-нік-*** *дзельнік* (замест *дзялімае*), *адымнік (адымаемае), складнік (складаемае)*, ***-ів-а (-ыв-а)****: дзеліва (дзялімае), множыва (множымае)*, якія таксама падаюцца згаданымі тэрміналагічнымі слоўнікамі.

Дарэчы, словы *любімы, радзімы* — таксама штучнаструктурныя (з суф. *-ім-*) пазычанні (*<любимый, родимый*), на месцы якіх маем: *любы, родны, Бацькаўшчына* (а не *Радзіма*).

Прыгадваюцца з гэтае нагоды словы народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі, яго ўспаміны пра Кузьму Чорнага, які скардзіўся на псаванне беларускай мовы. У штотыднёвіку "Наша слова" № 11 за 1993 год у допісе "У нас ёсць свае словы" чытаем: "Слова "*мерзавцы*" пераклалі на "*мярзотнікі*". "*Што, яны мёрзнуць?*" — пытаўся Чорны. Ёсць добрыя беларускія словы: *нягоднік, агіднік... Дык не, ім патрэбна, каб "словы былі бліжэй да рускіх". А вось другое слова: самоубийца*. Дык зноў зрабілі кальку: *самазабойца*. Амаль паўвека прайшло з таго часу, калі я сустракаўся з Чорным. А наш вялікі празаік як у ваду глядзеў: на газетных палосах часта мільгаюць сёння і "*мярзотнік*" і "*самазабойца*". Штучныя словы. Я не здзіўлюся, калі гэтыя словы будуць друкаваць і акадэмічныя слоўнікі".

І напраўду, нашыя акадэмічныя слоўнікі падаюць гэтыя недарэкі на сваіх старонках. Так, у "Слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1987) на с. 397 бачым: ***мярзотнік*** і ***мярзотны***, а на с. 718 — ***самазабойства*** і ***самазабойца***, а кры-

ху вышэй у гэтым слупку — *самагубец* і *самагубнік, самагубца, самагубка, самагубны, самагубства.*

Падаюцца тут і словы *агіднік* і *агідніца* з паметаю "лаянкавае" (с. 36), а вось *мярзотнік* такой паметы не мае, а толькі кваліфікуецца як размоўнае слова (с. 456). Бачым гэтага *мярзотніка* і ў ТСБМ-79 (Т. 3. С. 193) з ілюстрацыяй з твораў Шамякіна. І *самазабойцу* таксама (Т. 5. Мн., 1983. С. 38). Праўда, без тэксту з твораў якога-небудзь пісьменніка. А вось з натуральнымі лексемамі *самагубец, самагубка, самагубнік, самагубны, самагубства, самагубца* падаюцца ўрыўкі з твораў Коласа, Чарнышэвіча, Таўлая (с. 37).

Як паказваюць назіранні, гэтыя "*мярзотнікі*" і "*самазабойцы*" з'явіліся ў перыяд актыўнай барацьбы за міфічную "перамогу камунізму" ў 70—80-х гадах. Ранейшыя беларускія слоўнікі не запрашалі гэтых чужынцаў да сябе — у гурт сваёй лексікі. Не бачым "*мярзотніка*" і "*самазабойцы*" на старонках БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча. Тут падаюцца беларускія словы: *самагубец — самоубийца; самагубка — женщина-самоубийца* (с. 283); *агіднік — скверневец, мерзавец; агідніца — сквернавка, мерзавка; агідноць — опротиветь, омерзеть; агіда:* 1. *гадость, мерзость;* 2. *отвращение; агідзець — омерзеть* (с. 17). І ў БРС-62 пад рэдакцыяй К.Крапівы няма *мярзотнік*, а толькі: "*Нягоднік* — разг. *негодяй, подлец, мерзавец; нягодніца* — разг. *негодяйка, мерзавка*" (с. 529). БРС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (с. 253) рас. *мерзавец* падае з паметай бран. і паказвае яго адпаведнікі: *нягоднік, паскуднік, паганец.*

А вось у дачыненні да *самагубства* і *самагубцы* слоўнік заняў невыразную пазіцыю. Слова *самоубийственный* тут перакладаецца як *самагубны*, а *самоубийство* ўжо двума словамі: *самагубства* і *самазабойства.* Слова ж *самоубийца* толькі як *самазабойца.* У двухтомавым РБС-82 пад рэдакцыяй К.К.Атраховіча (К.Крапівы) расійскаму *мерзавец* даюцца тыя сама адпаведнікі, што і ў слоўніку 1953 года (*нягоднік, паскуднік, паганец*), а слова *самоубийца* мае ўжо два беларускія адпаведнікі — *самазабойца* і разг. *самагубнік* (Т. 2. С. 352). І ў чацвёртым выданні РБС-93 (Т. 2. С. 47) бачым тыя сама беларускія адпаведнікі: *мерзавец — нягоднік, паскуднік, паганец; мерзавка — нягодніца, паскудніца, паганка.* А слова *самоубийца* перакладаецца як *самазабойца* і разг. *самагубнік, самагубец, самагубца* (Т. 3. С. 288).

Дык дзе ж тут логіка, калі рас. *самоубийственный* адпавядае толькі *самагубны*, а слову *самоубийство* ўжо два словы: *самагубства* і *самазабойства*, прычым на першае месца пастаўлена ўсё ж сваё слова, а не скалькаванае (*самазабойства*), а пры абазначэнні асобы на першае месца выносіцца ўжо тая недарэка — *самазабойца*, каб "бліжэй было да рускай мовы" (К.Чорны)?

Як піша Пімен Панчанка, "у Беларусі не было звычкі самому сябе забіваць. Канчалі жыццё ў пятлі, у рэчцы, у калодзежы... У нас ёсць дакладнае беларускае слова: *самагубцы.* Дык зноў зрабілі кальку: *самазабойцы*".

БРС-88 пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 2. С. 433—434) слова *самагубнік*

ужо не перакладае на расійскую мову, а адсылае да скалькаванага *самазабойца*, якое падаецца як адпаведнік рас. *самоубийца*. І дапраўды, яны амаль нічым не адрозніваюцца між сабою, апрача прыстаўкавых частак *у-* і *за-*. Але ўтваральныя для беларускага *самагубца* — словы *самагубны, самагубства* падаюцца з перакладам: *самагубны — самоубийственный, самагубства — самоубийство* (с. 433). Дык якія словы выганяліся з нацыянальнага слоўніка беларускай мовы? Вядома ж тыя, якія не былі "бліжэйшымі да расійскіх".

***Спажывецкі кошык — а не спажывецкая карзінка.*** Наш перыядычны друк доўгі час выкарыстоўваў калькаванае *спажывецкая карзінка* (рас. *потребительская корзинка*). Але ж слова *карзінка* не фіксуюць нашыя акадэмічныя перакладныя слоўнікі. Так, РБС-53 рас. *корзинка* перакладае беларускім *кашолка, кошык* (с. 214). Тое сама бачым і ў другім яго выданні (Мн., 1982. Т. 1. С. 375), і ў чацвёртым (Мн., 1993. Т. 1. С. 667): "*корзинка* ж. 1. *кашолка*, -кі ж., *кошык*, -ка. 2. бот. *кошык*, -ка м." Не падае гэтага слова і "Слоўнік беларускай мовы" 1987 года. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года не фіксуе і слова *карзіна*. А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 642) дае слова *карзіна* як сінонім да *кашолка*. "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў фіксуе слова *карзіна* як адэкватнае рас. *корзина* з усімі яго значэннямі: "*Карзіна* ж. в разн. знач. *корзина*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 585).

Мусіць, адсюль і пайшла скакаць па старонках перыядычнага друку *спажывецкая карзіна* (і *карзінка*). Але дасведчаныя рэдактары і аўтары артыкулаў адчулі штучнасць гэтай *карзінкі* і справядліва замянілі яе на *кошык*: *спажывецкі кошык*. Прыкладам, у "Народнай газеце" № 30 ад 11—13 лютага 1995 года чытаем: "...па нашаму заканадаўству падаходным падаткам абкладаецца нават тая зарплата, якая ў два і болей разоў ніжэйшая за кошт *спажывецкага кошыка*".

Нагадаем, што БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 149) падае: *кошык*, *-шычак* м. — *корзинка, -ночка*. І БРС-62 пад рэдакцыяй К.Крапівы (с. 398) фіксуе *кошык* як эквівалент рас. *корзина* і *корзинка*. А вось слоўнікі 70—80-х гадоў (перыяду моцнай напругі да перамогі камунізму) ужо адкінулі ранейшую лексічную норму, замяніўшы беларускае *кошык* на *карзіну* і *карзінку*. На матэрыяле гэтых слоўнікаў і прасочваецца паступовы і з кожным годам усё больш моцны ціск на роднае слова. І калі "Руска-беларускі слоўнік" 1953 і 1982 гадоў рас. *корзина* перакладаў беларускімі адпаведнікамі *кашолка, кош; корзинка — кашолка, кошык* і бат. *кошык*, а слова *карзіна* падавалася толькі з адным значэннем ('дарожная') побач з словамі *кашолка* і *кош*, то ўжо БРС-88 скасаваў усе абмежаванні для гэтае *карзіны*, надаўшы яму ўсе значэнні рас. *корзина*. Але ж цяпер добра відаць беспадстаўнасць і абсурднасць такога занядбання роднага слова.

***Выцек — уцечка.*** "Намаганнямі наземных служб і экіпажа касмічнага карабля спынілі *ўцечку* паліва з аднаго манеўравага рухавіка "Дыскаверы" (Народная газета. 07.02.1995). Дык чаму не *выцек* (паліва), а *ўцечка*? Паліва

ж *выцякае*, а не *ўцякае*. Гэта толькі людзі могуць *уцякаць*, быць *уцекачамі* (бежанцамі).

Нашыя перакладныя слоўнікі расійскае *утекать, утечь* перакладаюць: 1. (о жидкости) *выцякаць, выцечы*; 2. перан. (исчезать) *знікаць*, (исчезнуть) *знікнуць* (РБС-53. С. 726). Тое сама і ў наступных перавыданнях яго: Мн., 1982. Т. 2. С. 543; Мн., 1993. Т. 3. С. 636—637. Дык ад гэтага *выцякаць* і ёсць натуральнае ўтварэнне (бязафіксным спосабам) *выцек*. Як і *выцяг* — ад *выцягваць*, *выбух* — ад *выбухаць*, *выступ* — ад *выступаць*. Дык не, у слоўніках поруч падаецца: *утекать — выцякаць, утечь — выцечы*, але: *утечка — уцечка*. Нібы нашая мова не здатная на свае вытворныя словы. Тэрміналагічныя слоўнікі 1992—1994 гадоў рас. *утечка* перакладаюць словам *працёк (дапускны п., магнітны п., міжэлектродны п., працёк нейтронаў...)* (Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994. С. 261), *утечка — працёк, адток, выцек* (РБФС-99). З пераносным значэннем рас. "*утечка* (мозгов)" па-беларуску перадаецца "*адток* (мазгоў)": "*Адток мазгоў ці далучэнне да еўрапейскай цывілізацыі*" (Наша слова. 05.04.1995).

***Высылка — ссылка.*** Як від пакарання (пры царызме і бальшавіцкай імперыі) была *высылка* людзей у іншыя мясціны — звычайна неспрыяльныя для жыцця (Сібір і інш.). Ад *высылаць* натуральнае ўтварэнне *высыл-ка*. Ян Станкевіч падае і аднакаранёвае (з прыстаўкаю *вы-*) слова *высланец*: "Туды ўсе *высланцы* зьвярнуліся" (Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік. 1990, фонд імя Льва Сапегі. С. 1231). Замест свайго слова замацавалі агульнасаюзнае *ссылка*. Але ж яно ад *сослать*. А беларусы кажуць — *высылаць*!

***Выведкі, выведка, вывед, выведнік — разведка, разведчык.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча падае натуральнае слова *выведкі* як адпаведнік расійскага *разведка*. На с. 63 бачым: "*Выведкі* ж. мн. — *разведка*". Побач: "*выведнік* м. — *разведчик, сыщик*". А вось пазней гэтае слова было выкінута з беларускага слоўніка, яго месца заняло расійскае *разведка* і *разведчык*. Хоць як тады растлумачыць гэта, калі ў слоўніках бачым: "*Выведаць — разведать, разузнать; выведванне — разведывание, разузнавание; выведваць — разведывать, разузнавать; выведы — разведывание, разузнавание*" (Беларуска-рускі слоўнік / Пад рэд. К.Крапівы. М., 1962. С. 162)?

У другім выданні гэтага слоўніка (Мн., 1988. Т. 1. С. 249) бачым і слова *выведка* як адпаведнік расійскага *разведка*, але яно схаванае ад праніклівых вачэй цэнзараў-"выведнікаў" атачэннем іншых словаў: "*Выведка* ж. разг. *выведывание* ср., *разведывание* ср., *разведка* ж., *разузнавание* ср.". А ў другім томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1989. С. 356) ужо: "*Разведка* ж. в разн. знач. *разведка*; *пайсці ў разведку — пойти в разведку*" і іншыя расійскія формы (*разведчык, разведчыца*) і словаспалучэнні. Але гэта пярэчыць лексічнай сістэме беларускай мовы. Недарэмна новыя тэрміналагічныя слоўнікі не трымаюцца гэтых рэкамендацыяў. Так, у "Расейска-беларускім

вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 171) чытаем: "*Разведка — выведка, выведванне, разведка боем — выведка боем*".

***Кіраваць (краінай) — ■ не правіць.*** Лексікаграфічныя даведнікі перыяду Адраджэння падавалі толькі слова *кіраваць* (і яго вытворныя) як адпаведнікі рас. *править, управлять, руководить*. Так, "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча фіксуе: "*Кіраваньне* н. — руководство, управление; *кіравацца* — управляться; *кіраваць* што — направлять; чым — управлять, руководить; *кіраўнік* м. — правитель, руководитель; *кіраўнік спраў* — управляющий делами; *кіраўніцтва* н. — управление, руководительство; *кіраўніцы* ж. мн. — директрисы НТ$_1$; *кіраўнічая думка* — лейтмотив НТ$_2$; *кіраўнічка* ж. — руководительница; *кіраўнічы* — руководящий" (с. 146). І няма тут *правіць, правіцель* і іншых небеларускіх словаў.

А вось пазнейшыя акадэмічныя слоўнікі ўжо падаюць і ўсесаюзныя іх дублёры — *правіцель, правіць, праўленне* і г. д. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года (с. 491) бачым: "*Править* 1. несов. 1. (управлять страной, государством и т. п.) *правіць;* (руководить) *кіраваць; править страной — кіраваць краінай;* 2. (лодкой, автомобилем, лошадьми и т. п.) *кіраваць*". Наступнае выданне гэтага даведніка — двухтомавы "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1982. Т. 2. С. 170) пайшоў яшчэ далей на "зліццё моваў": "*править страной — правіць (кіраваць) краінай*". Як бачым, краінай ужо *правяць*. Адсюль і "*правитель — правіцель*". Засталося дадаць толькі "*правительство — правіцельства*". Невыпадкова ў другу чытаем: "*Бізнесмены — супраць **правячай** бюракратыі*" (Народная газета. 1995. № 25). Адкуль узялося гэтае *правячая* (бюракратыя)? У беларуска-расійскіх перакладных слоўніках мы не знойдзем гэткага слова. Нават у такім непатрабавальным да беларускай лексічнай нормы даведніку, як двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў.

А вось РБС-53, які (як сцвярджаецца ў яго прадмове, с. 6) "значительно пополнил лексический запас за счёт слов... русского языка", на с. 492 падае: "Правящий — *правячы*, кіруючы; *правящий класс — правячы клас*". У другім выданні — двухтомавым "Русско-белорусском словаре" (Мн., 1982. Т. 2. С. 171): "*Правящий* 1. прич. які (што) кіруе; 2. прил. *кіруючы; правящий класс — кіруючы клас*".

Гэтую кальку *правячы* бачым у цытаваным двухтомавым слоўніку ў іншым слоўнікавым артыкуле: "*Правительствующий* уст. *правячы*; *правительствующий сенат — правячы сенат*" (с. 170). У выданні 1953 года — яшчэ "бліжэй да расійскай мовы" (К.Чорны): "*Правительствующий — правіцельствуючы*" (с. 491).

Лексічную норму дакладна вызначыў яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" 1926 года, дзе, як мы ўжо бачылі, было слова *кіраўнічы* (вытворнае ад *кіраўнік*) — *правитель, руководитель*. Гэтае нормы і трэба трымацца. Бо нават самыя апошнія па часе перавыданні "Русско-белорусского словаря" безаглядна паўтараюць ранейшыя памылкі. Так, у выданні 1993 і 1994 гадоў на с. 733 бачым вось гэткую бязглуздзіцу: "*Правительственный — урада-*

*вы; правительство* ср. — *урад; правительствующий* уст. *правячы; правительствующий сенат — правячы сенат*". Тут прадубляваны і артыкул *править* з выдання слоўніка 1982 года.

***Кіраўнік — правіцель.*** Слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў падавалі першае з іх: "*кіраўнік — правитель*". А вось слоўнікі 50—80-х гадоў перайшлі на *правіцель.* І калі першапачаткова *правіцель* яшчэ меў сабе суседа — *кіраўніка*, то потым першы яго выштурхнуў. Так, згаданы "Русско-белорусский словарь" 1953 года падае: "*Правіцель* 1. *правіцель*, -ля; *кіраўнік*, -ка м.; (властелин) *валадар*, -ра м.; 2. (управляющий) уст. *кіраўнік*, -ка м.; (заведующий) *загадчык*, -ка м.; *правительница — правіцельніца*, -цы ж." (с. 491). Прадубляваны гэты слоўнікавы артыкул і ў другім выданні слоўніка (Мн., 1982. Т. 2. С. 170) і ў наступных — 3, 4, 5-м (Мн., 1991, 1993, 1994. Т. 3. С. 733). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962) не падае гэтага слова. У ім бачым: "*Кіраўнік* 1. *руководитель, глава;* 2. *управляющий; кіраўніца — руководительница*" (с. 391). А вось у найноўшым, двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1988. Т. 2. С. 245) чытаем: "*Правіцель* м. *правитель; правіцельніца* ж. *правительница*".

***Кіраўніцтва — праўленне.*** Ад беларускага *кіраваць* натуральнае ўтварэнне *кіраўніцтва*, якое БРС-26 падае з двума значэннямі: "*Кіраўніцтва* н. — *управление, руководительство*" (с. 146). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года фіксуе яго з наступнымі расійскімі адпаведнікамі: "*Кіраўніцтва* ср. 1. (действие) *руководство;* 2. (учреждение) *управление; кіраўніцтва справамі — управление делами;* собир. (руководители) *руководство; змяніць кіраўніцтва — сменить руководство*" (с. 391). Двухтомавае перавыданне 1988—1989 гадоў прадублявала гэты слоўнікавы артыкул (Т. 1. Мн., 1988. С. 601).

"Русско-белорусский словарь" 1953 года падае яго з наступнымі беларускімі адпаведнікамі: "*Правление* 1. (управление государством) *праўленне, кіраванне; образ правления — спосаб (лад) праўлення;* 2. (орган, возглавляющий учреждение) *праўленне;* (управа) уст. *управа; волостное правление — валасная ўправа*" (с. 491—492). На с. 720 бачым амаль ідэнтычнае: "*Управление:* 1. (действие) *кіраванне;* 2. (учреждение) *кіраўніцтва, упраўленне* і грам. *кіраванне*". Другое выданне слоўніка прадублявала ўсё гэта на сваіх старонках (Т. 2. С. 170, 534). Тое сама пададзена і ў наступным, чацвёртым перавыданні (Мн., 1993. Т. 2. С. 733; Т. 3. С. 620).

Як бачым, абодвум расійскім словам — *правление* і *управление* — у беларускай мове адпавядае натуральнае слова *кіраўніцтва*. Згадаем, што ў БРС-26 не было ні *праўлення*, ні *ўпраўлення,* а толькі сваё роднае *кіраўніцтва*.

Але БРС-62 ужо месціць на сваіх старонках і *праўленне* і *ўпраўленне*. Так, на с. 730 бачым: "*Праўленне* ср. 1. (действие) *правление, управление;* 2. (орган, возглавляющий учреждение) *правление*". А далей, на с. 961: "*Упраўленне* ср. (учреждение) *управление*".

У двухтомавым перавыданні "Беларуска-рускага слоўніка" (Т. 2. Мн.,

1989) на с. 280 прадубляваны артыкул *праўленне* з выдання 1962 г. А на с. 616 артыкул слоўніка 1962 года дапоўнены яшчэ ілюстрацыямі: "*Упраўленне* ср. в разн. знач. *управление; цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне — центральное статистическое управление; упраўленне чыгункі — управление железной дорогой; аўтаматычнае ўпраўленне — автоматическое управление*".

Складальнікі як бы і не заўважылі абсурднасці таго, што гэтыя *праўленне* і *ўпраўленне* не маюць беларускіх каранёў. У расійскай мове яны натуральныя, паходзяць ад *управлять*. А ў беларускай мове, як паказвае той сама БРС-89 (Т. 2. С. 616), словы *ўпраўляць, управіць* маюць зусім іншыя значэнні і іх расійскія адпаведнікі: "*Управіць* сов. 1. вправить; управіць вывіхнутую руку — вправить вывихнутую руку; 2. перен. разг. загубить; управіць каня — загубить коня; 3. разг. (дать крепко застрять, завязнуть) завязать; всадить, вогнать; *так управіў воз у гразь, што ледзь выцягнулі — так завязил воз в грязи, что насилу вытащили; управіць сякеру ў бервяно — всадить (вогнать) топор в бревно. Управлять* несов. 1. вправлять; 2. перен. разг. губить; 3. разг. (давать крепко застрять, завязнуть) всаживать, вгонять".

Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі падаюць з гэтым значэннем свае словы з коранем *кірав-(кіраў-)*: "*Руководство — кіраўніцтва; руководство боевыми действиями — кіраўніцтва баявымі дзеяннямі*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 183).

***Пралом, дзірка, прабоіна — а не брэш.*** "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года на месцы рас. *брешь* падае: "*Дзірка* ж. — *брешь*" (с. 246), *пралом* — (отверстие) *брешь; зрабіць пралом у чым-небудзь — пробить брешь в чём-либо*" (с. 716). "Русско-белорусский словарь" 1953 года: "*Брешь* ж. 1. *пралом*, -му м. 2. перен. *дзірка*, -кі ж. *брешь в бюджете — дзірка ў бюджэце; пробить брешь в чём-либо* перен. *зрабіць пралом у чым-небудзь* (с. 42). А вось яго перавыданне 1982 года ўжо ўлучае ў беларускую частку гэтае *брэш*. На с. 72 першага тома чытаем: "*Брешь* ж. 1. *пралом*, -му м. *адтуліна*, -ны ж.; 2. воен. перен. *брэш*, род. *брэшы* ж.; *брешь в бюджете — брэш у бюджэце; пробить брешь в чём — зрабіць (прабіць) брэш у чым*".

Вось як "прабівалася брэш" у слоўніку беларускай літаратурнай мовы, а разам з тым і ў нашым светаўспрыманні, нівелюючы нашу нацыянальную адметнасць. Гэтай *брэшы* не падае нават "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы", дзе месцяцца і вузкакарыстаныя словы.

Рас. *брешь* ад нававерхненямецкага brechen — "ламаць" (гл. Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка. М., 1964. С. 213). Беларускае *пралом* якраз і адпавядае гэтаму *брешь*.

"Беларуска-рускі слоўнік" 1988 (Т. 1. С. 200) пайшоў яшчэ далей, падаючы гэтую *брэш* не толькі з пераносным значэннем, але і з першасным, канкрэтным: "*Брэш* ж. в разн. знач. *брешь; брэш у сцяне — брешь в стене; прабіць брэш* (у чым) — *пробить брешь* (в чём)".

І на сёння ў перавыданнях "Русско-белорусского словаря" гэтая *брэш* зас-

таецца. Так, у выданнях 1993 і 1994 гадоў чытаем: "*Брешь* ж. — воен. перен. *брэш; брешь в бюджете — брэш у бюджэце; пробить брешь в чём — зрабіць (прабіць) брэш у чым*" (Т. 1. С. 12).

А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" ў першым томе (яго рэдагаваў вядомы мовазнавец і пісьменнік Мікола Лобан) не падае гэтага *брэш*. Праўда, у пятым томе (кніга 2, рэдактар тома — дырэктар Інстытута мовазнаўства М.Р.Суднік) *брэш* ужо падаецца і тлумачыцца з выкарыстаннем тых сама беларускіх адпаведнікаў — *пралом, адтуліна, страта* (с. 524).

Новыя тэрміналагічныя слоўнікі таксама не падаюць гэтае *брэшы* ў беларускай мове. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 23) чытаем: "*Брешь — пралом, прабоіна, адтуліна; закрывать брешь — закрываць пралом, закрываць прабоіну*".

Лішні раз пераканаешся, як шмат залежыць і пры складанні слоўніка ад постаці навукоўца, яго грамадзянскай пазіцыі, нацыянальнай сведамасці.

***Дзіця, дзяціна — дзецішча.*** "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 113) рас. *детище* падае толькі з пераносным значэннем і перакладае двумя словамі: *дзецішча* і *дзіця*. Натуральным тут выступае другое слова, і першае — каб было так, як у расійскай мове. Другое выданне гэтага слоўніка фіксуе ўжо наступнае: "*Детище* 1. *дзецішча*, -шча ср.; перен. тварэнне, -ння ср." (Т. 1. Мн., 1982. С. 207). Тое сама бачым і ў пазнейшых перавыданнях (выд. 4-е. Мн., 1993. Т. 1. С. 364). ТСБМ-78 (Т. 2. С. 170) кваліфікуе гэтае слова так: "*Дзецішча*, -а, н. Плод, тварэнне, вынік якой дзейнасці, чыіх-н. клопатаў, намаганняў". Тут *дзецішча*, праўда, мае толькі адно значэнне — пераноснае. Адкуль у перакладных слоўніках з'явілася першаснае значэнне? Ды яго проста "перасадзілі" з расійскіх слоўнікаў. Так, у чатырохтомавым "Словаре русского языка" (Изд. 2-е. Мн., 1981. Т. 1. С. 393) чытаем: "*Детище* ср. 1. Устар. То же, что и ребёнок, дитя, сын или дочь. Сидевшие по стенам залы маменьки с беспокойствием следили за Корепановым, как только он подходил к их детищам. Салтыков-Щедрин. Губернские очерки. 2. перен. То, что создано собственными трудами и заботами". Дык няўжо застарэлае ў расійскай мове слова *детище* яшчэ павінна выкарыстоўвацца і ў беларускай мове, як раіць нам "Русско-белорусский словарь" 1982 года і ўсе яго наступныя перавыданні, што выйшлі пад рэдакцыяй К.Крапівы? У такім разе гэтае "*дзецішча*" мусіць азначаць "вялізнае дзіця", бо суфікс *-ішч-а* мае ў беларускай мове ўзмацняльна-павелічальнае значэнне; параўн.: *вецер* і *вятрышча, дождж* і *дажджышча, воўк* і *ваўчышча*. Нарашчэнне *-ішча* без згаданай семантыкі беларускай мове неўласцівае; параўн.: "*Дно — дно, днище*" ў БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 96). У "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 54) бачым: "*Днище — дно*". Для "обогащения" беларускай мовы гэтае *днішча* таксама ўцiснулі ў слоўнікі 30—80-х гадоў. ТСБМ-78 (Т. 2. С. 184) дае такое яму вызначэнне: "*Днішча*, -а, н. Дно вялікай пасудзіны". І падае прыклад: "*Надзя сядзела на днішчы перакуленага вяд-*

*ра і чысціла бульбу.* М.Ткачоў". Даводзіцца толькі здзіўляцца, якім вялікім было тое вядро і яго днішча!? Якуб Колас выкарыстоўваў з пераносным значэннем утварэнне з суфіксам *-ін-а*: *"То Вілія — Літвы дзяціна"* ("Новая зямля"). Як бачым, форма *дзецішча* штучная для беларускае мовы.

***Свідар ці бур?*** Слова *свідар* зафіксаваў яшчэ І.Насовіч. У яго "Слоўніку беларускай мовы" (факсімільнае выданне "Словаря белорусского наречия" Мн.: БСЭ, 1983. 793 с.) на с. 576 чытаем: "*Свидэр*, -дра, с.м. буравъ. *Свидра нема, нечим прокруциць дзирку*". "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча не фіксуе словаў *свідар* і *бур*. "Русско-белорусский словарь" 1953 года падае толькі: "*Бур* тех. *бур* род. *бура* м." (с. 45). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года фіксуе гэтае слова, але без тлумачэння: "*Свідар* м. см. *бур*" (с. 946). Паводле інструкцыі "Аб карыстанні слоўнікам" "гэта значыць, што спасылачнае слова хоць і сустракаецца ў літаратуры, аднак знаходзіцца за межамі літаратурнай мовы і не рэкамендуецца да ўжывання" (с. 9). У двухтомавым выданні "Беларуска-рускага слоўніка" таксама не тлумачыцца значэнне слова *свідар*, а даецца адсылка да *бур*: "*Свідар* м. см. *бур*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 449). Паводле яго інструкцыі "гэта азначае, што спасылачнае слова ўжываецца ў мове радзей або мае зніжаную стылістычную афарбоўку..." (Т. 1. Мн., 1988. С. 10). Але ці можна пагадзіцца, што *свідар* мае такія ўласцівасці? Ад гэтага слова ўтваралася цэлае гняздо новых, якія падае і згаданы слоўнік: "*свідравальна-наразны, свідравальна-расточны, свідравальна-фрэзерны, свідравальны, свідравальшчык, свідравальшчыца, свідраванне, свідраваны, свідравацца, свідраваць, свідравіна*" (Т. 2. С. 449—450). Слова ж *бур* мае толькі некалькі аднакаранёвікаў. Ды і то — аманімічных: "*Бурыць* 1. разг. разрушать; обваливать; *Бурыць* 2. тех. бурить; бурыць свідравіну — бурить скважину" (Тамсама. Т. 1. С. 204). Як бачым, нават пры апісанні значэння 'бурыць' не абыходзіцца без слова *свідравіна*. ТСБМ-77 (Т. 1. С. 420) таксама выкарыстоўвае яго: "*Бур*, -а, м. Інструмент для *свідравання* пры даследаванні глебы, горных парод і пад." А слова *бурыць* ён падае з двума значэннямі: 1. Разбураць, рушыць; абвальваць. 2. Свідраваць, прабіваць грунт спецыяльным інструментам (Тамсама. С. 424). У гэтым слоўніку толькі 4 словы з гэтым коранем — *бурыльны, бурыльшчык, бурыцца, бурыць*. Да таго ж усе яны ў жывой народнай мове маюць і значэнне разбурэння. А ў слоўніку І.Насовіча — і зусім іншае значэнне: "*Бур — бур* межд. употр. при побуждении детей к испусканию мочи" (с. 39). "*Бурить*... Испускать мочу. *Бурицьца*... Мочиться под себя" (Тамсама).

Дык ці не лепей выкарыстоўваць як тэхнічны тэрмін слова *свідар* — інструмент для *свідравання* (металу, дрэва, грунту ды інш.). Тым больш што яно добра матываванае і не мае іншых — гутарковых — значэнняў. І ўсе вытворныя паходзяць ад яго. І самае новае — *свідравіна*, якім удала замянілі ранейшае *буравая шчыліна*. Найноўшыя перавыданні РБС-53 рас. *бур* перакладаюць двума раўнапраўнымі словамі: "*Бур* техн. *бур* м., *свідар* м." (Мн., 1993. Т. 1. С. 132; Мн., 1994. Т. 1. С. 132). А гэта сведчыць, што слова *свідар* ужо не

мае абмежаванняў. Ад яго караня — *свідравіна*, а таксама мажлівае *свідравальня* — замест *буравая вышка*.

***Жвір ці гравій?*** Слова *жвір* зафіксаваў Іван Насовіч у "Слоўніку беларускай мовы" (с. 153), дзе чытаем: "*Жвир*, -у, с. м. Дресва. Принеси жвиру шаровать посуду". Расійскае *гравий* В.Ластоўскі тлумачыць як 'буйны пясок' і падае беларускія эквіваленты *жвір, грант* (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 134). БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 102) фіксуе слова *жвір* як адпаведнік рас. *гравий, дресва* (ср. *жарства*)". Ніводзін з згаданых слоўнікаў не фіксуе ў беларускай мове слова *гравий*. "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 267) падае: "*Жвір*, род. *жвіру* м. — *гравий*". Праўда, у гэтым слоўніку ўжо (дзеля "зліцця моваў") бачым і такое: "*Гравій*, -вію м. *Гравий*" (с. 213). Сюды трапіў *гравій* з РБС-53: "*Гравий — гравій*, -вію м." (с. 102), дзе, як сцвярджаецца ў "Предисловии", "белорусский язык... значительно пополнил лексический запас за счёт слов... русского языка".

У двухтомавым выданні "Русско-белорусского словаря" 1982 года (Т. 1. С. 188) ужо ў беларускай частцы даюцца два словы-эквіваленты: *гравій, жвір*. Тут бачым і вытворнае *жвіровы* як адэкватнае рас. *гравийный*. Праўда, паралельна з *гравійны*. А вось рас. *гравийка* ўжо без перакладу, а толькі напісанае па-беларуску: *гравійка*. Прадубляваны гэты артыкул і ў пазнейшых перавыданнях слоўніка (Мн., 1993. Т. 1. С. 329).

Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" фіксуе слова *жвір* з двума значэннямі і расійскімі адпаведнікамі: "*Жвір*, род. *жвіру* м. 1. *гравий*; 2. геол. *хрящ*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 412). Праўда, на с. 331 бачым і такое: "*Гравій*, -вію м. *гравий*". Дык дзе ж тут лексічная норма? Ці для кожнага — свая? Між тым слова *жвір* мае ў гэтым слоўніку шмат вытворных (чаго не скажаш пра *гравий*). "*Жвіровы — гравийный, жвірынка — крупинка гравия; жвірыстасць* геол. *хрящеватость; жвірысты* 1. *богатый гравием*; 2. геол. *хрящеватый*". Дык ці трэба натуральнае слова *жвір* мяняць на штучнае (з фінальным *-ій*) *гравій*? Дарэчы, гэтага слова не падае і беларускі этымалагічны слоўнік. А вось слова *жвір* 'буйназярністы пясок' этымалагізуецца. Паказваецца яго пашырэнне і ў гаворках Літвы і Латвіі, у польскай мове. Паходзіць ад літоўскага zvyras "жвір" (Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1985. С. 225). У найноўшым тэрміналагічным даведніку "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (с. 58) чытаем: "*Гравийная дорога — жвіровая дарога*".

***Крама і магазін.*** Слова *крама* зафіксаваў І.Насовіч у "Слоўніку беларускай мовы": "*Крама*, -ы, ж.; Лавка. *Крамы замкнуты, жиды святкуюць*" (с. 251). Бачым тут і шмат вытворных ад яго: "*Крамка* умен. слова *Крама*. Лавочка. *Не великая крамка, да ўсего много. Нема тэй крамки, штоб продавались мамки*. Посл. *Крамочка* умен. слова *крама*. Мелочная лавочка. *Крамочный*, прил. Лавочный. *Крамникъ*. Купецъ или сиделец въ лавке. *Крамница*. Купчиха, лавочница. *Крамный*, прил. Лавочный, купленный въ

лавке". Амаль усе гэтыя словы падае і БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 150): "*Крама* ж. — Лавка; *Крамар* і *Крамнік* м. — лавочник, *крамніца* ж. — лавочница; *крамны* — лавочный". І ў "Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" В.Ластоўскага таксама бачым: "*Лавка ж. крама, крамнік, крамны*" (с. 297).

БРС-62 фіксуе гэтае слова і перакладае наступным чынам: "*Крама* ж. *лавка, магазин; вакол крам ды зной к нам*" (с. 399). Падаюцца тут і вытворныя: *крамка* — лавочка, лавчонка; *крамнік* м. лавочник; *крамніна* ж. разг. материал (фабричного изделия); *крамны* разг. 1. лавочный, магазинный; 2. (о материале) "фабричного изготовления" (Тамсама). Амаль поўнасцю ўсё гэта паўторана і ў першым томе "Беларуска-рускага слоўніка" 1988 года (с. 613). Дадаткова тут падаецца слова *крамнічыха* — лавочница. РБС-53 падае беларускае *крама* ў слоўнікавым артыкуле *лавка*: "*Лавка* II (магазін) *крама*, -мы ж. мелочная лавка уст. *крама дробных тавараў*" (с. 228). У артыкуле "*Магазин*" бачым толькі: "в разн. знач. *магазін*" (с. 242). Пра *краму* тут ніяк не згадваецца. У двухтомавым перавыданні (Мн., 1982. Т. 1. С. 418) ужо бачым: "*Магазин* м. 1. торг. *магазін*, -на м.; (лавка) *крама*, -мы ж." Наступныя перавыданні паўтараюць усё з гэтага слоўніка (гл. Т. 1. 1993. С. 14). Але на сённяшні дзень слова *крама* пацясняе былога свайго канкурэнта — *магазін*. На шыльдах новых магазінаў красуе *Крама*. І ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 721) бачым: "*Крама*, -ы, ж. *Магазін... Каля адной крамы стукаюць у патэльні, каля другой звоняць косамі...*" І ў перыядычным друку ("Народная газета" ад 11—13 сакавіка 1995 года): "Позні вечар. Недзе ўжо каля 22.00 я забегла ў адну са сталічных крам, каб купіць што назаўтра". І ў "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 92) чытаем: "*Магазин* II (торг.) — *крама*". І гэта — сведчанне нашага духоўнага адраджэння. Некалі добра адрознівалі тканіну "свае работы" і "крамную". Цяпер адзенне толькі ці амаль што ўсё *крамнае*. А зусім нядаўна даводзілася яшчэ тлумачыць гэтае слова *крамнае*, бо слова "*крама*" забаранялі ўжываць, а толькі ўсесаюзнае — *магазін*.

Як сведчыць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Мн., 1989. С. 110), слова *крама* выкарыстоўвалася і ў старажытнай беларускай мове ў двух варыянтах: *крама* і *крамъ*.

***Свойскі — а не хатні ці дамашні***. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 96—97) падае слова з наступнымі значэннямі: "*Свойскі*, -ая, -ае. 1. Не дзікі, выгадаваны чалавекам (пра жывёл, птушак). *Свойская свіння. Свойскія гусі* / / Культурны, вырашчаны чалавекам (пра расліны). *Свойскія кветкі*. 2. Прыручаны чалавекам; ручны / / Рахманы, спакойны, не брыклівы. *Свойскае жарабя*. 3. Не куплены, хатняга вырабу / / Прыгатаваны дома (пра харчы)".

У БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 285) слову *свойскі* адпавядаюць у расійскай мове: "1) родственный; 2) домашний, ручной". "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года фіксуе: "*Свойскі* 1. (не дикий) домашний; *свойскія*

*качкі — домашние утки;* 2. ручной, смирный; *свойскае жарабя — ручной (смирный) жеребёнок*" (с. 847). Тое самае бачым і ў двухтомавым яго перавыданні (Мн., 1989. Т. 2. С. 451).

Здавалася б, склалася лексічная норма, яе і трэба трымацца. Так, і ў перакладным РБС-53 слова *свойскі* адпавядае рас. *домашний*. На с. 122 чытаем: "*Домашний* (о животных) *свойскі; домашняя птица — свойская птушка*". І ў перавыданні слоўніка (Т. 1. Мн., 1982. С. 221) бачым: "*Домашний* (прирученный, не дикий) *свойскі; домашняя птица — свойская птушка, домашние животные — свойскія жывёлы*". Тое сама і ў наступных перавыданнях слоўніка, дзе паўтораны поўнасцю гэты артыкул (Т. 1. Мн., 1993. С. 389—390).

Але вось найноўшы двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" ужо парушае гэтую норму. Так, у першым томе (Мн., 1988. С. 358) чытаем: "*Дамашні* в разн. знач. *домашний; дамашняя жывёла — домашние животные*". І ў другім томе (Мн., 1989. С. 663): "*Хатні* ■ разн. знач. *домашний, хатняя жывёла — домашние животные*".

Дык для чаго ствараўся гэты слоўнік? Каб беларускую мову як найхутчэй разбурыць?

***Пстрычка — а не шчаўчок.*** У беларускай мове бытуе цэлае гняздо словаў, што маюць супольны корань. У БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 262) бачым: "*Пстрык* выкл. — *щёлк; пстрыканьне* н. — *щёлканье; пстрыкайка* ж. — *недотрога; пстрыкаць — щёлкать, досаждать; пстрычок* м., *пстрычка* ж. — *щелчок; колкость*". "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 766) фіксуе яшчэ большае кола гэтакіх словаў: "*Пстрык* межд. ■ знач. сказ. разг. щёлк; *пстрыканне* ср. 1. щёлканье; пощёлкивание; 2. брыкание, лягание; 3. разг. ирон. фырканье; *пстрыкайка* ж. разг. 1. (игрушка) щелкушка; 2. ирон. (о женщине, выражающей недовольство) фыркунья; *пстрыкаць* несов. 1. щёлкать; изредка пощёлкивать; 2. брыкать, лягать; 3. разг. ирон. (выражать недовольство) фыркать; *пстрыкнуць* сов. однокр. 1. щёлкнуть, прищёлкнуть; 2. брыкнуть, лягнуть; 3. разг. ирон. фыркнуть; *пстрыкун* м. 1. щелкун; 2. ирон. фыркун; *пстрыкуха* ж. 1. щелкунья; 2. ирон. фыркунья; *пстрычка* ж. щелчок м." Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Мн., 1988. Т. 1; 1989. Т. 2) яшчэ павялічыў кола значэнняў гэтых словаў, падаўшы ўсе тыя, што былі зафіксаваныя ў яго аднатомавым папярэдніку. Так, у слове *пстрык* тут паказваецца ўжо тры значэнні: "*Пстрык* межд. в знач. сказ. разг. 1. *щёлк;* 2. *брык;* 3. *прыг*". Дадаецца і значэнне 'прыгание' ў слове *пстрыканне* і ўтваральных яго дзеясловах *пстрыкаць, пстрыкнуць* (Т. 2. С. 333—334).

Але тут разам з тым бачым і такі вось "цуд": "*Шчоўк* межд. в разн. знач. *щёлк; шчоўканне* ср. в разн. знач. *щёлканье; шчоўкаць* несов. в разн. знач. *щёлкать; шчоўкнуць* сов. в разн. знач. *щёлкнуть*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 721).

І як тут разабрацца чытачу ў выкарыстанні згаданых *шчоўк, шчоўкаць, шчоўкнуць, шчоўканне,* калі гэтыя словы, толькі напісаныя па-беларуску,

маюць свае адмысловыя адпаведнікі ў беларускай мове. Так, у РБС-82 (Т. 2. С. 613—614) бачым: "*Щёлк* межд. *пстрык; лясь; цмок; луск; цёх; Щёлканье* 1. *пстрыканне, лясканне, лусканне, лузанне, цёханне; щёлкать* несов. 1. (давить щёлки) *пстрыкаць;* 2. (производить звук — пальцами) *пстрыкаць;* (кнутом, зубами) *ляскаць;* (языком) *цмокаць;* (шпорами, каблуками) *цокаць;* 3. (грызть орехи и т. п.) *лузаць;* 4. (петь — о птицах) *цёхаць*". Слова *шчоўкаць* тут падаецца толькі як дадатковае да *цёхаць* і з значэннем (о замке, пружине). Тыя сама беларускія адпаведнікі мае і рас. *щёлкать.* Прадубляваны гэты артыкул і ў самых новых перавыданнях "Русско-белорусского словаря" — у 4-м і 5-м выданнях (Мн., 1993 і 1994. С. 764—765). У згаданых выданнях (аднолькавых ва ўсім) на с. 765 чытаем: "*Щелчок* м. прям.; перен. *пстрычка*, -кі ж.; *щелчок выключателя — пстрычка выключацеля; щелчок по самолюбию — пстрычка па самалюбству*". Гэты артыкул таксама бачым і ў двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года (с. 614). А вось у БРС-89 (Т. 2. С. 721) безапеляцыйна сцвярджаецца: "*Шчаўчок*, -чка м. *щелчок*". Вось вам і пераклад! Але гэтага не пацвярджаюць новыя тэрміналагічныя слоўнікі. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 235) бачым: "*Щелчок — пстрычка, пстрыканне; щелчок затвора — пстрыканне замка*".

***Лад, канструкцыя, прыстасаванне, будова, абсталяванне — а не ўстройства.*** "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 724—725) расійскае слова *устройство* падае з 4 значэннямі і толькі з адмысловымі беларускімі адпаведнікамі: "1. (действие) *уладжанне, наладжанне, упарадкаванне, уладкаванне, арганізаванне, учыненне* і адпаведныя эквіваленты незакончанага трывання: *уладжванне, наладжванне, упарадкоўванне, уладкоўванне, арганізоўванне, спраўлянне;* 2. (строй) *лад*, (порядок) *парадак;* 3. (конструкция) *канструкцыя;* (строение) *будова;* 4. (обзаведение, оборудование) *абсталяванне*". Двухтомавы "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1982. Т. 2. С. 542), паўтарыўшы гэты артыкул з ранейшага выдання, ужо дадаў (дзеля набліжэння моваў) і ў беларускую частку гэтае *ўстройства* ў 3-м і 4-м значэнні: "3. (конструкция) *устройства, канструкцыя;* (строение) *будова; устройство моста — будова (канструкцыя) маста;* 4. (прибор, оборудование) *устройства, прылада, прыбор, абсталяванне; регулирующее устройство — рэгулюючае ўстройства (рэгулюючы прыбор); счётно-решающее устройство — лічыльна-рашаючае ўстройства*".

Вось як нівеліяваліся розныя этнасы, іх культуры і мовы! А яшчэ больш рашучы крок да гэтага зрабілі складальнікі "Беларуска-рускага слоўніка". У другім томе яго ўжо адкінута ўсё тое, што было ў першым выданні 1953 года, які рэдагавалі Я.Колас, К.Крапіва, П.Глебка. На с. 627 чытаем: "*Устройства* ср. 1. (конструкция) *устройство;* 2. (прибор, механизм) *устройство*". Тут і ўсе аднакаранёвікі расійскай мовы перанесеныя на беларускую частку слоўніка: "*Устроены* 1. *устроенный, сделанный;* 2. *Устроенный, учинён-*

*ный; 3. устроенный, определённый; устроіцца* сов. ■ разн. знач. *устроиться; устроиться на работу; устроіцца спаць на канапе — устроиться спать на диване; устроіць* сов. 1. *устроить, сделать; устроіць ілюмінацыю — устроить иллюминацию;* 2. *устроить, учинить;* 3. *устроить, определить; устроіць на службу — устроить (определить) на службу; устроіць сцэну — устроить сцену*". Гэтаксама "перакладаюцца" (пішуцца па-беларуску) расійскія словы — *устройвацца, устройваць.* Ці даводзіцца здзіўляцца такім вось "грандыёзным" поспехам нашых лексікографаў на ніве скасавання нацыянальнай святыні — беларускай мовы. Той мовы, пра якую пісаў вялікі Адам Міцкевіч як адну з найбольш чыстых і дасканалых моваў свету, найменш засмечаных іншамоўнымі пазычаннямі.

Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі рас. *устройство* перакладаюць беларускімі словамі *прыстасаванне, уладжанне.* Напрыклад: "*Устройство — прыстасаванне; взрывное устройство — падрыўное прыстасаванне; пусковое устройство — пускавое прыстасаванне; громкоговорящее переговорное устройство — галоснае перамоўнае прыстасаванне*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 221). "*Устройство — прылада, прыстасаванне, абсталяванне*" (РБФС-99).

***Водар ці арамат?*** Расійскае *аромат* яшчэ В.Ластоўскі перакладае беларускім *водар* — 'прыемны пах'. "*Водар прыемны са сьвежага сена*" (Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 10). РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (с. 22) падае: "*Аромат* м. *водар;* (запах) *пах;* (душистость) *духмянасць; Ароматно* нареч. *водарна; пахуча; духмяна; Ароматный — водарны; пахучы; духмяны*". Двухтомавае перавыданне (Т. 1. Мн., 1982. С. 35) рас. *аромат* перакладае трыма словамі: *духмянасць, пах, водар.* Тое сама і ў наступных перавыданнях (Т. 1. Мн., 1993. С. 58). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае слова *водар* як эквівалент рас. *аромат;* праўда, з паметаю "абласное" (с. 154). Двухтомавае яго перавыданне здымае гэтую памету. На с. 236 (Т. 1. Мн., 1988) чытаем: "*Водар,* -ру м. *аромат*". Але на с. 138 гэтага самага тома наўздзіў бачым: "*Арамат* м. *аромат*". А "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года такога "арамату" не пускаў на свае старонкі!

***Выклік — а не вызаў.*** "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае: "*Выклік,* -ку м. ■ разн. знач. *вызов; выклік у суд — вызов в суд; выклік грамадскасці — вызов общественности*" (с. 170). Двухтомавае перавыданне паўтарыла на сваіх старонках гэты артыкул (Т. 1. Мн., 1988. С. 263). І ў "Русско-белорусском словаре" 1953 года рас. *вызов* перакладаецца беларускім *выклік.* На с. 82 чытаем: "*Вызов* в разн. знач. *выклік,* -ку м.; *вызов на социалистическое соревнование — выклік на сацыялістычнае спаборніцтва*". Тут і ўтваральныя дзеясловы перакладаюцца беларускімі словамі: "*Вызвать* сов. в разн. знач. *выклікаць; вызвать к жизни — выклікаць да жыцця*". "*Вызывать* несов. в разн. знач. *выклікаць; вызываться* страд. *выклікацца*" (Тамсама).

А вось двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года не абмя-

жоўваецца беларускімі адпаведнікамі пры перакладзе згаданых расійскіх словаў, а дадае і расійскія словы (напісаўшы іх па-беларуску). Так, у першым томе на с. 144 бачым: "*Вызванный — выкліканы, вызваны; вызвать* сов. в разн. знач. *выклікаць*, мног. *павыклікаць, вызваць*, мног. *павызываць; вызвать на соревнование — выклікаць (вызваць) на спаборніцтва; вызваться — вызваца...*" "*Вызов* в разн. знач. *выклік*, -ку м., *вызаў*, -заву: *вызов на социалистическое соревнование — выклік (вызаў) на сацыялістычнае спаборніцтва*".

Гэта паўторана ў перавыданнях 1993 і 1994 гадоў (Т. 1. С. 251). І калі ў слоўніку 1982 года яшчэ падаваліся гэтыя "вызавы" як дадатковыя словы (ставіліся на другім месцы пасля беларускага слова), то ў БРС-88 (Т. 1. С. 258) яны ўжо "зраўняліся": "*Вызаў*, -заву м. в разн. знач. *вызов; вызаў у суд — вызов в суд; вызаў на спаборніцтва — вызов на соревнование*". *Вызваць* — з усімі 4 значэннямі як эквівалент рас. *вызвать*. Аднак у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы", першы том якога рэдагаваў пісьменнік Мікола Лобан, гэтага *вызаў* няма. І гэта правільна. У найноўшых слоўнікаў чытаем: "*Вызов — выклік; вызов авиации — выклік авіяцыі; вызов огня — выклік агню; вызов караула в ружьё — выклік варты пад зброю*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі слоўнік. С. 36).

***Вынік і выніковы — а не рэзультат і рэзультатыўны.*** Слова *вынік* мае значэнне "канчатковыя паказчыкі якіх-небудзь дзеянняў, з'яў, развіцця чаго-небудзь. *Падвесці вынік работы за дзень* / / Плён, здабытак працы, намаганняў. *Вынікі шматгадовай працы. Вынікі экспедыцыі*" (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1977. С. 557). Значэнне гэтага слова выразна матывуецца ўтваральным дзеясловам *вынікаць* — "з'яўляцца, паўставаць, узнікаць; з'яўляцца лагічным здабыткам (вынікам)". А таксама словам *вынікнуць*. Яно мае і сваё вытворнае слова — *выніковы*, якое азначаецца ў слоўніку: 1) з падагульненымі вынікамі, паказчыкамі. *Выніковы рахунак*. 2) Які даў добрыя вынікі (Тамсама).

"Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 68) фіксуе: "*Вынік* м. — *следствие; результат*". Такое значэнне гэтага слова вызначыла Тэрміналагічная камісія. І зафіксаванае яно ў выданні "Беларуская навуковая тэрміналогія. Выпуск другі. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва".

І няма ў гэтым слоўніку слова *рэзультат* у беларускай частцы.

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае слова *вынік* з больш шырокім значэннем. На с. 176 чытаем: "*Вынік*, -ку м. 1. *результат; итог; плод; вынікі перагавораў — результаты (итоги) переговоров; вынікі шматгадовай працы — плоды многолетнего труда;* 2. Следствие, последствие; *пажар быў вынікам неасцярожнага абыходжання з агнём — пожар был следствием неосторожного обращения с огнём*". Тут падаюцца і аднакаранёвыя дзеясловы *вынікаць, вынікнуць* і прыметнік *выніковы*. Але чамусьці тут бачым ужо і дублёра слова *вынік — рэзультат* (с. 826). І словы *рэзультатны* і *рэзультатыўны*, хоць беларускае слова *выніковы* перакладаецца

як: 1) результатный; *выніковы рахунак — результатный счёт*; 2) *результативный* (с. 176). Дык для чаго такое дубляванне? Для ўзбагачэння? Не, для засмечвання мовы.

І тут, відаць, гэтыя *рэзультаты* перайшлі з "Русско-белорусского словаря" 1953 года "дзеля ўзбагачэння" беларускай мовы. Бо на старонках гэтага слоўніка бачым: "*Результат — рэзультат*, -ту м., *вынік*, -ку м.; *результативный — рэзультатыўны; выніковы; результатный* торг. *рэзультатны, выніковы*" (с. 589). Як бачым, на першым месцы стаяць усесаюзныя стандарты. Каб імі і карысталіся, а сваё — нацыянальнае — у канцы.

Двухтомавае, 1982 года перавыданне яго пайшло яшчэ далей, выкінуўшы наагул беларускія словы — сінонімы да асобных расійскіх словаў. Так, на с. 328 першага тома чытаем: "*Результат — рэзультат, вынік; результативно* нареч. *рэзультатыўна; результативность — рэзультатыўнасць; результативный — рэзультатны, выніковы*". Вось як адмаўлялі беларускім словам у іх здатнасці абазначаць адцягненыя паняцці. А хіба не будзе адпаведнікам рас. *результативность* беларускае *выніковасць*? І да прыслоўя *результативно* беларусы маюць свой адмысловы адпаведнік — *выніковы*: *Усе працавалі сёння выніковa!*

Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" у артыкуле "*Вынік*" падае яшчэ большае кола яго значэнняў і расійскіх адпаведнікаў. На с. 272 (Т. 1. Мн., 1988) чытаем: "*Вынік*, -ку м. 1. *результат; итог; вывод; плод; исход; вынік спаборніцтва — итог (исход) соревнования; падводзіць вынікі — подводить итоги; вынікі шматгадовай працы — плоды многолетнего труда*; 2. *следствие; последствие*". Як і ў слоўніку 1962 года, тут бачым тыя сама дзеясловы і прыметнік *выніковы*. Але ў другім томе гэтага слоўніка (с. 419) ужо і ў беларускай частцы падаецца *рэзультат, рэзультатны, рэзультатыўны, рэзультатыўна* і *рэзультатыўнасць* (с. 419). Дык дзе ж лексічная норма? Ці яе зусім няма?

***Забруджванне, засмечванне, забіванне, запарушванне*** — ■ ***не засарэнне.*** Расійскае слова *засорение* паходзіць ад дзеясловаў *засорять (ся) — засорить(ся)*. А яны — ад *сор, сорить*. На беларускую мову перакладаюцца наступным чынам: "*Сор* — смецце; *выносить сор из избы — выносіць смецце з хаты. Сорить* несов. 1. смяціць, насмечваць, накідваць смецця, рабіць смецце; 2. (безрассудно тратить): *сорить деньгами — раскідваць грошы; раскідвацца грашыма*". Адсюль і вытворныя словы: "*Сорность* с.-х. засмечанасць; *Сорный* 1. для смецця, *сорная куча — сметнік; сорный ящик — скрынка для смецця*; 2. сорная трава, сорное растение — пустазелле; *Сорняк — пустазелле*". Такі пераклад дае РБС-53 (с. 647) і двухтомавае яго перавыданне 1982 года (Т. 2. С. 421).

Ад дзеяслова *сорить* паходзяць яго вытворныя *засорить(ся)* і *засорять(ся)*. Яны таксама перакладаюцца адпаведнымі беларускімі словамі, хоць тут мы ўжо бачым і пэўнае засмечванне беларускай мовы за кошт чужога слова. Падамо артыкул з двухтомавага выдання (с. 283): "*Засорить* сов. *засмеціць*, мног. *пазасмечваць*; (загрязнить) *забрудзіць*; (забить) *забіць*; (гла-

за) *запарушыць;* (желудок) *засарыць; засориться — засмеціцца;* (загрязниться) *забрудзіцца;* (забиться) *забіцца; захраснуць;* (о глазах) *запарушыцца;* (о желудке) *засарыцца; засорять* несов. *засмечваць;* (загрязнять) *забруджваць;* (забивать) *забіваць;* (глаза) *запарушваць;* (желудок) *засорваць; засорять раковину в кухне — забіваць ракавіну ў кухні; засорять голову — засмечваць (забіваць) галаву*". Дык вось не абышлося і тут без гэтага *засараць*. А хіба так кажа беларус? Страўнік таксама *засмечваецца (забруджваецца, забіваецца)*.

Ад дзеясловаў (згаданых у артыкуле) — і вытворны назоўнік на **-нне**. І тут рас. *засорение* мае шмат беларускіх адпаведнікаў: *засмечванне, забруджванне, забіванне, запарушванне.* Але толькі не "*засарэнне*", якое бачым у двухтомавым слоўніку 1982 года, і "*засор*" — у аднатомніку 1953 года. Перш *засарэнне* страўніка, а потым і ўсяго астатняга, як гэта бачым у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 477), дзе падаецца: "*Засораны — засорённый*". Як быццам беларускае *засмячэнне (забруджванне) страўніка* — не тое сама, што і рас. *засорение желудка.*

Штучнасць гэтых "*засараць*", "*засорваць*", "*засор*", "*засарэнне*" яскрава відаць з "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 381), дзе ўсе яны падаюцца без усякага тлумачэння, толькі са спасылкаю адно да аднаго: "*Засарыць* зак. што. *Зрабіць засораным. Засарэнне.* Стан паводле знач. дзеясл. *засорвацца — засарыцца. Засорвацца* 1. Незак. да *засарыцца.* 2. Зал. да *засорваць. Засорваць* незак. да *засараць. Засораны.* Дзеепрым. зал. пр. ад *засарыць. Засор.* Тое, што і *засарэнне*".

Ці зразумее што-небудзь чытач з такога тлумачэння? Ніяк і нічога. Усё тое ж "засарэнне" мазгоў! І гэта невыпадкова, бо пры нармальным тлумачэнні трэба было б ужыць словы *засмечванне, забруджванне* і пад. Але тады паўстае пытанне: раз *засмечванне (засмечваць)*, то ці патрэбны гэты чужынец *засарэнне?*

Не выпадкова тэрмін *засоренность* перакладаецца толькі як *засмечанасць* ва ўсіх перавыданнях "Русско-белорусского словаря" (1982, 1991, 1993, 1994 гг.). А Тлумачальны слоўнік зусім яго не падае.

***Швачны, белашвачны — а не швейны, белашвейны.*** Прыметнік *швачны* ўтвораны ад *швачка* (з адцінаннем фінальнай часткі асновы **-к-**: *швач-ны)*. Фабрыку, дзе працуюць швачкі, беларусы называюць *швачная.* Як і *ткальная* — дзе працуюць *ткаллі, прадзільная* — якая выпускае (вырабляе) *прадзіва.*

У беларускай мове ёсць назоўнік *швіва* — "тое, што шыецца або пашыта" (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 5. Кн. 2. Мн.. 1984. С. 363). Ад яго заканамернае ўтварэнне *швійны, швійная майстэрня.* "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года (с. 1023) падае і слова "*швальня* ж. порт. пошивочная мастерская". Ёсць тут і назоўнік *белашвачка*, якому адпавядае рас. *белошвейка* (с. 123). Але вось натуральнага *белашвачны* мы тут не знойдзем, а толькі *белашвейны*, хоць яно стасуецца з *белошвея (белошвейка)*, якому ў беларускай мове адпавядае *белашвачка.*

Фабрыка, дзе працуюць швачкі, натуральна называецца *швачная* (фабрыка). Параўнайма: "Гэтак жа радамі выглядалі галовы хлопцаў, якіх стрыглі нажніцамі (толькі *швачнымі*)" (У. Рубанаў. Укус змяі // Полымя. 1995. № 12. С. 72).

Прыметнік *швейны* матывуецца назоўнікам *швея (швяя)*, але яго слоўнікі беларускай мовы не падаюць, а толькі *швачка*, якому ў расійскай мове адпавядае *швея*. Адсюль і вынікае неапраўданае для беларускай мовы *швейны*, на месцы якога мусіць быць *швачны*.

***Семдзесяты, шэсцьдзесяты — ці толькі сямідзесяты, шасцідзесяты?*** У беларускай мове пры ўтварэнні парадкавых лічэбнікаў колькасны лічэбнік можа брацца ў яго пачатковай форме (назоўным склоне) не толькі пры ўтварэнні простых (аднакаранёвых) лічэбнікаў, але і складаных (двухкаранёвых): *пяць — пяты; дзесяць — дзесяты; дваццаць — дваццаты, сорак — саракавы; дзевяноста — дзевяносты* і *пяцьдзесят — пяцьдзесяты; шэсцьдзесят — шэсцьдзесяты; семдзесят — семдзесяты; восемдзесят — восемдзесяты*.

Такія формы бытуюць не толькі ў жывой народнай мове (прыкладам, на Гарадзеншчыне), але і ў літаратурнай. Іх бачым у слоўніках 20-х гадоў. Так, у БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча чытаем: "*Пяцьдзесяты* — пятидесятый (с. 266); *семдзесяты* — семидесятый (с. 285); *восемдзесяты* — восьмидесятый (с. 61)". Гэта пазней яны былі зліквідаваныя на карысць агульнасаюзных з формаю роднага склону ў першай частцы ўтваральных складаных лічэбнікаў: *сямідзесяты* (рас. *семидесятый*).

Пры ўтварэнні прыметнікаў ад складаных лічэбнікаў і назоўнікаў таксама можа брацца пачатковая форма ў першай частцы складанага лічэбніка: *дзвесце гадоў — дзвесцегадовы, трыста гадоў — трыстагадовы, пяцьсот метраў — пяцьсотметровы, шэсцьсот кіламетраў — шэсцьсоткіламетровы*. І пры выкарыстанні простых лічэбнікаў як часткі складаных слоўаў таксама нярэдка бярэцца форма назоўнага склону (а не роднага): "*Трысцен* і *трысценак* — трёхгранник, *трысценны* — трёхстенный, *семдзённы* — семидневный" (М.Байкоў, С.Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. С. 316, 285).

На жаль, пазнейшыя беларускія слоўнікі і акадэмічныя граматыкі "скасавалі" гэтыя адмысловыя беларускія нацыянальныя формы.

***Селавая, палявая (дарога) — ці толькі прасёлачная?*** Грунтавую дарогу паміж вёскамі (сёламі) называюць *селавая дарога*. "*Па селавой дарозе хутка не паедзеш. Гэта табе не брук і не асфальт!*" Калі такая дарога не звязваецца з паселішчам, а вядзе на поле, у лес, на раку, яе называюць *палявая дарога*. Гэтыя вытворныя словы выразна матываваныя: *селавы* — які мае дачыненне да *сяла*, *палявы* — да *поля*. Слова *прасёлачны* — утварэнне ад *прасёлак*. Гэтых слоўаў — *прасёлак* і вытворнага ад яго — *прасёлачны* "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча не фіксуе. Няма іх і ў "Слоўніку беларускай мовы" Івана Насовіча. В.Ластоўскі фіксуе слова *прасёлак* з значэннем 'адлегласць між вёскамі', а дарогу называе *прасельная*

(Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 571). РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі расійскае *просёлок* перакладае двухкампанентнаю назвай: *палявая дарога;* прыметнік *просёлочный — палявы, просёлочная дорога — палявая дарога* (с. 541). Двухтомавае перавыданне яго (Мн., 1982. Т. 2. С. 247), падаючы беларускі адпаведнік *палявая дарога* да рас. *просёлок*, прыметніка *палявы* ўжо не падае, а толькі *прасёлачны, прасёлкавы*, хоць назву *просёлочная дорога* перакладае так: *палявая (прасёлачная, прасёлкавая) дарога*. Гэта бачым і ў 4-м (1993) і 5-м (1994) перавыданнях слоўніка (Т. 3. С. 95). Дык ці не збядняем мы мову, адмаўляючыся ад выразных сваіх словаў? У найноўшым тэрміналагічным слоўніку бачым: "*Просёлок — прасёлак, палявая дарога*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 164).

***Сінь — сінява.*** Слова *сінь* утворанае поводле актыўнай ў беларускай мове словаўтваральнай мадэлі (бяссуфіксны, ці нульсуфіксавы спосаб): *сіні → сінь*. Як і *белы → бель, чырвоны → чырвань, зялёны → зелень*. Слова *сінява* мае суфікс ***-яв-(а)***, які не бярэ ўдзелу пры ўтварэнні назоўнікаў ад прыметнікаў. У жывой народнай беларускай мове гэты "ўніфікс" не зафіксаваны ні ў адным слове (гл.: П.У.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі. Мн.: Навука і тэхніка, 1977. 320 с.). Не падаюць гэтага штучнага для беларускай мовы слова *сінява* ні І.Насовіч, ні В.Ластоўскі, ні М.Байкоў і С.Некрашэвіч. Вацлаў Ластоўскі рас. *синева* перакладае словам *блакіт* (Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 649). У "Русско-белорусском словаре" 1953 года рас. *синева* мае беларускі адпаведнік *сінь* (с. 623). Двухтомавае яго перавыданне (Мн., 1982. Т. 2. С. 383) паўтарыла тое, што было ў яго папярэдніку: "*Синева — сінь*, род. *сіні* ж." Гэтую ж норму фіксуе і 4-е выданне слоўніка (Мн., 1993. Т. 3. С. 345). БРС-62 таксама фіксуе: "*Сінь* ж. 1. *синева, синь;* 2. (руда) *синь*" (с. 854). Няма і тут гэтага *сінява*. А вось двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў пад той сама рэдакцыяй К.Крапівы ўжо атаясаміў беларускую і расійскую частку перакладнога слоўніка. У другім томе (Мн., 1989) на с. 463 чытаем: "*Сінява* ж. — *синева, синь*". Але ў тым самым слупку на 9 словаў вышэй бачым: "*Сінь* ж. 1. *Синева, синь;* 2. геол. *синь*". А раней крыху, на с. 462, — яшчэ адзін сінонім: "*Сінеча* ж. разг. *синева, синь*". Дык ці ёсць патрэба ў гэтай *сіняве?* А то хутка з'явяцца аднамадэльныя штукарствы "*белява*", "*чырванява*". Не падае гэтае штучнае структуры "сінява" і найноўшы даведнік — "Русско-белорусский словарь общеупотребительной лексики" (Мн., 1999). На с. 941 чытаем: "Синева — сінь... Синь (синева) — сінь". Аднак тлумачальныя слоўнікі не ўніклі моўнае трасянкі: побач з *сінь* падаюць і гэтую штучную *сіняву*.

***Ціхун, ціхень, ціхеня — ціхоня.*** Слова *ціхун* утворанае паводле словаўтваральнай мадэлі "аснова прыметніка + суфікс ***-ун***": *вясёлы — весял-ун, ціхі — ціх-ун*. Форма *ціхень* — ад *ціхі* з далучэннем суфікса ***-ень***. Можна меркаваць, што *ціхень* утварылася ад памяншальна-ласкальнае формы *ціхенькі*

→*ціхень*. Слова *ціхень* фіксуе і БРС-26 М.Байкова і С.Некрашэвіча. На с. 338 чытаем: "*Ціхень* м. — *тихоня*". Расійскае *тихоня* таксама ад памяншальна-ласкальнае формы *тихонький*. У беларускай мове такога суфікса *-оньк-* няма. Таму і форма *ціхоня* ўсведамляецца як штучнае пазычанне — на фоне сваіх, выразна матываваных, *ціхун* і *ціхень* ці *ціхеня*.

***Авечнік — аўчарнік.*** Слова *аўчарнік* таксама не падае ніводны выдадзены ў нас слоўнік, апрача хіба згаданага "Беларуска-рускага слоўніка" 1988—1989 гадоў, дзе бачым: "*Аўчарнік* м. разг. *овчарник*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 156). У "Тлумачальным слоўніку" (Т. 1. Мн., 1977. С. 304) засведчана толькі: "*Аўчарня* — авечы хлеў". Тут фіксуецца і "*Аўчар* — чалавек, які даглядае авечак, авечы пастух". Таму згаданае ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1988 года *аўчарнік* трэба разумець хіба што як памяшканне для *аўчароў* — авечых пастухоў. Такое значэнне якраз і вынікае з славаўтваральнай будовы гэтага і іншых аднамадэльных назоўнікаў, дзе суфікс ***-нік*** паказвае на памяшканне, збудаванне для таго, што абазначана ўтваральным словам. Параўн. *птушка — птушнік, цяляты — цялятнік, авечка — авечнік* і да т.п.

Натуральнае слова для азначэння авечага хлява і ёсць *авечнік*. Яго бачым у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года. На с. 43 чытаем: "*Авечнік* м. *овчарня* ж." ТСБМ (Т. 1. С. 98) таксама фіксуе: "*Авечнік*, -а м. Авечы хлеў". І няма ў гэтым слоўніку штучнага для беларускай мовы *аўчарніка*. І ў РБС-82 слова *овчарник* не перакладаецца, а робіцца адсылка да *овчарня*, якое таксама мае беларускі адпаведнік *авечнік* (Т. 1. С. 586).

***Дыплом выдатніка — дыплом з адзнакай.*** Выпускнікі ВНУ, якія маюць 75% выдатных адзнакаў (астатнія — "добрыя") і здалі дзяржаўныя экзамены, абаранілі дыпломныя працы на "выдатна", атрымліваюць *дыплом выдатніка*. Такі дыплом у 1953 годзе выдалі ў Гродзенскім педагагічным інстытуце і аўтару гэтых радкоў. На левай — беларускай — частцы запісана: "*Дыплом выдатніка* Ж № 691963". На правай частцы па-расійску: "*Диплом с отличием*". Словы *выдатніка* і *с отличием* надрукаваныя чырвонымі літарамі. Пазней, калі трэба было пазбавіць беларусаў іх адметнасці, зліць мовы, у беларускай частцы дыплома выкінута адмысловае слова *выдатніка*, а на яго месца пастаўлена *з адзнакай* (калька рас. *с отличием)*. І гэта рабілася паводле "Русско-белорусского словаря", выдадзенага ў Маскве ў 1953 годзе, у прадмове якога чытаем: "Белорусский язык... в результате мудрой ленинско-сталинской национальной политики Коммунистической партии... значительно пополнил лексический запас за счёт слов... русского языка..." (с. 6). У гэтым слоўніку на с. 115 бачым: "*Диплом — дыплом; диплом с отличием — дыплом з адзнакай*". І як тут зразумець — "з адзнакай"? Тут адна адзнака? Калі ў расійскай мове *с отличием* значыць тое, што і *отлично*, то па-беларуску гэта не так. Бо беларус скажа: Чым ты *вызначыўся (отличился)*, а не *адзначыўся*. На жаль, гэтая недарэчнасць і сёння раздражняе выпускнікоў, якія атрымліваюць чырвоныя дыпломы з такой вось непісьменнасцю. Крыўдна, што і самыя новыя перавыданні слоўніка — трэцяе

(1991), чацвёртае (1993) і пятае (1994) падаюць вось гэтую недарэчнасць "*Дыплом з адзнакай*" (Т. 1. 1993. С. 370). Але перыядычны друк не трымаецца гэтай "анамаліі". Прыкладам, у штотыднёвіку "Наша слова" ад 2 жніўня 1995 года чытаем: "*Увесь час сядзіць* (Павел Знавец. — *П.С.*) *над падручнікамі, рыхтуецца паступаць на юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. І паступае. А ў 1993 годзе атрымлівае* ***дыплом выдатніка***".

А вось у ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 221) бачым: "*Дыплом з адзнакай* — дыплом спецыяліста, які закончыў вышэйшую навучальную ўстанову з *выдатнымі адзнакамі*". Чытаеш такое і бачыш усю штучнасць гэтае назвы. Бо калі "*закончыў з выдатнымі адзнакамі*", то і павінна быць *дыплом выдатніка* (а не *з адзнакай*).

***Кашалёк ці бумажнік?*** Слова *бумажнік* не падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча, няма яго і ў "Этымалагічным слоўніку беларускай мовы". Расійскае *бумажник* В.Ластоўскі перакладае словам *папернік*, што вынікае з матывацыі — "прызначаны для папераў, папяровых грошай". Параўн. у ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 419): "*Бумажнік* — невялікіх памераў кішанёвая папка для *папяровых* грошай і дакументаў; кашалёк". Як бачым, паводле дэфініцыі якраз і павінна быць *папернік* (а не *бумажнік*). Дарэчы, РБС-53 (і яго перавыданні) рас. *бумажник* перакладаюць двума словамі: *папернік* (рабочы) і *бумажнік* (для денег). Але ж абодва гэтыя *бумажники* паходзяць ад *бумага*, якому ў беларускай мове адпавядае *папера*. Сінонім гэтага *бумажніка* — слова *кашалёк*, што падае ТСБМ у дэфініцыі, і ёсць лексічная норма. Гэтая лексема мае шмат сваіх этымалагічных аднакаранёвікаў (*кош, кошык, кашэль, раскашэліцца*). Да таго ж лексема *кашалёк* уваходзіць і ў склад устойлівых словаспалучэнняў: "*Пусты кашалёк* — пра адсутнасць грошай"; "*тугі (тоўсты) кашалёк* — пра наяўнасць вялікіх грошай". І гэтым яна замацавалася ў лексічнай сістэме беларускай мовы, чаго не скажаш пра *бумажнік*.

***Шыльда — вывеска.*** Усе перакладныя слоўнікі слова *вывеска* падаюць толькі ў левай (расійскай) частцы, яму адпавядае беларускае *шыльда*. У РБС-93 чытаем: "*Вывеска* 1. (надпись) *шыльда*; 2. перен. *шыльда*" (Т. 1. С. 241). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае слова *вывеска* без перакладу, з адсылкай да *шыльда*. Паводле прадмовы слоўніка "такое слова выходзіць за рамкі літаратурнай мовы".

А вось у 30—80-х гадах беларускай *шыльдзе* прышчапілі дублёра — *вывеску*, якую і бачым у ТСБМ (Т. 1. С. 524): "*Вывеска* — тое, што і *шыльда*". Праўда, "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года падае слова *вывеска* толькі з адсылкаю да нармаванага *шыльда*. Новы "Тлумачальны слоўнік" (1996) зусім справядліва не падае рэестравага слова *вывеска*. На жаль, яго бачым у слоўнікавым артыкуле "Шыльда". На с. 768 чытаем: "Шыльда, ж. 1. Дошка з надпісам назвы ўстановы, прадпрыемства і пад., *вывеска*". І як тут зразумець чытачу, існуе як літаратурная норма слова "вывеска" ці не? Найноўшы

РБС-99 фіксуе: “*Вывеска* 1. (надпись) *шыльда*, -ды, ж. 2. перен. *шыльда*; (ширма) *шырма*; (маска) *маска*”. Як бачым, нармаваная мова не мае гэтае “вывескі”, а толькі “шыльду”.

***Сукенка, сукня і плацце.*** В.Ластоўскі да расійскага *платье* дае наступныя беларускія эквіваленты: *вопратка, адзеньне, адзежа* (Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С. 475). У РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (с. 425) надта грунтоўна распрацаваны гэты артыкул, дзе расійскаму *платье* адпавядае цэлы шэраг беларускіх словаў. У наступных перавыданнях гэтага слоўніка (1982, 1991, 1993, 1994) зробленыя толькі асобныя праўкі. Таму падам цалкам гэты артыкул: “*Платье* ср. 1. (одежда вообще) *адзенне, адзежа;* (верхнее) *вопратка; много всякого платья — шмат усякага адзення (усякай адзежы); магазин готового платья — магазін гатовага адзення (гатовай вопраткі); шкаф для платья — шафа для адзежы; верхнее платье — верхняя вопратка; военное платье — вайсковая вопратка; штатское платье — цывільная вопратка;* 2. (женское) *сукенка; плацце;* (из плотной шерстяной материи) *сукня;* (наряд) *убранне, убор; шёлковое платье — шаўковая сукенка; бархатное платье — аксамітная сукня (сукенка); летнее платье — летняя сукенка (летні ўбор)*”. І вытворныя ад гэтага слова таксама перакладаюцца адметнымі беларускімі словамі: *платьевщица — сукеншчыца, платяной — адзежны; платяная щётка — адзежная шчотка.* А вось “Беларуска-рускі слоўнік” 1989 года (Т. 2. С. 229) ужо падае: “*Плацце* м. *платье; Плаццевы — плательный*”. Вось як акадэмічныя слоўнікі збядняюць беларускую мову, адмаўляюцца ад багацця сваіх адмысловых лексічных адзінак.

***Плата — а не плацеж. Падаткаплатнік — не падаткаплацельшчык.*** Яшчэ І.Насовіч падаў народнае слова *плат* з значэннем рас. *платеж.* У “Слоўніку беларускай мовы” (с. 417) чытаем: “*Платъ* м. *Платежъ.* Не великій *платъ,* да й того не хочець отдаць”. “Беларуска-расійскі (Вяліка-літоўска-расійскі) слоўнік” Яна Станкевіча фіксуе і вытворнае ад *плат:* “*Платны — платежный; платная здольнасць — платежеспособность*” (с. 896).

“Беларуска-рускі слоўнік” 1989 года (Т. 2. С. 228) таксама падае: “*Плата* ж. 2. (выдача, уплата денег по какому-либо обязательству) *платеж* м.; *накладная плата — наложенный платеж.*

І гэта натуральна, бо ўтварэнні з суфіксам -*еж* беларускай мове неўласцівыя. У 20-х гадах слоўнікі не падавалі іх. Так, у “Беларуска-расійскім слоўніку” М.Байкова і С.Некрашэвіча чытаем: “*Плата* ж. — *плата, платёж; Платны* — 1) платный; 2) верный в платеже” (с. 239). І ў “Русско-белорусском словаре” 1953 года (с. 424) бачым: “*Наложенный платеж — накладная плата*”. Праўда, не абышлося тут і без “обогащения”: “платеж — плацеж, платежный — плацежны, плацежная ведомость — плацежная ведамасць, платежный день — плацежны дзень”. Але ж беларус кажа: дзень *(а)платы, (а)платны* ліст. І ў гэтым слоўніку бачым, акрамя згаданага *нак-*

*ладная плата* (рас. *наложенный платеж*), *"доўг адплатай дораг"* (рас. *долг платежом дорог*). У друку чытаем: "*Крызіс платаздольнасці* кліентаў падкасіў у гэтым годзе не толькі вытворцаў станкоў і кашуль, але і турыстычныя фірмы" (Віталь Цыганкоў. Зноў хочацца ў Парыж / / Свабода. 1995. № 32 ад 11 жніўня). Як бачым, рас. *платёж*, перапробленае на *плацеж*, зусім не так абавязковае ў беларускай мове. І хоць у "Беларуска-рускім слоўніку" 1989 года падаецца свая лексема *плата* як адэкватная рас. *платеж*, але на той сама старонцы бачым і гэта: "*Плацеж*, -цяжу м. в разн. знач. *платёж*". Тут і *плацежаздольнасць, плацежаздольны, плацежны*... Усё, як і ў *расійскай частцы. Аўтары і рэдактар (К.Крапіва) як бы і не заўважылі, што тым сама яны перакрэсліваюць пададзенае вышэй — сваё: "Плата — платёж; накладная плата — наложенный платёж*". І што тым сама разбураюць словаўтваральную сістэму беларускай мовы. У "Тэрміналагічным бюлетэні" (Вып. 2. Мн., 1999. С. 21—30) у публікацыі Т. Паваліхінай "Асновы эканамічнай тэрміналогіі (руска-беларускі слоўнік)" падаецца аднакаранёвае ўтварэнне з прыстаўкаю *вы-* (*выплата*): неплатёж — нявыплата, срок платежа — тэрмін *выплаты*; плательщик — *выплатнік*. Праўда, засталіся без перакладу ўсе іншыя тэрмінаадзінкі з утваральным словам "платёж" (а толькі напісаныя па-беларуску): ведамасць *плацёжная*, дэфіцыт *плацёжнага* балансу, *неплацёжаздольнасць*. І нават *плацельшчык*, якое, праўда, падаецца пасля слова "выплатнік" (с. 28). Калі быць паслядоўным, то мусілі б скрозь падавацца вытворныя з гэтым кампанентам (выплат-): *выплатны баланс, невыплатаздольнасць* ды пад.

Замест пазычанага *плацельшчык* у беларускай мове бытуе сваё *платнік*. Адсюль і *падаткаплатнік*, а не чужая структура *падаткаплацельшчык*. Параўн. укр.: *платник — плательщик*.

***Знасіцца, спрацавацца — разрабіцца.*** У другім томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1989. С. 372) чытаем: "*Разрабіцца* сов. (износиться в работе) *разработаться; утулка разрабілася — втулка разработалась*". Якая штучнасць! "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. М., 1980. С. 622) справядліва падае слова *разрабіцца* толькі з наступнымі значэннямі: 1. Увайсці ў ахвоту; разахвоціцца рабіць; 2. Пабыўшы ў дзеянні, ва ўжытку, пачаць дзейнічаць добра. 3. Разм. Паправіцца, патаўсцець".

На месцы штучна скалькаванага *разрабіцца* (*разработаться* — 'износиться в работе') мусіць быць: *знасіцца, спрацавацца*, як і аднамадэльныя *з'ездзіцца, сшаравацца, скасіцца* і інш.

***Знаўца — знаток.*** У дваццатых гадах выкарыстоўваліся словы *знаўца* і *знайка* як эквіваленты рас. *знаток*. Так, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча чытаем: "*Знайка* аг. — знающий, *знаток*; *знаўца* м. — *знаток*" (с. 129). В.Ластоўскі падае слова *знавец* як эквівалент рас. *знаток* — "практычны, умелы, які знае вартасць чаго" (РК(Б)С. С. 213). А вось слоўнікі 30—80-х гадоў фіксуюць ужо ў беларускай частцы і гэтае *знаток*. Так, у РБС-53 на с. 167: "*Знаток — знаўца, знаток*". Тое сама і ў яго

другім перавыданні (Мн., 1982. Т. 1. С. 300). Да таго ж тут ужо на першае месца паставілі агульнасаюзнае *знаток*: "*Знаток* м. — *знаток, знаўца*". Трэцяе, чацвёртае і пятае перавыданні поўнасцю паўтарылі тэкст гэтага артыкула з выдання 1982 года. Але ж слова *знаток* мае неўласцівую беларускай мове структуру; бо суфікса *-ток(-так)* нашая мова не ведае, тым часам як суфікс *-ец* і яго варыянты *-ц-а / -ўц-а* актыўна выкарыстоўваюцца пры ўтварэнні назоўнікаў. Параўн.: *знавец* і *знаўца — знаток* (Белорусско-русский паралексический словарь-справочник: Пособие для учителя (Мн., 1985)).

***Выраб, вырабка, выпрацоўка — вырабатка.*** У даведніках 20-х гадоў не было слова *вырабатка*, а толькі свае словы. Так, "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (С. 69) падае: "*Выраб* м. — 1) изделие; 2) обработка; *Вырабка* ж. — *выделка*; *Выпрацоўка* ж. — *выработка*". В.Ластоўскі таксама перакладае рас. *выработка* беларускімі эквівалентамі: *вырабка, выраб, выпрацоўка, апрацоўка* (Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С. 107). Гэтую лексічную норму засведчыў і "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 87). У ім чытаем: "*Выработка* ж. 1) *вырабка*, (выделка) *выраб; выработка превысила норму — вырабка перавысіла норму; вещь хорошей выработки — рэч добрага вырабу;* 2) *выпрацоўка, выработка проекта — выпрацоўка праекта*". Тут падаюцца і ўтваральныя дзеясловы: "*Вырабатывать* несов. 1) *вырабляць;* 2) (создавать) *выпрацоўваць; вырабатывать резолюцию, план — выпрацоўваць рэзалюцыю, план; Вырабатываться* 1) *выраблянца;* 2) *выпрацоўвацца*".

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы таксама падае: "*Выпрацоўка* ж. — *выработка. Выраб* м. 1. *выработка*, производство, изготовление, выпуск; 2. техн. выделка, дубление, дубка; 3. Чаще мн. изделия" (с. 180 — 181). Але тут мы ўжо не знойдзем беларускага ўтварэння *вырабка* (ад *вырабіць: выраб-ка)*, а толькі *вырабатка* (рас. *выработка* ад *выработать: выработ-ка)*. Другое выданне "Беларуска-рускага слоўніка" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 278 — 279) таксама падае з значэннем рас. *выработка* сваё слова *выпрацоўка*. Але і — пазычанне *вырабатка*. А яшчэ і "*вырабатак* см. выпрацоўка".

Двухтомавы "Русско-белорусский словарь" (1982) пад рэдакцыяй К.Крапівы замест беларускага ўтварэння *вырабка* падае (паралельна да *выпрацоўка*) і *вырабатак; с выработки — ад выпрацоўкі (ад вырабатку)*; а як горны тэрмін — толькі *вырабатка* (Т. 1. С. 155—156).

Вось як ішло занядбанне свайго слова. Трэцяе (1991), чацвёртае (1993) і пятае (1994) яго выданні, здзейсненыя ўжо падчас незалежнасці беларускай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь — недарэчна паўтарылі без зменаў усе вось гэтыя "пэрліны" (гл. Т. 1. Мн., 1993. С. 271).

***Заробак і заробкавы — а не заработак і заработачны; адробкі і адробкавы — а не адработкі і адработачны.*** Формы *заработак, адработ* і *адработак*, якія падае "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года, не бела-

рускія ўтварэнні (у нас няма дзеясловаў *заработаць* і *адработаць*), а пазычанні з расійскай мовы, дзе яны ўтварыліся ад згаданых дзеясловаў (*отработать — отработок, отработки; заработать — заработок, заработки*). Як неўласцівыя беларускай мове трэба кваліфікаваць і прыметнікавыя ўтварэнні ад іх: *адработачны, заработачны* (на месцы натуральных у беларускай мове *адробкавы* і *заробкавы*). У натуральным маўленні пачуеш: "*Які там заробак?! Якая заробкавая плата?!*" "Русско-белорусский словарь" 1982 года (Т. 1. С. 279) у беларускай частцы падае два словы: *заработак* і *заробак*, але апошняе кваліфікуе як гутарковае. Зразумела чаму — яно не супадае з расійскім *заработак*, хоць базавае для іх *заработать* перакладае словамі *зарабіць, запрацаваць*. Дык адкуль тады гэтае *заработак*?

Лексеме *отработать* у беларускай мове таксама адпавядае *адрабіць, адпрацаваць* (Т. 1. С. 634). Ранейшыя слоўнікі, менш падлеглыя расійскамоўнаму ўплыву, не так шырока скіраваныя на зліццё моваў, падавалі два адпаведнікі да рас. *отработак*. Напрыклад, "Русско-белорусский словарь" 1953 года (с. 156) дае *адробак* і *адработак* як раўнапраўныя да рас. *отработок*.

Такім чынам, натуральнымі, унармаванымі ёсць у беларускай літаратурнай мове ўтварэнні: *адрабіць — адробак, адробкі; зарабіць — заробак, заробкі*; формы *адработ, адработак, адработкі, заработак, заработкі* не маюць у беларускай мове сваіх каранёў. Сучасная маўленчая практыка і тэрміналагічныя публікацыі пацвярджаюць гэта. Вось некаторыя прыклады. "У Літве мінімальны *заробак* — 100 долараў, а сярэдняя пенсія 125 долараў" (Народная воля. 1999. 30 студз.). "*Заработок — заробак*" (Асновы эканамічнай тэрміналогіі (руска-беларускі слоўнік) // Тэрміналагічны бюлетэнь. Вып. 2. Мн., 1999).

***Заробная (плата) ці заработная?*** Слова *заработная (плата)* — з рас. *заработная (плата)*, якое ўтварылася ад дзеяслова *заработать* (*заработ-н-ая*). У беларускай мове на месцы рас. *заработать* выкарыстоўваецца *зарабіць*. Ад гэтага слова і прыметнік *заробная*, які стаў выкарыстоўвацца ў спалучэнні з *плата: заробная плата* (паралельна з *заробак*). Натуральнае словаспалучэнне *заробная плата* стала шырокакарыстаным у нацыянальным друку. А нашыя акадэмічныя слоўнікі ўсё яшчэ працягваюць савецкую традыцыю — падаюць не свае словы, а пазычанні з былога ўсесаюзнага стандарту (*заработак, заработная плата*). Новы "Тлумачальны слоўнік" перанёс на свае старонкі не толькі гэтыя словы — *заработак, заработная плата*, але і поўную іх дэфініцыю (тлумачэнне). А сваё *заробак* кваліфікуецца тут як "размоўнае" (з спасылкаю на "заработак").

Часам мяркуюць, што слова *заработак* — сваё прыстаўкава-суфіксавае ўтварэнне ад *работа* (*за-работ-ак*). Аднак такога словаўтваральнага тыпу беларуская мова не мае. Утварэнні з прыстаўкаю *за-* і суфіксам *-ак* складаюць у беларускай мове наступныя два словаўтваральныя тыпы: 1) словы, якія абазначаюць тыя самыя прадметы, што і ўтваральныя лексемы, але з дадатковым значэннем зменшанасці: *засенак* "невялікія сені" (І.Насовіч. СБМ),

*кут-закутак;* 2) словы з значэннем месца, прасторы, размешчаных за тым ці на мяжы таго, што названае ўтваральным словам: *комін — закомінак, застрэшак, запечак* (Падрабязней пра гэта гл. у кнізе: П.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн., 1977. С. 237). Нашыя акадэмічныя граматыкі словы з прэфіксам *за-* і суфіксам *-ак* таксама вызначаюць толькі з лакальным (прасторавым) значэннем (гл. Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962. С. 136), а таксама з значэннямі, ужо згаданымі намі (Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 281—282).

Як бачым, натуральнымі для беларускай мовы ёсць *заробная плата* і *заробак* ( а не *заработак* і *заработная плата*).

Побач з *заробная плата* ў друку стала выкарыстоўвацца і *заробкавая плата*. Але ў адпаведнасці з законам эканоміі моўных сродкаў месца аналітычнае назвы *заробкавая плата* стаў займаць яго аднаслоўны эквівалент *заробак*, які набывае і статус тэрміналагічнай адзінкі. "*За гэтымі наёмнымі рабочымі законам павінны замацоўвацца пэўныя правы, што тычацца мінімальнага* ***заробку*** *і налічвання працоўнага стажу і гарантыі пенсійнага забеспячэння*" (ЛіМ. 14.04.1998. С. 15).

***Супольнік ці член, сябра?*** Слова *член* з значэннем 'частка цэлага, супольнік пэўнай сябрыны' (арцелі, партыі і да т.п.) не выкарыстоўвалася ў 20-х гадах. М.Байкоў і С.Некрашэвіч у "Беларуска-расійскім слоўніку" (с. 305) падаюць: "*Супольнік* м. — член артели, соучастник". Яно тут мае і свае аднакаранёвікі: "*Суполка* ж. — общество; *супольны* — общий, совместный; *супольня* — община; *супольства* — сообщество; *супольнасць* — совместность, общность".

У наш час замест намінацыі *член* актыўна і шырока стала выкарыстоўвацца слова *сябра: сябра БСДГ, сябра БЗВ, сябры рады*... Зафіксавалі слова *сябра* М.Байкоў і С.Некрашэвіч. У іх слоўніку (с. 310) бачым: "*Сябар*, -бра м. — друг, сотоварищ". Яно таксама мае свае аднакаранёвікі: "*Сябрыня* ж. — артель". "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае *сябра* з значэннем рас. *член*. У трэцім томе на с. 730 чытаем: "Член... (какой-либо организации, товарищества — ещё) *сябра*, -рам". В.Ластоўскі рас. *член* (як частку цэлага) перакладае словамі *чэляс, чалец*. "*Чэлясы* цела: рукі, ногі, пальцы, галава. *Чалец рады, таварыства, клюбу*" (Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С. 746). З згаданых трох найбольш прыдатным падаецца мне слова *супольнік*: яно досыць матываванае і не абцяжаранае іншымі значэннямі.

***Складка, унёсак — "узнос"***. Слова *ўзнос* — гэта рас. *взнос*, падагнанае пад беларускую фанетыку. Яго не фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. В.Ластоўскі перакладае яго так: "*Взнос* м. грошы куды: *уплата, укладка*" (РК(Б)С. С. 66).

Сучасны перыядычны друк выкарыстоўвае слова *складка* і *ўнёсак*. Яны выразныя будоваю і добра матывуюцца: *складаць → складка, унесці → унёсак*. Слова ж *узнос* не мае такой матывацыі, у ім нехарактэрная для беларускае мовы прыстаўка *уз-*.

Слова "*ўнёсак*" набывае ў сучаснай моўнай практыцы і пераноснае значэнне 'ўклад': "Найкаштоўнейшы *ўнёсак* В.Ластоўскага як гісторыка, які ці не першы разглядаў Беларусь як адметны суб'ект даследавання, з пункту погляду беларускіх інтарэсаў" (Алесь Бяляцкі. Вяртанне ў сусвет / / ЛіМ. 1997. 31 кастр.).

Словы *ўнёсак* і *складка* бытуюць і ў суседніх славянскіх мовах: укр. *внесок (членський внесок)*, пол. składka (partyjna, czlonkowa).

***Сякера — тапор.*** Слоўнікі 20-х гадоў падавалі *сякера* (і *сакера*) з значэннем рас. *секира, топор* (БРС-26. С. 330, 282). В.Ластоўскі нават вытлумачвае паходжанне гэтага слова: "*Топор* м. — *сякера*, ад *сячы, сякерка*" (РК(Б)С. С. 707). І вытворнае *топорище* перакладаецца як "*сякерыца, сякерышча*" (Тамсама).

Слоўнікі 30—80-х гадоў фіксуюць ужо два словы: "*Топор* м. — *сякера* ж., *тапор* м." (РБС-53. С. 687). Але вытворныя словы з канатацыйным значэннем — толькі ад *сякера*: "*топорик — сякерка, топорище* увелич. *сякерышча*" (Тамсама). А вось перавыданне 1982 года ўжо і гэтыя вытворныя падае з "дублетамі": "*Топорик — сякерка, тапорык; Топорище* увелич. *сякерышча, тапарыска*" (Т. 2. С. 485). Тое сама і ў наступных перавыданнях (гл. РБС-93. С. 531). Як бачым, і тут усё ішло да "зліцця моваў".

***Камплектавы, камплектавальны — камплектуючы.*** Наш друк, радыё і тэлебачанне без патрэбы на месцы рас. *комплектующие* (части, детали) выкарыстоўваюць гэтае слова і ў беларускім маўленні — *камплектуючыя* (часткі, дэталі). Але ж беларускай мове дзеепрыметнікавыя формы на *-учы(-ючы), -ачы(-ячы)* неўласцівыя. Пра гэта няраз пісалі ў друку. Дый што значыць *камплектуючыя часткі?* Што — яны самі *камплектуюцца?* Не, яны — часткі пэўнага *камплекту*. А таму натуральным выступае тут *камплектавыя часткі* (дэталі), г.зн. часткі да адпаведнага *камплекту*.

Слоўнікі падаюць у гэтым значэнні і аднакаранёвае слова *камплектавальны* як эквівалент рас. *комплектовочный* (Русско-белорусский словарь. Мн., 1993. Т. 1. С. 652). Яно добра стасуецца з аддзеяслоўным назоўнікам *камплектаванне* і дзеясловам *камплектавацца*. Калі ідзе гаворка аб працэсе *камплектавання*, тады да месца будзе выкарыстаць *камплектавальныя дэталі* (але не *камплектуючыя*). Параўн.: "*Комплектующий — камплектавальны, які камплектуе, якім камплектуюць*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 84).

***Раздавіць.*** Ці беларускае гэта слова? Перакладныя слоўнікі 50—80-х гадоў падаюць яго з пераносным значэннем як адпаведнік рас. *раздавить*. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года (с. 565): "*Раздавить* сов. 1. *расціснуць, раздушыць;* 2. перен. *раздавіць; раздавить врага — раздавіць ворага*". У двухтомавым яго перавыданні (РБС-82. Т. 2. С. 286): "*Раздавить* сов. 1. *расціснуць*, мног. *парасціскаць, раздушыць*, мног. *параздушваць;* 2. перен. *раздавіць; раздавить врага — раздавіць ворага*". Поўнасцю паўтораны гэты тэкст і ў наступных перавыданнях (1991, 1993, 1994) (гл. 4-е выд. 1993. Т. 3. С. 167). А "Беларуска-рускі слоўнік" 1989 года (Т. 2. С. 361) ужо і

не пазначае яго як з пераносным значэннем, а падае вось так: "*Раздавіць* сов. *раздавить*".

Як трапіла гэтае *раздавіць* у беларускія слоўнікі і калі? У даведніках 20-х гадоў яго не было. Яно прыйшло, мусіць, з ваенных допісаў, з расійскага лексікону. Параўнаем плакат "*Раздавим фашистскую гадину*", які потым і па-беларуску так напісалі (толькі паводле свайго правапісу): "*Раздавім фашысцкую гадзіну*". Сёння хутчэй напісалі б "*Задушым фашыстоўскую гадзіну*". Параўн.: "курс на *задушэнне* нацыянальнага адраджэння забяспечаны, так бы мовіць, юрыдычна..." (Ніл Гілевіч. І яшчэ раз аб нашай мове // Народная воля. 1998. 31 кастр. С. 2).

Дзеяслоў *раздавіць* (як і пазначана ў слоўніках) — закончанага трывання, ён — вытворны ад *давіць*. Але такога слова не падаюць слоўнікі, у іх ліку і "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года, а толькі: "*Давіцца* (с трудом проглатывать) *давиться*" (Т. 1. С. 346).

Рас. *давить* слоўнікі перакладаюць адмысловымі беларускімі адпаведнікамі. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года (с. 106) бачым: "*Давить* несов. 1. *ціснуць;* пар в цилиндре давит на поршень — пара ў цыліндры ціcне на поршань; 2. (душить) *душыць;* 3. (мять, разминать) *душыць, расціскаць, ціснуць;* давить ягоды — душыць (расціскаць) ягады; 4. перен. *душыць; націскаць; гнясці;* тоска меня давит — туга мяне гняце". І вытворныя ад гэтага дзеяслова таксама перакладаюцца адпаведнымі лексемамі: "*Давиться* 1. *душыцца;* 2. страд. *душыцца; расціскацца, ціснуцца. Давка — ціcканіна* ж., *таўкатня* ж. *Давление* ср. 1. *ціск* м. 2. перен. (воздействие) *націск* м." "*Давленный* прил. 1. *душаны;* 2. (о ягодах и т. п.) *душаны, ціcканы*" (Тамсама).

І ў самых апошніх перавыданнях "Русско-белорусского словаря" бачым амаль тое сама. Так, у выданні 1993 года (Т. 1. С. 341) дадаецца толькі *давіцца* (от чего-л. застрявшего в горле). Яшчэ В.Ластоўскі ў "Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" (с. 140) пісаў: "*Давить* што — *душыць, ціснуць, прыгнятаць, клешчыць; Сабака давіцца косьцю,* але *пятлёй задушыўся сабака.* У нас слова *давіць, давіцца* ўжываецца толькі ў значэнні затканьня горла. *Задушылі чалавека. Птушка задушылася ў пляніцы. Выгняці балячку. Гняце пан людзей. Калясом пагняло руку. Прыгнятае душу. Клешчыць жалем сэрца*". У "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 143): "*Подавлять — душыць, знішчаць; подавление — задушэнне, знішчэнне*".

Як бачым, рас. *давить(ся)* у беларускай мове мае толькі адзін гукасемантычны адпаведнік *давіцца* (пры глытанні).

Дык ці трэба гэтае *раздавіць* замацоўваць у беларускім слоўніку, калі наша мова мае досыць багаты арсенал сваіх словаў-адпаведнікаў?

***Мястэчка — пасёлак гарадскога тыпу.*** Слова *мястэчка* ад агульнаславянскага *места* 'горад', г. зн. пасяленне з рысамі горада. Яно бытавала ў старой беларускай мове. У Заходняй Беларусі — да 1939 года (уз'яднання з БССР). А пазней — выціснута з маўленчай практыкі як не "сваё".

Новы Тлумачальны слоўнік, які выйшаў з друку прыканцы 1996 года, шмат у чым працягвае нялепшыя традыцыі свайго папярэдніка — пяцітомавага "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн., 1977—1984). Так, у ім слова *мястэчка* ўсё яшчэ кваліфікуецца як застарэлая намінацыя. На с. 354 чытаем: "*Мястэчка*... н., (уст.). Пасёлак гарадскога тыпу".

Дарэмна будзем шукаць у новым слоўніку і такое звычнае, свойскае слова, як *местачковец*. Яго папярэднікам яно яшчэ фіксавалася, праўда, як пасіўная лексема: "*Местачковец*, м. Уст. Жыхар мястэчка" (Т. 3. Мн., 1979. С. 140). А вось перакладныя слоўнікі падаюць слова *мястэчка* без стылістычнай агароджы. Так, двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы сведчыць: "*Местечко* II (селение) *мястэчка*" (Т. 1. С. 437). Тое сама бачым і ў перавыданні 1993 года (Т. 2. С. 49). Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы слова *местачковец* падае не як застарэлае, а як размоўнае: "*Местачковец* м. разг. житель местечка". Бачым тут і прыметнік *местачковы* як стылёва нейтральнае слова (Т. 1. Мн., 1988. С. 685), хоць у Тлумачальным слоўніку ўсе гэтыя словы — *мястэчка, местачковец* — падаюцца як застарэлыя намінацыі.

Відаць, стылёвая памета "уст." перайшла да згаданых словаў ад утваральнага *места*, якое ў БРС-88 семантызуецца так: "*Места* ср. уст. город".

Так, слова *места* з значэннем 'горад' выкарыстоўваецца ў сучаснай моўнай практыцы рэдка. А пра *мястэчка* гэтага не скажаш. У жывой народнай мове і цяпер мястэчкі называюць *мястэчкамі*, а не савецкімі шматслоўнымі *пасёлкамі гарадскога тыпу*. Дый як тады назваць жыхара такога паселішча? *Гартыппасялковец?* А вось *местачковец* — натуральнае, свойскае слова. А застарэлым яго хацелі зрабіць бальшавікі, імкнучыся пазбавіць беларусаў, як і іншыя народы СССР, усяго адметнага, свайго, роднага, каб зляпіць з іх "адзіны савецкі народ".

У той час слова *мястэчка* як адлюстраванне беларускай рэчаіснасці з рукапісу выкрэслівалася. Мне давялося пайсці на пэўную рызыку, каб падаць у кнігах "Народная лексіка" (Мн., 1970. С. 166) і "Народная лексіка і словаўтварэнне" (Мн., 1972. С. 276) гэтае слова ў спісе паселішчаў, дзе збіраўся лексічны матэрыял (давялося схаваць яго ў дужках). А вось у "Дыялектным слоўніку: З гаворак Зэльвеншчыны" (Мн., 1970) слова *мястэчка* ўжо знікла з спісу паселішчаў: яго выкраслілі пры наборы слоўніка. Дазвалялася ўжываць намінацыю *мястэчка* толькі пры геаграфічных апісаннях Кітая і іншых замежных краінаў.

Між тым слоўнікі расійскай мовы падаюць гэтыя намінацыі як стылёва нейтральныя дзеля акрэслення этнаграфічнай адметнасці беларусаў і ўкраінцаў. Так, 4-томавы "Словарь русского языка" (Т. 2. Мн., 1982. С. 256) фіксуе: "*Местечко* 2. ср. Большое селение городского типа на Украине, в Белоруссии и близких им областях". І ў аднатомавым "Словаре русского языка" С.Ожагава чытаем: "*Местечко*... Посёлок полугородского типа (на Украине и в Белоруссии), прил. *местечковый*". Як бачым, гэтае слова мае тут

не стылёвае, а тэрытарыяльнае абмежаванне. Вось гэтую лакальную адметнасць і імкнуліся зліквідаваць пры "зліцці" этнасаў у "адзіны савецкі народ".

Сёння імкненне некаторых лексікографаў жыць учарашнім днём, трымаць беларускія адмысловыя намінацыі на савецкім ланцугу выглядае больш як дзіўна. Праўда, гэтага абмежавання не трымаецца маўленчая практыка. Дый ці можам мы, ці маем права адмаўляцца ад сваіх каранёў?

Перыядычны друк, навуковыя, публіцыстычныя працы актыўна карыстаюцца словам *мястэчка* як стылёва неабмежаваным. Вось некалькі свежых прыкладаў: "Пасля таго як былі ліквідаваныя апошнія беларускія школы ў гарадах і *мястэчках* Беларусі, на працягу больш за 20 гадоў ніводзін гарадскі вучань не навучаўся ў школе па-беларуску" (Наша слова. 1997. № 8). "Немцы на Маскву пёрлі, а да нас у *мястэчка* прыехаў камендант, усе яго доктарам звалі" (В.Быкаў. Мальбара / / Полымя. 1998. № 11. С. 5).

***Хуткі, шпаркі, жвавы, борзды, спешны — быстры.*** Слова *быстры* не падаюць даведнікі 20-х гадоў, слоўнікі І.Насовіча і Я.Станкевіча. В.Ластоўскі рас. *быстрый* перакладае як *борзды, борзкі, шпаркі, хіжы*, а вытворнае: *быстряк* м. на рацэ — *турэц* (Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С. 48). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 46) перакладае: "*Быстрый* 1. *борзды;* (шибкий) *шпаркі;* (скорый) *хуткі;* 2. перен. *быстры;* (живой) *жвавы; Быстро* нареч. 1. *борзда;* (шибко) *шпарка;* (скоро) *хутка, скора;* 2. перен. *быстра;* (живо) *жвава*". Тут бачым і складаныя словы з першаю часткаю *быстро-*. Вось як яны перакладаюцца: "*Быстроглазый — быстравокі; быстродействующий — хуткадзейны; быстрокрылый — шпаркакрылы; быстроногий — шпарканогі; быстрорастущий — хуткарастучы; быстротекущий — шпаркаплынны, шпаркабежны; быстротечный* уст. *хуткаплынны, хуткабежны; быстроходный — быстраходны*". Рас. *быстрота* перакладаецца словамі *хуткасць, шпаркасць; с быстротой молнии — з хуткасцю маланкі* (Тамсама). А вось яго перавыданне — "Русско-белорусский словарь" 1982 года ўжо касуе амаль усе беларускія сінонімы і пакідае ў беларускай частцы тыя словы, што і ў расійскай, або ставіць іх на першае месца. На с. 79 першага тома бачым: "*Быстрый* 1. (стремительный) *быстры; шпаркі; быстрое течение — быстрае цячэнне; быстрый бег — быстры (шпаркі) бег;* 2. (резвый, живой) *быстры, жвавы; быстрая лошадь — быстры (жвавы) конь;* 3. (быстропротекающий) *шпаркі, хуткі;* 4. (короткий, беглый) *быстры; быстрый взгляд — быстры позірк*". І вытворнае прыслоўе перакладаецца гэтаксама. Калі ў першым выданні (РБС-53) рас. *быстро* мела гэтакі адпаведнік толькі ў адным выпадку — як пераноснае (гл. вышэй), то ў другім — амаль ва ўсіх выпадках. Мяркуйце самі: "*Быстро* нареч. 1. (стремительно) *быстра, шпарка;* 2. (резво, живо) *быстра, жвава;* 3. (коротко, бегло) *быстра...*" (Тамсама). І ў складзе вытворных словаў з першаю часткай *быстро-* таксама з'явіліся змены ў бок набліжэння да расійскай мовы: *быстроногий — быстраногі* (Тамсама). Гэты тэкст поўнасцю захаваны і ў самых апошніх перавыданнях слоўніка (гл. РБС-93. Т. 1. С. 135).

Але ж не стасуецца гэтае *быстра* ні з тым, што мы мелі ў адраджэнскіх 20-х гадах, ні з сучаснаю моўнаю практыкай. Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі не фіксуюць слова *быстра* (і яго вытворных): *быстродвижущийся — хуткарухомы; быстродействующий — хуткадзейны; быстрорежущий — хуткарэзны; быстротечный — хуткацечны, хуткабежны; быстроходность — хуткаходнасць; быстрый — хуткі, шпаркі* (РБФС-94); *быстрозатухающий — хуткапатухальны; быстрорастворимый — хуткарастворны; быстрорастущий — хутканарастальны; быстрота — хуткасць, шпаркасць; быстрорасходящийся — хуткаразбежны; быстроубывающий — хуткаспадальны, хутказніжальны; быстрый — хуткі, шпаркі* (РБФС-99). Пры ўтварэнні складаных словаў гэтае *быстра* амаль не выкарыстоўваецца ў самых апошніх па часе перавыдання акадэмічных слоўніках. Да прыкладу, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года (выданне 1994 года — цалкам тоеснае тут): *быстродействующий — хуткадзейны, быстрокрылый — шпаркакрылы, быстрорастворимый — хуткараставаральны, быстрорастущий — хуткарослы, быстрорежущий — хуткарэзны, быстросъёмный — хутказдымны.*

Дык ці не пара адмовіцца ад заганнай ідэі "зліцця нацыяў, іх культуры і мовы" і выкарыстоўваць багаты арсенал сваіх словаў: *хуткі (хутка, хуткасць), шпаркі (шпарка, шпаркасць), жвавы (жвава, жвавасць), борздкі (борздка, барзджэй), спешны (спешна, спешнасць)*. Параўн.: "*Быстротечная война — шпаркабежная вайна*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 33).

***Шпаркі, леткі (лёткі) — быстраногі.*** Пра чалавека (і жывёліну), які хутка ходзіць, кажуць *леткі (лёткі)*, г. зн. ён як бы не ходзіць, а *лятае (лётае)*. Так, у родных мне гаворках Зэльвеншчыны пачуеш: "*От **леткі** гэты Пятрусь. Ніхто ні зыдзяцца з йім! Як птушка тая ляціць, такі **шпаркі** ў хадзе*" (в. Грабава). "***Летка** твая цялушка, ні ўпыніш яе, ні зьбегаясься з ею*" (Тамсама). Гэта адлюстравана і ў маім "Дыялектным слоўніку (З гаворак Зэльвеншчыны)" (Мн., 1970. С. 89): "*Леткі*, прым. 1. Хуткі (у хадзе). *Халера яго дагоніць, леткі такі*. Гр. 2. Жвавы, рухавы, жыццяздольны. *Доўго жыцімя твая свякроў — летка ішчэ*. Св." Дык нашто калькаваць чужое, калі ёсць сваё? На месцы штучнага *быстраногі* маўленчая практыка беларусаў мае свае адпаведнікі *шпаркія ногі* (Я.Колас. На святой зямлі): "*Хуткія ногі* — назва апавядання Янкі Сіпакова" (ЛіМ. 1998. 12 чэрв.)

***Помснік ці мсцівец?*** Помслівага чалавека называюць *помснікам*. Гэта ўтварэнне ад *помста, помсціць. Мсцівец* — калькаванне з рас. *мститель*, дзе суфікс *-тель* заменены на *-(в)ец*. "Беларуска-рускі слоўнік" 1953 года рас. *месть, мстить* перакладае беларускімі *помста, помсціць* (с. 254, 264). Але: *мститель — мсцівец, мстительно — мсціва, мстительность — мсцівасць, мстительный — мсцівы, помслівы*" (с. 267). Словы *мсцівы, мсцівец, мсцівасць* бачым і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т.

3. Мн., 1979. С. 177). Але ў дэфініцыі выкарыстоўваюцца толькі прыстаўкавыя словы: "*Мсцівец* м. Той, хто *помсціць. Мсцівы*, тое, што і *помслівы. Мсцівасць* — хцівасць да *помсты*". У чацвёртым томе ТСБМ (Мн., 1980. С. 291) падаюцца і прыстаўкавыя іх родзічы: *помслівасць, помслівы, помсціцца, помсціць*. І семантыка іх натуральна тлумачыцца з выкарыстаннем утваральных словаў. Да прыкладу: "*Помслівы*, -ая, -ае. Схільны да *помсты. Помсціць* незак. Чыніць *помсту* каму-н."

Пры параўнанні словаў *мсцівы, мсцівасць* і *помслівы, помслівасць* больш натуральнымі бачацца апошнія, бо яны маюць натуральную матывацыю — *помста, помсціць*, тым часам як першыя не маюць яе. Невыпадкова ў другім выданні "Русско-белорусского словаря" (Мн., 1982. Т. 1. С. 458) расійскія словы ўжо перакладаюцца беларускімі прыстаўкавымі адпаведнікамі, а беспрыстаўкавыя падаюцца толькі пасля іх (у РБС-53 былі толькі апошнія): "*Мстительно* нареч. *помсліва, мсціва; мстительность — помслівасць, мсцівасць, мстительный — помслівы, мсцівы*". Гэты тэкст поўнасцю паўтораны і ў выданні 1993 года (Т. 2. С. 86), што паказвае і на сучасную моўную норму.

Як бачым з прааналізаванага, слова *мсцівы* не мае свае матывацыі, бо няма ў сучаснай беларускай мове дзеяслова *мсціць* ці назоўніка *мста*. А таму і *мсцівец* не мае рэальнага матывавання, а ўсведамляецца як паўкалька рас. *мститель*. Натуральным у гэтым гняздзе словаў бачыцца асабовы назоўнік *помснік* як адпаведнік рас. *мститель*. У жывой народнай мове яно шырока выкарыстоўваецца: "*Ні будзь мне помсьнікам, сынку мой, бо Бог дасць табе кару*" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

Відаць, невыпадкова ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча мы не знойдзем словаў *мсцівы* і *мсцівец*.

***Тэлевізійнік — тэлевізіёншчык.*** Беларускае радыё і тэлебачанне няраз паўтарае ў сваіх перадачах небеларускае слова *тэлевізіёншчык*. Так было і 8 жніўня 1995 года па першай праграме радыё ў 19 гадзін 45 хвілінаў, калі прагучала: "*Нашы тэлевізіёншчыкі рыхтуюць новую праграму*".

Слова *тэлевізіёншчык* — утварэнне ад прыметніка *тэлевізіённы* (*тэлевізіён-шчык*). Але ў беларускай мове няма такога слова, а толькі *тэлевізійны: тэлевізійная перадача, тэлевізійная вышка, тэлевізійная студыя*. Ад яго з выкарыстаннем суфікса *-ік* і ўтворана беларускае *тэлевізійнік* (*тэлевізійн-ік*). "*У тэлевізійнікаў* забіралі плёнкі ў кадэбэ. Вярталі засветленымі" // Полымя. 1998. № 5. С. 80.

***Надвор'е і пагода.*** У адраджэнскія гады гэтыя словы мелі кожнае сваё адмысловае значэнне. Так, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча чытаем: "*Надвор'е* н. — *погода*" (с. 178). "*Пагода* ж. — *вёдро*" (с. 206). І.Насовіч таксама зафіксаваў *надвор'е* з такім сама значэннем — "погода": "*Дурное сянни надворье*" (Слоўнік беларускай мовы. С. 304). У слоўніку падаюцца вытворныя ад *пагода* дзеясловы і прыметнікі: "*Погодзицца*, сов. *Распогодзицца*. Установляется погода. *На дворе пого-*

*дзицца. Ужо распогодилось*" (с. 436). "*Погодливый*, прил. 1. Благоприятный (о погоде). *Погодливое время*. 2. Убранный въ ясные дни, въ хорошее время. *Погодливое сенцо. Погодный*, прил. Благоприятный по постоянно хорошей *погоде. Погодные дни. Погодная осень*" (Тамсама).

У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" даецца такое тлумачэнне гэтага слова: "*Надвор'е*, -я, н. Стан атмасферы ў пэўны час у пэўным месцы. *Добрае надвор'е. Зводка надвор'я. Надвор'е стаяла цёплае, лагоднае, з сухім лёгкім ветрыкам*. Якімовіч. *Ужо некалькі дзён цягнецца дажджліваe надвор'е*. Маўр" (Т. 3. Мн., 1979. С. 234). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (1962. С. 472) таксама падае: "*Надвор'е* ср. *погода* ж." Праўда, у ім ужо бачым і такое: "*Пагода ж. погода*" (с. 555).

Яшчэ "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі рас. *погода* перакладае беларускім словам *надвор'е*, падаючы ілюстрацыі толькі з гэтым словам, а лексема *пагода* фіксуецца як дадатковае слова. На с. 435 бачым: "*Погода ж. — надвор'е* ср.; *пагода* ж.; *плохая погода — дрэннае надвор'е; хорошая погода — добрае надвор'е; в хорошую погоду — добрым надвор'ем*". А вось наступнае яго выданне пад рэдакцыяй К.Крапівы — усё мяняе. Дзеля растварэння беларускай мовы? Бярэцца ўжо *пагода*, а *надвор'е* адціскаецца на задні план. І ў ілюстрацыях — *надвор'е* на другім плане, а найперш *пагода*. Так, у другім томе (с. 84) чытаем: "*Погода ж. пагода; надвор'е; плохая погода — дрэнная пагода, дрэннае надвор'е; хорошая погода — добрая пагода, добрае надвор'е; в хорошую погоду — у добрую пагоду, добрым надвор'ем*". Гэты тэкст поўнасцю прадубляваны і ў наступных перавыданнях слоўніка (гл. РБС-93. Т. 2. С. 576).

Выходзіць, што слова *пагода* ўжо набыло ўніверсальнае значэнне. Але звернемся да вытворных ад слова *пагода*. У ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 496) чытаем: "*Пагодлівы*, -ая, -ае. Добры, ясны, цёплы. *Пагодны*. Тое, што і *пагодлівы. Усталявалася пагодная восень. Пагодзіцца* незак. Рабіцца *пагодным. Дзень раздумаў пагодзіцца, і светлаватыя хмары віселі над ракой*. Караткевіч. *Добра, што хоць пагодзілася: перастаў сыпаць дробны дождж*. Машара. *Пагодзіць*. Пра добрае, спрыяльнае надвор'е". У іншых тамах "Тлумачальнага слоўніка" бачым і прыстаўкавыя вытворныя дзеясловы: "*Выпагадзіцца*. Аб надыходзе яснага сонечнага надвор'я. *Выпагоднівацца*. Незак. да выпагадзіцца" (Т. 1. Мн., 1977. С. 558). "*Распагоднівацца*. Незак. да распагодзіцца. *Распагодзіцца* зак. 1. Стаць ясным, *пагодным. Раніца распагодзілася*. 2. безас. Пра наступленне яснага, пагоднага надвор'я. *Распагодзіць... Зрабіць ясным, светлым. Нябёсы сонца распагодзіць. Сады бушуюць на вясне*. Гаўрусёў".

І ўстойлівыя выслоўі, прымаўкі маюць слова *пагода* толькі з значэннем 'добрае надвор'е': *Дым слупамі на пагоду падымаецца ўгару. Чакаць з мора пагоды. Хто дажджом косіць, той пагодаю сушыць*.

Усё згаданае сведчыць, што ў нармаванай мове слова *пагода* мае больш

вузкае значэнне, чым *надвор'е*, — абазначае толькі добрае надвор'е. Значыць, калі ідзе гаворка пра стан надвор'я ў пэўны час у пэўнай мясцовасці, павінна выкарыстоўвацца нармаванае слова *надвор'е*. Прыкладам: *Надвор'е ў наступныя суткі на Беларусі застаецца цёплае, сонечнае.*

Для абазначэння дрэннага надвор'я выкарыстоўваюцца аднакаранёвыя з *пагода* словы з адмоўнаю прыстаўкаю *не-*: *непагадзь, непагода* (і *нягода*). Так, у трэцім томе ТСБМ (с. 377) падаюцца: "*Непагода* ж. Хмарнае з дажджом або снегам надвор'е. *Не гудзі так, восень, непагодай дзікай.* Купала; *Непагадзь* ж. Зацяжная непагода". А на с. 425: "*Нягода... Дрэннае надвор'е, непагода. Цёплаю пароко, калі не было нягоды, Канстанцін Міхайлавіч сядзеў заўсёды... пад вязамі.* Лужанін".

Як бачым, *пагода* — гэта толькі "добрае (яснае) надвор'е". А кепскае надвор'е абазначаецца антанімічным словам *непагода* ці *непагадзь* (і *нягода*).

***Лучнасць ці сукупнасць?*** У нашых акадэмічных слоўніках мы бачым дзіўнае: рас. *совокупный* перакладаецца як *супольны, сумесны; совокупно — супольна, сумесна,* але вытворны назоўнік *совокупность* ужо — *сукупнасць*, хоць *совокуплённый — спалучаны, совокуплять — спалучаць, совокупить — спалучыць* (Русско-белорусский словарь. М., 1953. С. 641). Гэты артыкул цалкам прадубляваны і ў РБС-82 і РБС-93. Дык адкуль такая пагарда да роднага слова? А чаму не *супольнасць* — ад таго ж *супольны* (рас. совокупный)? У "Слоўніку беларускай мовы" І.Насовіча: "*Супольнасць* ж. Целость" (с. 623). М.Байкоў і С.Некрашэвіч падаюць у гэтым выпадку: "*Лучнасць* ж. — *совокупность*" (Беларуска-расійскі слоўнік. С. 161). А ў "Беларуска-расійскім (Вялікалітоўска-беларускім) слоўніку" (с. 650—651) Яна Станкевіча: "*Лучыць* — соединять, *залучаць* — присоединять, *улучаць* — включать, присоединять" і цэлы шэраг іншапрыстаўкавых аднакаранёвікаў. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года таксама фіксуе: "*Лучыцца* несов. соединяться, объединяться; *Лучыць* несов. соединять" (с. 424). Тое сама і ў другім яго выданні — РБС-88 (с. 653). У гэтым выданні ёсць і такое: "*Лучнасць* ж. единение ср." (Тамсама). А для "агульнай сумы чаго-небудзь..." ужо: "*Сукупнасць* ж. — *совокупность*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 525).

***Пчаляр, пчалярства — пчалавод, пчалаводства.*** У 20-х адраджэнскіх гадах бытавалі гэтыя натуральныя словы. Так, у БРС-26 (с. 264, 307) бачым: "*Пчаляр* м. — *пчеловод, пчалярства — пчеловодство*". "Русско-белорусский словарь" 1953 года падае: "*Пчеловод — пчаляр, пчеловодство — пчалярства*" (с. 556).

А вось другое выданне "Беларуска-рускага слоўніка" пад той сама рэдакцыяй К.Крапівы ўжо змяшчае і такое: *пчалавод, пчалаводства, пчалаводчы* (Т. 2. Мн., 1989. С. 338). Вось як нішчылася сваё слова!

"Русско-белорусский словарь" 1993 і 1994 гадоў не фіксуе гэтых "*пчалаводаў*". У ім бачым: "*Пчеловод — пчаляр, пчеловодство — пчалярства, пчеловодческий — пчалярскі*" (РБС-93. Т. 3. С. 137). Паўторана гэта і ў РБС-99 (с. 835).

***Крэсла — стул.*** Гісторыя падачы гэтых словаў у беларускіх слоўніках — таксама паказчык паступовага выштурхоўвання свайго слова ўсесаюзным. Яшчэ ў 60-х гадах падавалася толькі першае з іх. "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 405) фіксуе: "*Крэсла* ср. 1. *кресло;* 2. *стул*". Лексема *стул* падаецца тут толькі як медычны тэрмін. На с. 894 чытаем: "*Стул*, род. стулу м. мед. *стул*". А вось другое яго выданне пад той сама рэдакцыяй К.Крапівы ўжо змяшчае і гэты *стул* як від мэблі. У другім томе (Мн., 1989. С. 519) бачым: "*Стул* I род. стула м. (мебель) *стул; Стул* II род. стулу м. мед. *стул*". Дык дзеля чаго ствараць аманімію? Тым болей што слова *крэсла* як від мэблі мае шмат значэнняў і выслоўяў з яго выкарыстаннем. У першым томе згаданага слоўніка (Мн., 1988. С. 622) засведчана: "*Крэсла* ср. 1. *кресло;* 2. *стул* м.; 3. перен. *кресло; крэсла дырэктара — кресло директора;* 4. (в дровнях) подушка ж.; 5. порт. ширинка; *венскае крэсла — венский стул; сядзець паміж двух крэслаў — сидеть между двух стульев*".

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" справядліва падае слова *стул* толькі як медычны (анатамічны) тэрмін (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 354). А слова *крэсла* мае тут наступнае натуральнае тлумачэнне: "1. Прадмет мэблі, звычайна са спінкай, прызначаны для сядзення аднаго чалавека. *Венскае крэсла* / / Такі прадмет мэблі з мяккай абіўкай і ручкамі-падлакотнікамі. 2. перан. звычайна з азначэннем. Разм. Месца работы, пасада. *Заняць міністэрскае крэсла*".

***Марозіва і марожанае.*** У 20-х гадах з значэннем 'замарожаная салодкая ежа з малочных прадуктаў, а таксама пладова-ягаднага соку' выкарыстоўвалася слова *марозіва*. Яго мы сустракаем у творах Максіма Гарэцкага і іншых пісьменнікаў. Утворана яно паводле актыўнай словатворчай мадэлі "аснова дзеяслова + суфікс *-в-а / -ів-а*". Такія назоўнікі звычайна абазначаюць розныя рэчывы, што з'яўляюцца вынікам пэўнага дзеяння: *варыва, курыва, печыва, прадзіва, едзіва, мліва, змесціва* (гл.: Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. С. 127). Пазней яго замянілі на *марожанае*. Але ж у свядомасці моўнікаў *марожанае* беспасярэдне звязваецца з дзеепрыметнікам (*марозіць — марожанае*) ці прыметнікам: *марожанае мяса, марожаная рыба*. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 111) паказваецца і негатыўнае значэнне гэтага слова — "папсаваны марозам, мёрзлы: *марожаная бульба,. марожаны корм*".

Дзеля размежавання розных паняццяў і ўзнікла назоўнікавае ўтварэнне *марозіва*. Згадаем у Янкі Брыля: "*Пакуль гэта нам не апрыкла, і мы не затрымаліся ў кафе-марозіва надаўжэй*" (Вячэрняе. Мн., 1994. С. 326). Славуты пісьменнік Янка Брыль не мог напісаць гэтае *кафе-марожанае*, бо яно магло быць зразумелым як *замарожанае* (як тая будоўля ці мяса *марожанае*). Як бачым, назоўнікавае ўтварэнне больш зручнае ў выкарыстанні, яно не выклікае іншых асацыяцыяў і дакладна перадае адпаведны змест (паняцце).

Украінцы таксама маюць такое слова: *морозиво*. Яно, *марозіва*, мае той

словаўтваральны сродак (фармант), што і даўняя лексема *малодзіва* (малодз-іва).

***Целавыя — цялесныя (пашкоджанні)***. Калі чалавек (ці іншая істота) атрымаў, да прыкладу ў аварыі, *пашкоджанні цела* (рукі, нагі, тулава, галавы і інш.), то гэтыя пашкоджанні так і трэба называць, або: *целавыя пашкоджанні*. Але па тэлебачанні і радыё "вяшчаюць": *цялесныя пашкоджанні*. Як бы ў беларускай мове існуе не слова *цела*, а *цялесы*, ад якога і *цялесны*. Нашыя ўкладальнікі слоўнікаў механічна тут перапісваюць словы з расійскіх. Але расійская мова вельмі славянізаваная (падлеглая ўплыву старaславянскай мовы). На месцы старaславянізмаў, што выкарыстоўваюцца ў расійскай мове, у нашай мове бытуюць свае словы. І гэта невыпадкова: сучасная беларуская мова склалася на падставе жывой народнай мовы зусім нядаўна (XIX — пачатак XX ст.) і мае трывалыя сувязі з ёю і жывіцца яе сокамі. Дык нашто тыя *"цялеснасць"*, *"цялесны"*, *"бесцялеснасць"* і *"бесцялесны"* ў дачыненні да канкрэтыкі — пашкоджання *цела*.

Калі мы хочам зазначыць, што нешта мае дачыненне да *цела*, то і павінны так казаць: *целавыя ўласцівасці шара, целавыя калецтвы* ці *пашкоджанні*. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" дае такое тлумачэнне: "*Цялесны*, -ая, -ае. 1. Які мае адносіны да цела" (у 4 знач.). *Цялесныя ўласцівасці шара*. 2. Які мае адносіны да цела чалавека, жывёлы; фізічны // Які адчуваецца целам. 3. Жаўтавата-белы з ружовым адценнем; падобны на колер цела (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 280). Або як тлумачыцца прыстаўкавае ўтварэнне ад гэтага слова: "*Бесцялесны*, -ая, -ае. Які не мае *цела;* нематэрыяльны" (Т. 1. Мн., 1977. С. 372). Раз "не мае цела", то ён *бясцелавы*. Як і *бесчаўнаковы* (без чаўнака), *бестэрміновы, бясценевы* ды інш.

***Неацэнны — бясцэнны.*** Слова *бясцэнны* ўтворана ад *цана (цэны): бяс-цэн-н-ы*. Прыстаўка *без-(бес-)*, як сцвярджаецца ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 358), "служыць для ўтварэння прыметнікаў ад назоўнікаў у значэнні: пазбаўлены чаго-н., які не мае чаго-н., напрыклад: *безадказны, безагаворачны, беззаганны, беззямельны;* 2. назоўнікаў, якія азначаюць адсутнасць або недахоп чаго-н." З гэтаю прыстаўкаю і словы *бясцэнны, бясцэннасць, бесцань. Бесцань* і *бясцэнак* тлумачацца як 'задарма, вельмі танна'. А вось слова *бясцэнны* ўжо выпадае з азначанай у слоўніку семантызацыі: "*Бясцэнны*, -ая, -ае. Які мае вельмі вялікую вартасць, вельмі дарагі, вельмі каштоўны". А ўтвораны ад гэтага прыметніка назоўнік раптам набывае ўжо два супрацьлеглыя значэнні: "1. Тое, чаму няма цаны; высокая каштоўнасць чаго-н. 2. Тое, што страціла сваю вартасць, стала малакаштоўным" (Т. 1. С. 446). Калі трымацца логікі, то "тое, чаму няма цаны" (г. зн. яна вельмі вялікая), павінна называцца *неацэнным: неацэнны набытак, неацэнная дапамога*... У нелагічнасці гэтай бачыцца штучны перанос у беларускую мову чужой лексемы.

"Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (с. 34) дае наступны пераклад згаданых словаў: "*Бесценность* 1. вялікая каштоўнасць; *неацэннасць;* 2. бескаштоўнасць, бясцэн-

насць. *Бесценный* (большой ценности) вельмі каштоўны; (неоценимый) *неацэнны*, дарагі; *бесценный друг — дарагі (неацэнны) друг*". У другое выданне слоўніка (Мн., 1982. Т. 1. С. 59) пад рэдакцыяй К.Крапівы ўжо ўціскаецца і ў беларускую частку гэтае слова: "*Бесценность* — вялікая каштоўнасць; *неацэннасць, бясцэннасць; бесценный* прям. перен. (большой ценности) вельмі каштоўны; (неоценимый) *бясцэнны, неацэнны; бесценный друг — бясцэнны (неацэнны) друг*". Прадубляваны гэты артыкул і ў наступных 3-м (1991), 4-м (1993) і 5-м (1994) выданнях.

Дык ці трэба скасоўваць словатворчую натуральнасць беларускай мовы?

***Дублёравы склад (каманды) — а не дубліруючы састаў (каманды).*** У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 254) чытаем: "*Дубліруючы* прил. *дублирующий; дубліруючы састаў каманды — дублирующий состав команды*". Ці ёсць тут беларускі пераклад? Не, яго няма: у беларускай частцы бачым толькі напісанае па-беларуску. Расійскай дзеепрыметнікавай словаўтваральнай мадэлі "аснова дзеяслова + суфікс *-ущ-(-ющ-), -ащ-(-ящ-), -ем-, -ім-*" у беларускай мове адпавядае іншая мадэль: "назоўнікавая аснова + суфікс *-н-* або *-ов-(-ав-)*". Параўн.: *абслуговы* (персанал) — *обслуживающий, слізготны — скользящий, навакольны — окружающий, пераважны — преобладающий* і г. д. Гульцы, што выступаюць не ў асноўнай камандзе, а як *дублёры*, утвараюць *дублёравы склад каманды*. Але слоўнікі 60 — 80-х гадоў на месцы сваіх беларускіх słоваў падавалі ўсесаюзныя — з расійскай мовы. Артыкул, змешчаны ў згаданым слоўніку, прадубляваны і ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1988 (Т. 1. С. 392). Бачым гэтае штучнае *дубліруючы* і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978 года. С. 206). Ненатуральнасць яго відаць ужо з самога тлумачэння значэння слова: "*Дубліруючы*... які з'яўляецца *дублёрам. Дубліруючы састаў каманды*". Але раз "*з'яўляецца дублёрам*", то і павінна быць *дублёравы: дублёравы склад каманды*, г. зн. каманда складаецца з *дублёраў*, з'яўляецца *дублёрам* асноўнай.

***Ахвотныя, ахвочыя, ахвотнікі — а не жадаючыя.*** Натуральнае для беларускай мовы "Запрашаем тых, хто *мае ахвоту*". Ад гэтага актуальнага слова *ахвота* дзеля скарачэння тэксту і бярэцца вытворнае слова *ахвотныя* ці *ахвочыя (хто мае ахвоту)*. Таму натуральна гучыць: "*Запрашаем ахвотных (ахвочых)*", "*Прыйшлі ахвотныя (ахвочыя)*" — а не "*Прыйшлі жадаючыя, запрашаем жадаючых*". Слова *жадаючыя* — штучная калька рас. *желающие*. Беларускай мове, як ужо згадвалася, дзеепрыметнікі цяперашняга часу неўласцівыя. Да таго ж слова *жадаць*, як справядліва сцвярджае доктар Ян Станкевіч, мае значэнне 'страстно хотеть' (Беларуска-расійскі (Вялікалітоўскі-расійскі) слоўнік. Нью-Ёрк, 1990. С. 477). У родных гаворках Зэльвеншчыны я нідзе не чуў гэтага *жадаю* 'хачу', а толькі як непахвальнае: "*От, жадаў нябеснае манны! Давай яму, хоць разарвіся*" (в. Грабава). Параўнаем у Дубоўкі: "...шлях у жыццё ім шырока адчынен і да навукі, да ўсякай работы, абы ты здольнасці меў і ахвоту". "Тлумачальны слоўнік бе-

ларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 247) слова *жадаць* і перакладае "хацець што-небудзь ажыццявіць, зрабіць, займець", а *жаданне* як "хаценне чаго-н., ахвота". Адсюль і вынікаюць натуральныя адменнікі гэтага калькаванага *жадаючы* (той, хто жадае) — *ахвотны, ахвочы, ахвотнік*. У згаданым слоўніку (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 307) чытаем: "*Ахвотны*... Які мае ахвоту на што-н., схільны да чаго-н. *Кукарэка, ахвотны да размовы, падрадзіўся ісці і паказаць дом старшыні*. Грамовіч. *Ахвочы*... Які выказвае ахвоту, жаданне на што-н., да чаго-н. і пад. *Малодшы Марцін да гаспадаркі не быў ахвочы*. Карпюк. *Ахвотнік*... Той, хто мае жаданне заняцца чым-н., узяцца за якую-н. справу. *Чэмер рад быў бы з кожным пагаварыць, ...але, не знаходзячы ахвотніка, гаварыў сам з сабою*. Вітка".

Як бачым, натуральнымі ў беларускай мове выступаюць адмысловыя словы *ахвотны, ахвочы, ахвотнік*, а не штучная калька *жадаючы*.

Гэтую асаблівасць нашае мовы заўважылі РБС-82 і яго перавыданні. У РБС-93 (Т. 3. С. 425) эквівалентам да *желающий* падаецца і слова *ахвотнік*.

***Нябачанка, нявідка — невідзімка.*** Слова *невідзімка* — пазычанне з расійскай мовы, дзе яно — *невидимка* — суфіксавае ўтварэнне ад *невидимый* (*невидим-ка*). Слова *невидимый* перакладаецца на беларускую мову словамі *нябачны, непрыкметны*. РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (с. 299) падае наступнае: "*Невидимка* 1. фолькл. невідзімка; шапка-невидимка — шапка-невідзімка; *быть невидимкой — быць нябачным; стать невидимкой — стаць нябачным*. Невидимка II. ж. (шпилька) шпілька ж." Тут асобна падаецца і форма творнага склону з значэннем прыслоўя: "*Невидимкой* в знач. нареч. *нябачна* (невидимо); *употай* (украдкой); *непрыкметна* (незаметно)". Як відаць, слова "невідзімка" выступае толькі як фальклорнае. У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 510), на жаль, ужо скрозь бачым гэтую *невідзімку*: "*Невідзімка* 1. м. и ж. *невидимка*; 2. ж. (шпилька) *невидимка*". Поўнасцю прадубляваны гэты артыкул у двухтомавым перавыданні (Т. 1. Мн., 1988. С. 775). У перавыданнях РБС-53 гэты артыкул застаўся без зменаў (РБС-82. Т. 1. С. 512; РБС-93. Т. 2. С. 184). Аналізуючы ўсе вытворныя ад *невидимый* і іх пераклад на беларускую мову, пераконваешся ў недарэчнасці гэтай "*невідзімкі*". Бо скрозь выступае беларускі адпаведнік *нябачны*. В.Ластоўскі рас. *невидимка* перакладаў як *няўгледка*. "*Шапка-няўгледка. Няўгледкай у хату ўвайшоў*" (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 264).

Штучнасць гэтай *невідзімкі* выразна выяўляецца і ў яе семантызацыі ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы". У трэцім томе яго (Мн., 1979. С. 353) чытаем: "*Невідзімка* — істота, якая мае здольнасць быць *нябачнай* / / у знач. прысл. невідзімкай(аю). *Нябачна*, непрыкметна". Калі гэта істота, якая мае здольнасць быць *нябачнай*, то павінна называцца так: "нябачанка", г. зн. тая, якую нельга ўбачыць. А ў народнай мове бытуе *нявідка: Што ты нявідка, што цябе ня ўгледзяць?* (в. Конюхі Ваўкавыскага раёна).

Сваю выразную матывацыю гэтае слова мае толькі ў расійскай мове:

"*Невидимка*... какое-либо существо или предмет, способное становиться *невидимым*..." (Словарь русского языка: В 4 т. Т. 2. Изд. 2-е Мн., 1982. С. 427). Як бачым, семантызацыя слова *невідзімка* паказвае на ненатуральнасць яго ў беларускай мове і вымагае сапраўдную яго форму — *нябачанка*, *няўгледка*, *нявідка*. Слова нявідка падае Анатоль Клышка: "Усе гукі, як вядома, *нявідкі*. Іх нельга ўбачыць, іх можна толькі пачуць" (А.Клышка. Буквар. Мн., 1996. С. 269).

***Далей, цяплей — а не падалей, пацяплей.*** "*Падарожніца загадала фурману ад'ехаць **падалей** і здалёк назірала за бойкай*" (Дон Кіхот / Пераклад з іспанскай мовы Якуба Лапаткі / / Наша слова. 1995. № 6). "*Сёння ўдзень будзе 2—5 градусаў марозу, моцны вецер. Таму раім бацькам адзець сваіх школьнікаў **пацяплей***" (Беларускае радыё. 1-я праграма. 13 сакавіка 1995 года. 7 гадзін раніцы).

Ці беларускія гэта формы — *падалей, пацяплей*? Прыстаўкавыя ўтварэнні (з прэфіксам *па-*) прыслоўяў вышэйшай ступені беларускай літаратурнай мове неўласцівыя. Расійскія формы *подальше* і пад. перакладаюцца на беларускую мову беспрыстаўкавымі прыслоўямі вышэйшай ступені ці формамі найвышэйшай ступені. Так, у РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (с. 431, 437) бачым: "*Побольше* срав. ст. нареч. (*трохі*) *больш*, (*трохі*) *болей*; (как можно больше), (*як мага*) *больш*, (*як мага*) *болей; як найбольш, як найболей; Подальше* сравн. (трохі) *далей;* (как можно дальше) (як мага) *далей; як найдалей; подальше от соблазна — (як мага) далей ад спакусы*". Двухтомавае яго перавыданне таксама падае: "*Подальше* сравн. ст. (трохі) *далей. Побольше* ср. ст. (трохі) *больш*, (трохі) *болей* (Мн., 1982. Т. 2. С. 87, 77). І ў трохтомавым выданні 1993 года (Т. 3. С. 581) чытаем: "*Подальше* (трохі) *далей; подальше от соблазна* — (як мага) *далей ад спакусы*".

І іншыя расійскія прыстаўкавыя формы вышэйшай ступені маюць у беларускай мове такія сама адпаведнікі: "*Побыстрее* (поскорее) (трохі) *шпарчэй;* (трохі) *хутчэй;* (как можно быстрее) (як мага) *шпарчэй, як найшпарчэй;* (як мага) *хутчэй, як найхутчэй* (Т. 3. 1993. С. 566); *поглубже* (трохі) *глыбей; Поглупее* (трохі) *дурней* (Тамсама. С. 576); *Повыше* (трохі) *вышэй; подыми повыше — падымі вышэй*" (с. 574).

Здзіўляе, што гэтае заканамернасці не адчуваюць стыльрэдактары некаторых нашых выдавецтваў, асобныя пісьменнікі, аўтары допісаў. У выніку замест беларускіх словаў бачым неўласцівыя нашай мове формы, механічна перанесеныя з расійскай мовы. А потым, пры складанні картатэкі для новых слоўнікаў, гэтыя памылковыя формы выпісваюцца, трапляюць на старонкі слоўнікаў і такім чынам "узаконьваюцца". Так, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 2. Мн., 1989. С. 15, 34) да расійскіх формаў з прыстаўкаю *по-* бачым і ў беларускай частцы даведніка словы з прэфіксам *па-*. "*Паболей* нареч. *побольше* і *пабольш* нареч. *побольше*". "*Падалей* нареч. *подальше; падалей* (далей) *ад граху* (бяды) — *подальше от греха*".

Недарэчнасць пераносу гэтакіх формаў у беларускую мову відаць і з таго, што ў расійскай мове яны маюць два значэнні: значэнне прыслоўя вышэйшай ступені і значэнне прыметніка вышэйшай ступені. Беларуская мова такіх аманімічных формаў не мае. І гэта відаць нават з перакладных слоўнікаў: "*Поглубже* сравн. ст. 1. нареч. (трохі) *глыбей; опускай поглубже — апускай глыбей;* 2. прил. (трохі) *глыбейшы; тот ручей поглубже — той ручай глыбейшы*" (Русско-белорусский словарь. Мн., 1993. Т. 3. С. 576). "*Подальше* сравн. ст. 1. нареч. (трохі) *далей;* 2. прил. (трохі) *далейшы*" (Тамсама. С. 581).

***Трайняты — а не тройня, двайняты — ■ не двойня.*** "*Нарадзілася **тройня**. Случчане вадзіцель Васіль і бухгалтар Наталля Сыцько з хваляваннем чакалі дзіця. Маці ўжо спойнілася трыццаць два гады. І тут такая радасць. Амаль на Новы год лёс падараваў шчаслівым бацькам **трайнят** — дзвюх дзяўчынак і хлопчыка... У мінулым годзе ў Слуцку нарадзілася аж тры **тройні***" ("Голас Радзімы" ад 11 студзеня 1996 года). Як бачым, аўтар (ці перакладчык) у нататцы "Навагодні падарунак. — Нарадзілася тройня» падае натуральнае беларускае слова *трайняты* і разам з тым пазычанне з расійскай мовы *тройня*.

У беларускай мове блізняты называюцца — паводле іх колькасці — адлічэбнікавымі ўтварэннямі з тым самым словаўтваральным сродкам ***-анят-ы (-янят-ы)*** (і яго скарочаным варыянтам ***-нят-ы***), што і ў назвах маладых істотаў (*дзіцяняты, гусяняты, кураняты*). Таму і заканамерныя назвы блізнятаў: *двайняты, трайняты, чатырняты*. А ў народнай мове — і *дваяняты, траяняты, чатыраняты* (з нескарочаным суфіксам *-анят-ы: двай-аняты, трай-аняты, чатыр-аняты*). Дарэчы, этымалагічна гэты суфікс *-нят-ы (-янят-ы)* мае і слова *блізняты* (ад блізкі: *бліз-няты*).

Расійскія *двойня, тройня* беларускія слоўнікі перакладаюць сваімі словамі на *-няты*. Так, у РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі чытаем: "*Двойня ж.* разг. *двайняты...*" (с. 108); "*Тройня ж. трайняты*" (с. 694). І ў перавыданні 1982 года ў першым томе на с. 198 бачым тое сама: "*Двойня ж. двайняты*, ед. нет". А вось у другім томе (с. 496) гэтага слоўніка ў перакладзе ўжо з'явіўся дублёр да беларускага слова: "*Тройня ж. трайняты*, мн., *трайня ж.*" Мусіць, адсюль яно і трапіла ў згаданы тэкст газеты "Голас Радзімы". Але даводзіцца толькі здзіўляцца такой непаслядоўнасці складальнікаў і рэдактара слоўніка Кандрата Крапівы.

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" пад рэдакцыяй К.Крапівы не падае расійскага дублёра *трайня (тройня)* да нармаванага беларускага *трайняты*. На с. 504 у пятым томе бачым: "*Трайняты*, адз. няма. Дзеці, якія нарадзіліся ўтраіх адначасова ад адной маці". А перад гэтым словам падаецца *трайня* толькі з значэннем "падоўжны брус у калёсах, які злучае пярэднюю вось з задняй". А на с. 519: "*Тройні*, адз. няма. Вілы з трыма зубамі".

Дык вось пра якое надзвычайнае здарэнне даведаюцца беларусы з згаданай газеты: пра нараджэнне не толькі траіх блізнятаў, але і пра "брус у калёсах" і "вілы з трыма зубамі". Вось да чаго можа давесці неаглядная мяшанка словаў з розных моваў! На вялікі жаль, з такою трасянкаю нярэдка да-

водзіцца сустракацца чытачам і пры выкарыстанні самых перакладных слоўнікаў, нярэдка адрэдагаваных тым сама рэдактарам, як гэта мы ўжо бачылі пры перакладзе расійскіх словаў *двойня* і *тройня* ў розных слоўніках. Дарэчы, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы", які не падае *тройня* (*трайня*) з значэннем 'блізняты', разам з тым бачым не толькі нармаванае *двайняты* (Т. 2. Мн., 1978. С. 157), але і: "*Двойня*, -і, ж. Разм. Тое, што і *двайняты*; блізняты. *Нарадзіць двойню*" (с. 159). Адсюль і блытаніна ў перыядычным друку.

***Вавёрка, вавёркавы, вавёрчын — белка, белчын.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926) фіксуе: "*Вавёрка* ж. — *белка*" (с. 54). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953) таксама перакладае: "*Белка — вавёрка*, ж.; *беличий — вавёрачны, вавёркавы*" (с. 31). У трохтомавым перавыданні бачым тое сама: "*Белка — вавёрка*, -кі ж.; *беличий — вавёркавы, вавёрчын; беличья шуба — вавёркавае футра; беличье гнездо — вавёрчына гняздо*" (Мн., 1993. Т. 3. С. 88). І ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 447): "*Вавёрка*. Звярок... які жыве ў дуплах дрэў // Футра, шкурка гэтага звярка. *Вавёркавы* — зроблены з шкуркі вавёркі. *Вавёркавае футра. Вавёрчын*. Які мае адносіны да *вавёркі*, належыць *вавёрцы. Вавёрчына гняздо. Вавёрчыны сляды*". Слова *белка* ў гэтым слоўніку не фіксуецца. А вось у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1962) бачым, апрача натуральнага: "*Вавёрка* ж. (зверёк и его мех) *белка*, *вавёркавы* (из беличьего меха) *беличий; вавёрчын — беличий*" (с. 140—141) і вось гэтакае: "*Белка* ж. заол. *белка; белчын — беличий*" (с. 123). Гэтую ж трасянку падае і двухтомавае перавыданне "Беларуска-рускага слоўніка" (Т. 1. Мн., 1988. С. 182 і 212) пад той сама рэдакцыяй К.Крапівы.

Дык дзе лексічная норма? Ці яе знарок разбураюць? Тут поўнасцю трэба пагадзіцца з "Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы", які лексічнай нормай прызнае толькі слова *вавёрка* і вытворныя ад яго прыметнікі *вавёркавы* і *вавёрчын*. Гэтае нормы трымаюцца і ўсе перавыданні "Русско-белорусского словаря". І ў самых апошніх — чацвертым (1993) і пятым (1994) выданнях бачым: "*Белка — вавёрка*, -кі ж.; *беличий — вавёркавы, вавёрчын; беличья шуба — вавёркавае футра; беличье гнездо — вавёрчына гняздо*" (Т. 1. С. 88). Тое сама фіксуе і РБС-99.

***Вырак, прысуд — прыгавор.*** Слова *вырак* Іван Насовіч зафіксаваў з двума значэннямі: "1. Судьба, определение. 2. юрид. Судейское решение" (Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С. 93). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926) таксама чытаем: "*Вырак* м. — определение, приговор (*Судовы вырак*)" (с. 70).

Падаецца гэтае слова і "Беларуска-рускім слоўнікам" 1962 года: "*Вырак*, -ку м. 1. Отречение; 2. приговор" (с. 182). А вось у двухтомавым яго перавыданні (Мн., 1988. Т. 1; 1989. Т. 2) месца гэтаму слову ўжо не знайшлося. Замест яго тут бачым: *прыгавор: вынесці прыгавор — вынести приговор* (Т. 2. С. 296). Вось які *прыгавор* вынеслі беларускаму слову *вырак*. Хоць у "Рус-

ско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй К.Крапівы, Я.Коласа і П.Глебкі (Мн., 1953. С. 506) было: "*Приговор — прысуд, прыгавор, вырак; что ни слово — приговор — што ні слова — прысуд (вырак)*". У першым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн., 1977. С. 569) таксама бачым: "*Вырак*, -у м. Пастанова, рашэнне суда". Тут падаецца і ўтваральны дзеяслоў: "*выракаць* — абвяшчаць, выказваць. *Выракаць прысуд*". Але гэтыя словы кваліфікуюцца як застарэлыя. І не цяжка здагадацца чаму. Праўда, у гэтым слоўніку падаецца і беларускае слова: "*Прысуд*, -ду м. в разн. знач. *приговор; вынесці прысуд — вынести приговор; што ні слова — прысуд — что ни слово — приговор*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 320). Але на с. 296, як мы ўжо бачылі, падаецца і *прыгавор* з той сама ілюстрацыяй: "*вынесці п.*" — Але ўжо не *прысуд*, а *прыгавор*. Дык каму ж верыць з складальнікаў слоўніка? Ці падавалася гэтая трасянка "як перастрахоўка"?

Самыя апошнія перавыданні "Русско-белорусского словаря" — чацвертае (1993) і пятае (1994) рас. *приговор* перакладаюць то двума, то трыма словамі. Так, у другім томе 4-га выдання (с. 772) чытаем: "*Приговор* м. 1. (судебный) *прыгавор, прысуд; вынести приговор — вынесці прыгавор; оправдательный приговор — апраўдальны прыгавор; смертный приговор — смяротны прыгавор (прысуд); привести приговор в исполнение — прывесці прыгавор (прысуд) у выкананне*". Як бачым, тут перавагу мае "агульнасаюзнае" *прыгавор*. І толькі часам як дадатак — у дужках — падаецца беларускае слова.

А вось з пераносным сэнсам рас. *приговор* мае ў гэтым томе ўжо тры сінанімічныя словы: *прысуд, прыгавор, вырак;* а ў ілюстрацыі — толькі беларускія словы: *что ни слово — приговор — што ні слова — прысуд (вырак)*. Вось так бы скрозь!

Слова *прыгавор* не фіксуецца слоўнікамі 20-х гадоў, а ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча на с. 259 чытаем: "*Прысуд* м. — судебное решение, присуждение". І яно надта выразнае: *прысуд* ад *прысудзіць*. І ўсё тут зразумелае. А *прыгавор?* Словы з гэтым коранем — *гавор* — не маюць пашырэння ў беларускай мове. Параўнаем: (рас.) *сговор — змова, уговор — умова, выговор — вымова, договорённость — дамова (дамоўленасць)* і г. д.

***Дзеепрыметнікавы — а не дзеепрыметны.*** У падручніках і навучальных дапаможніках, артыкулах і манаграфіях па беларускай мове выкарыстоўваюцца два словаўтваральныя варыянты ад *дзеепрыметнік — дзеепрыметнікавы* і *дзеепрыметны*.

У кнізе М.С.Яўневіча і У.К.Андрэенкі "Беларуская мова: Падручнік для 6—7 класаў з рускай мовай навучання" (Мн., 1991. С. 216) чытаем: "Дзеепрыметнік разам з залежнымі ад яго словамі ўтварае дзеепрыметны зварот (причастный оборот)". У падручніку для педвучылішчаў "Беларуская мова" (Мн., 1992. С. 260) таксама бачым гэты варыянт: "Дзеепрыметнік разам з паясняльнымі словамі ўтварае дзеепрыметнае словазлучэнне".

А ў навучальным дапаможніку для студэнтаў факультэтаў педагогікі і ме-

тодыкі пачатковага навучання "Беларуская мова" (Мн., 1987. С. 340) выкарыстаны другі словаўтваральны варыянт — *дзеепрыметнікавы*: "*Дзеепрыметнік разам з паясняльнымі словамі ўтварае дзеепрыметнікавае словазлучэнне*".

Слова *дзеепрыметны* не фіксуюць "Беларуская граматыка для школ" Б.Тарашкевіча і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. А вось у пазнейшых — акадэмічных — слоўніках яго бачым. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года: "*Дзеепрыметны* — грам. *причастный*" (с. 244). "Русско-белорусский словарь" 1953 года: "*Причастный* — *дзеепрыметны*; *причастный оборот* — *дзеепрыметны зварот*" (с. 525). У двухтомавым перавыданні гэтага слоўніка падаецца: "*Причастный* грам. — *дзеепрыметны*, *причастный оборот* — *дзеепрыметнае словазлучэнне*" (Мн., 1982. Т. 2. С. 216). Тое сама і ў наступных перавыданнях гэтага слоўніка — трохтомавых 1993 і 1994 гг. ( Т. 3. С. 40).

У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" прадубляваны артыкул ранейшага выдання (гл. т. 1. Мн., 1988. С. 377). І ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1978. Т. 2. С. 166) таксама падаецца: *дзеепрыметны*, *дзеепрыметная форма*, *дзеепрыметнае словазлучэнне*. А вось у спецыяльным даведніку "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн., 1988. С. 90) чытаем: "*Причастный* — *дзеепрыметнікавы*; *причастная конструкция* — *дзеепрыметнікавая канструкцыя*; *причастный оборот* — *дзеепрыметнікавы зварот*; *причастное прилагательное* — *дзеепрыметнікавы прыметнік*; *причастное сказуемое* — *дзеепрыметнікавы выказнік*".

Які з гэтых двух варыянтаў — *дзеепрыметнікавы* ці *дзеепрыметны* — трэба лічыць нармаваным? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба прааналізаваць іх словаўтваральную будову, вызначыць заканамернасці ўтварэння кожнага з гэтых варыянтаў.

У расійскай мове *причастный* і *деепричастный* належаць да аднаго словаўтваральнага тыпу: яны ўтвораныя паводле той сама мадэлі: "скарочаная аснова назоўніка (з адцінаннем у ёй фіналі *-иј*) + суфікс *-н-(-ый)*": *причастие* — *причаст-ный*, *деепричастие* — *деепричаст-ный*.

У беларускай мове паводле гэтай мадэлі (шляхам калькавання) узнік тэрмін *дзеепрыслоўны*, дзе таксама да скарочанай асновы (з адцінаннем *-j-*) далучаны суфікс ***-н-***(ы): *дзеепрыслоўе* — *дзеепрыслоў-ны*. А вось тэрмін *дзеепрыметны* не належыць да гэтай мадэлі, бо ўтваральная аснова — *дзеепрыметнік* — не мае гэтае фіналі *-j-* (а суфікс *-нік*). Фіналь ***-нік*** не адцінаецца пры ўтварэнні прыметнікаў (ад асновы назоўнікаў). Так, ад слова *прыметнік* утварыўся тэрмін *прыметнікавы*. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1980. Т. 4. С. 451) чытаем: "*Прыметнікавы, -ая, -ае*. Які мае адносіны да *прыметніка*". Таму і ад слова *дзеепрыметнік* натуральным, заканамерным ёсць утварэнне *дзеепрыметнікавы*, бо "*дзеепрыметнік — гэта дзеяслоўны прыметнік*" (Б.Тарашкевіч). Форма ж *дзеепрыметны* матыву-

ецца іншаю ўтваральнаю базаю — *дзеяслоўная прымета;* ад *прымета* і вытворнае слова *прыметны*, якое "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" падае як варыянт слова *прыкметны:* "*Прыметны, -ая, -ае.* Тое, што і *прыкметны*" (Тамсама).

Як бачым, варыянт *дзеепрыметны* не стасуецца з тэрмінам *дзеепрыметнік*, тым часам як утварэнне *дзеепрыметнікавы* дакладна і выразна матывуецца ўтваральным для яго словам *дзеепрыметнік*.

Структура тэрміна *дзеепрыметнікавы* якраз паказвае, што ён належыць да таго самага словаўтваральнага тыпу, што і астатнія тэрміны-прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў з фінальнаю часткай *-нік*: *назоўнік — назоўнікавы, прыметнік — прыметнікавы, лічэбнік — лічэбнікавы, займеннік — займеннікавы, прыназоўнік — прыназоўнікавы, злучнік — злучнікавы, выклічнік — выклічнікавы.*

Штучнасць формы *дзеепрыметны* відаць і з тлумачэння значэння гэтага слова ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1978. Т. 2. С. 166): "*Дзеепрыметны, -ая, -ае.* Які адносіцца да *дзеепрыметніка. Дзеепрыметная форма* / / Выкарыстаны з дапамогай дзеепрыметніка. *Дзеепрыметнае словазлучэнне*". Але калі "адносіцца да дзеепрыметніка", "выражана з дапамогай дзеепрыметніка", то і павінна быць *дзеепрыметнікавы* (а не *дзеепрыметны,* які мае іншую матывацыю). І як тады растлумачыць тут гэтае штучнае ўтварэнне *дзеепрыметны?* Калі *дзеепрыметнік* — гэта *дзеяслоўны прыметнік,* то вытворны ад яго тэрмін мусіць мець тую будову, што і ўтварэнне ад слова *прыметнік: прыметнік — прыметнікавы* і *дзеепрыметнік — дзеепрыметнікавы.*

Гэтую літаратурную норму і засведчыў, як было ўжо згадана, "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов".

***Весялосць і весялун — а не вяселле і весяльчак.*** Па беларускім тэлебачанні цяпер нярэдка можна пачуць у беларускім тэксце небеларускія словы. Так, 21 лістапада 1995 года паказвалі фрагмент сустрэчы з ветэранамі. У развагах дыктара (аглядальніка) прагучала і вось такое: "*У зале панавала вяселле...*" Гэта адразу насцярожыла. Якія гэта ветэраны ладзілі тут шлюбнае застолле? Але, як высветлілася, гаворка ішла пра "вясёлае правядзенне часу ветэранамі". І слова *вяселле* тут не да месца. Перакладныя слоўнікі фіксуюць з гэтым значэннем беларускае *весялосць*. Так, "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 54) падае: "*Веселье* ср. *весялосць,* -ці ж." І ў другім, двухтомавым перавыданні гэтага слоўніка таксама бачым: "*Веселье* ср. *весялосць* ж." (РБС—82. Т. 1. С. 91). Тое сама і ў апошніх трохтомавых перавыданнях. У 4-м выданні (1993) і ў 5-м (1994) на с. 157 першага тома зафіксавана: "*Веселье* ср. весялосць, -ці ж." М.Байкоў і С.Некрашэвіч у "Беларуска-расійскім слоўніку" (с. 74) падаюць гэтае слова трохі з іншым акцэнтаваннем: "*Вясёласць* ж. — *веселье, радость*".

Лексема ж *вяселле* мае ў беларускай мове зусім іншае значэнне — "абрад шлюбу і ўрачыстасць, святкаванне, звязанае з гэтым", а таксама "шлюбны по-

езд". У расійскай мове яму адпавядае: 1) "свадьба" ж., 2) "свадебный поезд". Гэта засведчыў "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 195). І ў самым апошнім (двухтомавым) перавыданні гэтага слоўніка (Мн., 1988. Т. 1. С. 301) чытаем: "*Вяселле* ср. 1. *Свадьба ж*.; 2. *Свадебный поезд; сярэбранае вяселле — серебряная свадьба; залатое вяселле — золотая свадьба*".

Дык ці доўга будуць дыктары (аглядальнікі) беларускага тэлебачання жаніць ветэранаў? На жаль, ім у гэтым дапамагае "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Мн., 1977. Т. 1. С. 603), у якім побач з натуральнымі значэннямі 1) "абрад шлюбу" і 2) "шлюбны поезд" уціснута і штучнае 3) размоўнае "вясёлае правядзенне часу, гульні, забавы". Толькі здагадвацца трэба, якія "гульні і забавы" былі на той сустрэчы з ветэранамі.

Знаходзім у гэтым слоўніку і небеларускае слова *весяльчак*. На с. 483 чытаем: "*Весяльчак, весельчака*, м. Тое, што і *весялун*". Але ж слова *весяльчак* не фіксуе ў беларускай частцы ніводны з акадэмічных перакладных "Руска-беларускіх слоўнікаў". Расійскае *весельчак* тут перакладаецца беларускім утварэннем з суфіксам *-ун*: *весялун*. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года (с. 54) бачым: "*Весельчак* разг. *весялун, -на*". У двухтомавым перавыданні (Мн., 1982. Т. 1. С. 91) таксама: "*Весельчак* разг. *весялун*, род. *веселуна* м."

У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года чытаем: "*Весялун, -селуна* м. разг. *весельчак*" (с. 150). І няма тут гэтага штучнага "весяльчак". Нават у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (Мн., 1988. Т. 1. С. 229), які не паскрозь вызначаецца падтрыманнем літаратурнай нормы, форма *весяльчак* падаецца без тлумачэння яго значэння, з адсылкай да *весялун*, якое і ёсць лексічнаю нормай.

Абодва штучныя для беларускай мовы словы *вяселле* і *весяльчак* у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" ілюструюцца цытатамі з твораў І.Шамякіна. Праўда, "Тлумачальны слоўнік" яшчэ не знайшоў формы жаночага роду — пары да *весяльчак* — слова *весяльчачка*. Але ж літаратурнаю нормаю выступае слова *весялун*. Яно мае і адпаведную форму жаночага роду — *весялуха*. Словы *весялун* і *весялуха* як назвы асобы якраз і стасуюцца з лексемай *весялосць:* усе яны ўтвораныя ад прыметніка *вясёлы*. І тлумачэнне іх значэння гэта пацвярджае: "*Весялосць*, -і, ж. Уласцівасць вясёлага. *Весялун*... Вясёлы, жыццярадасны мужчына... *Весялуха*... Жанчына з вясёлым норавам" (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1977. С. 483).

Рас. *весельчак* стасуецца з лексемай *веселье* 'весялосць'. У беларускай мове ад слова *вяселле* ўтвораны *вясельнік* і *вясельніца*, якія маюць у згаданым "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" наступнае тлумачэнне: "*Вясельнік*, -а, м. Разм. Удзельнік *вяселля* (у 1, 2 знач.). *Вясельніца*, -ы, ж. Жан. да *вясельнік*" (Тамсама. С. 603). З гэтага тлумачэння і відаць штучнасць слова *весяльчак* у беларускай мове, якое не мае свае ўтваральнае базы.

Як бачым, літаратурнаю нормаю ў беларускай мове выступаюць словы *весялосць* і *весялун*.

*... **Пайтарачка — а не палутарка.*** Лексему *пайтарачка* з значэннем расійскага "*полуторка*" падаюць усе беларускія слоўнікі. Напрыклад, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы чытаем: "*Пайтарачка* ж. разг. в разн. знач. *полуторка*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 156). У двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы таксама бачым: "*Полуторка*, 1. (*полуторатонка*) разг. *пайтаратонка*, 2. в др. знач. *пайтарачка*" (Т. 2. С. 136). Цалкам пацвярджаецца гэта і ў трохтомавым "Русско-белорусском словаре" 1993 года (Т. 2. С. 671).

У "Тлумачальны слоўнік" артыкул з словам *палутарка* складальнікі перанеслі з расійскіх слоўнікаў. Параўнайце артыкул "Тлумачальнага слоўніка" — "*Палутарка* (разм.). Грузавая машына грузападымальнасцю 1,5 тоны" і наступнае: "*Полуторка*, -и, ж. (разг.). Грузовая машина грузоподъёмностью 1,5 тонны" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. Мн., 1982. С. 494). Пра штучнасць гэтага "*палутарка*" сведчыць і яго структура: *палутар-ка* — ад "*палутара*", якому ў беларускай мове адпавядае нармаванае *пайтара*, ад яго і *пайтар-ачка*.

***Сэрцавы — сардэчны.*** Пры ўтварэнні новых словаў ад назоўнікаў звычайна бярэцца словаформа роднага склону множнага ліку і да яе асновы далучаецца словаўтваральны сродак (суфікс): *дзень — дзён — дзённы — дзённік, поле — палёў — пал-явы, лес — ляс-оў — ляс-нік, сцяна — сцен-аў — сцен-ка* і пад. Гэтаму падпарадкуюцца і ўтварэнні ад слова *сэрца*. "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" пад рэдакцыяй акадэміка М.Бірылы (Мн., 1987. С. 781) падае: "*Сэрца*, -цы, -цаў". Тут бачым шэраг вытворных з гэтай асновай: *сэрцабіццё, сэрцаед, сэрцазнавец, сэрцазнаўства, сэрцайка, сэрцападобнік* (заал.), *сэрцападобны*.

У беларускай мове ўтварэнні ад слова *сэрца*, як бачым, захоўваюць аснову гэтага слова і не маюць гука (літары) **д**; параўн.: *сэрца — сэрцайка* і рас. *сердце — сердечко* (утварэнне ад формы роднага склону множнага ліку *сердец* з чаргаваннем *ц/ч*). Беларускія прыметнікі таксама не могуць мець гэтага **д**: *сэрца — сэрцавы*. Слова *сардэчны* — пазычанне (< сердечный), пра гэта сведчыць і афармленне яго на іншамоўны лад: з цвёрдым гукам *д* перад пярэднім галосным **э** (як і ў словах *дэльта, дэман, дэкада, дэкрэт*).

І вытворнае ад яго — *сардэчнік* таксама пазычанне. "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы падае наступныя беларускія адпаведнікі гэтага слова: "*Сердечник*: 1. бот. *буйміна*, 2. техн. *стрыжань, асяродак*" (Т. 2. С. 377). Дый само слова *сердечный* мае свае адмысловыя беларускія эквіваленты: *сердечная дружба — шчырая дружба, шчырае сяброўства*; а з значэннем назоўніка: *сердечный — любы, каханы, небарака, нябога, няшчасны*. І слова *сердцевина* перакладаецца адмысловымі беларускімі адпаведнікамі. На с. 377 чытаем: "*Сердцевина — асяродак*; (дерева — ещё) *стрыжань*"; "*сердцевинный — асяродачны*; (о древесине — ещё) *стрыжнёвы*".

"Русско-белорусский словарь" 1993 года цалкам пацвярджае гэта: у трэцім томе (с. 334 — 335) бачым: *буйміна* (батанічны тэрмін), *стрыжань* і

*асяродак* (тэхнічныя тэрміны) эквіваленты рас. *сердечник, сердцевина*. А лексеме *сердечный* адпавядаюць словы: *шчыры, любы, каханы, небарака, нябога, няшчасны*.

З улікам згаданага неабгрунтаванай, ненатуральнай выглядае форма слова *сардэчная* ў медыцынскіх тэрмінах *сардэчная сарочка, сардэчна-сасудзістая сістэма*. Натуральнаю мае быць форма *сэрцавая: сэрцавая кашуля, сэрцава-судзінная сістэма*. Гэта пацвердзіў і адмысловы даведнік — "Анатамічны слоўнік" (Мн., 1998. 480 с.), дзе чытаем: *галіны сэрцавыя грудныя, вадкасць калясэрцавай сумкі, пазасэрцавы, сэрцава-судзінны, сумка вокаласэрцавая* (с. 35, 57, 125, 150, 165). Параўн.: *сумка перадсэрцавая* / / Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі (Мінск, 4 — 6 мая 1994 г. Мн., 1995. С. 184 — 185). Бо іначай як растлумачыць вось гэтакае: "*Сардэчны* — які мае адносіны да *сэрца*" (ТСБМ. Т. 5. С. 63). Як дастасаваць гэтакую форму *сардэчны* і *сэрца*? "*Сердечный*" — ад *сердец* + *ный* (з чаргаваннем *ц* / *ч*), а такога беларуская мова не мае.

Складальнікі тлумачальных слоўнікаў нярэдка, спісваючы артыкулы з расійскіх слоўнікаў, і не задумваюцца над тым, што ў гэтых выпадках шмат што "не лезе, як кажуць, у вароты", парушае заканамернасці беларускай мовы. Перакладныя слоўнікі больш прынцыпова ставяцца да гэтага, падаючы дакладныя сваямоўныя адпаведнікі да расійскіх словаў. Бо не стасуюцца форма і значэнне вытворнага і ўтваральнага словаў вось у такіх выпадках, якія бачым у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 5. С. 63): "*Сардэчны*... Які мае адносіны да *сэрца* (у 1 знач.). *Сардэчная мышца* / / Звязаны з хваробай сэрца (у 1 знач.). *Сардэчная недастатковасць. Сардэчны прыпадак. Сардэчная сарочка — знешняя абалонка сэрца*". Амаль усе гэтыя намінацыі і іх дэфініцыі ёсць копіі з чатырохтомавага "Словаря русского языка". Па-беларуску натуральна гучыць: *сэрцавая дзейнасць, сэрцавая недастатковасць, сэрцавая атака* (прыпадак), *сэрцавая кашуля — вонкавая абалонка сэрца*. І што значыць *сардэчны* ў ролі назоўніка? З гэтым значэннем, як ужо згадвалася, у беларускай мове выкарыстоўваюцца натуральныя словы: *любы, каханы*, а з адценнем спачування — *небарака, нябога, няшчасны*, што і засведчана двухтомавым "Русско-белорусским словарём" пад рэдакцыяй К.Крапівы і перавыданнямі 1993 — 1994 гадоў.

А вось на старонках Тлумачальнага слоўніка 1996 года (як і яго пяцітомавага папярэдніка) бачым усе гэтыя "*сардэчныя*" і "*сардэчнікі*". Лішні раз пераконваешся: меў усе падставы Максім Лужанін вось так адгукнуцца на "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы": "... У Тлумачальны слоўнік, абвешчаны таксама нарматыўным, наўшывалася багата прыкладаў з таго, што ніколі не было літаратурай і можа ілюстраваць хіба няўмельства аўтара абыходзіцца са словам, або няўмельства складальніка слоўніка выбраць з твора трапна ўжытае, ва ўсім гучанні і красе роднае слова. А то вушы вянуць".

***Больш за тое, яшчэ больш — а не больш таго.*** Слова *больш*, як і ўсе

прыслоўі вышэйшай ступені, кіруе вінавальным склонам залежнага слова з прыназоўнікам ***за***: (больш за *сотню*). І ў складзе ўстойлівых зваротаў захоўваецца гэтая норма: *больш за ўсё*. Як і *хутчэй за ўсё, менш за ўсё, лепш за ўсё, цікавей за ўсё* і г.д. Таму выкарыстанне штучнага *больш таго* (дзе слова *больш* патрабуе словаформы не вінавальнага з прыназоўнікам *за*, ■ роднага беспрыназоўнікавага склону) — парушэнне нормы беларускай мовы. Такая канструкцыя ўласцівая расійскай мове. У "Русско-белорусском словаре" 1993 года (Т. 1. С. 114) чытаем: *более всего — больш за ўсё*. Расійская канструкцыя *более того* павінна перакладацца ў адпаведнасці з агульнаю сінтаксічнаю нормаю: *больш за тое*.

На жаль, некаторыя перакладныя слоўнікі, падаючы правільную беларускую канструкцыю *больш за ўсё* як адпаведнік расійскай *более того*, пакінулі без перакладу расійскую канструкцыю *более того*, напісаўшы толькі словы па-беларуску: *больш таго*. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года (с. 40) чытаем: "*Больше* сравн. ст. нареч. *больш, болей; больше всего — больш за ўсё; более того — больш таго*" (с. 40). "Беларуска-рускі слоўнік" і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" безаглядна перанеслі гэтае памылковае "*больш таго*" на свае старонкі.

А вось двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы падае правільную, нармаваную форму: "*Более того — яшчэ больш*" (Т. 1. С. 67). Гэты слоўнікавы артыкул паўтораны ў перавыданнях 1991, 1993 і 1994 гадоў. Такім чынам, рас. *более того* ў беларускай мове адпавядаюць: *больш за тое, яшчэ больш*. Гэта пацвярджае адраджэнская маўленчая практыка: "***Больш за тое***, *не толькі ўтварэнне сапраўды першапачатковых моў, але нават і тыя больш познія, другасныя моўныя ўтварэнні* (В.І.Рагаўцоў. Агульнае мовазнаўства. Практыкум. Ч. 1. Магілёў, 1999. С. 8); "***Больш за тое***, *забыццё мінулага нясе ў сабе небяспеку адраджэння і паўтарэння нечага падобнага ў сучаснасці і будучыні*" (Ніколі болей. Вільня: Наша будучыня, 2000. С. 3); "*Я ў палітыку не прыйшоў. Я сябе палітыкам не лічу.* ***Больш за тое***, *я не люблю палітыку*" (Р.Гарэцкі / / Народная воля. 30.12.2000).

***Вонкавы, знадворны, навакольны, замежны — а не знешні.*** Слова *знешні* не падае аўтарытэтны даведнік 20-х гадоў — "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. Няма яго і ў "Словаре белорусского наречия" І. Насовіча. І гэта не дзіўна: яно штучнае. "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1985. С. 339) параўноўвае яго з стараславянскім *извѣнъ*, стражытнарускім *извне* і лічыць утвораным ад прыслоўя **звне* > *зне*, якога, аднак, слоўнікі нашай мовы не фіксуюць. Таму сёння слова *знешні* ўсведамляецца хутчэй як падробка расійскага *внешний* — кантамінацыя словаў *знадворны* (бел.) і *внешний* (рас.).

Расійскае *внешний* матывуецца прыназоўнікам *вне* (*внешний*). У беларускай мове гэтаму прыназоўніку адпавядаюць свае словы: ***па-за***: *па-за конкурсам — вне конкурса*; ***без***: *без чаргі — вне очереди*; ***звыш***: *звыш плана — вне плана*. Для прыстаўкі *вне-* таксама маем свае адметныя эквівален-

ты: ***па-за***: *пазашлюбны — внебрачный, пазабюджэтны — внебюджэтный, пазачасовы — вневременный*, ***не-***: *нечарговы — внеочередной.*

"Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953) падае наступныя беларускія адпаведнікі расійскага *внешний*: 1. (наружный) *вонкавы, знадворны*; 2. (заграничный) *замежны; внешняя торговля — замежны гандаль;* 3. (окружающий) *навакольны; внешняя среда* биол. — *навакольнае асяроддзе.* І для словаў з асноваю *внешн-* у іншых часцінах мовы падаюцца свае ўтварэнні: *внешность — (вонкавы) выгляд; внешне — звонку* і *знадворку; внешне* (с виду) — *з выгляду; внешне* (на вид) — *на выгляд.*

У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча бачым слова *вонкавы* як эквівалент расійскіх *внешний, наружный.* Тут ёсць і аднакаранёвае прыслоўе *вонках — вне, снаружи.* Слова *вонках* як эквівалент рас. *вне* падае і "Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік" Я.Станкевіча (с. 118).

Ян Станкевіч у сваім слоўніку падае і прыметнікавую форму ад прыслоўя *вонках — вонкашні — внешний* (с. 119), але без аніякай ілюстрацыі (відаць, гэта яго ўласнае ўтварэнне). У слоўніку бачым і множналікавы назоўнік *вонкі* з чатырма значэннямі: "1. Уход из избы, но не со двора, на несколько часов для избежания неприятности; 2. Выход из избы, чтобы исполнять хозяйственную нужду и иную нужду; 3. *Вонкі прымусовыя* — уход, вызванный стороннею волею, насилием; 4. Внешняя сторона возка и вообще экипажа". Знойдзем там (с. 119) і прыслоўе *вонкі* 'на двор' і асабовы назоўнік *вонькік* 'той, хто выйшаў вонкі'.

У слоўніку І.Насовіча чытаем: "*вонкахъ*, наречие. Вне, на дворе. *Вода на вонкахъ. Не сваволь, вонкахъ будзешъ*".

Беларускія слоўнікі 60-х гадоў сталі актыўна ўкараняць словы і формы ўсесаюзнага расійскага ўзору, адмаўляючыся ад спадчыннага набытку. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы чытаем: "*знешні* разн. знач. *внешний; знешняе асяроддзе — внешняя среда; знешняе пакрыва — внешний покров; знешні спакой — внешнее спокойствие; знешняя палітыка — внешняя политика; знешні вугал — внешний угол*" (с. 346).

У двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы чытаем: "*внешний* 1. (наружный) *вонкавы, знадворны;* 2. *знешні; внешняя торговля — знешні гандаль;* 3. (окружающий) *навакольны, знешні; внешний мир — навакольны (знешні) свет; внешняя среда* биол. — *навакольнае (знешняе) асяроддзе;* 4. *внешний угол* мат. — *знешні вугал*" (с. 108). Трохтомавы "Русско-белорусский словарь" (выд. 4-е. Мн., 1993) прадубляваў у гэтым выпадку артыкул слоўніка 1982 года.

Апошнім часам нават тэрміналагічныя слоўнікі пачалі адмаўляцца ад штучнага *знешні* і замяняюць яго на заканамернае беларускае *вонкавы*: "*Мова — гнуткая і складаная сістэма камунікацыі, якая дазваляе абменьвацца падрабязнай інфармацыяй пра ўнутраны і* ***вонкавы*** *свет*"

(Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн.: Тэхналогія, 1995. С. 438); "***Вонкавы*** *вугал — внешний угол*" (Тэрміналагічны бюлетэнь. Вып. 1. Мн., 1997); "***Вонкавая*** *атмасфера* (внешняя атмосфера)" (РБФС-99); "***Вонкавы*** *слой тканак* (рас. внешний слой тканей)" (Анат. сл.); "***Вонкавы*** *— внешний*" (РБСМ, РБФС-99). Натуральна гучаць аналітычныя тэрміны *замежны гандаль, замежная палітыка*, бо яны выразна матывуюцца ўтваральнымі для іх спалучэннямі *за межамі* (краіны). Адсюль і беларускія ўтварэнні: *замежнагандлёвы, замежнапалітычны* (курс).

***Ростулка і росчынка — створка.*** Двухтомавы акадэмічны "Беларуска-рускі слоўнік" падае словы *ростул* і *росчын*, але няма ў ім натуральных утварэнняў *ростулка* і *росчынка* (на іх месцы — пазычанне *створка*).

Слова *ростул* "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 717) падае з значэннем: "1. Вугал, атрыманы ў выніку расхілення ножак цыркуля і пад. 2. Адтуліна, шчыліна, якая ўтвараецца, калі расчыніць акно, дзверы і пад." *Росчын* тлумачыцца так: "Тое, што і *ростул*".

Лексема *ростул* — нульсуфіксавае ўтварэнне (з пераносам націску на першы склад) ад дзеяслова *растуліць (растуліцца, растуляць, растуляцца): растул-іць > ростул.* Дзеяслоў *растуліць* у гэтым слоўніку (с. 687) тлумачыцца так: "Развесці стуленыя часткі цела або адзення".

Словам *ростул* і *росчын* адпавядае ў расійскай мове *раствор* (Беларуска-рускі слоўнік. Т. 2. Мн., 1989. С. 408).

"Русско-белорусский словарь" 1993 года зусім натуральна пераклаў расійскае *створить — зачыніць, счыніць; створить ворота — зачыніць (счыніць) вароты.* А вось слова *створка* — вытворнае ад *створить* — засталося без перакладу: *створка — створка.* Праўда, аўтары падаюць тут і варыянты-сінонімы да слова *створка* — лексемы *палавінка* (дверей, окна) і *фортка.* А чаму не *росчынка* — "тое, што расчыняецца"? Яно якраз добра стасавалася б да папярэдняга перакладзенага слова *створить — зачыніць (счыніць).*

І як тады зразумець чытачу, які пачынае вывучаць беларускую мову і сутыкнецца ў згаданым слоўніку з гэтымі, што стаяць побач, словамі: *створить, створка.* Першае з іх перакладзена — *зачыніць (счыніць)*, а другое — утворанае ад першага — *створка* ўжо не мае перакладу. Чаму? Хіба ненатуральна было б тут бачыць беларускае *росчынка*, утворанае ад *росчын (расчыніць)*? Бо *створка* (і *створ*) не мае сваёй матывацыі, сваіх каранёў у беларускай мове. Слова *створка* ў расійскай мове ўтварылася ад ранейшага *створить (створять, створиться, створяться)*, якому ў нас адпавядае *зачыніць, счыніць (зачыніцца, счыніцца, зачыняць, зачыняцца)*, як засведчыў трохтомавы "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 3. С. 451). Дык адкуль у беларускай мове гэтае *створка?* Чым яно матывуецца, дзе яго карані?

ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 324) дае такую вось дэфініцыю (азначэнне) слову *створка:* "Кожная з дзвюх рухомых палавінак дзвярэй, аканіц, ва-

рот і пад. *Расчыняюцца створкі дзвярэй*". Беларус скажа: *расчыняюцца дзверы, а не створкі*, бо ён іх (палавінак) не *ствараў (счыняў)*.

У згаданым пятым томе ТСБМ (Кн. 2. С. 324) бачым і такое яшчэ тлумачэнне аднаго з семантычных варыянтаў слова *створка* — "кожная з палавінак каробачкі некаторых раслін, якая растульваецца пасля паспявання". Ды як гэта "*створка... растульваецца*"? *Расчыняем... створкі, растульваем створкі*... Якая беларуска-ніжагародская мяшанка! Тут якраз дарэчы ўтварэнне ад слова *ростул — ростулка*. (Слова ж *палавінка* не падыходзіць, бо мае выразную ўнутраную форму — *палавіна* — адна з дзвюх частак. А калі такіх *росчынкаў* тры і болей?)

Тое, што *расчыняецца*, што мае *росчын*, павінна азначацца словам *росчынка* (у вокнах, варотах і пад.), а што *растульваецца*, што мае *ростул — ростулка* (у адзенні, кветках і пад.).

***Прадастаўляць і прадстаўляць***. Ці не штучныя гэта словы? Некаторыя выданні, атрымліваючы матэрыялы не на роднай мове, робяць такі недасканалы пераклад, што беларускаму чытачу цяжка зразумець іх сэнс. Напрыклад, у адной беларускамоўнай газеце чытаем: "*Трэба* ***прадаставіць*** *прыроду самой сабе і назіраць вынікі*". Або: "*Сусветны банк* ***прадастаўляе*** *свой крэдыт на 15 гадоў з адтэрміноўкай плацяжу на першыя пяць гадоў*". У гэтых тэкстах пакінута неперакладзеным слова *прадаставіць*. Яго не фіксуе ніводны самы новы беларускі слоўнік. Расійскім *предоставить, представить*, як сведчаць РБС, адпавядаюць у беларускай мове свае натуральныя словы. Так, "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1982. Т. 2. С. 175) падае: "*Предоставлять*: 1. (давать в пользование что-либо, давать возможность обладания) *даваць; аддаваць; уступаць; предоставлять возможность — даваць магчымасць; предоставлять свою квартиру в чьё-либо распоряжение — аддаваць (уступаць) сваю кватэру ў чыё-небудзь распараджэнне*; 2. (давать возможность делать что-либо, распоряжаться чем-либо) *даваць* (магчымасць, права, дазвол і г.д.), *пакідаць, дазваляць; предоставлять все удобства — даваць усе выгоды; предоставлять выбор — даць магчымасць* (права) *выбіраць* (выбраць); *предоставлять решение вопроса кому-либо — пакідаць вырашэнне пытання на каго-небудзь, даваць магчымасць* (права) *вырашаць пытанне каму-небудзь; предоставлять чьему-либо усмотрению — пакідаць на чыё-небудзь меркаванне; предоставлять доброй воле — пакідаць на добрую волю*". Тое сама і ў РБС 1993 года (Т. 2. С. 742 — 743), і ў РБС-99.

І зваротная форма *прадстаўляцца* не бытуе ў беларускай мове. У згаданым слоўніку бачым: *слово предоставляется такому-то — слова даецца такому і такому, слова мае такі і такі* (тамсама). Форма закончанага трывання *предоставить* перакладаецца тымі ж аднакаранёвымі словамі *даць, аддаць, уступіць, пакінуць, дазволіць; предоставить самому себе — дазволіць (даць магчымасць) дзейнічаць самастойна; предоставить на произвол судьбы — пакінуць на самога сябе, пакінуць на волю лёсу*.

Маюць свае дакладныя беларускія адпаведнікі і вытворныя ад іх словы *предоставленный, предоставление*. Першае з іх перакладаецца лексемамі *дадзены, аддадзены, пакінуты, дазволены*, а другое — *даванне, аддача, аддаванне, уступка, пакіданне, дазвол*.

Варта зазначыць, што слова *прадаставіць* нярэдка зблытваецца з *прадставіць*. Вось некаторыя прыклады: "*У кангрэс ЗША паступіў законапраект, які прадугледжвае* ***прадставіць*** *Босніі і Герцагавіне ваенную дапамогу на суму да 200 мільёнаў долараў*". Або такі тэкст: "*Наступнае слова* ***прадастаўляецца*** *дэпутату...*"; "*Прашу* ***прадаставіць*** *дакументы не пазней 5 мая 1993 г.*" І гэтакая блытаніна не выпадковая: абодва словы — штучныя для беларускае мовы. Яны маюць неўласцівую для беларускай мовы прыстаўку *прад-* (з *пред-*), якая выступае з значэннем 'перад', г.зн. *прадставіць* — "*перадставіць*" ("*перадам ставіць*").

Ці такое неабходнае беларускай мове *прадставіць?* Яно безаблічнае ў нашай мове, неканкрэтнае, расплывістае семантыкай, штучнае, ненатуральнае для лексічнай сістэмы. У беларускай мове расійскаму слову *представить* (*представлять*) адпавядае цэлы шэраг сваіх словаў з адметным у кожным выпадку значэннем.

Перш чым разгледзець беларускія адпаведнікі, нагадаем некаторыя тэксты з перыядычных выданняў: "***Прадстаўляючы*** *сваю праграму, Лазарайціс падкрэсліў, што ён незалежны кандыдат і будзе імкнуцца пераадолець процiборства, што раздзірае грамадства*". Або: "*З нашчадкаў яго (Гедыміна) найбольшую цікавасць* ***прадстаўляе*** *Альгерд, які па бацькоўскім завяшчанні атрымаў у валоданне замак Крэва з ваколіцамі...*" Беларус натуральна тут скажа (напіша): "***Выкладаючы*** *сваю праграму...*" (не *прадстаўляючы*), "*З нашчадкаў найбольшую цікавасць* ***мае (уяўляе)*** *Альгерд*".

З аднаго выдавецтва нядаўна атрымаў просьбу даць свой водгук на працу, якая плануецца да выдання. У ёй чытаю: "*Рэцэнзію просім* ***прадставіць*** *у трох экземплярах не пазней 20 студзеня*". А чаму не напісаць проста і зразумела: "*Просім* ***даслаць*** *да 20 студзеня тры экземпляры рэцэнзіі (водгуку)*".

А цяпер звернемся да даведнікаў, якія вызначаюць лексічную норму выкарыстання словаў. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй вядомых беларускіх пісьменнікаў, акадэмікаў Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і члена-карэспандэнта Пятра Глебкі (М., 1953. С. 497—498) падае: "*Представлять* несов. 1. (поведать; приводить доказательства, справки и т.п.) *падаваць, прыводзіць; представлять списки — падаваць спісы; представлять на рассмотрение, утверждение — падаваць на разгляд, зацверджанне; представлять соображения — прыводзіць (падаваць) меркаванні;* 2. (доставлять в какое-либо место) *прыстаўляць, ставіць; представлять свидетелей к допросу — прыстаўляць (ставіць) сведак на допыт;* 3. (знакомить, рекомендовать) *знаёміць* (каго з кім), *рэкамендаваць;*

*представлять педагогическому совету нового преподавателя — рэкамендаваць педагагічнаму савету новага выкладчыка; представить товарища отцу — знаёміць таварыша з бацькам;* 4. (к ордену, награде и т.п.) *прадстаўляць;* 5. (изображать) *маляваць, паказваць, выводзіць; представлять кого-либо в смешном виде — маляваць (паказваць) каго-небудзь у смешным выглядзе; автор представляет своих героев — аўтар малюе (паказвае, выводзіць) сваіх герояў;* 6. (вызывать что-либо, причинять) *выклікаць, прычыняць;* (составлять) *складаць; эта работа не представляет больших затруднений — гэта работа не выклікае (не складае) вялікіх цяжкасцей;* 7. (принимать на себя образ кого-либо) *прыкідвацца* (кім-чым), *строіць з сябе; представлять сумасшедшего — прыкідвацца вар'ятам, строіць з сябе вар'ята;* 8. (воображать) *уяўляць; вы представляете себе такую картину? — вы ўяўляеце сабе такі малюнак?* 9. (давать представление) театр. *паказваць; представлять сцену из новой пьесы — паказваць сцэну з новай п'есы;* 10. (являться) *з'яўляцца;* (быть) *быць;* (представлять собой) *уяўляць;* (составлять) *складаць, становіцца; служба в... армии представляет почётную обязанность — служба ў ... арміі з'яўляецца пачэсным абавязкам; он представляет собой воплощение честности — ён уяўляе сабой увасабленне сумленнасці, ён з'яўляецца ўвасабленнем сумленнасці; это представляет большую ценность — гэта ўяўляе (складае, становіць) вялікую каштоўнасць;* 11. (быць представителем) *прадстаўляць; представлять интересы масс — прадстаўляць інтарэсы мас*".

Як бачым, з адзінаццаці значэнняў слова "представлять" толькі два перадаюцца пазычаным словам *прадстаўляць*. Але і тут на месцы *прадстаўляць* у беларускай мове ёсць свае адпаведнікі: замест "*прадстаўляць да ўзнагароды*" — "*вылучаць на ўзнагароду*" ці *падаваць дакументы на ўзнагароджанне*". Замест "*прадстаўляць інтарэсы мас*" — "*выяўляць (ажыццяўляць) інтарэсы (ці паўнамоцтвы) шырокіх колаў*". Параўн. у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 157): "*Представлять — рэпрэзэнтаваць, вылучаць, падаваць, знаёміць; представлять к награде — вылучаць на ўзнагароду; представлять к присвоению воинского звания — вылучаць на наданне вайсковай годнасці*".

"Русско-белорусский словарь" 1982 года і яго наступнае выданне (1991) паўтараюць тое, што засведчыў слоўнік 1953 года. Праўда, дзеля ідэі хутчэйшага набліжэння моваў яны ўжо ў двух выпадках, акрамя беларускіх словаў, падалі і пазычанне з расійскай мовы *прадстаўляць*, даўшы яго пасля трох сваіх эквівалентаў, але ў ілюстрацыях бачым свае словы (а не гэтае *прадстаўляць*): *представлять списки — падаваць спісы, падаваць на разгляд, зацверджанне; прыводзіць меркаванні* ды інш.

Пра неўласцівасць беларускай мове дзеяслова *прадстаўляць* сведчаць беларускія пераклады іншых расійскіх словаў з прэфіксам *пред-*. Напрыклад, *предстоять: предстоят выборы — маюць адбыцца выбары; вам пред-*

*стоит интересная поездка — вас чакае цікавая паездка; предстоит лететь на самолёте — давядзецца ляцець на самалёце; предумышленно — наўмысна, наўмысля; предшественник — папярэднік; предупредить — папярэдзіць, паведаміць* (зараней); *предстать — з'явіцца, паявіцца; предпочесть — аддаць перавагу; предпосылка — перадумова; предпринимать — пачынаць, распачынаць, рабіць; предпринимать издание журнала — пачынаць (распачынаць) выданне часопіса, брацца за выданне часопіса; предпринимать шаги — рабіць захады* ды інш.

Такім чынам, беларуская мова мае свае вельмі дакладныя адпаведнікі расійскіх словаў *предоставлять, предоставить* і *представить, представлять*. Трэба толькі не пагарджаць імі, бяздумна пазычаючы, штучна калькуючы чужыя моўныя адзінкі.

***Слынны, славуты, знакаміты, знаны — а не відны, знатны.*** У час нацыянальна-культурнага адраджэння мы часта звяртаемся да слоўнікаў 20-х гадоў і знаходзім у іх адмысловыя беларускія лексічныя адзінкі. Так, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча бачым: "*Слынны* — известный" (с. 293). Тут падаюцца і аднакаранёвыя ўтваральныя і вытворныя словы: "*Слынуць* — слыть, быть известным; *слыннасць* — известность". Наш сённяшні друк ахвотна карыстаецца гэтым словам. Прыкладам, у часопісе "Роднае слова" (№ 7 — 8 за 1994 год. С. 109) чытаем: "Старац-гусляр (перабіраючы струны гусляў): Хай загараюцца вочы іх святой любоўю да Радзімы, хай ведаюць яны, што не толькі чужыя землі родзяць разумных і **слынных** *людзей. Хай ведаюць яны пра Яраслава Мудрага, княгіню Вольгу, Усяслава Чарадзея*".

Бачым у згаданым слоўніку і слова *славуты*. Яно перакладаецца на расійскую мову так: "*Славуты* — славный, известный, знаменитый" (с. 292). Ёсць тут і вытворнае ад яго слова "*славутасць* — известность". Лексема *славуты* стасуецца з утваральнымі словамі *слава, славіць, славіцца*. Гэтае *славуты* таксама набыло вялікую актыўнасць у сённяшняй моўнай практыцы: "*Пра кожнага з роду Еўфрасіні Полацкай можна расказаць легенды і паданні. І калі вас цікавяць гэтыя* ***славутыя*** *імёны, паслухайце, калі ласка, дзе вы можаце даведацца аб іх.* (Дзяўчынка-экскурсавод падводзіць да высновы і дае кароткі каментар па змесце наступных кніг...)" (Роднае слова. № 7—8. С. 110).

Слова *славуты* падаюць і пазнейшыя беларускія слоўнікі: "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года: "*Славуты* 1. Знаменитый; именитый; известный; славный; 2. (о месте, предмете) достопримечательный" (с. 866). Поўнасцю паўтораны гэты артыкул і ў двухтомавым перавыданні (Т. 2. Мн., 1989. С. 479). А вось слова "*слынны*" мы, на жаль, не ўбачым у гэтых слоўніках.

Слова *знакаміты* таксама фіксуе "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года: "*Знакаміты* — именитый". Тут і вытворнае ад яго: "*Знакамітасць, ж.* — именитость" (с. 345). Тое сама бачым і ў двухтомавым перавыданні (Т. 1. Мн., 1988. С. 529). З гэтакім значэннем выкарыстоўваецца і слова *знаны*. У "Бела-

руска-рускім слоўніку" 1962 года (с. 129): "*Знаны* — знатный, известный" (с. 345). "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гг.: "*Знаны* разг. 1. Знатный, известный; 2. Известный, познанный в прошлом: *знаныя дарогі — известные дороги*" (с. 530).

Як бачым, тут выкарыстанне слова *знаны* абмяжоўваецца гутарковым стылем. Гаспадаром жа выступае расійскае *знатный*, якое перанесена і на беларускую частку, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года: "*Знатны* — знатный; *знатны род — знатный род; знатныя людзі краіны — знатные люди страны*" (с. 345). У "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гг. (Т. 1. Мн., 1988. С. 530) прадубляваны артыкул з слоўніка 1962 года.

Вось гэтыя блізкія сэрцу беларуса словы — *слынны, славуты, знакаміты, знаны* — былі ў 30—80-х гадах па сутнасці рэпрэсаваныя. Іх месца занялі агульнасаюзныя стандарты *знатны, відны*... Як і словы *рада, радца* і безліч іншых, што былі жыўцом выдаленыя з беларускага слоўніка і замененыя на расійскія *савет, саветнік* ды інш.

Слова *відны* не падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 59) расійскае *видный* (з значэннем 'выдающийся' перакладае беларускім *выдатны*. "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 152) слова *відны* падае толькі як дыялектнае: "*Відны*, обл. (известный, выдающийся) *видный*". У двухтомавым перавыданні гэтага слоўніка (Мн., 1982. Т. 1. С. 101) расійскаму *видный* (выдающийся) адпавядае беларускае *выдатны*.

А вось двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988; Т. 2. Мн., 1989) ужо адмовіўся ад сваёй кваліфікацыі слова *відны* як дыялектнай адзінкі, што было ў выданні 1962 года, ад перакладу рас. *видный* беларускім *выдатны*, што бачым у папярэдніх слоўніках 1953 і 1982 гадоў, рэдактарам якіх таксама быў К.Крапіва, і змясціў гэтае "*відны*" і ў беларускай частцы слоўніка з усімі тымі значэннямі, што і рас. *видный*. У першым томе яго (Мн., 1988. С. 231) чытаем: "*Відны* 1. (известный, выдающийся) *видный, выдающийся: відны вучоны — видный (выдающийся) учёный*; 2. *Видный, значительный, важный, заметный, примечательный; віднае службовае становішча — видное (значительное) служебное положение: у беларускім фальклоры віднае месца займаюць казкі* — в белорусском фольклор видное (значительное, заметное, примечательное) место занимают сказки; 3. Рослый, статный, осанистый, видный, представительный" (Т. 1. С. 231). Іначай кажучы, у гэты слоўнік на беларускую частку перанесена амаль усё тое, што ў "Русско-белорусском словаре" 1953 года было ў расійскай частцы. Прыгадаем і параўнаем: "*Видный* 1. (заметный) *прыкметны*; 2. (значительный) *значны; важны*; (выдающийся) *выдатны*; 3. (статный) *статны, станісты*; (осанистый) *самавіты; паважны*" (с. 59).

Слова *вядомы* таксама ненатуральнае. У слоўніках 20-х гадоў падавалася *ведамы*. Яго пачуеш і ў жывой народнай мове.

Пад ціскам гэтых "відных" і "вядомых" амаль перасталі выкарыстоўвацца іх беларускія адпаведнікі *знаны, знакаміты.*

У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" даецца такое азначэнне гэтых словаў: "*Знакаміты*, -ая, -ае. Шырока вядомы; славуты". "*Знаны*, -ая, -ае. Разм. 1. Вядомы, славуты, праслаўлены" (Т. 2. Мн., 1978. С. 499). "*Славуты*, -ая, -ае. 1. Такі, пра якога ўсе ведаюць; агульнавядомы; праслаўлены // які прыкметны чым-н., карыстаецца славай у якіх-небудзь адносінах. 2. Які набыў або дастойны яе; слаўны. 3. Які дасягнуў шырокай вядомасці, карыстаецца папулярнасцю (пра чалавека). *Славуты акцёр*" (Т. 5. Мн., 1983. С. 197).

Зазначым, што слову *знаны* ўсё ж прычэплена бірка "*размоўнае*", каб абмежаваць яго выкарыстанне, даўшы прастор словам *відны*, *вядомы* і *выдатны*. А вось адмысловаму слову *слынны* месца ў гэтым слоўніку не знайшлося.

З наданнем нашай мове статуса дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь беларускія словы *слынны, славуты, знаны, знакаміты* сталі ўсё больш актыўна выкарыстоўвацца ў моўнай практыцы. Выдавецтва "Навука і тэхніка" распачало выпуск серыі "*Нашы славутыя землякі*". У рэкламе, змешчанай на апошніх старонках (221—223) кнігі З.Санько "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем" (Мн.: Навука і тэхніка, 1991), чытаем: "*У 1989 — 1991 гадах у гэтай серыі выйшлі кнігі: Грыцкевіч В.П. Адысея наваградскай лекаркі. — Пра Саламею Русецкую,* ***знакамітую*** *лекарку і падарожніцу XVIII стагоддзя; Піліпчук А.Я. Ланцэтнік — "Залатая рыбка". — Пра Аляксандра Кавалеўскага (1840—1901),* ***славутага*** *біёлага, чые працы атрымалі сусветнае прызнанне*". Гэтыя словы бачым у розных перыядычных выданнях. Прыкладам, у "Народнай газеце" за 18—20 лютага 1995 года: "*Здымак зроблены зусім нядаўна, мінулай восенню, падчас апошняга прыезду ў Мінск і выступлення на літаратурным вечары* ***знакамітага*** *паэта Андрэя Вазнясенскага... Днямі адзначаецца юбілейная дата* ***славутага*** *беларуса — Рыгора Барадуліна*".

***Суразмоўца — а не субяседнік; гутарка, сумоўе, суразмоўе — а не субяседаванне.*** Слова *бяседа* ў слоўніках падаецца з значэннем 'збор гасцей з пачастункам'. І гэта правільна. Прыгадаем з паэмы Янкі Купалы "Курган":

Раз *бяседа* вялікая ў князя была:
На пасад дачку княжну садзілі;
За сталом він заморскіх крыніца цякла;
Бегла музыка ўкруг на паўмілі.
На вяселле-разгул наплыло, як на сход,
Госці знатных зусюль, за паўсвету;
Гэткай гучнай *бяседы* не помніў народ,
Гэткіх скарбаў, брыльянтаў, саетаў!

Удзельнікаў *бяседы* называюць словам *бяседнікі*. *Бяседнікі ядуць і стравы хваляць* (Якімовіч). З значэннем "*бяседнікі*" можа выкарыстоўвац-

ца і само слова *бяседа: Спявала ўжо ўся бяседа* (Сабаленка). Такое вызначэнне гэтых словаў бачым у пяцітомавым "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 442). У новым, аднатомавым "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 101), які з'явіўся праз 20 гадоў пасля першага тома свайго папярэдніка, слова *бяседнік* ужо не фіксуецца, а намінацыя *бяседа* падаецца з тым сама значэннем: "Збор гасцей з пачастункам. *Балявала ўся бяседа*". Сінонімам лексемы *бяседа* выступае ў слоўніку *выпіўка*. На с. 129 чытаем: "*Выпіўка... 2. Бяседа, пачастунак са спіртным*". Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 210) падае гэтае слова як адпаведнік чатырох расійскіх лексемаў: "*Бяседа ж. — пир, пиршество, банкет; застолье*".

Утваральнымі словамі лексемы *субяседнік* якраз і выступаюць разглежаныя *бяседа* і *бяседнік*. Словаўтваральная структура слова *субяседнік* такая сама, што і ў слове *суайчыннік (су-айчын-нік): су-бясед-нік*. І словаўтваральнае значэнне яны маюць тоеснае 'асоба, якая мае дачыненне да таго, што названа ўтваральным словам'. Вось такую дэфініцыю (апісанне зместу паняцця) гэтага слова падаюць слоўнікі: "*Суайчыннік...м. Чалавек, які мае з кім-небудзь агульную айчыну*" (ТСБМ. Т. 5. Мн., 1983. С. 364; ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 634). Слова *субяседнік* у адпаведнасці з яго словаўтваральнаю будоваю вымагае аналагічную дэфініцыю: "*Чалавек, які мае з кім-небудзь агульную бяседу*", г.зн. агульнае застолле, баль, банкет. Паводле паняццевага зместу яно адпавядае гутарковаму слову *сабутэльнік*. Слоўнік 1996 года тлумачыць яго так: "*Сабутэльнік* (разм.). Чалавек, які п'е, п'янствуе разам з кім-небудзь" (с. 579). Дый будова гэтых словаў тая сама (прыстаўкава-суфіксавае ўтварэнне).

Здзіўляе, як не ўцямілі гэтага складальнікі новага слоўніка, навязваючы беларускаму чытачу слова *субяседнік* з неўласцівым яму значэннем *суразмоўцы*. Сучасная маўленчая практыка выкарыстоўвае з згаданым значэннем некалькі словаў: *размоўца* (яго зафіксаваў яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 271): "*Размоўца* м. — *собеседник*, интервьюрер" (тут, дарэчы, падаецца і *размова — беседа, разговор, диалог, интервью); суразмоўнік* (як адпаведнік рас. *собеседник*. — Русско-белорусский словарь. Т. 3. Мн., 1993. С. 393), *суразмоўца* (яго выкарыстоўвае нацыянальны друк — "Полымя", "Роднае слова", "Наша слова", "ЛіМ" ды інш.). Усе яны маюць той сама корань: *-моў-, -мов- (мова, мовіць, размова)* і выразна матывуюцца — 'той, хто прымае ўдзел у маўленні, размове'. Найбольш пашыраным ёсць слова *суразмоўца* — прыстаўкава-суфіксавае ўтварэнне ад *размова (су-размоў-ца)*. Сваім значэннем і выкарыстаннем яно найбольш адпавядае расійскаму *собеседник*.

У самой дэфініцыі слова *субяседнік*, якую бачым у тлумачальным слоўніку, выяўляецца ўся бязглуздзіца, недарэчнасць вызначэння семантыкі яго: "*Субяседнік... Той, хто вядзе гутарку, бяседу з кім-небудзь*". Тут выкарыстоўваюцца як раўнапраўныя, тоесныя словы *бяседа* і *гутарка*. Але ж

слова *бяседа*, як мы ўжо пераканаліся, не мае ў беларускай мове таго значэння, што *гутарка*. *Бяседа* — гэта "збор гасцей з пачастункам", інакш: *баль, застолле, банкет*. А слова *гутарка* ў гэтым жа тлумачальным слоўніку (с. 162) мае наступную семантычную характарыстыку: "*Гутарка*, ж. 1. Дзелавая або сардэчная размова. 2. Даклад, паведамленне, звычайна з удзелам слухачоў для абмену думкамі". Дык як можна сумясціць "*дзелавую размову, даклад*" з *баляваннем, банкетам, застоллем*? Гэтыя розныя рэчы маюць і свае адмысловыя найменні: *той, хто вядзе гутарку, прымае ўдзел у размове, мае назоў* ***суразмоўца****, а той, хто прымае ўдзел у бяседзе, —* ***субяседнік****, г.зн. "сузастольнік", "субанкетнік", "субаляваннік"*.

Апошнім часам гэтае штучнае для беларускай мовы слова *субяседнік* цягне за сабою і недарэчнае выкарыстанне яго суродзіча — *субяседаванне*. У некаторых нядбайных да культуры маўлення аўтараў у газетных абвестках можна прачытаць: "*Абітурыенты прымаюцца па выніках субяседавання*". Але ж слова *субяседаванне* мае той сама паняццевы змест, што і *бяседа*, г.зн. *застолле, банкет, баль*. Дзіўна, што іх аўтары, самі таго не заўважаючы, прапагандуюць такім чынам хабарніцтва. А функцыю расійскага *собеседования* бярэ на сябе ўжо згаданае слова *гутарка*. Выкарыстоўваюцца таксама з гэтым значэннем словы *суразмова, суразмоўе, сумоўе*: "*Тыя, хто пройдзе завочны курс, будуць запрошаныя на* ***сумоўе****, якое адбудзецца 18 красавіка 1997 года і на якім будзе выяўляцца ўзровень ведаў абітурыентаў па беларускай гісторыі, мове і літаратуры, англійскай мове, сусветнай гісторыі і культуры*" (Адукацыя за мяжой // Свабода. 17.02.1997).

***Дзяўбці, брацца — а не кляваць.*** У перыядычным друку і творах некаторых пісьменнікаў, а таксама ў асобных слоўніках рыбу прымушаюць "*кляваць*", хоць ніякага "*клюва*" яна не мае.

*Дзюба* (ці, як яе тлумачаць у слоўніках, 'выцягнутыя, з рагавым пакрыццём, бяззубыя сківіцы ў птушак і некаторых іншых жывёл, прыстасаваныя для яды') у розных мовах мае неаднолькавыя (часам і надта блізкія) назвы. У беларускай мове гэта *дзюба* (у гаворках яшчэ і *дзюб*), ва ўкраінскай — *дзьоб* (падобнае і ў польскай), у расійскай — *клюв*. І гэты "інструмент" і сам працэс прымання ежы называюцца звычайна аднакаранёвымі словамі: беларускія *дзюб* і *дзюбаць (дзяўбаць, дзяўбці)*, украінскія *дзьоб* і *дзьобати* (такія ж і польскія), расійскія *клюв* і *клевать*. Згаданыя дзеясловы выкарыстоўваюцца і ў пераносным значэнні. Так, па-расійску кажуць: "*птица клюёт*" і "*рыба клюёт*" і "*клевать носом*" — пра чалавека, які дрэмле, то апускаючы, то падымаючы галаву (гэта нагадвае працэс прымання ежы птушкамі). І беларусы з чалавека, які дрэмле, жартуюць: "*носам дзяўбе*", "*носам торкае*" ці "*носам водзіць*". А вось пра рыбу беларусы не кажуць "*клюе*" ці "*дзяўбе*". *Рыба бярэ, бярэцца* ці *торкае*. *Бярэ* — гэта значыць бярэ ў шчэлепы прынаду, *торкае* — гэта значыць цягае, варушыць прынаду.

Гэтую адметнасць дзвюх моваў — беларускай і расійскай — добра засведчыў наш найноўшы акадэмічны двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэ-

дакцыяй Кандрата Крапівы (Т. 1. Мн., 1988; Т. 2. Мн., 1989). У ім бачым: "*акунь добра бярэцца на чарвяка*" — "*окунь хорошо клюёт на червяка*" (Т. 1. С. 196), "*рыба пачала браць прынаду*" — "*рыба начала клевать*" (Тамсама. С. 197); "*шчупак узяўся*" — "*щука клюнула*" (Т. 2. С. 600).

"Русско-белорусский словарь" 1982 года таксама падаваў гэтыя адпаведнікі да расійскага слова *клевать:* 1. (о птицах) *дзяўбці;* 2. (о рыбе) *торкаць, кляваць;* (ловиться) *брацца; смотри, клюёт — глядзі, торкае; сегодня рыба не клюёт — сёння рыба не бярэцца (не клюе, не торкае); лещ клюёт на червяка — лешч бярэцца на чарвяка;* тут бачым і фразеалагізм — *торкаць носам* (Т. 1. С. 357). Як можна заўважыць, гэты двухтомавы слоўнік побач з заканамернымі для беларускай мовы словамі *брацца, браць, торкаць* часам згадвае і слова *кляваць,* але не як асноўнае, а дадатковае. Дарэчы, слова *клюў* тут не падаецца. Яго адпаведнікам выступае *дзюба.* Дык ці можна *кляваць,* не маючы *клюва?*

"Беларуска-рускі слоўнік" 1988, 1989 гадоў удакладніў меркаванне ранейшага даведніка і не падае ўжо *кляваць* як эквівалент да *дзяўбці, брацца, браць.* Словы *кляваць, клюнуць* ён падае толькі як ненармаваныя на сённяшні дзень лексічныя адзінкі, пазначаючы іх як абласныя, дыялектныя (Т. 1. С. 606). Думаецца, што тут даецца правільная кваліфікацыя слова *кляваць,* бо нармаванай мове яно неўласцівае. Пра тое, што слова *кляваць* неўласцівае беларускай літаратурнай мове, сведчыць і новы Тлумачальны слоўнік (Мн., 1996), дзе рэестравага слова *кляваць* няма. Акрамя таго, расійскія фразеалагізмы з словам *клевать* ва ўсіх перакладных слоўніках (РБС-53, РБС-82, РБС-93, РБС-99) падаюцца без выкарыстання гэтага слова ў беларускай частцы: *клевать носом — торкаць носам: денег куры не клюют* (у кого) — *грошай куры не дзяўбуць* (у каго).

***Саленнік ці салільшчык, наведаннік ці наведвальнік?*** Жывая народная мова мае шмат выразных, трапных словаў, якія выкарыстоўваюцца на месцы кніжных, нярэдка чужых, штучных словаў з невыразнаю матывацыяй.

На Гарадзеншчыне, да прыкладу, выкарыстоўваюцца шматлікія назвы асобы паводле яе занятку, рэгулярнага дзеяння. Такія асабовыя назвы ўтвараюцца ад дзеяслоўных назоўнікаў на *-нне* (у гаворках *-не/-нё*) з выкарыстаннем суфікса *-нік: саленне (саленё) — саленнік, аранне — араннік, трапанне — трапаннік, касенне — касеннік, куплянне — купляннік...* Напрыклад, у родных мне гаворках Зэльвеншчыны кажуць: "*Ужэ і касеннікі йдуць с касеня, бо прыпякло натто, косы ні хочуць касіць сухое травы. Добры саленнік з майго мужыка: у яго саленё ўдаецца — і капуста і гурочкі натто смашныя, як насоліць*" (в. Грабава).

У літаратурнай мове на месцы ўтварэнняў з суфіксам *-нік* бачым іх эквіваленты на *-чык, -льшчык.* Так, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 28) чытаем: "*Салільшчык,* -а, м. Рабочы, які займаецца саленнем чаго-н." Як бачым, у аснове слова *салільшчык* таксама ляжыць матывавальны аддзеяслоўны назоўнік — *саленне.* Калі кіравацца матыва-

вальным словам *саленне*, то і павінна быць натуральная назва такога "рабочага" — *саленнік*.

Слова *салільшчык*, трэба думаць, перанесена ў беларускі слоўнік з расійскай мовы, пра гэта сведчыць і "пазычанне" тэксту самога тлумачэння яго семантыкі. Параўнаем: "Солильщик, -а, м. Рабочий, занимающийся солением чего-н." (Словарь русского языка: В 4 т. Изд. 2-е. Т. 4. М., 1984. С. 190) і "Рабочы, які займаецца саленнем чаго-н" (гл. вышэй).

Асабовыя назоўнікі на *-ннік* бытуюць не толькі на Гарадзеншчыне — захадзе Беларусі, але і на ўсходзе (Мсціслаўшчына), і ў цэнтры краіны (Стаўпеччына). У дваццатых гадах гэтакія ўтварэнні падаваліся ў слоўніках. Напрыклад, у братоў Гарэцкіх: *высыланнік, купляннік, пераймannік, гулялнік*... Фіксуюцца яны і сёння ў зборах народнай лексікі — у Г.Юрчанкі: *абскрабаннік, абскубаннік, купаннік, абстрыганнік*...; у Ф.Янкоўскага: *накіданнік, падаваннік* ды інш.

Словаўтварэнне назоўнікаў на *-ннік* было ўласцівае і старабеларускай мове (гл. Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970). Карыстаўся ўтварэннямі на *-ннік* і класік беларускай літаратуры Якуб Колас. Нават у загалоўку твора бачым гэтакае слова: "*Змаганнікам за Кастрычнік*". І яно арганічна спалучаецца з утваральным словам *змаганне*: "*І было змаганне, ой, было змаганне!*"

Выкарыстанне словаў гэтага словаўтваральнага тыпу здымае штучнасць, маўленчую груmasткасць ці калькаваную недарэчнасць замацаваных у слоўніках 50—80-х гадоў адпаведных лексічных адзінак. Да прыкладу, слова *наведвальнік*, якое цяжка вымавіць. А вось *наведаннік* — мілагучнае гукаспалучэнне. Або *пакупнік*, якое матывуецца ўтваральным *пакупаць* (*пакупнік*). Але гэтага слова не ведае беларуская мова, расійскаму *покупать* адпавядае беларускае *купляць*. Ад яго і натуральныя вытворныя *купллянне* і *купляннік*.

Да таго ж утварэнне ад назоўнікаў на *-нне* — заканамерная ў беларускай мове з'ява. Параўн.: *вылучэнне* > *вылучэн-ец*, *паўстанне* > *паўстан-ец*, *змаганне* > *змаган-ец* ды інш.

Дык ці трэба збядняць літаратурную мову, пазбаўляючы яе народных вытокаў?

***Апрацаваць, аздобіць — а не аддзелаць. Справа — а не дзела.*** Іншыя словы ў гэтых парах неўласцівыя нашай мове. У двухтомавым акадэмічным "Русско-белорусском словаре" 1982 года расійскім словам *дело, делать* адпавядаюць беларускія *справа, рабіць* (Т. 1. С. 202—203). Не бачым словаў *дзела, дзелаць* і ў ніводным беларускім устойлівым выслоўі. Не падае іх і найноўшы двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў. А вось вытворныя ад згаданых словаў насуперак усякай логіцы ўціснутыя ў слоўнікі. Выходзіць, што дрэва можа расці і без каранёў?!

Вось гэтыя бескаранёвыя на беларускай глебе словы густа насаджаліся ў слоўнікі ў 30—80-х гадах. Гэта асабліва праявілася ў канцы васьмідзесятых гадоў. "Беларуска-рускі слоўнік" якраз і адлюстраваў тую тэндэнцыю. У ім —

усё гняздо словаў расійскай мовы з коранем *-дел-* перанесена ў беларускую частку даведніка. Тут бачым: *дзелавіта — деловито, дзелавітасць — деловитость, дзелавіты — деловитый, дзелавы — деловой, дзелавыя людзі — деловые люди, дзелавыя паперы — деловые бумаги, дзелавая драўніна — деловая древесина; аддзелачнік — отделочник, аддзелачніца — отделочница, аддзелачны — отделочный, аддзелка — отделка, здзелка — сделка, здзельна — сдельно, здзельны — сдельный* ды інш. Але ж у беларускай мове ёсць свае, адметныя лексемы, якія вельмі канкрэтна і дакладна перадаюць сэнс адпаведных расійскіх словаў.

Так, расійскаму *отделать*, як сведчыць двухтомавы "Русско-белорусский словарь" (Т. 1. С. 622), адпавядаюць чатыры асобныя словы з сваім канкрэтным значэннем: 1. (окончательно обработать) *апрацаваць*; 2. (придать законченный вид) *вырабіць*; 3. (украсить) *аздобіць, упрыгожыць*; 4. перен. (выругать) *прабраць*. Слову *отделка* з значэннем дзеяння адпавядаюць *апрацаванне, апрацоўка, выраб, аздабленне, упрыгожанне*, а з прадметным значэннем — *аздоба*. Словам *отделочник, отделочница* эквівалентныя *апрацоўшчык, апрацоўшчыца*.

Слова *дело* згаданы слоўнік перакладае дыферэнцавана — словамі *справа, работа, прадпрыемства* і *бой* (вайсковае). Адсюль і заканамерныя вытворныя ад іх. Так, пра чалавека, у якога ўсё добра ладзіцца, атрымліваецца, кажуць: "*Спраўны чалавек, ён умее ўсё рабіць і ўсё наладзіць*". Ад гэтага слова вытворныя *спраўнасць* і *спраўнік* (аднаслоўная назва замест *спраўны чалавек*). Беларус скажа: "*О, спраўны прыйшоў, ён усё наладзіць*".

Замест расійскага *деловые связи* выкарыстоўваюцца словазлучэнні *службовыя, справавыя сувязі, практычныя справы; деловые бумаги — справавыя паперы (справавод); деловая критика — справядлівая крытыка; деловая древесина — апрацоўчая (прыдатная да апрацоўкі) драўніна.*

Неўласцівыя беларускай мове і прыстаўкавыя тэрміналагічныя ўтварэнні з коранем *-дел-* кшталту *здзелка, здзельна, здзельны*. У беларускай мове ёсць свае, дакладныя адпаведнікі. Расійскаму *сделка* адпавядае *пагадненне, умова; сдельно — паштучна, акордна; сдельный — акордны, паштучны; сделочник — акорднік*. Замест выслоўя *здзелка з сумленнем*, якое падае "Беларуска-рускі слоўнік" (адпаведна рас. *сделка с совестью*), выкарыстоўваюцца аднаслоўныя намінацыі *змова* ці *афера*.

Беларускія будаўнікі пасля муроўкі праводзяць тынкоўку. Калі ім трэба выканаць канчатковую работу, кажуць *апрацаваць*, калі надаць закончаны выгляд — *вырабіць*, калі ўпрыгожыць — *аздобіць*. Усе гэтыя адпаведнікі да расійскага *отделать* падае і "Русско-белорусский словарь" 1982 года, але пры словах *апрацоўшчык, апрацоўшчыца, апрацоўчы* бачым агульнасаюзныя дублеты, толькі напісаныя па-беларуску.

***Дамова, перамовы.*** Беларускае слова *мова* мае шмат вытворных: *адмовіць, адмовіцца, дамовіцца, дамаўляцца, вымавіць, вымаўляць, вымаўляцца, размаўляць, прамовіць, умовіцца* ды інш. Ад гэтых прыстаў-

кавых дзеясловаў і ўтварыліся (нульсуфіксавым спосабам) назоўнікі *вымова, прамова, размова, умова, перамовы, дамова*. Ад слова *дамовіцца* (праз ступень *дамоўлены*) і *дамоўленасць*, якое "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 г. (Т. 1. С. 359) падае як эквівалент рас. *договорённость*. Рас. *договорённость* як адпаведнік беларускага *дамоўленасць* бачым і ў "Русско-белорусском словаре" 1982 года (Т. 1. С. 216). Ад гэтага дзеяслова — *дамовіцца* — утварылася і слова *дамова*, якое апошнім часам досыць шырока выкарыстоўваецца на месцы ранейшага *дагавор*. Стала актыўным і ўласнае ўтварэнне — *перамовы* замест былога ўсесаюзнага *перагаворы*. Гэта пацвярджаюць і найноўшыя тэрміналагічныя даведнікі. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 54 — 55) чытаем: "*Договор — дамова; договор о ненападении — дамова пра ненапад; мирный договор — мірная дамова*". Або: "*Переговоры — перамовы; мирные переговоры — мірныя перамовы*" (Тамсама. С. 137). Мяркую, што гэта натуральны працэс, калі актывізуюцца ўласныя моўныя рэсурсы замест ранейшага бяздумнага пазычання, асабліва ў грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

Слова *гаварыць* хоць і ўжываецца (побач з *казаць, мовіць*), але назоўнікі, утвораныя ад яго прыстаўкавых формаў, амаль не выкарыстоўваюцца. Іх месца займаюць утварэнні з коранем *-мов-*. Параўн. рас. *выговор* і бел. *вымова, сговор* і *змова, договорённость* і *дамова (дамоўленасць), договор* (условие) і *ўмова*. Таму натуральна ўспрымаюцца і *дамова, перамовы*, якія ўсё часцей выкарыстоўваюцца на месцы былых стандартаў *дагавор, перагаворны, дагаворанасць*: "*Я хацеў знайсці спонсараў для нашага інстытута ў Германіі. **Перамовы** вяду. Яны далі папярэднюю згоду*" (Полымя. 1998. № 7. С. 71); "*Разглядаюцца таксама **дамовы** кіеўскіх князёў X ст. з Візантыяй*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 240).

***Зычыць і жадаць.*** Слова *зычыць* зафіксаваў болей як 125 гадоў таму слынны наш зямляк, славуты лексікограф Іван Насовіч у сваім слоўніку, апублікаваным у Санкт-Пецярбургу ў 1870 годзе. На с. 222 чытаем: "*Зычыць... Желать. Чего себе не хочешь, того и другому не зычъ. Отсохни тая рука, што соби добра не зычыть*" (І.І.Насовіч. Слоўнік беларускай мовы. Мн.: БелСЭ, 1983. 792 с. / Факсімільнае выданне "Словаря белорусского наречия" (1870)). Гэтае *зычыць* мае тут і шэраг вытворных: *зычливо, зычливость, зычливый, зычение*. Слова *зычлівы* падаецца як адпаведнік рас. *доброжелательный, усердный*.

У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 131) слова *зычыць* таксама засведчана як эквівалент рас. *желать*. Як і вытворныя ад яго: *зычліва* — усердно, доброжелательно; *зычлівасць* — усердие, доброжелательство; *зычлівец* — доброжелатель; *зычлівы* — усердный, доброжелательный".

Слова *жадаць* мае ў слоўніку І.Насовіча натуральнае значэнне 'прагна хацець' (страстно хотеть). Ад *жадаць* падаюцца яго вытворныя: *жадны, жадлівы, жаданне* 'прагнае хаценне'. Як відаць, слова *жадаць* мае дадатковую да *хацець* семантыку прагнасці. А вось лексема *зычыць* яе не мае. Гэтыя

адрозненні добра выяўляюцца і ў вытворных ад *жадаць* і *зычыць* прыметніках з тым сама суфіксам *-ліў-: зычлівы* і *жадлівы*. Складанае слова *добразычлівец* як адпаведнік рас. *доброжелатель* таксама пацвярджае думку, што рас. *желать* мусіць мець сваім дакладным адпаведнікам беларускае *зычыць* (а не *жадаць*). Але гэтае адмысловае слова — *зычыць* — не трапіла на старонкі першага акадэмічнага "Русско-белорусского словаря", выдадзенага ў Маскве ў 1953 годзе. Тут бачым толькі: "*Желать — жадаць, хацець*". І гэта не выпадкова, пра што можна даведацца з "Предисловия" гэтага слоўніка, дзе на с. 6 чытаем: "Только... в результате мудрой ленинско-сталинской национальной политики Коммунистической партии белорусский язык... значительно пополнил лексический запас за счёт родного ему русского языка... Белорусские буржуазные националисты стремились засорить белорусский язык искуственными словами, архаизмами..." Відаць, да гэтых "штучных" словаў і залічылі *зычыць*, а на яго месца паставілі *жадаць* — больш блізкае да расійскага *желать*. Але ж лексему *зычыць* падаваў, як ужо згадвалася, не толькі слоўнік І.Насовіча, але і даведнікі 20-х гадоў — "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 131). Без яго не змог абысціся і акадэмічны слоўнік пры перакладзе рас. *доброжелатель*. Тут ён выкарыстаў прапанаваную ранейшымі слоўнікамі лексему *зычлівец*, дадаўшы да яе супольную з расійскаю частку *добра-*, і атрымалася калькаванае *добразычлівец*.

Слова *жадаць* на месцы *зычыць* — выразная, штучная калька рас. *желать*. Гэта пацвярджае і радыёперадача "*Жадаю вам*" (<рас. "*Желаю вам*"). А натуральна, па-беларуску: "*Зычым вам*" (здароўя, поспехаў, дабрабыту, шчасця). Дарэчы, гэта засведчыў і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 353): "*Зычыць — желать. Зычыць дабра каму-небудзь — желать добра кому-н.*" Пацверджана гэта і ў двухтомавым яго перавыданні 1988 года (Т. 1. С. 540): "*Зычыць* несов. *желать; зычыць дабра каму-н. — желать добра кому-либо*".

У жывой народнай мове Гарадзеншчыны мне не даводзілася чуць гэтага *жадаю* на месцы натуральнага *зычу*. Тут кажуць: "*Сабе не хочаш кепскага, то і другому не зыч*" (Зэльвеншчына, в. Грабава).

Слова *жадаць* на месцы *хацець* — таксама штучная калька. Гэта засведчыў слынны знаўца мовы Янка Скрыган. У нататках "Думкі аб мове" (Янка Скрыган. Ранішнія росы. Літаратурныя нататкі, успаміны, партрэты. Мн.: Беларусь, 1965. С. 99) чытаем: "*У апавяданні В.Нікалаенкі "Мяцеліца" ёсць, напрыклад, такія фразы: "Ён шкадуе яе, а яна, маўляў, не жадае ацаніць гэтага", "Не жадае нават, каб праводзіла"*. Адразу чуваць, што гэтае "*жадае*" тут зусім недарэчы. Тут трэба толькі "*хоча*". У слове *жадаць*... ёсць элемент прагавітасці, смагі, жадобы". Праз гэтае *жадаць* сталі выкарыстоўваць і штучнае *жадаючыя*: "*Жадаючых просім наведаць нашу выстаўку*". Але ж на месцы "*жадаючых*" ёсць свае натуральныя словы: *ахвотныя, ахвотнікі, ахвочыя*. У Васіля Віткі, надта чуйнага да слова пісьменніка, чытаем: "*Чэмер рад быў бы з кожным пагаварыць... але, не знаходзячы* ***ахвотніка****, зага-*

*варыў сам з сабою*". Або: "*Каму з нас не цікава і хто з нас не* ***ахвочы*** *прылегчы спаць на траве пад зорны полаг ночы*" (Мікола Аўрамчык). Апошнім часам наш друк унікае гэтага "інтэрнацыянальна-саўковага" *жадаючыя*. Набыло вялікую актыўнасць слова *ахвотнікі*: "*Колькі б ні знаходзілася* ***ахвотнікаў*** *чытаць адны дэтэктывы, тым не менш становіцца відавочным, што з кожным годам узрастае колькасць тых, хто бачыць у кнізе найперш духоўную спажыву*" (Алесь Марціновіч. У падмурак адраджэння // Полымя. 1997. № 7. С. 311); "*Некалькі соцень беларускіх католікаў збіраюцца наведаць Ватыкан і ўбачыць Папу Рымскага. Паломніцтва адбудзецца ў кастрычніку, але запіс* ***ахвотных*** *закончыўся на гэтым тыдні*" (Навіны. 12.06.1998).

***Паабедаць* — ■ *не адабедаць.*** У перыядычным друку, у мастацкіх творах не надта дбайных да культуры мовы аўтараў можна прачытаць: "*Просім адабедаць з намі!*" І наогул слова *адабедаць* — штучнае для беларускае мовы. Яго не падаюць нават нашыя тлумачальныя слоўнікі, якія нярэдка парушаюць лексічную норму беларускай мовы. Няма гэтага "*адабедаць*" і ў найбольш поўным па рэестравым даведніку нарматыўным "Слоўніку беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР М.В.Бірылы (Мн.: БелСЭ, 1987). Не было яго і ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча.

У другім томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1989. С. 6) таксама бачым натуральнае: "*Паабедаць* сов. *пообедать, отобедать*". Здавалася б, усё нармалёва. Літаратурная норма засведчаная, замацаваная. Ды дзе там! У першым томе гэтага слоўніка (Мн., 1988. С. 64) ужо бачым: "*Адабедаць* сов. *отобедать*". На жаль, гэтае ненармаванае (побач з нармаваным) падае і "Русско-белорусский словарь" 1993 года. На с. 400 другога тома бачым: "*Отобедать* сов. *паабедаць, адабедаць*".

У жывой народнай мове дзеясловы з прыстаўкаю *ад-* маюць значэнне 'больш рабіць немагчыма тое, што абазначаецца ўтваральным словам'. "*Адабедаў*", — так кажуць на развітанні з нябожчыкам, г.зн. *болей ужо абедаць не будзе*. Гэтакае словаўтваральнае значэнне маюць і іншыя дзеясловы з *ад-*: *адмучыцца, адсмяяцца* і пад. Дарэчы, дзеяслоў *отобедать* з значэннем 'браць удзел у абедзе' выйшаў з актыўнага ўжытку і ў расійскай мове, што засведчыў чатырохтомавы "Словарь русского языка" (Т. 2. М., 1982. С. 695).

Нормаю ў беларускай мове ёсць дзеяслоў закончанага трывання *паабедаць*. Яго дублет *адабедаць* — парушэнне лексічнае нормы.

***Спартовы і спартовец, бізнесовы і бізнесовец.*** Пазычанае з англійскае мовы слова *спорт* стала надта актыўным у наш час. Яно, як добра асвоенае, улучаецца ў словатворчы працэс з выкарыстаннем сваіх беларускіх фармантаў. Так, праз далучэнне суфіксаў ***-ов-ы*** і ***-ец(-овец)*** да асновы слова *спорт* узніклі прыметнік *спартовы* і назоўнік *спартовец*. (Як, прыкладам, ад слова *тып* — прыметнік *тыповы*, ад *падлік* — *падліковы* і *падліковец*.) Таму словы *спартовы* і *спартовец* актыўна папоўнілі словаўтваральны тып прыметнікаў на *-овы* і назоўнікаў на *-овец* (*службовы* і *службовец, вайсковы* і

*вайсковец* і пад.). Актыўнаму замацаванню ў жывой народнай мове словаў *спартовы* і *спартовец* спрыяла іх выразная структура і лёгкае, звычайнае вымаўленне. Слова *спартсмен* цяжкае для вымаўлення [спарцмен]. Дый для напісання. Калі слова *буцы* мы пішам так, як вымаўляем (параўн. рас. *бутсы*), то чаму трэба іначай пісаць гэтае *спартсмен*, дзе бачым на пісьме спалучэнне літар *тс*, на месцы якіх у беларускай мове трэба пісаць *ц*: *свет*, але *свецкі* (а не *светскі*). І прыметнікі з канцавым *-ыўны* не маюць пашырэння ў мове. Вось чаму і ў перыядычным друку ўжо выкарыстоўваюцца добраматываваныя, празрыстаструктурныя словы *спартовы* і *спартовец*. Яны трапляюць і ў мастацкія творы: "*Нюра была ладная **спартовая** дзеўка*" (Васіль Быкаў. Пакахай мяне, салдацік / / Полымя. 1996. № 4. С. 54). Бачым гэтае слова — *спартовы* — і ў даведніку "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (с. 42): "*Спортивный городок — спартовы гарадок*"; а таксама: "*Спортивные соревнования — спартовыя спаборніцтвы*" (Тамсама. С. 195).

З той сама прычыны ў перыядычным друку (як і ў маўленні) набылі актыўнае выкарыстанне словы *бізнесовы* і *бізнесовец*: "*Што рэкламныя абвесткі **бізнесоўцаў** сапраўды больш кідаюцца ў вочы*" (Роднае слова. 1997. № 8. С. 3); "*Не ведаю, як вас, а нас, **бізнесоўцаў**, зусім задушылі*" (В.Быкаў. Вочная стаўка / / Полымя. 1999. № 5. С. 55); "*Яе новая "роля" — палюбоўніцы **бізнесоўца***" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 11). *Бізнесовец* — выразнаматываванае і структурна празрыстае (*бізнесмен* не мае такой матывацыі).

***Напой і напітак.*** *Напой* — натуральнае ў беларускай мове слова. Гэта ўтварэнне ад дзеяслова *напіцца / напаіць*. Нульсуфіксавае ўтварэнне ад формы незакончанага трывання *напойваць* (з скарачэннем утваральнае асновы): *напой(ваць)*. Як і *надаіць* і *надойваць* > *надой*, *перастаяць* і *перастойваць* > *перастой*; *настаяць* і *настойваць* > *настой*, *набіць* > *набой*. (Падрабязней пра гэта ў маёй кнізе "Беларускае народнае словаўтварэнне". Мн., 1977. С. 262—264.) Слова *напой* мае і свае такога ж фанетычнага аблічча ў корані аднакаранёвікі: *недапой*, *вадапой*, *запой*. Гэтую лексему — *напой* — занатаваў яшчэ больш як 125 гадоў таму Іван Насовіч. У яго слоўніку (с. 314) чытаем: "*Напой*... Всякое вообще питье. *Квасу поставъ для напою. Вода не вредный напой*". Падае слова *напой* і "Русско-белорусский словарь" 1953 года як адпаведнік рас. *напиток* (с. 285). Уласцівае гэтае слова і мовам нашых суседзяў — украінскай і польскай. Яго дублет *напітак* з словаўтваральнага боку — штучнае для беларускае мовы слова (з неўласцівым суфіксам *-так*). Гэта пазычанне з расійскае мовы. Недарэмна яно ў РБС-53 і пастаўлена на першае месца ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула, каб "было бліжэй да расійскай мовы" (К.Чорны), а толькі пасля яго *напой*.

***Выстава і выстаўка.*** Слова *выстава* ўзнікла ў беларускай мове ў выніку ажыўлення народных гаворак як асновы літаратурнай мовы. Гэта — нульсуфіксавае ўтварэнне ад дзеясловаў *выстаўляць — выставіць*; *выстав-(іць)-а*. Як і *выявіць — выява*, *выправіць — выправа*, *вымагаць — вымога*, *выгадаць — выгода*. У беларускай мове нульсуфіксавае словаўтварэн-

не — досыць прадукцыйны спосаб. Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 371) пацвярджае гэта і паказвае, што ўтвораныя такім спосабам назоўнікі жаночага роду II скланення абазначаюць адцягненае дзеянне або стан, а некаторыя маюць другасныя канкрэтна-прадметныя значэнні. Слова *выстайка*, як сведчыць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1980. С. 285), — пазычанне з расійскае мовы. Гэтыя два словы ў сучасным беларускім маўленні выкарыстоўваюцца як раўнапраўныя. Ад слова *выстава* ўжо маем вытворнае — *выставовы (выставовая пляцоўка)*. Слова *выстава* бытуе і ў мове нашых суседзяў — украінскай, польскай, а таксама ў іншых славянскіх мовах.

***Навучальны — а не вучэбны; навуковы — ■ не вучоны; "пасрэдна" — а не "здавальняюча"***. Лексемы *навучальны* і *вучэбны* некаторыя сучасныя беларускія слоўнікі падаюць як раўнаналежныя. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў бачым *вучэбна-выхаваўчы* і *навучальна-выхаваўчы, вучэбна-паказальны* і *навучальна-паказальны*. Гэты слоўнік нават аддае перавагу слову *вучэбны*. Праўда, пры слове *вучэбны* бачым толькі адну ілюстрацыю: *вучэбныя планы*, а пры лексеме *навучальны* — іх тры: *навучальны год, навучальная ўстанова, навучальны дапаможнік* (Т. 1. С. 245 і 716). Крыху іншая кваліфікацыя выкарыстання гэтых тэрмінаў у ранейшым перакладным даведніку — "Русско-белорусском словаре" 1982 года (Т. 2. С. 548), дзе *учебный* перакладаецца словам *навучальны*, а дублет *вучэбны* падаецца ў дужках як дадатковае слова: *учебный год — навучальны (вучэбны) год, навучальны (вучэбны) працэс*, а найменне *навучальная ўстанова* зусім не мае дублета.

Ранейшыя перакладныя слоўнікі, меней падлеглыя ідэі "зліцця нацыяў", падавалі толькі слова *навучальны* як адпаведнік рас. *учебный*. Гэтак у "Русско-белорусском словаре", які выйшаў у 1953 годзе пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі: "*Учебный — навучальны; навучальны год, навучальны дапаможнік, навучальная ўстанова, навучальная частка*". Лексема *вучэбны* падавалася толькі з значэннем 'трэніравальны' (вучэбная стральба) (с. 729).

Тое сама засведчыў і "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года (с. 159).

Слова *навучальны* — уласнабеларускае, яно ўтворана паводле актыўнай словаўтваральнай мадэлі з дапамогаю прадукцыйнага суфікса *-льн-: навучацца — навучальны*, як *пахваліць — пахвальны* (ліст), *прывітаць — прывітальны, пранікаць — пранікальны, утвараць (утварыць) — утваральны*. Лексема *навучальны* мае шырокае кола тоесных па аснове аднакаранёвікаў: *навучальнасць, навучанне, навучаны, навучацца, навучыцца, навучэнец, навучэнка, навучальнік*. Гэтае слова ўдзельнічае ва ўтварэнні наймення "*Вышэйшая навучальная ўстанова*" і яго скарачэння (абрэвіятуры) *ВНУ*.

Слова *вучэбны* — расійскае (*учебный* — утварэнне ад *учёба: учеб-ный*). Як сведчыць двухтомавы "Русско-белорусский словарь" (Т. 1. С. 548), рас. *учёба* найперш адпавядае ў беларускай мове слова *навучанне*, і ў гэтым яго перавага перад *вучэбны*. У расійскай мове слова *учебный* мае і сваё вытвор-

нае *учебник*, а ў беларускай мове яму адпавядае лексема *падручнік*. Пазычанае *вучэбны* ў нашай мове не мае сваіх вытворных, гэта ізаляваная лексема з неўласцівай беларускай мове структураю: *вуч-эб-ны*; параўнаем аднатыпнае беларускае ўтварэнне *службовы (служ-б-ов-ы)* пры рас. *служебный* (як і *уч-еб-н-ый)*.

Як паказвае аналіз, пазычанае *вучэбны* не нясе ніякай дадатковай семантыкі і выступае толькі другарадным дублетам да свайго слова *навучальны*. Таму няма падставы для яго выкарыстання ў беларускай літаратурнай мове.

Лексема *навуковы* ў сучаснай літаратурнай мове ўсё больш актыўна ўжываецца замест *вучоны* ў найменнях *навуковая рада (вучоны савет)*, *навуковая ступень* (вучоная ступень). Ад яго ўтворана і аднаслоўная намінацыя *навуковец*, якая выступае на месцы калькі "*навуковы супрацоўнік*" і слова "*вучоны*". І гэта натуральна, бо скрозь адчуваецца тут празрыстая матываванальнасць, стасункі з словам *навука; навуковец — той, хто займаецца навукаю; навуковая рада — рада навукоўцаў, людзей навукі; навуковая ступень — ступень у навуцы, яе прыступка*. Часткова гэтую з'яву засведчыў і "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года (Т. 1. С. 716), дзе чытаем: "*навуковая ступень — учёная степень*".

Словы *навуковы* і *навучальны* маюць агульную аснову (з прыстаўкаю *на-*): *навук- / навуч-*, што таксама спрыяе іх умацаванню ў літаратурнай мове.

Слова *савет* штучнае для беларускае мовы. Беларусам яно было прышчэпленае сталінскімі рэпрэсіямі супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, беларускага народа, калі разам з "нацдэмамі" расправіліся і з беларускім словам *рада*, замяніўшы яго на *савет*. Слова *савет* не мае ў беларускай мове сваіх каранёў, яно ўласціва расійскай мове, дзе ўтворана ад *советовать(ся)*.

Лексема *рада* — натуральнае беларускае слова, яно ўваходзіць у шырокае гняздо аднакаранёвікаў: *рада, радзіць, радзіцца, раіць, раіцца* (з чаргаваннем *дз / j*, параўн. *маладзец*, а ва ўскосных склонах *малайчына, малайчыну), дарадзіць, дарадца, дарадчык, нарада, парада, параднік*. Утворана *рада* нульсуфіксавым спосабам ад *ра́дзіць (ра́дзіцца)*.

Неапраўдана выкарыстоўваецца і вытворнае ад *савет* слова *саветнік*. Яго беларускі адпаведнік — *дарадца* і *дарадчык*. "Беларуска-рускі слоўнік" 1989 г. падае і *параднік*, г.зн. той, хто можа *дарадзіць, даць параду*. Гэты факт засведчыў "Русско-белорусский словарь" 1982 года (Т. 2. С. 412), дзе бачым: *советник* (дающий *совет*) — *дарадчык*. Праўда, з значэннем службовай асобы слоўнікі не змаглі на той час падаць гэтае натуральнае слова і замянілі пазычаным словам *саветнік* — дзеля "агульнасці тэрміналагічнага фонду". Але найноўшыя тэрміналагічныя даведнікі падаюць сваё слова (а не *саветнік*): "*Советник — дарадца; военный советник — вайсковы дарадца*" (С.Суднік, С. Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 193).

З ужо згаданай прычыны слова *рада* не падаецца сучаснымі слоўнікамі з значэннем дзяржаўнай уладнай структуры. Між тым слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі слова *рада* з усімі значэннямі рас. *совет*. Да прыкладу, у "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" В.Ластоўскага (с. 671)

чытаем: "*Совет* м. *Рада* ж. *Рада дзяржаўная*". "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года (с. 774) засведчыў першасныя значэнні слова *рада* і багатую гаму ўстойлівых словазлучэнняў з гэтым народным словам, з кораня якога і вырасла яго афіцыйна-кніжнае значэнне як назвы ўладных структураў: "*Рада* ж. 1. (указание, как поступить) *совет* м.; 2. (совместное обсуждение) *совет; совещание*". Далей ідуць фразеалагізмы з гэтым словам: "*Рады няма* а) сил нет; сладу нет; б) выхода нет; *рады не даць* а) не управиться, не сладить с кем-чем-л.; б) ума не приложить; *ні да рады, ні да звады* — ни рыба ни мясо; ни то ни сё; *знайсці раду* — найти выход (способ, средство)". Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў паўтарыў засведчанае слоўнікам 1962 года, дадаўшы два новыя выслоўі: *раду радзіць* — думу думать, держать совет; *дай ты рады* — скажи на милость (Т. 2. С. 346). У згаданых слоўніках падаюцца і словы, ад якіх утворана *рада: ра́дзіцца* — советоваться, совещаться, *ра́дзіць* — советовать. Як бачым, слова *рада* мае трывалыя карані ў лексічнай сістэме беларускай мовы. Бытуе гэтае слова і ў суседніх славянскіх мовах — украінскай і польскай, дзе яно мае і статус найменне дзяржаўных уладных структураў, як гэта было і ў нас падчас Беларускай Народнай Рэспублікі.

У часе адраджэння нашай культуры і мовы, нашай шматвяковай дзяржаўнасці адраджаецца і слова *Рада*. Яно актыўна выкарыстоўваецца ў перыядычным друку, у навуковых працах. Было яно і ў праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (поруч з словам Сойм), бачым яго і ў найноўшых тэрміналагічных даведніках. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (с. 193) чытаем: "*Совет* 1. (орган) — *рада*, ж.р.; *военный совет — вайсковая рада*".

Такім чынам, уладная структура педагагічнага калектыву — *рада, педагагічная рада*, у ВНУ — *навуковая рада: універсітэцкая навуковая рада, інстытуцкая навуковая рада, факультэцкая навуковая рада*. "***Навуковая рада** музея рэкамендуе на наступны разгляд экспертнай камісіі творы В.Грамыкі, Ф.Дарашэвіча...*" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 10).

І яшчэ — наконт наймення некаторых адзнакаў пры ацэнцы ведаў нашых навучэнцаў. Сённяшнія "*здавальняюча*" і "*нездавальняюча*" штучныя як з боку маўленчага (моўнага), так і змястоўнага. Гэта калькі такіх жа няпэўных, неакрэсленых *удовлетворительно* і *неудовлетворительно*. Калі даецца агульная ацэнка (двухбалавая адзнака), то тут натуральныя адзнакі: *станоўча* і *адмоўна*. Пры чатырохбалавай ацэнцы найбольш аб'ектыўна паказваюць на стан рэчаў ранейшыя адзнакі: "*дрэнна*", "*пасрэдна*", "*добра*", "*выдатна*". Тут усяму даецца канкрэтная ацэнка. І слова *пасрэдна* паказвае тое, чаго варты такі адказ (праца). А ранейшае (і пакуль што сучаснае) *здавальняюча* як быццам усіх *задавальняе*. Ці не адсюль і стан нашага жыцця пры такой ацэнцы справаў?

***Знаходзіцца, быць (у шлюбе) — а не састаяць (у шлюбе)***. "*Да адзінокіх маці, на якіх распаўсюджваюцца гарантыі, прадугледжаныя артыкулам 170 КЗАП, трэба адносіць жанчын, якія **не састаяць у шлю-***

*бе і маюць дзяцей, у актавым запісе аб нараджэнні якіх пра бацькоў ва ўстаноўленым парадку зроблены запіс са слоў маці, а таксама ўдоў і разведзеных, што **не састаяць у шлюбе**"* (Настаўніцкая газета. 22.11.1995. Рубрыка "НГ-інфарм. Пытанне — адказ").

Слова *"састаяць"* не фіксуе ніводны з беларускіх слоўнікаў. Гэта расійскае слова. У беларускай мове яму адпавядаюць свае словы. Так, "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае: *"Состоять* (быть, находиться в каком-л. состоянии, положении) *знаходзіцца, быць; состоять в браке — знаходзіцца (быць) у шлюбе"* (Т. 3. С. 418).

Як бачым, перакладчык расійскага тэксту не справіўся з сваёй задачай: ён замяніў толькі адно слова ў словазлучэнні "состоять в браке" — апошняе, а першае так і засталося без перакладу. І пайшло гуляць па старонках, як ні крыўдна, газеты для настаўнікаў гэтае *"састаяць"*.

***Выкрасці (украсці) і выкрадаць, выкраданне (машыны) — а не ўгнаць, уганяць і ўгон (машыны).*** *"Магчыма, расплата за адзін з апошніх крадзяжоў аўтамашыны ў Магілёве паслужыць урокам аматарам пакатацца на крадзеных "калёсах"; "Саўдзельнік злачынства прызнаўся, што ў тую ноч яны хацелі **ўгнаць другую машыну**, але ў ёй не завёўся рухавік"* (Народная газета. 23.02.1995).

Згаданы "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 3. С. 579, 582) дае наступны пераклад расійскіх слоў *угнать, угонять, угон: "Угнать* сов. 1. *пагнаць;* 2. (похитить) разм. *украсці; угонять* несов. *гнаць; угонять скот в поле — гнаць (выганяць) жывёлу ў поле;* 3. (похищать) разг. *красці; угон* м. 1. (действие) *выган, адгон;* 2. (похищение) *выкраданне;* (кража) *крадзеж; угонщик — згоншчык, злодзей* (машын).

Як бачым, беларуская мова мае свае дакладныя адпаведнікі расійскіх. "Выраўноўванне беларускай лексікі пад рускую — заганная з'ява", — справядліва зазначыў Пётра Садоўскі ў рэцэнзіі на "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", апублікаванай у часопісе "Полымя" № 5 за 1986 год пад выразнаю назваю "Час одуму".

Такое "выраўноўванне" беларускіх слоў пад расійскія вельмі часта можна чуць па беларускім радыё і тэлебачанні. Прыкладам, 5 красавіка 1995 года па тэлебачанні з прычыны смерці Пімена Панчанкі з вуснаў дыктара слухачы пачулі: *"...ушоў ад нас паэт..."* замест беларускага *адышоў.*

У друку і ў перадачах па радыё, тэлебачанні вельмі часта спатыкаешся і на небеларускім слове *ўступіць* (месца). Прыстаўка *у-* у беларускай мове найчасцей надае значэнне "накіраванасць дзеяння ўнутр прадмета або асяроддзя": *убіць, увезці, уехаць, уплесці* (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. С. 591). У расійскай мове прыстаўка *у-* мае якраз найбольш пашыранае, адваротнае беларускаму прэфіксу *у-* значэнне, а менавіта: "накіраванасць дзеяння ад каго-небудзь, адданенне, знішчэнне, знікненне чаго-н.: *убежать, улететь, утечь* (Словарь русского языка: В 4 т. Изд. 2-е. М., 1984. Т. 4. С. 442). Па-беларуску *ўступіць* найперш усведамляецца як *стаць нагою ў што-н.: уступіць у лужыну (у гразь)*. А вось з значэннем 'вызваліць месца' (для каго) — *уступіць* — па-

мылковае слова. Штучнасць яго добра адчуваў Якуб Колас і таму не карыстаўся ім: "*Арцём садзіцца так, каб Амелька не бачыў яго ў працэсе творчасці, **пераступае** такім чынам Амельку і лепшае месца і чарніла, узычанае Бруяком*" ("Туды, на Нёман").

Расійскае *уступить* (кому-чему в чём) слоўнікі перакладаюць і беларускімі адпаведнікамі з прыстаўкамі ***са-*** і ***пера-***: *саступіць, перастуліць.* Гэта якраз адпавядае словатворчай заканамернасці беларускай мовы. На месцы *ўступіць* выкарыстоўваюцца і іншыя словы: *прадаць тавар за паўцаны; даць дарогу, саступіць з дарогі, аддаць пальму першынства* ды інш.

На жаль, слоўнікі 50—80-х гадоў поўнасцю "выраўнавалі" беларускія дзеясловы з расійскімі. Так, двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы ўжо не бачыць розніцы паміж дзвюма мовамі ў выкарыстанні дзеясловаў *уступить — уступіць* (Т. 2. Мн., 1989. С. 628). Гэта і вядзе да занядбання роднага слова, да блытаніны ў друку.

А між тым "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі" (Мн., 1994) падае шматлікія беларускія тэрміналагічныя адпаведнікі з іншымі прэфіксамі і бяспрэфіксавыя да расійскамоўных з прэфіксам *у-*: *убежище* (пры пашы) — *прыстанішча, сховішча; убой — забой, зарэз; убойны — забойны; уборка стойла — прыбіранне стойла; убранный — сабраны; убыль — змяншэнне* (пладоў), *спад* (вады), *убытки — страты, увеличение — павелічэнне; увядание — завяданне, углубитель — паглыбляльнік, угнетение* (росту) — *прыгнятанне, удавление — задушэнне; удаление — выдаленне, выразанне, адразанне* (вільгаці, кішкі, сухіх галін), *вырыванне* (зубоў), *ачышчэнне* (ад гною), *пазбаўленне* (валасоў); *удвоение — падваенне, удлинение — падаўжэнне* (шэрсці), *удлинитель — падаўжальнік, удостоверение — пасведчанне, указатель — паказальнік, укладывать — складваць* (у касцёр), *уклон — нахіл, уклонение — адхіленне, уклономер — схіламер, укроп — кроп, улучшение — паляпшэнне, уменьшение — памяншэнне, умягчение воды — змякчэнне вады, уничтожить — знішчыць, унос — вынос (запрэжка), уплотнение — зацвярдзенне, упругость — пругкасць, упряжка — запрэжка, уродливость — выродлівасць, усадебный — сядзібны, усадка* (почвы) — *асяданне* (глебы), *усадьба — сядзіба, усваивать — засвойваць, ускорение — паскарэнне, устранение — знішчэнне, утолщение — патаўшчэнне, утрата — страта, ухудшение — пагаршэнне, учёс — пачаскі, пачассе, учёт — падлік, учётный — падліковы, уширение — пашырэнне* ды інш.

***Алё — а не ало.*** Нашыя першыя акадэмічныя перакладныя слоўнікі выклічнік *алё* штучна замацавалі ў форме *ало*, кіруючыся пры гэтым, як відаць, графічнай формай слова расійскай мовы. У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года чытаем: "*Ало* межд. *алло*" (с. 85). І ў "Русско-белорусском словаре" 1953 года: "*Алло* межд. *ало*" (с. 17). Гэтым самым рабілася кепская паслуга не толькі беларусам, але і расійскамоўным карыстальнікам слоўніка: яны былі скіраваныя і ў расійскім маўленні выкарыстоўваюць гэтае слова ў такой гукавай абалонцы, як яно напісанае па-беларуску: *ало* (у бела-

рускай мове дзейнічае фанетычны прынцып, паводле якога "як вымаўляем, так і пішам"). Але ж у расійскай мове напісанне слова тут (як і ў шмат якіх іншых выпадках) не супадае з яго вымаўленнем: пішацца *алло*, а вымаўляецца *алё* [ал'о]. Гэта засведчыў аўтарытэтны даведнік "Орфоэпический словарь русского языка. Произношение, ударение, грамматические формы" / Под ред. Р.И.Аванесова (Изд. 2-е, М., 1985. С. 26).

Гэтую памылку — напісанне *ало* — потым перанеслі і ў наступныя слоўнікі. Праўда, "Русско-белорусский словарь" 1982 года падае ўжо дзве яго формы — *ало* і *алё*, з перавагай першай (адпаведна рас. *алло*). На с. 26 чытаем: "*Алло* межд. *ало, алё*". А ў самым новым двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" 1988 — 1989 гадоў форма *алё* па сутнасці касуецца — кваліфікуецца як размоўная, з адсылкай да *ало*. На с. 120: "*Ало* межд. *алло*". Нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн., 1987. С. 70), падаючы абедзве формы, усё ж аддае перавагу натуральнай форме *алё*: "*Алё* выкл. і *ало*"; "*Ало* выкл., часцей *алё*". Справядлівае пазіцыі да формы выклічніка *алё* трымаецца "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 223), які падае толькі *алё*, паказваючы і крыніцу гэтага слова — англ. hallo. Дык ці трэба натуральнае напісанне гэтага слова перарабляць на іншы лад? Напісанне зычных у іншамоўных словах адпавядае ў беларускай мове іх вымаўленню, таму нармаваным мусіць быць толькі *алё*, а напісанне *ало* — памылковае. Гэта пацвярджае (відаць, улічыўшы нашую думку, выкладзеную ў артыкуле "Шанаваць роднае слова" / / Полымя. 1989. № 11. С. 208—209) і "Русско-белорусский словарь" 1993 года, у якім бачым: "*Алло* межд. *алё*" (Т. 1. С. 41).

***Звёны і звенавы — а не звенні і звеннявы.*** Слова *звяно* ў множным ліку мае натуральную форму *звёны* (з пераходам націску на аснову і далучэннем фарматыва множнасці — канчатка -ы: *звяно — звёны*). Як і *акно — вокны, бервяно — бярвёны, вядро — вёдры, гняздо — гнёзды*. Але да гэтае простае ісціны акадэмічныя слоўнікі дайшлі толькі ў 80-х гадах. А да гэтага РБС-53 і БРС-62 падавалі: *звяно — звенні*, г.зн. калькавалі структуру рас. *звенья* [звенjа] (на месцы спалучэння -нj- узнікаў доўгі гук [нн] і замяняўся фарматыў множнасці *-а* на канчатак *-і*). Аднак у беларускай мове формы множнага ліку чыста флексійныя, а ў расійскай — і флексійна-суфіксавыя. (Падрабязней пра гэта гл. у раздзеле "Формаўтварэнне". "Фарматывы множнага ліку".) "Русско-белорусский словарь" 1982 года справядліва падае: "*Звено* ср. в разн. знач. *звяно, -на* ср. мн. *звёны, -наў*" (Т. 1. С. 294). Аднак ад ранейшых стэрэатыпаў не так лёгка адмовіцца. Гэта пацвярджаюць і матэрыялы "Слоўніка цяжкасцей беларускай мовы" (Мн., 1987), дзе ўсё яшчэ бачым і памылковую форму *звенні*. На с. 94 чытаем: "*Звяно*, на-, мн. *звёны* (аднатыпная састаўная частка чаго-н.) і *звенні* (найменшая арганізацыйная адзінка)". Відаць, тут цісну ідэалагічны фактар: *піянерскія звенні* — з усесаюзнага фонду грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Аднак "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года (Т. 1. С. 506) справядліва не прызнае гэтага размежавання і падае

формы *звяно — звёны* з рознымі яго значэннямі. І гэта адпавядае заканамернасцям беларускага формаўтварэння.

Ад формы *звяно, звёны* (аснова на цвёрды зычны) зусім натуральнае прыметнікавае ўтварэнне *звенавы* (як і *дом — дамавы, сяло — селавы, гняздо — гнездавы*). У згаданым ужо "Слоўніку цяжкасцей" (с. 94) форма *звенавы* таксама падаецца, але толькі як размоўная, а нейтральнай лічыцца *звеннявы*. Але ж *звеннявы* — гэта ўтварэнне ад *звенні (звенн-явы)*, а такая форма, як мы ўжо пераканаліся, памылковая. Ад *звяно, звёны* заканамерная — *звенавы (звен-авы)*. "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года, замацаваўшы правільную форму *звёны*, чамусьці не пайшоў далей за сваіх папярэднікаў, перанёсшы на свае старонкі памылковую форму *звеннявы*. Праўда, падаецца ў ім і форма *звенавы*, але толькі з адсылкай да *звеннявы*, г.зн. як рэдкае, зніжанае.

"Русско-белорусский словарь" 1982 года фіксуе ў гняздзе "*Звяно*" і складаны назоўнік *звенавод* як эквівалент рас. *звеньевод*, што зусім натуральна. Але здзіўляе памылковая форма *звеннявы* (і з значэннем прыметніка, і як назоўнік) (калькаваная форма з рас. *звеньевой*). І гэта пры правільнай форме *звенавод?*

Гэтую памылку выправіў "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 1. С. 520), дзе бачым натуральныя формы: *звенавы* (прыметнік) і *звенавы* (назоўнік). Але здзіўляе форма *звеннявая* (з знач. назоўніка). Тут бачыцца механічны перанос на старонкі слоўніка матэрыялу згаданае публікацыі (Полымя. 1989. № 11. С. 209), у якой падаюцца нармаваныя формы *звенавы* і *звенавод*. А вось форма *звенавая* ў публікацыі не згадваецца. Таму яе і пакінулі такой, якой яна была ў РБС-82, — *звеннявая*. Параўн. у Янкі Брыля: "*Сястра мая, Ліда, звенавая...*" (Жменя сонечных промняў // Маладосць. 1967. № 1. С. 37).

***Кава, чорная кава — кофе, чорны кофе.*** Слова *кофе* як назоўнік мужчынскага роду замацаваўся ў расійскай мове ў выніку больш ранняй яго фіксацыі ў "мужчынскай" форме — *кофей* (у творах Л.Талстога бачым абедзве формы: *кофей* і *кофе* — з французскай мовы; адно — *кофей* — паводле напісання; другое — *кофе* — паводле яго вымаўлення). Але ж усе нескланяльныя іншамоўныя назоўнікі з прадметным значэннем належаць (у расійскай мове) да словаў ніякага роду. І толькі адно гэтае *кофе* стала выняткам. Яго форма (з фінальным *-е: кофе*) таксама ставіць гэтае слова ў шэраг словаў ніякага роду (*поле, насенне* і пад.), таму ў жывой народнай мове яно і ўспрымаецца як назоўнік ніякага роду: *салодкае, чорнае кофе*. Пры гэтым нават у расійскай мове з яе працяглай бесперапыннай традыцыяй слову *кофе* дазваляецца быць назоўнікам ніякага роду і дапасоўваць да сябе ў гэтай форме залежныя словы, што і засведчыў згаданы аўтарытэтны "Орфоэпический словарь русского языка" (с. 224). А нашыя перакладныя слоўнікі як бы і не заўважаюць гэтага і штучна апранаюць яго ў фрак толькі мужчынскі.

І калі ранейшыя акадэмічныя слоўнікі — РБС-53 і БРС-62 — падавалі паралельна словы *кофе* і *кава* як раўнапраўныя, а "Русско-белорусский словарь" 1982 года: "*Кофе* м. *кава*, ж. *кофе* нескл. м.; *чёрный кофе — чорная*

*кава*" (Т. 1. С. 381), то "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года вось так ужо кваліфікуе гэтую лексему: "*Кава*, ж. см. *кофе*", а на с. 612: "*Кофе* нескл. *кофе; чорны кофе — чёрный кофе*". Як бачым, *кава* як нармаваная адзінка лексічнай сістэмы гэтым слоўнікам не прызнаецца. Дый само *кофе* — толькі ў "мужчынскім фраку". Найноўшы даведнік "Русско-белорусский словарь" 1993 года фіксуе наступнае: "*Кофе* м. *кава* ж., *кофе* нескл. м.; *чёрный кофе — чорная кава*" (Т. 1. С. 676), *кофе в зёрнах — кава ў зярнятах* (Тамсама. С. 526). Пяцітомавы ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978) таксама, ідучы ў фарватары "зліцця нацыяў", перавагу аддае слову *кофе:* "*Кава*. Тое, што і *кофе. Чорная кава* — тое, што і *чорны кофе*" (с. 570). Усё гэта паўтарыў і аднатомавы яго паслядоўнік: "*Кава*, -ы, ж. Тое, што і *кофе* (у 2 знач.)" (ТСБМ. Мн., 1996. С. 262). Аднак гэта пярэчыць сучаснай маўленчай практыцы, дзе амаль не выкарыстоўваецца *кофе*, а толькі *кава*. І гэта натуральна — адраджаецца ўласнабеларускае найменне гэтага пітва. Калі ўлічыць і факт неўпарадкаванасці родавай прыналежнасці слова *кофе*, то ўсе перавагі за словам *кава*. *Чорная кава* — тут усё ў норме.

***Збожжа і збажына — а не хлеб і хлябы.*** Агульнаю назваю злакавых раслінаў, з зерня якіх вырабляецца мука і крупы, а таксама самога зерня, насення гэтых раслінаў ёсць у беларускай мове *збожжа* і *збажына*. Слова *збожжа* ўваходзіць у склад шматлікіх складаных найменняў: *збожжавытворцы, збожжанарыхтоўкі, збожжанарыхтоўчы, збожжагрузчык, збожжапастаўкі, збожжасховішча, збожжаўборачны, збожжаўборка* ды інш. У расійскай мове ім адпавядаюць слова *хлеб, хлеба* і вытворныя з гэтым словам. Гэта засведчыў і "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі" (Мн., 1994). На с. 529 — 530 чытаем: "*Хлеб — збожжа. Засцірдаванае збожжа, абмалочанае збожжа. Хлеба — збожжа. Высокостебельные хлеба — высокасцябловае збожжа, полеглые хлеба — палёглае збожжа. Хлебные — збожжавыя. Хлебопоставки — збожжапастаўкі. Хлебосдача — збожжаздача. Хлеборoдный — урадлівы, ураджайны*". Зафіксавалі гэта і акадэмічныя перакладныя слоўнікі — "Русско-белорусский словарь" 1953 года (с. 743) і "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года (с. 324), а таксама іх перавыданні. Двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года падае: "*Хлеб* м. 1. *хлеб* м.; 2. (зерно) *збожжа* ср.; 3. (хлебные злаки) *збожжа* ср. *збажына* ж." (Т. 2. С. 569). У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1989) таксама бачым: "*Збажына* собир. ж. (хлебные злаки) *хлеба*" (с. 496); "*Збожжа* ср. 1. Собир. зерно, *хлеб;* 2. (на корню или в снопах) зерновые, *хлеба, хлеб*". Далей на гэтай старонцы падаецца 25 вытворных з гэтым словам збожжа: *збожжавы — хлебный, збожжаздача — хлебосдача* і пад. Здавалася б, карыстальнік слоўніка атрымаў патрэбныя звесткі пра беларускія словы і іх расійскамоўныя адпаведнікі. Але ж не! Тое натуральнае, беларускае, спрадвечнае, што бачым у першым томе гэтага слоўніка, перакрэсліваецца ў другім яго томе, дзе ўжо фіксуецца: "*Хлеб* м. в разн. знач. *хлеб*". Тут і *хлебаздача — хлебосдача, хлебапастаўкі — хлебопоставки. Хлебны* — в разн. знач. *хлебный* "(с. 667). Як бачым,

"зліліся" дзве мовы. Але ж гэта не так, пра што сведчыць і згаданы тэрміналагічны даведнік, выдадзены ў 1994 годзе ў выдавецтве "Ураджай". У ім адмыслова падкрэсліваецца: "*Хлеб* (які адносіцца да *хлеба*) *хлебны;* (які адносіцца да *збожжа*) *збожжавы*". І падаецца 17 рэестравых словаў-тэрмінаў з першай часткай *збожж-: збожжаскладальнік* (*хлебокопнитель*), *збожжанарыхтоўка* (*хлебозаготовка*), *збожжастой* (*хлебостой*), *збожжафураж* (*хлебофураж*) і пад. І няма тут гэтых "*хлебаздача*", "*хлебапастаўкі*", "*хлебародны*", а толькі *збожжаздача, збожжапастаўкі, урадлівы* і *ўраджайны*.

Гэта пацвярджае і "Русско-белорусский словарь" 1993 года, дзе засведчана: "*Хлеб*... 2. (зерно) *збожжа;* 3. (хлебные злаки) *збожжа, збажына*" (Т. 3. С. 684). І прыметнік *хлебный*: "1. (относящийся к печёному хлебу) *хлебны;* 2. (относящийся к зерну) *збожжавы*" (Тамсама).

Наш "Тлумачальны слоўнік" у другім томе (рэдактар А.Баханькоў. Мн., 1978) таксама фіксуе гэтыя словы: *збажына* (с. 425), *збожжа* і вытворныя ад яго 9 лексемаў (с. 430): *збожжавы, збожжавытворчы, збожжасховішча, збожжаўборка, збожжанарыхтоўка* ды інш. А вось у пятым томе (Мн., 1983. С. 200 — 201), які рэдагаваў сам дырэктар Інстытута мовазнаўства М.Суднік, лексічная норма слова *хлеб*, замацаваня ў першым томе, ужо касуецца: лексеме *хлеб* прыпісваюцца ўсе значэнні, уласцівыя не беларускай, а расійскай мове: *хлеб* ужо не толькі 'прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі', але і 'зерне, якое мелецца на муку' і 'зерневыя расліны на корані'. Знайшлося тут месца і форме *хлябы* і штучным пазычанням "*хлебаздача*", "*хлебапастаўкі*". А вось якое дзіўнае вызначэнне яны маюць: "*Хлебаздача*... планавая здача *збожжа* калгасамі і саўгасамі дзяржаве". "*Хлебапастаўкі*. Планавая здача *збожжа* дзяржаве" (с. 201). І як тут дайсці да сэнсу? "*Планавая здача збожжа*..." — і замест натуральнага, што вынікае з гэтае дэфініцыі, — *збожжаздача*, — бачым штучнае, перанесенае з расійскай мовы *хлебаздача* (*хлебосдача*). Як і *збожжанарыхтоўкі* сталі *хлебанарыхтоўкі*. Ну як тут не пераканацца ў справядлівасці той ацэнкі, якую даў "Тлумачальнаму слоўніку" Максім Лужанін: "*Вушы вянуць!*" Або папярэджанню Максіма Танка: "Бясконцая і бяздумная запазычанасць чужых слоў, як у нас, не можа не пагражаць дэградацыяй самой мове".

На вялікі жаль, усё гэта бачым і на старонках новага, аднатомавага "Тлумачальнага слоўніка" 1996 года. І калі яго пяцітомавы папярэднік падаваў спісанае з расійскіх даведнікаў у нейкай апрацоўцы (хоць і не заўсёды), то аднатомавы ўжо не робіць гэтага, а нярэдка цалкам пераносіць на свае старонкі лексікаграфічныя артыкулы з іх. Гэта бачым і з рэестравым словам *хлеб*, спісаным з слоўніка С.Ожагава. Параўнайма: 1) у "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 722): "*Хлеб*, -а, мн., *хлябы, хлябоў*, м. 1. адз. Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі. 2. адз. зерне, якое мелецца на муку. *Нарыхтоўка хлеба*... 2. Зерневыя расліны на корані. *Добра ўрадзіў хлеб. Хлябы ў рост чалавека*..." І ў даведніку: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (Изд. 14-е. М., 1982. С. 767): "*Хлеб*, -а, мн. *хлебы* и

*хлеба*, м. 1. ед. Пищевой продукт, выпекаемый из муки. 3. ед. Зерно, из которого делают муку. *Заготовка хлеба*".

Але чаму не трымацца нормаў, якія ўсталяваліся ў беларускай мове, замацаваліся ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре", выдадзеным пад рэдакцыяй славутых пісьменнікаў і вучоных Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі ў 1953 годзе і перавыдадзеным двухтомавым у 1993 і 1994 гадах? Дый мы маем ужо адмысловы спецыялізаваны даведнік, выдадзены ў 1994 годзе выдавецтвам "Ураджай", — "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі", дзе і падаюцца лексічныя нормы выкарыстання лексемы *хлеб* у беларускай мове (параўнальна з расійскай).

***Земляроб і земляробства — а не хлебароб і хлебаробства.*** Словы *земляроб* і *земляробства* нашыя слоўнікі тлумачаць так: "*Земляроб*. Той, хто займаецца *земляробствам*". "*Земляробства*... Апрацоўка зямлі для вырочвання сельскагаспадарчых культур". Здаецца, усё тут дарэчы. Але ж, апрача гэтых зразумелых і натуральных для беларускай мовы словаў, тлумачальныя слоўнікі прыцягнулі на свае старонкі і чужыя лексемы: *хлебароб* і *хлебаробства*. Гэтыя словы трапілі ў беларускія слоўнікі з расійскіх, дзе яны — пазычанні з украінскае мовы. У расійскай мове яны выступаюць сінонімамі да сваіх, якія таксама маюць тую сама першую частку *хлебо-: хлебопашец, хлебороб; хлебопашество, хлеборобство*. У беларускай мове словы *земляроб* і *земляробства* адэкватныя расійскім *хлебопашец* і *хлебопашество* (гл. "Беларуска-рускі слоўнік" (М., 1962. С. 336) і двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Мн., 1988 — 1989. Т. 1. С. 516)). Яны спраўна выконваюць функцыю расійскамоўных дублёраў: *земледелец, землепашец, хлебопашец, хлебороб — земляроб: земледелие, землепашество, хлебопашество, хлеборобство — земляробства*. Перакладнымі слоўнікамі засведчаныя як эквіваленты *хлебароб* і рас. *хлебопашец*; *хлебаробства* і рас. *хлеборобство* і *хлебопашество*. Адсюль і відаць штучнасць гэтых "*хлебароб*" і "*хлебаробства*" ў беларускай мове як адпаведнікаў рас. *хлебопашец* і *хлебопашество*. Бо гэта толькі па-расійску кажуць "*хлеб пашут*" (адсюль *хлебопашец* і *хлебопашество*), а па-беларуску: *зямлю аруць* ( а не *хлеб аруць*), таму тут няма "*хлебааратьı*" (рас. *хлебопашец*) і *хлебааратайства* (*хлебопашество)*. Беларусы і сеюць не *хлеб*, а *збажыну*, і малоцяць *не хлеб*, а *збажыну*, і мелюць *не хлеб*, а *збожжа* (зерне). *Хлеб* толькі *рашчыняюць, пякуць*, ■ выпечаны — крояць, ядуць. Так што *хлебаробам* толькі жартам можна назваць таго, хто заквашвае хлебнае цеста і пячэ яго.

Як бачым, сілком прыцягнутыя ў нашыя слоўнікі лексемы *хлебароб* і *хлебаробства* не маюць у беларускай мове свае глебы, свайго грунту.

Штучнасць гэтых словаў выразна відаць з тых азначэнняў, якія яны маюць у саміх слоўніках: "*Хлебароб*... селянін, які займаецца *хлебаробствам*". "*Хлебаробства*... Праца *земляроба* па *вырошванню хлеба*" (ТСБМ. Мн., 1996. С. 722 — 723). З гэтае дэфініцыі вынікае, што *земляроб не збожжа сее, жне, малоціць і меле*, а *хлеб*. Але чаго тут здзіўляцца? Зазірнем у расійскія

слоўнікі — і ўсё зразумеем: "*Хлебопашец... Тот, кто занимается хлебопашеством*". "*Хлебопашество... Возделывание земли для выращивания хлеба*". "*Хлебороб... То же, что и хлебопашец*". "*Хлеборобство... То же, что и хлебопашество*" (Словарь русского языка: В 4 т. Изд. 2-е. Т. 4. М., 1984. С. 603). Або: "*Хлебопашество. Труд земледельцев, выращивающих хлеб*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. Изд. 14-е. М., 1982. С. 767).

Вось адкуль гэтыя *хлебароб* і *хлебаробства*. Пасля такога неўзабаве можна будзе бачыць у слоўніках і словы такога кшталту: "*Хлебааратьі*" ці "*хлебаратай*" як калькі рас. *хлебопашец* і *хлебаратайства* адпаведна рас. *хлебопашество*. А за імі недалёка і да "хлебасея" і "хлебасейства", "хлебажнея" і "хлебажнейства", "хлебаабмалота" і "хлебаабмалотства", "хлебамола" і "хлебамолства".

Але ж беларус мае свае, вякамі створаныя, апрабаваныя, любыя яму словы *земляроб, араты (ратай), сейбіт (сявец), жнец (жняя), малацьбіт, мельнік (млынар), пекар*. Параўн.: "*Музей земляробства*" (ЛіМ. 21.08.1998. С. 12).

***Вайсковец — ваеннаслужачы.*** *Вайсковец* — натуральнае ў беларускай мове слова, утварэнне ад *вайсковы (войска)*. Яно цяпер шырока бытуе і ў пісьмова-кніжнай мове, уваходзіць у склад афіцыйнае назвы Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ). Добра і лёгка матывуецца: *вайсковец* — '*вайсковы чалавек*', '*той, хто служыць у войску*'. Яго дублет *ваеннаслужачы* — штучнаструктурнае (з неўласцівым беларускай мове суфіксам *–ач*) цяжкавымоўнае слова, пазычанне, якое трапіла ў беларускія слоўнікі з расійскае мовы — з арсеналу тэрміналогіі Чырвонай Арміі (затым Савецкай Арміі). Нашыя ранейшыя слоўнікі па-рознаму ставіліся да слова *вайсковец*. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча падае яго як адпаведнік згаданага расійскага: "*Вайсковец*, м. — *военнослужащий*" (с. 55). А вось "Русско-белорусский словарь" 1953 года ўжо адмаўляецца ад гэтага. У ім бачым: "*Военнослужащий* сущ. *ваеннаслужачы*" (с. 64). Праўда, на наступнай старонцы зафіксавана: "*Военный* II. сущ. *вайсковы, ваенны, вайсковец*". І ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года, выдадзеным у Маскве, слова *вайсковец* абмяжоўваецца ў функцыянаванні. Яно падаецца так: "*Вайсковец* м. разг. *военный*" (с. 142), а не як эквівалент савецкага *военнослужащий*. Да таго яно мае засцерагальную бірку "размоўнае" (каб не лезла ў пісьмовую мову!). Двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года паўтарыў артыкул з РБС-53, але дадаў да слова *вайсковец* стылёвую памету "разг.", хоць гэта ніяк не стасуецца з тым, што бачым у артыкуле "*Военный* I. 2. (относящийся к войскам) *вайсковы*, ваенны; *военная служба — вайсковая (ваенная) служба; военное дело — вайсковая справа*" (Т. 1. С. 112). Гэтую кваліфікацыю як слова абмежаванага (з паметай "разг.") выкарыстання бачым лексему *вайсковец* і ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 215). Як размоўнае яно кваліфікуецца і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 435): "*Вайсковец*, -коўца, м. Разм. *Ваеннаслужачы*". Тут бачым і яго словаўтваральны варыянт: "*Вай-*

*сковік*, -а, м. Разм. Тое, што і *вайсковец*". А як стылёва нейтральнае падаецца: "*Ваеннаслужачы* м. Той, хто знаходзіцца на *вайсковай* службе ў кадравай арміі" (Тамсама. С. 451). Але з самога вызначэння семантыкі гэтага слова вынікае, што натуральным ёсць *вайсковец*, бо ён "*знаходзіцца на вайсковай службе*". Але савецкія рэаліі не пускалі слова *вайсковец*, бо быў тэрмін з усесаюзнага лексічнага фонду — *военнослужащий*. А новы тлумачальны слоўнік ужо падправіў свайго папярэдніка, замяніўшы ў дэфініцыі "*вайсковая*" служба на "*ваенная*": "*Вайсковец* (разм.). асоба, якая знаходзіцца на *ваеннай* службе" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 104). Чаму такая непавага да пяцітомавага ТСБМ? Адказ просты: у даведніку: С.Ожегов. Словарь русского языка (с. 81) так: "*Военнослужащий* м. Лицо, состоящее на *военной* службе". Але ў наступным слоўнікавым артыкуле — "*Вайсковы*" мы не бачым гэтае "ваеннай службы", а толькі: "*Вайсковая служба. Вайсковая выпраўка*". А гэта і пацвярджае натуральнасць, нармаванасць слова *вайсковец* ('асоба, якая знаходзіцца на вайсковай службе') у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Дарэчы, "Русско-белорусский словарь" 1993 года, улічыўшы моўную практыку апошніх гадоў, ужо падае гэтае слова як нейтральны адпаведнік рас. *военнослужащий* (Т. 1. С. 193). Гэта пацвярджае і "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 32): "*Военнослужащий — вайсковец*", "*военный* II (в отн. к армии) *вайсковы*; *военачальник — ваеначальнік, вайсковы начальнік*".

***Славяназнавец, мовазнавец, правазнавец — а не славянавед, мовавед, прававед***. Спецыялісты атрымліваюць сваё найменне ад назову адпаведнай галіны ведаў, спецыяльнасці, віду дзейнасці: *гісторык* — ад *гісторыя*, *хімік* — ад *хімія*, *біёлаг* — ад *біялогія*, *перакладчык* — ад *пераклад*. Найменні-кампазіты (складаныя словы) таксама ўтвараюцца ад складаных слоў-назоваў адпаведнай галіны ведаў, навукі: *правазнавец* — той, хто займаецца *правазнаўствам*, спецыяліст (вучоны) у галіне *правазнаўства*.

*Славяназнавец* — гэта мовазнавец, спецыяліст у галіне *славяназнаўства*. *Мовазнавец* — той, хто займаецца пытаннямі мовазнаўства. Дублеты з другою часткаю *-вед* неўласцівыя беларускай мове: яны не маюць свае ўтваральнай базы і вытворных словаў, а таксама натуральнае матывацыі. Напрыклад, словы *мовавед* і *славянавед*, якія падае "Беларуска-рускі слоўнік", штучныя ў беларускай мове. Яны не маюць сваіх утваральных словаў "*мовеведства*", "*славянаведства*" і вытворных "*моваведчы*", "*славянаведчы*". І зусім справядліва іх не падае гэты слоўнік. Словы кшталту *славянавед*, *прававед* трапілі ў нашыя слоўнікі ў выніку механічнага пераносу іх з расійскіх слоўнікаў ("Каб было бліжэй да рускай мовы". К.Чорны). Слова *мовавед* — паўкалька з рас. *языковед*. Але ж наш акадэмічны мовазнаўчы асяродак мае натуральную назву "*Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа*". І ў ім навукоўцы распрацоўваюць *мовазнаўчыя* праблемы, а не "*моваведчыя*". А то калі б прызнаць нармаваным гэтае штучнае стварэнне *мовавед*, то інстытут мусіць мець адпаведны назоў "*Інстытут моваведства*". Хоць больш натуральным было б найменне "*Інстытут мовы* (беларускай мовы)".

як і "Інстытут літаратуры", "Інстытут гісторыі" і пад. На жаль, згаданыя "*веды*" "перапаўзлі" з правае (расійскае) часткі на левую (беларускую) і ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў, дзе бачым: "*Мовавед* м. *языковед. Мовазнавец*, -наўца м. *языковед*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 697); "*Прававед* м. *правовед. Правазнавец*, -наўца м. *правовед. Правазнаўства* ср. *правоведение*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 242); "*Славянавед* м. *славяновед. Славяназнавец*, -наўца м. *славяновед. Славяназнаўства* ср. *славяноведение. Славяназнаўчы — славяноведческий*" (Тамсама. С. 479). Праўда, яшчэ не дайшло да "*літаратуравед*". Згаданыя слоўнікі пакуль не падаюць яго, а толькі *літаратуразнавец*.

Трапілі гэтыя штучныя словы і ў тлумачальныя слоўнікі. У аднатомавым ТСБЛМ чытаем: "*Музыкавед*, -а, м. *Спецыяліст па музыказнаўству*" (с. 351). Тут слоўнікавы артыкул перапісаны з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (с. 322): "*Языковед*, -а, м. *Специалист по музыковедению*". Тая сама расійская канструкцыя "*по + Д. скл.*" (*па музыказнаўству*). Толькі зроблены пераклад слова *музыковедение* на *музыказнаўства*. Але гэта не ратуе, бо *музыкавед* — утварэнне ад "*музыкаведства*". Праўда, ёсць у слоўніку і *музыказнавец*, яно тлумачыцца так: "*Музыказнавец. Тое, што і музыкавед*". Бачым тут і: "*Прававед*, -а, м. *Спецыяліст па правазнаўству, юрыст*" (копія з слоўніка С.Ожагава: "*Правовед*, -а, м. Специалист по правоведению, учёный юрист" (с. 511)). Толькі адно слова перакладзенае.

Падае ТСБЛМ і слова "*мовавед*". І вось як: "*Мовавед*, м. *Тое, што і мовазнавец* / / прым. *моваведскі*" (с. 349). Як бачым, яно ўжо не адзінотнік, мае сваё дзіцятка "*моваведскі*". Але што яно значыць — адна З.М.Кудрэйка (аўтар слоўнікавага артыкула. Гл. "Прадмова". С. 4) ведае. І ці ведае? Бо нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы" (Мн., 1987) яго не змяшчае. Як і ніякі іншы. Праўда, штучнага слова *прававед* тут няма.

А нармаваныя беларускія адзінкі падае "Русско-белорусский словарь" 1993 года: "*Славяновед — славяназнавец*" (Т. 3. С. 368), "*Языковед — мовазнавец* м., *мовазнаўца* м." (Тамсама. С. 796). Праўда, і сюды пракраліся *музыкавед* і *прававед*.

***Гадаваць і гадоўля — ці расціць і вырошчванне, развядзенне; птушкагадовец — птушкавод?*** Беларускае слова *гадаваць* мае наступныя адпаведнікі ў расійскай мове: "*Гадаваць* несов. 1. *растить; выращивать, взращивать;* (о людях, животных ещё) *вскармливать, выкармливать;* (о детях — ещё) *воспитывать; гадаваць цялят — растить (выращивать, вскармливать) телят; гадаваць сад — растить (выращивать, взращивать) сад;* 2. *Отращивать, растить, отпускать*" (БРС-88. С. 303). Адсюль і вытворныя ад яго: *гадавальнік* (рас. питомник), *гадавальніцкі, гадаванец* (воспитанник, питомец), *гадаванка, гадаванне* (ращение, выращивание, взращивание; вскармливание, выкармливание; воспитание), *гадавацца, гадоўля* (животных — выращивание, разведение, выкормка), *гадунец* (тое, што і *гадаванец*) (Тамсама. С. 302 — 303).

Слова *гадоўля* — натуральны кампанент складаных словаў: *жывёлагадоўля, птушкагадоўля, свінагадоўля* і пад. Ад назвы галіны вытворчасці — і найменні яе спецыялістаў: *птушкагадоўля > птушкагадовец, жывёлагадоўля > жывёлагадовец, свінагадоўля > свінагадовец*. Ад гэтых назоўнікаў утвараюцца і прыметнікі: *птушкагадоўчы, жывёлагадоўчы, свінагадоўчы*. Словы-дублеты кшталту *"птушкавод"*, *"свінавод"* не маюць у беларускай мове сваіх каранёў, як і патрэбы ў выкарыстанні. Яны былі ўціснутыя ў беларускія слоўнікі дзеля "набліжэння і зліцця моваў". Як і словы з другою часткаю *-вед*, яны стаяць ізалявана, не маюць сваіх утваральных і вытворных словаў. Параўнайма: *птушкагадоўля, птушкагадовец, птушкагадоўчы* і толькі адно *птушкавод*, якое падае "Беларуска-рускі слоўнік" 1989 года (Т. 2. С. 334).

Відаць, не выпадкова ТСБЛМ (с. 524) не падае на сваіх старонках гэтага штучнага *птушкавод*, бо на фоне *птушкалоў* (чалавек, які займаецца лоўляй птушак) гэтае *птушкавод* семантызавалася б як 'чалавек, які водзіць птушак' (на вяровачках?). І калі нашыя слоўнікі побач з натуральным *жывёлагадовец* падаюць і гэтае штучнае пазычанне *жывёлавод*, то адпаведнікам рас. *животноводство* таксама мусіць быць *жывёлаводства*, бо *жывёлавод* — гэта ўтварэнне ад *жывёлаводства* (як і *жывёлагадовец* ад *жывёлагадоўля*). Праўда, нашыя слоўнікі яшчэ яго не падаюць, а толькі натуральнае *жывёлагадоўля*.

***Масла, алей, аліва — а не сметанковае масла, расліннае масла, змазачнае (машыннае) масла.*** Беларус *маслам* называе харчовы тлушч, атрыманы збіваннем смятаны (вяршкоў). Найменне *сметанковае масла* штучнае для беларускае мовы. Гэта калька рас. *сливочное масло*. Слова *смятанка* ўспрымаецца як ласкальнае да *смятана*. З значэннем рас. *сливки* ў беларускай мове бытуе больш дакладнае найменне — *вяршкі*. Яго падаюць "Русско-белорусский словарь" 1982 года (Т. 2. С. 398) і "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года (Т. 1. С. 300). Дарэчы, яно мае і пераноснае значэнне, адэкватнае рас. *сливки: знімаць вяршкі — снимать сливки*. Аднак у жывой народнай мове харчовы тлушч, атрыманы і збіваннем смятаны, і збіваннем вяршкоў, мае адзін назоў — *масла*. Штучнымі ёсць і двухслоўныя найменні *каровіе масла, жывёльнае масла*. Яны з'явіліся ў выніку калькавання адпаведных расійскіх назоваў — *коровье масло, растительное масло*. Аднак беларуская мова мае тут дакладныя аднаслоўныя найменні. Гэта засведчана акадэмічнымі перакладнымі слоўнікамі. У РБС-53 (с. 248) чытаем: "*Масло* ср. 1. (коровье) *масла;* 2. (растительное) *алей*". Ёсць у нашай мове і аднаслоўнае найменне для рас. *техническое (смазочное) масло*. Ім выступае слова *аліва*. Яго выкарыстоўвалі класікі нашай літаратуры: "*Трактар каштуе вялікіх грошай: і сам ён дарагі, і бензін трэба, **аліву***" (Я.Колас). "*Уваччу яшчэ стаялі высокія сцены... **машынная аліва** на жалезных прэнтах і калёсах*" (К.Чорны). Гэта засведчыў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 224) з двума яго "тлушчавымі" значэннямі: 1) *алей*,

атрыманы з пладоў масліны, 2) *змазачнае масла*. Замест гэтага калькаванага "*змазачнае масла*" трэба выкарыстоўваць аднаслоўнае найменне (як і ўсе іншыя ў беларускай мове) — *аліва*. У народнай мове існуе і вытворнае ад мазаць — *мазіва, мазь* (параўн. *каламазь*). Дарэчы, слова *масла* таксама ад *мазаць* (этымалагічна).

Па-рознаму ставіліся нашыя слоўнікі да спрадвечна беларускіх назоваў жывёльнага, раслiннага і мінеральнага паходжання тлушчу. Словы *алей* (рас. *растительное масло*) і *аліва (деревянное масло)* справядліва зафіксаваў на сваіх старонках "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). "Белорусско-русский словарь" 1953 года з значэннем рас. *техническое масло* падае ўжо не сваё слова *аліва*, а агульнасаюзнае *масла*. А "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года, як і РБС-53, ужо зусім не рэгіструе беларускіх словаў. На с. 440 чытаем: "*Масла* ср. в разн. знач. *масло*". У двухтомавым РБС-82 (Т. 1. С. 427) тры віды "тлушчу", якія ў рас. мове абазначаюцца словам *масла*, маюць наступныя найменні: "1. (коровье) *масла;* 2. (растительное) *алей;* 4. жив. *алей;* писать маслом — пісаць алеем". А "техническое масло" так і засталося *масла*. Гэты артыкул перанесены без зменаў і ў РБС-91, РБС-93 і РБС-94.

Слова *аліва* БРС-62 фіксуе як абласное з значэннем рас. *деревянное масло* (с. 85). БРС-88 падае слова *аліва* з двума значэннямі, але заганяе яго ў цёмныя норы, пазбаўляючы права на выкарыстанне. На с. 119 бачым: "*Аліва* II. ж. обл. 1. *деревянное масло;* 2. уст. *машинное масло*". А ўсе значэнні рас. *масло* прыпісваюцца тут яго адпаведніку *масла*, як і ў выданні 1962 года. Яшчэ далей пайшоў аднатомавы Тлумачальны слоўнік. У ім бачым слова *масла* з наступнаю дэфініцыяй: "*Масла*, -а, н. Харчовы тлушч, прыгатаваны з рэчываў жывёльнага, раслiннага або мінеральнага паходжання" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 336). Паводле гэтакага вызначэння ў беларусаў ужо няма ні *алею*, ні *алівы*. Адкуль такое "ўсёпаглынальнае" значэнне ў слова *масла?* Адкуль дэфініцыя яго? Усё адтуль — з слоўніка С.Ожагава, дзе чытаем: "*Масло*, ср. Жировое вещество, приготовленное из веществ животного, растительного и минерального происхождения" (с. 301). Аўтар З.Н.Кудрэйка толькі памяняла "*жировое вещество*" на "*харчовы тлушч*". Але ці прыдатны на харч мінеральны тлушч, любы алей? Пра гэта аўтарка не рупілася.

Такім чынам, беларуская мова мае свае адметныя аднаслоўныя найменні для тлушчавага рэчыва рознага кшталту, якое ў расійскай мове абазначаецца двухслоўнымі адзінкамі: *масла (сливочное масло), алей (растительное масло), аліва (техническое масло)*. Гэта засведчылі і найноўшыя тэрміналагічныя даведнікі. "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (с. 94 — 95) падае: "*Масло — алей*, -лею, м.р.; *аліва*, ж.р.; *машинное масло — аліва, машынная аліва; подсолнечное масло — алей, отработанное масло — адпрацаваная аліва; маслозаправщик — алівазапраўнік*". У "Руска-беларускім фізічным слоўніку" (Гродна, 1999) чытаем: *масло — аліва; тэхнічная, трансфарматарная; масляный — алівавы*

(с. 166). У "Руска-беларускім слоўніку па машынабудаванні" (Мн., 1998): *масло — аліва, масляный — аліўны.*

***Сала і шарош.*** У беларускай мове намінацыю *сала* мае толькі свіное тлушчавае рэчыва. Для іншых значэнняў, якія ў расійскай мове абазначаюцца шматзначным словам *сало*, беларуская мова мае свае адмысловыя найменні. Гэта выразна засведчыў "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі" (Мн., 1994), у якім чытаем: "*Сало — тлушч;* (свіное) *сала;* (нутраное свіное) *здор;* (барановы, ялавічны) *лой;* (гусіны) *шмалец; парное сало — свежына, топлёное свиное — тук*". Гэта пацвярджаюць і акадэмічныя перакладныя слоўнікі: РБС-53 (с. 601), РБС-82 (Т. 2. С. 347), РБС-93 (Т. 3. С. 279). Рас. слову *сало* з значэннем 'ледзяная кашка, якая ідзе па паверхні вады перад замярзаннем вадаёма' ў беларускай мове адпавядае таксама адмысловая лексема — *шарош.* У Янкі Брыля чытаем: "*Светла-попельны колер хмараў пад нагамі нагадвае то густы* ***шарош*** *на вадзе, то нядаўна астрыжаную аўчыну*". Гэта засведчылі ўсе акадэмічныя перакладныя слоўнікі, у іх ліку РБС-53, РБС-82, РБС-93, БРС-62, БРС-89. "Тлумачальны слоўнік" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 353) таксама занатаваў гэта: "*Шарош, -рашу*, м. Дробны, крохкі лёд у выглядзе кашападобнай масы, які ідзе перад ледаставам або ў час вясновага крыгаходу". Тут падаюцца ілюстрацыйныя прыклады з твораў пісьменнікаў Я.Брыля, Т.Хадкевіча.

Здавалася б, усё зразумелае, вызначаны дакладны сэнс і форма беларускага адпаведніка рас. слову *сало (на воде)*. Дый не! Гэтая лексічная норма разбураецца папярэдняй першаю кнігай пятага тома, дзе з тым сама значэннем ужо бачым слова *сала* (с. 24). І прыклад з твораў Бяганскай і Шашкова. Дык каму будзе верыць чытач — народнаму пісьменніку Янку Брылю і ўсім акадэмічным перакладным слоўнікам ці таму "няўмельству аўтара абыходзіцца са словам" (М.Лужанін)? Дарэчы, тут *сала* ўжо і не толькі 'сала', але і 'тук' і 'змазачнае рэчыва' (свечачнае масла). Вось як нішчылася родная мова. Новы "Тлумачальны слоўнік" працягнуў гэтую "працу". Ён перанёс з "Словаря русского языка" С.Ожагава гэтае "*Сало*" II з яго дэфініцыяй, крыху дапрацаваўшы яе, але амаль з тым сама ілюстрацыйным прыкладам: "*Па рацэ плыло сала*" ("*По реке идёт сало*"). Ёсць натуральнае беларускае слова *шарош* і на старонках гэтага аднатомавага тлумачальнага слоўніка, з крышку зменепай (параўнальна з *сала*) дэфініцыяй і прыкладам: "*Ідзе па рацэ шарос*". Дык дзеля чаго спатрэбілася беларусам сплаўляць па рацэ *сала?* І гэты прыклад пацвярджае выснову Я.Скрыгана, што некаторыя нядбалыя аўтары "бралі словы з чужой моўнай практыкі".

***Воўна і шэрсць, воўнавы і шарсцяны.*** Валасяное покрыва авечак, а таксама састрыжанае такое покрыва як матэрыял для вырабу сукна, валёнак і пад. у беларускай мове мае назву *воўна*. Беларускія перакладныя слоўнікі падаюць слова *воўна* як адпаведнік рас. *овечья шерсть* (РБС-53, РБС-82, РБС-93). У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года (с. 157) чытаем: "*Воўна* ж. *овечья шерсть*". Тое сама і ў першым томе БРС-88 (с. 240). У іх бачым 17 вытворных з гэтым словам: *вайнаед (шерстеед), вайнамыйка (шерстемой-*

*ка), вайнамыйны, вайнаносны, вайнаткацкі, вайнаткацтва, вайначос, вайначоска, вайняны (шерстяной), воўнаапрацоўчы (шерстеобрабатывающий), воўнанарыхтоўка, воўнапрадзенне, воўнапрадзільны, воўнапрадзільня, воўнапральны, воўначасальны.*

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977) таксама падае слова *воўна* і цэлы шэраг яго вытворных, у іх ліку і *вайністы* 'пакрыты густой і доўгай воўнай' (с. 470, 508). Але ў пятым томе (Кн. 2. Мн., 1984. С. 438) бачым і вось такое: "*Шэрсць...* 2. Састрыжанае, вычасанае валасяное покрыва жывёл (авечак, коз і пад.), пража, ніткі з такога валакна; тканіна з такой пражы, адзенне з такой тканіны". Як відаць, усё, што было ў першым томе (рэдактар яго — знаны пісьменнік і вучоны-лексікограф Мікола Лобан), пераакрэслілі ў пятым томе (рэдактар тома — дырэктар Інстытута мовазнаўства Міхал Суднік). Прадубляваў гэта і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 769), дзе бачым: "*Сукенка з шэрсці. Вязаць шкарпэткі з шэрсці*". Вось так збядняецца мова, нішчацца яе адметнасці, выраўноўваецца пад іншую мову.

У "Тэрміналагічным зборніку-83" (Мн.: Навука і тэхніка, 1985. С. 32) справядліва падкрэслена: "Рускаму *овечья шерсть* адпавядае *воўна*. Таму лагічна ўжыванне прыметніка *воўнавы* ў якасці эквівалента *шерстный*, калі размова ідзе пра *авечкагадоўлю*". Гэты даведнік прапануе і такія адпаведнікі з гэтым словам: *доўгавоўнавы — длинношерстный, мяса-воўнавы — мясошерстный, тонкавоўнавы — тонкошерстный*. "Слова *шэрсць* можна разглядаць як тэрмін у адносінах да іншых відаў жывёлагадоўлі: аленегадоўлі, пушной зверагадоўлі і г.д.", — слушна сцвярджаецца ў згаданым зборніку.

Нармаваныя адзінкі — *воўна, воўнавы* і пад. падае і "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі" (Мн.: Ураджай, 1994). Гэтае нормы і трэба трымацца пры выкарыстанні словаў *воўна, воўнавы* і пад. (пры рас. *овечья шерсть, шерстяной*) і *шэрсць, шарсцяны* (у іншых значэннях). У беларускай мове з значэннем 'зроблены з воўны' выкарыстоўваецца і слова *суконны: суконная пража, суконная тканіна* (гл. ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 373).

***Адбітак — а не адпячатак.*** Слова *адпячатак* не падавалася ранейшымі перакладнымі акадэмічнымі слоўнікамі беларускай мовы. Няма яго ні ў "Русско-белорусском словаре" 1953 года, ні ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года. Не бачым яго нават у "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы". Расійскаму *отпечаток* у беларускай мове адпавядаюць свае словы. "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі падае: "*Отпечаток* прям. перен. *Адбітак, след; отпечатки пальцев на книге — сляды пальцаў на кнізе; отпечаток времени — адбітак (след) часу*" (с. 376).

Упершыню гэты *адпячатак* трапіў на старонкі "Русско-белорусского словаря" 1982 года. У ім апрача беларускіх адпаведнікаў рас. *отпечаток* лексемаў *адбітак, след* падаецца і *адпячатак* з той сама ілюстрацыяй, што і ў РБС-53, толькі слова *адбіткі* заменена на *адпячаткі*: "*отпечатки пальцев*

*на книге — адпячаткі пальцаў на кнізе*" (с. 632). Такую сама "паслугу" нашай мове зрабіў і "Дадатак" да "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Т. 1 — 5. Мн., 1977—1984), у якім ужо бачым: "*Адпячатак*. Спец. След ад пальцаў, які астаўся на чым-н. *Адпячаткі пальцаў на кнізе*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 513). А вось у першым томе (рэдактар тома М.Лобан) гэтага "*адпячатак*" не было, а толькі *адбітак*. Дух ідэі на зліццё моваў знайшоў свой адбітак і ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку". У першым томе (Мн., 1988) на с. 93 бачым: "*Адпячатак*, юр. *отпечаток*", хоць на с. 67 гэтага тома слова *адбітак* падаецца з усімі значэннямі рас. *отпечаток*: "*Адбітак* м. 1. (след, изображение) *отпечаток;* 3. перен. *След, отпечаток; адбітак эпохі — след, отпечаток эпохи; налажыць (свой) адбітак на каго-што — наложить (свой) отпечаток на кого-что*". Як бачым, усе значэнні рас. *отпечаток* вычэрпваюцца беларускім словам *адбітак*.

***Раздзел і глава.*** Старaславянізм *глава* неўласцівы беларускай мове, як і наогул усе іншыя старaславянізмы, якія бытуюць у расійскай мове. "Русско-белорусский словарь" 1982 года падае шмат розных беларускіх адпаведнікаў расійскамоўнага *глава*. У першым томе на с. 176 чытаем: "*Глава* I. ж. 1. (главное лицо) *галава*; (председатель) *старшыня;* (руководитель) *кіраўнік;* (вождь) *правадыр; глава правительства — кіраўнік урада; глава семьи — галава сям'і (старэйшы ў сям'і)*; 2. архит. *купал;* 3. (голова) уст. *галава; склонить главу — схіліць галаву; во главе с кем — на чале з кім; положить во главу угла — пакласці ў аснову. Глава* II. (отдел книги) глава, раздзел". Як бачым, з адным значэннем 'раздзел кнігі' слоўнік раіць выкарыстоўваць у беларускай мове гэты старaславянізм. І то паралельна з іншым словам — *раздзел*. Больш у слоўніку *глава* нідзе не фіксуецца. Усе вытворныя ад рас. *глава* маюць у беларускай мове іншакаранёвыя адпаведнікі: *главарь — верхавод, завадатар; главенство — вяршэнства, панаванне, узначальванне* і г.д.

Дык ці ёсць пільная патрэба выкарыстоўваць старaславянізм *глава* замест натуральнага *раздзел?* Моўная практыка нашых дзён аддае перавагу слову *раздзел*. "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 — 1989 гг. падае слова *раздзел* з трыма значэннямі: 1) дзеянне, 2) частка твора, часопіса і 3) частка кнігі. У "Руска-беларускім слоўнічку па кнігазнаўстве" (Мн., 1997. Нацыянальная бібліятэка Беларусі) чытаем: *глава — раздзел.*

У даследаваннях і аўтарэфератах дысертацыяў бачым: "*Дысертацыйнае даследаванне складаецца з трох **раздзелаў*** (Сіпліўеня Ж.С. Ад'ектыўнае словаўтварэнне ад іншамоўных назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Мн., 1998. С. 5); "*Дысертацыя складаецца з уступу, трох асноўных **раздзелаў** і высноваў*" (Багдзевіч А.І. Словаўтваральная структура аддзеяслоўных тэрмінаадзінак — ад'ектываў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: Праблемы нормы. Гомель, 1999. С. 5).

***Адчыніць і адкрыць.*** У 60—80-х гадах дзеля хутчэйшага набліжэння камунізму — з адзіным сродкам зносінаў — асабліва актыўна "набліжалі" мовы. Гэта добра відаць і на прыкладзе выкарыстання дзеясловаў *адчыніць* і *ад-*

*крыць*, калі адметна беларускае слова *адчыніць* адціскалася на задні план, а на яго месца ставілася пашыранае ў расійскай мове слова *адкрыць*. У перыядычным друку ўжо амаль нельга было сустрэць абвестку з словам *адчыніць*, пісалі: "*Дзень адкрытых дзвярэй*"; новыя школы, тэатры толькі "*адкрываліся*". І вочы не *расплюшчваліся*, а *адкрываліся*. І кнігі не *разгортваліся*, а *адкрываліся*. І вокны, дзверы таксама. Гэта актыўна ўкаранялася на старонках слоўнікаў (трэба ж было замацаваць усё гэта аўтарытэтам акадэмічных даведнікаў).

У час адраджэння нашай духоўнасці, культуры і мовы ў перыядычным друку стала аднаўляцца патаптанае таталітарызмам. Запанавалі ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь словы з коранем *-чын: адчыняць / адчыніць, зачыняць / зачыніць, прычыняць / прычыніць, чыннік, чынны (удзел)* і іншыя адмыслова беларускія словы на месцы *адкрыць, закрыць* і пад.

У слоўніках 20-х гадоў бачым шмат такіх словаў. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча: "*адчынены* — отворенный, открытый, *адчыненне* — открытие, *адчыняцца, -ніцца* — открываться, -рыться; отворяться; *адчыняць, -ніць* што — открывать, -рыть, отворять, -рить (с. 27); *зачынены* — закрытый, *зачыненне* — закрытие, *зачыняцца, -ніцца* — закрываться, -рыться, *зачыняць, -ніць* што — *закрывать, -рыть;* зачыніць у дужкі — *заключить в скобки* (Тамсама. С. 120); *прычыняцца, -ніцца* — притворяться, -риться (дверью); *прычыняць, прычыніць* што — притворять, -рить" (Тамсама. С. 261).

Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года, выдадзены пад рэдакцыяй слынных пісьменнікаў і вучоных Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі, яшчэ шырока адлюстроўваў выкарыстанне беларускіх словаў *адчыніць, зачыніць, прачыніць, прычыніць* і іх парнатрывальных адпаведнікаў незакончанага трывання *адчыняць, зачыняць, прачыняць, прычыняць* і іншых адметна беларускіх словаў на месцы *адкрыты — адкрываць*. Вось як паказваюцца беларускія адпаведнікі *адчыняць — адчыніць* і іх аднакаранёвікі з іншымі прыстаўкамі і іншыя словы да рас. *открывать — открыть* на с. 373 гэтага слоўніка: "*Открывать* несов. 1. (дверь, окно, шкатулку) *адчыняць;* 2. (начинать) *пачынаць, распачынаць;* 3. (размыкать) *разгортваць;* (глаза) *расплюшчваць;* (рот) *разяўляць;* 4. перен. (разоблачать) *выяўляць;* 5. (откровенно сообщать) *выказваць*". І далей: "*Открытие* 1. (действие) *адчыненне, адчынянне, пачынанне, распачынанне; пуск, пусканне, выяўленне*". "*Открытый* (о двери, окне, шкатулке) *адчынены; открытый ящик — адчыненая скрыня;* (начатый) *пачаты, распачаты;* (о газе, воде) *пушчаны;* (предоставленный) *дадзены;* (разомкнутый) *разгорнуты; расплюшчаны; разяўлены;* (разоблачённый) *выяўлены;* (о мыслях, намерениях) *шчыры; на открытом воздухе — на вольным паветры; в открытом поле — у чыстым полі; с открытыми глазами — з расплюшчанымі вачамі; при открытых дверях — пры адчыненых дзвярах; ломиться в открытую дверь — ламацца (біцца) у адчыненыя дзверы*".

Пры дзеяслове закончанага трывання *открыть*, апрача парных у трыванні беларускіх адпаведнікаў (*адчыніць* і пад.), бачым і новыя адценні семантыкі і беларускія адпаведнікі з адмысловай ілюстрацыяй: *открыть зонт — разгарнуць парасон, открыть книгу — разгарнуць кнігу.*

Тыя сама беларускія адпаведнікі і пры іншапрыстаўкавых дзеясловах і вытворных ад іх з асноваю *-крыть* (*закрыть, прикрыть* і пад.): "*Закрывать* несов. *зачыняць* (*заслонять*) *засланяць; загортваць, згортваць, складваць; закрывать зонтик — згортваць* (*складваць*) *парасон;* (глаза) *заплюшчваць*". "*Прикрывать — прычыняць* (дзверы), *прыхоўваць, хаваць; утойваць; прикрывать громкими фразами — хаваць за гучнымі фразамі; прикрывать обман — утойваць* (*хаваць, прыхоўваць*) *падман*". "*Прикрытый — прычынены, прыхаваны, схаваны, утоены*" ды інш.

А вось слоўнікі 80-х гадоў да беларускіх словаў *адчыніць, зачыніць, прачыніць, прычыніць* ужо актыўна "прышпільваюць" адвольныя, "інтэрнацыянальныя" *адкрыць, закрыць* і пад. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1982 года, які выйшаў пад рэдакцыяй аднаго рэдактара (К.Крапівы), ужо бачым: "*Открывать* несов. 1. (дверь, окно, шкатулку) *адчыняць, адкрываць,* (глаза) *расплюшчваць, адкрываць;* (рот) *разяўляць, адкрываць. Открытый* (о двери, окне, шкатулке) *адчынены, адкрыты;* (о газе, воде) *пушчаны, адкрыты;* (о глазах) *расплюшчаны, адкрыты;* (о рте) *разяўлены, адкрыты*" і г.д.

Тое сама паўтарыў і "Русско-белорусский словарь" 1993 года. На прыкладзе дзеясловаў *адчыняць, зачыняць* і іх аднакаранёвых вытворных выразна выяўляецца імкненне затармазіць развіццё іншых моваў, не даць магчымасці іх словам выступаць з адцягненым, тэрміналагічным значэннем, каб захаваць адзіны агульнасаюзны фонд тэрміналогіі. Але ж насуперак гэтаму мова жыла і развівалася паводле сваіх законаў. Словы набывалі і пераносныя значэнні. Параўн. у Я.Коласа: "*Мароз хадзіў па Яхімавай спіне, а перад вачамі нейкая **бездань адчынялася***" (Царскія грошы); у У.Дубоўкі: "***Шлях** у жыццё ім шырока **адчынен** і да навукі, да ўсякай работы*"; "*У 1907 г. была **адчынена** ветэрынарная лячэбніца*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 237); "*Нядаўна **адчыніў** гандлёвы ларок з рознай драбязою, дык абчысцілі ноччу*" (Полымя. 1999. № 9. С. 24).

***Плынь і паток.*** Слова *плынь* лёгка, выразна матывуецца словам *плыць*, ад якога яно і ўтварылася (*плы-нь*). Яно мае шмат значэнняў у беларускай мове. БРС-62 і БРС-89 фіксуюць наступнае: "*Плынь* ж. 1. Течение, поток; *рачная плынь — речное течение; паветраная плынь — воздушное течение, воздушный поток;* 2. перен. (движущаяся масса людей) *поток;* 3. перен. течение, направление; *палітычная плынь — политическое течение* (*направление*)*; літаратурная плынь — литературное течение* (*направление*)*; падводная плынь — подводное течение*".

Слова *паток* не мае выразнай матывацыі ў беларускай мове. Яно, відаць, механічна трапіла на старонкі беларускіх слоўнікаў (дзеля набліжэння моваў?) з расійскай мовы, дзе шмат значэнняў, якім у беларускай мове адпа-

вядаюць свае словы: *ручай, ручаіна, плынь, струмень*. Гэта бачым і ў перакладных слоўніках. Так, "Русско-белорусский словарь" 1953 года (с. 486) і яго перавыданне 1982 г. (с. 161) сведчыць: "*Поток* м. — *паток, ручай, ручаіна, струмень, плынь; людской поток — людская плынь; отдать на поток и разграбление — аддаць на расправу і рабаванне*". Усё гэта падае без зменаў і "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 2. С. 717). Як відаць, нашая мова мае аж 5 сваіх адметных словаў-эквівалентаў. Праўда, на першае месца ўціснуты ўсесаюзны *паток*, яго бачым і ў ілюстрацыйных прыкладах, сваё — у дужках: *горны паток (горная ручаіна), патокі (струмені) слёз*. Але штучнасць гэтых "*патокі слёз*" выяўляецца з дэфініцыі слова *паток* — 'ручай або рака, звычайна з вузкім рэчышчам, камяністым ці жвірыстым дном і бурным, імклівым цячэннем', 'вялікая колькасць вадкасці, якая імкліва цячэ' (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 102).

У далейшым набліжэнні моваў ужо ўсё адметна беларускае было адкінутае. У тлумачальных слоўніках бачым слоўнікавыя артыкулы з словам *паток*, цалкам спісаныя з расійскіх даведнікаў. Каб пераканацца ў гэтым, падаю гэты артыкул з ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 451) і "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 507): "*Паток*... 1. Імкліва цякучая маса, рака, ручай. *Бурны* п. 2. Маса вадкасці, паветра, якая імкліва цячэ, распаўсюджваецца. *П. лавы. П. газу. П. святла* (перан.). *П. слоў* (перан.). 3. Паточная вытворчасць (спец.). 4. Частка агульнага саставу навучэнцаў, раздзеленых для правядзення якіх-н. заняткаў, экзаменаў". "*Поток*... 1. Стремительно текущая водная масса, река, ручей. *Бурный п*. 2. Движущая масса жидкости, газа. *П. лавы. П. газа. П. света* (перен.). *П. слёз* (перен.). *П. слов* (перен.). 3. Поточное производство (спец.). 4. Часть общего состава учащихся, разделённых для проведения каких-н. занятий, экзаменов".

І калі перакладныя РБС выяўляюць шмат беларускіх адпаведнікаў (хоць і не ўсе) да рас. *поток*, "Беларуска-рускі слоўнік" 1989 года (Т. 2. С. 147) безапеляцыйна піша: "*Паток* в разн. знач. *поток*". Тут ужо і *паток слёз*, і *паток бежанцаў*, і "*студэнты здавалі ў два патокі*".

Але ў нацыянальным друку, у тэкстах чуйных да слова аўтараў чытаем: *людская плынь* (як гэта і было ў РБС-53 і яго перавыданнях 1982 і 1993), *ручаіны слёз, экзамены на два туры, вытворчае і педагагічнае аддзяленні* (а не два *патокі*). Дык ці трэба збядняць мову, пазбаўляючы яе такіх адметных беларускіх адпаведнікаў, як *плынь, ручай, ручаіна, струмень*, што перадаюць (кожны па-свойму) тонкія адценні думкі, нюансы адпаведных значэнняў? У найноўшым даведніку "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (с. 155) бачым: "*Поток — плынь*, ж.р."

***Пляц і плошча***. Слова *пляц* і 5 вытворных ад яго падае І.Насовіч: *пляцный* — 'к плановой мере земли относящийся'; *пляцоваць* — 'размеривать, особенно на участки', *пляцовае* — 'платёж за арендное владение участком земли, особенно под строением'; *пляцовый* — 'принадлежащий к плану земли'. *Пляцовый документ; пляц* — 'определённая часть земли под домом или сенокосом' (Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С. 421).

І ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 240—241) бачым: "*Пляц* м. — 1) площадь; 2) участок, плац". "*Пляцаваць* што — размеривать по участкам".

У дваццатых гадах словам *пляц* актыўна карысталіся. Быў тады і *Пляц Волі* (назва плошчы). Але пасля 1937 года і масавых рэпрэсіяў гэтае слова таксама было рэпрэсаванае. РБС-53 падае яго толькі як адпаведнік слова расійскай часткі *площадь — пляц* (с. 428). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года ўжо фіксуе гэтае слова як адпаведнік чатырох расійскіх: "*Пляц* м. 1. (земля под домом и огородом) *усадьба;* 2. (площадь, предназначенная для застройки) *участок;* 3. уст. (в городе, селе) площадь; 4. воен. ист. *плац*" (с. 698). "Русско-белорусский словарь" 1982 года фіксуе слова *пляц* як адпаведнік рас. *площадь*... "2. (в городе, селе) *плошча, пляц*" (Т. 2. С. 73). Без зменаў захаваў гэта і РБС-93 (Т. 2. С. 557). Іншыя значэнні гэтага слова (адпаведнікі рас. *усадьба, участок*) згаданыя слоўнікі ўжо не фіксуюць. Так выганялася з мовы слова, якое мае глыбокія гістарычныя карані свайго выкарыстання.

У тлумачальных слоўніках слова *пляц* ужо не мае стылёвых абмежаванняў; яно і падаецца з трыма значэннямі: "1. Зямля пад сядзібай, сядзіба; 2. Вялікая незабудаваная тэрыторыя ў горадзе або вёсцы, прызначаная для якой-н. мэты; 3. Гіст. Плошча для ваенных парадаў і страявых заняткаў" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 282). Амаль тое сама і ў ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 482).

Слова *пляц* заслугоўвае паважлівага да сябе стаўлення і актыўнага выкарыстання. Ад яго паходзіць і *пляцоўка*, якому ў расійскай мове адпавядае *площадка* (ад *площадь + ка*). Найноўшыя даведнікі падаюць: "*Площадь — плошча, пляц*, м. р." (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 142).

***Самаскід і самазвал.*** У БРС-88—89 бачым натуральнае для беларускае мовы *ледаскід* 'адтуліна ў плаціне' (Т. 1. Мн., 1988. С. 636) і *самаскідка, самаскідальны* (Т. 2. Мн., 1989. С. 436). Але няма ў ім натуральнага для беларускай мовы *самаскід,* а толькі *самазвал*. У апошнім слове частка *-звал* стасуецца з дзеясловамі *зваліць / звальваць*, што маюць адценне непахвальнасці, [redacted] вось слова *скідаць* — нейтральнае. Таму натуральным мусіць быць *самаскід*, а не *самазвал*, але яго гэты слоўнік не падае. "Русско-белорусский словарь" 1953 года і "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падаюць толькі *самосвал — самазвал*. А вось "Русско-белорусский словарь" 1982 года ўжо фіксуе і натуральныя беларускія ўтварэнні, праўда, як дадатковыя. На с. 351 другога тома чытаем: "*Самосвал* техн. 1. (выгрузка целиком) *самазвал, самаскід;* 2. (вид разгрузочной машины) *самазвал, самаскід; грузовик-самосвал; грузавік-самазвал (грузавік-самаскід); самосвальный — самазвальны, самаскідны*". Поўнасцю захаваны гэты артыкул і ў "Русско-белорусском словаре" 1993 года (Т. 3. С. 287).

Так што ёсць выбар, і ім трэба карыстацца, не збядняючы роднае мовы.

***Крывасмок і вуглясос, пыласос.*** Нашыя перакладныя слоўнікі фіксуюць натуральныя складаныя словы з другой часткай *-смок* як адпаведнікі рас.

*-сос*: "*Крывасмок* 1. зоол. *кровосос*; 2. перен. *кровосос, кровопийца* (БРС-88. С. 618). Падаецца слова *крывасмок* і як адпаведнік рас. *кровохлёбка*. А вось іншыя вытворныя складаныя словы ўжо не маюць гэтае натуральнае часткі *-смок*, яна замененая на *-сос*: *вуглясос, пыласос*. Частка *-сос* ад рас. *сосать*, па-беларуску гэта *ссаць*. І *ссуць* толькі жывыя істоты (дзеці, дзіцяняты). Прыборы ж *смокчуць, усмоктваюць* (пыл, вугаль). У другім томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1989. С. 624) бачым: *усмоктвальная труба — всасывающая труба, усмоктвальная сістэма — всасывательная система*; *усмактаць — всосать*; *помпа з вадой усмактала пясок — насос с водой всосал песок*; *зямля ўсмактала вільгаць — земля всосала влагу* ды інш. Усе гэтыя беларускія адпаведнікі сведчаць на карысць натуральнай формы не толькі слова *крывасмок* (якое падае слоўнік), але і *вуглясмок, пыласмок*. Бо часткі *-сос* беларуская мова не мае, а толькі *-сыс*. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 307) бачым: "*Сысаньне* н. — *сосание; сысаць* што — *сосать; сысок* м. — присоска, сосальце. НТ₆; *сысун* м. — *сосун; сысуны* м. мн. — *млекопитающие*. ЗТ". І ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" засведчана: *сысун — сосун, сысунок — сосунок, сысуны* см. *млекакормячыя*" (Т. 2. С. 540). У жывой народнай мове бытуе і *сыска* 'соска': *Сыска слаба малако пускае* (П.Сцяцко. Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны. Мн., 1970. С. 158). Літаратурнае *соска* — з расійскае мовы.

Такім чынам, натуральная форма беларускіх словаў *вуглясмок* і *пыласмок* (як і *крывасмок*), а не *вуглясос* і *пыласос*. Параўн.: "*Мае павекі шчасліва зліпаліся б, калі б раптам не загуў **пыласмок***" (Я.Скрыган // Полымя. 1972. № 1. С. 127).

***Абставіны і абсталяванне, становішча — ці толькі абстаноўка?*** Ніводны з ранейшых акадэмічных перакладных слоўнікаў не падаваў слова *абстаноўка* ў беларускай іх частцы, відаць, разумеючы, што гэта — небеларускае слова, бо яно не магло ўзнікнуць у нашай мове: няма ўтваральнага для яго "*абстанавіць*" (*абстаноў-ка*). Не падае слова *абстаноўка* нават "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы", дзе бачым шмат рэгіянальных і архаічных лексічных адзінак. Тут зафіксаванае толькі даўнейшае *абставы*, ад якога ўзнікла сучаснае *абставіны* (Т. 1. Мн., 1978. С. 60). Расійскае *обстановка* перакладаецца шэрагам беларускіх адпаведнікаў. У "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі бачым: "*Обстановка* 1. (мебель) *абсталяванне*; 2. (обстоятельства) *абставіны*; (положение) *становішча*; *обстановка на фронте* воен. *абставіны на фронце*" (М., 1953. С. 343). Другое выданне слоўніка цалкам пацвердзіла гэта (РБС-82. Т. 1. С. 579). У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года падаецца толькі слова *абставіны* з рас. адпаведнікамі *обстоятельства*. Здзіўляе, што "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года фіксуе слова *абстаноўка* як адэкватнае рас. *обстановка*. У аднатомавым "Тлумачальным слоўніку" артыкул "*Абстаноўка*" (с. 23) — копія "Словаря русского языка" С.Ожагава (с. 384).

А вось "Русско-белорусский словарь" 1993 года засведчыў норму: "*Об-*

*становка* ж. мн. нет 1. (мебель) *абсталяванне*, ср.; 2. (обстоятельства) *абставіны*, ед. нет; (положение) *становішча* ср.; *обстановка на фронте* воен. — *становішча на фронце*" (Т. 2. С. 304). Гэта бачым і ў спецыяльных (тэрміналагічных) слоўніках: "*Обстановка* I. (положение) *становішча; обстановка* II. (обстоятельства) — *абставіны; боевая обстановка — баявое становішча, баявыя абставіны*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 118).

***Неадымны, неадлучны — неад'емны.*** Прыметнік *неадымны* ўтвораны паводле актыўнай мадэлі, калі да скарочанае асновы інфінітыва (без канцавой галоснай) дадаецца прыстаўка *-не-* і суфікс *-н-: адымаць > неадымны*, як і *адлучаць > неадлучны, адступаць > неадступны, адкладаць > неадкладны, адрываць > неадрыўны*. А вось "*неад'емны*" — штучная структура (скалькаванае *неотъемлемый*), бо няма ў беларускай літаратурнай мове слова "*ад'еміць*", на аснове якога магло б утварыцца"*неад'емны*".

Звычайна гэтае "*неад'емны*" бачым у скалькаваных тэкстах, як вось у гэтым: "*Свята прынята разглядаць як **неад'емную** частку вольнага часу. Дзеля таго каб вызначыць тэрмін самога свята, існавала цэлая сістэма, заснаваная на назіраннях за прыродай. Вось як, напрыклад, меркавалі аб тэрміне Вялікадня (святкуецца пасля поўні)*" (Ала Хоціна. Вялікдзень: Рысы традыцыйнага свята // Полымя. 1996. № 4. С. 235).

Натуральна гучаў бы сказ якраз з гэтым словам: "Свята лічаць *неадымнаю* часткаю вольнага часу". І вызначаюць *час (дату)* свята, а не *тэрмін*. Апошнім часам на старонках нацыянальнага друку чуйныя да слова аўтары ўхіляюцца ад утварэнняў з чужою асноваю (коранем) *-ем- / -ём*. І слоўнікі ўжо пачалі падаваць *грузападымальнасць, грузападымальны* на месцы ранейшых пазычанняў "*пад'ёмны*". Бачым у друку і *неадымны* замест штучнага "*неад'емны*". Або: *выманне — выемка, выем* (БРС-88).

***Сляпак, сляпун — а не сляпыш.*** Беларускай мове неўласцівыя словы на *-ыш*. Расійскамоўным утварэнням з суфіксам *—иш (-ыш)* у нашай мове адпавядаюць іншасуфіксавыя (з *-ак, -нік, -ень, -ун*) лексемы. Так, і слова *слепыш* слоўнікі перакладаюць адпаведнікам *сляпак*. Праўда, падаюць часам паралельна і гэтае ўсесаюзнае *сляпыш*. У "Русско-белорусском словаре" 1953 года чытаем: "*Слепыш* 1. (о человеке) *сляпак;* 2. зоол. *сляпыш, сляпак*" (с. 632). Перанесены гэты артыкул і ў пазнейшыя выданні (РБС-82, РБС-93). БРС-26 падае і *сьляпун — слепыш*. А вось "Беларуска-рускі слоўнік" пайшоў на "зліццё" моваў: у ім няма ўжо слова *сляпак* як заалагічнага тэрміна, а толькі агульнасаюзнае *сляпыш*. Аднак "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 3. С. 372) усё ж справядліва прызнае лексічнаю нормаю слова *сляпак* і як біялагічны тэрмін.

***Нарадзіцца, народзіны і народзінец, нараджэнец — а не ўраджэнец.*** У беларускай мове множналікавыя назоўнікі з значэннем апрадмечанага дзеяння ўтвараюцца ад дзеясловаў праз далучэнне да іх фарманта ***-іны (-ыны):*** *адведаць — адведзіны, заручыцца — заручыны, хрысціць —*

*хрысціны*. Паводле сцверджання "Беларускай граматыкі" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 264), "большасць утварэнняў называе абрады. Тып мае прадуктыўнасць у гутарковым стылі".

Шмат такіх утварэнняў падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча: *абставіны, адведзіны, агледзіны, дамовіны, даручыны, закладзіны, запоіны, запросіны, заручыны, змовіны, пераходзіны, праводзіны, складзіны, спакладзіны, узносіны, умовіны, хрысціны, шлюбавіны*. За савецкім часам выкарыстання такіх словаў унікалі з прычыны іх "несавецкага" духу (бальшыня іх абазначала абрады, звязаныя з царквою, рэлігіяй). Таму і актыўнасць словаўтваральнага тыпу гэтых назоўнікаў стала падаць. Слоўнікі 30—80-х гадоў нібы забыліся пра існаванне такіх утварэнняў у беларускай мове (іх амаль не ведае расійская мова). Месца іх занялі і ў беларускай частцы перакладных слоўнікаў утварэнні на *-нне(-ние)*: *запрашэнне — приглашение, нараджэнне — рождение* і пад.

У часе нацыянальна-культурнага адраджэння актывізавалася выкарыстанне ў друку ўтварэнняў на *-іны(-ыны)*. З'явіліся *"запросіны"* на ўгодкі, *вечарыны* на месцы ранейшых *"запрашэнняў"* і *вечароў*. Замест *дзень нараджэння* сталі актыўна выкарыстоўваць аднаслоўную намінацыю *народзіны*. Гэтае слова трапіла і ў кніжны стыль. Напрыклад: *"22.02.1993 г. — 110 гадоў з* ***народзінаў*** *Івана Бялькевіча, беларускага мовазнаўцы"* (Каляндар памятных датаў культуры Гродзеншчыны на 1993 год // Гарадзенскія запісы (старонкі гісторыі і культуры). Гародня, 1993. С. 147); *"01.09.1993 г. — 140 гадоў з* ***народзінаў*** *Міхала Федароўскага, беларускага і польскага фалькларыста, этнографа, археолага"* (Тамсама. С. 148). Параўн. у Антаніны Хатэнкі: *"Дзе рака небыцця? Дзе* ***народзінаў*** *плынь?"* (Полымя. 1997. № 8. С. 118). *"Абсалютная бальшыня* ***народзінаў*** *прыпадае на замужніх жанчынаў, таму шлюб, безумоўна, уздзейнічае на колькасць* ***народзінаў****"* (Джон Бэрдшоў пры ўдзеле Энды Роса. Эканоміка: Дапам. для студэнтаў. Ч. І. Уводзіны. Мікраэканоміка. Мн.: Тэхналогія, 1996. С. 69).

Ад словаў з значэннем апрадмечанага дзеяння на *-іны(-ыны)* сталі ўтварацца апошнім часам асабовыя назоўнікі: *запросіны — запросінец* 'той, хто адгукнуўся на запросіны', *заручыны — заручынец* 'удзельнік абраду "Заручыны" ', *шлюбовінец* 'удзельнік шлюбовінаў' (абрад шлюбу) і пад.

Ад назоўніка *народзіны* 'дзень нараджэння' ўтварылася аднамадэльнае слова *народзінец*. Яно натуральна матывуецца беларускім прыстаўкавым дзеясловам *нарадзіцца (нараджацца)* і вытворным ад яго *народзіны* (ад якога і *народзін-ец*). А вось акадэмічныя слоўнікі, падаючы натуральныя беларускія словы *нарадзіць / нарадзіцца, нараджаць / нараджацца* як адпаведнікі расійскіх беспрыстаўкавых з гэтым коранем *родить, рожать (родиться, рождаться)*, раптам фіксуюць і такое: *ураджэнец — уроженец* (рас.). Але адкуль такая структура? Слова *ўраджэнец* у слоўніку тлумачыцца так: "Чалавек, які *нарадзіўся* ў якой-небудзь мясцовасці, родам з якой-н. краіны, горада і пад." (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 44). Калі гаворка ідзе

пра таго, *хто нарадзіўся*, дык чаму не *нараджэнец*? Расійскае *урождённая* слоўнікі перакладаюць як *народжаная* (БРС-89. Т. 2. С. 753). Гэта таксама пацвярджае штучнасць для беларускай мовы гэтага *ўраджэнка* (як і *ўраджэнец*). Мусіць, таму на месцы пазычання *ўраджэнец* з'явілася сваё ўтварэнне — *народзінец*. "*Гэтым ён (Смоліч) адрозніваецца ад бальшыні сваіх славутых папярэднікаў* — ***народзінцаў*** Беларусі" (А.Болатаў, Г.Рыдзеўскі. Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне: Аркадзь Смоліч. Мн.: Тэхналогія, 1999. С. 6).

***Шматкроць — мнагакратна.*** У перыядычным друку чытаем: "І гэтае парушэнне паўтараецца *шматкроць*" (Вінцук Вячорка).

Слова *шматкроць* складаецца з дзвюх частак: *шмат* і *кроць* і значыць 'шматразова'. Як асобнае слова *кроць* падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 151): "*Кроць* ж. — раз (*Двакроць; пяць кроцей*). Яно бытуе і ў іншых славянскіх мовах: верхнелужыцкае kroc, ніжнелужыцкае krot, польскае kroć (dwakroć, trzykroć). У згаданым слоўніку М.Байкова і С.Некрашэвіча бачым пяць вытворных з коранем *кроць — крот*: *стакроць* прысл. — сторицею; *стакротка* — маргарытка; *трыкротка, трыкроць* — троекратно; три раза; *трыкротны* — троекратный (БРС-26. С. 299, 316).

Слова *мнагакратна* — з расійскае мовы, дзе другая частка — *кратна* паходзіць ад старaславянскага *кратъ (в три краты, съто кратъ)*, што значыць 'раз' (гл.: Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка. М., 1967. Т. 2. С. 368).

Спалучэнню старaславянскай мовы *ра (разум)* адпавядае ў беларускай *ро (розум)* ці *аро (краткий — кароткі)*. На месцы расійска-старaславянскага *кратный* у беларускай мове, як ужо згадвалася, выкарыстоўваецца *кротны: трыкротны, пяцікротны*. А ў складзе прыслоўя — форма *-кроць: стакроць* (БРС-26), *шматкроць*.

Як сінанімічныя выступаюць структуры з словам *раз*: *пяцікротны* і *пяціразовы*, *шматкротны* і *шматразовы*, *шматкроць* і *шматразова*. Надта выразным і адмысловым беларускім адпаведнікам расійскага прыслоўя *сторицей* ёсць *стакроць*, зафіксаванае БРС-26. Яно адпавядае рас. *стократ* (старасл. *съто, кратъ*), якое нашыя слоўнікі перакладаюць спалучэннем *сто разоў*; як і: "*стократно* нареч. *Сто разоў, стократный — сторазовы* (БРС-53. С. 663). Батанічны тэрмін *стакротка* падае і БРС-62 (с. 885), праўда, толькі з адсылкаю да *маргарытка*, хоць БРС-26 фіксаваў *стакротка* як эквівалент рас. *маргаритка*, з спасылкаю на "Беларускую навуковую тэрміналогію. Выпуск 6. Батаніка агульная і спецыяльная".

Як бачым, за савецкім часам сваё, адмысловае, выштурхоўвалася, на яго месца ставілася ўсесаюзнае. У суверэннай Рэспубліцы Беларусь пачалі аднаўляцца, адраджацца карані роднай мовы. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года чытаем: "*Стократ* нареч. Сто разоў, *стокроць*" (Т. 3. С. 461). Як бачым, тут побач з спалучэннем *сто разоў* падаецца і аднаслоўны, аднаструктурны беларускі адпаведнік *стокроць* (да рас. *стократ*). Толькі на-

пісанне яго ненармаванае. Варта даваць у даўнейшай форме *стакроць*, бо з націскам на першым складзе другой часткі слова пішацца з літарай *а* ў першай частцы (*стагоддзе, старасвецкі, дабратворны* і пад.).

***Казларог — казярог.*** Амаль усе назвы ў гараскопе маюць форму мужчынскага роду: *Авен, Вадалей, Леў, Рак, Скарпіён, Стралец, Цялец*. Рогі мае заўсёды менавіта казёл, а каза можа і не мець іх. Таму лагічна бачыць тут утварэнне ад словазлучэння *рогі казла: казларог*. У гэтай форме падае яго "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 138): "*Казларог* м. — *козерог* (созвездие). $НТ_3$". А вось пазнейшыя акадэмічныя слоўнікі, пачынаючы з "Русско-белорусского словаря", выдадзенага ў Маскве ў 1953 годзе, падаюць і ў беларускай частцы тую ж форму, што і ў расійскай, толькі напісаную па-беларуску: "*Козерог* зоол. *казярог. Козерог* астр. *Казярог*" (РБС-93. Т. 1. С. 641).

У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года і яго перавыданні 1988 года (Т. 1) гэтае слова зусім не фіксуецца. Але тут бачым вытворныя з гэтым коранем: *казлаброд, казланогі, казловы (казловыя боты)*. І гэта пацвярджае правільнасць формы *казларог*.

***Дасціпнасць і дасціпны — а не знаходлівасць і знаходлівы.*** Слова *дасціпнасць* ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 147) справядліва вызначае як "уменне сказаць востра, смешна, даць трапнае азначэнне", а *дасціпны* — "які характарызуецца дасціпнасцю, поўны дасціпнасці, цікаўны, дапытлівы". Гэтыя значэнні згаданых слоў ілюструюцца прыкладамі з твораў Я.Коласа, П.Броўкі, У.Калесніка.

У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 238) беларускім словам *дасціпнасць* і *дасціпны* адпавядаюць не адно, а цэлы гурт расійскіх слоў: "*Дасціпнасць* ж. 1. Остроумие, находчивость; изобретательность; 2. Остроумие, острословие". "*Дасціпны* — остроумный, находчивый; изобретательный; *дасціпны выраз — остроумное выражение, острота; дасціпны розум — изобретательный ум*". Гэтыя словы маюць і вытворныя: прыслоўе *дасціпна* — "остроумно, остро, находчиво; изобретательно" і назоўнік *досціп* — "1. (остроумное выражение) острота; 2. остроумие" (с. 249).

Словы *знаходлівасць* і *знаходлівы* толькі паўтараюць тое, што маюць у сваёй семантыцы лексемы *дасціпнасць* і *дасціпны*. У згаданым перакладным слоўніку (БРС-62. С. 345) чытаем: "*Знаходлівасць* ж. *находчивость; остроумие*"; "*знаходлівы — находчивый; остроумный*".

Штучнасць гэтых скалькаваных утварэнняў ужо відаць з таго, што ім у слоўніках не надаюцца нейкія адметныя значэнні, а дублююцца тыя, што перадаюцца натуральнымі, спрадвечнымі беларускімі словамі. Параўнайма: "*Знаходлівасць* ж. уласцівасць *знаходлівага*; *здагадлівага*", "*Знаходлівы... здагадлівы, дасціпны*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 500—501). І прыклады-ілюстрацыі пацвярджаюць гэта: "***Дасціпная, знаходлівая ва ўсіх іншых спрэчках і гаворках, тут... (Маша) баялася, каб не сказаць глупства***. Шамякін". Як бачым, тут аўтар (не надта патрабавальны да натураль-

насці беларускай літаратурнай мовы) падаў побач з беларускім натуральным словам *дасціпная* і расійскамоўнае, перароблене на беларускі лад "*знаходлівая*" (рас. *находчивая*). Дый уласнае імя Маша (з суфіксам *—ш-а*, як і *мамаша*) неўласцівае беларускай мове (бел. *Марыля, Марыся, Мар'я*). Меў рацыю Я.Скрыган, калі пісаў: "Літаральна перакладаем такія рэчы, як *КВН* на *КВЗ* — "*Клуб вясёлых і знаходлівых*" — не чуючы, што гэта ненатуральна, што само просіцца тут сказаць "*Клуб вясёлых і дасціпных*" (Янка Скрыган. Блізкія сэрцу думкі // Полымя. 1967. № 9. С. 253). Гэтага штучнага *знаходлівы* (і *знаходлівасць*) не фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. У ім бачым натуральнае беларускае: "*Дасціпнасць* ж. — остроумие. *Дасьціпны — остроумный*" (с. 91); "*Досьціп* м. — находчивость, остроумие" (с. 96).

Такім чынам, нашая мова мае свае спрадвечныя словы *дасціпны, дасціпна, дасціпнасць* і *досціп,* і няма ніякай патрэбы ў штучных дублёрах "*знаходлівы — знаходлівасць*", якія былі створаныя толькі дзеля выштурхоўвання сваіх словаў з мэтаю, "каб было бліжэй да расійскае мовы" (К.Чорны). "*Урок КВД "Хлеб усяму галава". Ва ўступным слове настаўнік паведаміць, што ўрок на тэму "Аднародныя члены сказа" пройдзе ў форме "Клуба вясёлых і* ***дасціпных***" (Роднае слова. 1999. № 12. С. 69).

***Выцягнуць (руку, нагу) — ці працягнуць?*** У перыядычным друку і некаторых мастацкіх творах бачым штучнае *працягнуў руку. Працягнуць* можна штосьці *цягнучы* яго (*працягнуць вяроўку, шпагат*). *Руку ж* выцягваюць. Штучныя гэтакія словаспалучэнні звычайна бачым побач з іншымі небеларускімі канструкцыямі і словамі: "***Працягнуў*** *руку ў напрамку,* дзе стаяў цурбан, але рука ўтыркалася ў снег..." (Фелікс Шкірмянкоў. Лавіна // Полымя. 1996. № 4. С. 151). У мастацкіх творах, непадлеглых асіміляцыі аўтараў, бачым натуральную структуру: *выцягнуць руку (нагу)*. Напрыклад, у Кастуся Акулы ў творы "Гараватка" чытаем: "*Нясмела, быццам баючыся, каб Стась не паклаў іх назад у кішэні,* ***выцягнуў руку*** *і ўзяў самую малую (цукерку) з чырвоным ракам на празрыстай абгортцы*" (Полымя. 1996. № 4. С. 186).

Натуральнасць *выцягнуць (руку, нагу)* пацвярджаюць і ўстойлівыя звароты з гэтым словам. Так, у РБС-82 чытаем: "*Протянуть* ноги — *выцягнуць ногі, протянуться* на диване — *выцягнуцца* на канапе" (Т. 2. С. 257).

***Выскаляка і вышчарка — а не зубаскал ці скалазуб.*** Расійскае слова *зубоскал* беларускія слоўнікі справядліва перакладаюць як *выскаляка* і *вышчарка*. Гэта засведчыў і двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік". У першым томе (Мн., 1988. С. 283 і 296) чытаем: "*Выскаляка* м. и ж. *зубоскал*", "*Вышчарка* м. и ж. (о мужчине) *зубоскал;* (о женщине) *зубоскалка*". Тое сама бачым і ў аднатомавым яго папярэдніку. А вось "Русско-белорусский словарь" 1953 года, каб не быць абвінавачаным у нацыяналізме, падае не толькі "*Зубоскал* м. разг. *выскаляка* м. и ж." (с. 169), але і наступнае: "*Скалозуб* разг. *скалазуб*" (с. 625). Штучнасць гэтага "*скалазуб*" відаць і з таго,

што вытворнае *скалозубство* перакладаецца і словам *выскалянне*. Двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года ўжо адмовіўся ад *скалазуб*, адаслаўшы чытача да *зубоскал*, а ў адсылкавым артыкуле бачым: "*Зубоскал* м. разг. *выскаляка* м. и ж.; *вышчарка* м. и ж." (Т. 1. С. 303). Трохтомавае яго перавыданне (Т. 3. С. 349) захавала артыкул без зменаў. У ім бачым і вытворныя рас. *зубоскалка*, якое таксама перакладаецца словамі *выскаляка*, *вышчарка*, і дзеяслоў *зубоскалить* — *выскаляцца*, *вышчарацца*, а *зубоскальство* толькі як *выскалянне*, *вышчаранне*.

Здзіўляе ў сувязі з гэтым, што двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік", падаўшы два словы — *выскаляка* і *вышчарка* — як адпаведнікі рас. *зубоскал*, разам з тым не адмовіўся і ад расійскага слова *зубоскал*, толькі напісаўшы яго па-беларуску: "*Зубаскал* м. разг. *зубаскал*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 538). Тут ужо перанесеныя ў беларускую частку і рас. *зубаскаліць* і *зубаскальства*.

***Расейская (расійская) — і руская мова.*** Слова *расійскі* ўтварылася паводле прадукцыйнай мадэлі "ўласная назва (аснова яе) + суфікс *-ск-і*": (у народнай мове) *Расея* > *расейскі* ці (афіцыйна) *Расія* > *расійскі*. Як і *Англія* — *англійскі*. Яшчэ славуты М.Ламаносаў ужываў гэтае найменне і даў яго сваёй капітальнай працы "*Российская грамматика*". Геніяльны вучоны і паэт выкарыстоўваў гэтае слова і з іншым значэннем: "... что может собственных Платонов и быстрых разумом Невтонов *Российская земля рождать*". Нагадаем яшчэ распаўсюджаны тэрмін "*российская словесность*", а таксама "национальную гордость *великороссов*" (Ленин) (а не "рускіх"). Гэта царская Расія (паводле акрэслення Леніна — "турма народаў") не прызнавала беларусаў і ўкраінцаў за асобныя народы (нават назва "Беларусь" была забароненая) і таму выкарыстоўвала тэрмін *русские* дзеля абазначэння ўсіх усходніх славянаў (расійцаў, украінцаў, беларусаў). У царскай Расійскай імперыі была адзіная дзяржаўная мова — *руская* (*русский язык*). Але ж гэтае найменне — ад *Русь*, і яно не дае сапраўднага акрэслення сутнасці таго паняцця, якое абазначае. Найчасцей мова атрымлівае сваё найменне ад назвы краіны (з пераважным карэнным насельніцтвам): *Беларусь* — *беларуская*, *Балгарыя* — *балгарская*, *Іспанія* — *іспанская*, *Македонія* — *македонская*, *Славакія* — *славацкая*, *Славенія* — *славенская*, *Сербія* — *сербская*, *Харватыя* — *харвацкая*, *Украіна* — *украінская*, *Чэхія* — *чэшская* і пад. Таму натуральна і *Расія* — *расійская* (ці па-расійску: *Россия* — *российский язык* (*расійская мова*)). Такая намінацыя выкарыстоўваецца ўкраінцамі (*російська мова*), палякамі (język rosyjski), а таксама іншымі славянамі, напрыклад русінамі: *росийски язик* (гл.: А.Е.Супрун, А.К.Калюта. Введение в славянскую филологию. Мн.: Вышэйшая школа, 1981. С. 137).

Тэрмін *расійскі* замацаваны і ў назвах лексікаграфічных даведнікаў: "Беларуска-расійскі слоўнік" (Мн., 1926) і "Расійска-беларускі слоўнік" (Мн., 1928) М.Байкова і С.Некрашэвіча; д-р. Я.Станкевіч. "Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік" (New York, 1990); А.Глушко, А.Стасевіч,

А.Бокун. "Расейска-беларускі хімічны слоўнік". Мн.: Тэхналогія, 1993; С.Суднік, С.Чыслаў. "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік". Мн.: Белфранс, 1997. Параўн.: "Українсько-російський словник" (Київ, 1977). Назву *расійскі (расейскі)* сёння выкарыстоўваюць аўтарытэтныя выданні. І гэта натуральна: ён дакладна перадае адэкватнае паняцце і не мае шавіністычнага адцення. А што да таго, нібыта яна застарэлая, дык у жыцці грамадства і яго мовы былое застарэлае можа аднаўляцца і стаць зноў нормаю. Так, у нашых акадэмічных слоўніках (РБС-82, ТСБМ ды інш.) з паметаю "ўстарэлае" падаюцца словы *расіянін, расіянка*, але сёння гэтыя словы вернутыя да актыўнага выкарыстання, і ўжо ў РБС-93 яны не маюць гэтае паметы.

Такім чынам, сёння рэальна ў маўленні беларусаў выкарыстоўваюцца паралельна два найменні: 1) *руская мова* і 2) *расейская (расійская) мова*, якое найбольш дакладна перадае сутнасць адпаведнага паняцця. Паралельнае ўжыванне абедзвюх формаў знайшло свой адбітак і ў акадэмічным аднатомавым "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн.: Бел. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1996. С. 550): "*Расійскі*, -ая, -ае. *Тое, што і рускі, які адносіцца да Расіі*". Параўнаем дэфініцыю тэрміна *рускія*, што даецца тут на с. 568, з іншымі адэкватнымі дэфініцыямі і пераканаемся ў яго штучнасці: "*Рускія*... Усходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва *Расіі*..." і на с. 86: "*Беларусы*... Усходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі *Беларусь*". З дэфініцыі... "Народ, які складае асноўнае насельніцтва *Расіі*", натуральна вынікае — *расій-цы* (як і *украін-цы*), і мова яго — *расійская*.

***Скарбнік — а не казначэй.*** Прасочым паводле перакладных слоўнікаў, як кваліфікуецца слова *скарбнік* у беларускай частцы (адпаведна да рас. *казначей*). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 288) падае: "*Скарбнік* м. — казначей (государственный)". У "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953) расійскае слова *казначей* мае ў беларускай частцы два дублетныя эквіваленты, і па вядомых прычынах на першае месца пастаўлена агульнасаюзнае. На с. 191 чытаем: "*Казначей — казначэй, скарбнік*". Тое сама фіксуюць і пазнейшыя яго перавыданні: "Русско-белорусский словарь" 1982 года (Т. 1. С. 339) і "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 1. С. 601). У беларускай мове слова *скарбнік* уваходзіць у лексічна-словаўтваральнае гняздо з шэрагам аднакаранёвых актыўнаўжывальных словаў: *скарб, скарбнік, скарбніца, скарбовы, скарбонка* — і беспасярэдне матывуецца ўтваральным словам *скарб*. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Мн., 1983. С. 159) падае: "*Скарбнік... хавальнік дзяржаўнага скарбу*". Утваральнае слова *скарб* мае ў нашай мове шмат значэнняў (у расійскай мове яны перадаюцца іншакаранёвымі словамі). Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы фіксуе 5 значэнняў яго: "*Скарб* м. 1. сокровище; (предмет высокой цены — ещё) драгоценность; *скарбы нетраў — сокровища недр; скарбы сусветнай культуры — сокровища мировой культуры*; 2. Состояние; имущество; 3. прям., перен. *клад*; 4. Разг. (мелкое имущество) пожитки;

скарб; 5. уст. (имущество, деньги) казна" (Т. 2. Мн., 1989. С. 469). Як бачым, толькі з адным значэннем 'дробная маёмасць' у расійскай мове выкарыстоўваецца слова *скарб*, і то як размоўнае, прытым паралельна з *пожитки*. Відаць, таму вытворнае *скарбник* стала ў расійскай мове гістарызмам, саступіўшы месца слову *казначей*, якое выразна матывуецца лексемай *казна*. І ўсе іншыя беларускамоўныя аднакаранёвыя з *скарб* словы маюць у расійскай мове іншакаранёвыя адпаведнікі: *скарбніца — сокровищница; скарбовы — казённый; скарбонка — кубышка, копилка; кружка* (для збору грошай). У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" слова *скарбнік* фіксуецца як гістарызм з паметамі: 1. "У старажытнай Русі..."; 2. "У дарэвалюцыйнай Расіі..." Але ж праз цэнзурныя краты прабілася і сапраўдная рэальнасць выкарыстання слова *скарбнік* у беларускай мове: "Наогул пра асобу, якая загадвае якімі-небудзь дзяржаўнымі або грамадскімі каштоўнасцямі. *Андрэя абралі скарбнікам — збіраць і насіць камітэцкую казну*". У слоўніку падаецца аж 8 лексемаў з коранем *скарб-*: *скарбы (скарб), скарбашукальнік, скарбнік, скарбніца, скарбовы, скарбоначны, скарбонка*. У тэрміналагічных даведніках таксама бачым: "*Казначей — скарбнік*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 76). У Тэрміналагічным бюлетэні (Вып. 2. Мн., 1999) у публікацыі "Асновы эканамічнай тэрміналогіі (руска-беларускі слоўнік)" засведчана: *казначей — скарбнік* (с. 25).

Дык ці трэба разбураць гэтае лексічнае гняздо і празрыстаматываванае *скарбнік* 'хавальнік дзяржаўнага скарбу' замяняць на *казначэй*, якое матывуецца застарэлым словам *казна*? Слова ж *скарб* з гэтым значэннем не мае стылістычна-абмежавальных паметаў (гл. ТСБМ. Т. 5. Мн., 1983. С. 158).

***Дзятва і дзетвара***. Слова *дзятва* бытуе ў беларускай мове даўно. У акадэмічнай "Беларускай граматыцы" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 238) чытаем: "*Суфікс -в-а*. Словы з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў. Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць сукупнасць асоб, названых утваральным словам: *браты — братва, дзеці — дзятва*. Гэтыя назоўнікі належаць да гутарковай мовы". А вось слова *дзетвара* граматыкай не фіксуецца. Відаць, таму, што структурна яно ненатуральнае: *дзет-в-ара*, дзе, акрамя звычайнага суфікса зборнасці *-в-а*, ёсць яшчэ афікс-устаўка *-ар-* (параўн.: *машк-ар-а*). Слова *дзятва* падаюць усе беларускія акадэмічныя слоўнікі. У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 247) чытаем: "*Дзятва* I. собир. ж. пчел. детва; *Дзятва* II. собир. ж. разг. детвора". У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 382): "*Дзятва* I. собир. ж. спец. Детва. *Дзятва* II. собир. разг. детвора". У гэтым слоўніку на с. 378 падаецца і словаўтваральны варыянт гэтага слова — *дзетвара* з той сама стылёвай паметай: "*Дзетвара* собир. ж. разг. детвора". Перакладныя слоўнікі таксама фіксуюць абодва гэтыя словы. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 113): "*Детвора* собир. разг. *дзетвара, дзятва*". І ўсе наступныя перавыданні гэтага слоўніка падаюць тое сама: РБС-82 (Т. 1. С. 207), РБС-93 (Т. 1. С. 364). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 182):

"*Дзятва* 1, -ы, ж., зб. Лічынкі пчол, чарва; маладыя пчолы; *Дзятва* 2, -ы, ж., зб. Разм. Дзеці. *Двор аж гудзеў ад піску, смеху, крыку і плачу дзятвы.* Хомчанка". І новы "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн.: Бел. энцыкл., 1996. С. 180) фіксуе абодва словы з той сама стылістычнай кваліфікацыяй: "*Дзятва*, ж., зб. (разм.). Маленькія дзеці. *Чуўся смех дзятвы*" (с. 180) і "*Дзетвара*, ж., зб. (разм.). Малыя дзеці. *Двор поўніўся галасамі дзетвары*" (с. 177). А нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы" 1987 года падае гэтае слова як лексічную норму без стылёвых абмежаванняў. На с. 214 чытаем: "*Дзятва* зб., -ве". А вось варыянт яго — *дзетвара* ўжо кваліфікуецца як стылёва абмежаванае: "*Дзетвара* разм., зб., -ры" (с. 212).

Як бачым, імкненне некаторых навукоўцаў пазбыцца слова *дзятва* пярэчыць беларускай моўнай і лексікаграфічнай практыцы. А што гэтае слова мае свой амонім (*дзятва* 'маладыя пчолы'), то гэта нічога не змяняе, бо ў мове шмат аманімічных лексічных адзінак, але слоўны кантэкст здымае гэтую аманімію.

***Садок і дзіцячы сад.*** Назоўнік *садок* у беларускай мове мае дадатковыя значэнні (рыбны садок, гусіны садок, садок — 'пастка на звяроў' ды інш.). Але гэта не пярэчыць замацаванню ў літаратурнай мове слова *садок* у складзе назову дашкольнай выхаваўчай установы. (Бо і аманімічнасць не можа быць перашкодай пры замацаванні той ці іншай лексемы як нарматыўнай у лексічнай сістэме літаратурнай мовы.) "*Прычына запаволення Адраджэння — ва ўсіх на вачах: невыкананне дзяржавай Закону аб мовах, закрыццё дзяржавай беларускіх* ***садкоў***, *класаў і школ*" (ЛіМ. 10.10.1997).

Намінацыя *дзіцячы сад* — нематываваная: слова *сад* тут нічога не значыць. Недарэмна ў польскай мове гэтая ўстанова мае матываваную назву "*перадшкола*" (ці *перадшколле*) — przedszkole. Форма *садок* выклікана, відаць, аналогіяй з *дамок* — ласкальнае да *дом*. Бо гэта і ёсць *дзіцячы дамок* на час занятасці бацькоў. Слова *садок* падаецца ў "Слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1987. С. 715) як стылёва нейтральнае: "*Садок, садка* /тк/ -ку, -коў". Да таго ж аднаслоўная намінацыя *садок* у жывым маўленні нярэдка замяняе двухслоўную. І гэта ў поўнай згодзе з законам эканоміі моўных сродкаў.

***Святлафор — а не светлафор, светафор.*** Слова *святлафор* мае ў сваім складзе дзве часткі: *святла-* (*святло*) і грэцкае *форос* — 'які нясе (носіць)'. Даслоўнае значэнне слова — 'які носіць (нясе) святло', "*святланос*". Гэта знайшло свой адбітак і ў дэфініцыі — 'прыбор (прыстасаванне), які пасылае пучок святла як сігнал'. Напісанне і структура гэтага слова зусім натуральныя і добра абгрунтаваныя: першая частка перадае значэнне 'святло', параўн.: *святлодрукаванне* 'друкаванне пры дапамозе святла' (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 100). У слоўніку з першай часткай *святла-* падаюцца 23 словы: *святлабоязь, святлавод, святлакопія, святлалюбнасць, святлалюбны, святламетрыя, святламузыка, святланоснасць, святланосны, святлапіс, святлапісны, святласіла, святласільны, святлатэхнік, святлатэхніка, святлафільтр,*

*святлафільтравы, святлафор, святлафорны, святлацень, святлачуласць, святлачулы.*

Складаныя словы з першаю часткай *светла-* ... маюць зусім іншае значэнне, бо яна адпавядае слову *светлы* 'не цёмнага колеру': *светлабароды* — 'з светлаю барадою', *светлавалосы* — 'з светлымі валасамі' (ТСБМ. Т. 5. С. 88). Таму форма *светлафор* дэзарыентуе чытача, адсылае яго не да слова *святло*, а да слова *светлы.*

У лексеме *светафор* першая частка мае зусім іншае значэнне: 'зямля з усім тым, што на ёй існуе'; 'усё жывое, усё навакольнае' (ТСБМ. Кн. 1. Т. 5. Мн., 1983. С. 87). Напрыклад: *светабудова* — 'сусвет', *светаразуменне* 'разуменне свету, сукупнасць поглядаў на свет', *светаўспрыманне* — 'успрыманне чалавекам навакольнага свету' (Тамсама. С. 87 — 88).

І, нарэшце, пра механізм утварэння згаданых словаў. Як засведчыла сучасная дэрываталогія, ва ўтварэнні слова можа браць удзел усякая словаформа з парадыгмы слова. Напрыклад, у слове *вішаннік* суфікс *-нік* далучаецца да асновы словаформы роднага склону множнага ліку *вішань (вішан'): вішан-нік.* І ў складаных словах першаю часткай можа выступаць форма роднага склону: *пяцігодка, двухскладовы, дзвюхтысячны.* Гэтыя канчаткі ў першай частцы складаных словаў дэрыватолагі кваліфікуюць па-рознаму, называюць іх інтэрфіксамі (бо яны стаяць у сярэдзіне складанага слова, паміж яго асновамі). Так што і ў слове *святлафор* злучальная галосная *а* гэтага ж кшталту.

Падсумоўваючы, зазначым, што толькі форма *святлафор* абгрунтаваная, нарматыўная. Форма "*светафор*" — штучнае пазычанне, яна зацямняе сэнс слова і дэзарыентуе чытача.

***Гуляць і іграць. Гульня і ігра. Гулец і ігрок.*** Можна ці нельга гуляць на біржы, прагуляць футбольны матч, згуляць шахматную партыю?

У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1977. С. 510) чытаем: "*Згуляць* сов. 1. в разн. знач. *сыграть; згуляць у баскетбол — сыграть в баскетбол; згуляць у шахматы — сыграть (сразиться) в шахматы*". На гэтай жа старонцы бачым і шэраг вытворных ад *гуляць:* "*Згульвацца* несов. спорт. *сыгрываться*"; "*згуляны — сыгранный*"; "*згуляцца* сов. спорт. *сыграться*"; "*футбольная каманда добра згулялася — ... сыгралась*". У другім томе слоўніка (с. 248) чытаем: "*Прагуляць* сов. 1. ■ разн. знач. *прогулять; прокутить;* 2. (некоторое время) *прогулять;* 3. (потерпеть поражение в игре) *проиграть; прагуляць шахматную партыю — проиграть шахматную партию;* 4. (провести некоторое время в игре) *проиграть; прагуляць дзве гадзіны ў валейбол — проиграть два часа в волейбол*". Беларускія акадэмічныя слоўнікі апошніх дзесяцігоддзяў засведчылі: *гулец* (у футбол, у баскетбол і пад.). Гэта падаюць абодва тлумачальныя слоўнікі. І ў "Русско-белорусском словаре" 1982 года (Т. 1. С. 305) чытаем: "*Игрок — гулец,* -льца м." Тое сама і ў РБС-93 (Т. 1. С. 539). І самы новы "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 160)

засведчыў: “*Гулец* м. Удзельнік якой-небудзь гульні (спартыўнай, картачнай і пад.)”. І гэта — натуральнае ўтварэнне: *гуляць > гул-ец*, як і *касіць > касец*, *прадаваць > прадавец* і пад. Такім чынам, слова *гулец* належыць да прадукцыйнага словаўтваральнага тыпу дэрыватаў.

У “Беларуска-рускім слоўніку” (Т. 1. Мн., 1988) слова *гульня* мае не адно, вузкае, а шэсць іншых значэнняў — адпаведна рас. *игра*. На с. 339 чытаем: “*Гульня* ж. в разн. знач. *игра; гульні для дзяцей... гульні ў шахматы; гульні ў велікадушнасць; алімпійскія гульні; гульня з агнём; гульня ў жмуркі; небяспечная гульня; гульня прыроды; рабіць вясёлую міну пры дрэннай гульні; гульня (не) варта свечак*”. Тут бачым і шэраг вытворных ад гульня: *гульнявы* — игровой; *гульнятэка* — игротека.

***Пагранічнік і памежнік.*** Пяцітомавы “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” падае слова *памежак* з значэннем ‘сумежны’ (Т. 3. Мн., 1979. С. 649). У згаданым значэнні слова *памежнік* утварылася шляхам суфіксацыі: *памеж-нік* (ад *памежак*, з адцінаннем фіналі *-ак*) або: *памежн-ік* (ад *памежны*).

Але натуральна бачыць у слове *памежнік* конфіксавае ўтварэнне ад *мяжа* з значэннем ‘пагранічная лінія паміж дзяржавамі; граніца’, якое фіксуе “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (Т. 3. Мн., 1979. С. 190). Гэты акадэмічны слоўнік лічыць натуральнымі сінонімамі словы *граніца* (дзяржаўная) і *мяжа*. Таму і аднатыпныя (аднамадэльныя) утварэнні ад гэтых сінонімаў натуральна павінны мець тоеснае значэнне: *памежнік* і *пагранічнік* — ‘салдат — ахоўнік мяжы (граніцы)’. Словы *пагранічнік* і *памежнік* могуць семантызавацца і так: ‘вайсковец пагранічнай аховы’, ‘вайсковец памежнай аховы’. Параўн.: “*Пагранічнік*... Ваеннаслужачы пагранічнай аховы” (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1996. С. 406). Або і так: ‘вайсковец пагранічча’. “Русско-белорусский словарь” 1993 года падае: “*Пограничье — пагранічча, памежжа*” (Т. 2. С. 577). Адсюль натуральна вынікае і ўтварэнне *памежнік* (ад *памежжа*) ‘ахоўнік памежжа’. “Русско-белорусский словарь” 1993 года падае: “*Граница*. 1. (между государствами) *граніца, мяжа*; 2. В др. знач. *мяжа; за границей — за мяжой; за границу — за мяжу; из-за границы — з-за мяжы*; “*Граничить — межавацца, межаваць*” (Т. 1. С. 330). А таксама: “*Пограничный — пагранічны, памежны; пограничная полоса — пагранічная, памежная паласа*” (Т. 2. С. 577). Адсюль відаць, што слова *памежнік* — натуральнае ў беларускай мове і з значэннем службовай асобы. Гэта знайшло сваё адлюстраванне і ў новых тэрміналагічных даведніках: “*Пограничник — памежнік, пограничные войска — памежныя войскі, памежная варта*” (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 143). У перыядычным друку словы *памежжа* і *памежнік* шырока выкарыстоўваюцца. “*Бараніць гэтыя інтарэсы тут, на беларуска-польскім этнічным* ***памежжы****, заўсёды было няпроста*” (Полымя. 1998. № 11. С. 256).

***Накіроўчы — а не накіроўваючы.*** Як ужо згадвалася, дзеепрыметнікі з

суфіксамі *-уч-,-юч-* беларускай мове неўласцівыя. Іх ролю выконваюць прыметнікі з натуральнымі беларускімі суфіксамі. Адным з такіх суфіксаў, што апошнім часам набывае ўсё большую актыўнасць, ёсць *-ч-*. Ён далучаецца да асновы дзеясловаў незакончанага трывання з фінальным формаўтваральным суфіксам *-ва-*, які пры гэтым адцінаецца: *апрацоўваць — апрацоў-чы, аб'ядноўваць — аб'ядноўчы*. Гэтая мадэль словаўтварэння набывае прадукцыйнасць невыпадкова: вытворныя такога дэрывацыйнага тыпу досыць выразныя сваёю семантыкай і ашчадныя структураю. Параўнайма: *накіроўчы* і *накіроўваючы* як эквівалент рас. *направляющий; направляющая сила пролетариата — накіроўваючая сіла пралетарыяту* (РБС-82. Т. 1. С. 490). Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" таксама падае: *накіроўваючы — направляющий, накіроўваючая сіла — направляющая сила* (Т. 1. Мн., 1988. С. 734). Трохтомавы "Русско-белорусский словарь" 1993 года, фіксуючы гэтае *накіроўваючы*, падае побач і прыметнікавыя дэрываты *накіравальны, скіравальны* (Т. 2. С. 144). У абодвух "Русско-белорусских словарях" як матэматычны тэрмін (назоўнік) рас. *направляющая* мае беларускі эквівалент з суфіксам *-льн-: накіравальная*, і тэхнічны тэрмін *направляющий ролик* перакладаецца з гэтым прыметнікавым эквівалентам: *накіравальны ролік*. А вось двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" ужо адкінуў усё адмысловае і перайшоў на "ўсесаюзную" структуру. На с. 734 першага тома бачым: "*Накіроўваючая* сущ. мат. *направляющая; накіроўваючы* в разн. знач. *направляющий; накіроўваючая сіла — направляющая сила; накіроўваючы ролік* тех. — направляющий ролик". А з значэннем незалежнага дзеепрыметніка *направляющий* згаданыя слоўнікі перакладаюць "*які (што) скіроўвае*". Між тым на месцы гэтай апісальнай канструкцыі ў моўнай практыцы выкарыстоўваецца прыметнік з суфіксам *-ч-*: *накіроўчы, накіроўчая сіла*. Нельга не пагадзіцца з А.Каўрусам, які сцвярджае: "У беларускай мове ёсць шэраг прыметнікаў з суфіксам *-ч-*, якім адпавядаюць рускія формы дзеяслова з суфіксамі *-ущ-,-ющ-*: *апрацоўчы — обрабатывающий, перапрацоўчы — перерабатывающий, абслугоўчы — обслуживающий, накіроўчы — направляющий, падслухоўчы — подслушивающий, падсумоўчы — суммирующий, аб'ядноўчы, аб'яднаўчы — объединяющий, арганізоўчы — организующий, мабілізоўчы — мобилизирующий* і інш." (Алесь Каўрус. Збіраецца скарб: З тэрмінатворчасці 40—90-х гг. // Полымя. 1996. № 6. С. 295). Бачым такія ўтварэнні і ў нашых знакамітых пісьменнікаў. Так, у Максіма Лужаніна чытаем: "*Мова — вечна жывы, спеўны, вечна неспакойны, свежы і светлы акіян. Ні на момант не моўкне ён, не ўпыняе свае стваральнай, памнажальнай, **адшліфоўчай** работы*". У Васіля Быкава: "*Але так крычаць хутка яму надакучыла, захацелася хоць якога сэнсу ў гэтым **выратоўчым** крыку*" (Труба // Полымя. 1998. № 9. С. 11).

Слушна прапануе знаны мовазнавец А.Каўрус натуральныя прыметнікі на **-чы** замест штучных дзеяслоўных формаў з суфіксамі *-уч-, -юч-*: *выштурхоўчы* (выштурхоўваючы), *перапампоўчы* (перапампоўваючы), *атакоўчы* (атакуючы).

Як бачым, аддзеяслоўныя прыметнікі з суфіксам **-ч-** спраўна выконваюць тую ролю, якую маюць у расійскай мове дзеепрыметнікі з суфіксамі *-ущ, -ющ* — і іх штучныя беларускія калькі на *-учы, -ючы*.

***Выгараны, лопнуты — выгараўшы, лопнуўшы***. У беларускай мове, як ужо згадвалася, маюць прадукцыйнасць дзеепрыметнікі, утвораныя ад асновы інфінітыва з выкарыстаннем суфіксаў **-л-, -ан-(-ян-, -ен-), -т-**. Утварэнні на *-шы, -ўшы* не маюць пашырэння праз супадзенне іх з дзеепрыслоўямі. Дзеепрыметнікі з фармантамі *-ан-, -т-* у моўнай практыцы выступаюць і з значэннем незалежнага стану. Напрыклад, у Якуба Коласа чытаем: "*Гэта злучэнне падзей толькі што* ***адбытай*** *у глухім лесе драмы ў момант выклікала ў ім думку, ці не глядзяць і за ім чые-небудзь ліхія вочы*". Або ў Янкі Брыля: "*На траву з гнязда зваліўся толькі што* ***аперанны*** *верабей*". "*Пра беларускую школу* (М.Танк у першай палове 90-х гадоў. — *П.С.*) *гаварыў як пра з'яву* ***адбытую***, *рэальную перамогу*" (Арсень Ліс. На разломе эпох // Полымя. 2000. № 9. С. 179).

• У сказе "***Выгараны*** *ўчастак лесу быў небяспечны і тым, што тут было шмат радыяцыі,* ***усмактанай*** *дагэтуль карою дрэва, хмызнякамі і мохам, што раслі тут*" выкарыстаныя два дзеепрыметнікі з суфіксам **-ан-**, якія таксама маюць значэнне незалежнага стану: *выгараны ўчастак — участак, які выгараў;* (радыяцыі) *усмактанай карою* — (радыяцыю) *усмактала кара*. Або ў такім сказе (падаецца ў падборцы А.Каўруса): "*Паэма для* ***лопнутай*** *шклянкі і разбітага карыта*" (ЛіМ. 28.06.1996) дзеепрыметнік *лопнутай* (шклянкі) таксама мае значэнне незалежнага стану: *шклянка лопнула*.

Найчасцей такія ўтварэнні (з суфіксам **-ан-, -т-**) адпавядаюць расійскім зваротным дзеепрыметнікам з суфіксам **-вш-**. Параўнайма: "*Чаму — падумалася цяпер — за сімвал міру ўзяты голуб, а не дзіця?* ***Замурзанае, рассмяянае!***" (Па-расійску: вымазавшийся, рассмеявшийся ребёнок).

Гэтае надта надзённае для беларускай мовы пытанне грунтоўна распрацоўвае Алесь Каўрус. У часопісе "Маладосць" (1997. № 7) бачым яго вялікую падборку такіх утварэнняў з моўнае літаратурнае практыкі, што, безумоўна, паспрыяе падвышэнню культуры мовы.

***Падахоўны — ахоўваемы***. На месцы штучных структураў з суфіксам *-ем-,-ім-*, накінутых нам усесаюзным стандартам, беларуская мова мае свае натуральныя адпаведнікі — аддзеяслоўныя ўтварэнні з прадукцыйнымі суфіксамі **-н-, -льн-, -ов-, -ів-а** і іншымі (гл. "Утварэнне дзеепрыметнікаў і яго фарманты").

Апрача таго, функцыю дзеепрыметнікаў з суфіксам *-ем-,-ім-* (лексічных пазычанняў з расійскае мовы ці калькаваных структураў) паспяхова выконваюць у беларускай мове і конфіксавыя дэрываты — з прэфіксавай часткай ***пад-*** і суфіксавай **-н-** — ад назоўнікавай асновы: *ахова — падахоўны* (рас. *охраняемый*), *канвой — падканвойны* (рас. *конвоируемый*) і пад. Гэтыя ўтварэнні дакладна выяўляюць семантыку залежнага стану: *падахоўны* — 'які знаходзіцца пад аховай, які ахоўваецца'.

Такія натуральныя, заканамерныя ў беларускай мове лексемы выкарыстоўваюцца і ў тэрміналагічных даведніках як эквіваленты расійскамоўных дзеепрыметнікаў (прыметнікаў) на *-емый, -имый*. Напрыклад, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава бачым: *конвоируемый — падканвойны* (с. 84), *обороняемый — падабаронны* (с. 117), *охраняемый — падахоўны* (с. 133).

Конфікс ***пад- + -н-*** можа далучацца і да асновы дзеяслова з фінальным суфіксам *-ава-*, які пры гэтым адцінаецца цалкам або яго апошняя частка *-а-*: *інспектаваць — падінспектны* (рас. *инспектируемый*, с. 73), *інструктаваць — падынструктоўны* (рас. *инструктируемый*, с. 73). Замест суфіксавай часткі -*н*- можа выкарыстоўвацца *-льн-*, пры гэтым бярэцца аснова інфінітыва цалкам: *ізаляваць — падызалявальны* (рас. *изолируемый*, с. 71), *вывучаць — падвывучальны* (рас. *изучаемый*, с. 71), *вымяраць (мераць) — падвымяральны* (побач з *падвымерны, падмерны*, рас. *измеряемый*, с. 71). На аддзеяслоўнае ўтварэнне такіх конфіксавых структураў паказвае паралельнае з імі выкарыстанне адпаведных апісальных намінацыйных дэрыватаў. Напрыклад: *инспектируемый — падынспектны, якога інспектуюць; изолируемый — падызалявальны, які ізалююць; обороняемый — падабаронны, які абараняюць; измеряемый — падвымяральны (падмерны, падвымерны), які вымяраюць.*

Згаданую конфіксавую структуру маюць і дэрываты з адмоўем ***не***: *ненаблюдаемый — непаднадзорны* (с. 113).

Выкарыстанне такіх конфіксавых утварэнняў дазваляе выразна размежаваць значэнні суб'екта і аб'екта (у расійскай мове гэта выяўляецца праз розныя суфіксы: *-ущ-(-ющ-)* і *-ем-*), калі такія лексемы маюць той самы суфікс -*льн*-. Параўнайма: *измеряющий — вымяральны, измеряемый — падвымяральны; изолирующий — ізаляваны, изолируемый — падызалявальны.*

Для размежавання суб'екта і аб'екта аўтары слоўніка заканамерна выкарыстоўваюць і іншы спосаб: утварэнні з значэннем суб'екта маюць назоўнікавую структуру, а аб'екта — прыметнікавую, напрыклад: *обстреливающий — абстрэльнік, обстреливаемый — абстрэльны* (с. 119), *изучающий — вывучальнік* (с. 71), *изучаемый — падвывучальны, вывучны* (с. 71); *инструктирующий — інструктар (і інструктавальны), инструктируемый — падынструктоўны* (с. 73); *обороняющий — абаронец, обороняемый — падабаронны* (с. 117).

Часам побач з утварэннямі на *-льны* падаюцца і іншасуфіксавыя дэрываты: *угрожаемый — пагражальны* і *пагрозлівы.*

Але найчасцей значэнні суб'екта і аб'екта размяжоўваюцца суфіксамі -*льн*- і -*н*-,-*ан*-: *управляющий — кіравальны; управляемый — кіраваны, кіроўны* (с. 273); *обстреливаемый — абстрэльны, обстреливающий — абстрэльвальнік* (утварэнне ад *абстрэльвальны*) (с. 119).

Такім чынам, беларуская мова паспяхова абыходзіцца і ў тэрміналогіі без штучных пазычаных структураў з суфіксамі -*ем*-,-*ім*-. Цяпер на месцы ранейшага аддзеяслоўнага тэрміна (з суфіксам *-ом-*) *ядомы* (грыб) выкарыстоўва-

еццa заканамернае адназоўнікавае ўтварэнне (з суфіксам *-н-*) *страўны* (ад *страва*) або *ежавы* (ад *ежа*, суфікс *-ав-*).

***Выпусціць, прапусціць (зручны момант, магчымасць) — а не ўпусціць.*** "*Землякі, вядома, не* ***ўпусцілі*** *магчымасці распавядаць пра сваё жыццё-быццё. Усё больш скардзіліся на яго*" (ЛіМ. 1997. 28 лістапада. С. 4). Прачытаўшы такое — "не *ўпусцілі* магчымасці", адразу адчуваеш ненатуральнасць тут слова *ўпусцілі*. У беларускай мове дзеясловы з прыстаўкаю *у-*, адэкватнаю расійскамоўнай, не маюць пашырэння. Не падае такога слова — *упусціць* — "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. Няма яго ў слоўніках В.Ластоўскага, І.Насовіча, Я.Станкевіча.

У першым акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі рас. *упустить* дакладна адпавядаюць беларускія іншапрыстаўкавыя дзеясловы *выпусціць* і *прапусціць*: "***упустить*** *удобный момент —* ***прапусціць*** *зручны момант;* ***упустить*** *возможность —* ***прапусціць*** *магчымасць;* ***упустить*** *из вида —* ***выпусціць*** *з-пад увагі*" (с. 720). А аддзеяслоўны назоўнік *упущение* мае іншакаранёвыя эквіваленты: *недагляд, хіба, нядбайнасць*. Гэты слоўнікавы артыкул амаль без зменаў паўтарылі ўсе наступныя перавыданні слоўніка — двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 2. С. 535) і трохтомавыя 1993 і 1994 гадоў (Т. 3. С. 622). Праўда, па вядомых прычынах побач з згаданымі беларускімі адпаведнікамі *выпусціць* і *прапусціць*, пачынаючы ад 1953 года, падаецца (на першым месцы) і ўсесаюзнае "*ўпусціць*". Але штучнасць яго ў беларускай мове відаць не толькі з таго, што яны не выкарыстоўваюцца ў згаданых ілюстрацыях, але і з таго, што вытворныя словы не маюць гэтага "*ўпусціць*" як утваральнай базы, а толькі *выпусціць / выпускаць*. У слоўнікавым артыкуле чытаем: "*Упустить* сов. *упусціць, выпусціць*, мног. *павыпускаць*" (а не "паўпусціць"!).

Дзеяслоў *упусціць* у беларускай мове мае натуральныя значэнні, адэкватныя расійскамоўным словам з прыстаўкаю *в-*: 'дазволіць увайсці, уехаць куды-небудзь': *упусціць у хату, упусціць у горад* (рас. впустить в дом, в город), 'уставіць у паглыбленне': *упусціць замок у дзверы* (рас. вделать, врезать замок).

На жаль, нашыя акадэмічныя і перакладныя слоўнікі 30—80-х гадоў пераносяць на свае старонкі расійскамоўныя формы з прэфіксам *у-*: *упусціць з рук* (на месцы — *выпусціць з рук*), *упусціць час, упусціць зручны момант, упушчэнне* і падобныя штучныя формы. У пятым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Кн. 2. Мн., 1984. С. 71) бачым і такое: "*Упусціць з-пад увагі* — тое, што і *выпусціць з-пад увагі*".

А між тым тэрміналагічныя слоўнікі, створаныя ў 1992—1994 гг. спецыялістамі, якія не перапісвалі механічна артыкулы з расійскіх слоўнікаў, а дбалі найперш пра дакладнасць зместу і натуральнасць формы беларускіх тэрміналагічных адзінак, не падаюць у беларускай частцы слоўнікаў гэтых лексемаў з прэфіксам *у-*. Напрыклад, у "Русско-белорусском математическом словаре" пад рэдакцыяй прафесара Я.Радыны (Мн., 1993) чытаем: *убыва-*

*ние — спаданне, увеличить — павялічыць, удаление вершины — выдаленне вяршыні, удвоение куба — падваенне куба, удлинённый — падоўжаны, уклонение — адхіленне, укороченный — скарочаны, уменьшаемое — змяншыва, умножение — множанне, упорядочивание — парадкаванне, управление — кіраванне, упрощение — спрашчэнне, уравнивание — раўнанне, усеченный — ссечаны, ускорение — паскарэнне, устанавливать — вызначаць, наладжваць, высвятляць; устранимый — скасавальны, папраўны; утверждение — сцвярджэнне, уходящая — адыходная* і пад.

Або ў "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн., 1994): *убавить — збавіць, паменшыць; увеличение — павелічэнне, увлажнитель — вільготнік, ударить — біць, удвоитель — падвойнік, уклономер — схіламер, улавливание — лаўленне, улавливатель — лоўнік, умножитель — памнажальнік, упакованный — спакаваны, управляемый — кіроўны, упругий — пругкі, уровень — ровень, усечение — сячэнне, устранение — ліквідаванне, утечка — працёк, уширение — пашырэнне.*

У гэтым рэчышчы вытрыманы і выдадзены ў 1997 годзе "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава: *убитый* (в бою) — *забіты, уборка — прыбіранне, убыть — выбыць, адбыць; уволенный — звольнены, угрожаемый — пагражальны, уничтожаемый — нішчаны, установка — пастаноўка, утвердить — зацвердзіць, утеря — згуба, утолять* (жажду) — спатольваць і пад., а таксама згадваныя няраз даведнікі "Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні" (1988) і "Руска-беларускі фізічны слоўнік" (1999).

Як бачым, беларуская мова мае багаты арсенал іншапрэфіксавых (і беспрэфіксавых) лексемаў на месцы расійскамоўных утварэнняў з прыстаўкаю *у-*. Трэба толькі, як пісаў Якуб Колас, добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя артыкулы, а не похапкам браць з чужога маўлення, пашыраючы тым самым абсягі моўнае трасянкі.

***Напрасткі, проста, просты — а не напрамкі, прама, прамы.*** Прыслоўе *напрасткі* мае значэнне 'па простай лініі, самым кароткім шляхам'. У Якуба Коласа чытаем: "*Па сцежачцы, што вілася **напрасткі** ад лесу і бегла праз поле, павольна пасоўваліся якраз сюды дзве чалавечыя фігуры*". Яго, як агульнапашыранае, нармаванае, падаюць акадэмічныя слоўнікі. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года бачым: "*Напрасткі* нареч. — *прямиком, напрямик*" (с. 491). Побач падаецца і яго менш пашыраны сінонім *напрацяк* з тымі самымі расійскімі адпаведнікамі *прямиком, напрямик*. Гэтыя лексікаграфічныя артыкулы цалкам захаваныя і ў двухтомавым перавыданні 1988 — 1989 гг. (Т. 1. С. 748).

У аснове прыслоўя *напрасткі* — назоўнік *прасткі*, які захаваўся ў жывой народнай мове і мае значэнне 'простая, найкарацейшая дарога', што знайшло свой адбітак у прыказцы "Хто прасткоў шукае, той дома не бывае" (в.

Грабава, Зэльвенскі раён). Усе згаданыя словы паходзяць ад прыметніка *просты* 'роўны, без выгібаў' і ўтворанага ад яго прыслоўя *проста* 'не зварочваючы ўбок'.

У расійскай мове ім адпавядаюць словы *прямой, прямо*, што пацвярджаюць і згаданыя слоўнікі: "*Проста* нареч. (не сворачивая в сторону) *прямо; ідзіце проста, потым звярніце налева — идите прямо, потом сверните налево*" (БРС-62. С. 736; БРС-89. Т. 2. С. 288). "*Просты* (ровный, без изгибов) *прямой*" (Тамсама).

І няма ў гэтых слоўніках штучнага, скалечанага "напрамкі", дзе замест кораня *-праст-* бачым *-прам- (<-прям-)*. А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 290) падае на сваіх старонках і гэтую калеку: "*Напрамкі*. Разм. Тое, што і *напрасткі*" (с. 290). Відаць, і гэты выпадак меў на ўвазе Максім Лужанін, калі пісаў, што "ў Тлумачальны слоўнік... наўшывалася багата прыкладаў з таго, што ніколі не было літаратурай і можа ілюстраваць хіба няўмельства аўтара абыходзіцца са словам або няўмельства складальніка слоўніка выбраць з твора трапна ўжытае, ва ўсім гучанні і красе роднае слова. А то вушы вянуць..."

На жаль, на месцы лексемаў *проста, просты* бачым *прама, прамы* і ў перакладных слоўніках 50—80-х гадоў. Так, выдадзены ў Маскве ў 1953 годзе "Русско-белорусский словарь" дзеля рэалізацыі ідэі на "набліжэнне моваў" падае побач з натуральнымі *проста, просты* і гэтыя *прама, прамы*: "*Прямо* нареч. 1. *Проста, прама; идите прямо — ідзіце проста (прама); держаться прямо — трымацца проста (прама, роўна)*. Праўда, з іншымі значэннямі ў беларускай частцы гэтага штучнага *прама* яшчэ няма. Так, далей бачым: "... 2. (непосредственно) *проста, непасрэдна; сразу начнём прямо с дела — пачнем проста (адразу) са справы;* 3. (откровенно) *проста, адкрыта, шчыра; будем говорить прямо — будзем гаварыць проста, проста-такі; он прямо герой — ён проста герой*".

І вытворныя складаныя словы тут яшчэ амаль не маюць гэтага "*-прам-*", а свае адмысловыя адпаведнікі: "*Прямодушие — адкрытасць, шчырасць; прямодушный — адкрыты, шчыры... Прямоезжий* фолькл. *просты, прамы; дорогой прямоезжею — дарогай простаю. Прямокрылые* заол. *простакрылыя. Прямолинейно* — перен. *просталінейна, шчыра, адкрыта; Прямолинейность* перен. *просталінейнасць, шчырасць, адкрытасць*". Праўда, як матэматычныя і тэхнічныя тэрміны тут ужо свае словы дублююцца пазычаннямі: "*Прямослойный* спец. *простаслойны, прамаслойны. Прямолинейный — просталінейны, прамалінейны*". А некаторыя падаюцца толькі ў пазычаным выглядзе: "*Прямоточный* техн. *праматочны; п. котёл — праматочны кацёл. Прямоугольник* мат. *Прамавугольнік*".

А вось слова *прямота* перакладаецца адмысловымі беларускімі словамі *шчырасць, адкрытасць, просталінейнасць*.

Прыметнік *просты* падаецца тут з 8 значэннямі, якім адпавядаюць як адметныя беларускія словы, так і пазычаныя: "*Прямой* 1. (ровный, без изгибов) *просты, прамы; роўны; прямая дорога — простая дарога, прямой путь*

прям., перен. *просты (прамы) шлях; прямое дерево — простае (роўнае, прамое дрэва;* 2. мат. *прамы; прямой угол — прамы вугал; прямая линия — прамая лінія, прямая пропорциональность — прамая прапарцыянальнасць;* 3. (беспересадочный) *прамы;* 4. (непосредственный) *непасрэдны, просты; это его прямая обязанность — гэта яго непасрэдны (просты) абавязак, прямой начальник — непасрэдны начальнік;* 5. (явный) *яўны, адкрыты; прямой вызов — яўны (адкрыты) выклік;* 6. (бесхитростный, правдивый) *праўдзівы; адкрыты, шчыры; прямой человек — праўдзівы (адкрыты) чалавек;* 7. *прямая выгода — бясспрэчная выгада;* 8. грам. *прямая речь — простая мова; в прямом смысле слова — у простым сэнсе слова; прямой наследник — непасрэдны наследнік, прямая кішка — прамая кішка*".

У двухтомавым перавыданні гэтага даведніка ("Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы) адмысловае беларускае слова *просты* амаль нідзе ўжо не згадваецца як эквівалент рас. *прямой*. Так, на с. 264 другога тома чытаем: "*Прямой* 1. (ровный, без изгибов) *прамы; прямое дерево — роўнае (прамое) дрэва;* 2. мат. *прамы;* 3. *прамы;* 4. *Непасрэдны, прамы* ... 8. грам. *просты, прамы, в прямом смысле слова — у прамым сэнсе слова; прямая дорога — прамая (простая) дарога; прямой путь — прамы (просты) шлях.*

Тут ужо і заалагічны тэрмін — *прамакрылыя*, а не *прастакрылыя*, як было ў РБС-53. Няма ўжо і словаў *прасталінейна, прасталінейнасць, прасталінейны*, а толькі *прамалінейна* і г.д. І калі ў РБС-53 з пераносным значэннем выкарыстоўвалася толькі слова з першаю часткай *проста-*, то цяпер скрозь толькі *прама-: прамалінейны* і г.д. Нават слова *прямота* не мае беларускага эквівалента *прасталінейнасць*, а толькі *прамалінейнасць*.

Гэты артыкул цалкам перанесены і ў наступныя перавыданні слоўніка — 3, 4, 5-е (1991, 1993, 1994 гг.). Так, у РБС-93 (Т. 3. С. 124—125) ужо *дрэва прамое, дарога* і *шлях* таксама *прамыя;* праўда, у дужках яшчэ захавалі і слова *просты*.

У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1988—1989) на с. 261 і 163 другога тома чытаем: "*Прама* нареч. в разн. знач. *прямо; трымацца прама — держаться прямо; ісці прама — идти прямо*". "*Прамы* в разн. знач. *прямой; у прамым сэнсе слова — в прямом смысле слова*".

А вось слоўнікі адраджэнскіх гадоў паспяхова абыходзяцца сваімі словамі, без пазычання "*прама*", "*прамы*". Напрыклад, у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн.: Навука і тэхніка, 1994. С. 188) чытаем: "*Прямолинейность — прасталінейнасць, прямолинейный — прасталінейны; прямоугольник — прастакутнік, прямоугольный — прастакутны*".

Лексічнае гняздо словаў з коранем *прост-(праст-)* як эквівалент рас. *прям-* бачым і ў слоўніках 20-х гадоў. У В.Ластоўскага чытаем: "*Прямой — просты, проста, прастата, праставаты, просткі, праставаць. Прямо-*

*верховое (дрэва) проставерхавое. Прямобокий стол — простабокі. Прямодушие — простадушнасць. Прямолинейный* (кірунак) — *просты, просталеглы. Прямоугольный* (трыкутнік) — *простакутны*" (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. с. 576). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 250—251) фіксуе: "*Проста — прямо. Простадушна — прямодушно. Простадушнасць — прямодушие. Простадушны — прямодушный. Простакутнік — прямоугольник*".

Сучасны перыядычны друк выкарыстоўвае і слова *найпроставы* як эквівалент рас. *прямой*. Напрыклад: "*Гэты эпізод быў у **найпроставай** перадачы па тэлебачанні*" (Пагоня. 1997. 17 верасня). Лексему *найпроставы* бачым і ў новых тэрміналагічных даведніках. Да прыкладу, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава: *прямой азимут — найпроставы азімут* (с. 11), *прямая видимость — найпроставая бачнасць* (с. 30), *прямое подчинение — найпроставае падпарадкаванне, найпроставае падначаленне* (с. 146).

Як бачым, беларуская мова мае багаты арсенал словаў з коранем *прост-* — адпаведнікаў расійскамоўных з *прям-*. Трэба толькі трымацца сваіх каранёў, браць "такія словы, якіх поўна ў мове, якія складаюць аснову мовы" (Я.Скрыган).

***Пагодлівы і пагодны (дзень) — а не пагожы.*** "*Збіраюся ў дарогу. Дзень, здаецца, **пагожы** і цёплы. Трэба будзе заехаць на рынак, купіць яблык і пару булак славутага літоўскага хлеба, якім буду частаваць сваіх дамашніх*" (Полымя. 1977. № 10. С. 162). Што значыць тут слова *пагожы?* Як вынікае з тэксту, гаворка ідзе пра добры, ясны дзень. А для выяўлення гэтай якасці дня, калі стаіць пагода (няма дажджу, снегу, буры), беларуская мова мае словы *пагодлівы* і *пагодны* — прыметнікі, утвораныя ад назоўніка *пагода* 'добрае надвор'е' (з выкарыстаннем суфіксаў *-лів-* і *-н-*). Гэтыя словы — *пагодлівы* і *пагодны* — фіксуюць усе беларускія слоўнікі — і тлумачальныя, і перакладныя. Так, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 496) занатаванае: "*Пагодлівы*, -ая,-ае. *Добры, ясны, цёплы. За акном святлеў ясны, пагодлівы ранак... Стаіць позняя, але пагодлівая і ціхая восень... Пагодны*, -ая,-ае. Тое, што і *пагодлівы*".

А вось слова *пагожы* не засведчыў ніводны слоўнік літаратурнай мовы. У перакладных слоўніках яно падаецца толькі ў расійскай частцы як адпаведнік згаданых беларускіх. Так, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 2. Мн., 1989. С. 31) чытаем: "*Пагодлівы — погожий... Пагодны — погожий*". І ў перакладных слоўніках 1993 і 1994 гг. бачым тое сама: "*Погожий — пагодны, пагодлівы*" (Т. 2. С. 576).

У расійскай мове прыметнік *погожий* утвораны нульсуфіксавым спосабам ад *погода*, з чаргаваннем *д/ж: погод(а) — погож(ий)*. Беларуская мова такога чаргавання не мае, а толькі *д/дж* і *д/дз: хад-а, хадж-у, хадз-іць* (параўн. рас.: *ход-ить* и *хож-у*), і такім чынам не можа быць такога прыметніка *пагожы* — утварэння ад *пагода*.

***Як бы там ні было — як бы то ні было.*** "***Як бы то ні было,*** *але гэты, засыпаны попелам забыцця, культ светлых, сонечных братоў-лекароў мае права на ўспомненне*" (Полымя. 1997. № 10. С. 17 — 18).

Устойлівы зварот як бы там ні было з значэннем 'нягледзечы ні на што, пры ўсіх варунках' мае ў сваім складзе нарматыўны кампанент *там* (а не *то*). У такім выглядзе гэтую фразему і фіксуюць слоўнікі. У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 781) чытаем: "*Як бы там ні было* — пры ўсіх умовах, ва ўсякім выпадку". І ў яго пяцітомавым папярэдніку (Т. 1. Мн., 1977. С. 432) таксама занатаванае "*Як бы там* (*што б там*) *ні было* — нягледзячы ні на што, пры любых умовах".

Кампанент *то* ў складзе адэкватнага фразеалагізма фіксуецца ў расійскамоўнай частцы перакладных слоўнікаў. Напрыклад, у "Русско-белорусском словаре" 1982 года чытаем: "*Как бы то ни было — як бы там ні было*" (Т. 1. С. 339). І ў самых апошніх выданнях перакладных слоўнікаў бачым тое сама. У "Русско-белорусском словаре" 1993 года (Т. 1. С. 601) засведчана: "*Как бы то ни было — як бы там ні было*".

***Чырвонка — а не краснуха.*** Слова *краснуха* не фіксуецца слоўнікамі Насовіча, Ластоўскага, Байкова і Некрашэвіча. Не падае яго на сваіх старонках і "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" як неўласцівае нашай мове. У акадэмічныя беларускія слоўнікі яно трапіла з усесаюзнага слоўнікавага фонду — расійскай мовы. Так, у РБС-53 (с. 219) чытаем: "*Краснуха* 1. мед. *краснуха*. 2. вет. *Заўшніца*". У расійскай мове слова *краснуха* мае выразную матывацыю: "Заразная болезнь (обычно детская), сопровождающаяся красноватой сыпью на теле" (Словарь русского языка: В 4 т. Т. 2. К—О. 2-е изд. М., 1982. С. 122). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 725) змяшчае копію артыкула (з першага выдання названага "Словаря"): "*Краснуха* — заразная дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца чырванаватай высыпкай на целе".

У аснове назвы гэтай хваробы, як бачым, ляжыць адзнака колеру высыпкі на целе (чырвоны, чырванаваты). Адсюль вынікае натуральная назва — *чырвонка*. Гэтым словам называюць у народнай мове, да прыкладу на Гарадзеншчыне, заразную хваробу дзяцей і жывёлінаў. Нашыя ж акадэмічныя слоўнікі расшчапілі адну лексему на дзве, замацаваўшы за хваробай жывёлы назву *заўшніца*, а за дзіцячай — расійскае слова *краснуха*. Але ж гэтаму пярэчыць, як мы пераканаліся, унутраная форма слова, бо лексема "красны" фіксуецца беларускімі слоўнікамі толькі як вусна-паэтычная з значэннем "прыгожы". Нават у перакладах расійскіх фразеалагізмаў на беларускую мову слоўнікі не падаюць гэтага "красны". Параўнайма: *красная цена — найбольшая цана*; *пустить красного петуха — пусціць чырвонага пеўня*; *проходить красной нитью — праходзіць чырвонай ніткай*; *долг платежом красен* (посл.) — *што вінен, аддаць павінен*; *на миру и смерть красна* (посл.) — *на людзях і памерці не страшна*; *красный угол — пачэсны кут; покут* (РБС-93. Т. 1. С. 681).

І ў тэрміналагічнай лексіцы няма слова "красны", а толькі "чырвоны":

*красное дерево* — *чырвонае дрэва*; *красный гриб* — *асавік, падасінавік*; *красный железняк* — *чырвоны жалязняк*; *красный перец* — *чырвоны перац*; *красный фосфор* хим. — *чырвоны фосфар*; *красная медь* хим. — *чырвоная медзь*; *красное вино* — *чырвонае віно*; *красное каление* физ., техн. — *чырвоны напал*; *красная линия* архит. — *чырвоная лінія*; *красный лес* — *хваёвы лес*; *красная строка* — *новы радок*; *красный товар*, уст. — картуна; *красная рыба* — *каштоўная рыба*; *красная дичь* охот. — *каштоўная дзічына*; *красный зверь* — *каштоўны звер* (тамсама).

Усё згаданае пераконвае, што адпаведнікам расійскага *краснуха* ёсць беларускае *чырвонка*.

***Кваццістая капуста* — ■ *не цвятная*.** "Русско-белорусский словарь" 1953 года, фіксуючы натуральныя беларускія адпаведнікі да расійскіх словаў з коранем *цвет-* (*кветка, кветнік, кветачніца, кветкавы* і інш.), разам з тым падае і такое: "*Цветная капуста — цвятная капуста*" (с. 750). Гэтая недарэчнасць паўтараецца і ў іншых акадэмічных слоўніках. Між тым у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Мн., 1978. Т. 2. С. 633) чытаем: "***Цвятная капуста*** — *асобы від капусты*, ***суквецце*** *якой ідзе ў ежу*". У гэтым вызначэнні, як бачым, гаворка ідзе пра *кветкі* (*суквецце*). Значыць, у аснове намінацыі мусіць быць корань *-квет-* і натуральны тэрмін *кваццістая капуста* (а не *цвятная*). Гэта пацвярджае і апісанне значэння прыметніка *кваццісты*: "з вялікай колькасцю кветак, пакрыты кветкамі" (Тамсама. С. 679). Невыпадкова ў "Русско-белорусском словаре" 1993 года ўжо бачым: "*Цветная капуста — кваццістая капуста*" (Т. 3. С. 701). Выкарыстаны гэты тэрмін і ў спецыяльным даведніку "Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі" (Мн., 1994. С. 159), дзе ў артыкуле "Капуста" чытаем: "*Капуста цветная — капуста кваццістая*". На жаль, на с. 594 даведніка бачым і гэтае штучнае "*Цветная капуста — цвятная капуста*", безаглядна перанесенае сюды з ранейшых акадэмічных слоўнікаў. Але ж яно пярэчыць іншым утварэнням з гэтым коранем *-квет-* як адпаведнікаў рас. *-цвет-*: *квецень — цветень, кветкавы — цветковый, кветнік — цветник, кветнікавы — цветниковый, кветкаед — цветоед, кветка — цветок* ды інш.

Расійскае слова *цветной* мае наступныя натуральныя беларускія адпаведнікі: 1. *каляровы; цветное кино — каляровае кіно, цветные металлы — каляровыя металы*; 2. *кваццісты; цветная капуста — кваццістая капуста*" (РБС-93. Т. 3. С. 701).

З аналізу відаць: нармаваным ёсць тэрмін *кваццістая капуста* (а не *цвятная*), што ў поўнай згодзе з семантычнай і словаўтваральнай структурай гэтага слова.

***Удачкаваць, удачкаванне* — *а не удачарыць, удачарэнне*.** Слова "*ўдачарыць*" утворанае ад асновы *-дочер-* (*у-дочер-и-ть*). Беларуская мова такой словаўтваральнай асновы не мае. Расійскаму *дочь* (*дочери*) адпавядае беларускае *дачка* (*дочкі*), ад асновы гэтага слова і вытворныя: *даччын* (з чаргаваннем *к/ч*) — рас. *дочерний; даччыная фірма — дочерняя фирма*. Таму і лексемам *удочерить, удочерение* адпавядаюць натуральныя бела-

рускія *удачкаваць, удачкаванне*. Іх выкарыстоўвае сучасны беларускі друк: "*Маленькую Марыську удачкавалі суседзі*" (ЛіМ. 17.08.1996); "*13-гадовай Г.П.Прусак... гаспадары-хрысціяне паабяцалі ўдачкаванне*" (Гарадзенскія запісы (старонкі гісторыі і культуры). Вып. 3. Горадня, 1997. С. 81).

А вось нашыя акадэмічныя слоўнікі падаюць толькі "ўсесаюзнае": *удочерить — удачарыць, удочерение — удачарэнне; удочеренный — удачароны, удочеряться — удачарацца*. Гэта значыць, у абедзвюх частках слоўніка тое сама, без перакладу, толькі напісанае з улікам свае фанетыкі і правапісу. Штучнасць для беларускай мовы згаданых словаў яскрава відаць з апісання іх значэння ў тлумачальных слоўніках. Так, у томе пятым (кніга 1) "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн., 1983. С. 618) чытаем: "*Удачарыць*, зак. *Прыняць у сваю сям'ю дзяўчынку на правах роднай дачкі*". З гэтага тлумачэння і вынікае натуральнае — ад *дачка* (*на правах дачкі*) — *удачкаваць*, а не *ўдачарыць*, якое не мае свае словаўтваральнае асновы ў беларускай мове.

Ад *удачкаваць* — і натуральны назоў асобы: *удачкавальнік, удачкавальніца* 'той (тая), хто *ўдачкоўвае* — прымае ў сваю сям'ю дзяўчынку на правах роднай дачкі'.

Такую ж натуральную словаўтваральную будову мусіць мець і намінацыя асобы, якая прымае ў сваю сям'ю хлопчыка на правах роднага сына, — *усынаўляльнік*, утварэнне з суфіксам *-льнік* ад асновы дзеяслова: *усынаўля(-ць) + -льнік* (як і *ўдачкава-льнік*). Між тым у слоўніках і тут замест свайго тэрміна падаецца ўсесаюзнае *ўсынавіцель* — пазычанне з расійскай мовы (*усыновитель*). Але ж расійскамоўным утварэнням з суфіксам *-тель* у беларускай мове звычайна адпавядаюць словы на *-льнік: наниматель — наймальнік, собиратель — збіральнік, повествователь — апавядальнік, метатель — кідальнік* і г.д. У "Русско-белорусском словаре" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы 294 беларускія адпаведнікі расійскіх словаў на *-тель* маюць суфікс *-льнік*. І нават у пазычаннях з расійскае мовы *-тель* замяняецца на *-льнік*. Параўн. *соискатель — саіскальнік;* апошнім часам з гэтым суфіксам *-льнік* створаны ўласнабеларускі адпаведнік яго — *спашукальнік*, што таксама пацвярджае высокую прадукцыйнасць словаўтваральнага сродку *-льнік* у сучаснай беларускай літаратурнай мове і неўласцівасць ёй суфікса *-цель*.

***Гатэль — а не атэль***. Слова *гатэль* — пазычанне з французскае мовы; фр. hotel ад лацінскага hospitale 'прытулак' (Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка / Перевод с нем. и доп. О.Н.Трубачева. Т. 3. М., 1971. С. 170). У беларускай мове яно замацоўваецца ў форме *гатэль* як вынік транслітарацыі пазычанага слова: *hotel* → *гатэль* (параўн. *гісторыя, гайда* і іншыя, якія ў расійскай мове не маюць пачатковага прыдыхальнага гука: *отель, история, айда*). Набыло пашырэнне ў выкарыстанні гэтае слова апошнім часам не без уплыву заходнеславянскіх і ўкраінскай моваў, якія таксама маюць літару (гук) *г /h/*: пол. *hotel*, чэш. *hotel*, укр. *готель*.

Не выпадкова сучасны друк выкарыстоўвае згаданую лексему — сінонім

да найменне *гасцініца* менавіта ў форме *гатэль*, а не той, якую фіксуюць акадэмічныя слоўнікі: "*Отель м. атэль, гасцініца*" (РБС-82. Т. 1. С. 623).

У часопісе "Полымя" (1997. № 9. С. 209) чытаем: "*Усе тыя дні мы жылі з ім (М.Танкам) у адным нумары* ***гатэля***" (Мікола Аўрамчык. Шчодрасць паэзіі: Успаміны). У артыкуле вядомай перакладчыцы з беларускае мовы на англійскую Веры Рыч "Замест шэйхаў — новыя рускія" (Свабода. 12.02.1997) таксама бачым *гатэль*: "*Гай Оўклі, адміністратар аднаго з лонданскіх* ***гатэляў****, сцвярджае, што практычна ўсе кліенты* ***гатэля****, запаўняючы рэгістрацыйную карту, пісалі гэтае слова — рускі*".

Улічыўшы моўную практыку апошніх гадоў, "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае ўжо і гэты варыянт слова: "*Отель м. — атэль, гатэль, гасцініца, отельный — атэльны, гасцінічны*" (Т. 2. С. 387). Праўда, і тут перавага, як бачым, аддаецца ўсесаюзнаму стандарту *атэль*: яно на першым месцы, і вытворны прыметнік толькі ад гэтае формы (*атэльны*).

Але ж маўленчая практыка і аналогія афармлення падобных іншамоўных словаў у беларускай мове сведчаць, што натуральнаю трэба лічыць толькі форму *гатэль* і прыметнік *гатэлевы*, а не штучнае *атэль* і *атэльны*, бо ў такім разе ("каб было бліжэй да расійскае мовы" — К.Чорны) трэба ўжо пісаць "історыя", "айда", "эты" на месцы натуральных "гісторыя", "гайда", "гэты".

***Надыходнае свята, узыходнае сонца — а не надыходзячае і ўзыходзячае***. Калі мы кажам пра *надыход* свята, то гэтае свята і ёсць *надыходнае*. Прыметнік тут утвараецца ад назоўніка ці ад дзеяслова з выкарыстаннем прадукцыйнага спрадвечнабеларускага суфікса *-н-: надыход-ны*. Як і *пераходны; адпаведны* (ад *адпавядаць*). Напрыклад: *Нас парадавала, і разам з тым трошкі засмуціла гэтае нечаканае* ***надыходнае свята***. ***Узыходнае сонца*** *абдымае сваімі шчодрымі промнямі, вітае салідарнасць працоўных* (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 93).

Формы з суфіксам *-яч-* (*надыходзячае, узыходзячае*) — гэта калькаваная, чужая мадэль, навязаная нашай мове пастановай СНК БССР 1933 года, якая скіроўвала развіццё беларускай мовы на шлях зліцця з расійскаю.

У 20-х адраджэнскіх гадах нашая мова не карысталася гэтымі штучнымі калькамі. Так, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 329) чытаем: "*Усходны — восходящий*". Дый сучасныя слоўнікі нярэдка падаюць натуральныя прыметнікі з суфіксамі *-н-,-ов-(-ав-,-ёв-,-ев-)* на месцы расійскамоўных на *-ящий, -ющий*: *прыдатны — подходящий, абслуговы — обслуживающий, гукаправодны — звукопроводящий* ды пад.

Параўн. у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (Мн.: Полымя, 1994): "*У выпадку незанятасці асобы ці па не* ***залежных*** *ад яе прычынах ёй гарантуецца навучанне новым спецыяльнасцям і павышэнне кваліфікацыі з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама дапамога па беспрацоўі ў адпаведнасці з законам. Іншыя нарматыўныя акты..., міжнародныя дагаворныя або іншыя абавязацельствы, прызнаныя Канстытуцыйным Судом* ***неадпаведнымі*** *Канстытуцыі...*" (с. 24). "*Прапазіцыйная форму-*

*ла называецца супярэчнасцю, калі* ***адпаведная*** *ёй булевая функцыя набывае значэнне 0 пры ўсіх наборах логікавых значэнняў* ***уваходных*** *у яе літараў*" (Т.Капылова. Матэматычная логіка. Гродна, 1977. С. 16). Як бачым, тут няма гэтых "не залежачых", "не адпавядаючых", "уваходзячых", а выкарыстоўваюцца натуральныя беларускія ўтварэнні.

Па-беларуску **пераважная** большасць (а не пераважаючая), **прылеглая** тэрыторыя (а не прылягаючая), **адпаведныя** захады (а не адпавядаючыя) і г.д.

*І* ***свята*** *— надыходнае,* ***сонца*** *— узыходнае.*

***Асілак, волат — а не багатыр.*** Слова *багатыр* у беларускай мове выразна стасуецца з прыметнікам *багаты*, ад якога і ўтварылася: *багат-ыр*. У народнай мове аналагічнай будовы словы *пустыр* 'пустка' (ад *пусты*), *жайтыр* 'птушка жаўтушка, амялушка' (ад *жойты)* (гл.: П.У.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн., 1977. С. 127). У расійскай мове *богатырь* — татарскае пазычанне, якое В.Ластоўскі вызначае як "баечны сілач" і перакладае на беларускую мову словамі *волат, харобр, палянец, магут* (РК(Б)С. С. 35).

У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча таксама бачым: "*Багатыр* м. — *богач; багатырка* ж. — *богачка*" (с. 40). А расійскаму *богатырь* тут адпавядае беларускае *асілак* (с. 35). І ўсе перакладныя слоўнікі падаюць беларускае слова *багатыр* толькі як адпаведнік рас. *богач, богатей*. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 166) чытаем: "*Багатыр*, м. (тот, кто обладает богатством) *богач, богатей, толстосум*". Словаўтваральнымі сінонімамі яго выступаюць аднакаранёвыя назоўнікі з суфіксамі *-ач* і *-ей: багач, багацей*.

А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 322) ужо "аб'яднаў" мовы, падаўшы слова *багатыр* і з тым значэннем, што і ў расійскай мове, прычым ілюстрацыяй тут выступае назва карціны расійскага мастака В.Васняцова "Богатыри". Тут ужо бачым і *багатырскі эпас*.

"Русско-белорусский словарь" 1993 года справядліва вызначае наступную лексічную норму: "*Богатырь — волат, асілак; богатырский — гераічны; богатырский эпос — гераічны эпас; волатаўскі; спать богатырским сном — спаць моцным сном; богатырство ср. — гераічнасць*" (Т. 1. С. 112).

***Жывая энцыклапедыя — а не хадзячая.*** Нашыя лексікографы замест таго каб вывучаць жывую народную мову і замацоўваць у даведніках беларускія лексемы, пайшлі найбольш лёгкім шляхам — калькаваннем ці натуральным пазычаннем чужых словаў, пераносячы іх з расійскай часткі слоўніка на беларускую. Так, пра адукаванага чалавека, які валодае самымі разнастайнымі ведамі, беларус кажа: *жывая энцыклапедыя*. А вось у слоўніках бачым: *ходячая энциклопедия — хадзячая энцыклапедыя*, хоць утварэнні з суфіксам *-яч-* беларускай мове неўласцівыя.

***Траціна, чацвярціна — ці толькі трэць, чвэрць?*** У сучасным перыядычным друку рэдка сустрэнеш адлічэбнікавыя назоўнікі з фармантам *-іна*: *траціна, чацвярціна*, а толькі *трэць, чвэрць*. А між тым словы на *-іна* вельмі выразныя сваёю будоваю і зместам. Раней такіх намінацыяў было шмат у

мове, яны абазначалі адпаведную частку зямельнага надзелу (валокі): *траціна, чацвярціна, шасціна, васьміна, дзесяціна*. У жывой народнай мове і цяпер звычайна пачуеш словы *траціна, чацвярціна* (а не *трэць* ці *чвэрць*): "*Ужэ **траціну** соткаў згараў. **Чацвярціну** картоплямі засадзіў*". У зэльвенскіх гаворках гэтыя "трэць" і "чвэрць" усведамляюцца як пазычанні з расійскай (*треть*) і польскай (*czwerć* ) моваў.

Лексему *траціна* як стылёва нейтральнае слова, сінонім да *трэць* фіксуюць і нашыя слоўнікі. Напрыклад, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года чытаем: "*Треть — трэць, траціна*" (Т. 3. С. 546). У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Кн. 1. Мн., 1983. С. 517) слова засведчана з двума значэннямі: "*Траціна*, -ы, ж. Старая мера плошчы — трэцяя частка зямельнага надзелу (звычайна валокі). 2. Адна з трох роўных частак чаго-небудзь. *Траціна ўраджаю*". Дарэчы нагадаць тут, што суфікс *-ін-а* мае і слова, якое абазначае адну з дзвюх роўных частак чаго-небудзь, — *палавіна* (ад *палова*).

Але ж пад уплывам расійскамоўнай маўленчай практыкі (якая не ведае слова *траціна*) нашая адмысловая лексема стала выцясняцца з маўлення. Выкараненню беларускага слова *траціна* спрыялі і акадэмічныя слоўнікі. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы падае слова *траціна* толькі як застарэлае — *треть* (земельного надела) (с. 924). Тое сама бачым і ў двухтомавым яго перавыданні. У другім томе чытаем: "*Траціна* ж. уст. (обычно земельного надела) *треть*" (БРС-89. С. 562). І гэта асабліва кідаецца ў вочы пры параўнанні з "Русско-белорусским словарём" 1953 года і яго пазнейшымі перавыданнямі, дзе слова *траціна* не мае стылістычнага абмежавання і выступае як сінонім да *трэць*.

***Водгук* — ■ *не водзыў*.** Нашыя перакладныя расійска-беларускія слоўнікі рас. *отзыв* з значэннем 'ацэнка' падавалі без перакладу, а толькі напісанае па-беларуску: "*Отзыв 1.* (отклик) *водгалас, водгук; 2.* (оценка) *водзыў; 3. воен. водзыў*" (РБС-82. Т. 1. С. 624; РБС-93. Т. 2. С. 388). Між тым беларускае слова *водгук* шматзначнае. У Тлумачальным слоўніку засведчаныя 4 яго значэнні: 1. *Водгулле, рэха; слабы гук, які даносіцца здалёк;* 2. перан. *Спачувальныя адносіны, салідарнасць з чым-н.*; 3. перан. *Тое, што з'яўляецца вынікам чаго-н., адказам на якія-н. падзеі, з'явы.* 4. Разм. *Тое, што і водзыў* (у 1 знач.) (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 499—500). Памета "размоўнае" засцерагала складальнікаў ад ідэалагічных цэнзараў. А двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988. С. 237) справядліва здымае гэтае абмежаванне і фіксуе лексему *водгук* і з значэннем (высказанное мнение, оценка чего-л., рецензия) *отзыв, отклик*.

Такім чынам, слова *водгук* мае ўсе падставы для выкарыстання з значэннем 'ацэнка, рэцэнзія'. Гэта засведчыла і сучасная моўная практыка. Напрыклад, у кнізе вядомага даследчыка, вучонага і пісьменніка Арсеня Ліса чытаем: "*Выстаўка цягнулася паўмесяца, і ўжо ў канцы першага тыдня з'явіліся ў друку прыхільныя **водгукі***" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 130); "*Яшчэ раней ён (Алесь Адамовіч) дапамог надрукаваць артыкул пра гэтага пісьменніка, пісаў **водгук** на мой рукапіс у выдавец-*

*тва*" (Аляксандр Станюта. ЛіМ. 14.04.1998. С. 15); *"В.Грыцкевіч прапанаваў водгук на кнігу М.Ількевіча "Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі"* (ЛіМ. 7.08.1989. С. 8).

***Шыкоўны — а не шыкарны, шыкозны.*** У беларускай мове бытуе цэлае гняздо словаў з коранем *-шык-: шык* 'раскоша; форс, элегантнасць'; 'найлепшае задавальненне'; *шыкаваць* 'жыць з шыкам; праяўляць у чым-небудзь шык; фарсіць', *шыкоўны* 'раскошны, багаты, пышны', 'надзвычай добры; вельмі прыгожы, цудоўны' (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 427—428). Прыметнік *шыкоўны* стасуецца з дзеясловам *шыкаваць* і ўтвораны (з адцінаннем фінальнай галоснай *-а)* з выкарыстаннем прадукцыйнага спрадвечнабеларускага суфікса *-н-: шыкав-(аць) → шыкоўны*. Як *чараваць — чароўны, рызыкаваць — рызыкоўны, гартаваць — гартоўны*. Стасуецца гэты прыметнік *шыкоўны* і з назоўнікам *шык* (тут вылучаецца суфікс *-оўн-ы*, як і ў словах *духоўны, грунтоўны, цудоўны, каштоўны* ды інш.).

У расійскай мове беларускаму *шыкоўны* адпавядаюць словы *шикарный, нарядный* (БРС-89. Т. 2. С. 723). "Русско-белорусский словарь" 1993 года таксама падае беларускі адпаведнік *шыкоўны* да рас. *шикарный* (Т. 3), фіксуецца тут і прыслоўе *шыкоўна* як эквівалент рас. *шикарно*.

Разам з гэтымі натуральнымі словамі — *шыкаваць, шыкоўна, шыкоўны* — бачым у слоўніках і словы з непашыранымі ў беларускай мове, іншамоўнымі суфіксамі *-арн- (шыкарны)* і *-озн- (шыкозны)*. Пры гэтым сэнсава яны нічога не дадаюць да семантыкі натуральнага беларускага ўтварэння *шыкоўны*, ад якога ўтварыўся і адцягнены назоўнік *шыкоўнасць*. З улікам згаданага відаць, што прыметнікі *шыкарны* і *шыкозны* менш прыдатныя для карыстання параўнальна з сістэмава абгрунтаваным утварэннем *шыкоўны*. Недарма ў друку апошнім часам аналагічныя ўтварэнні замяняюцца на ўласнабеларускія, параўн. *амбіцыёзны — амбіцыйны, венозны — венавы*; прыгадаем: *рэлігійны* і (рас.) *религиозный*.

***"Ракавы́*** кніжн. ***роковой".*** Вось гэты цуд бачым у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 2. Мн., 1989. С. 376). Але гэтага слова *"ракавы́"* не падае нават 5-томавы "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", у якім нямала небеларускіх словаў. У расійскай мове слова *роковой* — прыметнік ад *рок*, якое кваліфікуецца так: *"Рок, -а,* м. Высок. *Судьба* (обычно злая, грозящая бедами, несчастьями и т.п.). *Злой рок*". Тут падаецца і *роковой* з наступнай характарыстыкай: "Предопределённый, по суеверным представлениям, роком, неотвратимый, неизбежный; гибельный, смертельный, несущий горе, несчастье, страдания; решающий, предопределяющий судьбу чего-либо" (Тамсама).

У беларускай мове рас. *рок* адпавядае *лёс*, а прыметніку *роковой — фатальны, наканаваны, суджаны, пагібельны; роковой исход болезни — пагібельны вынік (канец) хваробы*" (РБС-93. Т. 3. С. 261). Як бачым, гэтае *"ракавы"* "пералезла" з правай, расійскае, часткі на беларускую "роковым" чынам, без усякіх на тое падставаў. Не бачым яго і ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года. Не было яго і ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года.

У народнай мове слова *ракавя* бытуе з тым значэннем, што і літаратурнае

*гадавы. Ракавое сьвята.* Утворана ад *рок* 'год', вядомага старажытнабеларускай, польскай ды іншым мовам. Яно фіксуецца і "Беларуска-расійскім слоўнікам" 1926 года.

***Зарука, заклад — а не залог.*** Слова *заклад* мае значэнне 'гарантаванне звароту пазыкі шляхам перадачы крэдытору якой-н. каштоўнай рэчы, маёмасці', а таксама 'сама рэч, пакінутая таму, хто даў пазыку'. З значэннем 'гарантыя, доказ, сведчанне' натуральным ёсць слова *зарука.* Гэтае слова актыўна выкарыстоўваў Якуб Колас: "*Адно толькі цешыла сэрца: народ не хоча зміpыцца з такім ладам. І ў гэтым — **зарука** перамогі*". Ім карыстаюцца і сучасныя знаныя літаратары: "*Спадзяюся, што Новы год прынясе на нашу зямлю цеплыню любові і даверу, гарантыі незалежнасці і дэмакратыі, **заруку** поспехаў і дабрабыту*" (Г.Бураўкін. Наша слова. 1998. № 1). Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова *залог,* а толькі *заклад* і *зарука.*

У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча слова *заклад* мае значэнне рас. *залог; пари* (с. 109). В.Ластоўскі сведчыць: "*Залог* м. — *зарука, заклад. Аддаў у заклад гадзіннік. Узяў у заклад яго рэчы. Гэта будзе нам **зарука** сямейнага шчасця. **Зарука** лепшай будучыні*" (РК(Б)С. С. 193).

А вось слоўнікі 50—80-х гадоў забыліся на свае словы і "ўзялі на ўзбраенне" ўсесаюзнае *залог.* У РБС-53 чытаем: "*Залог* 1. *залог, заклад;* 2. перан. *залог; в залог дружбы — у залог дружбы*" (с. 150). Гэты артыкул паўтараюць і ўсе наступныя яго перавыданні. І калі слова *заклад* яшчэ падаецца поруч з *залог,* то *зарука* ўжо і не прыгадваецца з гэтым значэннем.

Ад *заклад* і натуральнае слова *закладнік,* якому ў расійскай мове адпавядае *заложник.*

***Абедны — а не абедзенны.*** Прыметнік *абедны* ўтвораны з выкарыстаннем суфікса *-н-,* які далучыўся да асновы абед-: *абед-н-ы.* Параўн. *калядны, агародны* і пад. "*Захаплялі сваім хараством бясконцыя лугі, фантастычныя слупы белага дыму ад кастроў, калі ў **абедны** перапынак рабочыя смажылі на ражэнчыках сала*" (Анатоль Іверс. Сум і радасць // Гарадзенскія запісы. Вып. 3. Гродна, 1997. С. 114).

Форма *абедзенны,* якую падаюць акадэмічныя слоўнікі, нічым не апраўданая. Суфікс *-енн-* беларускай мове неўласцівы, яго бачым у словах, пазычаных з расійскай. Дый там ён звычайна далучаецца да ўтваральнае асновы, якая канчаецца збегам зычных з апошнім санорным гукам: *молитвенный, огненный, фирменный, язвенный, казарменный.* У беларускай мове тут маем *малітоўны, агнёвы, фірмавы, язвавы, казармавы...*

Беларускай мове ўласцівыя свае словаўтваральныя заканамернасці: *перапынак на абед і абедны перапынак; пасляабедная праца* і пад.

***Паліва — а не гаручае.*** Слова *гаручае* слоўнікі тлумачаць так: паліва для рухавікоў (нафта, бензін і інш.) (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 34). Адсюль відаць, што гэтае *гаручае* — штучнае ў беларускай мове слова, механічна перанесенае ў беларускую мову з расійскае. Утварэнні з суфіксам *-уч-* беларускай мове неўласцівыя. Параўн. рас. *горючие слёзы — горкія слёзы.*

Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі рас. *горючее* перакладаюць як *паліва*. Яно лёгка матывуецца ('тое, што паліцца') і мае натуральную беларускую будову (суфікс *-іва*). Так, у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн., 1994. С. 43) бачым: *горючее — паліва*. Тое сама і ў РБСМ: *горючее — паліва* (с. 27) і ў РБФС-99: *горючее — паліва, горючий — паліўны, запальны* (с. 68). Гэта ж фіксуе і "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (с. 42): *горючее — паліва, горюче-смазочный — паліўна-змазкавы, жидкое горючее — вадкае паліва, ядерное горючее — ядзернае паліва*. У расійскай мове словы *горючее* і *топливо* выступаюць як тоесныя: *ядерное топливо* і *ядерное горючее*. Таму ў беларускай мове ў абодвух выпадках выкарыстоўваецца натуральнае слова *паліва*.

Семантычна і структурна рас. *горючее* адпавядае бел. *гарыва* 'тое, што гарыць'. Як і *паліва* 'тое, што паліцца'. Або параўн.: *гарыўная і паліўная вадкасць — горючая жидкость* (Расейска-беларускі вайсковы слоўнік С.Судніка і С.Чыслава. С. 60). *Ядерное топливо — ядзернае паліва, жидкое топливо — вадкае паліва* (Тамсама. С. 210).

***Дрыготны і дрыготкі — а не дрыжачы.*** "*Вочы яго свяціліся, усмешка блукала па твары і гучаў залівісты смех, і нават **дрыготкі** напачатку голас узмацнеў, набыў танкаўскае гучанне*" (Полымя. 1997. № 9. С. 226). "*Ды і ты б на яго месцы паверыў, калі б пачуў мой **дрыготны** голас і ўбачыў натуральныя слёзы*" (Сымон Белы. Пра дзядзьку Якуба // Полымя. 1997. № 10. С. 267); *дрыготкае святло — дрожащий свет* (РБС-93. Т. 1. С. 409). Словы *дрыготны* і *дрыготкі* ўтвораныя ад назоўніка *дрыготка*, якое выступае як словаўтваральны сінонім да *дрыжыкі, дрыжанне* (гл. РБС-93. Т. 1. С. 409: *дрожь ж. — дрыжыкі, дрыжанне, дрыготка)*. Як бачым, беларуская мова на месцы рас. суфіксаў *-ащ-(-ящ-),-ущ-(-ющ-)* мае свае адметныя натуральныя словаўтваральныя сродкі — суфіксы *-н-* і *-к-*. Параўн. *плыўкі* як адэкватнае рас. плавучий (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 140), а таксама: *гарыўная вадкасць, паліўная вадкасць — горючая жидкость* (Тамсама. С. 60); *дрыготкі (дрыжачы) гук — дрожащий звук* (Белорусско-русский паралексический словарь-справочник: Пособие для учителя / Под ред. А.Е.Михневича. Мн.: Народная асвета, 1985. С. 94).

***Заступнік — і намеснік.*** Слова *заступнік* як адпаведнік рас. *заместитель* у 20-х гадах было асноўным. В Ластоўскі падае: "*Заместитель — заступнік, намесьнік*" (ПРК(Б)С. С. 194). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 117) чытаем: "*Заступнік* м. — *заместитель*". Слова *намеснік* аўтары падаюць з наступнай кваліфікацыяй: "*Намесьнік* м. — *наместник, заместитель*" (с. 184). Сэнс слова *заступнік* — 'той, хто заступае на пасаду пры адсутнасці першай асобы (начальніка, загадчыка і пад.)'. Яму дакладна адпавядае рас. *заместитель* — 'тот, кто замещает (первое лицо)'. Слова *наместник* бытавала і ў расійскай мове, але ад яго, як не надта выразнага зместам, расійская мова адмовілася. Затое яго накінулі бе-

ларускай мове (дзеля "збліжэння моваў"). "Словарь русского языка" (Т. 2. М., 1982. С. 371) фіксуе гэтае слова з трыма значэннямі: "*Наместник, -а, м.* 1. Устар. Заместитель кого-л., лицо, облеченное кем-л. правами, полномочиями. 2. Ист. Дожностное лицо в Древней Руси, возглавлявшее местное управление. 3. Глава местного управления в России в конце 18 — начале 20 в.; правитель губернии в конце 18 в., в 19 — начале 20 в. — правитель окраинных областей (Кавказа, Польши), обладавший правами верховной власти от имени главы государства". Як бачым, у расійскай мове гэтае слова было досыць змястоўным. Але савецкія рэаліі прымусілі адмовіцца ад яго і ўжыць новае ўтварэнне — з прыстаўкаю *за-* (і суфіксам *-тель): заместитель*. А вось каб не знікла яно, накінулі мове народу "окраинных областей".

Між тым беларускае *заступнік* — найбольш адэкватнае рас. *заместитель: Заместить (замещать) → заместитель, заступать → заступнік.*

Слова *заступнік* уласцівае і ўкраінскай мове, дзе яно мае два значэнні: "*Заступник* 1) *заместитель; заступник прокурора — заместитель прокурора;* 2) *защитник, заступник;* книжн. *покровитель*" (Українсько-російський словник. Київ, 1977. С. 240). Яно ўтворанае ад дзеяслова *заступати* (временно исполнять чьи-л. обязанности), *замещать* (Тамсама). Аналагічнае ўтварэнне бачым і ў заходнеславянскіх мовах: чэш. *zastupca,* славац. *zastupca,* пол. *zastępca* ды інш.

Наяўнасць гэтых словаў у заходнеславянскіх мовах, відаць, і запалохала ідэалагічных цэнзараў, якія загадалі выкрасліць яго з беларускага слоўніка. І таму пасля сумнавядомай пастановы СНК БССР 1933 года слова *заступнік* з значэннем 'намеснік' ужо нідзе не згадваецца ў акадэмічных беларускіх слоўніках. Яго месца трывала заняло застарэлае расійскае слова, толькі напісанае па-беларуску: *намеснік (< наместник).*

Падчас адраджэння, калі былі перавыдадзеныя слоўнікі 20-х гадоў, слова *заступнік* стала зноў выкарыстоўвацца ў маўленні: "*Калі папраўдзе, то намнога болей, чым на пасадзе міністра земляробства, здолеў зрабіць ён (Смоліч) і як* ***заступнік*** *старшыні Рады Міністраў Рэспублікі*" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 207).

Знайшло сваё адлюстраванне слова *заступнік* і ў новых тэрміналагічных слоўніках. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (С. 63) засведчана: "*заместитель — намеснік, заступнік*".

З разгледжанага відаць, што слова *заступнік* мае ўсе падставы для актыўнага выкарыстання і ў пісьмова-кніжных стылях мовы як адпаведнік рас. *заместитель.*

***Грымотны, бразготны і бразгатлівы — а не грымучы і бразгучы.*** Прыметнік *грымотны* ўтвораны ад назоўніка *грымоты* 'раскацістыя гукі грому, бою і пад.' і мае два значэнні: "1) Які стварае гром, грымоты; з грымотамі. 2) Моцны, аглушальны. *Праз хвілін дзесяць бор аглушыўся* ***грымотным*** *выбухам...*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 88). Яго значэнне і структура досыць выразныя і натуральныя. Слова *грымучы* — пазычанне з расійскае мовы, адкуль яно прыйшло як кампанент тэрмінаў; параўн.: "*Гремучий — грымучы;*

*гремучая змея — грымучая змяя; гремучая ртуть* хім. *грымучая ртуць; гремучий газ* хім. *грымучы газ*" (РБС-53. С. 103). Структура гэтага слова штучная для беларускае мовы, слова створанае паводле расійскай мадэлі "аснова дзеяслова + суфікс *-уч-*". Параўн. у тэксце: *"вір песень **грымучых**, у адзін голас, у адзін **магучы**..."*

*Бразготны* — прыметнік, утвораны ад назоўніка *бразгат* ці дзеяслова *бразгатаць* з дапамогаю прадукцыйнага суфікса *-н-* ( з перацягваннем націску на наступны склад слова пад уплывам назоўніка *бразготка*): *бразгат-ны → бразготны*. Наш "Тлумачальны слоўнік" замест гэтага натуральнага слова падае штучную структуру *бразгучы* 'які можа *бразгатаць*' (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 399). Але ўжо з самой дэфініцыі гэтага прыметніка відаць штучнасць структуры *бразгучы*, бо ад *бразгатаць* было б "бразгатучы" (паводле гэтае штучнае мадэлі). А натуральнае вытворнае слова ад *бразгатаць — бразготны*. Бачым у слоўніку і прыметнік *бразгатлівы* 'які ўтварае многа бразгату' (Тамсама. С. 398). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае словы *бразгатлівы* і *бразгучы* як адпаведнікі рас. *дребезжащий* (с. 130). Аднак "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы фіксуе наступнае:"*Дребезжащий* прил. *бразгатлівы, брынклівы*" (Т. 1. С. 231). Тое сама бачым і ў яго перавыданні 1993 года (Т. 1. С. 406). Як бачым, слова *бразгучы* не прызнаецца за літаратурную норму. Гэта пацвярджаецца і тым, што новы "Тлумачальны слоўнік" не падае яго.

***Ад'езнікі ці ад'язджаючыя? Суправаджальнікі ці суправаджаючыя?*** Слова *ад'езнікі* ўтворана паводле натуральнае мадэлі "аснова аддзеяслоўнага назоўніка + суфікс *-нік-*" (з значэннем асобы: *ад'езд-нік-і → ад'езнікі*). Форма *ад'язджаючыя* — калька рас. *отъезжающие*, утвораная паводле расійскай мадэлі (аснова дзеяслова цяперашняга часу + суфікс *-уч-*), якая беларускай мове неўласцівая. Пра штучнасць гэтае мадэлі шматкроць згадвалася ў друку. Ад такіх утварэнняў адмовіліся нават тэрмінолагі і не фіксуюць іх у слоўніках. Таму на месцы *суправаджаючых* (асобаў) натуральна ўжыць заканамернае ўтварэнне *суправаджальнікі*.

***Паўзунка, сядунка — а не паўзучая, сядзячая (фасоля).*** Слова *паўзунка* — натуральнае ўтварэнне ад дзеяслова *паўзці* з выкарыстаннем суфікса назоўнікаў жаночага роду *-унк-*а: *паўзунка*. Параўн.: "*Паўзуны*. Клас пазваночных жывёл, якія перамяшчаюцца пераважна паўзком (змеі, яшчаркі, кракадзілы, чарапахі)" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 453). Фасолю, якая не ўецца на тычках, а расце нізкая, як бы сядзіць на месцы, называюць *сядунка*: *"У нас не любяць тычкавое пасолі, бо трэба тычкаў дагібелі на яе, а **сядунка** расьце сабе пры зямлі і струкоў дае шмат*" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

Формы *паўзучы, сядзячы* — штучныя пазычанні з расійскае мовы, дублёры сваіх словаў. Параўн. іх дэфініцыі: "*Паўзуны*... перамяшчаюцца паўзком..." і "*паўзучыя* — якія перамяшчаюцца шляхам поўзання" (ТСБЛМ. С. 453).

***Абвестка, абвясціць, абвяшчэнне ці аб'ява, аб'явіць, аб'яўленне?***

Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі словаў *аб'ява, аб'явіць.* Ластоўскі засведчыў: "*Объявлять* што — *апавяшчаць, агалашаць; объявление ср. апавяшчаньне, агалошаньне*" (ПРК(Б)С. С. 400). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (С. 8—9) чытаем: "*Абвестка ж. — объявление, повестка; афиша.* $НТ_2$. *Абвесьціць* см. *абвяшчаць. Абвешчаны — объявленный. Абвяшчаць, -весціць* што — *объявлять, -вить; извещать, -вестить (волю). Абвяшчэньне н. — объявление, оповещение, извещение*".

Пасля рэформы беларускай мовы 1933 года дзеля "збліжэння моваў" у беларускі слоўнік былі ўціснутыя і расійскія словы. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года чытаем: "*Объявление* ср. 1. (действие) *аб'яўленне, абвяшчэнне;* 2. (извещение) *аб'ява, абвестка; объявленный — аб'яўлены, абвешчаны; объявлять* несов. *аб'яўляць, абвяшчаць; объявляться — аб'яўляцца, абвяшчацца*" (с. 346).

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года слова *абвясціць* фіксуе з 4 значэннямі: "*Абвясціць* сов. 1. *Объявить; провозгласить; возвестить; абвясціць перапынак — объявить перерыв; абвясціць вайну — объявить войну; абвясціць незалежнасць краіны — провозгласить (объявить) независимость страны;* 2. (каму) *оповестить* (кого); 3. *Объявить, огласить;* (приговор — ещё) *произнести; абвясціць парадак дня — объявить (огласить) повестку дня;* 4. (признать кем-л.) *объявить; провозгласить, абвясціць імператарам — провозгласить императором*" (с. 23). Тыя сама 4 значэнні маюць і словы *абвяшчаць* і *абвяшчэнне* (Тамсама. С. 23—24). На с. 42 падаюцца і іх дублеты: "*Аб'ява* ж. — *объявление; аб'явіцца* сов. разг. *объявиться; аб'явіць* сов. *объявить*; (документ — ещё) *огласить*".

Амаль без зменаў паўторана гэта і ў двухтомавым перавыданні "Беларуска-рускага слоўніка" (Т. 1. Мн., 1988. С. 29, 55). Без зменаў падаюцца словы *аб'ява, абвестка, аб'яўленне, абвяшчэнне, аб'явіць* і *абвясціць* і ў беларускай частцы РБС-82 і РБС-93.

А вось у маўленчай практыцы на адметнабеларускія словы (з коранем *-вест-*) было накладзена табу: іх у перыядычным друку 50—80-х гадоў амаль нідзе не выкарыстоўвалі, а толькі расійскамоўныя (з коранем *-яв-*). Гэтая традыцыя працягваецца з рэдкім выняткам і сёння ў сродках масавай інфармацыі. У выкарыстанні згаданых словаў адбылося поўнае "зліццё моваў", дакладней — паглынанне адметнабеларускага.

Недзяржаўныя газеты, а таксама нацыянальныя часопісы і газеты ("ЛіМ", "Полымя", "Роднае слова", "Наша слова" ды інш.) сталі карыстацца сваімі словамі.

***Парабак ці батрак?*** Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова *батрак,* а толькі *парабак.* У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча: "*Парабак* м. — *батрак*" (с. 222). В.Ластоўскі падае: "***Батрак** м. наемны работнік для сельскагаспадарчых работ; **парабак** (ад слова "рабіць"); **найміт** гаворыцца больш аб **падзённым работніку***..." (ПРК(Б)С. С. 17). Як сведчыць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн.,

1978. С. 329—330), *батрак* — пазычанне з расійскай мовы, у якую яно трапіла ад татараў. У беларускіх слоўніках яно пастаўлена побач з сваім словам дзеля набліжэння да расійскае мовы. У "Русско-белорусском словаре" 1953 года нават на першым месцы: "*Батрак — батрак*, м.; *парабак; батрацкий — батрацкі, парабкоўскі, батрачество — батрацтва, парабкоўства, батрачить — батрачыць, батрачка — батрачка, парабчанка, батрачный — батрачны, парабчанскі*" (с. 27). Тут слова *парабкаваць* нават не згадваецца, а толькі *батрачыць*. Праўда, наступныя перавыданні — двухтомавае 1982, 1991 і трохтомавыя 1993 і 1994 гадоў ужо на першае месца вынеслі сваё слова, а пазычанне — за ім, а слова *батрачный* мае эквівалентам толькі *парабчанскі* (РБС-82. Т. 1. С. 46; РБС-93. Т. 1. С. 77—78). У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года і яго двухтомавым перавыданні беларускаму слову адпавядаюць два расійскія: "*Парабак -бка* м. — *батрак, работник*" (БРС-62. С. 621; БРС-88. С. 121), а слову *парабкоўскі* — тры словаўтваральныя сінонімы: *батрацкий, батрачий, батраческий*. У беларускай мове ёсць і намінацыя падлетка-парабка, ёю выступае ўтварэнне з суфіксам *-ук: парабчук*, якое перакладаецца на расійскую мову двума словамі: "*Парабчук, -ка,* м. *батрак (подросток)*" (БРС-88. С. 121).

Як бачым, усе падставы для перавагі мае слова *парабак* — выразна матываванае як сэнсава, так і будоваю.

***Аднoўнік — а не аднавіцель.*** Утварэнні з суфіксам *-цель*, як ужо згадвалася, беларускай мове неўласцівыя. Расійскім лексемам з *-тель* звычайна адпаведнікамі выступаюць беларускія словы (з прадметным значэннем) з суфіксам *-нік,-льнік* і інш.: *уловитель — улоўнік, опреснитель — апраснядьнік, разрыхлитель — разрыхляльнік* і пад. Натуральным адпаведнікам рас. *восстановитель* ёсць беларускае *аднoўнік*. Але першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года падае наступнае: "*Восстановитель — аднавіцель*" (с. 71). Праўда, прыметнік ад гэтага слова не мае ў сваім складзе *-цель: восстановительный — аднаўленчы*. Гэта таксама сведчыць пра штучнасць скалькаванага слова *аднавіцель*. На жаль, яго бачым у БРС-62 і БРС-88, а таксама ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 157), праўда, без спасылкі на крыніцу выкарыстання. А вось "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы не падае яго, тут бачым: "*Восстановитель* (вещество) *аднoўнік*" (с. 123). Гэта пацвярджае і трохтомавы "Русско-белорусский словарь" 1993 года: "*Восстановитель* (вещество) *аднoўнік, -ка* м., *восстановительный — аднаўленчы*" (Т. 1. С. 214). Гэтае нормы і трэба трымацца, а не пераносіць у беларускі слоўнік штучныя формы, уласцівыя іншым мовам, як гэта робіць "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 41), перапісаўшы артыкул з расійскіх даведнікаў. Параўн.: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 89): "*Восстановитель*. Вещество, с помощью которого производится реакция восстановления (состава, цвета и т.п.). *В.* для волос" і ў ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 41): "*Аднавіцель*... Рэчыва, пры дапамозе якога робіцца рэакцыя аднаўлення (саставу, колеру і пад.). *А.* для валасоў".

***Кірайніца, стырно і руль.*** В.Ластоўскі адпаведнікамі рас. *руль* і *кормило* лічыць слова *стырно*. Ён піша: "*Кормило* ср. — хвост вадаплава, які кіруе яго паваротамі; *стырно, стыраваць*" (ПРК(Б)С. С. 278); "*Руль* м. часьць усякага вадаплава, прыладжаная да карна (кармы), да кіравання вадаплавам; *стырно, стыраваць, стырнік -ніца*" (с. 623). "Русско-белорусский словарь" 1953 года таксама засведчыў: "*Кормило* ср. *стырно, руль; у кормила власти — каля стырна ўлады*" (с. 214). "*Руль* м. (*кормило*) *стырно*" (с. 598). Тое сама бачым і ў перавыданні РБС-82 і РБС-93. А вось у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 і 1988—1989 гадоў ужо кваліфікуюць слова *стырно* як застарэлае: "*Стырно* ср. уст. *руль* м., *кормило; стырно ўлады* высок. *бразды правления*" (БРС-89. С. 520). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 360) не абкрадае слоўнік свае мовы, не заганяе адмысловыя беларускія словы *стырно* і *стырнік* у закутак застарэлых. У ім чытаем: "*Стырно*, -а, н. 1. *Руль. Камбайн папыхвае дымком. Здаецца — люльку курыць. Сядзіць Айдуля* **за стырном**. *Пад сонцам вочы жмурыць.* Калачынскі. 2. перан.; чаго або якое. Кніжн. Тое, пры дапамозе чаго кіруюць чым-н. *Дзяржаўнае стырно*. Колас." Тут падаюцца як стылёва нейтральныя і словы *стырнаваць* 'кіраваць стырном'; *стырнавы, стырнік* 'чалавек, які кіруе стырном на судне' і пад.

У жывой народнай мове з значэннем 'руль' (веласіпеда, аўтамабіля і пад.) выкарыстоўваецца слова *кірайніца* (тое, чым кіруюць). Гл.: П.Сцяцко. Дыялектны слоўнік (З гаворак Зэльвеншчыны. Мн., 1970. С. 78—79): "*Кірайніца*, *-ай* ж. Руль (веласіпеда). *От навучыўсё егдзіць. Ногі на* ***кірайніцу*** *і бяз рук едзя*".

Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі таксама карыстаюцца адмысловымі беларускімі словамі: "*Руль* 1. (общ.) — *кірайніца, руль* 2. (морск.) *стырно*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 183).

***Крумкач, крук, груган — а не воран.*** Расійскае *ворон* В.Ластоўскі перакладае наступным чынам: "*Ворон* м. птах з пароды варон, чорны ўвесь з адлівам: *крук. Лесавы крук: крумкач*" (ПРК(Б)С. С. 83). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча таксама бачым: "*Крук, крумкач* м. — *ворон*". А таксама "*Груган* м. — *ворон*". Усе наступныя перакладныя слоўнікі да рас. *ворон* падаюць толькі *груган* і *крумкач*. А вось самы асіміляцыйны даведнік, двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" фіксуе і наступнае: "*Воран* м. см. *крумкач*" (БРС-88. С. 239). Паводле каментару слоўніка (с. 10. Значэнне спасылак), гэта азначае, што "Спасылачнае слова ўжываецца ў мове радзей або мае зніжаную стылістычную афарбоўку". Дзеля чаго спатрэбілася падача гэтага "воран" у слоўніку? Слова *воран* не падае ніводны іншы слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Нават шасцікнігавы "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы".

У выдатнага знаўца мовы Рыгора Барадуліна чытаем: "*Жайранак абнашчыцца расінкай, Падаллю насыціцца* ***крумкач***... *Неба корміць жайранка з далоні.* ***Крумкача*** *гадуе дол глухі*" (Да цябе душой і думкамі хінуся // ЛіМ. 2.01.1998).

***Мысляр і мысліцель.*** Слова *мысліцель* апошнім часам набывае сваіх аднакаранёвых апанентаў без суфікса *-цель* (гэты словаўтваральны фармант беларускай мове неўласцівы, пра што няраз згадвалася). Так, у перыядычным друку сустракаем: *мыслівец* і *мысліўца, мысляр*. У Рыгора Барадуліна, надта адмысловага словатворцы, знаходзім два іншасуфіксавыя аднакаранёвыя варыянты: "*І знайшоў пункт апоры **мысліўца***" (Полымя. 1995. № 7. С. 4); "*І, задумаўшыся, не варухнуцца камяні — незразуметыя **мысляры***" (ЛіМ. 2.01.1998). У газеце "Пагоня" (19.09.1997): "*245 гадоў з дня нараджэння Ераніма Страйкоўскага, **мысляра** і правазнаўца другой паловы 18 стагоддзя*". У Антаніны Хатэнкі, чуйнай да слова пісьменніцы, часта сустракаецца слова *мысляр*. Напрыклад: "*Але творцы-**мысляры** ўсёдаравальныя — са свае духоўнае вышыні яны сыходзяць да нас*" (Наша слова. 1998. № 1). Яно створана паводле дзейнай у беларускай мове словаўтваральнай мадэлі: аснова дзяслова (або назоўніка) + суфікс *-ар(-яр)*. Як і *пісар, друкар, змагар*.

Можна меркаваць, што наватвор *мысляр* стане трывалым канкурэнтам, а затым і адмысловым беларускім адпаведнікам рас. *мыслитель*. Як і *мыслёвы* замест *мысліцельны* (< рас. *мыслительный*). Параўн.: "*Вучэнням гэтых **мысляроў** супрацьстаяла пазіцыя Карла Маркса*" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі: Дапаможнік для студэнтаў. Мн., 1996. С. 6); "*Варта згадаць, што яшчэ ў XVIII ст. славуты нямецкі пісьменнік і **мысляр** Георг Крыстоф Ліхтэнберг сцвярджаў: "Больш за золата змяніў свет свінец...*" (Роднае слова. 1998. № 3. С. 118).

***Кахля ці кафля?*** Слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі *кахля*. У В.Ластоўскага: "*Кафля ж. печная плінта ўзорамі ці гладкая, найчасцей паліваная: **кахля***" (ПРК(Б)С. С. 253). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча: "*Кахля ж. — изразец*". Форму *кахля* бачым у слоўніках Насовіча, Бялькевіча, Касяпровіча, Шатэрніка, у дыялектных слоўніках гродзенскіх гаворак — Таццяны Сцяшковіч, Апанаса Цыхуна і аўтара гэтых радкоў. Форма *кахля* адпавядае першакрыніцы — ням. *Kachel*. Аднак сучаснай нормай лічыцца чамусьці *кафля* — форма, больш блізкая да тае, што замацавалася ў расійскай мове, — *кафель*. І вытворныя прыметнікі падагнаныя пад расійскую структуру. Так, у РБС-82 бачым: "*Кафель м. кафля ж.; кафельный — кафляны, кафельны*" (Т. 1. С. 350). А ў народнай мове Гарадзеншчыны: *кахля* і *кахлёвая печка*. Форма *кахля* выкарыстоўвалася і класікамі нашай літаратуры. У Якуба Коласа чытаем: "*Ды яшчэ бульбу ў **кахлянай** печы свінні варылі*" (У двары пана Тарбецкага). Параўн.: "*Вось **кахлянку** перараблю*" (В.Рагойша. Шлях да Максіма Танка // Полымя. 1999. № 9. С. 165; "*Яны сядзяць абедзве, груба-**кахлянка** гарыць, па тэлевізары кіно глядзяць*" (Янка Брыль. З новых запісаў // Полымя. 2000. № 11. С. 20). Дык можа варта вярнуцца да традыцыйнай формы?

***Адкрутка, шрубоўка, за́шрубка — а не адвёртка.*** Слова ***адвёртка*** ад дзеяслова *адвёртваць* (*адвёрт-ка*). Але такога дзеяслова беларуская мова не ведае. Рас. *отвернуть, отвёртывать* мае наступныя беларускія адпаведнікі: "*Отвернуть* сов. (отвинтить) — *адкруціць*, мног. *паадкручваць*,

*отвернуть гайку — адкруціць гайку; отвернуть кран — адкруціць кран. Отвёртывать* несов. (отвинчивать) *адкручваць*" (РБС-93. Т. 2. С. 380). Ад дзеяслова *отвёртывать* і ўтворана *отвёртка*, якое згаданы слоўнік падае з двума значэннямі: "*Отвёртка* ж. 1. (действие) *адкручванне*; 2. (инструмент) *адвёртка*" (Тамсама). Як бачым, слова *адвёртка* — гэта рас. *отвёртка*, прыстасаванае да беларускай марфемнай структуры слова (прыстаўка *от-* замененая на беларускую *ад-*). А натуральным тут мае быць беларускае *адкрутка*, утварэнне ад дзеяслова *адкруціць*. Гэта вынікае і з дэфініцыі слова *адвёртка*, якую бачым у тлумачальным слоўніку: "*Адвёртка* м. Інструмент для закручвання і выкручвання шрубаў" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 33).

Але больш прыдатнае тут слова *шрубоўка* — утварэнне ад дзеяслова *шрубаваць* 'укручваць або выкручваць шрубу' (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 393). Яно не звязваецца з адным пэўным працэсавым значэннем дзеяслова (*адкруціць / адкручваць*), а ахоплівае ўвесь семантычны абсяг дзеяння, якое з дапамогай гэтага інструмента выконваецца: *шрубаваць → шрубоўка*. А.В.Ластоўскі падае з гэтым значэннем слова *зашрубка* — "тупое далатцо да закручваньня і адкручваньня шрубоў" (ПРК(Б)С. С. 185). Штучнасць формы слова *адвёртка*, якая не мае свае матывацыі, свайго дастасавання да ўтваральнае базы, відаць, была падставаю да таго, што гэтае слова не занатаванае ў 5-томавым "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (нават у яго дадатку — другой кнізе пятага тома, дзе бачым нямала слоў, адсутных у 5 тамах слоўніка).

***Апора* — ■ *не аплот*.** Рас. *оплот* В.Ластоўскі фіксуе з беларускімі адпаведнікамі *апора, агарода* (ПРК(Б)С. С. 414). Усе беларускія слоўнікі адпаведнікам расійскага *оплот* падаюць сваё слова *апора*. У РБС-53: "*Оплот* м. — *апора*; *оплот мира и безопастности — апора міру і бяспекі*" (С. 358); БРС-82: "*Оплот* м. высок. *Апора*" (Т. 1. С. 603); РБС-93: "*Оплот* м. высок. *апора, -ры* ж." (Т. 2. С. 349).

Не падаюць у беларускай частцы гэтага слова і БРС-62 і БРС-88, 89, а толькі: *апора — оплот*. А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 250) знайшоў месца і для гэтага "*аплота*", узяўшы яго з цытаты Леніна (перакладчык на беларускую мову не пазначаны): "*Аплот* м. Надзейная абарона, цвярдыня, *апора*". І пайшоў гуляць гэты "*аплот*"па старонках друку.

Дарэчы, на наступнай старонцы гэтага слоўніка фіксуецца слова *апора* з тым сама значэннем "сіла, якая падтрымлівае каго-н., садзейнічае ўмацаванню чаго-н."

А ў "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 133) чытаем і наступнае: "*Апора* ж. в разн. знач. *опора;* (надёжная защита — ещё) *оплот* м."

Дык ці трэба мяняць выразна матываванае, трывала замацаванае ў мове і лексікаграфічнай практыцы слова *апора* на штучнае для беларускае мовы з невыразнаю матывацыяй *аплот*?

***Ялінка* (*навагодняя*) — *а не ёлка*.** У беларускай мове слова *ёлка* мае

тое значэнне, што і рас. *горько*. Гэта засведчыў і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). На с. 100 чытаем: "*Ёлка* прс.— *горько*". Гэтае прыслоўе ўтворанае ад прыметніка: "*Ёлкі — горький*". У тым жа слоўніку справядліва занатавана: "*Яліна, ялінка* ж. — *ель; еловый шест*" (с. 355).

У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" таксама чытаем: "*Яліна*, -ы ж. Высокая ёлка. *На **ялінах**... віселі шышкі-таўкачыкі і залаціліся на сонцы. Старыя хвоі і **яліны** / / Высока кінуўшы галіны / / Глядзелі хораша, любоўна*. Колас." (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 500).

Вельмі выразна выяўляецца адметнасць беларускай мовы (параўнальна з расійскаю ў дачыненні да згаданых словаў) у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы. У другой кнізе пятага тома на с. 500 чытаем: "*Яліна* ж. *ель*. *Ялінка* ж. уменьш.-ласк. *ёлочка*". Менавіта гэтае адценне ласкальнасці ў слове *ялінка* і перадае святочны настрой надыходнага свята Новага году: "*Прынесці дадому пад Новы год **ялінку** — было маім клопатам. Ужо само аздабленне **ялінкі** — для нас вялікае свята, свяшчэнны рытуал. Чаканне цуду ці — хоць нечага лепшага*" (ЛіМ. 1998. 2 студз. С. 11). Або ў Ларысы Геніюш: "*Святы калядны вечар / / І я яшчэ дзіця / / Уся **ялінка** ў свечках / / А на стале куцця*" (ЛіМ. 9.01.1998). "*І менавіта ва ўрачыстасць Божага Нараджэння мы адзначаем дзвюхтысячную гадавіну Сына Божага... Таму недастаткова толькі... паспяваць калядкі, упрыгожыць **ялінку***" (Народная воля. 2000. 23 снежня).

***Фэст і фестываль.*** Слова *фэст* у 20-х гадах выкарыстоўвалася з значэннем 'царкоўнае свята'. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 333) фіксуе: "*Фэст* м. — *престольный праздник*". І наступныя слоўнікі гэта пацвярджаюць: РБС-53: "*Престольный праздник* рел. *фэст* м., *храмавое свята*" (с. 502); БРС-62: "*Фэст* род. *фэсту* м. церк. *праздник* (*престольный*)" (с. 989).

І ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" слова *фэст* падаецца як адпаведнік рас. *праздник (престольный)*, з паметай "церк." (Т. 2. Мн., 1989. С. 658).

Аднак слова *фэст* ужо далёка выйшла за межы згаданага колішняга зместу. У наш час словам *фэст* называюць не толькі "царкоўнае прастольнае свята" (часцей каталіцкае), але і наогул свята з кірмашамі і пагулянкамі. І нават якое-небудзь мерапрыемства святочнага кшталту. Такі змест гэтай намінацыі вызначае і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 163). У старабеларускай мове: "*фестъ — свята, урачыстасць*" (Старабеларускі лексікон. Мн., 1997. С. 159). Слова *фестываль* згаданы слоўнік фіксуе з значэннем "грамадская ўрачыстасць з паказам і праглядам якога-небудзь віду мастацтва" (с. 126).

Сучасная ж маўленчая практыка словы *фэст* і *фестываль* нярэдка выкарыстоўвае як тоесныя сваім значэннем, аддаючы перавагу больш пашыранаму і працягламу ў выкарыстанні слову *фэст*.

***Слезацечны, слезагонны газ — ці слёзатачывы?*** Нашыя перaклад-

ныя слоўнікі ў абедзвюх частках — расійскай і беларускай — падаюць тое сама: *слезоточивый (газ) — слёзатачывы* (БРС-82. Т. 2. С. 397); *слёзатачывы — слезоточивый* (БРС-89. С. 480). У сучасным друку з гэтым значэннем выкарыстоўваецца больш зразумелае, матываванае слова — *слезацечны*: "*Людзей білі і запіхвалі ў спецыяльныя машыны. Пры гэтым ужываўся* ***слезацечны*** *газ, электрашокеры і дубінкі*" (Свабода. 1997. 18 лютага. "Адукацыя за мяжой").

У тэрміналагічным даведніку С.Судніка і С.Чыслава "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" бачым больш дакладны беларускі адпаведнік: *слезагонны газ — слезоточивый газ* (с. 191), *атрутнае рэчыва слезагоннага дзеяння — отравляющее вещество слезоточивого действия*.

Тэрмін *слезагонны газ* — досыць выразна выяўляе сутнасць паняцця (рэаліі), абазначанага ім, чаго не скажаш пра *слёзатачывы газ*, бо *тачывы* — ад *тачыць*, а яно не мае значэння 'вылучаць, выганяць, гнаць'.

***Агмень і ачаг.*** Слова *ачаг* — пазычанне з цюркскіх моваў (Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. 3. Мн., 1971. С. 177). Рас. *очаг* В.Ластоўскі падае з наступным каментаром і перакладам на беларускую мову: "*Очаг* м. *под вогнішча; агмень, вогнішча*" (ПРК(Б)С. С. 439). Гэтыя словы — *агмень* і *ачаг* — не фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. Не бачым гэтых словаў і ў "Этымалагічным слоўніку беларускай мовы". "Русско-белорусский словарь" 1953 года і яго наступнае перавыданне 1982 года фіксуюць толькі: "*Очаг* в разн. знач. *ачаг; очаговый — ачаговы*" (РБС-53. С. 384; РБС-82. Т. 1. С. 646). Трохтомавы "Русско-белорусский словарь" дае больш падрабязную кваліфікацыю гэтага слова і яго беларускіх адпаведнікаў: "*Очаг* ■ разн. знач. *ачаг* м.; (о центре, сосредоточении чего-л. — ещё) *асяродак; очаг войны — ачаг (асяродак) вайны; очаг культуры — ачаг (асяродак) культуры; очаг заболевания — ачаг (асяродак) захворвання; очаговый — ачаговы, асяродкавы*" (РБС-93. Т. 2. С. 429).

Аднак моўная практыка, нацыянальны беларускі друк і сёння карыстаецца словам *агмень*, бо яно этымалагічна больш празрыстае, чым пазычанне *ачаг*. "*Нараджэнню таго, што ствараецца намі, спрыяе наш нязводны хатні* ***агмень*** *— непагаснае цяпельца, якое мы пастаянна падтрымліваем, сілкуем цяплом уласных душ*" (ЛіМ. 3.01.1998); "*Калісьці і Адысей бачыў у марах дым з* ***агменяў*** *роднага паселішча*" (Роднае слова. 1998. № 5. С. 55); "*У выпадку дэнацыяналізацыі чалавек губляе падыходы да найглыбейшых крыніцаў духу і да святога* ***агменю*** *жыцця, бо гэтыя крыніцы і гэты* ***агмень*** *заўжды нацыянальныя...*" (А.Трусаў. Шлях на Галгофу: Драматычны лёс беларускай мовы. Вільня, 2000. С. 3); "*Спадчына, як пупавіна. І досвіткам лучынай доўжыць імгненне прашчураўскага* ***агменю***" (Р.Барадулін); "*Як-ніяк свой кут, свой* ***агмень*** *у яго ёсць*" (А.Дудараў). Бачым гэтае слова і ў тэрміналагічным даведніку С.Судніка і С.Чыслава "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" (с. 133—134): "*Очаг — агмень, очаг войны — агмень вайны, очаг заражения — асяродак заражэння, очаг инфекции — асяродак інфекцыі, очаг сопротивления — асяродак супраціву*".

***Газаахоўнік — процівагаз.*** Расійскае слова *противогаз* нашыя слоўнікі "перакладаюць" так: "*Противогаз — працівагаз, супрацьгаз*" (РБС-53. С. 545); "*Противогаз — процівагаз, -за* м." (РБС-82. Т. 2. С. 254; РБС-93. Т. 2. С. 107). Аднак новыя тэрміналагічныя слоўнікі знайшлі сваё слова — *газаахоўнік*. Яго падае "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997). На с. 165 чытаем: "*противогаз — газаахоўнік,-ка*". Яно досыць выразна перадае існасць таго зместу, які абазначае.

***Зімка — а не азімка.*** Пшаніца, якую сеюць увесну, называюць *яравая* або *ярка*, а якую сеюць на зіму — *зімка*. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча зафіксаванае: "*Зімовае — озимъ; зімавы — озимый*". "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 352) падае: "*озимая пшеница — зімка*". Двухтомавае яго перавыданне 1982 (РБС-81. Т. 1. С. 593), падаючы тое, што і яго аднатомавы папярэднік (РБС-53), разам з тым кваліфікуе слова *зімка* як размоўнае. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года засведчыў: "*Зімка ж. — озимая пшеница*" (с. 337). А вось двухтомавае яго перавыданне фіксуе ўжо не толькі натуральнае для беларускай мовы *зімка*, але і: "*Азімка ж. — озимая пшеница*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 110). Гэта — з падачы некага Вішнеўскага — натуе і ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 203). А натуральнае слова *зімка* кваліфікуецца ўжо як гутарковае (Т. 2. Мн., 1978. С. 474).

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года і яго двухтомавае перавыданне 1988—1989 гг. справядліва падаюць на сваіх старонках аднамадэльнае слова *ярка*. У другім томе чытаем: "*Ярка* 2 сущ. ж. с.-х. *яровая пшеница*". Менавіта абодва гэтыя словы — *ярка* і *зімка* і павінны кваліфікавацца як нарматыўныя: *яравая пшаніца — ярка, зімовая пшаніца — зімка*, а не падагнаная пад расійскую мову *азімка*.

***Выйгранка, знайда, знайдзён — ці выйгрыш, знайдыш?*** Слова *выйгранка* ўтворанае ад *выйграць, выйграны* і мае выразную семантыку і структуру. У расійскай мове яму адпавядаюць аж чатыры словы. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года засведчыў: "*Выйгранка* ж. — *выигрыш, выгода, польза, расчёт*" (с. 168). Тое сама бачым і ў двухтомавым перавыданні яго (БРС-88. Т. 1. С. 259).

А РБС-53 рас. *выигрыш* перакладае толькі як *выйгрыш; быть в выигрыше — быць у выйгрышы*. Двухтомавае яго перавыданне (РБС-82. Т. 1. С. 145) фіксуе ўжо два словы, згадаўшы і беларускае *выйгранка* (а не толькі расійскае *выйгрыш*). Тут чытаем: "*Выигрыш* м. *выйгрыш* м., *выйгранка* ж.; *выигрыш во времени — выйгрыш (выйгранка) у часе*". Тое сама засведчыў і РБС-93 (Т. 1. С. 252).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" ўжо поўнасцю перайшоў на "выйгрыш", у ім не знайшлося нават месца для свайго адмысловага слова. Між тым утварэнні з суфіксам *-ыш* неўласцівыя беларускай мове. Расійскім лексемам з гэтым суфіксам у беларускай мове адпавядаюць бяссуфіксавыя (нульсуфіксавыя) ці іншасуфіксавыя ўтварэнні: *найдёныш — знайда, выкор-*

*мыш — выкармак* і *кормнік, заморыш — заморак, оборыш — абіркі, зародыш — зародак, слепыш — сляпак, укладыш — укладка, малыш — малое, малеча; ледыш — лядзяк* ды пад.

Таму і *знайдыш* трэба кваліфікаваць як неўласцівае беларускай мове, на яго месцы маем *знайдзён* (ад *знайдзены → знайдзён)* ці *знайда*. Слова *знайда* занатаванае ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). На с. 129 бачым: *"Знайда* аг. — *найдёныш*". Слова *знайдзён* зафіксаваў двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988. С. 529), але без перакладу яго, а з адсылкаю да "больш блізкага да расійскага" *знайдыш*, якое мае адпаведнік *найдёныш*.

***Цепланосьбіт — а не цепланасіцель.*** У другім томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1989. С. 657) чытаем: *"Цепланасіцель* м. техн. *теплоноситель*". А ў першым томе (Мн., 1988. С. 802) зафіксавана: *"Носьбіт* м. в разн. знач. *носитель; носьбіт ідэі — носитель идей; носьбіт інфекцыі — носитель инфекции*". Дык чаму ў першым томе дзвюхмоўнага слоўніка падаецца пераклад слова (*носьбіт — носитель)*, а ў другім томе яго ўжо няма? Іншыя ж складаныя словы маюць свой пераклад у другой частцы: "*цеплаахова — теплозащита, цеплазабеспячэнне — теплоснабжение, цеплаўтварэнне — теплообразование*". Сярод іх і спецыяльныя словы з рознымі паметамі, у іх ліку і "техн.": *цёплаёмістасць* ж. физ. "*теплоёмкость, цеплапеpанікальны* физ. *теплонепроникаемый, цеплапаглынальны* физ. *теплопоглощающий, цеплапразрысты* физ. *теплопрозрачный, цеплаcтрата* ж. физ. *теплопотеря, цеплафікаваны* техн. *теплофицированный*".

У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 237) бачым наступную дэфініцыю гэтага слова: *"Цепланасіцель,-я,* м. Рухомае асяроддзе (газ, пара, вадкасць), якое скарыстоўваецца для пераносу цеплаты". А раз яно (асяроддзе) скарыстоўваецца для пераносу цяпла, то і назоў яго — *носьбіт цяпла* ці (аднаслоўная намінацыя) — *цепланосьбіт*. Пра гэта сведчыць і апісанне значэння слова *носьбіт* у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 416): *Носьбіт*... "Аб рэчах, прадметах і пад., якія валодаюць якімі-н. уласцівасцямі"; "...***носьбіты*** *пераможнага гулу — гарматы*... Брыль".

Штучнасць для беларускай мовы тэрміна *цепланасіцель* відавочная. Расійскае *теплоноситель* складаецца з дзвюх частак-кампанентаў: *носитель* и *тепло*: у беларускай мове няма слова "*насіцель*", а толькі *носьбіт*. Напрыклад, у РБС-82 чытаем: "*Носитель — носьбіт, -та* м." (Т. 1. С. 551). І ўсе іншыя акадэмічныя беларускія слоўнікі падаюць толькі *носьбіт*, якому ў расійскай частцы адпавядае *носитель*. Усё згаданае і сведчыць пра ненатуральнасць, штучнасць гэтага "*цепланасіцель*" на месцы натуральнага слова *цепланосьбіт*.

Новыя тэрміналагічныя слоўнікі падаюць менавіта гэты натуральны беларускі тэрмін-эквівалент расійскага слова з суфіксам *-тель* (у беларускай мове гэты словаўтваральны фармант не мае прадукцыйнасці). Так, у "Руска-бела-

рускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн.: Навука і тэхніка, 1994. С. 242) засведчана: "*теплоноситель — цепланосьбіт*". Тое сама і ў РБСМ (с. 114) і РБФС-99 (с. 372).

***Баравік — а не белы грыб.*** Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча засведчыў: "*Баравік* м. — *белый гриб*" (с. 42). І ў першым акадэмічным "Русско-белорусском словаре" 1953 года падаецца: "*Белый гриб — баравік*" (с. 31). Тое сама бачым і ў двухтомавым яго перавыданні (РБС-82. Т. 1. С. 53): "*белый гриб — баравік*") і трохтомавым (РБС-93. Т. 1. С. 90). А "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года ўжо натуе і такое: *белы грыб — белый гриб* (с. 123). Гэта паўтарае і яго двухтомавае перавыданне (Т. 1. Мн., 1988. С. 182).

А вось тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы не падаюць гэтае намінацыі, як рэестравага слова, а толькі натуральную: "*Баравік,-а,-і,-оў*, м. Высокакаштоўны ядомы грыб з светла- ці цёмнакарычневай шапкай і белай тоўстай ножкай" (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 340; ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 82).

Як паказвае карта № 279 "Баравік" у пяцітомавым "Лексічным атласе беларускіх народных гаворак" (Т. 1. Раслінны і жывёльны свет. Мн., 1993), лексема *баравік* пашыраная на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Зрэдку сустракаюцца іншыя назвы: *грыб, добры грыб, дабрак, добрык, праўдзівы грыб, праўдзівік, праўдзівец, справядлівы грыб, шчыры грыб...* А вось найменне *белы грыб* мы тут не сустрэнем.

Такім чынам, адзінай нарматыўнай намінацыяй высокакаштоўнага страўнага грыба з светлай ці цёмнакарычневай шапкай і белай тоўстай ножкай ёсць *баравік*.

***Помпа — а не насос.*** Слова *помпа* як адпаведнік рас. *насос* занатаваў яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 241). Гэта пацвердзіў і "Русско-белорусский словарь" 1953 года, у якім бачым: "*Насос* м. техн. — *помпа*, ж.; *нагнетательный насос — нагнятальная помпа; воздушный насос — паветраная помпа; всасывающий насос — усмактальная помпа; поршневый насос — поршневая помпа; топливный насос — паліўная помпа*" (с. 290). Гэты артыкул цалкам захаваны ў двухтомавым перавыданні (Т. 1. Мн., 1982. С. 497) і трохтомавым (Т. 2. Мн., 1993. С. 156 і Т. 2. Мн., 1998. С. 156).

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года, які рэдагаваў К.Крапіва, падае слова *насос* як ненармаванае. На с. 756 першага тома бачым: "*Насос* II м. см. *помпа*". А вось двухтомавае перавыданне яго (Т. 1. Мн., 1988. С. 757) падае і наступнае: "*Насос* II м. (для накачивания воздуха) *насос*". У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 312): "*Насос* [2] *,-а*, м. 1. Тое, што і *помпа* [1]. 2. Прылада, пры дапамозе якой напампоўваюць паветра ў шыну веласіпеда, аўтамабіля і пад. *Чалавек трымаў на вентылі шланг насоса, а я зноў пачаў напампоўваць*". "Прылада, пры дапамозе якой напампоўваюць", і ёсць *помпа*, а "*насосом насасывают*" (накачивают). Гэтая вось штучнасць адразу кідаецца ў вочы. Бо яно з "чужое моўнае практыкі" (Я.Скрыган) і ўсунута дзеля "зліцця моваў". Гэтую недарэчнасць паўтарыў і новы, аднато-

мавы "Тлумачальны слоўнік". А вось тэрміналагічныя слоўнікі падаюць натуральныя лексемы. У згаданым "Руска-беларускім фізічным слоўніку" (Мн., 1994) засведчана: *"Насос — помпа"* (с. 130). Гэтае нормы пільнуецца і "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" (Мн., 1997. С. 109): *"насос — помпа,* ж.р.", а таксама РБСМ (с. 60) і РБФС-99 (с. 195): *"насос — помпа, паветраная помпа, вадзяная помпа, іённая помпа".*

***Друкавальная машынка — а не пішучая.*** Нашыя слоўнікі механічна, без перакладу падаюць намінацыю: *"пишущая машинка — пішучая машынка"* (РБС-53. С. 250). А вось дэфініцыя яе: "Пішучая машынка — механізм з клавішамі для ручнога *друкавання* тэксту" (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 130). З гэтага тлумачэння натуральна вынікае — *друкавальная машынка*, бо яна — *для друкавання тэксту.* Пра недарэчнасць "пішучая машынка" пісаў у "Нашым слове" У.Содаль. Былі прапановы даць гэтай прыладзе і назву *машынапіска.* Але матывацыя ў гэтым выпадку не зусім дакладная.

***Склеп і пограб.*** Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі слова *пограб* у беларускай частцы, а толькі ў расійскай. Так, "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 290) засведчыў: *"Склеп* м. — 1) *склеп;* 2) *погреб, подвал".* В.Ластоўскі падае: *"Погреб* м. — *склеп, поднік, поруб"* (ПРК(Б)С. С. 482). І ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 436) бачым: *"Погреб — склеп,* род. *склепа* м.; *винный погреб — вінны склеп; пороховой погреб — парахавы склеп".* Гэты слоўнікавы артыкул поўнасцю паўтораны і ў двухтомавым перавыданні слоўніка (РБС-82. С. 84). У трохтомавым "Русско-белорусском словаре" 1993 года таксама бачым: *"Погреб — склеп; винный погреб — вінны склеп; пороховой погреб — парахавы склеп; погребок* — уменьш. *скляпок"* (Т. 2. С. 577—578). У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года слова *пограб* падаецца як ненарматыўнае, з адсылкаю да *склеп.* Гэты артыкул паўтораны ў двухтомавым перавыданні, дзе бачым: *"Пограб* см. *склеп". "Склеп* м. 1. *погреб; подвал, подполье* ср.; *вінны склеп — винный погреб; парахавы склеп — пороховой погреб;* 2. (погребальный) *склеп"* (БРС-89. С. 472).

А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" парушае згаданую лексічную норму, падаючы на сваіх старонках і гэтае з расійскае мовы — *пограб* "яма з крытым верхам і сценамі з бярвення, якая служыць для захавання бульбы, гародніны" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 285). Тут бачым *пограб* і з значэннем "ніжняя частка дома, падвал, дзе захоўваюцца прадукты". *"Бульбу перанеслі ў сенцы, саставілі мяшкі наўкруг, над **пограбам**.* Паўлаў".

Як бачым, слоўнік парушыў літаратурную норму. Новы "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не падае гэтага слова, а толькі *склеп* (з абодвума значэннямі) (ТСБЛМ. С. 603).

***Гэблік (і гэбель) — а не рубанак.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 85) падае: *"Гэбель* м. — *рубанок".* Бачым гэтае слова і ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года (с. 220): *"Гэбель,* род. *гэбля* м. *рубанок; пасля гэбля тапаром — после рубанка топором".* Двух-

томавае перавыданне падае ўжо два словы: "*Гэбель*, род. *гэбля* — рубанок; *Гэблік м. рубанок*" (БРС-88. С. 342).

Ад слова *гэбель* у беларускай мове шмат вытворных, якія бачым на старонках слоўніка: *габлёвы, габлёўка, габлюшка, габлявальны, габлявальшчык, габлявальшчыца, габляванне, габляваны, габлявацца, габляваць.*

А вось слова *рубанак* з значэннем 'гэблік, гэбаль', якое падае "Русско-белорусский словарь" 1953 года і ўсе наступныя перавыданні, не маюць сваіх родзічаў. Для абазначэння дзеяння, інструментам выкарыстання якога ёсць *гэбель (гэблік)*, натуральна ў беларускай мове выступае дзеяслоў, утвораны ад назоўніка *гэбель — габл-яваць* і вытворныя ад яго. А вось ад *рубанак* — іх няма. Дык навошта побач з словам *гэбель (гэблік)* падаваць яшчэ *рубанак?* "Русско-белорусский словарь" 1953 года зусім не падае слова *гэбель*, а толькі: "*Рубанок — рубанак, -нка* м." (с. 596). Але ж на с. 666 бачым: "*Строгать (рубанком) габляваць*". Слова *гэбель* слоўнік падае як эквівалент рас. *струг*. На с. 667 чытаем: "*Струг* I техн. I. (инструмент для строгания) *гэбель,-бля* м.; (нож с двумя ручками) *струг*". Аднак двухтомавае (РБС-82) і трохтомавае перавыданні (РБС-93) не пацвярджаюць гэтага. У іх слова *струг* маюць абедзве часткі слоўнікаў. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 102) даецца наступнае вызначэнне гэтаму інструменту: "*Гэбель, -бля* м. Сталярны інструмент у выглядзе калодкі з клінам і шырокім лязом для стругання дрэва. *Даніла Платонавіч нешта майстраваў — габляваў дошачку... на паліцы паблісквалі інструменты:* ***гэблі***, *пілкі...*". "*Гэблік*. памянш. да *гэбель; невялікі гэбель*".

Слову *рубанак* даецца наступнае вызначэнне: "Сталярны інструмент у выглядзе калодкі з шырокім жалезным лязом для стругання драўніны". Яно амаль поўнасцю перапісанае з слоўнікаў расійскае мовы, адкуль і механічна перанесенае ў беларускія слоўнікі. Але ж яно тут адзінотнае, не мае сваіх каранёў і вытворных словаў. Тымчасам як *гэблік* (і *гэбель*) складае шматлікае лексічнае гняздо з выразна матываваным значэннем.

Так што ўсе падставы для выкарыстання як нарматыўнае лексічнае адзінкі мае толькі слова *гэблік* (і *гэбель*).

***Пасад, столец — а не прастол.*** Слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі слова *пасад* як адпаведнік рас. *престол*. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча чытаем: "*Пасад* м. — *престол*" (с. 224). І ў "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" В.Ластоўскага бачым: "*Престол — пасад. Царскі, каралеўскі, князеўскі, біскупскі пасад*" (с. 543). І гістарычная літаратура гэта пацвярджае: "*Ад 1127 да 1159 году Расьціслаў займаў нават Кіеўскі* ***пасад***, *а на сваё месца ў Смаленск пасадзіў аднаго з трох сыноў — Рамана (1160—1174). Па смерці Расціслава кіеўскі* ***пасад*** *захапіў Мсьціслаў Ізяслававіч*" (Беларусь учора і сёньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Мн.: Навука і тэхніка, 1994. С. 23).

Пасля рэпрэсіяў 30-х гадоў слова *пасад* з гэтым значэннем ужо не згадваецца ў беларускіх слоўніках. "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі фіксуе: "*Престол* I. *трон*; 2. церк.

*прастол*" (с. 502). Слова *трон* падаецца і ў перакладзе словаў з гэтым коранем: "*Престолонаследие — пераход у спадчыну трона*". Іншыя найменні гэтага кшталту перакладаюцца тут так: "*престольный город — стольны (сталічны) горад, престольный праздник — фэст, храмавое свята*" (Тамсама).

А вось "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы падае ўжо наступнае: "*Прастол* м. в разн. знач. *престол*" (с. 727). А слова *пасад* з значэннем рас. *престол* тут не згадваецца (як і слова *трон*).

Двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 г. падае ў беларускай частцы два словы — адпаведнікі аднаго расійскага. На с. 183 другога тома чытаем: "*Престол* 1. *прастол, трон;* 2. церк. *прастол*". Гэтыя два словы падаюцца і ў перакладзе вытворных словаў: "*престолонаследие — пераход у спадчыну прастола (трона), престолонаследник — наследнік прастола (трона); престольный праздник — прастольнае свята, храмавое свята, фэст*".

Пазнейшыя слоўнікі, каб яшчэ хутчэй "зліць мовы", ужо не сталі перакладаць рас. *престолонаследие, престолонаследник,* а падаюць іх жыўцом, напісаўшы толькі з улікам беларускай фанетыкі. Так, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 370) чытаем: "*Прастоланаследдзе, прастоланаследнік*". Тут ужо і горад не *стольны (сталічны)*, як гэта было ў ранейшых слоўніках, а *прастольны*, і свята *прастольнае*, ды пад.

Праўда, двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 2. Мн., 1989. С. 275) падае толькі *прастоланаследнік* і *прастоланаследніца*, а "прастоланаследдзе" не змяшчае на сваіх старонках. Відаць, усё ж адчулі яго складальнікі недарэчнасць штучнага для беларускай мовы слова. А вось "Тлумачальны слоўнік" 1996 года механічна прадубляваў свайго папярэдніка, дакладна перадаўшы дэфініцыю гэтага слова з расійскіх слоўнікаў; параўн.: 1) "*Прастоланаследдзе,-я*, н. Парадак прымання ў спадчыну *прастола*, улады манарха. *Закон аб прастоланаследдзі*" (ТСБМ. Т. 4. С. 370; ТСБЛМ. С. 501); 2) "*Престолонаследие,-я*, ср. Порядок *наследования престола*, власти монарха. *Закон о престолонаследии*" (Словарь русского языка: В 4 т. Т. 3. Изд. 2-е. М., 1984. С. 385). Аднак нават з самой дэфініцыі відаць штучнасць гэтага рэестравага слова *прастоланаследдзе* ў беларускай мове. Калі ў расійскай мове дэфініцыя і рэестравае слова добра стасуюцца між сабою ("*Престолонаследие* — порядок *наследования престола*"), то ў беларускай гэтага няма, бо на месцы "наследование (престола)" бачым "атрыманне ў спадчыну (прастола)". І гэта натуральна, бо рас. *наследие* па-беларуску *спадчына, а наследнік — спадчыннік*. Адсюль таксама відаць штучнасць перанесеных у беларускі слоўнік лексемаў *прастоланаследнік, прастоланаследніца* (разам з дэфініцыяй; параўн.: "*Прастоланаследнік, -а*, м. *Наследнік прастола*" і рас.: "*Престолонаследник, -а*, м. *Наследник престола*" (Тамсама. С. 385).

Або як тлумачыцца значэнне гэтага слова: "*Наследник*... Асоба, якая атрымала *спадчыну* або мае права на яе атрыманне". З гэтае дэфініцыі таксама

вынікае натуральнае слова *спадчыннік* (асоба, якая атрымала *спадчыну*...), а не штучнае *наследнік* (ад рас. *наследие*).

Між тым беларуская мова, як мы пераканаліся, мае свае адмысловыя адпаведнікі да гэтага старaславянскага слова.

Слова *пасад* — нульсуфіксавае ўтварэнне ад *пасадзіць*. Яно мае трывалыя карані ў беларускай мове. Акрамя значэння 'трон' слова *пасад* шырока выкарыстоўваецца ў вясельным абрадзе: *пасад* 'месца, куды *садзяць* нявесту', а таксама 'наогул *месца, сядзенне*'. Напрыклад, у кнізе Максіма Лужаніна "Колас расказвае пра сябе" чытаем: "*У творчыя дні Канстанцін Міхайлавіч пакідаў свой* ***пасад*** *пад вязам хутка*". Або ў Янкі Купалы: "*Занімай, Беларусь маладая мая, / / Свой пачэсны* ***пасад*** *між народамі!..*"

Як бачым, сваё слова *пасад* вельмі натуральнае. Яно трывала ўвайшло ў беларускі слоўнік з багатай семантыкай. І адмаўляцца ад яго на карысць чужога няма ніякай патрэбы.

Знакаміты беларускі гісторык Мікола Улашчык выкарыстоўваў з гэтым значэннем слова *столец*. Ён пісаў: "*Цяпер жа ў беларускіх публікацыях... так і пішуць — "****прастол****". А было ж скрозь "****столец****"* (Голас Радзімы. 15.02.1996. "Казаў Улашчык").

Тут бачым сваё ўтварэнне ад спрадвечнага *стол: стол-ец*. Слова ж *прастол* — падагнанае пад беларускую фанетыку старaславянскае *престол* (з непаўнагалоснаю прыстаўкаю *пре-*, якой адпавядае бел. *пера-*; параўн. *преследование — перaслед)*.

***Разьбяр — а не рэзчык.*** "*Выстава майстроў народнай творчасці "Кругазварот" адкрылася ў Браславе. Тут можна ўбачыць калядныя маскі з саломы, распісныя велікодныя яйкі, вясельны пірог і саламяных птушак, разнастайныя ручнікі і паясы, абразы — жывапісныя і вышытыя, работы* ***рэзчыкаў*** *па дрэве і керамістаў, ткачых і майстроў лазапляцення*" (ЛіМ. 1998. 20 лютага. С. 4).

"Рэзчык па дрэве"... Такая намінацыя беларускай мове не ўласцівая. Майстар мастацкай *разьбы па дрэве* па-беларуску — *разьбяр*. Гэтае найменне беспасярэдна выводзіцца ад *разьба (разьб-яр)*. Яго падаюць усе беларускія слоўнікі: БРС-26: "*разьбяр* м. — *ваятель, скульптор*"; РБС-53: "*резчик* (мастер по художественной *резьбе) — разьбяр*"; БРС-62: "*разьбяр* — иск. *резчик, ваятель*"; РБС-82: "*резчик* (мастер по худож. резьбе) — *разьбяр*"; БРС-89: "*разьбяр — резчик*". І ў ТСБМ бачым: "*Разьбяр* — майстар па мастацкай *разьбе*" (Т. 4. 1980. С. 628), што пацвярджаецца ілюстрацыяй з мовы твораў Якуба Коласа: "*Да крыжа была прыбіта фігурка Хрыста, зробленая з дрэва невядомым* ***разьбяром***". Але ж "Тлумачальны слоўнік" пайшоў і на парушэнне лексічнай нормы, змясціўшы на с. 753 гэтага ж тома і неўласцівае беларускай мове слова "рэзчык" як дублет нармаванага *разьбяр*, ілюструючы гэтае "рэзчык" з твора Рунца. Гэтую недарэчнасць прадубляваў і новы "Тлумачальны слоўнік". Ён нават першым падае гэтае значэнне: "*Рэзчык*[1]... 1. Майстар па мастацкай разьбе, *разьбяр*. 2. Рабочы, які займаец-

ца *рэзкай* чаго-н. (спец.) Р. *паперы*// ж. *рэзчыца*// прым. *рэзчыцкі*" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 574).

Штучнасць формы "рэзчык" на месцы натуральнага *разьбяр* відаць з самой дэфініцыі наймення, бо "майстар па мастацкай разьбе" і ёсць *разьбяр*. А *рэзчык* — той, хто займаецца *рэзкай* чаго-н. (паперы і пад.). Да таго ж гэты лексікаграфічны артыкул поўнасцю спісаны з аднатомавага расійскага даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 601), дзе чытаем: "*Резчик*[1] 1. Мастер по художественной *резьбе*. 2. Рабочий по *резке*, *разрезанию* чего-н. (спец.)// ж. *резчица*,// прил. *резчицкий*".

Перакладны "Русско-белорусский словарь", які вытрымаў сем выданняў, не падае гэтага *рэзчык* з значэннем 'разьбяр'. У выданні 1993 года (Т. 3. С. 243) чытаем: "*Резчик* 1. (мастер по художественной резьбе), *разьбяр*, *-ра* м.; 2. (резальщик) *рэзчык*, *-ка* м; *резчица* 1. *разьбярка*, 2. *Рэзчыца*".

***Звязак, звяз, звязь, повязь, злучнасць — ці толькі саюз, сувязь?*** Ад слова *вязаць*, *звязаць* (*звязваць*) натуральныя ўтварэнні: *звязак*, *звяз*, *звязь*, *повязь* ды пад. Іх фіксавалі слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў. Так, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 132) падаецца: "*Зьвязак* м. — *связь*; *союз*". В.Ластоўскі рас. *союз* тлумачыць як "узаемная зьвязь" (ПРК(Б)С. С. 679). І.Насовіч таксама зафіксаваў: "*Звязь* ж. *связь, соединение. Не добрая* ***звязь*** *твоя з им*; *Звязок* м. *Связь, отношение друг к другу. Давно звязок маюць меж собою*" (Слоўнік беларускай мовы. Мн.: БелСЭ, 1983. С. 201). І няма ў І.Насовіча словаў "саюз", "сувязь". І ў іншых славянскіх мовах бытуе тое самае: чэш. *svaz* м. — *союз*; *svaz mladeže* — *союз молодежи* (Česko-ruski slovnik. Praha, 1968. С. 807); пол. *związek* 1. *связь, отношение*; 2. *союз*, 3. хим., воен. *соединение* (Wielki słownik polsko-rosyjski. Warszawa—Moskwa, 1967. S. 1327).

Пасля 30-х гадоў на месцы словаў *звяз*, *звязак*, *звязь* у беларускі слоўнік былі ўлучаныя расійскамоўныя *саюз* і *связь* (апошняе крыху зьмененае на *сувязь*), а таксама вытворныя ад іх і нават устойлівыя словаспалучэнні: *в связи с* — *у сувязі з* і пад.

У суверэннай Рэспубліцы Беларусь сталі паступова аднаўляцца ранейшыя беларускія словы. У сённяшнім друку бачым з значэннем рас. *союз* і словы *хаўрус*, *злучнасць*, *задзіночанне*, *згуртаванне*, *таварыства* (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 197). "... *У* ***звязку*** *з нашаю гасціннасцю... прыгадваецца і той столік*" (ЛіМ. 20.02.1998); "*Хрысціянская царква прызнавала шлюб неабходным і трывалым* ***звязам***, *прапагандуючы яго непарушнасць*" (Галіна Дзербіна. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 1997. С. 103); "*Рым распускае Ахейскі* ***звяз***, *у які ўваходзіла гэтая колькасць грэцкіх гарадоў*" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі: Дапаможнік для студэнтаў. Мн., 1996. С. 59); "*У шчыльным* ***звязку*** *з развіццём гандлю развіваецца і інтэлектуальны рух*" (Тамсама. С. 95); "*Я не злуюся, што старыя, сяброўскія* ***звязкі*** *рушацца*" (П.Панчанка // Полымя. 1996. № 7. С. 185).

***Перасled, перасleднік — а не праследаванне, праследавацель.*** Старасlавянскага паходжання дзеясловы трывала замацаваліся ў расійскай мове (з рознымі значэннямі). Нашыя перакладныя слоўнікі савецкага часу амаль без усякіх зменаў зафіксавалі іх (і выводныя ад іх словы) у абедзвюх частках. Так, "Русско-белорусский словарь" 1982 года падае: "*Преследовать* несов. *праследаваць; преследовать врага — праследаваць ворага; преследование* — ср. *праследаванне; преследователь — праследавацель, преследовательница — праследавацельніца*" (Т. 2. С. 183).

Складальнікаў не бянтэжыла, што беларускай мове старасlавянскія формы неўласцівыя. М.Байкоў і С.Некрашэвіч у "Беларуска-расійскім слоўніку" (с. 236) засведчылі: "*Перасьледаваць* каго — *преследовать*". Ад гэтае дзеясloўнае формы (з поўнагалоснай прыстаўкай *пера-*) утварыўся бяссуфіксавым спосабам назоўнік *перасled* і назвы асобы *перасleднік, перасleдніца*. Словы *перасleднік* і *перасleдніца* як адпаведнікі рас. *преследователь, преследовательница* падае ўжо і "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 2. С. 757). Праўда, яны фіксуюцца тут побач з расійскімі словамі (толькі напісанымі па-беларуску) *праследавацель* і *праследавацельніца*, якія падаюцца нават першымі. Гэта ўсё яшчэ даніна згаданага слоўніка сваім папярэднікам — РБС-53, БРС-62, РБС-82, БРС-89. Сучасны нацыянальны друк ужо амаль не выкарыстоўвае гэтых утварэнняў з неўласцівымі беларускай мове прыстаўкай *пра-* (< *пре-*) і суфіксам *цель-*.

Назоўнік *перасled* мадэльна адпавядае іншым аддзеяслоўным назоўнікам — эквівалентам рас. *преследование*. Так, у цытаваным РБС-93 бачым: *преследование* (притеснение)*уціск, прыгнёт*. Але, фіксуючы гэтыя натуральныя нульсуфіксавыя ўтварэнні *уціск, прыгнёт*, слоўнік чамусьці не змяшчае тут аднамадэльнага слова *перасled*. А між тым яно досыць актыўнае ў выкарыстанні на старонках перыядычнага друку. Як і адпаведныя структураю *выступ* (на месцы *выступленне*), *сумнеў* (*сумненне*), *супрацiў* (*супраціўленне*), *параза* (*паражэнне*) ды інш.

***Сеткавіца — а не сятчатка.*** Назоўнік *сеткавіца* стасуецца з прыметнікам *сеткаваты*, утвораным ад *сетка*. Засведчаны ён і "Беларуска-расійскім слоўнікам" (Мн., 1926. С. 286) М.Байкова і С.Некрашэвіча як адпаведнік рас. *сетчатка* (*retina*) і занатаваны "Беларускай навуковай тэрміналогіяй. Вып. 4. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі". Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі таксама карыстаюцца гэтым словам. Так, у "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 166) чытаем: "*Сеткавіца, рэціна, сеткаватая абалонка* — унутраная святлоадчувальная абалонка вока, якая высцілае вокавае дно і пераходзіць спераду ў нейтральны эпітэлій вейкавага цела і вясёлку; ператварае светлавое раздражненне ў нервовае ўзбуджэнне і ажыццяўляе першасную апрацоўку сігналу". А вось акадэмічныя слоўнікі, падаючы натуральнае беларускае слова *сеткаваты* як адпаведнік рас. *сетчатый*, на месцы заканамернага беларускага *сеткавіца* як эквівалента рас. *сетчатка* падаюць не сваё, а

расійскае слова, толькі напісанае паводле беларускага правапісу. Так, у РБС-53 чытаем: "*Сетчатка* анат. *сятчатка,-кі*, ж." (с. 620). Расійскае слова *сетчатка* ўтварылася ад *сетчатый*, а яно ад *сеть* (*сеть → сетчатый → сетчатка*), якому ў беларускай мове адпавядае *сетка*. Гэта засведчана і згаданым слоўнікам: "*Сеть* ■ разн. знач. *сетка*". Тут бачым і наступнае: "*Сетчаткокрылые* мн. сущ. зоол. *сеткакрылыя, -ых*". Дзіўна бачыць вось такую недарэчнасць у акадэмічным слоўніку, калі побач з натуральнымі формамі, што вынікаюць з словаўтваральных заканамернасцяў беларускай мовы, — *сеткакрылыя, сеткаватыя*, фіксуецца небеларуская структура *сятчатка*. Гэта безаглядна паўтарылі ўсе наступныя акадэмічныя слоўнікі — перакладныя і тлумачальныя. Але штучнасць гэтай "сятчаткі" (замест *сеткавіца*) відаць і з самога тэксту, што падаецца ў "Тлумачальным слоўніку" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 123): "*Сеткаватая абалонка* — унутраная святлоадчувальная абалонка вока; *сятчатка*". І як тут дастасаваць вось гэтае "сятчатка" да натуральнае формы *сеткаватая* (*абалонка*). Бо *сятчатка* беспасярэдна вынікае з "сятчаты", ■ на месцы рас. *сетчатый* мы маем *сеткаваты*.

***Сыроватка* — *а не сываратка*.** Беларускай мове ўласцівае спрадвечнае слова *сыроватка* (*сыровадка*), якому ў расійскай мове адпавядае *сыворотка*.

Слова *сыроватка* ў такой натуральнай форме бытуе ці не ва ўсіх славянскіх мовах (акрамя расійскай): укр. *сироватка*, балг. *суроватка*, чэш. *syrovatka*, славац. *srwatka*, пол. *serwatka*, верхнелужыцк. *syrowatka*, ніжнелужыцк. *serowatka*... Паходзіць слова ад першапачатковага *syrovatъ 'які мае дачыненне да сыру' (Гл.: Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. 3. М., 1971. С. 816). У расійскай мове замацавалася этымалагічна штучная форма *сыворотка* — як вынік перастаноўкі гукаў [р] і [в]: *сыроватка > сыворотка*. Дык вось гэтую ненатуральную для беларускае мовы форму *сываратка* падчас барацьбы за "зліццё нацыяў, іх культуры і мовы" накінулі беларускай навуковай тэрміналогіі і замацавалі ў акадэмічных слоўніках. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года бачым: "*Сыворотка* І. (молочная) *сыроватка,-ткі* ж.; мед. *сываратка,-ткі* ж." (с. 673). Прадублявана яно і ўсімі наступнымі акадэмічнымі слоўнікамі. Атрымалася дзіўнае з'явішча: аднаму расійскаму слову (*сыворотка*) у беларускай мове ўжо мусяць адпавядаць не адно (тоеснае этымалагічна), а два словы.

А між тым слоўнікі 20-х гадоў гэтага не дазвалялі сабе. У "Беларускарасійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 307) чытаем: "*Сыровадка* ж. — *сывородка*". І ў "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 184) чытаем: "*Сыроватка крыві* — вадкая частка крыві, якая аддзяляецца ад крывянога згустку пасля згусання крыві па-за арганізмам". Гэтае нормы і трэба трымацца. Тады і сэнс медычнага тэрміна стане больш зразумелы і не будзе зневажацца роднае слова.

***Уладкаваць* — *а не ўстроіць*.** У беларускай мове дзеяслоў *уладкаваць*

мае два значэнні і адпавядае іншакаранёвым расійскім словам *устроить*, *упорядочить*. Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў пад рэдакцыяй К.Крапівы падае: "*уладкаваць* сов. разг. 1. (привести в порядок), *упорядочить; уладкаваць справы — упорядочить дела;* 2. (на работу) *устроиться*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 605). У слоўніку бачым вялікае лексічнае гняздо гэтых аднакаранёвых словаў: *уладкаванне, уладкаваны, уладкаваць-ца, уладкаваць, уладкоўванне, уладкоўвацца, уладкоўваць*. Здавалася б, усё тут годна, як належыць, замацаванае як лексічная норма. Але ж не. На с. 627 усё згаданае ўжо адкідаецца, на месца яго ставіцца расійскае *устроить* (толькі напісанае паводле свайго правапісу): "*Устроіць* сов. 1. *устроить*... 2. *устроить*... 3. *устроить, устроіць на службу — устроить на службу. Устроіцца* сов. ■ разн. знач. *устроиться; устроіцца на работу — устроиться на работу*". Тут ужо і: "Устройства ср. 1. (конструкция) *устройство;* 2. (прибор, механизм) *устройство*".

Вось як "зліваліся" мовы. І каб зрабіць гэта хутчэй, да сваіх словаў прывязваліся біркі-абмежавальнікі "абласное" (як у БРС-62) ці "размоўнае" (у БРС-89). Праўда, усе гэтыя штучныя путы адкінутыя "Русско-белорусским словарём" 1993 года. У гэтым перакладным даведніку ўжо не атаясамліваюцца словы *устроить — устроіць* у дзвюх мовах. Рас. *устроить* у беларускай частцы адпавядае цэлы шэраг адмысловых беларускіх словаў: *змайстраваць, прыладзіць; устроить свадьбу — справіць вяселле; учинить (устроить) скандал — учыніць скандал; упарадкаваць (пакой); наладзіць (сямейнае жыццё), уладкаваць (на службу); падысці, задаволіць; это меня устроит — гэта мне падыдзе, гэта мяне задаволіць*" (Т. 3. С. 633).

А слову *устройство* адпавядае *майстраванне, прыладжванне, спраўлянне, уладжванне, уладкаванне, упарадкаванне; лад, канструкцыя, будова, прылада, абсталяванне* і інш.

Як бачым, кожная мова мае свае адмысловыя словы.

***Жуйка, жуйкавыя — ці жвачка, жвачныя?*** Слова *жуйка* з значэннем рас. *жвачка* падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). На с. 103 чытаем: "*Жуйка* ж. — *жвачка*". Гэтае беларускае слова знайшло сваё адлюстраванне яшчэ ў "Слоўніку беларускай мовы" І.Насовіча: "*Жуйка, -и,* сущ. ж. *Жвачка. Корова* ***жуйку*** *потеряла*" (с. 158). Утварылася *жуйка* ад асновы цяперашняга часу дзеяслова *жаваць: жуй(уць)-ка*. У трыццатых гадах яно было рэпрэсаванае, адкінутае. Відаць таму, што не супадае з расійскім *жвачка* і супольнае з польскім *żujka*. Але ж яно бытуе і ў украінскай мове (*жуйка*). Рас. *жвало* таксама не супадае з бел. *жавала*, але яго не замянілі на "жвала". Параўн. у "Русско-белорусском словаре" 1993 года: "*Жвало* зоол. *жавала, -ла* ср." (Т. 1. С. 424). Адсюль заканамернае рас. *жвачка*, якому мусіла б адпавядаць форма *жавачка*. Ці *жованка*, якое засведчыў згаданы РБС-93: "*Жвачка* (пережеванная масса) *жованка*" (Тамсама). На жаль, і ў гэтым слоўніку бачым у разгляданым артыкуле: *жаваць жвачку* адпаведна рас. *жевать жвачку*, хоць натуральным, нармаваным ёсць слова *жаваць* (а не *жваць*), адкуль "жавачка" і *жуйка*.

Тэрміналагічныя слоўнікі 90-х адраджэнскіх гадоў падаюць менавіта адмысловую беларускую форму слова *жуйка* (а не *жвачка*). Так, у "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча бачым: *жуйкавыя — жвачные* (с. 245). На с. 56 чытаем: "*Гонгіланема.* Паразітуе ў *жуйкавых* у страваводзе, рубцы". На с. 99: "*У жуйкавых* назіраецца празмернае слінацячэнне, ваніты, моцны панос". Або: "*У выніку мы вымушаны абыходзіцца духоўнай* ***жуйкай****, якая запоўніла кнігарні, кінаэкран, эстрадныя падмосткі, тэатральную* сцэну" (ЛіМ. 13.03.1998. С. 10). Як бачым, *жуйка* — натуральнае беларускае слова (супольнае з мовамі суседніх народаў — украінскаю і польскаю).

***Канцавіны ці канечнасці?*** Назоўнік *канцавіны* ўтварыўся ад прыметніка *канцавы,* якое "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 141) падае як адпаведнік рас. *конечный.* "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 624) таксама фіксуе: "*Канцавы, -ая, -ае.* Які знаходзіцца на канцы чаго-н., з'яўляецца канцом. *Канцавы прыпынак аўтобуса. Міхась з Антосем, як старыя, займалі месцы* ***канцавыя*** */ іх трымаліся выключна.* Колас. *Хата Андрэя была* ***канцавая*** *ў вёсцы.* Пташнікаў".

Нашыя акадэмічныя слоўнікі, падаючы розныя беларускія адпаведнікі да рас. *конечный (канцавы, канчатковы)*, разам з тым як тэрміны выкарыстоўваюць тыя формы, што падаюцца ў расійскай частцы. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года і яго перавыданнях РБС-82, РБС-93 чытаем: "*Конечный.* I. *канечны*; *конечная величина* мат. — *канечная велічыня; конечная дробь* мат. — *канечны дроб;* 2. (находящийся на конце) *канцавы;* 3. (являющийся пределом) *канчатковы; конечная цель — канчатковая мэта; в конечном счете — у канчатковым выніку*" (РБС-93. Т. 1. С. 656). А між тым тэрміналагічныя слоўнікі фіксуюць менавіта адмысловыя беларускія тэрміны. У "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ", аўтары Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 34), бачым: "*конечный — канцоўны, конечномерный — канцамерны, конечнозначный — канцазначны.* У РБФС-99: *конечный — канцавы, канчатковы*" (с. 135).

У "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (с. 247) занатавана: "*Канцавіна — конечность*". На с. 95 чытаем: "*Ласты — канцавіны* хрыбетных жывёл, якія другасна вярнуліся да жыцця ў водным асяроддзі". Але ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 615): "*Канечнасці,-ей;* адз. *канечнасць,-і* ж. Рукі і ногі ў чалавека, органы руху ў жывёлы. *Верхнія канечнасці. Ніжнія канечнасці. Заднія канечнасці*". Гэта — амаль поўная копія з "Словаря русского языка" (В 4 т. Изд. 2-е. М., 1982. С. 89): "*Конечности,-ей,* мн. (ед. *конечность,-и, ж.*). Руки, ноги человека, у животных — органы движения. *Верхние конечности. Нижние конечности. Задние конечности*".

*Канцавіна* — натуральнае ўтварэнне ад пашыранага ў беларускай мове

слова *канцавы* (*канцавіна*). Параўн. украінскае *кінцевка* — утварэнне ад аналагічнай прыметнікавай асновы *кінцев-ый*.

***Торба, торбачка, торбачкавы, торбачнікі — ці сумка, сумчатыя?*** Слоўнікі 20-х гадоў фіксавалі натуральныя для беларускай мовы словы: "*Торба* ж. — *сума, котомка*; *торбачка* ж. — *сумочка*; *листовка* (бот.). $HT_6$. *Торбачкавы — сумчатый*. $HT_6$. *Торбачнікі* мн. — *сумчатые животные*. ЗТ" ("Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. Мн., 1926. С. 314). У слоўніку І.Насовіча таксама падаюцца гэтыя словы — *торба і торбачка* — з тым сама значэннем (с. 637). І "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года засведчыў: "*Торба ж. 1. сумка, сума; 2.* (символ нищеты) *сума*; *торбачнік* бот.— *ярутка*; *торбачны — сумочный*" (с. 920). Але ў ім ужо не знойдзем натуральных словаў-тэрмінаў, утвораных ад згаданых словаў і засведчаных БРС-26 (*торбачкавы — сумчатый, торбачнікі — сумчатые*). Слоўнік падае расійскія словы ў абедзвюх частках слоўнікавага артыкула. На с. 898 чытаем: "*Сумчаты* зоол., бот. *сумчатый; сумчатыя* сущ. мн. зоол. *сумчатые*".

Гэтую ж неадпаведнасць бачым і на старонках "Русско-белорусского словаря" 1953 года, дзе заканамерна расійскім словам *сума* і *сумка* адпавядаюць беларускія *торба, торбачка* (з рознымі значэннямі), а вось рас. тэрміналагічныя адзінкі ўжо не перакладаюцца, а падаецца тое сама і ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула. Параўнайце: "*Сума — торбачка, кайстра; ходить с сумой* разг. *хадзіць з торбай; сумка* ж. 1. *торба, торбачка, сумка почтальона — торба паштальёна; дорожная сумка — дарожная кайстра (торба), школьная сумка — школьная торбачка, ранец*, 2. зоол. бот. *сумка; сумчатые* мн. сущ. зоол. *сумчатыя*" (с. 669—670). Прадублявана ўсё гэта і ў наступных перавыданнях слоўніка (РБС-82. С. 457). А дзеля хутчэйшага зліцця моваў рас. *сумочка* ўжо падаецца з наступнымі беларускімі эквівалентамі:"*Сумочка* ж. уменьш. *сумачка; торбачка, кайстрачка*" (тады як у РБС-53 было: "*Сумочка* уменьш. *торбачка, кайстрачка, сумачка*"). Як і прыметнікі, дзе таксама слова, якое стаяла ў сінанімічным шэрагу апошнім, перамясцілася на першае месца: у РБС-53: "*Сумочный — торбачны; кайстравы; ранцавы; сумачны*; у РБС-82: "*Сумочный — сумачны; торбачны; кайстравы*". Тое сама і ў РБС-93 (Т. 3. С. 480). БРС-89 падае: "*Торба* ж. 1. *сумка, сума*; 2. (символ нищеты) *сума; торбачнік* м. бот. *ярутка; торбачны — сумочный*" (с. 557). Але: "*Сумчаты* зоол., бот. *сумчатый; сумчатыя* сущ. мн. зоол. *Сумчатые*" (с. 525).

Не знайшлося месца слову *торбачныя* (*торбачнікі*) і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы". У пятым томе (Кн. 1. Мн., 1983. С. 378) чытаем: "*Сумчаты* 1. Які мае сумку (у 3, 4 знач.). 2. у знач. наз. *сумчатыя, -ых*. Падклас млекакормячых, якія даношваюць дзіцянят у сумцы (у 3 знач.)". Гэта копія з "Словаря русского языка" (Изд. 2-е. Т. 4. М., 1984. С. 307): "*Сумчатый* 1. Имеющий сумку (в 3 и 4 знач.). 2. в знач. сущ. *сумчатые,-ых*, мн. Название подкласса млекопитающих, которые донашивают детенышей в сумке (в 3 знач.)".

А вось тэрміналагічныя слоўнікі 90-х гадоў — часу незалежнай Рэспублікі Беларусь — фіксуюць свае адмысловыя заалагічныя тэрміны, якія ў поўнай згодзе з утваральнымі словамі гэтага лексічнага гнязда. Так, у згаданым "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча чытаем: "*Мішэравы торбачкі* — цысты ў цягліцах жывёл, якія з'яўляюцца адной са стадый развіцця саркацыстаў у прамежкавым гаспадару" (с. 112).

***Сысуны і млекакормячыя.*** Клас вышэйшых пазваночных жывёлаў, дзіцяняты якіх кормяцца малаком, ссучы сваю мацеру, мае назву *сысуны*. Найменне жывёліны атрымалі паводле спосабу іх кармлення — ад *ссаць* (суфіксавае ўтварэнне: *сыс(аць)-уны*).

Тэрмін быў адзіным найменнем гэтага класу пазваночных у 20-х гадах. Яно фіксавалася ў слоўніках В.Ластоўскага, М.Байкова і С.Някрашэвіча. Яго замацавала Тэрміналагічная камісія; знайшоў сваё адлюстраванне гэты тэрмін і ў "Заалагічнай тэрміналогіі Прыродазнаўчае секцыі" Інстытута беларускай культуры. У БРС-26 чытаем: "*Сысуны* м. мн. — *млекопитающие (Mammalia)*. ЗТ" (с. 307).

Найменне *сысуны* мае тую мадэль утварэння, што і *пайзуны* (клас пазваночных жывёлаў — змеі, яшчаркі, кракадзілы, якія перамяшчаюцца поўзаннем): *поўзаць (пайзе) — пайз-уны*, ■ таксама *грызуны (грыз(ці)-уны)*. Нягледзячы на трывалую падставу выкарыстання тэрміна *сысуны*, які мае шмат аднакаранёвікаў (*сысок, сысунок, сысун, сыска (соска)* ды інш.), у 30-х гадах ён быў выдалены з слоўніка літаратурнае мовы, на яго месца пасаджаны расійскі *млекопитающие* (з заменай другой часткі на калькаванае) — *млекакормячыя*. У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года слова *сысуны* падаецца як пераклад рас. *млекопитающий*, але без аніякай характарыстыкі, толькі як спасылка: "см. *млекакормячыя*" (с. 909). Паводле "Прадмовы" гэтае слова "знаходзіцца" за межамі літаратурнае мовы і не рэкамендуецца да ўжывання". Недарэмна ўсе перакладныя дзвюхмоўныя слоўнікі не падаюць слова *сысуны* як адпаведніка рас. *млекопитающие*. У "Беларускай савецкай энцыклапедыі" (Т. 7. Мн., 1973. С. 278) яно згадваецца толькі як другараднае, а рэестравым падаецца паўкалька расійскага: "*Млекакормячыя, сысуны, звяры (Mammalia)*, клас найбольш высокаарганізаваных пазваночных жывёл". Дарэчы, на паседжанні Тэрміналагічнай камісіі БелСЭ на чале з акадэмікам Кандратам Крапівом разгарнулася гарачая спрэчка, які з гэтых двух тэрмінаў — сысу*ны* ці *млекакормячыя* — лічыць асноўным. Пераможным было "указание из ЦК КПБ" — на апошняе з іх. Найменне *сысуны* — натуральнае беларускае слова, якое поўнасцю адпавядае лексічна-семантычнай і марфемна-словаўтваральнай сістэмам беларускай нацыянальнай мовы: яно мае вялікае лексічнае гняздо словаў з тым сама коранем (*сос-/сыс-*) і прадукцыйны словаўтваральны сродак — суфікс *-ун*, які бярэ ўдзел пры ўтварэнні назоўнікаў ад розных часцінаў мовы — дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў: ***лятун, свістун, грызун, пайзун, сысун, уюн, цвіркун; весялун, дзікун, ласун, сляпун, хітрун, таўстун; лясун, пластун, стаўбун, смяхун*** (гл. Беларуская граматыка. Ч. 1. М., 1985. С. 228).

Слова *млекакормячыя* — штучнае, яно парушае фанетычныя і марфалагічныя ўласцівасці беларускай мовы: *млека-* — па-беларуску *малако; кормячыя* — неўласцівая марфемна-словаўтваральнаму ладу нашай мовы мадэль утварэння формаў дзеяслова (дзеепрыметнікаў) з суфіксам *-яч-*. Зразумелаю, натуральнаю калькаю рас. *млекакормячыя* было б хіба што *малакакормныя*. Але нашто тое калькаванне, калі нашая мова мае сістэмавае ўтварэнне *сысуны*, якое дакладна азначае адметную уласцівасць гэтага класу жывёлінаў.

Тэрміналагічныя слоўнікі, выдадзеныя падчас незалежнай Рэспублікі Беларусь, падаюць гэтае натуральнае слова *сысуны*. Напрыклад, у "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 258) чытаем: "*Сысуны — млекопитающие*". На с. 56: "*Грудная поласць* — поласць у *сысуной*, аддзеленая ад чарэўнай поласці грудачарэўнай перашкодай". Або: "*Залозы малочныя* — відазмененыя скураныя потавыя залозы ў *сысуной*, якія вылучаюць малако ў перыяд кармлення дзіцянят". У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 435) засведчана: "*Сысун,-а*, м. І. Дзіцяня млекакормячай жывёліны, якое ссе маці. 2. толькі мн. (*сысуны,-оў*). Тое, што і *млекакормячыя*".

Такім чынам, ёсць усе падставы адмовіцца ад штучнага "млекакормячыя" на карысць натуральнага ў беларускай мове *сысуны*. Сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае адмысловае беларускае слова *сысуны*. Напрыклад: "*У біялагічным і эвалюцыйным сэнсе гэтыя **сысуны** з'яўляюцца найбліжэйшымі суродзічамі чалавека*" (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн., 1995. С. 18).

***Уступны артыкул, уступная лекцыя* — ■ *не ўводны, уводная*.** У перыядычным друку, у некаторых кнігах можна прачытаць: *уводная глава, уводная лекцыя, уводны артыкул*. Ці па-беларуску гэта? Слоўнікі 20-х гадоў такога не фіксавалі. На старонках "Беларуска-расійскага слоўніка" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 319) чытаем толькі наступнае: "*Уводны — обольстительный, обманчивый*".

У перакладных акадэмічных слоўніках слова *ўводны* падаецца толькі як юрыдычны тэрмін. Так, у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы чытаем: "*Уводны* юр. *вводный; уводны ліст — вводный лист*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 585). Тое сама і ў яго аднатомавым папярэдніку (БРС-62. С. 939). Расійскаму *вводный*, апрача згаданага тэрміна, адпавядае беларускае *ўступны: вводная статья — уступны артыкул* (РБС-53. С. 50); а як граматычны тэрмін — *пабочны; вводное слово — пабочнае слова* (РБС-62. Т. 1. С. 85; РБС-93. Т. 1. С. 145). Нават згаданы двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў падае: "*Уступны...* (служащий введением) *вводный; уступны артыкул...*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 628).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" таксама фіксуе: "*Уступны,-ая,-ае*. І. Які з'яўляецца ўступам чаго-н.; *пачатковы. Уступная частка ўрока, уступная прамова...*" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 70). Здавалася б, усталявалася лексічная норма, яе і трэба трымацца. Але ж гэтую норму разбурае сам "Тлумачальны слоўнік". У чацвёртым томе (Мн., 1983. С. 604) чытаем:

"*Уводны,-ая,-ае.* Які служыць увядзеннем у што-н.; *уступны. Уводная частка ўрока*". Адкуль такое? Адказ вядомы: артыкул перапісаны з "Словаря русского языка" (Т. 1. М., 1981. С. 141): "*Вводный.* Вступительный, являющийся введением во что-л. *Вводная статья*".

У аднатомавым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 677) гэта небачліва прадублявана: "*Уводны...*" 2. Які з'яўляецца ўступам, увядзеннем у што-н. *Уводная лекцыя*". Копія з "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 64): "*Вводный...* 2. Являющийся вступлением, введением во что-л. *Вводная лекция*". Засталося замяніць толькі граматычны тэрмін *пабочнае слова (пабочны сказ)* на "ўводнае" (уводны).

***Шанц, шанец — а не шанс.*** Слова *шанц* мае 4-лексемнае гняздо вытворных. У "Тлумачальным слоўніку" зафіксавана: *шанц, шанцаванне, шанцаваць* (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 348), *пашанцаваць* (Т. 4. Мн., 1980. С. 145). Тымчасам як форма *шанс* — адзінотнік. Рас. *шанс* "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі перакладае так: "*Шанс — шанц,* род. *шанцу* м.; *иметь шансы — мець шанцы*" (М., 1953. С. 765). Здзіўляе, што гэтаму *шанс*, якое не мае сваіх вытворных, слоўнікі апошніх гадоў беспадстаўна аддаюць перавагу, што пярэчыць патрабаванням лексічнай сістэмнасці. Бо калі лічыць нармаванаю форму *шанс*, то яна мусіць быць і ў вытворных словах, г.зн. павінны быць "шансаванне", "шансаваць", "пашансаваць". Але іх не ведае беларуская мова, а толькі вытворныя ад натуральнае формы *шанц: шанцаванне, шанцаваць, пашанцаваць.* Асабліва здзіўляе тут "Тлумачальны слоўнік", дзе бачым: "*Шанц,-у,* м. Разм. Тое, што і *шанс*". І падаецца ілюстрацыя з Івана Мележа: "*Франтавое чуццё, праверанае ў многіх начных баях, падказала — трэба паспрабаваць пайсці на рызыку! Нават такіх **шанцаў** заўтра не будзе*". А вось форма *шанс* — усесаюзны стандарт — ужо не мае стылістычных абмежаванняў: "*Шанс,-у,* м. Умова, якая можа забяспечыць удачу, поспех; магчымасць". І падаецца тэкст з твора Матрунёнка: "*А прастудзіцца ў загартаванага рыбалова куды менш **шансаў**...*" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 348). Выходзіць, што больш дасведчаны ў сістэмнасці беларускай мовы не народны пісьменнік Мележ, а Матрунёнак.

І калі "Тлумачальны слоўнік" ставіць перад натуральным словам *шанц* стылістычную загародку "размоўнае", то двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" ужо наогул выганяе гэтае слова за межы літаратурнае мовы: "*Шанц* см. *шанс*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 704). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 754) падае два словы — *шанс і шанц* — як нармаваныя адзінкі, але зноў-такі з перавагай першага: "Шанц,*-у,* мн. *-ы,-аў,* м. Тое, што і *шанс*... *Шанс,-у,* мн. *-ы,-аў,* м. Верагодная магчымасць ажыццяўлення чаго-н. *Шансы на поспех. Не ўпусціць шансу. Апошні ш.*" І не выпадкова! Бо дэфініцыя гэтага "шанс" скапіяваная з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (Мн., 1982. С. 791): "Шанс, м. Вероятная возможность осуществления чего-н. *Шансы на успех. Упустить шанс. Последний шанс...*"

У перыядычным друку апошнім часам надта актыўна выкарыстоўваюцца

дзве формы *шанц* і (з гармоніяй гукаў) — *шанец*. Апошняе — відаць, гэта адноўленае *шанец*, якое бытавала ў XVI—XIX стст.

***Вібрагасільнік, глушыльнік, глушнік — а не вібрагасіцель, глушыцель.*** Утварэнні з суфіксам *-цель* беларускай мове неўласцівыя. Звычайна ролю гэтага суфікса бярэ на сябе словаўтваральны фармант *-льнік*. Так, у двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы 294 беларускія адпаведнікі расійскіх словаў на *-тель* маюць суфікс *-льнік*, што складае 56% ад усіх беларускіх эквівалентаў да расійскіх з суфіксам *-тель*. Аднак акадэмічныя слоўнікі, ідучы ў фарватары набліжэння беларускай мовы да расійскай, нярэдка падавалі расійскамоўныя навукова-тэхнічныя тэрміны без перакладу, у г.зв. гатовым усесаюзным выглядзе. Так, у перакладных "русско-белорусских словарях" у абедзвюх частках маем тыя сама словы. Напрыклад, у РБС-93 чытаем: "*Виброгаситель* техн. *вібрагасіцель,-ля*, м." (Т. 1. С. 172); "*Глушитель* прям., перен. *глушыцель,-ля*, м." (Тамсама. С. 314). Але тэрміналагічныя слоўнікі, створаныя ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, не падаюць гэтых словаў, ■ эквівалентамі іх ёсць утварэнні з суфіксамі *-льнік* і *-нік*. Параўн.: *виброpoглотитель — вібрапаглынальнік, вибропреобразователь — вібраперайтваральнік, глушитель — глушнік* (У.Самайлюковіч, У.Пазняк, А.Сабалеўскі. Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994. С. 29, 42).

Таму натуральнымі тут маюць быць утварэнні на *-нік: вібрагасільнік* і *глушыльнік* ці *глушнік*. Параўн. у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" (аўтары А.Каладзінскі, Д.Карацінская, П.Сцяцко. Гродна: ГрДУ, 1999): *замедлитель — запавольнік, замыкатель — замыкальнік, испаритель — выпарнік, накопитель — збіральнік, запаснік; отделитель — адлучнік, аддзельнік*.

***Моладзевы, маладзёвы — а не маладзёжны.*** Словы *моладзевы, маладзёвы* ўтварыліся паводле надта актыўнае словаўтваральнае мадэлі "аснова назоўніка плюс суфікс *-ов-(-ёв-,-ав-,-ев-)*": *моладзь — моладзевы, маладзёвы*, як і *дэталь — дэталёвы, фірма — фірмовы, хвоя — хваёвы, вясна — вясновы, зіма — зімовы, ружа — ружовы, ліпа — ліповы, альха — альховы* і пад. Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. I. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн.: Навука і тэхніка, 1985. С. 300) лічыць гэты словаўтваральны тып высокапрадукцыйным.

Форма *маладзёжны* — штучная для беларускае мовы, бо няма ў нас такога прыметнікавага суфікса *-ёжн-ы*. Гэтае "маладзёжны" накінутае беларускай мове дзеля хутчэйшага "зліцця моваў". Невыпадкова на месцы чужога "маладзёжны" ў суверэннай Беларусі стала выкарыстоўвацца свае натуральныя ўтварэнні — *моладзевы, маладзёвы*: [Сяржук Чыслаў] *з 1995 года кіраўнік* ***моладзевай*** *патрыятычнай арганізацыі "Белы легіён"* (Расейска-беларускі вайсковы слоўнік). Апошняе бачым і ў складзе назвы газеты Маладога Фронту — "Маладзёвы веснік". Яно актыўна выкарыстоўваецца ў некаторых перыядычных выданнях. "*Але напрыканцы 1955 года ў Барзанскі лагер (Кузбас) прывезлі Міколу Асіпенку, засуджанага як лідара па-*

*стаўскай **маладзёвай** арганізацыі "Саюз беларускіх патрыётаў", што існавала ў пасляваенны час у вучэльнях Глыбокага і Паставаў"* (ЛіМ. 4.09.1998. С. 19).

Гэтыя натуральныя словы — *моладзевы, маладзёвы* — без аніякага сумневу зоймуць сталае месца ў слоўніку літаратурнай мовы.

***Судзіны — а не сасуды.*** У беларускай мове бытуе нямала словаў з коранем *суд-*. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы падае: *суддзё* собир. изделия из клёпок; *судзіна (сосуд) посудина* (с. 897), *пасудак — посуда; пасудзіна* (для жидкости) *сосуд* (с. 637), *пасудніца — судомойка* (Тамсама). "Русско-белорусский словарь" 1953 года расійскае *сосуд* перакладае як *пасудзіна*, але з тэрміналагічным значэннем ужо замацоўваецца не сваё слова, а расійскае. На с. 649 чытаем: "*Сосуд* м. 1. *пасудзіна,-ны* ж.; 2. биол., анат., бот. *сасуд; кровеносный сосуд — кровеносны сасуд*". Як бачым, з другім значэннем тут у абедзвюх мовах тое сама, толькі напісанае ў беларускай частцы ў адпаведнасці з сваім правапісам. А вось такога "зліцця моваў" у тэрміналогіі ў слоўніках 20-х гадоў няма. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча зафіксаваў: "*Судзінка* ж. — *посудина, судно, сосуд*" (с. 303).

Тэрміналагічныя слоўнікі незалежнай Беларусі таксама падаюць натуральныя беларускія словы без штучнае прыстаўкі *со-(са-)*. У "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 258) чытаем: "*Судзіны — сосуды; судзінкавы — сосудистый*". А на с. 85: "*Капіляры...* — найдрабнейшыя крывяносныя і лімфатычныя *судзіны* жывёльных арганізмаў". С. 92: "*Крышталёк* — празрыстае *бессудзінкавае* дваякавыпуклае цела, размешчанае ззаду вясёлкавай абалонкі, насупраць зрэнкі ў бесхрыбтовых і хрыбетных".

Такім чынам, беларуская мова мае свае адмысловыя лексемы: *судзіны, судзінкавы* і вытворныя ад іх.

***Вусякі — а не насякомыя.*** Слова *насякомае* — утварэнне ад *насякаць: насяк-ом-ае*. Словы ж з дзеепрыметнікавымі суфіксамі *-ом-,-ем-,-им-* беларускай мове неўласцівыя. Параўн.: "*Ведомый — вядзёны, ведомое колесо — вядзёнае кола*" (РБС-53. С. 51); *ведомый* II (прич.) — *вядзёны, якога вядуць*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 25).

У беларускай мове клас беспазванковых жывёлінаў кшталту чэлясаногіх атрымаў назву *вусякі* — паводле адмысловай адзнакі іх — вусікаў на галаве. Гэты тэрмін бачым у сучасных тэрміналагічных слоўніках: "*Вусякі* (лац. insecta — вусякі). *Дарослыя вусякі маюць тры пары ног, цела падзелена на галаву, грудзі і чэраўца...*" (А.Ятусевіч, В.Капліч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. Мн., 1993. С. 42). На с. 242 згаданага даведніка чытаем: "*Вусякі — насекомые*".

Адметныя і іншыя тэрміналагічныя назвы жывёлінаў у беларускай мове параўнальна з расійскаю: *паўзуны — пресмыкающиеся, сысуны — млекопитающие* і пад.

***Гром, грымоты, страх — а не граза.*** Слова *грымоты* з значэннем рас. *гроза* засведчыў яшчэ "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы. На с. 217 чытаем: "*Грымоты* ед. нет разг. *раскаты грома; гроза*". Гэта пацвердзіла і двухтомавае яго перавыданне (БРС-88. С. 337). На жаль, нашыя акадэмічныя слоўнікі, фіксуючы натуральныя беларускія адпаведнікі да рас. *гроза*, падаюць і гэтае слова ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула. Так, у РБС-53 (с.104) чытаем: "*Гроза* I. *навальніца* ж; 2. Перен. (разрушительная сила чего-л.) *навала* ж; *гроза войны — навала вайны;* 3. Перен. (о ком-л., внушающем страх) *граза* ж; *партизаны были грозой немецких захватчиков — партызаны былі гразой нямецкіх захопнікаў*". Гэты артыкул прадубляваны і ў наступных перавыданнях слоўніка. А трапіла гэтая "граза" з таго ж небезвядомага выдання "Раздавім фашысцкую гадзіну" (толькі напісанага паводле беларускай арфаграфіі < "Раздавим фашистскую гадину"). А чаму не ўжыць тут замест чужога "гроза" сваё *гром, грымоты, страх*?

Падаючы штучнае слова "граза", "Тлумачальны слоўнік" не знайшоў яго ў мове твораў слынных беларускіх пісьменнікаў, а ўзяў з "таго, што ніколі не было літаратурай" (М.Лужанін). На с. 75 (Т. 2. Мн., 1978) чытаем: "*Граза*, ж. Той (тое), што выклікае, наводзіць страх. *Прайшла брыгада імя Чапаева — граза нямецкіх цягнікоў.* Карпаў". Дык чаму "тое, што наводзіць страх" павінна называцца *граза*, а не *страх?* Слова ж *страх* паводле дэфініцыі "Тлумачальнага слоўніка" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 337) — гэта "пачуццё і стан вельмі моцнага спалоху; *боязь. Калаціцца ад страху. Умлець ад страху*". А таксама "тое, што страшыць, выклікае трывогу. *У страха вочы лупатыя і лыжка здаецца лапатаю.* Грахоўскі". Недарэмна гэтае слова (*страх*) маюць столькі ўстойлівых зваротаў: *набрацца страху, нагнаць страху, на свой страх, страх бярэ, трымацца ў страху, увагнаць у страх* ды пад.

Тэрміналагічныя слоўнікі адпаведнікам рас. *гроза* лічаць беларускія *навальніца* (Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994) і *грымоты* (Руска-беларускі фізічны слоўнік. Гродна, 1999).

***Дармаед — а не захрыбетнік.*** Чужога слова "захрыбетнік" не падавалі нашыя перакладныя акадэмічныя слоўнікі — РБС-53 і БРС-62. Не бачым яго і ў "Тлумачальным слоўніку" (Т. 2. Мн., 1978). Тут фіксуецца агульнавядомае слова: "*Дармаед*... Той, хто не працуе, а жыве на чужыя сродкі" (Тамсама. С. 140). Ад яго і вытворныя словы: *дармаедка, дармаеднічаць, дармаедства.* У расійскай мове яму адпавядаюць тры словы: "*Дармаед* м. разг. *дармоед, тунеядец, нахлебник*" (БРС-62. С. 235). Упершыню гэтае слова трапіла на старонкі "Русско-белорусского словаря" 1982 года, дзе чытаем: "*Захребетник* (*тунеядец*) прост. *захрыбетнік, дармаед*" (Т. 1. С. 291). Але ж рас. слова *тунеядец* мае ў беларускай мове свой адпаведнік — *дармаед* (РБС-53, РБС-82, РБС-93). І ніякага "захрыбетніка" тут мы не бачым. Дый у расійскай мове яно застарэлае: "*Захребетник,-а,* м. (устар.). *Тунеядец, паразит,* живущий на чужой счёт, чужим трудом / / ж. *захребетница*" (С.И.Ожегов.

Словарь русского языка. М., 1982. С. 201). Гэты слоўнікавы артыкул скапіяваў і наш новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 230): "*Захрыбетнік, -а... Дармаед*, чалавек, які жыве чужой працай // *ж. захрыбетніца*". Хоць гэтае "захрыбетнік" — нематываванае, цёмнае. Да таго ж яно — архаізм і ў расійскай мове.

***Насамрэч і на самай справе.*** Устойлівае спалучэнне *на самай справе* з значэннем 'у сапраўднасці, фактычна' ўзнікла ў выніку калькавання расійскага *в самом деле*. "Русско-белорусский словарь" 1982 года (Т. 1. С. 203) падае: "*в самом деле — сапраўды; на самай справе*". Як бачым, асноўным эквівалентам расійскага словаспалучэння *в самом деле* выступае беларускае слова *сапраўды*, а другі адпаведнік — скалькаваны зварот: *в самом деле — на самай справе*. Пра гэта сведчыць і аднатомавы яго папярэднік — "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі, дзе гэтае калькі няма. На с. 111 чытаем: "*в самом деле — сапраўды*". Гэта пацвярджае і яго трохтомавае перавыданне 1993 года. На с. 356 першага тома зафіксавана: "*в самом деле — сапраўды*". І ўвогуле беларуская мова мае шмат устойлівых словаспалучэнняў (адэкватных расійскім з кампанентам *дело*), у якіх не выкарыстоўваецца слова "*справа*". Вось толькі некаторыя з іх, што падае РБС-93: *за дело — нездарма, па заслугах; между делом — прыхваткамі, перапынкамі; известное дело* ўводн. сл. — *вядомая рэч; моё дело сторона — мая хата з краю; я тут ні пры чым; то и дело — раз-пораз; первым делом — першым чынам, перш за ўсё, перш-наперш; пустить в дело — скарыстаць, пусціць у ход; иметь дело — мець дачыненне; грешным делом — прызнацца, прызнаюся; дело говорить — слушна (добра, праўду) казаць; дело в шляпе — усё ў парадку; ясное дело — вядомая рэч; то ли дело — іншая рэч; а мне что за дело! — гэта добра! Это другое дело — гэта іншая рэч; быть не у дел — быць (стаяць) убаку, быць ні пры чым; это дело его рук — гэта яго работа; и дело с концом, и делу конец — і канец, і ўсё; дело хозяйское — воля ваша (твая, яго, яе, іх)*.

Праўда, падчас зліцця нацыяў, іх культуры і мовы замест згаданых натуральных беларускіх адпаведнікаў бачым на старонках перыядычнага друку (праз пераклады расійскіх тэкстаў з дапамогаю машыністак) і ў творах некаторых непатрабавальных да культуры мовы пісьменнікаў, а таксама ў акадэмічных слоўніках жыўцом перацягнутыя расійскамоўныя звароты. Напрыклад, у кнізе "У трыдзевятым царстве. Сцяжынкай казкі" (Мн.: Універсітэцкае, 1995) у перакладным тэксце казкі "Разумная дачка" (с. 361—375) чытаем: "*Здарылася ў гэты час такая* ***справа****. Пайшлі два дзядзькі на кірмаш... Падзялілі сваю гаспадарку. Дайшла* ***справа*** *да гасцей... Рабіць не ўмеў, да таго ж яшчэ быў надта лянівым. Вядомая* ***справа*** *— прывык жыць на ўсім гатовым... Выслухаў яго дзядок і навучыў, што трэба зрабіць, каб прывучыць сыноў да сялянскай* ***справы***". Тут выразна відаць, як рабіўся (відаць, машыністкай) пераклад слова за словам, радок у радок, з расійскае мовы, без разумення адмысловых рысаў розных моваў. У першых

трох выпадках натуральна было б выкарыстаць слова *рэч* або зусім апусціць гэтае "справа", і тэкст загучаў бы натуральна. А замест "сялянскай справы" — *сялянскай працы* (*работы*). Пра недарэчны пераклад сведчаць і іншыя "пэрлы" гэтага тэксту: *дзялёжка* (на месцы "дзяльба"), *стада* (*статак*), *дрымучы лес* (*глухі*), *адпільваць бройны* (*адпілоўваць бярвёны*), *прыгаць у ваду* (*скакаць*), *араць і сеяць хлеб* (*араць і сеяць зерне* (*збажыну*)) і пад.

А ў слоўніках 60—80-х гадоў ужо бачым: *у чым справа* (*в чем дело*) на месцы натуральнага *што такое*; *гэта іншая справа* (*это другое дело*); *гэта справа яго рук* (побач з натуральным *гэта яго работа*); *справа ваша* (на месцы натуральнага *воля ваша*). Гэта, на жаль, трапіла ў РБС-82 (Т. 1. С. 203).

У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" бачым і такое: "*вядомая справа* (*рэч*) — *известное дело*; *справа кульгае* — *дело хромает*; *заплечных спраў майстар* — уст. *заплечных дел мастер* ды пад." (Т. 2. Мн., 1989. С. 499).

Падчас нацыянальнага адраджэння ў Рэспубліцы Беларусь актывізаваліся свае, адмысловыя моўныя адзінкі. Замест штучнага калькавання "справа ў тым" (<дело в том) стала выкарыстоўваецца *рэч у тым*, а на месцы калькі *на самай справе* лексема *насамрэч*: "***Насамрэч***, *змесціва шуфлядаў... выглядала беднавата*" (ЛіМ. 20.02.1998). "*А тут яму* (*ксяндзу Сільвестру*) ***насамрэч*** *зрабілася сорамна і страшна*" (ЛіМ. 20.03.1998). "*Але з чаго складаецца справядлівасць, якая і ёсць мэтаю Плятонавага даследавання? Такое ўражанне, што яна ўвесь час, як хітрая дзічына, унікае нашага зроку. Але ўзапраўды мы ўжо трымаем яе ў руках, бо вядзем гаворку толькі пра яе.* ***Насамрэч***, *ці не праява гэта несправядлівасці, калі індывід займае ў грамадстве не тое месца, на якое ён можа прэтэндаваць паводле сваіх прыродных якасцяў?*" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі: Дапаможнік для студэнтаў. Мн., 1996. С. 24). "*Савецкая дзяржава абвясціла незалежнасць ад Царквы. Але* ***насамрэч*** *з першых дзён савецкай улады была пастаўленая задача спачатку падпарадкаваць Царкву, а потым зусім яе вынішчыць*" (Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну: Мітрапаліт Мельхісэдэк. Мн.: Тэхналогія, 1996. С. 51).

Слова *насамрэч* утварылася на ўзор прыслоўя *насамперш*, якое зафіксаваў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 304): "*Насамперш*, прысл. Абл. *Перш за ўсё. Насамперш* (Барташэвіч) *зацікавіўся бліскучымі і сакавітымі лісцямі фікуса*. Карпюк". Складалася яно, *насамрэч*, з трох частак (словаў): *на сам*(*ай*) *рэч*(*ы*). Як і *насамперш*: *на сам*(*а*) *перш*.

Мяркую, што н准ватвор *насамрэч* мае перспектыву замацавацца ў слоўніку літаратурнай мовы, як і шмат яго папярэднікаў (*напрыканцы*, *аповед*, *досвед*, *святар*, *вернік*).

***Дзьмухавец — а не адуванчык***. Слова *дзьмухавец* як адпаведнік рас. *одуванчик* засведчыў "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы. На с. 246 чытаем: "*Дзьмухавец,-хайца*, собир. *-хайцу* м. бот. разг. *одуванчик*". У гэтым слоўніку разам з тым на с. 72 бачым і нас-

тупнае: "*Адуванчык,-ка*, собир. *-ку* м. *одуванчик*". Паводле гэтай кваліфікацыі нарматыўным ёсць не сваё, структурна нармаванае слова *дзьмухавец* (ад *дзьмухаць*), а пазычанае *адуванчык* (рас. *одуванчик* — ад *одувать, одуваный*). Гэтую недарэчную кваліфікацыю слова *дзьмухавец* як гутарковага бачым і ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 176): "*Дзьмухавец,-хаўца*, м. Разм. *Адуванчык. На цёмнай ужо, сакавітай траве абочын камячкамі кволага пуху стаіць **дзьмухавец**.* Брыль". Пададзены тут прыклад з твора Янкі Брыля аніяк не вымагае стылёвага абмежавання ў выкарыстанні слова *дзьмухавец*. Як агульнаўжывальнае падае слова *дзьмухавец* "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 2. С. 329). А вось аднатомавы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 178) паўтарыў свайго папярэдніка, кваліфікуючы натуральнае беларускае ўтварэнне *дзьмухавец* як гутарковае слова, а як нарматыўнае толькі — *адуванчык* (с. 47). Але як тады зразумець тое, што пасля дэфініцыі слова *адуванчык* падаецца і яго сінонім — лексема *дзьмухавец*. Дарэчы, само тлумачэнне значэння гэтых словаў — копія з "Словаря русского языка" (М., 1982. Т. 2. С. 597): "*Одуванчик,-а*, м. Травянистое растение сем(ейства) сложноцветных, с желтыми соцветиями и опушенными семенами, легко разносимыми ветром". І ў ТСБЛМ (с. 178): "Травяністая расліна сямейства складанакветных з жоўтымі кветкамі і насеннем на пушыстых валасінках, дзякуючы якім яно лёгка разносіцца ветрам".

І калі слова *дзьмухавец* мае шэраг сваіх аднакаранёвікаў (іх падаюць і слоўнікі), то *адуванчык* — адзінотнае. Да прыкладу, у згаданым "Тлумачальным слоўніку" (Т. 2. С. 176—177) бачым: *дзьмуты, дзьмухавец, дзьмухнуць, дзьмуцца, дзьмуць*. А вось *адуванчык* сваіх "родзічаў" у беларускай мове не мае. У расійскай мове *одуванчик* — суфіксавае ўтварэнне ад *одуваный* — *одуван(ый)-чик*; корань *-ду-(ть)*. У беларускай мове расійскія дзеясловы з гэтым коранем маюць наступныя адпаведнікі: "*Дуть* несов. 1. *дзьмуць* (к *дунуть*) *дзьмухаць; дует* безл. *дзьме;* 2. (выдувать из стекла) *выдзімаць;* 3. (пить) прост. *жлукціць;* 4. (быстро бежать, мчаться) прост. *перці, смаліць; Дутье* техн. *выдзіманне. Дуться* несов. 1. (раздуваться воздухом) *надзімацца, раздзімацца;* 2. (на кого) разг. *крыўдзіцца, быць злосным, злаваць;* 3. (важничать) прост. *надзімацца*" (РБС-82. Т. 1. С. 234).

Як бачым, натуральным, сістэмава абумоўленым у беларускай мове ёсць менавіта слова *дзьмухавец*.

***Гузік і кнопка.*** Слова *гузік* у беларускай мове мае не толькі значэнне 'зашпілька', але і 'ўсё, што нагадвае па форме гэтую *зашпільку*'. Гэта засведчыў і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 93). У жывой народнай мове лексема *гузік* звычайна выкарыстоўваецца пераносна з тым значэннем, якое ў расійскай мове мае слова *кнопка*. Гэта бачым і ў творах славутых нашых пісьменнікаў: Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля, Яна Скрыгана, Максіма Лужаніна ды інш. І ў маладых пісьменнікаў, у перыядычных выданнях: "*Калі я націсну гузік, то птушкі мусяць хадзіць пешa*" (ЛіМ. 20.02.1998).

Бачым такое выкарыстанне гэтага слова і ў навуковых выданнях:

“*Камітэт складаецца з трох чалавек, кожны з якіх галасуе “за”, націскаючы на гузік*” (Т.І.Капылова. Матэматычная логіка. Гродна: ГрДУ, 1997. С. 35).

А вось перакладныя слоўнікі ў абедзвюх частках слоўнікавага артыкула змяшчаюць тое сама: “*Кнопка — кнопка*”.

***Адносіны, дачыненні, стасункі, стаўленне.*** Нашыя акадэмічныя слоўнікі 50—80-х гадоў расійскамоўнае слова *отношение (отношения)* перакладалі ў асноўным словам *адносіны*. Зрэдку выкарыстоўвалася яшчэ *дачыненне* (што фіксавалася ўжо “Беларуска-расійскім слоўнікам” М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926): “*Дачыненьне* н. — *касательство, отношение*” (с. 91).

А вось слова *стасункі* на старонкі слоўнікаў не пускалі, відаць, з тае прычыны, што яно ўласцівае і польскай мове. У суверэннай Рэспубліцы Беларусь гэтай забароны не сталі трымацца. У перыядычным друку і ў творах слынных майстроў слова *стасункі* стала пашыраным: “*Янка Ханенка адзначыў шматгранную дзейнасць мінскага клуба “Спадчына” і яго кіраўніка А.Белага, які шмат робіць дзеля наладжвання цесных **стасункаў** паміж Бацькаўшчынай і беларускай дыяспарай Амерыкі*” (ЛіМ. 06.03.1998). “*Міжнародныя **стасункі** набылі нябачныя дагэтуль памеры*” (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн., 1995. С. 121). “*Часта сваяцтва з'яўляецца галоўным сродкам ажыццяўлення сацыяльных і эканамічных **стасункаў***”(Тамсама. С. 112).

Адлюстроўваючы маўленчую практыку 80—90-х гадоў, “Русско-белорусский словарь” 1993 года падае ўжо тры беларускія эквіваленты рас. *отношение*. На с. 400 другога тома чытаем: “*Отношение* ср. (чье-л. к кому-чему-л.) *адносіны, стаўленне;* 2. (связь, касательство) *дачыненне;* 3. (общение, связи) *адносіны, стасункі*...” Дарэчы, слова *стосунки* выкарыстоўваецца і ўкраінскаю моваю.

***Адціскание, адціскаць, адціснуць, адціснуты — ■ не адцясняць, адцяснёны.*** Акадэмічныя слоўнікі, ідучы ў фарватары зліцця моваў, грэбавалі сваімі словамі на карысць усесаюзных. Асабліва гэта датычыла тэрміналогіі. Так, перакладаючы расійскія словы, якія з адным сваім значэннем выкарыстоўваліся як тэрміны, нашыя слоўнікі пакідалі расійскія тэрміналагічныя семантычныя варыянты без перакладу. Гэта выразна відаць і на прыкладзе слова *оттеснять, оттеснённый*. Вось як яно перакладаецца ў РБС-53, РБС-82 і РБС-93. “*Оттеснение* 1. (отдаление) *адціскание*, ср.; 2. Воен. *адцясненне* ср.; *оттеснённый* 1. *адціснуты;* 2. воен. *адцяснёны; оттеснить* сов. 1. *адціснуць;* мног. *паадціскаць;* воен. *адцясніць; оттеснять* несов. 1. *Адціскаць;* 2. воен. *адцясняць; оттесняться* страд. 1. *адціскацца;* воен. *адцясняцца*” (РБС-93. Т. 2. С. 416).

Аднак такая дыскрымінацыя мовы тытульнай нацыі новымі тэрміналагічнымі слоўнікамі адкідваецца. Так, “Расейска-беларускі вайсковы слоўнік” С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 132) падае: “*оттеснять — адціскаць*”. І гэта натуральна: шматзначнае слова беларускае мовы здатнае ў адным з

сваіх семантычных варыянтаў выступаць і як адпаведны тэрмін пэўнай галіны ведаў.

***Надаць годнасць, званне, ганараваць, уганараваць і прысвоіць званне.*** Беларуская мова выразна адрознівае розныя значэнні, якія перадаюцца словам *присвоить (присваивать)* у расійскай мове. Яшчэ ў "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года зафіксаванае: "*Надаць*... 2. (звание) *присвоить;* (о чине — еще) *произвести* (в кого); *надаць годнасць заслужанага дзеяча навукі — присвоить звание заслуженного деятеля науки; надаць чын капітана — произвести в капитаны*" (с. 472). Аднак у перыядычным друку гэтая адмысловасць нашай мовы ў 60—80-х гадах ігнаравалася. Гэтаму садзейнічала і тое, што ў "Русско-белорусском словаре" 1953 года побач з зга-даным беларускім адпаведнікам падаваўся і ўсесаюзны стандарт "прысвоіць", прычым на першым месцы: "*Присвоить* II (присудить, наделить чем-л.) *прысвоіць, надаць; присвоить звание — прысвоіць (надаць) званне*" (с. 517). Варта нагадаць, што слоўнікі розныя значэнні слова *присвоить* падаюць як аманімічныя, з вылучэннем у асобныя слоўнікавыя артыкулы: "*Присвоить* I сов. (завладеть чужим) *прысвоіць; присвоить находку — прысвоіць знаходку; Присвоить* II сов. (присудить, наделить) *надзяліць*". Гэта яшчэ раз пацвярджае, што з значэннем 'надзяліць каго-н. чым-небудзь' (годнасцю, правам і пад.) варта выкарыстоўваць адмысловае слова (словазлучэнне), каб унікнуць аманімічнасці: "*— Чаму невясёлы? — запытаў я. — Вам жа першаму ў рэспубліцы* ***надалі годнасць*** *народнага артыста.* Рамановіч".

Сучасны нацыянальны друк усё часцей карыстаецца гэтым адмысловым беларускім "надаць годнасць". І гэта натуральна вынікае з семантыкі словаў: "надаюць камусьці годнасць", а не ён авалодвае чужым (прысвойвае). Новыя тэрміналагічныя слоўнікі таксама засведчылі гэта: "*Присвоение воинского звания — наданне вайсковай годнасці, датэрміновае наданне вайсковай годнасці*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 160).

У перыядычным друку выкарыстоўваецца і *надаць званне*: "*Аляксандр Ткачонак — артыст Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага — сустракае Міжнародны дзень тэатра з добрым настроем... яму нядаўна* ***нададзена*** *высокае* ***званне*** *народнага артыста Рэспублікі Беларусь*" (ЛіМ. 27.03.1998). Акрамя таго, стала выкарыстоўваецца з гэтым значэннем і слова *ўганараваць, ганараваць (званнем, ордэнам, медалём)*: "*— Ці праўда, што казакі, якія гастралявалі ў нас падчас Дзён культуры Краснадарскага краю, паехалі дахаты,* ***ганараваныя*** *званнямі заслужаных артыстаў Беларусі?*" (ЛіМ. 1.05.1998. С. 2). "*Міжнароднае журы* ***ганаравала*** *беларускага музыканта Гран-пры*" (ЛіМ. 7.09.1998. С. 3).

***Алейнік — а не алейшчык.*** Слова *алейнік* 178 гадоў таму зафіксаваў І.Насовіч: "*Олейникъ*. Занимающийся выжимкою конопляного масла. *Сходзи къ олейнику, нехай дасць свежаго* ***олею***" (Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С. 362). Яно занатаванае і ў сучасных дыялектных слоўніках:

"*Алейнік* 'той, хто алей рабіў, хто прадаваў алей'" (Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік. Мн., 1959). Гэты асабовы назоўнік, які абазначаў асобу паводле занятку, прафесіі, замацаваўся і як прозвішча: *Алейнік (Алейнічэнка, Алейнікаў)*. Утварыўся назоўнік ад *алей* з выкарыстаннем суфікса *-нік: алей-нік*. Як і *плытнік, скарбнік, цэментнік, вознік* ды інш.

Слова *алейнік* засведчанае "Беларуска-расійскім слоўнікам" М.Байкова і С.Некрашэвіча: "*Алейнік* м. — *маслобойник*" (с. 30).

У далейшым гэтае натуральнае слова *алейнік* было замененае на больш блізкае да ўсесаюзнага стандарту з суфіксам *-шчык: алейшчык*. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы падае: "*Алейнік*, м. см. *алейшчык*. *Алейшчык* м. *маслобой, маслобойщик*" (с. 85). Як бачым, тут за норму прызнаецца не сваё, натуральнае слова, а паўкалька рас. *маслобойщик: алей-шчык*. "Русско-белорусский словарь" 1953 года як адпаведнік рас. *маслобойщик, маслодел* падае толькі *алейшчык* (с. 248), а слова *алейнік* зусім не згадваецца. Наступныя перавыданні гэтага слоўніка — РБС-82, РБС-91, РБС-93, РБС-94 — прадублявалі ўсё без зменаў. Але тады як растлумачыць выкарыстанне слова *алейніцтва* з значэннем 'вытворчасць алею, праца *алейнікаў*', якое ўсе гэтыя слоўнікі падаюць як адпаведнік рас. *маслоделие* (производство растительного масла?) Яно ж — утварэнне ад слова *алейнік (алейнік+ства → алейніцтва)*, а не *алейшчык*? Гэтым самым складальнікі і рэдактары згаданых слоўнікаў загналі сябе ў безвыходнае становішча.

Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў нічога новага не засведчыў параўнальна з сваім аднатомавым папярэднікам: "*Алейнік* м. см. *алейшчык*. *Алейшчык* м. (специалист по выработке растительного масла) *маслодел, маслобой, маслобойщик*" (Т. 1. 1988. С. 119). *Алейніцтва* ср. (производство растительного масла) *маслоделие* (Тамсама).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 223) выправіў гэтую недарэчнасць, засведчыўшы слова *алейнік* як нармаваную лексічную адзінку, праўда, не адмовіўся і ад штучнага *алейшчык*, якое і тлумачыцца тут: "*Алейшчык,-а* м. Спецыяліст па выпрацоўцы алею; *алейнік*".

Механічна замяніўшы ў слове *алейнік* словаўтваральны фармант *-нік* на *-шчык*, нашыя лексікографы і не задумаліся над тым, што суфікс *-нік* у беларускай мове значна актыўнейшы, чым у расійскай мове, ён адэкватны шмат якім іншым расійскім фармантам. Параўнайма ўтварэнні з коранем *масл-*: *маслоотделитель — маслаадлучнік, маслоуловитель — маслаўлоўнік* (РБС-53. С. 248). Апошнім часам з суфіксам *-нік* выкарыстоўваецца і слова *даследнік* на месцы ранейшага *даследчык*. Дарэчы, яно зафіксаванае яшчэ "Беларуска-расійскім слоўнікам" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 90):"*Дасьледнік* м. — *исследователь*".

Новыя тэрміналагічныя слоўнікі таксама выкарыстоўваюць утварэнні з гэтым натуральным суфіксам *-нік: газаахоўнік (противогаз), алівазапраўнік*

*(маслозаправщик)* (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 94—95).

Як бачым, *алейнік* — сваё, натуральнае слова, а *алейшчык* — штучнае ўтварэнне, скалькаванае з *маслобойщик.*

***Дзіўны, дзівосны, цудоўны, чароўны, надзвычайны — а не здзіўляючы.*** Як вядома, утварэнні з дзеепрыметнікавымі суфіксамі *-уч-ы (-юч-ы), -ач-ы(-яч-ы)* беларускай мове неўласцівыя. Функцыю гэтых штучных (калькаваных) утварэнняў бяруць на сябе звычайныя прыметнікі, найчасцей з суфіксам *-н-(-льн-)*. Аднак нашыя акадэмічныя слоўнікі нярэдка засмечваюць мову гэтымі штучнымі ўтварэннямі. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 513) чытаем: "*Здзіўляючы* I прил. *удивительный; изумительный, поразительный, разительный;* 2. дееприч. *удивляя, изумляя, поражая*". I калі дзеепрыслоўе *здзіўляючы* ўласцівае беларускай мове, то прыметнік з такім суфіксам *(-юч-ы)* штучны, неўласцівы нармаванай мове. Да таго ж тут адбылося зблытванне розных часцінаў мовы (прыметніка і дзеяслоўнай формы — дзеепрыслоўя), аманімічных словаў, якія памылкова атаясамліваюцца, аб'ядноўваюцца ў адно слова.

Расійскім прыметнікам *удивительный, изумительный, поразительный,* што падаюцца тут у расійскай частцы слоўнікавага артыкула, адпавядаюць беларускія прыметнікі з суфіксам *-н-*. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года (Т. 3. С. 588) чытаем: "Удивительный 1. (поразительный, странный) *дзіўны;* 2. (хороший, превосходный) *дзіўны, дзівосны, цудоўны, надзвычайны; удивительное исполнение симфонии — дзіўнае (дзівоснае, цудоўнае) выкананне сімфоніі; человек удивительной силы — чалавек надзвычайнай сілы; удивительным образом — дзіўным чынам*". "Изумительный — *чароўны, дзівосны;* (великолепный) *цудоўны*" (Т. 1. С. 561. "*Поразительный* (чрезвычайный) *надзвычайны;* (восхитительный) *цудоўны;* (удивительный) *дзіўны*" (Т. 2. С. 694).

***Дзікарослы — а не дзікарастучы.*** "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года побач з натуральным словам *дзікарослы* падае на сваіх старонках і *дзікарастучы* як адпаведнік рас. *дикорастущий* (БРС-62. С. 245). Гэтым самым парушаецца словаўтваральная сістэмнасць беларускай мовы, якой неўласцівы прыметнікавыя суфіксы *-уч-, -ач-*. Форма *дзікарастучы* — гэта рас. *дикорастущий,* толькі напісаная па-беларуску. "Русско-белорусский словарь" 1953 года і ўсе яго наступныя перавыданні (РБС-82, РБС-93, РБС-94) рас. *дикорастущий* перакладаюць як *дзікарослы.* "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" таксама не падае гэтае штучнае формы *дзікарастучы,* а толькі: "*Дзікарослы, -ая, -ае.* Які расце ў дзікім стане (пра расліны). *Дзікарослыя* яблыні. *Дзікарослыя* ягады" (Т. 2. Мн., 1978. С. 174). А вось двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988) дазволіў сабе парушыць натуральнасць структуры беларускага слова, падаўшы на с. 379 і такое: "*Дзікарастучы* см. *дзікарослы*". Паводле канцэпцыі гэтага даведніка, "спасылачнае слова ўжываецца ў мове радзей або мае зніжаную стылістычную афарбоўку". Невыпадкова на старонках перыядычнага друку нярэдка бачым

гэтае *дзікарастучы* на месцы натуральнага *дзікарослы:* яно ж падаецца на старонках акадэмічнага слоўніка!

***Таемны, патаемны, невыяўны, схаваны — а не скрыты, скрытны.*** "Русско-белорусский словарь" 1953 года дае наступныя адмысловыя адпаведнікі да расійскіх словаў: "*Скрытый* 1. *схаваны;* 2. *утоены*" (с. 630). І дзеясловы, ад якіх паходзяць згаданыя прыметнікі, маюць такія адпаведнікі: "*Скрываться* 1. *хавацца; знікаць;* 2. перан. *таіцца;* 3. страд. *хавацца, утойвацца, таіцца*".

Таму натуральнымі адпаведнікамі рас. *скрытый* і *скрытный* ёсць беларускія *таемны, патаемны, невыяўны, схаваны*. Гэта засведчылі і слоўнікі. У "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года чытаем: "*Таемны — скрытый, неизветный, незаметный для других*" (с. 913); "*Схаваны* 1. *скрытый, укрытый*, 2. *укрытый;* 3. *скрытый, утаенный, спрятанный*" (с. 903). Тэрміналагічныя слоўнікі пацвярджаюць гэта: "*скрытность — таемнасць*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 190); "*скрытый — невыяўны, схаваны, патаемны*" (РБФС-99, с. 355).

***Сітавіна ці пора?*** Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926) падаваў: "*Сітавіна,-вінка* ж. — *пора. Сітавінкавы — поровой*". Гэта засведчана і "Беларускай навуковай тэрміналогіяй. Вып. 6. Батаніка агульная і спецыяльная". І "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года фіксуе: "*Сітавіна* ж. 1. *пора;* 2. (болезнь древесины) *ситовина;* 3. геол. *скважина*" (с. 855). БРС-53 (с. 477) таксама падае гэтае слова, але ж і *пора* (яно нават на першым месцы, і зразумела чаму!). Прадубляванае гэта і ў яго перавыданнях. А двухтомавы БРС-88, 89 ужо касуе сваё слова на карысць усесаюзнага: "*Сітавіна* см. *пора;* 2. (болезнь древесины) *ситовина*" (Т. 2. С. 464).

Аднак "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" засведчыў яго як натуральную беларускую лексему: "*Сітавіна*, ж. 1. Спец. Тое, што *сітаватасць* (у 1 знач.). 2. Спец. Адтуліна, пустата паміж часцінкамі рэчыва. *Сітавіна ў метале* (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 144). У РБФС-99 таксама бачым: *пора — сітавіна* (с. 254).

***Свабоднавіслы, свабоднаспадальны — а не свабоднавісячы, свабоднаспадаючы.*** Нашыя перакладныя слоўнікі, ідучы ў фарватары "зліцця моваў", тэрміналагічныя адзінкі расійскай мовы падавалі без перакладу (толькі напісаныя па-беларуску): *свободновисящий — свабоднавісячы, свободнопадающий — свабоднападаючы* (РБС-82, РБС-93). Аднак гэта пярэчыць словаўтваральнай сістэме беларускай мовы, якой дзеепрыметнікавыя формы на *-ючы,-ячы* неўласцівыя. Тэрміналагічныя слоўнікі фіксуюць на іх месцы прыметнікі з суфіксамі *-н-,-льн-*. Вось што, напрыклад, бачым у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн., 1994. С. 32): (волна) *падающая* — (хваля) *спадальная, приходящая — прыходная, затихающая — згасальная, бегущая — пабежная, набегающая — набежная, пульсирующая — пульсацыйная*. Таму натуральнымі ў нашай мове ёсць менавіта *свабоднавіслы, свабоднаспадаль-*

*ны* як адпаведнікі рас. *свободновисящий* і *свободнопадающий*. Гэта, дарэчы, ускосна пацвярджаецца і натуральнымі беларускімі прыметнікавымі эквівалентамі, якія падаюць згаданыя перакладныя акадэмічныя слоўнікі. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года чытаем: *свободновращающийся — свабоднакрутны, свободнонесущий — свабоднаапорны, свободномыслящий — свабоднамысны, вальнадумны* (Т. 3. С. 312—313). "Руска-беларускі фізічны слоўнік" 1999 года падае: *свободновисящий — свабоднавіслы, свободнопадающий — свабоднаспадальны* (с. 319).

***Справядліва, па справядлівасці, заслужана — а не па праву.*** На старонкі перыядычнага друку словаспалучэнне *па праву* трапляе з перакладных слоўнікаў. Так, у "Русско-белорусском словаре" 1953 года чытаем: "*принадлежащий по праву — належачы (належны) па праву*" (с. 492). Штучнасць гэтага "па праву" відавочная. У наступных перавыданнях слоўніка бачым скарочаны варыянт: *по праву — па праву* (РБС-82, РБС-93). Але і гэта не ратуе. Пра неўласцівасць гэтага фразеалагізма беларускай мове сведчыць ужо тое, што яго не падаюць на сваіх старонках ні "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года, ні яго перавыданне 1988—1989 гадоў. Дый іншыя ўстойлівыя звароты з гэтым словам маюць у беларускай мове іншую будову; параўн.: ■ *праве — маю (маеш, мае) права, маюць правы; право слово — далібог; я, право, не виноват — праўда ж, я не вінаваты* (РБС-93. Т. 2. С. 733—734). Пра штучнасць пазычання *па праву* нагадвае і яго небеларуская сінтаксічная структура, дзе прыназоўнік *па* кіруе давальным склонам: *па праву*. Відаць, маючы на ўвазе апошняе, у друку ўжо бачым *па праве* (з словаформай меснага склону): "*Кнігу **па праве** называюць падручнікам жыцця*" (Настаўніцкая газета. 30.10.1971). Аднак натуральнымі адпаведнікамі рас. *по праву* ёсць беларускія *заслужана, справядліва, па справядлівасці*. "*Слава, якою мы **па справядлівасці** можам ганарыцца, — гэта мінулае шматвекавое жыццё нашых продкаў...*" (Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну. Мн., 1996. С. 10).

***Недагляд, нядбайнасць, хіба — а не ўпушчэнне.*** "*Некаторыя органы народнай асветы ўкамплектаваны педагогамі нізкай кваліфікацыі, адсюль ідуць і недахопы і **ўпушчэнні** ў дзейнасці школьных калектываў*" (Звязда. 30.04.1971). Слова "ўпушчэнне" не падае ніводны перакладны слоўнік. Рас. *упущение* адпавядаюць у беларускай мове *недагляд, хіба, нядбайнасць*. Гэта засведчылі РБС-53, РБС-82, РБС-93 (Т. 3. С. 622). На жаль, "Тлумачальны слоўнік" парушае гэтую норму, падаючы і штучнае "ўпушчэнне" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1983. С. 41) як размоўнае з значэннем 'пропуск чаго-н., адсутнасць патрэбнай паўнаты ў чым-н.' Гэта — перанесенае з "Словаря русского языка" (Т. 4. Изд. 2-е. М., 1984): "*Упущение*... 2. Пропуск чего-л., отсутствие должной полноты в чем-л." (с. 509).

Відаць, разумеючы ўсю штучнасць гэтага "ўпушчэння", якому ў беларускай мове адпавядаюць свае натуральныя словы *недагляд, нядбайнасць, хіба (хібы)*, новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не падае яго як рэестравай адзінкі на сваіх старонках.

***Дадому* — *а не на дом; дома — а не на даму.*** У перыядычным друку — найчасцей у газетах, але часам і ў педагагічных часопісах — бачым штучныя *на дом, на даму*: "*Сумесна з прадстаўнікамі кніжных магазінаў вучні шэфствуюць над былымі франтавікамі, інвалідамі вайны і працы, арганізоўваюць дастаўку літаратуры да іх **на дом***" (Чырвоная змена. 10.05.1970). "*Заданне **на дом**: прачытаць і ўмець расказаць змест раздзела "Прыгоды Міколкі з дзедам Астапам*" (Настаўніцкая газета. 17.11.1971). "*Члены бацькоўскага камітэта наведалі вучняў **на даму...***" (Тамсама). Норму тут добра вызначаюць слоўнікі. РБС-53: *на дом — дадому; на дому — дома* (с. 122). У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы таксама чытаем: "Дадому нареч. *на дом; даць заданне дадому — дать задание на дом*" (М., 1962. С. 225); "Дома нареч. *на дому; урач прымае дома — врач принимает на дому*" (Тамсама. С. 249). Гэта пацвярджаюць і самыя новыя слоўнікі. "Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 1. С. 389): "*Дом... на дом — дадому; на дому — дома*". "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988. С. 350, 385): "*Дадому* нареч. *на дом; дома* нареч. *на дому*".

***Спадзеў і надзея.*** Слова *надзея* — гэта нульсуфіксавае ўтварэнне ад "надзеяцца". Аднак такога дзеяслова беларуская літаратурная мова не мае. Расійскае *надеяться* слоўнікі перакладаюць як *спадзявацца* (РБС-93. Т. 2. С. 112). "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 2. С. 490) фіксуе: "*Спадзявацца* несов. 1. (иметь надежду) *надеяться;* 2. (рассчитывать) *надеяться, полагаться*". Таму, не маючы сваёй натуральнай словаўтваральнай базы, слова *надзея* (расійскае *надея* саступіла месца старaславянізму *надежда)* стала замяняцца (таксама нульсуфіксавым утварэннем ад *спадзявацца*) словам *спадзеў:* "*Пачакайма наступнай сустрэчы з юнымі артыстамі ў канцэртнай зале. Ёсць **спадзеў**, што яны выступяць у Мінску пасля вандроўкі ў Парыж...*" (ЛіМ. 20.03.1998).

Нашыя слоўнікі яшчэ не падаюць гэтага слова, а толькі *спадзяванне* як адпаведнік рас. *надежда, чаяние* (БРС-89. С. 490). Мяркую, што гэтае слова — *спадзеў* — замацуецца ў слоўніку літаратурнай мовы. Бо нульсуфіксавыя аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць высокапрадукцыйны словаўтваральны тып у сучаснай беларускай мове. Параўн.: *сумнявацца — сумнеў* (замест *сумненне), выступ* на месцы *выступленне, замова* замест *замаўленне, супрацоў* на месцы *супрацоўленне* ды інш.

***Арганізацыя-апанент — а не апаніруючая арганізацыя.*** У незалежнай дзяржаве Рэспубліка Беларусь набыў рэальнасць і свой ВАК (Вышэйшы атэстацыйны камітэт). Сталі друкавацца і аўтарэфераты дысертацыяў па-беларуску. Але некаторыя ранейшыя ўсесаюзныя стэрэатыпы механічна перанесеныя ў беларускі тэкст. Так, на месцы "оппонирующая организация" засталося тое самае, толькі напісанае паводле беларускага правапісу: "апаніруючая арганізацыя". А чаму не ўзаконіць сваё, натуральнае: *арганізацыя-апанент?* Як і *апарат-самарэгістратар* на месцы штучнага *самарэгіструючы апарат.* Бо, як ведама, гэтыя дзеепрыметнікавыя структуры беларускай мове неўласцівыя. Акрамя таго, гэтае *апаніруючая* парушае

яшчэ адну словаўтваральную заканамернасць беларускай мовы, якой неўласцівы суфіксавы элемент *-ір-*. Апошнім часам у аўтарэфератах дысертацыяў ужо стала выкарыстоўваюць натуральнае найменне *арганізацыя-апанент*. Напрыклад: "Багдзевіч А.І. Словаўтваральная структура аддзеяслоўных тэрмінаадзінак-ад'ектываў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: праблемы нормы (Навуковы кіраўнік — П.У.Сцяцко). Гомель, 1999. *Арганізацыя-апанент* — кафедра беларускай мовы Мазырскага дзяржпедінстытута". Або яшчэ: "Варановіч В.Л. Асабовыя назоўнікі-наватворы ў беларускай мове (словаўтваральная структура і дачыненні да сістэмы літаратурнай мовы) (Навуковы кіраўнік — П.У.Сцяцко). Мн., 2000. *Арганізацыя-апанент* — Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф.Скарыны".

***Вернік* — ■ *не веруючы*.** Слова "веруючы" — пазычанне з расійскае мовы: *верующий* — дзеепрыметнікавая форма з суфіксам *-ущ-(-ющ-)* ад *веровать*. Беларускай мове такія ўтварэнні неўласцівыя. На месцы яго ўзнікла яшчэ ў XVI ст. натуральнае аддзеяслоўнае ўтварэнне з суфіксам *-нік*: *вер-нік*. Як і *кіраўнік, заступнік, будаўнік*. Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 22) вызначае гэты словаўтваральны тып як прадукцыйны ў тэрміналогіі.

Упершыню слова *вернік* зафіксаваў "Русско-белорусский словарь" 1953 года як адпаведнік рас. *веритель*:"*Веритель* уст. *вернік, -ка* м.; *верительный* — *даверны*; *верительные грамоты* дип. *вярыцельныя граматы*" (с. 53). Але з значэннем рас. *верующий* гэты слоўнік падае толькі *веруючы* (с. 54).

Як адпаведнік рас. *верующий* беларускае слова *вернік* не фіксавалася ранейшымі перакладнымі акадэмічнымі слоўнікамі. І нават "Слоўнікам беларускай мовы" 1987 года і "Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы": тут на яго месцы скрозь — *веруючы*. У 90-х гадах, падчас нацыянальна-культурнага адраджэння, слова *вернік* стала ці не адзіным адпаведнікам рас. *верующий*. Таму новы "Тлумачальны слоўнік" занатаваў яго на сваіх старонках. Тут чытаем: "*Вернік, -а*, мн. *-і, -аў*, м. Чалавек, які *верыць* у існаванне Бога; *веруючы* / / жан. *верніца*, прым. *верніцкі*" (с. 110).

Праўда, падаецца тут (як асобны слоўнікавы артыкул) і ранейшае: "*Веруючы, -ага*, мн. *-ых*, м. Чалавек, які *верыць* у існаванне Бога / / ж. *Веруючая*" (Тамсама).

Але ж нацыянальны друк гэтае штучнае структуры — *веруючы* — амаль не выкарыстоўвае, бо ў беларускай мове назвы асобы абазначаюцца назоўнікам, а не дзеепрыметнікам.

***Святар* — *і свяшчэннік*.** Слова *святар* стасуецца з утваральнымі асновамі *свят-(ы)*, *свят-(а)* і мае першаснае значэнне 'які служыць святым'.

Утварэнняў з суфіксам *-ар* у беларускай мове шмат: *уладар, званар, гусляр, друкар, пясняр, разьбяр, пісар, лекар, пекар* ды інш.

Гэтую лексему зафіксаваў В.Ластоўскі: "*Священник* — *сьвятар, сьвятарскі, сьвятарства*" (ПРК(Б)С. С. 641), а таксама "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 308): "*Сьвятар* м. — *священник*". Аднак акадэмічныя перакладныя слоўнікі падавалі толькі:

"*Священник — свяшчэннік, поп*" (РБС-53. С. 614; РБС-82. С. 368). Падчас нашага нацыянальна-культурнага адраджэння слова *святар* адноўленае і стала шырокакарыстаным у нацыянальным друку. Таму яно знайшло свой адбітак і ў "Русско-белорусском словаре" 1993 года, дзе чытаем: "*Священник — свяшчэннік, поп, святар*" (Т. 3. С. 317). Зафіксаваў гэтае слова і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 592): "*Святар*, м. У праваслаўі: служыцель культу, які вядзе царкоўныя богаслужбовыя трэбы (хрысціны, вянчанне, паніхіды, споведзь); *іерэй, свяшчэннік* / / прым. *святарскі*". Праўда, на с. 593 з той сама дэфініцыяй падаецца і ранейшае слова *свяшчэннік*.

Слова *святар* мае больш выразную словаўтваральную структуру, яно беспасярэдна стасуецца з матываваным словам *святы* і такім чынам мае перавагі перад пазычаннем *свяшчэннік*.

***Навучанне, навука ці вучоба?*** Слова *вучоба* — пазычанне з расійскае мовы. Яму адпавядаюць свае словы *навука* і *навучанне*. Лексема *навука* больш пашыраная ў жывой народнай мове: "*Ці хутка скончыш ты сваю навуку? — Мне ішчэ два рокі гэтае* ***навукі***" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

Лексема *навучанне* больш кніжнага выкарыстання. Яна падаецца слоўнікамі як адпаведнік рас. *учеба, обучение*. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 176) фіксуе:"*Навучанне — обучение*". "Русско-белорусский словарь" 1953 года занатаваў: "*Учеба* ж. — *навучанне, вучоба*". І далей у слоўніку рас. *учеба* і вытворным ад яго адпавядаюць беларускія словы з асновай *навуч-*: "Учебный 1. (связанный с учением) — *навучальны; учебный год — навучальны год; учебное пособие — навучальны дапаможнік; учебное заведение — навучальная установа; учебный план — навучальны план; учебная часть — навучальная частка;* 2. (тренировочный) *вучэбны; учебный самолет — вучэбны самалёт*" (с. 729). Аднак сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі з гэтым значэннем выкарыстоўваюць і прыметнік *навучальны: учебный — вучэбны, навучальны; учеба — навучанне, боевая учеба — баявое навучанне* (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 222).

Да таго ж рас. *учебник* (утварэнне ад *учеба*) у беларускай мове не выкарыстоўваецца, яго адпаведнік — *падручнік*.

Усё згаданае сведчыць, што слова *вучоба* штучнае ў беларускай мове.

***Асобнік, паасобнік і экземпляр***. Слова *экземпляр* з лацінскай мовы (*exemplar* 'узор'), мае значэнне 'асобны прадмет у шэрагу аднародных прадметаў, асобная адзінка чаго-небудзь'. У расійскую мову яно прыйшло ў XVIII ст. праз нямецкую мову. У дваццатых гадах у "Беларускай навукой тэрміналогіі" з гэтым значэннем было замацаванае беларускае слова *паасобнік*. Яго падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 201): "*Паасобнік* м. — *экземпляр*. $НТ_2$". Утварылася яно ад прыметніка *паасобны — отдельный, частный* (*Паасобныя лікі*. $НТ_1$). В. Ластоўскі ў "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" (Коўна, 1924. С. 754) рас. *экземпляр* перакладае словам *аднец*.

Падчас нашага нацыяльна-культурнага адраджэння сталі актыўна выка-

рыстоўвацца два словы — утварэнні ад прыметніка *асобны* 'вылучаны з шэрагу іншых, які існуе асобна побач з іншымі' (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 286) — *паасобнік* — прыстаўкава-суфіксавы назоўнік, засведчаны БРС-26, і новае слова — *асобнік* — суфіксавае ўтварэнне з *-ік*. Відаць, перамога на баку больш кароткага слова — *асобнік* як найбольш блізкага (менш адрознага) да ўтваральнага *асобны* — і будоваю, і сэнсавым зместам. "*Наклад выдання склаў тры тысячы* ***асобнікаў***" (ЛіМ. 4.09.1998. С. 12); "Савіцкі М.І. Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка. Мн., 1996. Наклад — 1000 асобнікаў"; "Руска-беларускі фізічны слоўнік (Гродна, 1999. 498 с.). Наклад — 100 асобнікаў".

Слова *экземпляр* як нематываванае (цёмнае сваёю будоваю) стала адыходзіцца на задні план. Да таго ж і напісанне яго ненармаванае: раней пісалі *экземпляр* (гл. Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мн., 1987. С. 890), а цяпер ужо патрабуецца пісаць *экзэмпляр* (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1996. С. 771).

Так што пішам *асобнік*, і ўсё будзе зразумелым. І правільным.

***Наклад і тыраж.*** Слова *тыраж* з французскае мовы (фр. tirage), мае значэнне 'колькасць асобнікаў якога-небудзь друкаванага выдання аднаго выпуску'. Наш сучасны перыядычны друк, кніжныя друкаваныя выданні выкарыстоўваюць абодва словы: *тыраж* і *наклад*. Нацыянальны ж друк аддае перавагу матываванаму слову *наклад* (ад *накладаць*, нульсуфіксавае ўтварэнне). Так, у газеце "Наша слова" чытаем: "***Наклад*** 3500 *асобнікаў*" (1998. № 11 (345). 25 сакавіка). Газета "Літаратура і мастацтва". 1998. № 17 (3945). 24 красавіка. С. 16: "***Наклад*** 4275". У кнізе У.Самайлюковіч, У.Пазняк, А.Сабалеўскі. Руска-беларускі фізічны слоўнік (Мн., 1994. С. 302): "***Наклад*** 10220 *паасобнікаў*".

Слова *наклад*, як і дублет *тыраж*, не падаецца "Беларуска-рускім слоўнікам" М.Байкова і С.Некрашэвіча, а таксама слоўнікам В.Ластоўскага. Нашыя акадэмічныя слоўнікі пакуль што фіксуюць толькі *тыраж*.

Лексему *наклад* з значэннем 'тыраж' падаюць і слоўнікі заходнеславянскіх моваў: чэш. *naklad*, славац. *naklad*, пол. *nakład*.

Можна чакаць, што выразнаматываванае слова *наклад* папоўніць засекі літаратурнага слоўніка беларускае мовы. Дарэчы, яго — *наклад* — падае "Руска-беларускі тэрміналагічны слоўнік па кнігазнаўстве" (Мн., 1997): *тираж — наклад*.

***Наступствы, паследкі і вынікі.*** Слова *вынік* апошнім часам трывала замацавалася як адэкват рас. *результат*. Так, "Русско-белорусский словарь" 1993 года фіксуе: "*Результат... вынік; в результате — у выніку*" (Т. 3. С. 243). А з значэннем рас. *последствие (последствия)* стала актыўна ўжывацца новае слова — *наступствы*: "*З расказу жыхара Вілейкі, ліквідатара* ***наступстваў*** *чарнобыльскай катастрофы Аляксандра Бабро, які таксама пад выглядам праходжання "звычайных" вайсковых збораў быў закінуты ў чарнобыльскае пекла*" (Звязда. 25.04.1998). "*Памятую, даку-*

***мент быў вельмі смелы — заклік пакараць беларускі ўрад за прыхаванне наступстваў чарнобыльскай катастрофы...*** (Літаратура і мастацтва. 24.04.1998. С. 7).

Часам з гэтым значэннем выкарыстоўваецца і слова *паследкі*. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 77) падае гэтае слова, але з значэннем, якое не супадае з тым, што перадаецца словам *наступствы*: "Паследкі толькі мн. Рэшткі, астаткі чаго-небудзь / / перан. Зневаж. *Падонкі*".

*Наступства* — аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *наступіць* 'надысці, настаць' (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 317): *наступ-ств-а*. Гэтае ўтварэнне засведчыў "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 187): "*Наступства* н. — *преемство, преемственность*". Аднак значэнне яго, як бачым, іншае. Рас. *преемственность* нашыя акадэмічныя слоўнікі перакладаюць як *пераемнасць* і *паслядоўнасць* (РБС-93. Т. 2. С. 751). Можна меркаваць, што сучасная лексема *наступства* ёсць пераасэнсаванае ранейшае слова, якое замацавалася на месцы *вынік* як адэкват рас. *последствие* дзеля ўнікнення аманімічнасці словаў. Параўн.: "*А пакуль належыць занатаваць, асэнсаваць, уключыць, так бы мовіць, у інфармацыйную прастору тое, што адбылося (XIII з'езд пісьменнікаў) як дадзенасць без вынікаў і* ***наступстваў***" (ЛіМ. 1.05.1998. С. 2).

Сучасныя тэрміналагічныя даведнікі карыстаюцца словам *наступства* як адпаведнікам рас. *последствие*: "*Ликвидация последствий ядерного взрыва — ліквідацыя наступстваў ядзернага выбуху*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 90).

***Разбежнасць і разнабой***. Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі слова *разнабой*. У іх фіксавалася лексема *разьбежны* як адэкват рас. *расходящийся* (БРС-26. С. 272). Ад яго з выкарыстаннем суфікса *-асць* утварылася *разбежнасць*. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 570) так тлумачыць яго значэнне: "*Разбежнасць,-і*, ж. Тое, што і *разбежка*". Але ж слова *разбежка* мае тут 3 значэнні: "1. Дзеянне паводле дзеяслова *разбягацца* (у 7 знач.). 2. Р. мн. *-жак*. Размінка бегам перад спартыўнымі выступленнямі. 3. Разыходжанне, несупадзенне ў чым-небудзь; супярэчнасць". Слова ж *разбежнасць* як адпрыметнікавае ўтварэнне не можа мець значэння дзеяння, уласцівага аддзеяслоўнаму слову *разбежка*. Таму *разбежнасць* варта выкарыстоўваць з значэннем 'адсутнасць узгодненасці, аднастайнасці, супярэчлівасць'. Напрыклад: ***Разбежнасць*** *у перадачы акання ў сваіх і іншамоўных словах;* ***Разбежнасць*** *у напісанні вялікай літары ў неаднаслоўных уласных назвах*. Слова ж *разнабой* найперш усведамляецца як няўзгодненасць у дзеяннях. І гэта невыпадкова: *разнабой* — аддзеяслоўнае ўтварэнне, яно захоўвае значэнне дзеяння.

З прааналізаванага вынікае, што слова *разнабой* невыразнае для азначэння супярэчлівасці пэўнага ўстанаўлення. Тут прыдатным ёсць слова *разбежнасць*, якое паказвае на апрадмечаную якасць, прымету (*разнабой* жа —

апрадмечанае дзеянне). Таму як тэрмін лінгвістыкі *разнабой* — няўдалы, тут мусіць быць *разбежнасць. Разбежнасць у націску назоўнікаў. Разбежнасць у правапісе канчаткаў назоўнікаў.*

***Каменны сон — а не мёртвы сон.*** Устойлівае спалучэнне *каменны сон* азначае вельмі моцны сон, калі соннага цяжка дабудзіцца. У жывой народнай мове пачуеш: "*От **каменны сон** у чалавека: сьпіць і не дабудзісся яго, хоць ты з гарматы страляй*" (в. Грабава, Зэльвенскі раён). А вось у слоўніках з гэтым значэннем чамусьці падаецца *мёртвы сон: Спіць мёртвым сном.* Але ж гэтак кажуць пра нябожчыка. Прыгадаем, як пару дзесяткаў гадоў таму адмовіліся ад намінацыі "мёртвы час", замяніўшы яго на больш прыдатную "ціхі час". Відаць, у нашыя слоўнікі гэтае "мёртвы час" перанесенае з расійскае мовы. Параўн.: "*Сон... спать мёртвым сном — спаць мёртвым сном*" (РБС-93. С. 409).

***Устава і палажэнне.*** У старажытанай беларускай мове бытавала слова *ўстава* як найменне заканадаўчых актаў: *канстытуцыя, статут, сеймавая ухвала* ды інш. (М.Прыгодзіч, Г.Ціванова. Старабеларускі лексікон. Мн., 1997. С. 158). Ад гэтага назоўніка *ўстава* ўтварыўся *ўстаўны*, які шырока выкарыстоўваўся ў складзе грамадска-палітычнага тэрміна *Устаўная грамата* падчас абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча падае *ўстава* як эквівалент рас. *установление, постановление* (с. 329). Сучасныя акадэмічныя слоўнікі рас. *установление* перакладаюць як: 1. (действие) *устанаўленне, вызначэнне, наладжванне, выяўленне;* 2. (то, что установлено) *устанаўленне;* (закон) *закон*" (РБС-93. Т. 3. С. 631), а *постановление* як *пастанова* (РБС-93. Т. 2. С. 710).

Да рас. *положение* беларускія слоўнікі падаюць такія эквіваленты: 1. (состояние, обстоятельства) *становішча;* 2. (местонахождение) *становішча, месцазнаходжанне;* 3. (поза) *пастава;* 4. (научное, законодательное) *палажэнне; основные положения книги — асноўныя палажэнні кнігі* (РБС-82. Т. 2. С. 131).

Як бачым, тут ужо нічога не засталося беларускага. А між тым на месцы гэтых "палажэнняў" беларуская мова мае свае натуральныя адпаведнікі. Замест "асноўныя палажэнні кнігі" беларус кажа: *асноўныя **сцверджанні** кнігі.*

А ў іншых выпадках нашая мова абыходзіцца без выкарыстання гэтага слова, што пацвярджаюць і слоўнікі: *заснуть в сидячем положении — заснуць седзячы; стрелять из винтовки из положения лежа — страляць з вінтоўкі лежачы* (РБС-93. Т. 2. С. 663).

Дый астатнія вытворныя з гэтаю асноваю маюць у беларускай мове іншаасновавыя адпаведнікі: *положенное* сущ. *належнае: положенный — пакладзены, вырашаны, ухвалены, пастаноўлены, назначаны, дадзены, прызначаны, вызначаны, належны; положенное время — прызначаны час; положено — прынята, заведзена; так вядзецца, ёсць такі звычай; належыць, вырашана, ухвалена; положим — дапусцім, праўда; он-то, поло-*

*жим, не пришел, но... — ён, праўда, не прыйшоў, але...* (РБС-93. Т. 2. С. 664).

Як бачым, беларускай мове гэтае "палажэнне" неўласцівае. Нам трэба звярнуцца да сваіх каранёў і замест "палажэнне" выкарыстоўваць свае словы. Як найменне заканадаўчага акту — *устава; устава аб дзяржаўным суверэнітэце, устава аб універсітэце.* Як навуковая катэгорыя — *сцверджанне; асноўныя сцверджанні кнігі (артыкула).*

Замест расійскага аддзеяслоўнага суфіксавага ўтварэння на *-енне* беларуская мова нярэдка мае нульсуфіксавы адпаведнік: *постановление — пастанова, управление — управа, положение — пастава...* Таму натуральным ёсць *устава* як адэкват рас. *установление.*

Такім чынам, і структурна, і семантычна, і гістарычна выкарыстанне *ўстава* абгрунтаванае. Трэба аднавіць яго і карыстацца гэтым словам — нашым гістарычным набыткам. Параўн.: *Шляхецкае войска ў 1928 г. (паводле* ***ўставы*** *віленскага сойму)* / / Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн.: Навука і тэхніка, 1994. С. 63).

***Цывільны і грамадзянскі.*** Яшчэ першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 102) засведчыў: "*Гражданский* (не военный) *цывільны; гражданские власти — цывільныя ўлады*". "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы таксама падае: "*Цывільнае* сущ. *штатское; у цывільным — в штатском; Цывільны* 1. прил. *штатский, гражданский; цывільная вопратка — штатское платье; цывільныя ўлады — гражданские власти;* 2. ■ знач. сущ. *штатский*". Гэта пацвярджае і яго двухтомавае перавыданне (БРС-89. Т. 2. С. 681). А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 76), спаслаўшыся на Р.Няхая ("...*грамадзянскаму насельніцтву ўвогуле было забаронена хадзіць у лес, а гітлераўцы баяліся*"), ужо не адрознівае розныя значэнні, якія перадаюцца ў расійскай мове словам *гражданский*, і падае наступнае: "*Грамадзянскі*... 1. Які мае адносіны да прававога становішча грамадзян, уласцівы грамадству, накіраваны на карысць грамадства. 2. Неваенны, цывільны". І гэта пры тым, што ў самім слоўніку (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 256) падаецца грунтоўна распрацаваны артыкул з рэестравым словам *Цывільны*, з ілюстрацыямі з твораў Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Барыса Сачанкі. Вось гэты артыкул: "*Цывільны,-ая,-ае.* 1. *Неваенны, невайсковы. Вайсковы люд і люд* ***цывільны*** / / *Вакзалы поўнілі сабой.* Колас. 2. Які мае адносіны да невайсковых людзей, належыць, уласцівы ім. *Цывільныя ўлады. Цывільны суд. Ледзь толькі я дабраўся да краю лесу, як адразу ж натрапіў на ўзброеных людзей у* ***цывільным***. Сачанка".

Аб'яднанне розных значэнняў (амонімаў) у адным слове прадубляваў і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 156). А вось тэрміналагічныя слоўнікі выразна размяжоўваюць розныя значэнні расійскамоўнага слова *гражданский* (калькай якога ёсць бел. *грамадзянскі*). У "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 43) бачым: "*Гражданский* 1. (от *гражданин*) — *грамадзянскі; гражданский* 2. (штатский) — *цывільны*".

У першым томе 18-томавай "Беларускай энцыклапедыі" (Мн., 1996. С. 211) чытаем і наступнае: "*Акты цывільнага стану, запісы дзярж. органамі (аддзеламі ЗАЦС або выканкамамі мясц. Саветаў) фактаў, якія вызначаюць **цывільны** стан...*" Як бачым, тут розныя паняцці — "вайсковы" і "невайсковы" маюць свае выразныя азначэнні: *грамадзянскі* і *цывільны*.

***Вітальня, пярэдняя і прыхожая.*** Першы пры ўваходзе ў жыллё пакой, дзе пакідаюць верхнюю вопратку, нашыя слоўнікі азначаюць па-рознаму. Аднатомавы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) тут цалкам зарыентаваны на расійскую мову і падае на сваіх старонках не толькі яе словы, але і іх дэфініцыі. Параўнайма: "1) *Пярэдняя* ж. Нежылое, першае ад уваходу памяшканне ў кватэры; *прыхожая*" (с. 529). "*Прыхожая* ж. Тое, што і *пярэдняя*. Распрануцца ў *прыхожай* (с. 521)." "2) *Передняя* ж. Нежилое, первое от входа помещение в квартире, *прихожая*. *Прихожая* ж. То же, что и *передняя*. Раздеться в *прихожей*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 444, 534).

Словы *пярэдняя* і *прыхожая* толькі напісаныя па-беларуску. У расійскай мове абодва словы — *передняя, прихожая* — гэта скарочаныя найменні, кандэнсаты двухслоўных найменняў: *передняя комната → передняя, прихожая комната → прихожая*. Былыя прыметнікі субстантываваліся, але родавую форму (жаночы род) захавалі. У беларускай мове слова *пакой* (= рас. *комната*) мужчынскага роду, і тут не можа быць *пярэдняя (пакой)*, як і *прыхожая (пакой)*. Да таго ж па-беларуску не можа быць *прыхожая*, бо нашай мове неўласцівае чаргаванне *д/ж*, а толькі *д/дж* і *д/дз: прыход, прыходжу (і прыходзяць)*(а не "прыхожу").

Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі, добра разумеючы, што слова *прыхожая* парушае фанетычны закон беларускай мовы, замест яго падае наступнае: "*Прихожая* ж. сущ. *пярэдні пакой; пярэдняя*" (с. 521). Слова *пярэдняя*, як бачым, даецца на другім плане, як дадатковае (аддзеленае кропкай з коскай). Тоесную дэфініцыю мае і другое расійскае слова: "*Передняя* сущ. *пярэдні пакой; пярэдняя*" (с. 401). Не падае гэтага "прыхожая" і "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы. Праўда, двухтомавае яго перавыданне ўжо змяшчае гэтае парушэнне законаў літаратурнай мовы — *прыхожая*, але без перакладу, з адсылкаю: см. *пярэдняя* (БРС-89. С. 325). А апошняе перакладаецца так: "*Пярэдняя* сущ. *передняя, прихожая*" (с. 341).

Але ж беларуская мова мае сугучнае слова *пярэдня* 'вяроўка, замацаваная да перадка воза, якая служыць для ўвязкі снапоў, сена' (рас. *передовка*). Яго таксама падае згаданы слоўнік.

Вось чаму апошнім часам з значэннем рас. *прихожая, передняя* стала выкарыстоўвацца натуральнае беларускае слова *вітальня* — суфіксавае ўтварэнне (суф. *-льн-я*) ад *вітацца, вітаць (гасцей)*. "*— Жоначка, з голаду паміраю! — даносяцца з **вітальні** галасы*" (ЛіМ. 01.05.1998. С. 8).

В.Ластоўскі падае як адпаведнікі рас. *передняя*, першы пакой, пакойчык

пры ўваходзе ў дом, *сені, сенцы*. "*Судзьдзя нас у **сенцах** пратрымаў да поўдня. Паны любяць простых людзей у **сенцах** прымаць*" (ПРК(Б)С. С. 460—461). Украінская мова тут мае лексему *предпокій*, польская — *przedpokój, przedsionek*, чэшская — *predsin*, славацкая — *predsien, pred-izba*.

У вясковай хаце гэты пярэдні пакой іначай і не можа называцца, як *сені (сенцы)*. У гарадской кватэры, мабыць, слова *вітальня* трывала замацуецца як аднаслоўная назва пярэдняга пакоя. Яно ўтварылася паводле натуральнае мадэлі "аснова дзеяслова плюс суфікс *-льн-я* (з значэннем месца для адпаведнага дзеяння)": *спальня, чытальня, распранальня, спачывальня, пральня* і пад. Дарэчы,"Русско-белорусский словарь" 1993 года ўжо падае гэтае слова — *вітальня* — як адзін з адпаведнікаў рас. *прихожая* (Т. 3. С. 39).

***Кустоўе і кустовы — а не кустарнік і кустарнікавы.*** У перыядычным друку нярэдка выкарыстоўваецца небеларускае слова *кустарнік* і прыметнік ад яго — *кустарнікавы*. Слоўнікі беларускай мовы іх не фіксуюць. Расійскае *кустарник* перакладаецца ў слоўніках па-рознаму: РБС-53: "*кустарник — хмызняк, кусты; кустарниковый* бот. — *хмызняковы*" (с. 227), РБС-82: "*Кустарник* м. 1. (куст), *куст* 2. собир. (кусты) *кустоўе, кусты, хмызняк; кустарниковый — кустовы; кустарниковое растение — кустовая расліна*" (Т. 1. С. 395). РБС-93 цалкам прадубляваў гэты артыкул з РБС-82. "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года (с. 628) таксама падае слова *кустоўе* як адпаведнік рас. *кустарник* з паметаю "зборн.", а прыметнік *куставы, куставыя расліны*. А вось "Тлумачальны слоўнік" (Т. 2. Мн., 1978. С. 763) неапраўдана кваліфікуе слова *кустоўе* як гутарковае. Але нейтральнага слова з гэтым значэннем ён чамусьці не падае.

Як паказваюць назіранні, нармаваным ёсць у беларускай мове слова *кустоўе* як азначэнне зборнасці. Гэта — утварэнне з суфіксам зборнасці *-оўе(-оўj-е)*. Параўн.: *ваўкаўё, карчоўе, пнёўе*. У народна-дыялектнай мове гэты суфікс досыць пашыраны пры абазначэнні прасторы, дзе было ці знаходзіцца шмат таго, што названа ўтваральным словам: *вярбоўе, балатоўе, пянёўе;* або як назва поля, дзе раслі адпаведныя культуры: *бабоўе, вікоўе, грацкоўе, макоўе* (П.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн., 1977. С. 168—169).

Словы з суфіксам *-арнік* беларускай мове неўласцівыя. Параўн.: *овчарник — авечнік, свинарник — свінушнік*.

***Лекі, лекавы, лекар — і лякарства, лячэбны, урач.*** Слова *лекі* як адпаведнік рас. *лекарство* зафіксаваў яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 158). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 416) таксама засведчыў гэтае слова (*лекі*), але ўжо з двума значэннямі: "*Лекі* ед. нет. разг. *лекарство* ср.; *лекі ад кашлю — лекарство от кашля*; 2. (действие) *лечение* ср.; *лекі гразямі — лечение грязями*".

Гэты артыкул паўтарыла двухтомавае яго перавыданне (БРС-88. Т. 1. С. 639), а таксама "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 34),

дзе чытаем: "*Лекі,-аў*. 1. Разм. Лякарства. *Паставілі на тумбачку бутэлечкі з **лекамі**, шклянку з вадой*. Хомчанка. Перан. Сродак, які дапамагае перажыць што-н. непрыемнае. *Хто мае права залазіць у чужую душу? Асабліва, калі няўпэўнены, што словы твае будуць **лекамі***. Чорны. 2. Лячэнне (дзеянне)".

Ад гэтага слова *лекі* ўтвораны назоўнік *лекар* і прыметнік *лекавы*. Яны таксама фіксуюцца тут: "Які мае адносіны да *лекаў*, уласцівы ім, прызначаны для *лекаў*. *Лекавы пах*. *Лекавая сыравіна* // Які валодае лекавымі ўласцівасцямі. *Лекавыя расліны*. *Лекар* м. Разм. Доктар. *Зубны лекар*". Памета "разм." тут не скрозь да месца. Яе мы не бачым у БРС-26, дзе чытаем: "*Лекар* м. — *лекарь, доктор* (мужчина)". Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 316) таксама падае словы *лекар*, *лекарскі*, *лекі* і *лекавы*. Прычым *лекар* кваліфікуе як размоўнае з тым значэннем, што і *ўрач*.

Дзвюхмоўныя перакладныя слоўнікі з расійскаю леваю часткай па-рознаму перакладаюць згаданыя беларускія словы. Так, у РБС-53 бачым: "*Лекарь* уст. *лекар*, *лекарственный — лекавы; лекарственные растения — лекавыя расліны; лекарство — лякарства* ср.; *лекі*, ед. нет". Гэты артыкул без зменаў паўтораны ў двухтомавым яго перавыданні (РБС-82. Т. 1. С. 401—402) і трохтомавым (РБС-93. Т. 1. С. 714). Аднак у гэтых слоўніках нідзе не пазначаюцца словы *лекі* і *лекавы* як гутарковыя. Яны фіксуюцца як нейтральныя. Прычым слова *лекі* паралельна з *лякарства*, а *лекавы* як адзіны адэкват рас. *лекарственный*. Зважаючы на гэта, і слова *лекар* няможна кваліфікаваць як гутарковае. Яшчэ В.Ластоўскі справядліва зазначаў: "*У нас **лекарам** называюць усякага доктара, які "лечыць*" (ПРК(Б)С. С. 302). Сучасныя тэрміналагічныя слоўнікі таксама фіксуюць слова *лекар* як агульнапашыранае слова, адэкватнае рас. *врач*. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 35) чытаем: "*врач — лекар, -ра, доктар, -ра; военный врач — вайсковы лекар, вайсковы доктар*".

Прымаючы пад увагу, што слова *лекі* мае два значэнні — 'лякарства' і 'лячэнне', варта прыметнік ад яго — *лекавы* выкарыстоўваць замест штучнай у беларускай мове структуры *лячэбны* і пісаць *лекава-гімнастычны, лекава-дыягнастычны, лекава-аздараўленчы, лекава-працоўны* і пад.

І замест штучнага пазычання *лячэбніца* ўжываць натуральнае *лякарня*. Гэтае слова таксама засведчылі слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў: "*Лякарня* ж. — *госпиталь, больница*" (БРС-26. С. 162). Дарэчы, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча таксама бачым: "*Лекавы — лечебный, лекарственный*" (С. 158).

Выкарыстоўваючы гэтыя натуральныя словы, можна было б унікнуць і такой "шыпеннае" структуры, як *лечачы ўрач* (рас. *лечащий врач*), замяніўшы яго на *лекар*, і "лячэбны факультэт" на *лекарскі* факультэт.

***Распранальня — а не раздзявалка.*** Нашыя акадэмічныя слоўнікі нярэдка пераносяць на свае старонкі расійскамоўныя словы, якія супярэчаць законам беларускай мовы. Так, у "Тлумачальным слоўніку" (Т. 4. Мн., 1980. С. 597) бачым: *раздзявалка, раздзявальная*... Але ж яны парушаюць струк-

туру нашае мовы. Рас. *раздевальная* — гэта кандэнсат дзвюхмоўнай назвы "раздевальная комната". У беларускай мове не можа быць "раздзявальная пакой". Слова *раздзявалка* стасуецца з аддзеяслоўнымі назвамі прыладаў, прызначаных для выканання дзеяння; параўн.: *касілка, драбілка, сеялка*. Як бачым, менавіта суфікс *-лк-а* надае ўтварэнням значэнне прылады дзеяння. Таму ўтварэнне *раздзявалка* і ўсведамляецца як механізм, прылада, якая "раздзявае чалавека" (робіць яго раздзетым, голым). Гэта, відаць, добра разумелі складальнікі і рэдактары "Русско-белорусского словаря" 1953 года, у якім няма ў беларускай частцы гэтых штучных словаў *раздзявалка* і *раздзявальная*, а толькі ўтварэнне з суфіксам *-льн-я* — *раздзявальня*, якое абазначае месца для выканання адпаведнага дзеяння. Так, на с. 565 чытаем: "*Раздевалка* разг. *раздзявальня; раздевальная* сущ. *раздзявальня, раздевальня — раздзявальня*".

Аднак семантычна слова *раздзявальня* не зусім выразнае, яно стасуецца з утваральным *раздзявацца*, якое мае значэнне 'здымаць адзенне'. Гэтак семантызуе яго "Тлумачальны слоўнік" і падае ілюстрацыйны прыклад: "*Мы раздзелі малога, урач агледзеў яго, аслухаў*" (с. 596). Натуральным тут мае быць назоўнік з суфіксам *-льн-я*, утвораны ад дзеяслова *распранацца* ('здымаць з сябе верхняе адзенне') — *распранальня*. Дарэчы, яго падае ўжо новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 554): "*Распранальня* ж. Памяшканне ў грамадскай установе, прызначанае для распранання і захавання верхняга адзення".

Але невядома чаму на яго старонках усё яшчэ бачым і штучныя ўтварэнні *раздзявалка, раздзявальная* (*прасторная раздзявальная* (наз.)) і раней-шае *раздзявальня*. Аднак слова *раздзявальня* можа абазначаць хіба што гардэроб у лазні (для цалкам раздзетых).

Здзіўляе, што перакладныя слоўнікі, выдадзеныя ў незалежнай краіне Рэспубліцы Беларусь, усё яшчэ падаюць на сваіх старонках штучныя ў беларускай мове словы *раздзявалка* і *раздзявальная*, як гэта бачым у чацвёртым перавыданні "Русско-белорусского словаря" 1993 года (Т. 3. С. 168).

***Давер і недавер — ці давер'е і недавер'е?*** Слова *недавер* можна разглядаць як прыстаўкавае ўтварэнне ад *давер* (*не-давер*). Яго падае як адэкватнае рас. *доверие* "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953). На с. 118 чытаем: "*Доверие* ср. *давер'е, давер,-ру*, м." Бачым тут і *недавер* як адэкват рас. *недоверие* (побач з *недавер'е*) (с. 302). А вось "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы ўжо не фіксуе гэтага натуральнага ў беларускай мове слова *недавер*, а толькі: "*Недавер'е* ср. *недоверие*" (с. 223). І ў двухтомавым яго перавыданні падаецца толькі наступнае: "*Давер,-ру* м. см. *давер'е*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 346); "*Недавер,-ру*, м. см. *недавер'е*" (с. 777). Гэта значыць, што словы *давер* і *недавер* выводзяцца за рамкі літаратурнай мовы. Але ці апраўдана гэта? "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 357) вызнае слова *недавер* як нарматыўнае: "*Недавер,-у*, м. Тое, што і *недавер'е*". Падаецца тут і яго ўтваральнае: "*Давер,-у*, м. Тое, што і *давер'е*" (Т. 2. Мн.,

1978. С. 109). Такую кваліфікацыю гэтых словаў (*давер* і *недавер*) бачым і ў новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996). Такім чынам, лексемы *давер* і *недавер* вызнаюцца як нармаваныя лексічныя адзінкі. Але ж па старой звычцы перавага аддаецца ўтварэнням з суфіксам *-j-*: *давер'е [дав'ерјэ]*, *недавер'е*. І ў тлумачэнні семантыкі слова выкарыстоўваецца гэтае "недавер'е" ("падазронасць, адсутнасць давер'я"). Але калі ўважліва прыглядзецца да будовы гэтых словаў, то заўважым, што натуральнымі ў беларускай мове ёсць якраз *давер* і *недавер*. З прыстаўкаю *не-* (*неда-*) і нулявым суфіксам наша мова мае шмат словаў, іх бачым і на старонках слоўнікаў: *недабор*, *недагляд*, *недакорм*, *недалёт*, *недапёк*, *недарод*, *недасей*, *недасол*, *недахоп*. А вось *недавер'е* — слова-адзінотнік.

Таму перавагу мае якраз слова *недавер* як аднамадэльнае ўтварэнне. А *недавер'е* — гэта хутчэй за ўсё пазычанне з расійскае мовы. Сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае свае адмысловыя словы. Напрыклад: "*Адстаўка ўрада... вынясенне ўраду вотуму **недаверу** або ганьбавання*" (Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Т. 1. Мн., 1996. С. 138).

***Чорным на белым (напісана) — ці чорным па белым?*** У нашых слоўніках з значэннем 'дакладна, выразна, недвухсэнсава' (напісаць) рэгіструецца ўстойлівае словазлучэнне *чорным па белым*. У друку тут нярэдка нават выкарыстоўваецца расійская сінтаксічная канструкцыя: *чорным па беламу*. Між тым у жывой народнай мове бытуе натуральная сінтаксічная структура *чорным на белым*, дзе замест абмежаванага ў выкарыстанні прыназоўніка *па* ўжыты *на*. І гэта абумоўлена тым, што слова *пісаць* (ці яго словатворы *напісаць*, *напісана*) натуральна спалучаецца з месным склонам назоўніка з прыназоўнікам *на*: *пісаць на паперы* (*пергаменце*, *помніку* і пад.). Адсюль і ўстойлівы зварот: (напісана) *чорным на белым*.

***Досвед, практыка ці вопыт? Дасведчаны ці вопытны?*** Як сцвярджае "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1980. С. 194), слова *вопыт* у старажытнай беларускай мове мела толькі значэнне 'допыт'. Расійскае *опыт* В.Ластоўскі перакладае словамі *досьлед; спроба; практыка* (ПРК(Б)С. С. 416). А слова *опытный* — як *дасьведчаны*, *практычны* (Таксама. С. 417). У "Беларуска-рускім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча таксама з значэннем рас. *опыт* падаецца слова *практыка* (с. 245), а з значэннем рас. *исследование*, *опыт* — лексема *досьлед* (с. 96).

Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" (М., 1953. С. 361) таксама фіксуе ў беларускай частцы слова *практыка* з значэннем 'житейский опыт'; *знать по собственому опыту — ведаць ... з уласнае практыкі*. І прыметнік *опытный* мае сваім эквівалентам і бел. *спрактыкаваны*. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года (с. 715) таксама падае: "*Практыка*... 2. разг. *опыт*; *чалавек мае практыку — человек имеет опыт*". Падаецца тут і вытворны прыметнік з гэтым значэннем: "*Спрактыкаваны — опытный*, *искушенный*" (с. 881). А таксама: "*Дасведчаны* — (опытный) *искушенный*" (с. 236).

У 90-х гадах з значэннем рас. *опыт* (совокупность знаний) у перыядыч-

ным друку стала актыўна выкарыстоўвацца слова *досвед*. Ці не ўпершыню яно замацавалася афіцыйна ў рубрыцы "Лінгвістычны досвед" часопіса "Беларуская мова і літаратура ў школе" (пазней — "Роднае слова"). "Русско-белорусский словарь" 1993 года ўжо фіксуе яго як сінонім да словаў *практыка, вопыт* — адэкватаў рас. *опыт* (Т. 2. С. 358). Тэрміналагічныя слоўнікі таксама падаюць гэтае слова як эквівалент рас. *опыт*. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 126) чытаем: "*опыт* I (навыки) — *досвед,-ду;* опыт II (эксперимент) — *доследі,-ду. Опытный* I (обладающий опытом) — *дасведчаны. Опытный* II (*экспериментальный) — доследны*".

Як бачым, беларуская мова мае свае дакладныя адмысловыя словы, адэкватныя расійскім: *досвед, дасведчанасць, практыка* — рас. *опыт; дасведчаны, спрактыкаваны* — рас. *опытный*.

***Дастатковыя веды — ці здавальняючыя?*** Слова *здавальняючыя* (веды) ёсць калька рас. *удовлетворительные*. Штучнасць гэтага ўтварэння ў тым, што беларускай мове неўласцівыя дзеепрыметнікавыя структуры на *-учы(-ючы)*. Калі мы хочам кваліфікаваць веды, якіх дастаткова для чаго-небудзь, іх і трэба называць так. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" фіксуе: "*Дастатковы, -ая-,ае*. Якога хапае для чаго-н., здольны задаволіць якія-н. патрэбы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 146). Як відаць, слова *дастатковы* натуральна, нязмушана перадае існасць адпаведнага паняцця, без аглядкі на расійскую мову. І экзаменатар можа сказаць, што ён вызнае веды экзаменаванага *дастатковымі* (для станоўчай адзнакі).

***Навучальня, вучэльня і вучылішча.*** Слова *вучылішча* не фіксавалі слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў. Акадэмічныя перакладныя слоўнікі савецкага часу скрозь падаюць у абедзвюх частках гэтае слова: "*Училище* ср. *вучылішча*". З канца 80-х гадоў у друку сталі выкарыстоўвацца і іншыя словаўтваральныя структуры з гэтым коранем *-вуч-*: *вучэльня, навучальня*: "*З першага ліпеня ў абласным цэнтры адкрылася мастацкае вучылішча (былы філіял мастацкай* ***вучэльні****). У самастойнай ужо навучальнай установе адбыўся выпуск*" (ЛіМ. 4.04.1998. С. 3). "*У кожнай епархіі належала мець па адной духоўнай семінарыі, па 10 павятовых і 30 прыходскіх* ***навучальняў***" (Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну. Мн., 1996. С. 16). "*У той сумнавядомы час... дыплом замежнай* ***вучэльні*** *быў нечым.... сумніцельным*" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 175). "*Працуе* (Зімніцкая Р.Э. — *Аўт.*) *выкладчыкам... у Плешчаніцкай філіі Мінскай* ***вучэльні*** *алімпійскага рэзерву*" (Аляксей Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік. Гродна, 2000. С. 110).

Слова *вучэльня* зафіксаваў В.Ластоўскі (ПРК(Б)С. С.751). Тэрмін *навучальня* адлюстраваны і ў спецыяльных даведніках. Напрыклад, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 223) чытаем: "*Училище — навучальня, ж.р., высшее военное училище — вышэйшая вайсковая навучальня*". І яно добра стасуецца тут з іншымі аднаструк-

турнымі словамі: *учеба — навучанне, учащийся — навучэнец, учебный — навучальны*.

Намінацыя *навучальня* беспасярэдна матывуецца словам *навучацца* і мае выразную словаўтваральную будову — утварэнне з суфіксам *-льня*: *навуча-льня*. Словы з гэтым фармантам абазначаюць месца для выканання дзеяння, названага утваральным словам: *бяліць — бялільня, плавільня, прадзільня, пральня, радзільня, спальня, чытальня*... (Беларуская граматыка. ч. 1. Мн., 1985. С. 245).

Замацаванню слова *навучальня* (як адэквату рас. *училище*) спрыяе як досыць выразная структура гэтага слова, так і шматлікае атачэнне з адэкватнаю асноваю. Да таго ж самы блізкі да лексемы *навучальня* яго апісальны адпаведнік — *навучальная ўстанова* — мае нават адэкватную аснову *навучальн-*. Гэта і вызначыла яго перавагу над словам *вучылішча*, якое мае не зусім празрыстую будову. У "Этымалагічным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1980. С. 240) слова *вучылішча* лічыцца ўтвораным ад незафіксаванай асновы **ueil-*.

Новы акадэмічны "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996) чамусьці не фіксуе гэтага натуральнага беларускага слова *навучальня*, ■ толькі *вучылішча*, прытым цалкам перапісаўшы і вызначэнне семантыкі яго з выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 752): "*Училище,-а*, ср. Название некоторых низших средних специальных, а также некоторых высших заведений / / прил. *училищный,-ая,-ае*". І ў "Тлумачальным слоўніку" (с. 119): "*Вучылішча,-а*. Назва некаторых ніжэйшых і сярэдніх спецыяльных, а таксама некаторых вышэйшых навучальных устаноў". Слова *вучэльня* мае нязвыклую для беларускае мовы аснову *вучэ-* (на месцы *вучы-*).

З трох найменняў навучальнай установы — *навучальня, вучэльня, вучылішча* — найбольш сістэмна апраўданым, зразумелым, натуральным ёсць *навучальня*, якое выразна ўсведамляецца як скарот двухслоўнага назову *навучальная ўстанова*.

***Дыялекты рэгіянальныя і тэрытарыяльныя.*** Да нядаўняга часу мовазнаўцы падзялялі дыялекты на *тэрытарыяльныя* і *сацыяльныя*. Тэрмін *тэрытарыяльны* ўтвораны ад *тэрыторыя* "зямельная прастора з пэўнымі межамі" (ТСБЛМ. 1996. С. 674). Апошнім часам актыўным у выкарыстанні стала слова *рэгіён* і яго вытворнае *рэгіянальны*. Прыметнік *рэгіянальны* ў наш час набывае і значэнне, уласцівае слову тэрытарыяльны (дыялект). Напрыклад: "*Акрамя розных моваў існуюць таксама **рэгіянальныя** і **сацыяльныя** дыялекты*..." (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн., 1995. С. 105). Паняцці (і тэрміны) *рэгіянальны* і *сацыяльны дыялект* добра стасуюцца з самым вызначэннем дыялекту: "*Дыялект* — аформлены моўны варыянт, які існуе ў пэўнай геаграфічнай ці сацыяльнай супольнасці або маўленчым кантэксце" (Тамсама. С. 431). Мяркую, што тэрмін *рэгіянальны дыялект* (*гаворка, мова*) больш прыдатны для акрэслення моўнага варыянту, абмежаванага пэўным рэгіёнам.

***Свінух, свінушнік — ці свінарнік?*** Слова *свінух* з значэннем 'свіны хлеў' зафіксаваў акадэмічны "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка Кандрата Крапівы (М., 1962). На с. 846 чытаем: "*Свінух,-ха,* м. — *свинушник, свиной хлев*". Тут падаецца і яго словаўтваральны варыянт *свінушнік*, які ўзнік у выніку другаснай суфіксацыі: *свінух+-нік* — → *свінушнік*. Слова *свінушнік* засведчыў і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 307): "*Сьвінушнік* — хлев для свиней". Падаецца і аднакаранёвае слова з суфіксам *-ар:* "*Сьвінар* м. — *свиновод*", і яго вытворнае: "*Сьвінарства* н. — *свиноводство*". Словы з суфіксам *-ар*, утвораныя ад назоўнікаў, называюць асобу паводле прафесіі, роду заняткаў: *айчар, бляхар, вясляр, гусляр, камінар, карчмар, млынар, пчаляр, пясняр, свінар, аптэкар* ды пад. Такія ўтварэнні, як сведчыць акадэмічная граматыка, складаюць у беларускай мове прадукцыйны тып.

Найменне *свінарнік* утварылася ад *свінар* з выкарыстаннем суфікса *-нік: свінар-нік*. Адназоўнікавыя ўтварэнні з *-нік* абазначаюць, як сведчыць "Граматыка беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1962. С. 106), "прадметы паводле іх прызначэння: *кароўнік, парасятнік, цялятнік...*" Таму зусім натуральна *свінарнік* усведамляецца як найменне памяшкання для *свінароў* — працаўнікоў, якія даглядаюць свіней.

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983) засведчыў: "*Свінух,-а,* м. Хлеў для свіней" (с. 92); "*Свінушнік,-а,* м. Тое, што і *свінух. Там ужо былі пастаўлены... цялятнік, **свінушнік** і кармакухня.* Сабаленка" (с. 92).

Слова *свінарнік* як паралельнае да *свінушнік* фіксуе "Русско-белорусский словарь" 1953 года (с. 612): "*Свинарник — свінарнік, -ка,* м.; *свінушнік, -ка,* м.". Да таго ж яно тут, як бачым, стаіць на першым месцы ("Каб было бліжэй да расійскай мовы". К.Чорны). Здзіўляе, што "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", падаючы натуральныя беларускія словы *свінух* і *свінушнік*, не ўхіліўся ад пазычання *свінарнік*, якое падаецца тут як дублет да сваіх словаў: "*Свінух*, м. Хлеў для свіней; *свінарнік; Свінушнік*, м. Тое, што і свінух, *свінарнік*". Але ж яго значэнне, што нязмушана вынікае з структуры гэтага слова — *свінар-нік* — ёсць 'памяшканне для *свінароў* — даглядчыкаў свіней', а не для свіней, бо апошняе мае свой адметны назоў — *свінух* ці *свінушнік*. Дарэчы, калі ісці ад другаснага ўтварэння з суфіксам *-нік* з тым самым значэннем (*свінух* і *свінушнік*), то *свінарнік* магло б мець тое значэнне, што і *свінар*, г.зн. "працаўнік, які даглядае свіней". Новы "Тлумачальны слоўнік" пайшоў яшчэ далей за свайго папярэдніка: ён ужо зусім не падае натуральных беларускіх намінацыяў для свінога хлява (*свінух і свінушнік)*, а толькі *свінарнік:* "*Свінарнік,-а,* мн. *-і,-аў,* м. Хлеў для свіней. *У пакоі свінарнік (вельмі брудны)* / / прым. *свінарны,-ая,-ае*" (с. 591).

А чаму гэта так, дае адказ даведнік, паводле якога рабіўся гэты беларускі аднатомавік: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. На с. 625 яго чытаем: "*Свинарник, -а,* м. Помещение для свиней. *В квартире у нее на-*

стоящий свинарник (очень грязно) / / прил. *свинарный, -ая, -ое*". Ёсць тут і *свинуха, свинушка* як назвы страўных грыбоў. Але няма словаў "свинух" і "свинушник", таму, відаць, яны і не трапілі ў беларускі аднатомавы тлумачальны слоўнік.

"Русско-белорусский словарь" 1993 года ўжо падае тры словы ў беларускай мове як адэкваты аднаго расійскага: "*Свинарник — свінарнік, свінушнік, свінух*", прычым апошняе з паметаю "обл." (абласное), г.зн. дыялектызм, хоць, як мы ўжо бачылі, яно такім не ёсць, гэта — натуральнае літаратурнае беларускае слова, што і засведчыў ТСБМ. Яго сёння выкарыстоўваюць славутыя знаўцы роднай мовы: "*На падворку каля **свінуха** рупіліся высокі мажны Сцяпан і хударлявы Вінцусь*" (М.Лужанін. Вестка / / Полымя. 1998. № 5. С. 123).

***Сціслы, першасны (сэнс слова) — а не літаральны.*** Слова *літаральны (сэнс слова)* — штучная калька рас. *буквальный (смысл слова)*. У "Русско-белорусском словаре" 1993 года чытаем: "*буквальный — літаральны*" (Т. 1. С. 129). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 51) падае гэтае слова з наступнымі значэннямі: "*Літаральны,-ая,-ае.* 1. Дакладна адпавядаючы якому-н. тэксту, размове і пад.; *даслоўны*. 2. *дакладны; прамы, не пераносны. Літаральны сэнс*". Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 320) не падае штучна калькаванага "дакладна адпавядаючы" (гл. Словарь русского языка: В 4 томах. Т. 1. М., 1981. С. 122), але змяшчае тую дэфініцыю, што і ў аднатомавым расійскім даведніку: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 52). Параўн.: "*Літаральны,-ая,-ае.* 1. Тое, што і *даслоўны*. "*Літаральны пераклад;* 2. *дакладны, прамы, не пераносны. Літаральны сэнс*". І рас. "*Буквальный*. 1. То же, что *дословный. Буквальный перевод*. 2. *Точный, прямой, не переносный. В буквальном смысле слова*".

Ненатуральнасць гэтага "літаральны пераклад" вынікае з таго, што ён не перадае сутнасці паняцця, бо ніяк не можа быць такога перакладу, каб рабілі толькі замену літараў у словах. Гэта ўжо транслітарацыя, а не пераклад. Так "перакладаюцца" ўласныя іншамоўныя намінацыі: Warszawa — Варшава, London — Лондан. Таму натуральным выступае з першым значэннем слова *даслоўны* ( а не штучная калька *літаральны*). З другім значэннем у друку бачым (адэкват рас. *буквальный* "точный, прямой, не переносный") адмысловыя лексемы: *першасны (сэнс)* і *сціслы*. Напрыклад: "*Беларускім гучаннем, а галоўнае, **першасным** сэнсам, закладзеным у гэтае прозвішча-мянушку (Будзіловіч) — будзіць, яно па-ранейшаму імпанавала яму*" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 214). "*У **сціслым** сэнсе слова паняцце "сярэднія вякі" прымяняльна толькі да тых абшараў, якія ведалі адраджэнне, г.зн. адно да ўласна Еўропы*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 6).

***Адказныя — а не "нясуць адказнасць"***. У нашай перыёдыцы замацаваўся гэты штамп — "несці адказнасць". "*Аўтары **нясуць адказнасць** за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*" (Наша слова. 1998. № 23

(327). 17 чэрвеня. С. 4). "*Аўтары* ***нясуць адказнасць*** *за свае матэрыялы ў адпаведнасці з Законам аб друку Рэспублікі Беларусь*" (Полымя. 1998. № 4. С. 320). "*У адпаведнасці з Законам аб друку аўтары* ***нясуць адказнасць*** *за дакладнасць прыведзеных у артыкуле фактаў і звестак*" (Роднае слова. 1998. № 2. С. 2). Чытаеш гэтыя радкі і ўсведамляеш іх штучнасць: "аўтары нясуць адказнасць...". Куды яны нясуць? І ў чым?! Нібыта гэта садавіна (гародніна) якая ў кошыку! Замест гэтае калькі (рас. *несут ответственность*) больш нязмушана выглядае тэкст "*Аўтары* ***адказныя*** *(за падбор і дакладнасць сваёй інфармацыі..., за свае матэрыялы і г.д.)*".

Патрабавальныя да культуры мовы аўтары так і пішуць. Да прыкладу: "*Жанчыны* ***адказныя*** *таксама за прыгатаванне ежы, хоць дзічыну могуць гатаваць і мужчыны*" (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн., 1995. С. 112). Або: "*Аўтары цалкам* ***адказныя*** *за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*" (Наша слова. 1999. № 7. С. 49).

***Сама вялікі — і самы вялікі.*** Аналітычныя формы найвышэйшай ступені якасных прыметнікў і прыслоўяў звычайна складаюцца з адпаведных лексемаў і далучаных да іх словаў ступені — прыслоўяў *найбольш* ці *найменш*: *цікавы і найбольш цікавы, спрытны і найменш спрытны, высока і найбольш высока.* Замест гэтых прыслоўяў меры і ступені выкарыстоўваецца аналагічнае прыслоўе *сама*: *вялікі і сама вялікі, хутка і сама хутка, (ляцець) нізка і сама нізка.* "*Звонку здаецца, што дэмакратыя —* ***сама прывабны*** *з ўсіх рэжымаў, бо яна нібыта надзяляе кожнага індывіда свабодай*" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Мн., 1996. С. 30). "*Пяты год ішоў, як у* ***сама службовым*** *узросце ён звольніўся з вайсковай службы...*" (Полымя. 1998. № 8. С. 52). Беларускія слоўнікі зафіксавалі слова *сама* толькі з наступнай кваліфікацыяй: "*Сама*, часціца... Ужываецца ў спалучэнні з якаснымі прыслоўямі для абазначэння найвышэйшай ступені; *сама лепш, сама больш, сама менш...*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 32—33). Прадубляваў гэта і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 582): "*Сама*, часц. 1. Ужываецца ў спалучэнні з якаснымі прыслоўямі для абазначэння найвышэйшай ступені. ***Сама менш*** *прапушчана ўрокаў у першым паўгоддзі*". Далей у згаданых слоўніках паказваюцца іншыя значэнні гэтай часціцы: самы пачатак дзеяння, у самую пару, у самы раз ды інш.

"Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 283) зафіксаваў: "*Самамалы — наименьший, минимальнейший*". Як бачым, тут прыслоўе *сама* (напісанае ў адно слова з прыметнікам) мае тое самае значэнне. Такіх спалучэнняў у народнай мове шмат: *сама дужыя, сама дасціпныя, сама ўдалыя, сама выхаваныя, сама сціплыя...*

У нашых граматыках замест гэтага прыслоўя сталі выкарыстоўваць займеннік *самы* (пад уплывам расійскай мовы). Так была зліквідаваная адмысловая адзінка беларускай мовы. Сучасны друк незалежнай Беларусі адраджае гэтую адметнасць нашай мовы. Нярэдка бачым гэтае слова *сама* напісаным разам з прыметнікам як адно слова. "*Толькі дзіву даешся, як часта праблемы, што былі балючымі грамадству ў нядаўнім мінулым, застаюцца*

*вострым болем і ў **самгарачае** сучассе*" (Полымя. 1998. № 8. С. 59). "*Можна ж прыклады прыводзіць і з **самановага** часу*" (Тамсама. С. 63). Натуральным трэба лічыць асобнае напісанне слова *сама* не толькі з прыслоўямі (*сама лепш*), але і з прыметнікамі (*сама гарачы*).

***Лецішча і дача.*** Слова *дача* слоўнікі 20-х гадоў фіксавалі толькі з працэсавым значэннем. У БРС-26 бачым: "*Дача* ж. — *даяние*" (с. 91). У акадэмічных слоўніках тры рэестравыя словы-амонімы *дача* бачым у абедзвюх мовах: "*Дача* 1. ж. (действие) *даванне, дача; дача показаний — дача паказанняў; Дача* 2 (загородный дом) *дача; Дача* 3 (лесная делянка) *дача*..." (РБС-82. Т. 1. С. 196). Тое самае і ў РБС-88 (Т. 1. С. 372), РБС-53 ды інш.

Аднак у маўленчай практыцы 90-х гадоў з значэннем рас. *дача* (загородный дом) стала выкарыстоўвацца адмысловае слова *лецішча*: "*Слуп электрасеткі стаіць на крутым павароце лініі дратоў, што ідуць-вісяць ад вёскі да трох гарадскіх **лецішчаў***" (Янка Брыль. Пішу, чытаю, жыву / / Полымя. 1998. № 2. С. 8). "*Маці перабралася ў Міхнічы да Веркі. Бацькаўшчыну, хату і ўсю будыніну Геня планаваў пакінуць як **лецішча**. Уласна ён і прыехаў **палетаваць** тут, дагледзець сад*" (Арсень Ліс. Пільсуцкі / / ЛіМ. 05.02.1999. С. 13; "*Пачасту мы, пазычыўшы ў знаёмых ровары, ехалі напрасткі... на легендарную Лысую Гару, дзе ў Вялюгіна было **лецішча***" (М.Скобла. Дзярэчынскі дыярыюш. Мн., 1999. С. 159). Гэтае слова засведчыў "Русско-белорусский словарь" 1993 года: "*Дача* ж. (загородный дом) *дача,-чы*, ж.; разг. *лецішча,-ча* ср., разг. *летнік,-ка* м." (Т. 1. С. 344). Як бачым, тут *лецішча* мае памету "разг." (размоўнае), як і *летнік*, а стылёва нейтральным выступае *дача*. Аднак, як паказвае яго выкарыстанне ў аўтарскай мове (ды такімі адмысловымі стылістамі, як Янка Брыль ды іншымі), лексему *лецішча* няма падставы лічыць гутарковаю, яна — стылёва нейтральная. Намінацыя *лецішча* матывуецца словамі *лета* і *летаваць* "жыць дзе-небудзь летам, заставацца дзе-небудзь на лета" (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 38). Утварылася яно ад дзеяслова *летаваць* з дапамогаю суфікса *-ішч-а*: (*лет(ава)-ішча → лец-ішча*. Такія ўтварэнні абазначаюць месца (збудаванне, памяшканне), дзе адбываецца адпаведнае дзеянне. Узнікненне адмысловага слова *лецішча* было выклікана імкненнем унікнуць аманіміі і засведчыць адметнасць часу і магчымасцяў нацыянальнай мовы.

Слова *летнік*, якое фіксуе згаданы слоўнік (РБС-93), у сучаснай маўленчай практыцы замацавалася на месцы ранейшага (савецкага) *лагер* (піянерскі), дзе дзеці адпачываюць летам. Даслоўнае значэнне —'летняе памяшканне'. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" фіксуе *летнік* толькі з значэннямі: "1) Аднагадовая садовая расліна; 2) лёгкі летні пінжак; 3) дарога, якой карыстаюцца толькі летам; супрацьлеглае *зімнік*" (Т. 3. Мн., 1979. С. 39). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) таксама праігнараваў гэтыя адмысловыя беларускія лексемы *лецішча* і *летнік*.

***Крыўднік — а не крыўдзіцель.*** Утварэнні з суфіксам *-цель* беларускай мове неўласцівыя (пра гэта няраз згадвалася ў кнізе). Іх месца найчасцей займаюць словы на *-нік*. Ад дзеяслова *крыўдзіць* утварылася найменне асобы

*крыўднік*. Гэтае слова падае В.Ластоўскі: "*Крыўда, крыўдна, крыўдзіць, крыўднік,-ніца, крыўджаны* (да рас. *обида*) (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. С. 388). Іншыя беларускія слоўнікі сталі падаваць слоаўтваральную структуру з *-цель: крыўдзіцель*. Відаць, гэтае слова ўтварылася на расійскай глебе (як фальклорнае, слова *крыўда* ўласцівае і расійскай мове, гл. РБС-53, с. 221).

У 90-х гадах на месцы ўтварэння на *-цель (крыўдзіцель)* стала актыўна ўжывацца адмысловае беларускае *крыўднік*. Гэта ўлічыў і РБС-93, дзе ўжо падаецца і слова *крыўднік* як адэкват рас. *обидчик* (Т. 2. С. 274).

***Вынятак і выключэнне.*** Слова *вынятак* у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 68) падаецца з наступнымі расійскімі адэкватамі: "*Вынятак* м. — *исключение, изъятие*". Тут бачым і яго аднакаранёвікі: "*Вынятка ж. — выноска, цитата; вынятковы — исключительный, выняты — вынутый, изъятый, вынящце — изъятие*". Яно выразна перадае сэнс адпаведнае рэаліі і паняцце і таму актыўна выкарыстоўваецца ў друку: "***Вынятак** рабіўся толькі для асобаў, што мелі вышэйшую адукацыю*" (Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну. Мн., 1996. С. 13). "*Адным **вынятка**м ёсць Кампанэла*" (Галіна Дзербіна. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 1997. С. 17). Падае гэтае слова і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 558): "*Вынятак,-тка, м. За... рэдкім **вынятка**м гукапіснае майстэрства ў "Беззназойным" не паддаецца праверцы.* Бярозкін". "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў невядома чаму кваліфікуе гэтае слова як размоўнае: "*Вынятак,-тку* м. разг. — *исключение*" (Т. 1. С. 273). А новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996) зусім не змяшчае гэтага адмысловага беларускага слова. Яго месца заняла калька (з рас. *исключение)* слова *выключэнне*. Гэтакае прыстасоўванне да ўсесаюзнага стандарту выразна зафіксаваў "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гг. На с. 263 чытаем: "*Выключэнне* ср. *исключение; за выключэннем — за исключением; усе за выключэннем аднаго — все за исключением одного (исключая одного); без выключэння — без исключения; з'яўляецца выключэннем — составляет исключение; як выключэнне з агульных законаў — в исключение из общих законов; як выключэнне — в виде исключения*". Дзе тут ужо да свайго *вынятку!* Хоць яно здатнае замяніць гэтыя "выключэнні" ва ўсіх выпадках. Адчуваючы гэтую штучнасць "усеабдымнага" *выключыць-уключыць*, апошнім часам (90-я гады) сталі выкарыстоўваць замест "уключыць" адмысловую лексему *улучыць (у спіс), улучаючы ("уключаючы"), вылучыць з сеткі* ды пад.

***Атачэнне і акружэнне.*** Перыядычны друк нашага часу (90-я гады) досыць шырока выкарыстоўвае слова *атачэнне* і яго аднакаранёвыя словы *атачаць, атачоны*. "*Усімі ідэйна-прававымі, сацыяльна-палітычнымі працэсамі ў Беларусі кіравалі з Масквы персанальна генсек і яго найбліжэйшае **атачэнне***" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 286). "*9 жніўня гэтая ж армія заняла Глыбокае, 20 — Азярышча, **атачыла** Віцебск*" (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995. С. 19). "*Адна іх*

*(войскаў) частка кінулася ўцякаць, тая ж, што трапіла ў* ***атачэнне****, была цалкам знішчана*" (Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994. С. 52). "*Ян Караль Хадкевіч заатакаваў 10700 шведаў,* ***атачыў*** *іх галоўныя сілы... ды дазвання разграміў*" (Тамсама. С. 53). "*Лютыя ваўкі не перастаюць* ***атачаць*** *твой статак з мэтаю адабраць і загубіць авечак Хрыстовых*" (Т.Працька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну. Мн., 1996. С. 22).

Словы гэтага слоўнікавага гнязда занатаваў яшчэ славуты Іван Насовіч: "*Оточать*, сов. *оточить*. Окружать во множестве. *Разбойники по дороге оточают каждого. Оточацца*, сов. *оточицца*. Быть окружаемому. *Оточенный* прич. *Окруженный*" (Слоўнік беларускай мовы. С. 377). Бачым іх і ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 37): "*Атачацца,-чыцца — быць в окружении; быть окруженным. Атачаць,-чыць* каго, што — *окружать, -жить. Атачоны — окруженный*". Фіксуе гэтыя словы (і без усякіх стылістычных абмежаванняў) і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы". У першым томе на с. 295 чытаем: "*Атачаць...* незак. да *атачыць. Атачыць* зак. Тое, што і *акружыць* (у 1. знач.); *агарнуць. Нашы груды* ***атачыла*** *цэлая эсэсаўская дывізія*. Сабаленка. *Атачэнне*, -я, н. Дзеянне і стан паводле знач. дзеясловаў *атачаць — атачыць*". А вось "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў выкідае іх з выкарыстання, атачыўшы паметамі "дыялектызм". На с. 152 (Т. 1. Мн., 1988) чытаем: "*Атачаць* несов. обл. *окружать. Атачоны* обл. *окруженный. Атачыць* сов., обл. *окружить*". А новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не згадвае іх зусім. А толькі... *Акружаць, -жыць* і *акружаны*.

Падчас нацыянальна-культурнага адраджэння ідзе аднаўленне гэтых "рэпрэсаваных" словаў.

***Чароўнасць, прывабнасць і абаянне.*** Слова *абаянне* не падавалі слоўнікі 20-х гадоў. Рас. *обаятельный* В.Ластоўскі перакладае як *аварожлівы, урочы, акудны*. Відаць, адштурхоўваючыся ад яго першаснага значэння: рас. *обаяние* — ад *баять "загаворваць, абварожваць, зачароўваць"* (М.Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. 3. Мн., 1971. С. 97). "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" не падае гэтага слова, відаць, як неўласцівае нашай мове. Першы акадэмічны даведнік — "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 328—329) згаданае расійскае слова перакладае двума сваімі словамі і толькі потым, пры канцы, змяшчае і гэтае слова: "*Обаяние* ср. *чароўнасць, прывабнасць, абаянне; быть под обаянием музыки — быць зачараваным музыкай; обаятельность — чароўнасць, прывабнасць, абаяльнасць; обаятельный — чароўны, прывабны, абаяльны*". Не мае гэтага слова і ўкраінская мова, дзе рас. *обаяние* адпавядаюць *чарівність, чарівнівість, чари, очарування; обаятельный — чарівний, чарівливый, повний очарованння, привабливий, принадний*. Ці ёсць вострая патрэба і ў беларусаў, якія разам з украінцамі мелі супольны сродак камунікацыі падчас ВКЛ, у гэтым не надта

выразным паводле сваёй матывацыі і словаўтваральнай асновы слове? Невыпадкова не знойдзем мы яго ў класікаў беларускай літаратуры, у славутых нашых пісьменнікаў, знаных стылістаў.

***Пяхотнік і пехацінец.*** Слова *пехацінец* тлумачыцца як "воін пяхоты" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 251). Словаўтваральная структура ў яго не зусім звыклая, бо суфікс *-інец* маюць назоўнікі з лакальным значэннем: *Чыта — чыцінец, Куба — кубінец*. Звычайна назвы асобы паводле роду іх заняткаў утвараюцца з дапамогай суфікса *-нік: атамнік, крамнік, плытнік, скарбнік*. Таму замест згаданага *пехацінец* у друку бачым аднакаранёвае *пяхотнік*: "*У 1563 г. кожныя 20 службаў мусілі выстаўляць, акрамя двух коннікаў, яшчэ аднаго **пяхотніка** з ручніцаю і рагацінаю ці сякераю*" (Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994. С. 14). Гэтая словаўтваральная структура падтрымліваецца і іншымі найменнямі вайсковых асобаў: *ратнікі, коннікі*. Тым больш што назоўнік *пяхотнік* стасуецца і з прыметнікам *пяхотны* "які мае адносіны да пяхоты" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 541). Як і *ратнік — ратны, коннік — конны*. Таму і набывае гэтая намінацыя сваё пашырэнне ў адраджэнскім друку. Яна мае падтрымку збоку іншых асабовых назоўнікаў на *-нік: даследнік, выводнік*. Параўн.: "*Во "думаннік", во "мысляр", калі ўжо проста не філосаф*" (Янка Брыль. Пішу, чытаю, жыву // Полымя. 1998. № 2. С. 47).

***Прыпеўка і частушка.*** Слова *частушка* паходзіць ад *часты*, першаснае значэнне — "тое, што часта паўтараецца". Слова ўласцівае расійскай мове, дзе мае значэнне прыпеўкі, выступае і ў варыянце *частуха* (М.Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. 4. М., 1973. С. 318). Беларускай мове ўтварэнні з суфіксам *-ушк-а* неўласцівыя (пра гэта згадвалася раней, гл. таксама раздзел "Словаўтварэнне" ў кнізе "Праблемы нормы, культуры мовы" (Гродна: ГрДУ, 1998)). Да гэтага ж слова *частуха* мае там і значэнне "кошык з густым плецівам", "гушчарнік", "густая рыбацкая сетка" (Тамсама). У беларускай мове гэтыя значэнні перадаюцца коранем (асновай) *густ-(ы): чаща — гушчар, частый лес — густы лес*.

Як назва прыпеўкі *частушка* паходзіць з абрадавага прыпеву скокавай (танцавальнай) песні. У беларускай мове захавалася з гэтым значэннем лексема *прыпеўка* (ад *прыпяваць: прыпеўка*). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 257) фіксуе: "*Прыпеўкі* ж. мн. — *частушки*". Няма ў гэтым слоўніку, як і ў іншых даведніках адраджэнскага часу (20-я гады), слова *частушка*. А вось пасля 30-х гадоў слова *прыпеўка* было замененае на пазычанне з усесаюзнага фонду *частушка*. Так, РБС-53 падае: "*Частушка* лит. *частушка,-кі* ж. (с. 755). Але ў РБС-62 ужо чытаем: "*Прыпеўкі, -певак*, ед. *прыпеўка* ж. — *частушка*" (с. 752). Праўда, на с. 1013 бачым і такое: "*Частушка* ж. — *частушка*". Як відаць, "узбагачэнне" праз РБС-53 адбылося. Наступныя перавыданні РБС-53 ужо падаюць у беларускай частцы да рас. *частушка* два словы: *частушка, прыпеўка* (РБС-82, РБС-93). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980.

С. 462) фіксуе слова з наступнай кваліфікацыяй яго семантыкі: "*Прыпеўка*, ж. 1. Кароткі, звычайна чатырохрадковы, фальклорны вершаваны твор, злабадзённага або жартоўнага зместу, які выконваецца на пэўны матыў; *частушка*. 2. Тое, што і *прыпеў* (у 1 знач.). *А вы, валачобнікі, далучайцеся да нас: прыпеўку спяваем усе, — не сунімаўся Янка* (Колас)". Як бачым, гэтая лексема захавала і сваё першаснае значэнне *прыпеву*, які часта паўтараўся (ён набыў у расійскай мове назву *частушка*).

А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 745) падае і тлумачыць толькі слова *частушка* ( а пры слове *прыпеўка* чытаем: "Тое, што і *частушка*"), прычым тут нават не згадваецца сінонім гэтага слова — *прыпеўка*. Ад слова *прыпеўка* лёгка ўтвараюцца і назвы асобаў — выканаўцаў гэтага фальклорнага жанру: *прыпевач-нік* і *прыпевач-ніца*. Але нашыя акадэмічныя слоўнікі падаюць толькі расійскія ўтварэнні. Параўн., у РБС-82 (Т. 2. С. 586): "*Частушечник* разг. — *частушачнік, частушечница — частушачніца, частушка — частушка, прыпеўка*".

***Не зважаючы на і нягледзячы на.*** За савецкім часам адпаведнікам расійскага прыназоўніка *несмотря на* найчасцей выкарыстоўваўся *нягледзячы на*, бо ён быў дакладнай калькай першага. Між тым у беларускай мове з значэннем "не прымаючы пад увагу чаго-небудзь, насуперак чаму-небудзь" бытуе свой адэкват: *не зважаючы на*. Яго падае і РБС-53: "*Несмотря* предлог — *нягледзячы* (на каго-што), *не зважаючы* (на каго-што); *несмотря ни на что — нягледзячы (не зважаючы) ні на што*" (с. 316). Рэгіструецца ён і наступнымі перавыданнямі гэтага слоўніка — РБС-82, РБС-93 ды інш. А вось тлумачальныя слоўнікі свайго адмысловага і не заўважаюць. Тлумачачы семантыку прыназоўніка *нягледзячы на*, ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 425) не падае яго адэквата *не зважаючы на*. Між тым менавіта ён — *не зважаючы на* — у сучасным нацыянальным друку найчасцей выкарыстоўваецца. Здатны ён замяніць яшчэ адну штучную кальку *не звяртаючы ўвагі на* (рас. *не обращая внимания на*). Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў падае толькі наступнае: "*Зважаючы: не зважаючы на асобы — не взирая на лица*" (с. 500). Але: "*Пятро Іванавіч... пагаварыць любіць — не зважаючы, што гарадскі*" (Полымя. 1998. № 6. С. 35). На с. 805 гэтага ж першага тома чытаем: "*Нягледзячы* предлог с вин. (в сочетании с "на") *несмотря; невзирая; нягледзячы ні на што — несмотря (невзирая) ни на что*". Вось як пярэчаць складальнікі слоўніка самі сабе.

***Варункі і ўмовы, абставіны.*** Слова *варункі* фіксавалі слоўнікі 20-х гадоў. В.Ластоўскі падае яго як адэкват рас. *условие* (побач з *умова* — ПРК(Б)С. С. 727). Засведчыў яго і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча: "*Варункі* м. мн. — *условия*" (с. 57). Бачым яго таксама ў "Беларуска-маскоўскім слоўніку" Б.Друцкага-Падбярэзскага (Вільня, 1929) ды інш. З значэннем 'умова' яно бытавала і ў старабеларускай мове з XVI ст.; паходзіць яно з нямецкай мовы (відаць, праз пасярэдніцтва польскай. Гл. ЭСБМ. Т. 2. Мн., 1980. С. 67). Аднак пасля 30-х гадоў слова *варункі* ўжо не згадваец-

ца ў перакладных слоўніках. На жаль, нават у перавыданнях, здзейсненых у незалежнай Беларусі (РБС-93). А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", яго першы том (Мн., 1977), які рэдагаваў знаны лексікограф і пісьменнік Мікола Лобан, засведчыў гэтае слова. На с. 466 чытаем: "*Варункі,-аў;* адз. *варунак,-нка*, м. *Абставіны, умовы*". Аднак новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не фіксуе яго (відаць, таму, што яго няма ў слоўніку С.Ожагава). Сучасны нацыянальны друк шырока карыстаецца гэтым словам. Вось некалькі прыкладаў: "*Не вельмі спрыяльныя* ***варункі*** *жыцця*" (ЛіМ. 20.02.1997). "*Пра неспрыяльныя* ***варункі*** *для літаратурнае дзейнасці ў 30-я гады мы ўжо згадвалі*" (Полымя. 1998. № 5. С. 258). У газеце "Літаратура і мастацтва" ёсць нават адмысловая рубрыка "Варункі". У нумары за 7 жніўня 1998 года ў ёй змешчаная нататка Вадзіма Доўнара "Не кіем, дык палкай".

Як бачым, ёсць усе падставы для больш актыўнага выкарыстання слова *варунак* (мн. *варункі*) у беларускай мове. Яго, дарэчы, падае і нядаўна выдадзены "Старабеларускі лексікон" М.Прыгодзіча і Г.Цівановай (Мн., 1997): "*Варунок — умова*".

***Працоўня і вытворчае памяшканне, памяшканне для працы.*** Нашыя слоўнікі з значэннем "вытворчае памяшканне" падаюць слова *майстэрня* (ТСБЛМ. С. 328). А вось у друку з гэтым значэннем выкарыстоўваецца і слова *працоўня:* "*Аглядаючы мастакову* ***працоўню*** *на адным з палотнаў, у хлопцу яна прызнала самога Янку*" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994. С. 161). "*Прыемна бачыць вас у вашай* ***працоўні****, у вашых цяперашніх умовах*" (Полымя. 1998. № 9. С. 278). Яго фіксаваў ужо В.Ластоўскі (ПРК(Б)С. С. 241).

Гэтае слова вельмі натуральна кладзецца ў мову, бо маем жа мы шмат вытворных з коранем *прац-(а)*: *працавік, працаўнік, працоўны* ды інш. Слова *працоўня* ўтварылася паводле ўласцівай беларускай мове мадэлі "аснова дзеяслова + суфікс *-ня*": *вартоўня, сушня, стайня* ды пад. Яно бытуе і ў мове нашых суседзяў-палякаў, чэхаў, славакаў: пол. *pracownia* 'майстэрня, атэлье, лабараторыя', чэш. *pracovna* 'пакой для заняткаў, кабінет', славац. *pracovna*.

Так што тое памяшканне, дзе можна працаваць (майстэрня, кабінет, лабараторыя, кафедра), натуральна называць пры патрэбе агульным словам *працоўня*.

***Розніцца і адрозніваецца. Рознасць і адрозненне.*** З значэннем рас. *отличаться* ў беларускай мове ёсць два словы: *розніцца* і *адрозніваецца*. Першасным, найбольш натуральна матываваным выступае першае з іх, бо яно найдакладней перадае працэсавае значэнне, узніклае ад прыметніка *розны* (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 713) *сведчыць:* "*Розніцца,* незак., ад каго-чаго чым. Разм. Мець асаблівасці, рысы, якія адрозніваюць каго-што-н. ад іншага (іншых), робяць непадобным на іншых; *адрозніваюцца*". "[*Сцяпан Уласавіч*] *амаль нічым не* ***розніцца*** *ад іншых дзядзькоў — ні гаспадаркай, ні адзен-*

*нем*" (Мележ). "*Публіцыстычнасць П.Глебкі **розніцца** ад мяккага лірызму Я.Купалы, ад эпічнай непаспешлівасці Я.Коласа*". "*Сучасны варыянт песні "Ой, рэчанька, рэчанька" таксама **розніцца** ад змешчанага ў пятым томе "Люду беларускага*" (Саламевіч). Як бачым, гэтае натуральнае слова *розніцца*, якое надта дакладна перадае сэнс, паняцце, абумоўленае яго ўтваральным прыметнікам *розны*, выкарыстоўваецца і ў навуковым стылі мовы, і пісьменнікамі (Мележ). Але не зважаючы на ўсё гэта, яно ў слоўніку абмяжоўваецца паметай "размоўнае". Гэтае нічым не апраўданае абмежаванне ў выкарыстанні натуральнага беларускага слова *розніцца* бачым і ў перакладных слоўніках (БРС-88. С. 407). Між тым аўтарытэтныя выданні адкідаюць такое абмежаванне і актыўна карыстаюцца гэтым словам у рознастылёвых тэкстах: "*Можна толькі гадаць, якой была арганізацыя прасторы і грамадства, але тут яна пэўна **рознілася** ад абшараў былой Расійскай імперыі...*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 9). Ад прыметніка *розны* ўтварылася *рознасць*, якое потым стала замяняцца на *адрозненне* (калька рас. *отличие*). Але нацыянальны друк захоўвае свае, першасныя словы: "*Культурная **рознасць** пачала ўспрымацца як нацыянальная толькі ў XX ст.*" (Тамсама. С. 35).

Дарэчы тут будзе нагадаць, што ў ранейшых слоўніках словы *розніцца* і *рознасць* падаваліся без стылістычных абмежаванняў: "*Рознасць* ж. — *различие, отличие. Розніцца — различаться, отличаться*" (БРС-26. С. 278).

***Уцекачы і бежанцы.*** Слова *ўцякач* як эквівалент рас. *беженец* падае першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй славутых пісьменнікаў, акадэмікаў Я.Коласа, К.Крапівы і члена-карэспандэнта АН БССР П.Глебкі: "*Беженец — бежанец,-нца* м.; *уцякач,-ча* м.; *беженка — бежанка,-кі* ж.; *уцякачка,-кі* ж.; *беженский — бежанскі; уцякацкі* (с. 28). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы ўжо выштурхоўвае гэтае слова з літаратурнага слоўніка: "*Уцякач* 1. *Беглец*. 2. См. *бежанец*. Двухтомавае яго перавыданне фіксуе *ўцякач* як размоўнае з спасылкаю: см. *бежанец* (Т. 2. Мн., 1989. С. 636). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 91) падае слова *ўцякач* з двума значэннямі: "1) Той, хто ўцякае або ўцёк адкуль-н. 2) разм. Тое, што і *бежанец*". Аднак гэтае стылёвае кваліфікацыі ("размоўнае") наш друк не трымаецца. І зразумела чаму: слова *ўцякач* (рас. *беженец*) натуральна матывуецца словам *уцёкі* і вынікае з яго першага значэння. Слова ж *бежанец* звязана з словам "бежать", якому адпавядае бел. *уцякаць*. "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае бел. *уцякач* без усякіх стылістычных абмежаванняў як адэкват рас. *беженец* (Т. 1. С. 80). Тут бачым і вытворнае ад яго *ўцякачка* і *ўцёкі* — рас. *беженство*. Сучасны нацыянальны друк пацвярджае міжстылёвасць слова *ўцякач*: "*Тэрыторыю БССР пакінула значная колькасць інтэлігенцыі, ваенныя **ўцекачы**, тыя, хто прыехаў сюды на заробкі*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 52). "*З 1988 г. д-р Говард працаваў з вялікай супольнасцю мігрантаў і **ўцекачоў** з Фіджы*" (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн., 1995. С. 8).

***Абавязанне (забавязанне) — а не абавязацельства.*** Ад словаў *абавязваць* і *абавязаць* натуральныя ўтварэнні ў беларускай мове *абавязак* і *(з)абавязанне.* Слова *абавязацельства* — штучная структура, бо беларускай мове неўласцівы суфікс *-тельств-о.* Параўн.: *доказ* і рас. *доказательство, здзек* і *издевательство, лаянка* і *ругательство.* "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 7) падае: *"Абавязак* м. — *обязанность, обязательство".* В.Ластоўскі рас. *обязательство* перакладае словам *забавязаньне* (ПРК(Б)С. С. 26). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 30) фіксуе слова *абавязацельства* (у 1 знач.) з той дэфініцыяй, што і слова *абавязак.* І калі чытаеш: *"Абавязанне або дагавор, якія патрабуюць абавязковага выканання ад таго, хто іх дае",* — то гэтае працэсавае значэнне якраз добра перадаецца менавіта аддзеяслоўным назоўнікам *забавязанне.* У перыядычным нацыянальным друку і выкарыстоўваюцца гэтыя адмысловыя беларускія словы: *"Калі ты ўзяў на сябе гэтае адказнае* ***абавязанне****, то і мусіш выканаць яго, каб не сорамна было затым перад сваімі дзецьмі і бацькаўшчынай"* (Навіны. 29.07.1998). *"Міжнароднае* ***абавязанне*** *па знішчэнні зброі"* (Голас Радзімы. 15.02.1996).

***Найманне, наймавы, наймит — а не наём, наёмны, наёмнік.*** Словы з каранёваю часткаю *-ём-* для беларускай мовы нехарактэрныя; параўн.: *подъем — уздым, падыманне, падніманне, падняцце; выем* (выемка чего-л.) *выманне* ды пад. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 181) чытаем: *"Найманьне* н. — *наём, найманы — наёмны, наймiт — наёмник, наймы — наём".* Гэта ў пэўнай ступені знайшло свой адбітак і ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" 1953 г. пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі, дзе на с. 278 чытаем: *"Наём* м.1. *Наймы, -маў* ед. *найм; сдавать в наём — здаваць у наймы;* 2. (действие) *найманне; наём рабочей силы — найманне рабочай силы; Наёмка* ж. разг. *найманне. Наёмник — наймiт, наёмница — наймiчка, наймiтка; Наёмщик — наймальнiк; наёмная дача — найманая дача".* Але ў пазнейшых перавыданнях гэтага слоўніка ўсё больш бачым гэтых "ёмаў". Так у РБС-93 ужо чытаем: *"Наём* м. 1. *Наём; здаваць у наём; наёмный — наёмны"* (Т. 2. С. 119).

Між тым у нацыянальным друку бачым: *"Найманае войска"* — загаловак раздзела ў кн.: Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. (Мн., 1994. С. 1).

Гэтая тэндэнцыя — вярнуць беларускай мове натуральнае аблічча яе словаў — паступова знаходзіць свой адбітак і ў даведніках (энцыклапедыях, слоўніках). Напрыклад, у БРС-89 чытаем: *"падымальны — подъёмный, падыманне — подъём; выманне — выемка, выем"* (БРС-88) ды пад.

***Травень і май.*** У беларускай мове ўсе назвы месяцаў — свае, празрыстаматываваныя, славянскія, толькі пяты месяц мае дзве назвы: славянскую *травень* і пазычаную *май.* Як даводзяць этымолагі, слова *май* прыйшло сюды з лацінскай праз грэцкую мову (М.Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. 2. М., 1967. С. 559). Беларускія слоўнікі 20-х гадоў фіксавалі абодва словы. В.Ластоўскі падае: *"Май,* пяты месяц у годзе; *травень, май"*

(ПРК(Б)С. С. 314). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926): "*Май* м. — 1) *май*; 2) *берёзки в день Тройцы*" (с. 164). "*Травень* м. — *май*" (с. 314).

Пазнейшыя перакладныя слоўнікі змяшчаюць на сваіх старонках толькі *май* у абедзвюх частках. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 502) зафіксаваў: "*Травень,-я*, м. Устарэлая назва месяца *мая*". Падаецца тут і вытворнае ад яго слова: "*Травеньскі,-ая,-ае*. Які мае адносіны да *трайня*, які адбываецца ў *травені*. *Быў, помніцца, ясны* ***травеньскі*** *вечар*. Караткевіч".

Слова *май* замацавалі ў савецкіх слоўніках, каб не было розніцы ў назве гэтага месяца з усесаюзным стандартам. Але ж у расійскай мове ўсе назвы месяцаў — іншамоўныя, пазычанні, тымчасам як у беларускай (і ў іншых славянскіх мовах) уласныя, славянскія. Таму ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь сталі выкарыстоўваць на месцы пазычанага слова *май* уласнае ўтварэнне *травень*. Напрыклад: "*Галоўныя сілы пачалі рухацца з Масквы 15* ***трайня*** *1654 г.*" (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995. С. 14); "Наша слова. № 17 (351). *6* ***трайня*** *1998 г.*"; "Пагоня. № 37 (314). *21* ***трайня*** *1998 г.*" "*29* ***трайня*** *бягучага года рэдакцыя прыватнай газеты "Наша ніва" атрымала папярэджанне ад Дзяржаўнага камітэта па друку...*" (Сяргей Запрудскі. Правапісныя рэформы ў славянскіх літаратурных мовах у XX стагоддзі. XII Міжнародны з'езд славістаў: Даклады. Мн., 1998. С. 18). Дарэчы, сучасныя слоўнікі ўкраінскай мовы падаюць слова *травень* як адзіную назву пятага месяца, хоць "Русско-украинский словарь" 1955 года яшчэ фіксаваў: "*Май — травень, -вня;* (изредка) *май; Первое мая — Перше* ***травня***" (с. 232).

Ужыванне слова *травень* (на месцы *май*) аднаўляе ранейшую традыцыю карыстання сваімі, зразумелымі назвамі месяцаў, у якіх (назвах) адбіўся шматвяковы досвед беларусаў, іх пільная ўвага да адметнасці прыроднага цыкла пораў году. *Травень — травяністы, багаты на траву*, апошні месяц вясны, пара сенакосу. Структура яго (з суфіксам *-ень*) тая сама, што і ў астатніх 6 назвах: *студзень, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, снежань*.

***Ходнік і тратуар***. Слова *ходнік* з значэннем 'дарожка для пешаходаў па баках вуліцы, плошчы' здаўна бытавала ў беларускай мове, яно празрыста матываванае — "месца для хады" (а не язды), мае шмат аднакаранёвых слоў: *хада, хадзіць, хадак, хадок, хадня, пешаход* ды інш. Гэтым словам — *ходнік* — называюць і вузкі доўгі дыванок з грубай тканіны, які рассцілаецца на падлозе (*па ім ходзяць*). Абодва гэтыя значэнні зафіксаваў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 208). Праўда, яно тут мае паметы "размоўнае", перавага аддаецца вельмі "прэстыжным" — пазычаным словам *тратуар* (з франц.) і *палавік* (з рас. *половик* — ад *пол* "падлога"). Слова *ходнік* як адэкват рас. *тротуар* засведчыў В.Ластоўскі (ПРК(Б)С. С. 712).

Перакладныя акадэмічныя слоўнікі не падаюць гэтага слова (*ходнік*) як адзінкі літаратурнае мовы, а толькі *тратуар*. Праўда, у двухтомавым "Бела-

руска-рускім слоўніку" яно фіксуецца, але толькі як дыялектнае: "*Ходнік*, м. обл. см. *тратуар*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 669). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча не падае ніводнага з гэтых словаў (*ходнік, тратуар*). Відаць, слова *ходнік* было выгнанае з гэтага слоўніка, бо яно ўласцівае польскай мове, а *тратуар* — народнай мове невядомае, да таго ж яго гучанне парушае гармонію гукаў (збег галосных *уа*). Недарэмна ў жывой мове пачуеш: *пратувар* ці *тратувар*.

Слова *ходнік* — натуральнае сваямоўнае ўтварэнне ад *хадзіць* (ён *ходзіць*): *ход-нік*. Яно з значэннем 'тратуар' уласцівае многім славянскім мовам: пол. *chodnik*, чэш. *chodnik*, славац. *chodnik* ды інш. Яго рэгіструе (з паметай "разм.") і нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн., 1987. С. 855). "*Мой сябра, месячык двурогі // мне скінуў* ***ходнік*** *свой пад ногі // Ішоў па небе дождж-грымотнік // ён выбіў, вымыў гэты* ***ходнік***" (Данута Бічэль. Ад лідскіх муроў: Літаратурна-мастацкі часопіс. № 2—3. Ліда, 1999. С. 6). "*За чатыры дачныя месяцы ўбачыў, нарэшце, першага сёлета вужа. Затое якога! Па чыстых цэментавых плітках* ***ходніка****, пярэстага ад сонечных плямаў і кветкавых, ад ветрыку рухомых ценяў, ён, пачуўшы мяне ад зялёнай металічнай брамкі, шпарка вільнуўся па* ***ходніку*** *наўскасяк...*" (Я.Брыль. З новых запісаў // Полымя. 2000. № 11. С. 23). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) праігнараваў гэтае слова, падаўшы на месцы двухзначнага слова *ходнік* лексемы-пазычанні *тратуар* і *палавік*.

***Віна, правіна, правінка, правіннасць і праступак.*** Слова *праступак* не фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. З значэннем рас. *проступок* тут бачым слова *правіна* і памянш. *правінка* (Мн., 1926. С. 243). Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" (М., 1953. С. 544) падае: "*Проступок* — м. *правіннасць,-ці*, ж.; (вина), *віна, -ны*, ж.". Не лічыць літаратурнаю нормаю слова *праступак* і "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 г.: "*Праступак* м. см. *правіннасць*" (с. 727). Не падае гэтага слова і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996), а толькі: "*Правіннасць* ж. Дрэнны ўчынак, віна" (с. 488). Упершыню з акадэмічных даведнікаў слова *праступак* як дублет да *правіннасць* падаў РБС-82: "*Проступок*, м. — *правіннасць, -ці*, ж.; *праступак, -пка*, м. (Т. 2. С. 251). Але ж ці заканамернае яно тут? Рас. *проступок* матывуецца дзеясловам *проступить* (утварэнне ад яго: *проступ-ок*), якое ў гэтым жа слоўніку мае іншапрэфіксавы адпаведнік. "*Проступать (проступить) — выступаць, выступіць; пот проступил у него на лице — пот выступіў у яго на твары; вода проступила — вада выступіла*". Натуральным утварэннем тут было б хіба што *выступак*. Але ж у беларускай мове бытуе з знач. рас. *проступок* сваё слова *правіннасць* і яго аднакаранёвыя эквіваленты *правіна* і *правінка*, утвораныя ад дзеяслова *правініцца* (варыянт ад *правінавацiцца*): *правін-а* (нульсуфіксавае ўтварэнне, як і *прастуда* ад *прастудзіцца*) і *правіннасць* (ад *правінны*). "Русско-белорусский словарь" 1993 года, на жаль, прадубля-

ваў цалкам гэты артыкул з РБС-82. А норму выкарыстання тут засведчыў "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (с. 164), дзе чытаем: *"Проступок — правіна, ж., правіннасць, ж; дисциплинарный проступок — дысцыплінарная правіна"*.

***Аварыйнік і аварыйшчык.*** Слова *аварыйнік* называе *працаўніка аварыйнай службы*. Тут вытворнае слова (*аварыйнік*) і ўтваральнае (*аварыйны*) маюць супольную аснову (*аварыйн-*) і выразную вытлумачальную семантыку. Як і *авантурнік* і *авантурны*, *алейнік* і *алейны* ды падобныя. Слова *аварыйшчык* (< *рас. аварийщик*) не мае згаданых перавагаў і ўсведамляецца як штучнае. Недарэмна апошнім часам наш перыядычны друк аддае перавагу ўтварэнням на *-нік* (на месцы падаваных слоўнікам з *-чык* (*-шчык*): *алейнік, бунтаўнік, вязальнік, даследнік* (як *правяральнік* і *забаронца*). *"Во думаннік, во мысляр, калі ўжо проста не філосаф"*. Янка Брыль. Пішу, чытаю, жыву / / Полымя. 1998. № 5. С. 47). *"Як рэагаваць на дзеянні бунтаўнікоў?"* (Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну. Мн., 1996. С. 20).

Тое сама можна сцвярджаць і пра натуральнасць у беларускай мове ўтварэнняў *абразальнік* (у слоўніках *абразальшчык*), *азеляненнік* (ад *азеляненне*) на месцы *азеляніцель* (<рас. *озеленитель*), *выпроствальнік* (ад *выпростваць*) на месцы *выпраміцель* (<рас. *выпрямитель*, ад *выпрямить*) ды пад.

***Бліндажаваць — а не бліндзіраваць.*** Слова *бліндажаваць* абазначае "рабіць бліндажы, умацоўваць іх". Тут усё зразумелае і вытлумачальнае. Як і *мантажаваць* ад *мантаж*. А што значыць *бліндзіраваць?* Слоўнікі падаюць яго як застарэлае з значэннем "дадаткова ўмацоўваць ваенныя збудаванні" (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 386). Яно хіба што нагадвае спалучэнне *бліны* і *дзіркі*, г.зн. "рабіць дзіркі ў блінах"! І ці трэба падаваць гэтае застарэлае слова ў слоўніках? А вось выразныя структураю і сэнсам словы *бліндажаваць* і *мантажаваць* варта ўлучыць у літаратурны слоўнік.

***Капіца і капешка.*** Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" падае: "*Капешка* ж. разг. маленькая копна" (Т. 1. Мн., 1988. С. 580). Але чамусьці не бачым тут слова *капіца* "маленькая капа" (сена), хоць яно актыўна выкарыстоўваецца ў творах Адамчыка, Брыля, Карпюка ды іншых і мае рэгулярны суфікс *-іца* (*вадзіца, сястрыца*). А вось утварэнні на *-ешка* для беларускай мовы не надта характэрныя.

***Гасцяваць і гасціць.*** У беларускай мове натуральна пераважае першае слова: яно мае і вытворнае *гасцяванне* і *гасцявальнік, гасцявальніца*. А вось форма *гасціць* — адзінокая. Мусіць, таму "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча фіксуе толькі першае з іх: *"Гасцяваць — гостить"*(с. 79). "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі падае ўжо абедзве лексемы, але з перавагай першай: *"Гостить* несов. — *гасцяваць, гасціць"* (с. 102). А вось наступны акадэмічны "Беларуска-рускі слоўнік" пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы

(М., 1962. С. 204) ужо выганяе слова *гасцяваць* з літаратурнага слоўніка, а нарматыўным прызнае толькі *гасціць* (супольнае формаю з рас. *гостить*). Праўда, вытворнае *гасцяванне* падаецца і тут, дый без паметаў, як адэкват рас. *гощение*. Ужо гэта пярэчыць высновам складальнікаў слоўніка і яго рэдактара К.Крапівы. Гэтую недарэчнасць — непрызнанне натуральнага ў беларускай мове слова *гасцяваць* за літаратурную норму — прадублявалі і ў двухтомавым яго перавыданні, дзе бачым: "*Гасцяваць* несов. разг. см. *гасціць*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 316). Але: "*Гасцяванне* ср. — пребывание в гостях". Як "размоўнае" падае *гасцяваць* (механічна перапісаўшы з згаданых даведнікаў) "Слоўнік беларускай мовы" 1987 года. Аднак усе перавыданні РБС-53 фіксуюць два эквіваленты рас. *гостить* — словы *гасціць* і *гасцяваць*, памяняўшы іх толькі месцамі: "*Гостить* несов. *гасціць, гасцяваць*" (РБС-82. Т. 1. С. 187; РБС-93. Т. 1. С. 327). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 39) адзначае: "*Гасцяваць* незак. Тое, што і *гасціць*". Гэтую норму засведчыў і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 146): "*Гасцяваць* незак. Тое, што і *гасціць* / / наз. *Гасцяванне*".

Лексема *гасцяваць* мае перавагу як адмысловае слова, яго падтрымліваюць вытворныя *гасцяванне, гасцявальнік, гасцявальніца*.

***Сумнеўны — а не сумніцельны.*** "*Рос забойца ў так званай нядобранадзейнай сям'і, яго ўсё больш цягнула ў* ***сумніцельныя*** *кампаніі, прываблівала блатная рамантыка крымінальнага свету*"(Народная воля. 4.08.1998. С. 2). Слова *сумніцельны* неўласцівае нашай мове, пра што сведчыць найперш яго небеларуская словаўтваральная структура: *сумн-іцельн-ы*. Расійскаму суфіксу *-цельн(-іцельн-)* адпавядаюць у беларускай мове іншыя: *-н-, -ч-, -льн-*: *праваахоўны (правоохранительный), даверны ліст і даверчая грамата (верительная грамота), пытальны знак (вопросительный знак), падрыхтоўчы (подготовительный), ачышчальны (очистительный)* ды пад. Рас. *сомнительный* беларускія слоўнікі перакладаюць іншакаранёвымі адпаведнікамі: "*Сомнительный* 1. (возбуждающий сомнение) *няпэўны; сомнительный успех — няпэўны поспех;* 2. (подозрительный) *падазроны; человек с сомнительным прошлым — чалавек з падазроным мінулым;* 3. (двусмысленный) *двухсэнсавы; сомнительный комплимент — двухсэнсавы камплімент*" (РБС-53. С. 645). Тое сама і ў РБС-82 (Т. 2. С. 418). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года і яго двухтомавае перавыданне падаюць толькі словы *сумнявацца* і *сумненне*, а прыметніка з гэтым коранем няма. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча занатаваў: "*Сумненны — сомнительный*" (с. 304). Гэты прыметнік утвораны ад назоўніка *сумненне (сумненн-ны → сумненны)*. Аднак ён невыразны сваёю будоваю (такія ўтварэнні — ненатуральныя ў беларускай мове). Таму ў 90-х гадах стаў выкарыстоўвацца прыметнік *сумнеўны* — утварэнне ад *сумнеў*, якое актыўна стала замяняць слова *сумненне*. "*Я лічу самым трагічным, без* ***сумневу***, *вайну 1654—1667 гг.*" (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995. С. 5). Варыянтам гэтага прыметніка ёсць *сумніўны* (ад *сумніў*). Яно трапіла ўжо на старонкі "Русско-белорусского

словаря" 1993 года, дзе чытаем: "*Сомнительный* 1. (возбуждающий сомнение) *няпэўны; сумніўны; сомнительный успех — няпэўны (сумніўны) поспех;* 2. (подозрительный) *падазроны; сумніўны; человек с сомнительным прошлым — чалавек з падазроным (сумніўным) мінулым*". (Т. 3. С. 408—409).

Форма *сумнеўны* стасуецца з *сумнеў* і *сумненне* і таму больш натуральная.

***Недакурак і акурак, недасеў і абсеў.*** Першыя словы ў гэтых парах маюць выразную структуру і матывацыю: "*Недакурак*... рэштка *недакуранай* папяросы, цыгарэты" (ТСБМ. Мн.,1996. С.385). "*Недасеў.* Частка зямлі, якая засталася *незасеянай*" (Тамсама).

Як бачым, словы з прэфіксам *неда-* паказваюць на прадмет, што ўзнік у выніку непаўнаты, недастатковасці дзеяння, неадпаведнасці патрэбнай норме: *недакурыць → недакур-ак, недасяваць (недасеяць) → недасеў*. Такія аддзеяслоўныя назоўнікі стасуюцца таксама з дзеепрыметнікамі: *недакураны → недакур-ак, недасеяны* і *недасяваны → недасеў*. Пры ўтварэнні гэткім спосабам адбываецца скарачэнне ўтваральнай асновы (адымаецца дзеепрыметнікавы фармант *-ан(-ян): недакур(ан-ы)-ак, недасяв(аны) → недасеў* (нульсуфіксавае ўтварэнне). А вось словы з прыстаўкаю *аб-* ці *а-* такой выразнай матывацыі і словаўтваральнай будовы пазбаўленыя. Недарэмна пры тлумачэнні іх значэння выкарыстоўваюцца згаданыя ўжо натуральныя беларускія структуры з прыстаўкаю *неда-*: "*Акурак*, м. *Недакурак*, рэшткі... *недакуранай* папяросы, цыгары" (Тамсама. С. 54). "*Абсеў* (і *абсевак*)... Лапіна на ніве, якая засталася *незасеянай*" (Тамсама. С. 22). Да таго ж застаецца незразумелай утваральная база слова *акурак*, бо слова *акурыць* мае ў беларускай мове толькі значэнне "абдаць каго-небудзь, што-небудзь дымам" (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 219, 53).

Як бачым, усе перава́гі ў такіх парах словаў маюць першыя з іх кампаненты — *недакурак, недасеў*.

***Прыземны палёт — не брыючы палёт.*** Нашыя акадэмічныя слоўнікі шматлікія тэрміналагічныя адзінкі падавалі без перакладу, толькі напісаныя па-беларуску. Да іх належыць і *брыючы палёт* (<рас. *бреющий полет*). Яго бачым у першым томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1988. С. 199): "*Брыючы* ав. *брыючы палёт — бреющий полёт*". Аднак беларускія вайскоўцы тут маюць адмысловы беларускі эквівалент. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка, С.Чыслава (Мн., 1997. С. 148) чытаем: "*Бреющий полет — прыземны палёт*". Знойдзены адмысловы свая моўны адэкват, з выразным матываваннем: *пры зямлі* (нізка) *→ пры-зем-н-ы*.

***Аглютынацыйны — а не аглюцініруючы.*** Рас. *агглютинирующий* РБС-82 перакладае наступным чынам: "1. прич. *які (што) аглюцініруе*; 2. прил. *аглюцінатыўны*" (Т. 1. С. 20). Тое сама і ў перавыданні 1993 года (РБС-93. Т. 1. С. 30). А двухтомавы БРС-88 (як і яго аднатомавы папярэднік РБС-62) падае: "*Аглюцініруючы* в разн. знач. *Агглютинирующий*" (Т. 1. С. 61). Штучная форма *аглюцініруючы* парушае адразу два законы беларус-

кай мовы: 1) фанетычны: бо іншамоўныя словы захоўваюць у беларускай мове цвёрды гук [*т*]: *аглютынацыя* ад лац. *agglutinare*, параўн. *актывацыя* — ад лац. *aktiv*); 2) марфемна-словаўтваральны: беларускай мове неўласцівыя: а) элемент -*ір*- (суфікс -*ірава*-) і б) дзеепрыметнікавы суфікс -*уч*-. Таму натуральным адпаведнікам рас. *агглютинирующий* ёсць бел. *аглютынацыйны*: прыметнік ад *аглютынацыя*; параўн.: "*Агглютинация — аглютынацыя*" (Русско-белорусский словарь лингвистических терминов. Мн., 1988. С. 6). Аналагічныя адпаведнікі падае і "Руска-беларускі фізічны слоўнік" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн., 1994): *ионизирующий — іянізацыйны* (с. 7), *регистрирующая (аппаратура) — рэгістрацыйная* (с. 15), *фосфоресцирующее (рэчыва) — фасфарасцыйнае, флюоресцирующее — флюарэсцыйнае* (с. 28), *вибрирующий — вібрацыйны* (с. 29) ды пад. Або: "*Індуляцыйны — индулирующий*" (А.Ятусевіч, В.Капліч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. Мн., 1993. С. 259).

***Адломваць і адломліваць.*** Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" ужо касуе натуральныя беларускія формы. На с. 62 першага тома чытаем: "*Адломваць* несов. см. *адломліваць, адломвацца* см. *адломлівацца*". Між тым фармант -*іва*- ў беларускай мове непрадукцыйны. У "Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959. С. 28) чытаем: "*... у нешматлікіх выпадках, калі перад -ва- з'яўляецца група зычных, у якой апошнім будзе л,н або р, замест -ва пішацца суфікс -іва(-ыва-), напрыклад: падкрэсліваць, падтрымліваць, зачэрніваць, адыгрываць, праветрываць, запэўніваць*".

У згаданых дзеясловах *адломваць, адломвацца* перад суфіксам -*ва*- ў аснове няма групы зычных (*адлам(аць) — адлом(ваць)*, таму лічыць іх парушэннем нормы ніяк не выпадае. Недарэмна нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн., 1987. С. 48) засведчыў: "*адломлівацца* і *адломвацца, адломліваць* і *адломваць*". Да таго ж назоўнік тут утвараецца толькі ад формы з суфіксам -*ва*: *адломванне*. "Русско-белорусский словарь" 1993 года фіксуе дзве формы як раўнапраўныя: "*Отламывать* несов. *адломліваць, адломваць; отламываться — адломлівацца* і *адломвацца*" (Т. 2. С. 395). "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 39) таксама падае абедзве формы як літаратурную норму: "*Адломвацца* незак. гл. *адламацца; адломваць* незак., *адломліваць* незак. гл. *адламаць*".

***Падпісанты, падпісаныя — а не падпісаўшыяся.*** Дзеепрыметнікі з постфіксам -*ся* беларускай мове неўласцівыя, яны парушаюць граматычную норму літаратурнай мовы. Гэта засведчыла і акадэмічная "Беларуская граматыка". На жаль, у некаторых універсітэцкіх навучальных дапаможніках яны падаюцца як паралельныя: *утвараючаяся — утвараемая*. — Гл.: П.Шуба. Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія (Мн., 1987. С. 214). У перыядычным друку зваротныя дзеепрыметнікі, на жаль, і сёння сустракаюцца. Напрыклад: "*сярод абуджаючагася народу...*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 28). "*Аб станаўленні музея і архіва пісаў на рубяжы стагоддзяў старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі Ф.М.Дабан-*

*скі ў сваёй неаднаразова* ***выдаваўшайся*** *кнізе "Старая і новая Вільня..."* (Беларуская мінуўшчына: Гісторыка-публіцыстычны ілюстраваны часопіс. № 1. 1997. С. 8). "*У 1990 г. на з'ездзе партыі практычна аднагалосна (пры адным* ***устрымаўшымся****) быў абраны сакратаром ЦК КПБ*" (Звязда. 15.05.1996).

Нашыя акадэмічныя слоўнікі апошніх дзесяцігоддзяў не падаюць ніводнага зваротнага дзеепрыметніка нават як тэрміна. Расійскім зваротным дзеепрыметнікам у беларускай мове адпавядаюць прыметнікі; напрыклад, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гг. бачым: *адкіпелы — свернувшийся, акруглелы — округлившийся, акрыялы — оправившийся, ашалелы — взбесившийся, вітковы — вьющийся, выбачлівы — извиняющийся, заляжалы — залежавшийся, згалелы — разорившийся, згусцелы — сгустившийся, уплотнившийся; зліплы — слипшийся, змарнелы — осунувшийся, каксаўны — коксующийся, лямцаваты — свалявшийся, нябіткі — небьющийся, павойны — вьющийся, самазапальны — самозажигающийся, састарэлы — состарившийся* і шмат падобных.

Замест пазычанага з усесаюзнага стандарту "*мы, ніжэй падпісаўшыяся*" (<рас. *мы, нижеподписавшиеся*) у беларускай мове нарматыўна выкарыстоўваецца незваротны дзеепрыметнік прошлага часу з суфіксам *-н-(-ан-) падпісаныя*. Напрыклад, у Якуба Коласа чытаем: "*Пішы! — сказаў старасата да Міхалкі: — Мы,* ***ніжэй падпісаныя,*** *сяляне вёскі Ямішча, склікаsuccessfully ныя нашым старастам...*" ("Кантракт").

У сучасным друку на месцы гэтага слова стала выкарыстоўвацца ўтварэнне з суфіксам *-ант-(ы): падпісанты: "Колькасць* ***падпісантаў*** *"Дэкларацыі—97" усё павялічваецца*" (Народная воля. 1997. 17 лістапада). "***Падпісанты*** *баявой заявы даводзілі, што яны пакідаюць за сабой права пачаць кампанію грамадзянскага непадпарадкавання*" (ЛіМ. 15.05.1998).

***Дастасоўны, дастасавальны, ужытковы і прыкладны.*** Слова *прыкладны* ТСБМ (Т. 1. Мн., 1980. С. 437) тлумачыць так: "Які мае чыста практычнае значэнне, прымяняецца на практыцы. *Прыкладныя навукі. Прыкладная электратэхніка. Прыкладное мастацтва*". Аднак з значэннем "прымяніць на практыцы" ў беларускай мове звычайна выкарыстоўваецца дзеяслоў *ужыць (ужываць)*, які ў ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 624) характарызуецца наступным чынам: "*Ужыць* зак. Што. 1. *Прымяніць* што-н., для чаго-н., з якой-н. мэтай / / Знайсці прымяненне чаму-н. *Ёсць дзе спецыялісту ўжыць свае веды*. 2. *Выкарыстаць, скарыстаць, прымяніць дзе-н.* / / Выкарыстоўваць на пісьме, у мове, абыходжанні і пад.". Ад дзеяслова *ўжыць* і дзеепрыметнік прошлага часу (з суфіксам *-т-*) *ужыты*, ад якога ўтварыўся назоўнік *ужытак* з значэннем 'прымяненне, выкарыстанне ў штодзённым жыцці' (Тамсама). Ад гэтага назоўніка з дапамогаю прадукцыйнага суфікса *-ов-* утварыўся прыметнік *ужытковы* 'які часта, шырока ўжываецца'. Апошнім часам ён замяняе слова *прыкладны*. На старонках БРС-93 ужо чытаем: "*Прикладной — прыкладны; ужытковы; прикладное исскуство — прыкладное (ужытковае) мастацтва*" (Т. 2. С. 781).

У літаратурнай мове з значэннем 'прымяніць' бытуе таксама слова *дастасаваць*. У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 367) чытаем: "*Дастасаваць* (да чаго) сов. *Применить* (к чему); (*теорию* и т.п. — еще) *приложить* (к чему); *дастасаваць тэорыю да практыкі — приложить теорию к практике*". Ад яго ўтварыўся і прыметнік *дастасавальны — применимый* (Тамсама).

Як паказваюць матэрыялы слоўнікаў, найбольш адэкватным эквівалентам рас. *прикладной* (утварэнне ад *прикладывать — приложить*) і ёсць *дастасавальны* і яго карацейшы словаўтваральны варыянт → *дастасоўны*. Гэтыя словы *дастасоўны* і *дастасавальны* актыўна выкарыстоўваюцца ў нацыянальным друку. Вось некаторыя прыклады: "*Пасля сканчэння каланіяльнай эры, калі **дастасоўная** антрапалогія апынулася ў такім незайздросным становішчы, спецыялісты гэтай галіны навукі засталіся толькі ў каледжах і універсітэтах*" (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Мн., 1995. С. 416). "*У **дастасоўнай** працы адкрытая прапаганда звычайна не вядзецца*" (Тамсама. С. 418). "*У аснову стварэння беларускіх назоваў хімічных элементаў пакладзены патрабаванні Камісіі ІНРАС — Міжнароднага саюза тэарэтычнай і **дастасоўнай** хіміі, распрацоўкі Тэрміналагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры...*" (Наша слова. 1994. № 46).

Такім чынам, замест штучнага *дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва* мусіць быць *дэкарацыйна-ўжытковае* ці *дэкарацыйна-дастасоўнае мастацтва*.

***Узаеміны і ўзаемаадносіны.*** Слова *ўзаемаадносіны* ўсведамляецца як калька з рас. *взаимоотношения*. Апошнім часам на месцы гэтага грувасткага складанага слова стала выкарыстоўвацца простае (аднакаранёвае) *узаеміны*: "***Узаеміны** з абшарнікам часта былі карэктныя або нават добрыя*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 57). "*Я прачытаў заметку пра **ўзаеміны** Пушкіна і Міцкевіча*" (Наша слова. 12.08.1998. С. 4). "*Г.Тваравіч стараецца не прамінуць ні адзін факт як культурных, так і прыватна чалавечых **узаемін***" (Полымя. 1998. № 5.). *Узаеміны* зафіксаваў ужо В.Ластоўскі: "*У іх ужо здаўна такія **ўзаеміны***" (Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. 63).

Ведае гэтае слова і ўкраінская мова. Утварылася яно з дапамогаю суфікса *-ін-ы* ад *узаемн(ны)-іны*. Утварэнняў з суфіксам *-ін-ы(-ын-ы)* у беларускай мове шмат (гл. артыкул *Народзіны*).

Ёсць падставы меркаваць, што гэтае вельмі эканомнай структуры і выразнае сэнсам слова *ўзаеміны* замацуецца ў слоўніку літаратурнай мовы.

***Век і ўзрост.*** Слова *век* з значэннем рас. *возраст* фіксаваў ужо БРС-26 (с. 27). Расійскае *возраст* — пазычанне з стараславянскай мовы. Наш першы акадэмічны слоўнік перакладае яго толькі словам *узрост*: "*Возраст — узрост; зрелый возраст — сталы ўзрост; одного возраста — аднаго ўзросту*" (РБС-53. С. 67). Другое яго выданне (РБС-82) фіксуе як адэкватнае слова *век*: "*Возраст — узрост, век; зрелый возраст — сталы ўзрост (век); од-*

*нога возраста — аднаго ўзросту (веку)*" (Т. 1. С. 116). Поўнасцю паўтараны гэты лексікаграфічны артыкул і ў "Русско-белорусском словаре" 1998 г. (Т. 1. С. 201). Занатавалі яго і тлумачальныя слоўнікі, а таксама БРС-62 і БРС-88. Прыемна, што гэтае слова выкарысталі і пры ўтварэнні складання *даўгавечнік* як дублетнага да калькаванага *доўгажыхар* (<рас. долгожитель). Яго падае РБС-82 (Т. 1. С. 220): "*Долгожитель — доўгажыхар, даўгавечнік; долгожительница — доўгажыхарка, даўгавечная, даўгавечніца*". Прадублявалі гэта і РБС-93, РБС-98. Аднак чамусьці натуральнае слова *даўгавечнік* як аднаслоўны адпаведнік аналітычнай назвы *даўгавечны (жыхар)* падаецца толькі як гутарковае (размоўнае), а штучнакалькаванае *доўгажыхар (доўгі жыхар?)* як агульнаўжывальнае. Гэтую недарэчнасць бачым і ў новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 172). Аднак сучасны нацыянальны друк амаль не карыстаецца гэтым штучным "доўгажыхар(ка)", хоць раней у друку было толькі гэтае слова. І слова *ўзрост* панавала ці не як адзіны эквівалент рас. *возраст*, а *век*, хоць і зафіксаванае ў слоўніках, амаль не выкарыстоўвалася.

***Скарачэнне і скарот.*** Ад дзеяслова *скараціць (скарачаць)* утварыліся назоўнік *скарачэнне* і *скарот*. Першы з іх — з дапамогаю фарманта *-энне*, другі — нулявога суфікса (з чаргаваннем *ц' / т* і аднаўленнем каранёвай формы *-карот-)*.

Нульсуфіксавыя ўтварэнні як больш кароткія словы сталі надта актыўнымі ў 90-х гадах (*спадзеў, параза, подслух, развой, напой, давер, расповед* ды інш.). Праўда, шмат якія з іх бытавалі і раней. Слова *скарот* зафіксаваў яшчэ В.Ластоўскі: "*Сокращать* што, *скарачаць -цца, скарот*" (ПРК(Б)С. С. 674). Актыўна выкарыстоўваецца яно і сёння. "*Бібліяграфічны **скарот** на пачатку разгляду кожнага падручніка адсылае да адпаведнай пазіцыі ў бібліяграфіі*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 142). Бачым яго і ў спецыяльным даведніку "Руска-беларускі слоўнік па кнігазнаўстве" (Мн., 1997), выдадзеным Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі: "*Сокращение — скарот*".

***Гуртавы і аптовы (гандаль), гуртавік і аптавік.*** Слоўнікі 20-х гадоў з значэннем 'аптовы' падавалі слова *гуртавы*: "*Гуртавы — оптовый, общий*" (БРС-26. С. 85), "*Оптовой — агульны, агульніцкі; гуртовы. Агульніцкая крама*, у якой прадаюць тавары не ў раздроб, а *агулам, гуртам*" (ПРК(Б)С. С. 416). "*Опт.* м. прадажа агулам: *гурт, гуртам*" (Тамсама).

З значэннем 'група якіх-н. аднародных прадметаў' слова *гурт* занатаваў і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 96). Слова *гурт* мае шмат аднакаранёвых лексемаў: *гуртаванне, гуртавацца, гуртаваць, гуртавы, гуртаўшчык*. Усё гэта робіць яго зразумелым і звычным і ў спецыялізаваным выкарыстанні (чаго не скажаш пра слова *оптам* і *аптовы)*. З гэтае прычыны *гуртавы* і *гуртавік* набываюць актыўнасць у сучасным нацыянальным друку. "*Было размежаванне між гандлярамі краёвымі і заможнымі **гуртавікамі***" (Язэп Найдзюк, Іван Касяк. Беларусь учора і сяньня. Мн., 1993. С. 26).

***Задзіраць (задзерці) — а не драць нос.*** Устойлівае словаспалучэнне (фразема) *задзіраць (задзерці) нос* значыць 'заганарыцца, зазнацца'. З гэткім значэннем выступае таксама *задраць галаву* (гл. ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 310). Гэткае значэнне вынікае з першаснага '*задзерці (задзіраць) нос (галаву)*' — 'падняць уверх'. А вось што значыць *драць нос* — няведама, бо дзеяслоў *драць* не мае значэння 'падымаць уверх'. Відаць, яго механічна перанеслі ў беларускую частку слоўніка з расійскай. Таму ў БРС-88 (Т. 1. С. 388) бачым: "*Драць а драць нос — драть нос*". "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 127) не падае такога фразеалагізма (а толькі *драць горла* і *драць шкуру*). Іншыя фразеалагізмы з кампанентамі *нос* і *галава* маюць прыстаўкавы дзеяслоў *задраць*: *задраць (задзерці) галаву, задраць (задзерці) нос* (РБС-82. Т. 1. С. 258; РБС-93. Т. 1. С. 455).

***Праўдзівы і сапраўдны.*** Слова *сапраўдны* больш кніжнае ("робленае") слова. У жывой народнай мове яго функцыю нярэдка бярэ на сябе слова *праўдзівы* — больш блізкае да сваёй існасці, выражанай словам *праўда*. Так, у народзе пачуеш: "*Гэта праўдзівыя дачнікі, а не злодзеі. Збіралі адно праўдзівыя грыбы*". Баравікі нярэдка так і называюць *праўдзівыя грыбы* ці *праўдзівікі*.

***Па шчупаковай волі — ■ не па шчупаковаму загаду.*** У "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 429) чытаем: "*Загад ◊ па шчупаковаму загаду — по щучьему велению*". Якая штучнасць! Нібы шчупак піша загады. А сама сінтаксічная канструкцыя? Яна таксама небеларуская: "*па+словаформы* (назоўніка і дапасаванага да яго прыметніка) *давальнага склону*". Беларускай мове яна неўласцівая: прыназоўнік *па* кіруе ў беларускай мове месным (і вінавальным) склонам: *па загадзе, па лесе, па горадзе, па лёдзе*...

Пра небеларускае паходжанне гэтага "па шчупаковаму загаду" няраз заўважалася ў друку. І вось у "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 766) шчасліва бачым натуральны яго адпаведнік: "*Па шчупаковай волі або на шчупакова казанне*" ('само сабой, як бы дзякуючы чарадзейству')...

***Расказ, апавяданне і расповед, аповед.*** У сучасным перыядычным друку актыўна выкарыстоўваюцца словы *апавядаць, распавядаць* і ўтвораныя ад іх назоўнікі — ***аповед*** *(аповяд)* і *расповед*. "*Яго **расповеды** сталі асновай чарговай брашуры*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 215). "*Лірычны **аповед** кампазітара*" (ЛіМ. 20.02.1998). "*Асноўная маса сюжэтаў кнігі Платонава — аналітычны **аповед** пра трагічны лёс палітычнай эліты Савецкай Беларусі*" (Беларускі гістарычны агляд. С. 286). "*Але я вам **распавядала** пра любоў*" (Полымя. 1998. № 4. С. 19). "*Герой нашага **аповеду** Іван Баранкевіч*" (ЛіМ. 1998. 7.08.1998. С. 16).

Часам чуюцца галасы-пратэсты супраць гэтых словаў. Але спроба забараніць іх — марная. Ёсць у нас цэлае гняздо такіх аднакаранёвых словаў. Напрыклад, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 126) чытаем: "*Апавядальнасць* ж. — *повествовательность; апа-*

вядальнік м. — *расказчик, повествователь; апавядальніца ж. — рассказчица, повествовательница; апавядальны — повествовательный; апавяданне* ср. 1. *рассказ* м. *повествование;* 2. (жанр) *рассказ* м.; *повествование; апавядацца — рассказываться, повествоваться; апавядаць* несов. *рассказывать; аповесць*" ды інш. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 240) засведчыў слова *апавядаць* з значэннямі 'расказваць, апісваць; паведамляць аб чым-небудзь'. І падаецца ілюстрацыя выкарыстання гэтага слова — з трылогіі Якуба Коласа "На ростанях": "*Турсевіча вельмі насмяшыла адно здарэнне на чыгунцы, і аб гэтым апавядаў ён цяпер Лабановічу*".

Ад слова *апавядаць* нульсуфіксавым спосабам утварыўся назоўнік *аповяд* (з галоснай *я*, як у слове *апавяданне*, хоць арфаграфічна гэта памылковае напісанне: у паслянацiскным складзе каранёвае *е* захоўваецца; параўн. *аповесць*), відаць, у варунках моды на больш кароткія словы ці для размежавання розных значэнняў слова *апавяданне:* працэсавае — *аповед* і 2) значэнне жанру — *апавяданне*. Параўн. *апойваць(цца)*: 1) *апой* (вет. тэрмін) і 2) *апойванне*.

Ад *апавядаць* узніклі на ўзор *расказваць (расказаць)* і прыстаўкавыя ўтварэнні: *распавядаць* (незак.) і *распавесці* (зак. трыванне). Ад гэтага прыстаўкавага *распавядаць* нульсуфіксавым спосабам утварылася *расповед* (і ненарматыўны арфаграфічны варыянт *расповяд;* як і *аповяд*).

Як бачым, мова папоўнілася сінанімічнымі сродкамі з больш эканомнай структурай — нульсуфіксавымі ўтварэннямі, якія ў наш час надта актыўна выкарыстоўваюцца ў мове (*спадзеў, сумнеў, супрацiў, напой, выстава, перадрук, (баявы) хрост* ды пад.).

***Дэпартаваць* — ■ *не дэпартыраваць*.** "*Удзельнікаў міжнароднага маршу "За бязатамную Беларусь" "**дэпартыравалі**" з Быхаўскага раёна*" — назва артыкула ў газеце "Народная воля" ад 08.08.1998 г. Супрацоўнікі газеты, відаць, самі стварылі гэтае слова (таму і напісалі яго ў двукоссі) пры перакладзе расійскамоўнага тэксту (<*депортировали*). Аднак яны парушылі тут два законы беларускай мовы: 1) у іншамоўных словах зычны гук [д] перад суфіксавым *-ір-(-ірава-)* памякчаецца: *каманда* і *камандзір, камандзіраваць;* 2) іншамоўныя назоўнікі на *-цыя* і аднакаранёвыя дзеясловы маюць супольную аснову, да якое далучаецца ў беларускай мове спрадвечнабеларускі дзеяслоўны суфікс *-ава-*: *дэманстр-ацыя → дэманстр-аваць, дэгуст-ацыя → дэгуст-аваць, дэзактыв-ацыя → дэзактыв-аваць*. Таму і ў нашым выпадку: *дэпарт-ацыя → дэпарт-аваць*. Слова *дэпартаваць* не падае ніводны слоўнік, у іх знаходзім толькі: *депортация — дэпартацыя*. Няма яго нават і ў такім нарматыўным даведніку, як "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн.: БелСЭ, 1987).

На шчасце, яго падае ўжо "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 194): "*Дэпартаваць*... зак. і незак., каго (што) (спец.).

*Выгнаць (выганяць), выдаліць (-ляць) з краіны* / / (наз(оўнік) *дэпартацыя, -і, ж.*" Тут бачым дзееприметнік ад гэтага дзеяслова: *дэпартаваны*. А ў артыкуле пад згаданай назвай: "*І лепш было б, параіў начальнік РАУС, каб яны "не хадзілі па раёну". З гэтым наказам удзельнікі маршу і былі "дэпартаваныя" назад у Магілёў*".

Як бачым, выкарыстанне ў дзеясловах іншамоўнага паходжання натуральнага суфікса *-ава-* засцерагае і ад штучнасці ў фанетычным (і арфаграфічным) афармленні словаў.

***Слухаўка і трубка (тэлефонная).*** Слова *трубка* шматзначнае. ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 254) адно з іх апісвае гэтак: "*Частка тэлефоннага апарата, якая служыць непасрэдна для слухання і гаварэння*". Улічваючы прызначэнне гэтай прылады (трубка для слухання), яе назвалі *слухаўка*: "*Значыць, нешта здарылася. Што? Трэба патэлефанаваць. Азіраючыся па баках, Ясь пайшоў да тэлефона-аўтамата.* ***Слухаўку*** *падняла Яніна. — Ты дома? — толькі й змог вымавіць Ясь*" (Полымя. 1995. № 6. С. 104—105). "*Часам званіў тэлефон, і дачка Саша брала* ***слухаўку***" (Полымя. 1998. № 7. С. 24).

Слова *слухаўка* мае выразную матывацыю. Утварылася ад дзеяслова *слухаць* з выкарыстаннем суфікса *-аўк-(-оўк-а): слух(аць)-аўка*. Вытворныя з гэтым суфіксам абазначаюць прадметы (*пырскаць — пырскаўка*). Як сведчыць акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985. С. 242), словаўтваральны тып з гэтым суфіксам набывае прадукцыйнасць у гутарковай мове.

Намінацыі з коранем *-слух-* як абазначэнне прылады для *слухання* (тэлефоннай трубкі) уласцівыя і іншым славянскім мовам: славац. *sluchadlo*, чэш. *sluchatko*, пол. *sluchawka*.

Лексема *слухаўка* стасуецца і з аналітычным найменнем — *слухавая трубка*, ад якога шляхам кандэнсацыі ("сціскання") магла ўзнікнуць аднаслоўная (сінтэтычная) намінацыя: *слухав(ая трубка) +-ка → слухаўка*.

Узнікненне адмысловае назвы — *слухаўка* — для трубкі (тэлефоннае) — натуральная з'ява: мова імкнецца да дыферэнцыяцыі найменняў пры абазначэнні розных рэаліяў. Гэта досыць выразна выяўляецца, калі параўнаць лексічную сістэму беларускай мовы з расійскаю. Напрыклад, рас. *сало* ў беларускай мове мае 6 адпаведнікаў. РБС-98 (Т. 3. С. 270) засведчыў: "*Сало* ср. (жир) *тлушч*; (свиное) *сала*; (нутряное, свиное) *здор*; (баранье, говяжье) *лой*; (гусиное) *шмалец*; (жидкое, топлёное) *тук*". Або: "*Сарай* м. (для скота) *хлеў*; (для сена) *пуня, адрына*; (для дров) *павець, паветка*; (для повозок) *вазоўня*" (Тамсама. С. 239).

Дый да слова *трубка* беларуская мова мае свае адмысловыя адпаведнікі. У згаданым РБС-98 чытаем: "*Трубка* ж. 1. *трубка*; 2. (свёрток) *скрутак*; (полотна) *сувой*; 3. (для курения) *люлька*" (Т. 3. С. 553). А цяпер маем яшчэ адну адметную намінацыю — *слухаўка*.

***Гістарычна-культурны — а не гісторыка-культурны.*** "*Другім прызам журы ўзнагародзіла дакументальны фільм "Белавежскі край..." —*

*за публіцыстычнасць і глыбокую распрацоўку тэмы захавання нацыянальнага* ***гісторыка-культурнага*** *багацця Беларусі*" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 4). "*Кніга "Беларуская літаратура: паўднёваславянскі кантэкст" паводле шырыні ахопу* ***гісторыка-культурнага*** *матэрыялу, шматаспектнасці праблематыкі... годна дапаўняе сабой нашу славістычную бібліятэку*" (Полымя. 1998. № 6. С. 316).

Як зразумець тут значэнне гэтага прыметніка: *гісторыка-культурны (матэрыял), гісторыка-культурнае (багацце)*? Пра якіх *гісторыкаў* тут ідзе гаворка? Як паказвае семантыка тэксту, аўтары хацелі распавесці пра *гістарычна-культурнае* багацце Беларусі, пра *гістарычна-культурны* матэрыял. Невыпадкова ў іншых, дагледжаных, мясцінах гэтых тэкстаў бачым якраз нармаваныя формы складаных прыметнікаў з першым кампанентам *гістарычна-*: "*Нерухомыя помнікі гісторыі і культуры... могуць быць выкарыстаныя ў гаспадарчых і іншых мэтах, калі гэта не наносіць шкоды захаванню помнікаў і не парушае іх* ***гістарычна-мастацкай*** *каштоўнасці*" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 13). "*У чарговым даследаванні Г.Твярановіч на вялікім* ***гістарычна-культурным*** *матэрыяле ўпершыню ў айчыннай славістыцы разглядае літаратурныя ўзаемасувязі беларусаў і сербаў, славенцаў, харватаў ад самых славянскіх вытокаў да канца XIX стагоддзя*" (Полымя. 1998. № 6. С. 309).

Вельмі крыўдна бачыць гэтакую штучнасць, недарэчнасць і ў падзагалоўку такога знанага выдання, як "Беларуская мінуўшчына. Гісторыка-публіцыстычны ілюстраваны часопіс". 1997. № 1 (на вокладцы і на с. 1). Чаму не *гістарычна-публіцыстычны... часопіс*? Ці гэта часопіс для "публіцыстычных гісторыкаў"?

У нашых акадэмічных слоўніках у гэтым выпадку падаюцца нармаваныя формы прыметнікаў гэтага кшталту. Так, двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 323) засведчыў: "*Гістарычна-літаратурны* (рас. *историко-литературный*), *гістарычна-матэрыялістычны* (*историко-материалистический*), *гістарычна-філалагічны* (*историко-филологический*), *гістарычна-філасофскі* (*историко-философский*).

Тое сама бачым і ў "Русско-белорусском словаре" 1998 года ды іншых слоўніках. Такая форма гэтых прыметнікаў абгрунтаваная, бо тут прыметнікі-кампазіты складаюцца з двух раўнапраўных кампанентаў (аб'яднаных спалучальнымі дачыненнямі) і выяўляюць адзіную прымету, якая вынікае з адзнакаў, названых утваральнымі словамі. Напрыклад, *гістарычна-філалагічны факультэт*. Ён спалучае два профілі, мае два аддзяленні: *гістарычнае* і *філалагічнае*, што выразна выяўляецца і ў назве. Тое сама і ў дачыненні да словаў *гістарычна-філасофскі*, *гістарычна-літаратурны* ды інш.

На жаль, неўнармаванымі застаюцца многія складаныя прыметнікі гэтага кшталту. У акадэмічных слоўніках бачым вялікую разбежнасць. У адных выпадках, як мы пераканаліся, яны фіксуюць натуральныя, нармаваныя формы (як *гістарычна-філалагічны*), у іншых — штучныя, неўласцівыя беларус-

кай мове: *фізіка-хімічны* (рас. *физико-химический*), *эканоміка-геаграфічны* (*экономико-географический*), *эканоміка-матэматычны* (*экономико-математический*), *палітыка-эканамічны* (*политико-экономический*) ды інш.

Але чаму трэба пісаць *фізіка-матэматычны*, а не *фізічна-матэматычны*, як гэтага патрабуе здаровы сэнс? Да прыкладу, *фізічна-матэматычны факультэт* — гэта двухпрофільны факультэт, які мае два аддзяленні — *фізічнае* і *матэматычнае*. Як і *гістарычна-філалагічны*. Аднак слоўнікі патрабуюць у адным выпадку пісаць у адпаведнасці з сэнсам (выражаным паняццем) натуральнае найменне *гістарычна-філалагічны* (рас. *историко-филологический*), а ў другім — штучнае, небеларускае *фізіка-матэматычны*. Пра недарэчнае напісанне складаных прыметнікаў з першаю непрыметнікаваю часткай сведчыць і наступны факт. У 1994 годзе ў выдавецтве "Народная асвета" выйшаў з друку даведнік: З.Я.Андрыеўская, І.П.Галай. Руска-беларускі *фізіка-геаграфічны* слоўнік. У прадмове яго чытаем: "*Слоўнік утрымвае паняцці і тэрміны па фізічнай геаграфіі... прызначаны для ўсіх, хто цікавіцца фізічнай геаграфіяй*" (с. 3—4). Дык адкуль тут гэтае "фізіка-" ў назве слоўніка, калі гаворка ідзе пра *фізічную геаграфію*? Натуральным тут было б: *слоўнік па фізічнай геаграфіі*.

Такую ж бязглуздзіцу бачым і ў назвах некаторых іншых перакладных слоўнікаў. "*Англа-беларускі слоўнік*". Што тут азначае гэтае "англа-"? Гэта ж слоўнік, які мае дзве часткі: *англійскую* і *беларускую*, таму і назва яго мусіць быць адпаведная: *англійска-беларускі*, бо пішам: *беларуска-англійскі слоўнік*, а не *беларуса-англійскі*.

Блытаніна з слоўнікаў пераносіцца і на старонкі друку: "*Зразумела, што ў цяперашняй сітуацыі, найперш пры тых, што склаліся, **палітыка-эканамічных** стасунках,.. нам не надта выпадае раптам закрычаць на ўвесь свет...*" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 12). Тут ідзе гаворка пра *палітычныя* і *эканамічныя стасункі*, то трэба так і пісаць: *палітычна-эканамічныя*. Невыразнасць формы вядзе і да неадназначнасці, незразумеласці сэнсу слова.

Тэрміналагічныя слоўнікі, падрыхтаваныя кваліфікаванымі спецыялістамі (дасведчанымі і ў пытаннях культуры мовы), трымаюцца сістэмаваабумоўленых нормаў і ў падачы складаных прыметнікаў спалучальнага тыпу. Так, у даведніку: Уладзімір Самайлюковіч, Уладзімір Пазняк, Аляксандр Сабалеўскі. Руска-беларускі фізічны слоўнік (Мн., 1994. 302 с.) чытаем: *фізічна-матэматычных навук* (с. 2), *физико-химический — фізічна-хімічны* (с. 263) ды інш. У "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" Станіслава Судніка і Сержука Чыслава (Мн., 1997. 250 с.) таксама бачым: *фізічна-матэматычных навук* (с. 2). У кнізе: Андрэй Болатаў, Генадзь Рыдзеўскі. Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне: Аркадзь Смоліч (Мн.: Тэхналогія, 1999) на с. 14 чытаем: "А.Смоліч... працаваў над тэмай, прысвечанай даследаванню *фізічна-хімічных* уласцівасцяў падзолаў".

Такім чынам, у складаных прыметніках, дзе абедзве часткі выступаюць як раўнапраўныя (аб'яднаныя спалучальнымі дачыненнямі) і маюць значэнне

прыметнікаў, натуральна мусяць мець і форму гэтай часціны мовы ў абедзвюх частках: *англійска-беларускі, гістарычна-культурны, гістарычна-філалагічны, палітычна-эканамічны, фізічна-матэматычны, хімічна-біялагічны* ды пад.

***Саманавучальнік — а не самавучыцель.*** Нашыя сучасныя слоўнікі рас. *самоучитель* падаюць без перакладу, толькі напісанае паводле беларускага правапісу: "*Самоучитель — самавучыцель; самоучитель шахматной игры — самавучыцель шахматнай гульні*" (РБС-82. Т. 2. С. 352). Аднак беларускай мове словы з суфіксам *-цель* неўласцівыя. Рас. *учитель* адпавядае бел. *настаўнік*, *слушатель — слухач*, *проситель — просьбіт*, *воспитатель — выхавальнік* ды інш. Дапаможнік (падручнік) для ***навучання*** чаму-небудзь самастойна, без дапамогі кіраўніка — *саманавучальнік*. "*Прадаю **саманавучальнік** ангельскай, ірландскай мовы з касетаў*" (Пагоня. 6.08.1998. С. 6).

Гэтае складанае слова — *саманавучальнік* — мае другою часткаю кампанент *навучальнік*. Яго як асобнае слова падаюць РБС-82 і РБС-98 як адэкват рас. *учащий*: "*Учащий* 1. прич. *які (што) вучыць*; *які (што) навучае*; 2. сущ. *навучальнік*; *собрались учащиеся и учащие — сабраліся навучэнцы і навучальнікі*" (РБС-82. Т. 1. С. 548). Гэты артыкул паўтарыў без усякіх зменаў і РБС-98 (Т. 3. С. 645).

Дык чаму не падаць да рас. *самоучитель* беларускі адэкват *саманавучальнік*, калі мы маем слова *навучальнік* з значэннем 'які навучае'. Між тым "Русско-белорусский словарь" 1953 года падаваў тут сваё адмысловае: "*Самоучитель — самавучнік; самоучитель шахматной игры — самавучнік шахматнай гульні*" (с. 605).

Улічыўшы, што ў беларускай мове больш пашыраныя словы з прыстаўкаю *на-* (*навучанне, навучаць, навучальны* ды інш.) і самы прадукцыйны аддзеяслоўны суфікс *-льнік*, варта прызнаць найбольш прыдатным слова *саманавучальнік* "сам навучае" (без настаўніка). Гэтая аднаслоўная намінацыя добра стасуецца і з аналітычнаю назваю *саманавучальны дапаможнік*, ад якога ён таксама мог узнікнуць (шляхам кандэнсацыі): *саманавучальн(ая кніга)-ік*.

***Таксі, таксоўка, легкавік.*** Слова *таксі* як нескланяльнае для народнае мовы нехарактэрнае. Пад уплывам слова *машына* (як родавай назвы) яно стала набываць форму жаночага роду — шляхам суфіксацыі (суфікс *-оўка*): *таксі → таксоўка*. У гаворках гэтае слова мае шырэйшае значэнне — 'легкавы аўтамабіль'. Так, у нашай кнізе "Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны" (Мн., 1970. С. 159) засведчана: "*Таксоўка, -аў*, ж. Легкавы аўтамабіль. *На **таксоўцы**, як пан, ездзіць*. Зл." У Заходняй Беларусі гэтае слова вядомае з другой паловы 30-х гадоў. Прыйшло з польскае мовы, дзе таксама першапачаткова мела значэнне 'легкавы аўтамабіль' (пазней у літаратурнай мове замацавалася з значэннем 'таксі').

У сучасных пісьменнікаў яно нярэдка выкарыстоўваецца і ў аўтарскай мове паралельна з наватворам *легкавік* (узнікла шляхам кандэнсацыі апісальнае назвы *легкавы аўтамабіль*: *легкав-ік*). Вось некаторыя прыкла-

ды тэкстаў з гэтымі словамі. "*Дзе тут паспееш... Хіба на **таксоўцы***" (Уладзіслаў Рубанаў. Укус змяі / / Полымя. 1995. № 6. С. 116). "*Пабачылі б вы, якія вялізныя і прыгожыя ў іх (амерыканцаў) дамы, у кожнага дарослага — шыкоўны **легкавік***" (Народная воля. 29.07.1998. С. 3). "*Наш босы шафёр корпаўся ў маторы старога **легкавіка***" (Янка Брыль. З новых запісаў / / Полымя. 2000. № 11. С. 8).

***Радзінны дом і бацькоўскі дом.*** Слова *радзінны* падае ТСБМ, толькі з значэннем 'які мае дачыненне да радзін'. *Радзінныя песні. Радзінная паэзія* (Т. 4. 1980. С. 555). БРС-89 бачыць у гэтым слове два значэнні: "*Радзінны* фольк. 1. *Родинный*; 2. *Крестильный; радзінныя песні — родинные (крестильные) песни* (с. 347)".

У гэтым выпадку *радзінны* ўтворана ад *радзіны* 'нараджэнне дзіцяці; сямейнае святкаванне народзінаў': *радзін(ы)-ны*.

У сучасным друку слова *радзінны* выкарыстоўваецца і з іншым значэннем: 'дом сваёй сям'і, радні, бацькоўскі': "*Чарадзейныя гукі поўнілі атмасферу "шапэнаўскага салона" і імкнулі на вольнае паветра, у сціплы садок: рыхтык падчас знаных імпрэзаў у **радзінным** доме кампазітара, у Жалязовай Волі!*" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 2).

Тут гэтае слова — ад *радзіна* 'сям'я, радня' (ТСБМ. Т. 4. 1980. С. 555): *радзін(а)-ны*. Мяркую, што згаданае слова больш дакладна перадае значэнне, якое раней звязвалася з прыметнікам *бацькоўскі* (ад *бацькі*): яно апрача семантыкі 'дом бацькоў' мае адценне, звязанае з *радзінамі* 'нараджэннем', г.зн. 'мясціна (дом), дзе чалавек нарадзіўся, дзе жыла яго *радзіна (сям'я, радня)*'.

Дарэчы, слова *радзіна* нашыя слоўнікі чамусьці абмяжоўваюць гутарковым стылем, але ж ілюстрацыя выкарыстання не пацвярджае гэтага: "*Радзіна,-ы*, ж. Разм. *Радня, сям'я. Новая лазня з часам стала занадта раскошнай для Кагутовай **радзіны**.* Караткевіч" (ТСБМ. Т. 4. С. 555).

У жывой народнай мове слова *радзіна* ўжываецца і з тым значэннем, што і *радзіма, бацькаўшчына* 'месца нараджэння'. І гэта вытлумачальна: яго словаўтваральная структура — натуральная: *радз-ін-а*; суфікс *-ін-а* тыповы і прадукцыйны ў беларускай мове (чаго не скажаш пра *-ім-*, які нашай мове неўласцівы).

***Пагулянка, прагулка, прагулянка, праходка, шпацыр.*** Рас. *прогулка* ў беларускай мове адпавядаюць: *пагулянка, прагулка, прагулянка, праходка, шпацыр*. Гэта засведчыў і наш першы аўтарытэтны акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 527): "*Прогулка ж. — **пагулянка, прагулка, праходка, шпацыр**; прогулка пешком — **пагулянка (прагулка) пехатой (пяшком)**; пойти на прогулку — **пайсці на праходку (на шпацыр)**; прогулка верхом — **пагулянка (прагулка) верхам**; загородная прогулка — **загарадная пагулянка (прагулка)***".

Як бачым, на першым месцы ў гэтым сінанімічным шэрагу слова *пагулянка* — утварэнне ад *пагуляць* 'гуляць некаторы час' (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979.

С. 500). Яго (*пагулянка*) шырока выкарыстоўвалі класікі беларускай літаратуры. У Якуба Коласа чытаем: "...*Лабановіч потым часта хадзіў сюды (на шлюз) на* ***пагулянку***" (На ростанях). "*Варочаючыся з* ***пагулянкі****, я ўжо ведаў, што апавяданне будзе жыць*" (Ян Скрыган. Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 185). Ад *прагульвацца* (і *прагуляцца*) утварыліся *прагулка* і *прагулянка* (*прагул-ка, прагул-янка* ці *прагулян-ка*). Слова *праходка* ад *праходжвацца* (*прайсціся*): *праходка; шпацыр* — ад *шпацыраваць.*

За савецкім часам у перыядычным друку запанавала *прагулка* (як супольнае з усесаюзным стандартам). У пазнейшых слоўніках на першым месцы як адэкват рас. *прогулка* падаецца *прагулка*, а сваё, найбольш натуральнае слова ўжо і не згадваецца; няма і слова *праходка*. Так, у РБС-82 бачым: "*Прогулка*, ж. *прагулка*, разг. *прагулянка;* (пешком — ещё) *шпацыр*" (Т. 2. С. 225). Прадубляваў гэта РБС-93 (Т. 3. С. 56) і РБС-98. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы ўжо не падае слова *праходка* як сіноніма да *прагулка*, няма тут і *прагулянкі*. У двухтомавым перавыданні яго *прагулянка* і *праходка* фіксуюцца, але толькі як размоўныя словы. І гэта пры тым, што імі актыўна карыстаюцца нашыя славутыя пісьменнікі і навукоўцы (Янка Брыль, Уладзімір Калеснік. Максім Лужанін ды інш.). "*Добра-такі па поўдні, вяртаючыся з далёкай* ***праходкі****, Руневіч сустрэў на тратуары аднаго з землякоў*" (Янка Брыль. Птушкі і гнёзды). "*Мае позіркі ў часе* ***праходак***" (Уладзімір Калеснік. Доўг памяці / / Полымя. 1997. № 10. С. 205). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" засведчыў гэтае слова — *праходка* — як стылёва нейтральнае, падаўшы прыклад з Брылёвага тэксту (Т. 4. Мн., 1980. С. 383). На жаль, новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) праігнараваў слова *праходка*, як і *прагулянка*.

Дык ці варта збядняць мову, выкарыстоўваючы адно слова *прагулка* на месцы пяці, забываючыся на свае адмысловыя *пагулянка, прагулянка, праходка, шпацыр?*

***Напрыканцы — натуральнае слова.*** "***Напрыканцы*** *ўсяго надта карцела абвінаваціць іншых, тых, каго цяпер тут не было*" (Васіль Быкаў. На Чорных Лядах). "***Напрыканцы*** *чэрвеня ў памяшканні Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу адбывалася прэм'ера монаспектакля "Амор ардэнс" ("Полымя кахання") па драматычнай паэме Людмілы Рублеўскай*" (ЛіМ. 7.02.1998. С. 10). "*Інстытут з'явіўся* ***напрыканцы*** *XVI ст.*" (Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVII стст. Мн., 1994. С. 33).

Лексема *напрыканцы* ўзнікла з спалучэння трох словаў: *на, пры, канцы.* Параўн.: "***Пры канцы*** *ліпеня ў Беластоку (Польшча) адбылася III міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура і адукацыя беларускага памежжа*" (ЛіМ. 7.08.98. С. 3). І згаданае ўжо: "***Напрыканцы*** *чэрвеня...*" Гэты вытворны прыназоўнік надта выразна і дакладна перадае часавае значэнне; гэтаму спрыяе выкарыстанне ў складзе яго двух першасных прыназоўнікаў *на* і *пры*. У жывой народнай мове такое спалучэнне двух (трох) прыназоўнікаў у адзін — нярэдкая з'ява. Напрыклад: *спаміж* мае ў

сваім складзе тры словы: *с(<з), па, між.* "***Спаміж** скрыняў выбегла мыш і проста пад ногі*" (П.Сцяцко. Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны. Мн., 1970. С. 150). Гэты прыназоўнік спалучае значэнні месца і кірунку. Дарэчы, яго бачым і ў Кузьмы Чорнага: "*У адным месцы чалавек спыніўся, стаў спінай к лесу і **спаміж** кустоў глянуў на прырэчнае поле*". Слова *спаміж* зафіксавалі і акадэмічныя слоўнікі, але невядома чаму з кваліфікацыяй "дыялектнае", з спасылкаю гл. *паміж*. Але ж семантыка іх розная: яна багацейшая і больш выразная ў прыназоўніку *спаміж*.

Слова *напрыканцы* бытуе і ў іншых славянскіх мовах. Яго фіксуе "Українсько-російский словник" (Київ, 1977. С. 405): "*Наприкінці* нар. ■ *конце, под конец*; разг. *Напоследок*".

Першапачаткова слова *напрыканцы* мела значэнне прыслоўя. Ды і цяпер выкарыстоўваецца з гэтым значэннем. Напрыклад: "*Ён правёў мяне па ўсім заводзе, паказаў усё, што дазволена, і **напрыканцы** задаволена сказаў: "Вось цяпер ты пабачыў, якія ёсць вытворчасці*" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 13).

Імкненне некаторых уплывовых мовазнаўцаў дыскрэдытаваць слова *напрыканцы* не дало плёну. Сёння ім вельмі актыўна карыстаецца перыядычны друк ды знаныя пісьменнікі і навукоўцы.

***Лядоўня, лядоўнік, а не ляднік.*** Слова *лядоўня* падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 162): "*Лядоўня* ж. — *ледник*". РБС-82 рас. *ледник* перакладае двума словамі: *лядоўня* (погреб со льдом) і *лядоўнік* (вагон, шкаф) (Т. 1. С. 400). Тое сама бачым і ў РБС-93 і РБС-98 (Т. 1. С. 413). ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 71) фіксуе толькі слова *лядоўня* 'склеп з лёдам для захоўвання мясных, рыбных прадуктаў'. А вось двухтомавы БРС-88, 89, падаючы два словы — *лядоўнік* і *лядоўня*, першае з іх не вызнае за норму: "*Лядоўнік* м. *лядоўня*. *Лядоўня* ж. (погреб со льдом) *ледник* м." А з значэннем 'вагон з лёдам' падае ўжо *ляднік* (<рас. *ледник*), як і геалагічны тэрмін. Аднак "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не пацвярджае гэтага. Тут бачым: "*Лядоўнік* м. Вагон з лёдам" і "*Лядоўня* ж. Склеп з лёдам для захоўвання мясных, рыбных прадуктаў" (с. 325). А *ляднік* мае тут значэнне геалагічнага тэрміна "зборышча вялікай масы паўзучага лёду ў гарах ці палярных зонах". Праўда, і тут не падаецца з згаданым значэннем адмысловае слова *ледавік*, якое яго папярэднік яшчэ фіксаваў: "*Ледавік* м. Разм. Тое, што і *ляднік* (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 31). А між тым менавіта гэтае *ледавік* найбольш выразна азначае *лядовае скопішча* ў гарах ці палярных зонах.

Апошнім часам гэтае досыць выразнае найменне *лядоўня* выкарыстоўваецца ў друку і з значэннем бытавой прылады для захоўвання (пры нізкай тэмпературы) харчавання, г.зн. як сінонім да *халадзільнік*. Відаць, тут устанаўляецца пэўная асацыяцыя з лёдам, які ўтвараецца ў халадзільніку.

Дарэчы, і ў іншых славянскіх мовах утварэнні з коранем *-лед-* называюць і халадзільнік: пол. *lodowka* 'халадзільнік пакаёвы', *lodownia* 'ледавік'; *халадзільнік* (вагон); чэш. *lednicka* 'халадзільнік'.

***Вар'ятня і псіхушка.*** Утварэнні з суфіксам *-ушк-а* беларускай мове

неўласіцівыя. Таму на месцы рас. *психушка* (разм.) у друку бачым яго беларускі адэкват *вар'ятня* (утварэнне ад *вар'ят* з выкарыстаннем суфікса *-н-я: вар'ят-ня*). Утварэнні з суфіксам *-н-я* складаюць прадукцыйны тып назоўнікаў з значэннем збудавання, дзе знаходзяцца (працуюць) тыя, хто названы ўтваральным словам: *бандар — бандарня, ганчар — ганчарня, пякарня, друкарня* (гл. Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 245). Бел. *вар'ят* БРС-88 (с. 221) перакладае: "1. (психически больной) *сумасшедший, умалишенный, помешанный;* 2. (крайне безрассудный) *безумец, безумный, сумасшедший*". Такім чынам, слова *вар'ятня* дакладна перадае паняцце і адпаведную рэалію. Слоўнікі яшчэ не падаюць гэтага — натуральнай структуры і матывацыі — слова, фіксуючы толькі лексему *вар'ят* з значэннем 'псіхічна хворы чалавек' (ТСБМ. С. 107).

***Багаслужба і багаслужбовы* — ■ *не багаслужэбны.*** Рас. *богослужение* і *богослужебный* акадэмічныя слоўнікі перакладалі словамі *набажэнства* і *набажэнскі* (БРС-62. С. 463; РБС-53. С. 38). Слова *набажэнства* як адэкват рас. *богослужение* фіксуе і БРС-26 (с. 175). А вось слоўнікі 80-х гадоў ужо і ў беларускай частцы падаюць "усесаюзныя словы" (толькі напісаныя па-беларуску). Так, у РБС-82 чытаем: "*Богослужебный* церк. *багаслужэбны, богослужение* церк. *Багаслужэнне*" (Т. 1. С. 66). Прадублявана ўсё гэта і ў РБС-93 (Т. 1. С. 112): "*Богослужебный* церк. *багаслужэбны; богослужение* ср. церк. *Багаслужэнне*". Аднак другая частка гэтага слова — штучная, пра што сведчыць беларускі адпаведнік *службовы* да рас. *служебный*. Напрыклад, у РБС-98 (Т. 3. С. 377) чытаем: "*Служебный* 1. *службовы*; 2. (вспомогательный) *службовы;* 3. грам. *службовы*".

У сучасным друку на месцы штучных *багаслужэнне* і *багаслужэбны* сталі выкарыстоўвацца аднакаранёвыя словы *багаслужба* і *багаслужбовы* з натуральнаю словаўтваральнаю структурай. Гэтыя словы бачым і ў кнізе: Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну: Мітрапаліт Мельхісэдэк (Мн., 1996). А таксама: "*Багаслужбовыя тэксты*" (Наша слова. 1996. № 2).

***Прыймач і прыёмнік.*** Як ужо згадвалася, словы з каранёваю часткай *-ём-* для беларускае мовы нехарактэрныя (параўн.: *наймы* і рас. *наём, уздым — подъём* ды пад). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 254) чытаем: "*Прыймо* н. — *приём*". І ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 507) бачым: "*Приём* (действие) *прыйманне, прыняцце; приёмный — прыймовы, прыймальны; приёмный день — прыймовы дзень, приёмная станция — прыймальная станцыя*". Ад асновы *прыйм-* (*прыймальная станцыя*) з дапамогаю прадукцыйнага суфікса *-ач* узнікла слова *прыймач.* На ўзор *рухач, капач, сякач, цягач, штурхач.* Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1985. С. 236) лічыць, што аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксам *-ач,* якія абазначаюць прадметы, прызначаныя для выканання адпаведнага дзеяння, складаюць прадукцыйны словаўтваральны тып. Аднаслоўная намінацыя магла ўзнікнуць і шляхам кандэнсацыі апісальнай назвы:

*прыймальны апарат* (прыбор, прыстасаванне) — *прыймач*. "*Ведаючы гадзіну, спецыяльна слухалі перадачу, але гэта маглі рабіць толькі тыя, хто мае шматканальны* ***прыймач***" (Наша слова. 1996. № 2).

Слова *прыймач* з гэтым значэннем уласцівае і іншым славянскім мовам: укр. *приймач*, славац. *prijmač*, чэш. *přijmač*.

***Згарнуўшы рукі ці склаўшы (злажыўшы) рукі?*** Нашыя слоўнікі расійскае ўстойлівае спалучэнне *(сидеть) сложа руки* перакладаюць амаль даслоўна: *(сядзець) склаўшы (злажыўшы) рукі* (РБС-82. Т. 2. С. 400). Між тым беларуская мова мае тут і сваё адмысловае выслоўе: *(сядзець) згарнуўшы рукі* ('нічога не рабіць, перастаць дзейнічаць'). У аснове гэтага фразеалагізма — вобраз нябожчыка, якому *згортваюць рукі* (накладаюць адна на адну). Менавіта гэтае словаспалучэнне — *згарнуць рукі* — найбольш выразна перадае сэнс 'перастаць дзейнічаць'. Параўн. словазлучэнне *згорнутыя рукі* ў Кузьмы Чорнага. У яго васьмітомавым зборы твораў чытаем: "*Яна сядзела тады на камені,* ***паклаўшы*** *на прыпол* ***згорнутыя рукі***" (Т. 6. Мн., 1978. С. 72). Гэтым выслоўем — *(сядзець) згарнуўшы рукі* — вельмі актыўна карыстаюцца ў гаворках Зэльвеншчыны, прычым нярэдка і ў больш разгорнутым выглядзе: "*От гультаіна гэтая Ажбета! Калі ні йдзеш кала яе хаты, то ўсё сядзіць і сядзіць* ***згарнуўшы рукі****, як той мярэц*" (в. Грабава).

Пра блізкасць мовы жыхароў Зэльвеншчыны і насельнікаў Случчыны няраз згадваў знаны мовазнаўца і пісьменнік Мікола Лобан (загадчык сектара лексікалогіі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі), калі прачытаў маю дысертацыю "Побытавая лексіка зэльвенскіх гаворак" (Мн., 1962. 520 с.).

***Напруга і напружанне.*** Акадэмічныя слоўнікі фіксуюць толькі *напружвацца* і *напружанне*. Але ў жывой народнай мове, у мастацкай літаратуры выкарыстоўваецца і больш ранняя форма гэтае асновы з фінальным гукам [*г*]: *напруга*. "*Успамінаю з* ***напругаю*** *дакладнасць радкоў*" (Янка Брыль. Вячэрняе. Мн., 1994. С. 233). Слова занатаваў і В.Ластоўскі: "*Напряжение ж. — напруга, натуга*" (ПРК(Б)С. С. 354).

Форма *напруга* — нульсуфіксавае ўтварэнне ад *напружвацца / напружыцца*, з аднаўленнем канцавой фанемы [*г*]. Як і *натуга* ад *натужвацца / натужыцца*. Параўн. рас. *напрягать(ся)* з той самай фінальнай каранёвай фанемай [*г*]; або ўкр. *напруга* і *напружений*. Слова *напруга* з значэннем 'напружанне' ўласцівае і ўкраінскай мове.

Можна меркаваць, што *напруга* (на месцы слоўнікавага *напружанне*) узнікла паводле закону эканоміі моўных сродкаў, вынікам якога стала скарачэнне гукавога аблічча слова, г.зн. выкарыстанне ў якасці намінацыі ўтваральнае асновы без далучэння пазітыўнага (матэрыяльна, з дапамогай гукаў) выяўленага суфікса, інакш — нульсуфіксавае ўтварэнне; параўн: *сумнявацца → сумнеў, спадзявацца → спадзеў, паразіць → параза, скараціць → скарот* ды інш. Непасрэдным чыннікам тут магло стаць слова *натуга* (ад *натужвацца / натужыцца*), якое мае і супольныя адценні ў сваім значэнні.

***Змарнаваць час, прабавіць час — а не ўбіць час (забіць час).*** 18 жніўня 1998 года ў газеце "Народная воля" быў змешчаны артыкул "Прыгоды

чэхаў на Беларусі", падпісаны: Мілан Шчасны, выканаўчы дырэктар чэшскай будаўнічай фірмы "Капучын". Тэкст напісаны ўвогуле на добрай беларускай мове (відаць, папрацаваў неблагі перакладчык і стыліст). Але ж... Вось гэтае *ўбіць час* — як тая лыжка дзёгцю: "*Нашыя спробы неяк прыспешыць пераход мяжы канчаюцца загадам усёй нашай групе сядзець у машыне (пяць чалавек у "Шкодзе-Актавія"). Чакаем, назіраем з машыны, як мытнікі з вялізнымі шапкамі на галовах, ляніва пакурваючы, **убіваюць час**, замест таго каб абцяжарыць сябе працай*".

Устойлівае словаспалучэнне *ўбіць час* — калька з рас. *убить время*, дзе другі кампанент яго заменены беларускім словам (*время → час*), а першы застаўся без перакладу. Відаць, аўтар (перакладчык) палічыў, што рас. *убить* і бел. *убіць* тоесныя словы. І атрымалася штучная сінтаксічная канструкцыя, якая па-беларуску не мае сэнсу.

Насамрэч, рас. *убить* мае іншыя беларускія адпаведнікі. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Мн., 1982. Т. 2. С. 506) падае: "*Убить* сов. 1. (умертвить) *забіць*, мног. *пазабіваць; убить наповал — забіць напавал;* 2. перен. (уничтожить) *знішчыць; нельзя убить нашу веру ■ будущее — нельга знішчыць нашу веру ў будучыню;* 3. перен. (глубоко огорчить, привести ■ отчаяние) *прыбіць, прыгнесці, прывесці ў роспач; это известие его убило — гэта вестка яго прыбіла (прыгняла, прывяла ў роспач);* 4. перен. разг. (потратить на что-л.) *патраціць;* (издержать — еще) *расходаваць, выдаткаваць;* (о времени) *змарнаваць; убить много энергии на что-либо — патраціць шмат энэргіі на што-небудзь;* 5. (уплотнить, утрамбовать) рас. *убіць, утрамбаваць;* 6. (покрыть) карт. разг. *пабіць; убить туза козырем — пабіць туза козырам;* <> *убить время — змарнаваць час; убить молодость — змарнаваць маладосць; убей меня бог — забі мяне бог; убить бобра — ашукацца*". Гэты артыкул цалкам паўтораны і ў перавыданні РБС-93 (Т. 3. С. 570) і РБС-98.

Як бачым, расійскаму дзеяслову з прыстаўкаю *у-* адпавядаюць у беларускай мове іншапрыстаўкавыя аднакаранёвыя дзеясловы (*забіваць, пазабіваць, прыбіць, пабіць*) ці словы з іншым коранем (*знішчыць, прыгнесці, патраціць, расходаваць, выдаткаваць, змарнаваць*). І толькі з адным значэннем (уплотнить) бачым і ў беларускай мове *ўбіць* (разам з *утрамбаваць*).

У некаторых пісьменнікаў сустракаем аналагічную сінтаксічную канструкцыю *забіць час* (як адпаведнік рас. *убить время*), дзе перакладчык, убачыўшы ў слоўніку толькі адзін — першы — беларускі эквівалент (рас. *убить — забіць*), стаў сам даслоўна перакладаць словаспалучэнне *убить время* і атрымаў *забіць час*. Але калі б ён прачытаў увесь лексікаграфічны артыкул з рэестравым словам "*Убить*", то знайшоў бы якраз патрэбны беларускі адпаведнік, які тут даецца пасля значка ромба, <> *убить время — змарнаваць час*. Да таго ж трэба ведаць, што фразеалагізмы не перакладаюцца даслоўна (слова за словам), а падбіраецца іх сэнсавы эквівалент, ён звычайна розніцца нават у блізкіх мовах. Як і ў нашым выпадку: *убить время — змарнаваць час*. Апрача таго, тут бачым і іншыя: *убить бобра — ашукацца*.

У некаторых славутых знаўцаў мовы на месцы *змарнаваць час* выкарыстоўваецца *прабавіць час*: "*Святлана зайшла да бацькі ў штаб, каб* ***прабавіць час*** *сярод сяброў ці хоць паласавацца цукеркай Бандарэнкавага каня Лютага*" (Ян Скрыган. Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 67—68).

***З усяго відно, па ўсім відаць — а не па ўсяму відаць.*** У нашым перыядычным друку, асабліва ў 60—70-х гадах, панавала штучная сінтаксічная канструкцыя *па ўсяму відаць*. Гэта паўкалька з рас. *по всему видно*. А між тым у класікаў беларускай літаратуры тут бачым сваё, адмысловае словаспалучэнне — *з усяго відно*. Напрыклад, у Кузьмы Чорнага чытаем: "***З усяго было*** *відно, што тут будоўля дайшла да свайго завяршэння апошнімі гадамі*" (Збор твораў. Т. 6. Мн., 1994. С. 135). І ў іншым месцы тэксту сустракаем натуральную сінтаксічную канструкцыю з прыназоўнікам *з* ( а не *па*, які ў беларускай мове куды менш карыстаны, чым у расійскай): "*Лізавета пазнала яе (сучку) не з масці, а з усяго выгляду*". "Тлумачальны слоўнік" (Т. 1. Мн., 1977. С. 488) змяшчае: "*Відаць... Па ўсім відаць* — "*напэўна, відавочна*". Тут бачым і наступнае: "*Відно*... 2. Тое, што і *відаць* (у 1, 3 знач.)". Але зварот *з усяго відно* ў слоўніку не фіксуецца, хоць падаецца ілюстрацыйны прыклад (з словам *відно*) з Кузьмы Чорнага. Тое сама бачым і ў новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 112). Перакладныя слоўнікі РБС-93, БРС-62, БРС-88, 89 зусім не фіксуюць згаданых канструкцыяў. Гэта паспрыяла таму, што друк (і вуснае маўленне) запаланіла штучнае *па ўсяму відаць* (*відно*). "Русско-белорусский словарь" 1982 года (Т. 1. С. 92) ужо засведчыў: "*Весь* мест. *увесь... по всему видно* — *па ўсім* (*з усяго відаць*)". Паўтораны гэты артыкул і ў РБС-93 (Т. 1. С. 158) і РБС-98.

Такім чынам, натуральнымі сінтаксічнымі канструкцыямі ў беларускай мове ёсць *з усяго відаць, з усяго відно; па ўсім відаць, па ўсім відно*. Парушэнне нормы: *па ўсяму відаць* (*відно*).

***Навальны дождж (і навальніца), пралійны дождж, залійны дождж, залева — ці толькі лівень?*** У жывой, народнай, мове (напрыклад, на Зэльвеншчыне) звычайна пачуеш: ***Навальны дошч*** *як пайшоў цалюткі дзень, то пазалівай усе агароды* (в. Грабава). Пра такі дождж яшчэ кажуць: *дождж як з вядра* або *дошч як з веравок*. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 110) падае: "*Залева ж. — ливень*. $НТ_3$". Гэтае слова як тэрмін зафіксавала "Беларуская навуковая тэрміналогія. Выпуск 3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных цел". Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 234) рас. *ливень* перакладае наступным чынам: "*Ливень* м. — *лівень, залева; ливнем льёт — як з вядра лье*". А вось другі акадэмічны перакладны даведнік — "Беларуска-рускі слоўнік" пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962) ужо выдаляе слова *залева* з літаратурнага слоўніка. На с. 292 чытаем: "*Залева* ж. обл. см. *лівень*". Гэтая недарэчнасць трапіла без усякіх зменаў і ў двухтомавае яго перавыданне (БРС-88. Т. 1. С. 450). А між тым перакладныя РБС-82, РБС-93, РБС-98 не адмаўляюцца ад свайго слова. У першым томе "Русско-белорусского словаря" 1982 года чыта-

ем: "*Ливень* м. — *лівень, праліўны дождж, залева; ливнем льёт — як з вядра лье*" (с. 405). Тое сама бачым і ў перавыданнях 1993 і 1998 гадоў (Т. 1. С. 721). *Залева* — натуральнае беларускае ўтварэнне ад *заліваць* (*залева*, з чаргаваннем ненаціскнога *і* з націскным *е(э)*; як і ў словах *квітнець* і *кветка*). "Тлумачальны слоўнік" (Т. 2. Мн., 1978. С. 36) падае: "*Залева,-ы,* ж. Абл. *Заліўны дождж, лівень. Пагаслі ў вірах бліскавіцы.* ***Залева*** *прайшла па лясах.* Калачынскі. *Густая* ***залева*** *секла мяккае лісце дрэў, хвастала парканы і дахі, змывала з тратуараў бруд і пыл.* Савіцкі". Тут правільна паказваецца, што *залева* — тое сама, што *заліўны дождж.* Менавіта ад *заліваць* утварыліся два словы: *залева, заліўны.* Але чаму слова *залева* абласное (дыялектнае) — няведама. Відаць, таму, што яго няма ў расійскіх слоўніках, на якія арыентаваліся складальнікі беларускага тлумачальнага. Гэта асабліва пацвярджае новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996), дзе ўжо не згадваецца слова *залева*, а фіксуецца толькі *лівень*, прычым з той сама дэфініцыяй, што і ў расійскіх слоўніках. Параўн.: "*Лівень* м. *Моцны праліўны дождж*" (с. 318). І ў "Словаре русского языка в 4 томах" (Т. 2. М., 1982. С. 181): "*Ливень* м. *Сильный проливной дождь*".

А між тым гэтае слова — *залева* — актыўна выкарыстоўваецца ў сучасным нацыянальным друку: "*А вось на неба не зірнула —* ***залева*** *як з вядра хлынула, калі апынуліся ля трыбуны...*" (Полымя. 1998. № 7. С. 5). "*Але і як было ўберагчы (касцярок) у гэтай* ***залеве?***" (В.Быкаў. Ваўчыная яма // Полымя. 1999. № 1. С. 39). "*Дождж мацнеў, перайшоў амаль што ў* ***залеву***" (Л.Левановіч. Ларыса, або Прыгоды аўтамабіліста. Мн., 1998. С. 55). "*Не раскідаў кветак вецер, не шугала* ***залева***" (М.Скобла. Дзярэчынскі дыярыюш. Мн., 1999. С. 166). Набыло гэтае слова і пераноснае значэнне: "*На нас абрынулася* ***залева*** *інфармацыі*" (ЛіМ. 20.02.98). "*Стала цёпла, ён угрэўся, адышоў ад учарашняга* ***залеўнага*** холаду" (В.Быкаў. Ваўчыная яма // Полымя. 1999. № 1. С. 399).

У жывой народнай мове выкарыстоўваецца побач з *навальны дождж* і яго аднаслоўны эквівалент *навальніца*. "*А пад вечар усё пазалівала* ***навальніца****. Такі* ***навальны дошч*** *ліў, што свету божага ні відно было, просто як вяроўкі з неба спускаліся*" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

***Лаціна і лацінскі — а не латынь і латынскі.*** У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 25) чытаем: "*Латынь,-і,* ж. *Лацінская мова*". А на с. 27: "*Лацініца,* ж. Тое, што і *лацінка. Лацінка,* ж. *Лацінскі алфавіт, лацінскае пісьмо*". Але як тут дастасаваць гэтую *латынь* — з цвёрдым гукам [*т*] — да словаў *лацінка, лацініца, лацінскі* (з мяккім гукам [*ц*])? Калі нарматыўным лічыць *латынь,* тады ўжо мусіць быць і *латынька,* і *латыніца, латынскі.* Дарэчы, такую паслядоўнасць захоўвае "Русско-белорусский словарь" 1953 года (с. 230). Але ж у "Тлумачальным слоўніку", як мы бачылі, няма гэтых штучных формаў *латынка, латыніца* і *латынскі.* І жыхары *Лацыума* — правінцыі, якая дала назву мове, правільна называюцца *лаціняне,* бо ў корані слова, якое называе правінцыю, няма гука [*т*], а толькі [*ц*]. Дык чаму ж мова гэтых *лаціняна*ў мусіць называцца *латынь,* а не *лаціна?*

Слова *латынь* сучасныя расійскія слоўнікі падаюць толькі як гутарковае слова. Яго не змяшчаюць на сваіх старонках нават спецыяльныя даведнікі. Напрыклад, О.С.Ахманова "Словарь лингвистических терминов" (М., 1966), "Лингвистический энциклопедический словарь" (М., 1990). Няма яго і ў галіновых перакладных і тлумачальных слоўніках. І ў "Слоўніку іншамоўных слоў" А.М.Булыкі (Мн., 1993). "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн., 1988. С. 45) падае толькі: *латинизм — лацінізм, латиница — лацінка*. У "Слоўніку лінгвістычных тэрмінаў" (Мн., 1990. С.74) бачым толькі: "*Лацінка* і *лацінізмы* — словы або выразы з лацінскай мовы". І ў самым аўтарытэтным беларускім лінгвістычным даведніку "Беларуская мова: Энцыклапедыя" (Мн., 1994) падаюцца толькі рэестравыя словы "лацінка" і "лацінская мова".

*Лацінская мова*, як сцвярджаецца тут (с. 290), — гэта мова племені *лацінаў* (якія насялялі вобласці Лацый у заходняй частцы сярэдняй Італіі з цэнтрам у Рыме).

Як бачым, натуральным найменнем мовы племені *лацінаў* і ёсць *лаціна* (а не *латынь*). Гэта засведчыў і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 157), дзе бачым: *лаціна*, ж. — *латынь, лаціна* і *лацінка* ж. — *латинская азбука*. І ў даведніку 1997 года падаецца: *латынь — лаціна* (Руска-беларускі слоўнічак па кнігазнаўстве. Мн., 1997. Нацыянальная бібліятэка Беларусі).

А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) беспадстаўна паўтарае недарэчнасці свайго папярэдніка, не лічыцца з больш познімі даведнікамі. Так, на с. 314 чытаем: "*Латынь,-і*, ж. *Лацінская мова*". Або: "*Латыніст, м.* Спецыяліст па *лацінскай мове*"; "*Латынізмы. Словы ці моўны зварот, якія запазычаны з лацінскай мовы*". Ці яшчэ вось якая чарговая недарэчнасць: "*Латынізаваць*... змяніць (-няць) які-небудзь алфавіт лацінскім". Але ж *лацінскі алфавіт*, чытаем у слоўніку, — гэта *лацінка*, ▪ не *латынь* (ад якога — *латын-ізаваць*). Вось у якія цянёты загналі самі сябе аўтары "Тлумачальнага слоўніка" 1996 года!

Натуральнымі ёсць тэрміны: *лаціна* (гутарковая назва лацінскай мовы), *лацінка* (лацінскі алфавіт), *лацінізм* (лацінскае слова), а таксама *лацініст, лацінізаваць, лацінізаваны*.

***Мінулы і прышлы — ці толькі прошлы і будучы?*** У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 170) чытаем: "*Мінулы* — *прошлый; мінуўшчына* ж. — *прошлое*"... Гэта пацвярджае і аўтарытэтны першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй слынных беларускіх пісьменнікаў Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі (М., 1950. С. 550): "*Прошедшее* сущ. *мінулае; прошедший* прил. *мінулы; прошлогодний — леташні; прошедший год, прошедшая зима — мінулы (леташні) год, мінулая (леташняя) зіма; Прошлое* сущ. *мінулае, мінуўшчына; славное прошлое — слаўнае мінулае; в недалеком прошлом — у недалёкім мінулым; отойти в прошлое — адысці ў мінулае; прошлый — мінулы, в прошлом году — летась (у леташнім годзе, у мінулым годзе)*,

*на прошлой неделе — на мінулым тыдні; дело прошлое* разг. *справа дайняя*". Бачым адпаведнае і ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 693): "*Мінулае* ср. сущ. *прошлое, минувшее, прошедшее; прежнее; адысці ў мінулае — отойти в прошлое. Мінулы* 1. *прошлый, прошедший, прежний;* 2. (окончившийся) *минувший, прошедший, истекший*". Амаль без зменаў артыкулы РБС-53 паўтарылі яго перавыданні РБС-82 (Т. 2. С. 261), РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 119 — 120). Тут толькі адзначаецца слова *прошедшее* як дзеепрыметнік, які прапануецца перакладаць апісальна: *які (што) прайшоў, мінуў*. Праўда, як тэрмін акадэмічныя слоўнікі прапануюць не сваё слова *мінулы*, а *прошлы (час)*, (рас. < *прошедшее время)*.

Вось адсюль, з школьнае граматыкі, і пайшло гуляць слова *прошлы* на месцы сваіх натуральных *мінулы, леташні*, выціскаючы гэтыя беларускія словы ўсесаюзным стандартам. Так за савецкім часам запанавалі: *у прошлым годзе, на прошлым тыдні, прашлагодні* ды пад. І ў слоўнікі трапіла слова *прошлае* (замест *мінуўшчына)* (БРС-89, ТСБМ). Дзеля захавання свайго, адраджэння нашай мовы, трэба выкарыстоўваць натуральнае беларускае слова *мінулы* і як граматычны тэрмін. Дарэчы, *мінулы час* (а не *прошлы)* выкарыстоўваў Пятро Глебка ў сваім артыкуле. Тым больш, што ў нас замацаваўся лінгвістычны тэрмін з гэтым кампанентам: *дайномінулы час* як адэкват рас. *давнопрошедшее время*. Яго падаюць усе акадэмічныя слоўнікі: РБС-53 (С. 106), РБС-82 (Т. 1. С. 195), РБС-93 (Т. 1. С. 311), РБС-98 (Т. 1. С. 341).

Слова *будучы* таксама не сваё (<рас. *будущий*), пра што сведчыць дзеепрыметнікавы суфікс *-уч-*(< рас. *-ущ-)*, беларускай мове неўласцівы. Невыпадкова ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча падаюцца: "*Прышлы — будущий. Прышласць* ж. — *будущность*" (с. 252). І няма тут гэтага "будучы". А вось пасля рэформы беларускай мовы 1933 года "будучы" сталі замацоўваць і ў слоўніках. У РБС-53 чытаем: "*Будущий* 1. *будучы; будущее время* грам. *будучы час*". Тут бачым і вытворныя з гэтым коранем: "*Будущее* ср. сущ. *будучыня*, ж., *будучае* ср.; *в будущем — у будучым; будущность — будучыня*" (с. 44). А вось у слоўніках 20-х гадоў да рас. *будущность* падаваліся два словы: "*Прышласць* ж. — *будущность*" і "*будучына* ж. — *будущность*" (БРС-26. С. 262, 49). Тое сама бачым і ў слоўніку В.Ластоўскага: "*Будущее — будучына, прышласць*" (ПРК(Б)С. С. 45). У 50—70-х гадах словам *будучыня* амаль не карысталіся ў друку (яно не супадала з усесаюзным стандартам), а толькі словам *будучае* (супольнае з рас. *будущее*). Праўда, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года падае: "*Будучыня* ж. в разн. знач. *будущность, будущее, грядущее*" (с. 134). Бачым у гэтым слоўніку ўжо і слова *прышласць* (чаго не было ў РБС-53, які змагаўся з "нацдэмаўшчынай"), праўда, без перакладу: "*Прышласць* ж. см. *будучыня*" (с. 763). А гэта азначала, што "спасылачнае слова, хоць і сустракаецца ў літаратуры, аднак знаходзіцца за межамі літаратурнай мовы і не рэкамендуецца да ўжывання" ("Аб карыстанні слоўнікам". С. 9).

Двухтомавыя і трохтомавыя перакладныя слоўнікі 80—90-х гадоў робяць пэўныя ўдакладненні. Падаючы два словы — *будучыня* і *будучае*, яны адда-

юць перавагу першаму слову: "*Будущее* ср. сущ. *будучыня, будучае; планы на будущее — планы на будучыню; в недалёком будущем — у недалёкай будучыні*" (РБС-82. Т. 1. С. 75; РБС-93. Т. 1. С. 129; РБС-98. Т. 1. С. 129). Бачым тут (гэта падаюць усе згаданыя слоўнікі) і наступнае: "*Будущность — будучыня, прышласць*" (Тамсама). Такім чынам, аднаўляецца адмысловае слова *прышласць*. Праўда, без яго ўтваральнага прыметніка *прышлы* "будучы". А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 502) змяшчае абодва словы: "*Прышласць*, ж. Час, які прыйдзе за цяперашнім; падзеі будучага; *будучыня*". "*Прышлы*... 2. Які прыйдзе, наступіць; *будучы; Прышлае* (у знач. наз.). *Прышласць, будучыня*". І падаюцца прыклады з твораў нашых класікаў: "*Кропля таго вялікага святла... надавала бадзёрасці і веры ў лепшую светлую* ***прышласць***" (Купала.) "*....Або старая варажбітка, што* ***прышласць*** *можа расчытаць*" (Колас). "*Але за* ***прышлую*** *часіну не-не ды возьме непакой*" (Колас). Выкарыстоўвае гэтыя словы — *прышлы* і *прышласць* і сучасны друк: "*У* ***прышласць*** *паэт, як дзіця, глядзіць, хоць вочы агонь апякае*" (В.Зуёнак / / Полымя. 1998. № 6. С. 3). "*Замкнуўшыся ў маленькай бакоўцы, адгароджаны ад свету, марыў... (Багдановіч) пра* ***прышлае*** *краю*" (А.Клышка).

Фіксуе гэтыя словы — *прышласць, прышлы* — і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 522).

Як бачым, у беларускай літаратурнай мове бытуюць, актыўна выкарыстоўваюцца адмысловыя словы: *мінулы* і *мінуўшчына*, а таксама *прышлы, прышласць*.

***Узрывальнік, дэтанатар, запал, запальнік — а не ўзрывацель.*** "*Адчуванне было такое, што з кожным годам небяспечны зарад расце, большае, а на круглыя даты яшчэ і асабліва хітра маскіруюцца* ***ўзрывацелі***, *трэба добра падумаць над тым, як небяспеку зноў ператварыць у гульню*" (Алег Ждан. Час ідзе / / Полымя. 1998. № 7. С. 16).

*Узрывацель*... Такога слова ў беларускай мове не фіксуе ніводны слоўнік. Тлумачальныя слоўнікі засведчылі толькі *ўзрывальнік* — "прыстасаванне ў міне, снарадзе і пад., якое выклікае выбух, узрыў" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 651), "механізм, які выклікае выбух зарада ў артылерыйскім снарадзе, ракеце, авіябомбе, тарпедзе і пад." (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 684).

Як бачым, аўтар (А.Ждан) перанёс у беларускі тэкст чужое, расійскамоўнае, слова. Перакладныя слоўнікі падаюць наступныя яго беларускія адпаведнікі: "*Взрыватель* техн. *узрывальнік, -ка,* м." (РБС-53. С. 56); "*Взрыватель — узрывальнік,* м.; (детонатор) *дэтанатар, запал, запальнік*" (РБС-82. Т. 1. С. 98; РБС-93. Т. 1. С. 170; РБС-98. Т. 1. С. 170).

З значэннем 'асоба, спецыяліст па ўзрывах горных пародаў' у беларускай мове бытуе ўтварэнне з суфіксам *-нік: узрыўнік* (раней з гэтым значэннем фіксавалася *ўзрыўшчык* (< рас. *взрывщик*).

Як бачым, дзеяслоў з тым самым коранем (асновай) дае ў беларускай і расійскай мовах розныя ўтварэнні (назоўнікі): *узрывальнік* (і *ўзрыўнік*) і рас. *взрыватель* (і *взрывщик*).

Гэты пераклад яшчэ раз пацвярджае, што ўтварэнні з суфіксам *-тель* уласцівыя расійскай мове, а не беларускай, дзе гэтаму словаўтваральнаму сродку найчасцей адпавядае суфікс *-льнік (взрыватель — узрывальнік)*.

***Даследнік, даследчык, вопытнік.*** Слоўнікі 20-х гадоў з значэннем рас. *исследователь* фіксавалі ўтварэнне з суфіксам *-нік: даследнік* (БРС-26. С. 90). Як і іншыя назоўнікі на *-нік: даручнік — поручитель, дастаўнік — поставщик, наведнік — посетитель, дольнік — пайщик, закупнік — закупщик, заступнік — заместитель, застаўнік — залогодатель, заяўнік — заявитель, лётнік — лётчик.*

У слоўніках, выдадзеных пасля 1933 года, сталі замяняцца такія словы на адпаведнікі з суфіксамі, уласцівымі расійскай мове. Так, на месцы словаў на *-нік* запанавалі іх адпаведнікі на *-шчык (-чык)*. "Русско-белорусский словарь" 1953 года ўжо не падае слова *даследнік* як адэквата *исследователь*, а толькі *даследчык*. На с. 186 чытаем: "*Исследователь — даследчык*". Гэты артыкул прадубляваны і ў яго наступных перавыданнях (РБС-82, РБС-93, РБС-98). А слова *даследнік* мае ў слоўніках больш вузкае значэнне — 'той, хто праводзіць дослед'. Яно падаецца як дублет да *вопытнік* — адэкват рас. *опытник*.

Так, РБС-82 (Т. 1. С. 607) фіксуе: "*Опытник — даследнік, вопытнік*". Прадубляваны гэты артыкул і ў перавыданнях 1993 і 1998 гадоў. Аднак штучнасць гэтага "вопытніка" відаць і з таго, што яго не зафіксаваў нават шасцікнігавы "Тлумачальны слоўнік". Не падае яго і "Тлумачальны слоўнік" 1996 года. Тут бачым: "*Даследнік*, м. Той, хто праводзіць дослед. *Гэта быў зацяты і мудры **даследнік***" (с. 171) і "*Даследчык*, м. Той, хто займаецца навуковымі даследаваннямі" (Тамсама). Але ж даследаванні без доследаў ці магчымыя? Слова *дослед* — нульсуфіксавае ўтварэнне ад *даследаваць*. Дый значэнне слова *дослед* сведчыць пра гэта. У самім ТС-96 засведчана: "*Дослед*, м. Навуковы эксперымент, прысвечаны вывучэнню пэўных з'яў, атрыманню неабходных даных для высвятлення заканамернасцей" (с. 182). Таму невыпадкова сучасны нацыянальны друк карыстаецца словам *даследнік* і з значэннем 'даследчык'. Вось некаторыя прыклады. "*Пра тагачаснае беларускамоўнае насельніцтва мы даведваемся з апісанняў сучаснікаў, ад незлічоных **даследнікаў***" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 36). "*Беларускі **даследнік** Павел Церашковіч прааналізаваў больш за 200 беларускіх ідыёмаў*" (Тамсама. С. 43). "*Вядомы расійскі **даследнік** царкоўнага права Н.Сувораў*" (Галіна Дзербіна. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 1997. С. 100).

Як бачым, слова *даследнік* выразна акрэслівае асобу, якая займаецца доследамі, якая даследуе-высвятляе пэўныя заканамернасці. Так што выкарыстанне назоўніка з суфіксам *-нік* на месцы яго дублета з *-чык* апраўданае: утварэнні з суфіксам *-нік* больш уласцівыя беларускай мове. Гэта, дарэчы, пацвярджае і факт замены слова *ўзрыўшчык* на *ўзрыўнік*, пра што ўжо ішла гаворка.

Гэтая тэндэнцыя на замену суфіксаў *-цель, -чык/-шчык* на *-льнік, -нік,*

*-ец/-ца* досыць выразна выяўляецца ў сучасным нацыянальным друку, пра што няраз ужо згадвалася.

Нагадаем яшчэ выкарыстанне *бунтаўнік* замест *бунтаўшчык* і *перакладнік* замест *перакладчык*: "*Заўвага перакладніка*" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі: Дапаможнік для студэнтаў. Мн., 1996. С. 66). "*Як рэагаваць на дзеянні бунтаўнікоў?*" (Т.Процька. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну. Мн., 1996. С. 20). Або: "Людзі даруюць такую драбязу *раскайніку* (Валер Санько. Дахаты пойдуць усе: Аповесці, апавяданні. Мн.: БВТ "Хата", 1999. С. 119); бараніўся ад *нападнікаў*... (Тамсама, с. 149). Нармальныя людзі становяцца *канфліктоўнікамі* (Тамсама, с. 157). *Другія шкадавалі шчыроўніка*" (Тамсама, с. 176).

Дарэчы, слова *бунтаўнік* як адэкват рас. *бунтовщик* падае і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 50).

***Дабрыня, бальшыня, меншыня і дабрата, большасць, меншасць.*** У сучасным нацыянальным друку заўважаецца тэндэнцыя да выкарыстання на месцы суфіксаў *-от-а(-ат-а)* і *-осць(-асць)* іх адпаведнікаў *-ін-(я) /-ын-(я)*: *дабрыня* (замест *дабрата*), *бальшыня* (*большасць*), *меншыня* (*меншасць*). Асабліва актыўна выкарыстоўваюцца адпаведныя словы з суфіксам *-ін-я(-ын-я)* у творах маладых навукоўцаў і літаратараў. "*Але **бальшыня** расійскіх гісторыкаў настроена пасоўваць храналагічныя межы ў іншы бок*" (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 7). "*Каштоўныя заўвагі да першага варыянту гэтага нарысу. **Бальшыню** іхніх прапановаў я прыняў*" (Тамсама. С. 93).

Тут можна бачыць імкненне маладзейшага пакалення да аднаўлення структуры некаторых слоў пад уздзеяннем аднамадэльных, уласцівых беларускай мове; параўн. *дабрыня* — як і *цеплыня, вышыня, даўжыня, шырыня* (рас. *доброта, теплота, высота, долгота, широта*).

Беларускія ўтварэнні на *-іня(-іна)* таксама нярэдка не супадаюць з расійскімі, якія маюць суфіксы *-ость* (параўн.: *навіна* і *новость*), *-инств-о* (*меншыня* і *меньшинство, бальшыня* і *большинство*). У беларускай мове суфіксы *-ін-я/-ін-а* больш актыўныя, чым у расійскай. Таму і ўзнікаюць новыя словы ці аднаўляюцца ранейшыя з гэтымі прадукцыйнымі словаўтваральнымі фармантамі. Можна бачыць тут і пэўную арыентацыю на адметныя беларускія словы кшталту *запросіны, народзіны, замовіны, запоіны*, якія маюць гэты суфікс *-ін-*.

Выкарыстоўваецца слова *меншыня* і ў складзе грамадска-палітычнага наймення: "*Нацыянальныя **мяншыні** ў складзе рэспублікі*" (Наша слова. 1999. № 7).

***Нататнік і кандуіт.*** Сярод настаўнікаў можна пачуць яшчэ і сёння даўняе слова *кандуіт*. Яно прыйшло з французскае мовы (відаць, ад гувернантак) і выкарыстоўвалася ў дасавецкай школе з значэннем 'журнал, у які заносіліся звесткі аб паводзінах вучняў' (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 613). Аднак на месцы яго стала ўжывацца і новае слова (з шырэйшым значэннем 'запісная кніжка'). *Нататнік* — утварэнне ад *нататка* (*натат(ка)* —

*нік*). Слова *натамка* зафіксаваў ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 323): "***Натамка***, ж. Кароткі запіс аб чым-небудзь. *Люба дастала запісную кніжку і спешна пачала чытаць карандашныя* ***натамкі***. Гартны". Нават гэты тэкст Цішкі Гартнага дазваляе меркаваць пра магчымае ўтварэнне слова *натамнік* (на месцы апісальнай назвы "запісная кніжка") ад утваральнага назоўніка *натамка*. Яго бачым у Зоські Верас: "*Пастараюся знайсці свой* ***натамнік*** *з таго часу, у якім Ванда сваёй рукой запісвала, што трэба было наладзіць мне, здабыць, прывезці наступны раз*" // Полымя. 1998. № 7. С. 17).

У сучасным перыядычным друку яно таксама выкарыстоўваецца. Напрыклад: "*Ужо даўно да іх не прыходзіў, але ж тэлефоны і адрасы ў сямейным* ***натамніку*** *захаваліся*" (Алег Ждан. Час ідзе // Полымя. 1998. № 7. С. 17).

Пра выразнасць гэтага адмысловага слова пісаў у адным з ліпеньскіх нумароў "Нашага слова" знаны культуролаг і пісьменнік, добры знаўца роднага слова Уладзімір Содаль.

Трэба думаць, што гэтае выразнае структураю і семантыкаю слова *натамнік* замацуецца і ў літаратурным слоўніку.

***Падслухоўванне і подслух***. Ад дзеяслова *падслухаць / падслухоўваць* утварыліся — рознымі спосабамі — два назоўнікі: *падслухоўва-нне* і *подслух* (ад *падслух-аць*, нульсуфіксавы спосаб). Нульсуфіксавыя ўтварэнні як больш эканомныя (кароткія) словы набылі ў наш час досыць актыўнае выкарыстанне. Нават у знаных майстроў слова. Так, у Максіма Танка чытаем: "*Чамусьці перастала даходзіць беластоцкая "Ніва". Затое спраўна працуе тэлефонны* ***подслух***" (Дзённікі // Полымя. 1997. № 9. С. 89). Гэтае слова змяшчае і двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 2. Мн., 1989. С. 234), але толькі як дыялектнае: "*Подслух,-ху*, м. обл. *подслушивание*". Ну як тут не здзіўляцца такой "мудрай" кваліфікацыі гэтага натуральнага слова! Але ж яно далёкае ад *подслушивание*, таму і такая яму "саўковая" адзнака.

Падае гэтае слова і "Тлумачальны слоўнік" (Т. 4. Мн., 1980. С. 285), але зноў-такі з той сама дзіўнай паметай: "*Подслух,-у* м. Абл. *Падслухванне*". Тут падаецца прыклад з твора класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа: "*Цімоха агортвае страх: А што, калі стане вядома, // Як потайкам ён па начах // Выходзіць на* ***подслухі*** *з дому?*"

Вось што атрымліваецца ў складальнікаў гэтых слоўнікаў! Іх не бянтэжыла пры такім выраку слову *подслух* нават тое, што ім карысталіся народныя пісьменнікі, класікі нашай літаратуры. Здзіўляе, як не далучылі яны да дыялектных аднаструктурныя *подкуп, подпіс, подсвіст, подступ, подсціл, позех, покліч* ды безліч аднамадэльных утварэнняў, якія бачым у згаданых слоўніках.

Такім чынам, слова *подслух* мае поўнае права на агульнамоўнае выкарыстанне і месца ў літаратурным слоўніку.

***Прэзентацыя і яго аднакаранёвікі***. Гэтае слова выкарыстоўвалася ў беларускай мове ўжо ў старадаўнія часы. Яго падаюць М.Прыгодзіч і Г.Цівансова ў "Старабеларускім лексіконе: Падручны перакладны слоўнік" (Мн., 1997): "*Прэзентацыя — прадстаўленне*". Нашыя акадэмічныя слоўнікі

фіксуюць гэтае слова як застарэлае і як фінансавы тэрмін: "*Прэзентацыя*, ж. Падача, прадстаўленне для аплаты грашовага дакумента. *Прэзентацыя вэксаля*" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 505). Як размоўныя і застарэлыя падаюцца ў "Тлумачальным слоўніку" і словы *прэзент*, *прэзентаваць*, *прэзентаванне*. На с. 505 чытаем: "*Прэзент*, м. Разм. уст. Падарунак, гасцінец. *Прэзентаваць*, зак. і незак. Разм. уст. Паднесці (падносіць) у якасці падарунка; *падараваць; Прэзентаванне*, -я н. Разм. уст. Дзеянне паводле знач. дзеясл. *Прэзентаваць*".

Аднак сучасная маўленчая практыка не пацвярджае высноваў гэтага акадэмічнага даведніка. Згаданыя словы выкарыстоўваюцца як агульнамоўныя адзінкі актыўнага слоўніка. Вось некаторыя прыклады: "*У вёсцы Бялынкавічы, што на Касцюкоўшчыне, адбылася **прэзентацыя** абраду "Выпяканне вясельнага караваю ў доме нявесты*" (ЛіМ. 1998. 21 жніўня. С. 3). "*Белвідэацэнтр **прэзентаваў** у эфіры сваю новую работу — сапраўдны сюрпрыз не толькі для юбіляра, але і для звычайных гледачоў*" (Тамсама. С. 2). "*Чарнобыль не ведае межаў. У гэтым яшчэ раз можна было ўпэўніцца ў час **прэзентацыі** ў Нацыянальным прэс-цэнтры ў Мінску атласа, які знаёміць з забруджваннем цэзіем Еўропы пасля Чарнобыльскай катастрофы*" (Тамсама. С. 4). "***Прэзентацыя** унікальнай кнігі*" (Наша слова. 1998. 27 траўня. С. 1).

"Русско-белорусский словарь" 1993 года (Т. 2. С. 751) фіксуе: "*Презентант* фин. *прэзентант*, м., *Презентация* в разн. знач. *Прэзентацыя*". Аднак слова *прэзентаваць* і тут падаецца з паметаю "разг. уст." "Тлумачальны слоўнік" 1996 года чамусьці зусім не падае слова *прэзентацыя*, хоць бачым тут *прэзент* і *прэзентаваць*, але з той сама дзіўнай іх стылёвай кваліфікацыяй: "*Прэзент*, м. (устарэлае, цяпер размоўнае і жартаўлівае). *Падарунак. Прыміце мой прэзент. Прэзентаваць*, зак. і незак. (уст., цяпер разм. жарт.). *Даць (даваць) у прэзент, падараваць (дараваць). Я вам **прэзентую** сваю кнігу*" (с. 523).

Вось як пярэчаць самі сабе слоўнікі. У якой нязгодзе яны з сучаснаю маўленчаю практыкаю!

Словы *прэзентаваць*, *прэзентацыя*, *прэзентаванне*, *прэзентаваны*, *прэзент* функцыянуюць у сучаснай беларускай мове як агульнамоўныя лексічныя адзінкі. І надта актыўна выкарыстоўваюцца ў друку.

***Парэшткі, рэшткі і астанкі.*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 287) падае: "*Астанкі*,-*аў*; адз. няма. Цела нябожчыка; *прах*". У перыядычным друку бачым з тым сама значэннем словы *рэшткі* і *парэшткі*. "*Камісія створана дзеля рэалізацыі ідэі перапахавання **парэшткаў** Максіма Багдановіча*" (ЛіМ. 20.02.1998). Слова *рэшткі* падаецца ў слоўніках з наступнай дэфініцыяй: "Тое, што захавалася, уцалела ад таго, што раней існавала" (ТСБМ. С. 578). Слова *парэшткі*, відаць, узнікла дзеля размежавання праху (цела нябожчыка) і рэштаў (прадметаў ды пад.). "*У часе паўстання Багдана Хмяльніцкага **парэшткі** нябожчыка вывозіліся ў Польшчу*" (Міхась Чарняўскі. Правадыр крылатых вершнікаў: Ян

Караль Хадкевіч. Мн.: Тэхналогія, 1998. С. 59). *"У манастыры спачывалі* ***парэшткі*** *мацярок святых Савы і Феадосія. Нятленныя* ***парэшткі*** *Еўфрасінні.* ***Астанкі*** *найпадобнейшай Еўфрасінні закрытыя покрывам"*. (Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны: Гісторыя Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Мн., 1998. С. 52—53).

***Супраціўленне і супраціў.*** Акадэмічныя слоўнікі падаюць толькі слова *супраціўленне* (утварэнне з суфіксам *-енне* ад *супраціўляцца)*. Але ў перыядычным друку, манаграфіях 90-х гадоў актыўна выкарыстоўваецца і яго нульсуфіксавы адэкват *супраціў*. *"Сёлета мінецца 15 гадоў з дня смерці Ларысы Геніюш. З далечыні часу, асабліва сёння, калі разгарненне беларускага нацыянальнага* ***супраціву*** *робіцца неабходнасцю, асоба вялікай патрыёткі і паэткі паўстае ва ўсёй велічы"* (Міхась Скобла. ЛіМ. 20.02.1998). *"Рух народнага* ***супраціву*** *чужынцам"* (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995. С. 4). *"Нацыянальнае адраджэнне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны* ***супраціў*** *з боку антыбеларускіх сілаў"* (Зварот ТБМ да суайчыннікаў, а таксама да грамадзян іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры // ЛіМ. 21.08.1998. С. 4).

Слова *супраціў* — натуральнае ўтварэнне ад *супрацівіцца (супраціў-(іцца) → супраціў)*. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча зафіксаваў: *"Супраціў — напротив"* (с. 305). *Іншыя беларускія слоўнікі яго не фіксуюць. Аднак гэтае слова — супраціў* — як агульнаўжывальнае, лексічная адзінка прадукцыйнага словаўтваральнага тыпу (нульсуфіксавае ўтварэнне) без сумневу ўвойдзе ў літаратурны слоўнік.

***Кампутар і камп'ютэр.*** Абодва гэтыя словы выкарыстоўваюцца ў беларускім друку і з'яўляюцца вынікам рознай рэалізацыі англ. *komputer:* 1) транслітарацыі (палітарнай перадачы) і 2) транскрыпцыі (вымаўленчае формы). Форма, якая ўлічвае вымаўленне англійскага, — *камп'ютэр* трапіла праз расійскую мову (*компьютер*). Яна пярэчыць фанетычнаму закону акання і цяжкая для вымаўлення (спалучэнне зычных *мпј*). Форма *кампутар* — адаптаваная беларускаю моваю, падпарадкоўваецца і беларускаму правапісу (ненаціскныя *о*, *э* пераходзяць у *а)*. Так што ўсе перавагі за формаю *кампутар* і вытворнымі *кампутарны*, *кампутарызацыя* ды пад. Слова *кампутар* (вытворныя ад яго) фіксуецца і тэрміналагічнымі слоўнікамі. Так, у даведніку Міколы Савіцкага "Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы" (Мн., 1992) бачым: *компьютер — кампутар*. Тое сама і ў "Руска-беларускім фізічным слоўніку" 1999 г.: *компьютер — кампутар* (с. 133). *Кампутарныя* формы збору, апрацоўкі і захавання моўных звестак (Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі. Мн., 1995. С. 59). Параўн. *клуб* і англ. *klub*, якое па-англійску вымаўляецца [*klab*].

***Тэзіс і тэза.*** Акадэмічныя слоўнікі фіксуюць толькі *тэзіс*. Аднак сучасны нацыянальны друк карыстаецца і больш кароткай яго формай — *тэза*. *"Яму належыць надта сур'ёзна абгрунтаваць свае* ***тэзы****"* (Беларускі

гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 209). *"Камісія падрыхтавала **тэзы** для абвяшчэння рэспублікі"* (Тамсама. С. 279). Слова *тэзіс* захоўвае аблічча грэцкага *thesis*, *тэза* — толькі аснову слова. Канчаткі *-is,-us,-os,-um* у пазычаных іншамоўных словах звычайна не захоўваюцца ў мове-пазычальніцы. Параўн.: *тэкстыль* (лац. *textilis*), *тэмп* (лац. *tempus*), *тэлескоп* (грэц. *teleskopos*), *тэатр* (лац. *theatrum*), *тэкст* (лац. *textum*), *тытул* (лац. *titulus*), *трыбун* (лац. *tribunus*), *трон* (грэц. *thronos*), *транзіт* (лац. *transitus*) ды пад. Слова *тэза* бытуе і ў іншых славянскіх мовах: укр. *теза*, пол. *teza*, чэш. *tese*, славац. *tesa* ды інш.

Тлумачальныя слоўнікі, улічыўшы факты маўленчай практыкі, падаюць і слова *тэза*. Так, у 5-ым томе ТСБМ (Кн. 1. Мн., 1983. С. 571) чытаем: "*Тэза, -ы*, ж. спец. Тое, што і *тэзіс* (у 1 знач.)". Паўторана і ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года (с. 671).

Ад слова *тэза* ўтварыліся: *тэзаваць, тэзавацца, тэзаванне, тэзаваны*, якія бачым у слоўніку, а ад слова *тэзіс* толькі адно слова — *тэзісны*. Але яго лёгка замяняе *тэзавы* (*тэзавая форма даклада*).

Як бачым, форма *тэза* абгрунтаваная ў беларускай мове, яна падтрымліваецца і ўсімі вытворнымі ад яе словамі.

***Паражэнне і параза.*** Слоўнікі фіксуюць толькі першае з іх, але ў сучасным друку актыўна выкарыстоўваецца і *параза*: *"Суб'ектыўна адчувальныя культурныя адрозненні паступова павялічваліся пасля скасавання ўніяцтва, **паразы** паўстання 1863—1864 гг. разам з узмацненнем пазіцыяў праваслаўя"* (Беларускі гістарычны агляд. Т. 4. Мн., 1997. С. 35). *"Тут пачалася самая цяжкая ў яготым жыцці бітва, якая прынесла Радзівілу першую **паразу**"* (Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995. С. 18). *"Афіны канчаткова пацярпелі **паразу**"* (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Мн., 1996. С. 11).

*Параза* — нульсуфіксавае ўтварэнне ад *паразіць*: *параз-(іць)-а → параза*. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча зафіксаваў: "*Параза, ж. — поражение*" (с. 223). Украінская мова таксама мае аднаструктурнае слова (з утваральнаю асновай *пораз-*) *поразка* 'паражэнне', а чэшская і славацкая мовы *porazka*; у польскай мове таксама бытуе суфіксавае ўтварэнне *porazka*.

Як бачым, з усіх згаданых найбольш эканомнае слова беларускае: *параза*. Яно — вынік надта актыўнага ў сучаснай мове нульсуфіксавага ўтварэння. Параўн.: *сумнеў, аповед* і *расповед, подслух, супрацiў* ды пад.

***Імпрэза.*** Гэтае слова было вядомае яшчэ ў старажытнай беларускай мове з значэннем 'задума, пачынанне' (М.Прыгодзіч, Г.Ціванова. Старабеларускі лексікон: Падручны перакладны слоўнік. Мн., 1997). Сучасныя слоўнікі яго не фіксуюць. Але ў друку яно выкарыстоўваецца. І досыць актыўна: *"Сёлетні фестываль пабіў рэкорды традыцыйнай летняй **імпрэзы** па працягласці, бо доўжыўся 9 дзён... Большасць люду, як тое водзіцца, цікавілі не столькі мастацкія **імпрэзы**, колькі магчымасць бавіць час на "базарным*

*прыволлі*" (Згадкі пра "Славянскі базар" у Віцебску // ЛіМ. 21.08.1998. С. 10).

Паводле тэкстаў выкарыстання слова *імпрэза* мае ў сучаснай маўленчай практыцы значэнні 'мерапрыемства', 'выступленне', 'канцэрт', 'справа' (рэч), 'захад', 'мера'.

Слова ўласцівае і польскай мове: *impreza* 'мерапрыемства, пачынанне, выступленне'.

***Амбасада, амбасадар і пасольства, пасол.*** У сучаснай маўленчай практыцы выкарыстоўваюцца не толькі словы *пасол* і *пасольства*, зафіксаваныя слоўнікамі, але і неалагізмы *амбасадар* і *амбасада*: "*Канферэнцыя прайшла на добрым навуковым узроўні. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускай **абмасады** ў Польшчы ды консульства ў Беластоку, аднак слова не бралі*" (ЛіМ. 7.08.1998г. С. 3). "*Мікола Вярба ў 1946 г. выехаў у Канаду і адразу ўзяўся за стварэнне беларускага Нацыянальнага Камітэта, набыў вядомасць як неафіцыйны беларускі **амбасадар** у Канадзе*" (Полымя. 1998. № 7. С. 279). "*5 лютага ў будынку візавага аддзела **амбасады** ФРГ адбыўся вернісаж. Пяцёра маладых беларускіх мастакоў... мелі магчымасць прадэманстраваць свае творы гасцям **амбасадара***" (ЛіМ. 26.02.1999. С. 4).

Пазычанне з польскай мовы: пол. *ambasada* 'пасольства'; *ambosador* 'пасол'; 2. пасланец, прадстаўнік.

***Выспа і востраў.*** Слова *выспа* як адэкват рас. *остров* засведчыла "Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назовы нябесных цел". Яго падае "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 71): "*Выспа* ж. *Остров*". Зафіксавалі гэтае слова і многія дыялектныя слоўнікі з значэннем 'востраў'; а таксама 'ўзгорак, узвышанае месца', 'высокі бераг ракі'. Бытавала яно і ў старажытнай беларускай мове з значэннем 'востраў'. У народнай мове выступае і ў форме мужчынскага роду *высып* 'пясчаны ўзгорак, астравок; выспа'. Гэта наводзіць на думку, што першасным значэннем слова *выспа* было 'пясчаны астравок, узгорак сярод абсяжнай вады'. Дарэчы, этымалагічна — 'абмытая (абводненая) зямля'; корань у слове *востраў* — той, што і ў *струмень* (рас. *струя*), г.зн. 'абмыты вадой'.

Слова бытуе і ў польскай мове (*wyspa* 'востраў'), што, відаць, і дало падставу абмежаваць у беларускай мове выкарыстанне слова *выспа*, надаўшы яму больш вузкае значэнне ('пясчаны востраў'), а агульнамоўным зрабіць *востраў*. Аднак "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" не пацвярджае высновы РБС-53. На с. 580 (Т. 1. Мн., 1977) чытаем: "*Выспа, -ы,* ж. Невялікі востраў, часцей пясчаны. *Сярод гэтых лясоў сустракаюцца **выспы**, абкружаныя балотамі*". Дарэчы, слова *востраў* , якое падае гэты слоўнік, таксама мае аналагічныя з *выспа* значэнні — 'узвышша сярод балота, грудок, выспа' (Тамсама. С. 507).

Усё згаданае дае падставы лічыць слова *выспа* агульнамоўнаю лексічнаю адзінкаю, адэкватам слова *востраў*. Параўн.: "*Як звычайна ў гэты дзень ля*

***мемарыяла на "выспе слёзаў" адбылася ўрачыстая цырымонія*** (ЛіМ. 20.02.1998). *"Дрэва на выспе"* — *кніга А.Грачанікава* (1977).

І ніяк тут нельга пагадзіцца з "Тлумачальным слоўнікам" 1996 года, які безапеляцыйна сцвярджае (даслоўна паўтарыўшы праз дваццаць гадоў свайго папярэдніка): "*Выспа,-ы*, ж. Невялікі востраў, часцей пясчаны" (с. 133). Дарэчы, тут бачым і штучнае: "прым. *Выспенны*", хоць натуральным ёсць *выспавы* (як і *язвавы*). А тым болей з 2—7 перавыданнямі РБС-53, якія нічога не змянілі параўнальна з тым, што было засведчана 40 з лішкам гадоў таму. Так, у РБС-98 (Т. 1. С. 373) бачым: "*Остров* м. *востраў, -рава* м.; (песчаный) *выспа,-пы ж.*"

***Балавы (паказчык) — а не бальны.*** Слова *бальны* стасуецца з назоўнікам *баль* 'вечар з танцамі і забавамі'; 'вялікі званы абед'; 'нястомны разгул чаго-небудзь' (рэакцыі, ваеншчыны). Напрыклад, *бальныя танцы*. Ад слова *бал* 'адзінка вымярэння сілы або ступені прыроднай з'явы', 'лічбавая ацэнка поспехаў у навучальнай установе, дасягненняў у спорце' — натуральным ёсць прыметнік *балавы*: *"Былая **пяцібалавая** сістэма ацэнкі ведаў навучэнцаў цяпер ужо заменена на **чатырохбалавую**"* (Настаўніцкая газета. 21.07.1997).

На жаль, нашыя слоўнікі пераносяць на свае старонкі расійскія аманімічныя формы і пішуць: *бальны танец* і *бальная сістэма ацэнкі ведаў*. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 1. Мн., 1988. С. 171) чытаем: "*Бальны* І. (прил. к *баль*) *бальный; бальны* ІІ. (прил. к *бал*) *балльный; бальная сістэма ацэнкі ведаў — балльная система оценки знаний*". А між тым "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 330) засведчыў: "*Балавы,-ая,-ае.* Які вызначаецца з дапамогаю балаў. *Балавая сістэма ацэнкі*". На старонцы 335: "*Бальны,-ая,-ае.* Які мае дачыненне да балю. *Бальнае плацце. Бальныя танцы*".

Але каб не разыходзіцца з усесаюзным стандартам, дзе розным беларускім утварэнням — *бальны* і *балавы* — адпавядае аманімічная ў вымаўленні форма [бальный], нашыя слоўнікі бяздумна пайшлі таксама на гэтую аманімію, што і засведчыў згаданы БРС-88. Бачым, на жаль, гэтую недарэчнасць і ў згаданым ТСБМ (Т. 1. С. 335): "*Бальны*[2] Які мае дачыненне да бала. *Бальная сістэма ацэнкі ведаў*". Але ж *бал* у беларускай мове не ўтварае аманімічнай пары, бо мы маем два словы, якія розняцца фінальнымі фанемамі: *бал* (з фанемаю [л]) і *баль* (з [л']). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 79) у артыкуле "*Бал* — адзінка вымярэння" падае аж два прыметнікі ад яго — *бальны* і *балавы* і ілюструе прыкладамі: *Бальны танец. Сістэма балавай (бальнай) ацэнкі*. Але ж прычым тут "бальны танец"? Гэты ж прыметнік ад *баль*, а не ад *бал*. Гэта, дарэчы, пацвярджае і сам слоўнік, дзе на с. 80 чытаем: "*Баль* 'вечар з танцамі', прым. *бальны. Бальныя танцы*".

Як бачым, аўтарка артыкулаў "Бал" і "Баль" у гэтым слоўніку З.М.Кудрэйка механічна перапісала іх з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 34), пра што сведчаць і ілюстрацыі: "*Бал*... Большой танцевальный вечер. *Бальные танцы*" і "*Балл* 'единица оценки, силы какого-н.

явлення. 2. Цифровая отметка успехов (в школе, спорте)' / / прил. *балловый* и *балльный*".

Але ж у расійскай мове тое, што аўтарка перадае прыметнікам *бальны*, мае рознае напісанне: *бальный* (ад *бал*) і *балльный* (ад *балл*).

"Русско-белорусский словарь" 1993 года (і яго аўтэнтычнае перавыданне 1998 г.) рас. *балльный* перакладае адмысловым словам *балавы; балльная система — балавая сістэма;* а слова *бальный — бальны* (Т. 1. С. 72—73). Як паказваюць матэрыялы гэтага слоўніка, нарматыўнымі мусяць быць: *балавы* (да *бал*) і *бальны* (да *баль*).

Гэтае нормы трэба трымацца і пры выкарыстанні слова *балавы* як часткі кампазітаў (складанняў): *пяцібалавы, сямібалавы землятрус*.

Здзіўляе ў сувязі з гэтым наступнае сцверджанне "Тлумачальнага слоўніка" (Т. 1. Мн., 1977. С. 335): "... *бальный, -ая, -ае.* Другая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: роўны столькім балам, колькі паказвае першая частка гэтых слоў, напрыклад *пяцібальны, дзевяцібальны*".

Можна было б размежаваць гэтыя аманімічныя словы — *бальны* I і *бальны* II такім шляхам, як гэта бачым у РБС-93: рас. *бальный* да *бал — балёвы*, а *балльный* да *балл — бальны*.

Але ж найбольш паслядоўна стасуюцца якраз утварэнні *балавы* (ад *бал*) і *бальны* (ад *баль*). Бо "балёвыя танцы" — нязвычна і надта змушана.

***Кіраўнік, спраўца, кіраўнічы — а не ўпраўляючы.*** Слова *ўпраўляючы* не фіксуе ніводны беларускі акадэмічны слоўнік. Рас. *управляющий* перакладаецца як: *кіраўнік* (каго-чаго); *управляющий делами — кіраўнік спраў* (РБС-53. С. 720); *управляющий* 1. прич. *які (што) кіруе*; 2. сущ. *кіраўнік,-ка*, м. (каго-чаго); *управляющий делами — кіраўнік спраў* (РБС-93). Няма гэтага слова і ў "Слоўніку беларускай мовы" 1987 года, і нават у двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" 1988—1989 гадоў, дзе няма-ла небеларускіх словаў.

Аднак у друку нярэдка бачым: *упраўляючы маёнткам, упраўляючы жывёлагадоўчымі справамі ў калгасе* ды пад. Трапляе яно і ў некаторыя даведнікі. Напрыклад, у кнізе "Старабеларускі лексікон: Падручны перакладны слоўнік" М.Прыгодзіча і Г.Цівановай (Мн., 1997) чытаем: "*Спраўца — упраўляючы*".

Як бачым, гэтае *ўпраўляючы* — штучна перанесенае ў беларускія тэксты рас. *управляющий*, толькі прыстасаванае да беларускае фанетыкі і граматыкі. Звычайна яму адпавядае ў беларускай мове слова *кіраўнік* (утварэнне ад *кіраваць* — адэкват рас. *управлять*). На месцы гэтага слова ў старажытнай беларускай мове выкарыстоўвалася і лексічная адзінка *спраўца*, што засведчана ў згаданым "Старабеларускім лексіконе".

Слова *спраўца* — суфіксавае ўтварэнне ад *справіцца (спраўляцца)* — 'прымусіць слухацца, падпарадкавацца, адолець, асіліць што-небудзь, перамагчы' (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 273): *справ(іцца)-ца → спраўца*. Суфікс *-ц-а(-ец)* быў досыць прадукцыйным у беларускай мове

даўнейшага часу і ў XIX стагоддзі; захоўвае сваю актыўнасць і цяпер (*атаковец, звыштэрміновец, шараговец, вайсковец, службовец, самапісец*).

Шматзначнае слова *кіраўнік* адпавядае наступным расійскім: "1. Руководитель, глава, правитель; 2. *Управляющий*" (БРС-89. С. 601). Каб перадаць адмысловае значэнне рас. *управляющий*, некаторыя даведнікі перакладаюць яго так: *управляющий* I (прич.) *кіравальны, кіраўнічы; управляющий* II (сущ.) — *кіраўнік,-ка, кіраўнічы,-чага* (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 219). У такім разе слова *кіраўнічы* выступае як субстантываваны прыметнік.

***Камандуючы і гетман.*** Слова *камандуючы* таксама пазычанне (з рас. *командующий*); толькі фанетычна і марфалагічна прыстасаванае. Параўн.: "*Командующий* сущ. *камандуючы,-чага* м." (РБС-53. С. 207). Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі гэтага слова, адчуваючы штучнасць яго структуры (неўласцівасць суфікса *-уч-*, які далучаецца да асновы дзеясловаў цяперашняга часу: *камандуй-(уць)-уч-ы*).

У старабеларускай мове гэтае значэнне меў назоўнік *гетман* (яго фіксуе і згаданы "Старабеларускі лексікон": *гетманъ — камандуючы*). Бытаваў ён тут з XVI стагоддзя.

Сучасныя вайсковыя даведнікі таксама падаюць гэтае слова: "*командующий* (сущ.) *гетман; командующий внутренними войсками Республики Беларусь — гетман нутраных войскаў Рэспублікі Беларусь, командующий фронтом — гетман фронту*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 82).

Як сведчыць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1985. С. 80), слова *гетман* уласцівае ўкраінскай (*гетьман*), польскай (*hetman*), іншым мовам. У беларускую мову трапіла з польскае, у якой — з нямецкае мовы.

***Тастамент і завяшчанне.*** Слова *тастамент* фіксавалі слоўнікі 20-х гадоў: "*Тэстамэнт,* м. — *завещание*" (БРС-26. С. 318); "*Завещание — запавет, тэстамант* (ПРК(Б)С. С. 186). Бытавала яно і ў старабеларускай мове: *тэстаментъ — завящанне*". Уласцівае яно і польскай мове. Мусіць, з гэтае прычыны яго і не фіксавалі акадэмічныя слоўнікі, выдадзеныя пасля пастановы СНК БССР 1933 года. Так, няма яго ні ў РБС-53, ні ў БРС-62. Нават двухтомавы РБС-82 падае толькі: "*Завещание* ср. 1. (документ) *завяшчанне,-ння* ср.; 2. (завет) *запавет, -ту,* м." (Т. 1. С. 352). Аднак пазнейшыя па часе выдання беларускія слоўнікі ўжо фіксуюць гэтае слова. Так, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1983. С. 482) чытаем: "*Тастамент, -а,* м. Уст. *Завяшчанне*". З такой сама кваліфікацыяй слова *тастамент* падае і БРС-89 (Т. 2. С. 553): "*Тастамент* м. уст. см. *завяшчанне*".

Аднак маўленчая практыка канца 80-х і ў 90-х гадах шырока карыстаецца словам *тастамент* як адэкватам *завяшчанне.* Улічыўшы гэта, "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае гэтае слова як раўнапраўнае з *завяшчанне.* На с. 443 першага тома чытаем: "*Завещание* ср. 1. (документ) *завяшчанне,-ння* ср., *тастамент,-ту* м.; 2. (завет) *запавет,-ту* м."

Як бачым, гэты даведнік (і яго перавыданне 1998 г.) узаконілі старадаўняе слова *тастамент* у яго праве на нарматыўнае выкарыстанне ў сучаснай маўленчай практыцы. Здзіўляе ў сувязі з гэтым безагляднае дубляванне лексічных матэрыялаў савецкага часу новым "Тлумачальным слоўнікам", які ўсё яшчэ кваліфікуе слова *тастамент* як застарэлае, перанёсшы гэты лексікаграфічны артыкул з свайго папярэдніка.

***Спадар, пан, таварыш.*** Словы *спадар, спадарыня* бытавалі ў старабеларускай мове; пісьмовымі помнікамі яны фіксуюцца з 16 ст. паралельна з *гаспадар, гаспадарыня* (і *гаспадыня*). Падчас нашага нацыянальна-культурнага адраджэння гэтыя словы — *спадар, спадарыня,* а таксама *спадарства* (утварэнне: *спадар-ства,* як і *пан — панства*) — сталі шырока выкарыстоўвацца як форма ветлівага звароту да афіцыйных прадстаўнікоў або грамадзянаў сваёй краіны ці іншых краінаў, замяніўшы савецкі зварот *таварыш.* Зрэдку з гэтым значэннем выкарыстоўвалася ў дачыненні замежных грамадзянаў і слова *пан,* а таксама *панове* (да некалькіх асобаў) ці *паны.* Аднак слова *пан,* абцяжаранае негатыўнымі значэннямі — 'чалавек з прывілеяваных класаў', 'чалавек, які ўхіляецца ад працы сам і мае моду перакладваць работу на іншых', саступіла найбольш прыдатнаму ў гэтых варунках слову *спадар* (і *спадарыня, спадарства*).

Яго як ветлівы зварот да афіцыйных прадстаўнікоў або грамадзянаў іншых краінаў засведчыў і новы акадэмічны "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (с. 614).

***Гурок, гуркі — ці агурок, агуркі?*** Нашыя перакладныя слоўнікі падаюць толькі другія словы гэтых параў, відаць, таму, што яны маюць супольны пачатковы гук [*а*] з расійскім адпаведнікам: "*Огурец — агурок, огуречник — агурочнік, огуречный — агурочны; огуречная трава* бот. *Агурочнік*" (РБС-53. С. 349). "*Гурок* м. см. *агурок*" (БРС-62. С. 289). Тлумачальныя слоўнікі зусім не згадваюць адмысловую беларускую форму *гурок,* а падаюць толькі *агурок.*

Ці апраўдана гэта? У класікаў нашай літаратуры і славутых сучасных пісьменнікаў — Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля, Яна Скрыгана — бачым якраз гэтае *гурок* (а не *агурок*). Вось некаторыя з прыкладаў выкарыстання гэтага слова ў сучасным друку. "*Бульбу пасадзілі.* ***Гуркі*** *пасеялі. Май канчаўся...* ***Гуркі*** *ж старыя людзі раілі сеяць на Пахома*" (Леанід Левановіч. Сіняе лета // Полымя. 1998. № 6. С. 49). "*Яго ўпэўненасць памацнела, калі ўбачыў на кухонным стале пад бялюткай сурвэткай вячэру: яечню, салату з памідораў, скрылікі каўбасы, пару маласольных* ***гурочкаў***" (Полымя. 1998. № 7. С. 127). "*— Дзе ж ён цяпер? — пытаўся я. — На пенсіі.* ***Гуркамі*** *ды цыбуляю на базары таргуе*" (Ян Скрыган. Падарожжа ў Сібір // Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 221).

У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча нормаю прызнаецца якраз адмысловае: "*Гурок* (мн. л. *гуркі*) м. — *огурец* (с. 85). А форма *агурок* падаецца з спасылкаю на *гурок* (с. 18). Тут бачым і аднакаранёвыя ўтварэнні: "*Гурковы — огуречный, гурочак — огурчик*" (с. 85).

Зусім справядліва пацвярджае гэтыя формы і "Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн., 1987. С. 190): *гурок, гурочны, гурочнік.*

Дык ці трэба грэбаваць сваімі адмысловымі формамі *гурок, гурочак, гурочнік, гурочны, гурковы?*

***Ліставанне, ліставацца.*** У сучасным друку сталі актыўна выкарыстоўвацца словы *ліставацца* і *ліставанне* з значэннем 'перапісвацца, абменьвацца лістамі, звесткамі'. Напрыклад: *"Беларуская газэта "Наша ніва", Беларусь, г. Мінск. Адрас для* ***ліставання****: 220050 г. Менск, п/с 537; тэл./факс 227-7892". "Дзе архівы Чаржынскага?* ***Ліставанне****, рукапісы, якія штосьці могуць дадаць не толькі пра яго самога, але і пра Бядулю, Вазнясенскага?"* (Ігар Жук. Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя эцюды. Гродна, 1998. С. 51). Гэтыя словы — *ліставацца, ліставанне* — акадэмічнымі слоўнікамі не занатаваныя, але вельмі выразныя сваім значэннем і будоваю. *Ліставацца* ўтварылася ад *ліст* з выкарыстаннем суфікса *-ава-* і постфікса *-ца(-цца): ліст-авацца.* Ад дзеяслова *ліставацца* — яго вытворнае з суфіксам *-нн-е: ліства-нне.* В.Ластоўскі змяшчае слова *ліставанне* 'перапіска, абмен лістамі' (ПРК(Б)С. С. 473).

Ёсць усе падставы для замацавання гэтых словаў у слоўніку літаратурнай мовы.

***Напоўніцу.*** Гэтае слова як гутарковы дублет да прыслоўя *напоўніцы* падае двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік": *"Напоўніцу* нареч. разг. см. *напоўніцы"* (Т. 1. Мн., 1988. С. 747), а апошняе тлумачыцца як прыслоўе з значэннем 'на поўны рот, прагна (есці)' (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 23). Прычым абодва словы маюць памету "размоўнае".

Аднак у сучасным друку слова *напоўніцу* выкарыстоўваецца з іншым значэннем — тым, якое вынікае з семантыкі ўтваральнага дзеяслова *напоўніцца* — 'стаць поўным, запоўніцца да верху, стаць поўнасцю занятым' (ТСБМ. Т. 3. С. 282). Напрыклад: *"Вядома, каханне — гэта замарачэнне, часткова страта розуму, але ж без кахання чалавек не можа жыць* ***напоўніцу****"* (Полымя. 1998. № 7. С. 21). Гэта стасуецца і з іншымі аднакаранёвымі словамі; параўн.: *поўня* — 'росквіт, паўната'. *"Вясна была ва ўсёй* ***поўні****"* (П.Пестрак). Або: "*Поўня* — фаза Месяца, калі відзён увесь поўны дыск".

Як бачым, выразнае будоваю і значэннем, слова *напоўніцу* вартае таго, каб папоўніць слоўнік літаратурнае мовы (з тым значэннем, якое вынікае з ягонае ўтваральнае асновы).

***Халаднаваты — а не прахалодны.*** Слова *прахалодны* бачым толькі ў адным лексікаграфічным даведніку — "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 383): "*Прахалодны, -ая, -ае.* Умерана халодны, асвяжальны". Аднак структура гэтага слова не пацвярджае яго значэння. Яно найперш усведамляецца як пристаўкавае ад *халодны (пра-халодны).* А як сведчыць згаданы слоўнік, прыстаўка ***пра-*** ўжываецца пры ўтварэнні прыметнікаў, якія абазначаюць "... самую высокую ступень якасці, напрыклад: ***прамудры, праслаўуты***" (Тамсама. С. 298). Ілюстрацыйны прыклад (які па-

дае слоўнік з твора Гамолкі) не выяўляе значэння згаданага слова *прахалодны*: *"І вецер б'е ў твар — **прахалодны**, чысты і духмяны, як віно"*.

А трапіла сюды — у "Тлумачальны слоўнік" гэтае штучнае *прахалодны* з даведніка "Словарь русского языка" (В 4 томах. М., 1956—1961), дзе чытаем : "*Прохладный, -ае, -ое.* Умеренно холодный, освежающий" (Т. 3. С. 544).

Акадэмічныя перакладныя слоўнікі рас. *прохладный* перакладаюць як *халаднаваты*. Так, у даведніку "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 544) чытаем: "*Прохладный* 1. *халаднаваты*; 2. перен. *халаднаваты, абыякавы*". Гэты артыкул паўтораны і ўсімі пазнейшымі яго перавыданнямі (гл. РБС-93, РБС-98. Т. 3. С. 116). І ўсе вытворныя ад гэтага слова маюць тую самую форму: "*прохладно — халаднавата, прохладность — халаднаватасць*" (Тамсама). Дый рас. *прохлада* мае ў беларускай мове свой натуральны адпаведнік — *халадок; "вечерняя прохлада — вячэрні халадок; повеяло прохладой — павеяла халадком*" (Тамсама).

Як бачым, нашая мова мае свае адмысловыя словы. І гэтае нормы трэба трымацца. На жаль, у друку можна сустрэць і пачуць па радыё не толькі гэтае *прахалодны* (дастасаванае да законаў беларускай мовы рас. *прохладный*), але і: *прахладны, прахладнаваты, прахладнаватасць*.

***Роднасць, сваяцтва, блізкасць, падабенства — а не радство.*** "*Звяртаецца аўтар і да тэмы кроўнага **радства** з зямлёй бацькоў*" (ЛіМ. 21.08.1998. С. 6). "*Сцяжынка і казка **ў радстве**...*" (У трыдзевятым царстве: Сцяжынкай казкі. Мн., 1995. С. 4). Беларускай мове неўласцівае слова *радство*. Яго не фіксуе нават шасцікнігавы "Тлумачальны слоўнік" і двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік", у якіх бачым і ненарматыўныя словы. "*Радство* — механічна перанесенае ў беларускія тэксты расійскамоўнае слова *родство*, якому адпавядае шмат сваіх лексемаў. Так, РБС-93 і РБС-98 засведчылі: "*Родство* ср. 1. (по происхождению) *роднасць, сваяцкасць, сваяцтва*; 2. (по содержанию) *блізкасць, падабенства*" (Т. 3. С. 260).

Гэтае нормы і трэба трымацца. Бо нават устойлівыя звароты беларускай мовы яго не маюць. Параўн.: "*Не помнящий родства — без роду і племені*" (Тамсама).

***Хрост, хрэст і хрышчэнне.*** Сучасныя акадэмічныя слоўнікі фіксуюць толькі апошняе з гэтых трох словаў. А вось у друку бачым і першыя два: "*12 кастрычніка 1943 года дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі прыняла баявы **хрост***" (ЛіМ. 7.08.1998. С. 2). "*У вершы "**Хрэст на свабоду**" Цётка выкрывала злачынствы самаўладства, благаслаўляла народ на рэвалюцыйную барацьбу...*" (Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 5. Мн., 1987. С. 472). Слова *хрэст* падае і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 336): "*Хрэст* м. — *крещение*".

Словы *хрост* і *хрэст* — нульсуфіксавыя ўтварэнні ад *хрысціць*. Параўн. аднакаранёвыя *хрэсьбіны* ("Тое, што і *хрысціны*". ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 219), *хроснік, хросніца; хросны* — 'які мае адносіны да абраду хры-

шчэння' (Тамсама. С. 215). Дарэчы, слова *хросны* — гэта ўтварэнне ад *хрост* (*хрост-ны* → *хросны*).

Лексема *хрост* і *хрэст* маюць магчымасць папоўніць слоўнік літаратурнай мовы.

***Краса, прыгажосць, хараство і пекната.*** Слова *пекната* і яго ўтваральнае *пекны* нашыя акадэмічныя перакладныя слоўнікі не фіксуюць. А вось слоўнікі 20-х гадоў іх падавалі: "*Пекны — красивый, изящный, пекната — ж. красота, изящество*" (БРС-26. С. 230, 231); "*красота — пекната, пекнасць* 'палкая, палючая прыгажосць, хараство" (ПРК(Б)С. С. 284). Фіксуе лексему *пекната* і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 153): "*Пекната*, ж. Разм. Уласцівасць *пекнага; прыгажосць. Лёс табе дай **пекнату** чараўнічую, дасць ён, напэўна, і шчасце вялікае.* Дубоўка. *Хто тварэц жыцця людскога, / / Волі, шчасця, **пекнаты?*** Чарот". Бачым тут і словаўтваральны прыметнік гэтага слова: "*Пекны, -ая, -ае.* Разм. *Прыгожы. **Пекныя** ўзоры / / Тчэ кляной задумны лістапад.* Куляшоў. *Анэта мела чорныя вельмі зваблівыя вочы і яшчэ больш зваблівыя, **пекныя** вусны.* Сачанка". Здзіўляе толькі штучна прыклееная тут бірка "разм(оўнае)". І гэта пры такім выкарыстанні і такімі знакамітымі аўтарамі! Насамрэч, слова *пекната* — адэкват замацаваных слоўнікамі лексічных адзінак *краса, прыгажосць, хараство, вытанчанасць*. Гэта пацвярджаюць і самыя новыя тэксты. Напрыклад: "*Літаратура нібы дранцвее ў прадчуванні небывалага жаху і перадае сваё нямое слова трывогі вельмі дзіўным персанажам — нямко ці блазен, нямоглы старац ці "слязінка дзіцяці" тады змяшчаюць выратавальную ідэю **пекнаты** ў нязвыклых і вонкава звыродных формах*" (Ігар Жук. Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя эцюды. Гродна, 1998. С. 53).

***Далёкі — а не дальні, блізкі — а не бліжні.*** "*І мы, пераселеныя ва ўсе куткі Беларусі, усё неяк "міма раю", і новыя веткаўцы з **блізкага і дальняга** замежжаў ды навакольных вёсак — "маршрутам" гэткім жа*" (ЛіМ. 4.09.1998. С. 5). Слова *дальні* — механічна перанесенае ў беларускі тэкст рас. *дальний*. У беларускай мове яму адпавядае слова *далёкі*. Гэта засведчыў знакаміты акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 107): "*Дальний — далёкі, дальний путь — далёкі шлях; дальнее озеро — далёкае возера*". Тое сама бачым і ў пазнейшых яго перавыданнях — РБС-93, РБС-98 (Т. 1. С. 342). Не падае гэтага *дальні* нават БРС-88—89. І гэта натуральна, бо беларускае *далёкі* дакладна адпавядае рас. *дальний*. На с. 355 першага тома бачым: "*Далёкі* 1. (находящийся на большом расстоянии; имеющий большое протяжение) ... *дальний; отдалённый;* 2. (о родстве) *дальний; далёкі сваяк — дальний родственник*". Гэтую норму пацвярджаюць і іншыя словы з гэтай асновай, што падаюцца слоўнікам: "*далёкаўсходні — дальневосточный, далёкасць — дальность; Далёкі Ўсход — Дальний Восток*" (Тамсама).

А вось "Тлумачальны слоўнік" невядома для чаго змясціў на сваіх старон-

ках і гэтае *дальні*. Прычым тлумачэнні значэння слова *дальні* тыя сама, што і ў слове *далёкі*. Параўнайма: "*Далёкі*... 1. Які знаходзіцца, адбываецца на вялікай адлегласці; проціл. *Блізкі* / / Які мае вялікую працягласць ў прасторы" (с. 126); "*Дальні*... Які мае вялікую працягласць у прасторы" (с. 128).

Слова *бліжні* таксама неўласцівае беларускай мове, яму адпавядае *блізкі*, што і засведчыў згаданы БРС-88: "*Блізкі* (в пространстве) *ближний, близлежащий; з блізкай дыстанцыі* воен., спорт. — *с ближней дистанции*" (с. 190). Слоўнік падае *бліжні* толькі як ненарматыўнае слова: "*Бліжні* 1. обл. см. *блізкі* 1; 2. в знач. сущ. см. *блізкі*; 3. Уст. книжн. в знач. сущ. *ближний*; *палюбі бліжняга свайго — возлюби ближнего своего*" (с. 189). Перакладныя слоўнікі пацвярджаюць гэтую выснову: "*Ближний* 1. прил. *блізкі*; 2. сущ. уст. *Блізкі*" (РБС-93, РБС-98. Т. 1. С. 109). Тут бачым і іншыя словы з гэтаю асноваю: *ближневосточный — блізкаўсходні, Ближний Восток — Блізкі Ўсход* (Тамсама).

А вось згаданы "Тлумачальны слоўнік" і тут стаўся выняткам. У ім бачым: "*Бліжні, -яя, -яе*. 1. Які знаходзіцца блізка; 2. у знач. наз. *бліжні*. Родны чалавек або прыяцель" (ТСБМ. Т. 1. С. 384—385). Але, як мы бачылі, РБС-93 і РБС-98 і з значэннем назоўніка падаюць толькі слова *блізкі* (а не *бліжні*). На старонкі ТСБМ гэтыя словы — *бліжні* і *дальні* — перанеслі з расійскамоўных тлумачальных слоўнікаў (разам з іх дэфініцыямі). Бо паводле здаровага розуму — "які знаходзіцца *блізка*" і ёсць *блізкі* (а не *бліжні*). Параўн. у Ніла Гілевіча: "*Наша імя становіцца ў самым горшым сэнсе назыўным у вуснах грамадзян **блізкага** і **далёкага** замежжа*" (Абаронім незалежнасць нашай дзяржавы / / Народная воля. 4.03.1999. С. 1).

***Карта і мапа.*** Слова *мапа* з значэннем 'геаграфічная карта' падавалі слоўнікі 20-х гадоў. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 166) чытаем: "*Мапа* ж. — карта (географическая)". Слова ўласцівае і заходнеславянскім мовам: пол. *mapa*, славац. *mapa*, чэш. *mapa*.

Падчас нашага нацыянальна-культурнага адраджэння слова ***мапа*** стала актыўна выкарыстоўвацца ў нацыянальным друку. Вось адзін з шматлікіх прыкладаў: "*Старая **мапа** Гродзенскай губерні таксама ўтрымлівае ў гэтым месцы шуканую назву ўрочышча Красносток*" (Ігар Жук. Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя эцюды. Гродна, 1998. С. 29).

Бачым слова *мапа* і ў вайсковых даведніках. Напрыклад, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 77): "*Карта — карта, мапа, аркуш*".

***Цыбы і цыбалкі.*** У слоўніках як нейтральнае фіксуецца слова *цыбаты* з значэннямі: "1) Высокі і тонкі, звычайна даўганогі; 2) Доўгі і тонкі, з падоўжанай часткай ад ступні да калена (пра ногі). *Міхалючок закруціўся па хаце, як падлетак, заскакаў на сваіх **цыбатых** нагах*. Чорны" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 255).

Бачым у слоўніку і слова ***цыбалка*** 'частка нагі ад ступні да калена' (Тамса-

ма). Але няма тут утваральнага слова *цыбы*, якое выкарыстоўваецца ў творах Янкі Брыля і іншых пісьменнікаў. А менавіта ад гэтага слова *цыбы* ўтворана *цыбаты (цыб-ат-ы)*. У жывой народнай мове слова *цыбы* выкарыстоўваецца з значэннем 'ногі' (звычайна як непахвальнае пра доўгія ногі). "*Чаго ты тут выцягнуў свае **цыбы**, загарадзіў праход*" (в. Грабава Зэльвенскага раёна).

Бытуе слова і ў гаворках украінскай мовы. "Украінска-беларускі слоўнік" В.П.Лемцюговай (Мн., 1980. С. 652) засведчыў: "*Циба* ж. абл. (доўгая нага) *цыбалка*". Слова *цыбалка* — утварэнне (з суфіксам *-лк-а*) ад дзеяслова *цыбаць* 'шырока ступаць', якое таксама выкарыстоўваецца ў народнай мове (але не фіксуецца слоўнікамі).

Мяркую, ёсць падставы падаваць у слоўніках і лексему *цыбы* 'ногі (доўгія)', а не толькі *цыбалкі*.

***Інфекцыяваць і інфекцыяваны — а не інфіцыраваць, інфіцыраваны.*** "*80 працэнтаў **ВІЧ-інфіцыраваных** у Беларусі заразіліся шляхам унутрывенных наркатычных ін'екцый. Лідэрам па колькасці знойдзеных вірусаносьбітаў застаецца Гомельская вобласць. Большасць носьбітаў СПІДу прыпадае на Светлагорскі раён*" (Народная воля. 19.09.1998. С. 2).

*Інфіцыраваны* — утварэнне ад *інфіцыраваць*. Вось як апісваецца значэнне гэтага слова ў слоўніках: "*Інфіцыраваць* — заразіць (заражаць) *інфекцыяй*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 555); "*Інфіцыраваць* зак. і незак., каго-што (спец.). Унесці (уносіць) інфекцыю, узбуджальнікаў інфекцыйных хвароб. *Арганізм інфіцыраваны*" (ТСБМ. Мн., 1996. С. 256). Але з вызначэння (дэфініцыі) гэтага паняцця вынікае натуральная форма дзеяслова — *інфекцыяваць* — 'уносіць інфекцыю' (*інфекцый-аваць*). Як *прэмія — прэміяваць, віза — візаваць, пломба — пламбаваць*. Такая форма *інфекцыяваць* вельмі выразна выяўляе сваё значэнне, бо яна беспасярэдна матывуецца ўтваральным словам. А вось штучнае *інфіцыраваць* не мае свае ўтваральнае базы, яно нематываванае, цёмнае. Пра тое, што менавіта такой утваральнаю асновай для дзеяслова ёсць назоўнік *інфекцыя*, сведчыць і выкарыстанне ў дэфініцыі прыметніка *інфекцыйных* (хвароб). У высвятленні семантыкі дзеяслова *інфекцыяваць* аж два аднаасноўныя словы: *інфекцыя* і *інфекцыйны*. А сам такі дзеяслоў натуральна ўспрымаецца як цалкам асвоены беларускаю моваю (утварэнне з спрадвечнабеларускім суфіксам *-ава-*, які далучаецца да ўтваральнае асновы).

***Прымірэнчы — а не прымірыцельны.*** Штучнае для беларускае мовы *прымірыцельны* бачым у аднатомавым "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы". На с. 515 чытаем: "*Прымірыцельны*... Які садзейнічае прымірэнню. *Прымірыцельны тон*". Аднак ужо з самое дэфініцыі відаць ненатуральнасць будовы гэтага слова: *прымірэнне і прымірыцельны*. Натуральна ж з *прымірэння* вынікае *прымірэнчы*. Як і *вызваленне — вызваленчы, запаленне — запаленчы* ды інш.

Слова *прымірыцельны* — механічна перанесенае з расійскае мовы, пра

што сведчыць як яго словаўтваральная структура (*прыміры-цельн-ы*), так і супадзенне тэксту беларускага слоўнікавага артыкула з расійскім. Параўнайма: "*Примирительный, -ая, -ое.* Содействующий примирению. *Примирительный тон*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 527).

Нармаваным ёсць слова *прымірэнчы;* "прымірыцельны" — парушэнне словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы, параўн.: *абарончы* (рас. оборонительный), *аглушальны* (оглушительный), *жавальны* (жевательный), *выбарчы* (избирательный), *заразлівы* (заразительный), *лятальны* (летательный), *чароўны* (очаровательный) ды інш.

***Пакліканне — і прызванне.*** *"Ян Матусевіч у Беларусі пачаў праводзіць богаслужбу па-беларуску, асвяціў памятны крыж у Курапатах. Яго ўнёсак у духоўнае адраджэнне беларускага народу цяжка пераацаніць... Па прафесіі не працаваў, бо адчуў* ***пакліканне*** *да святарскай службы*" (Народная воля. 4.09.1998. Некралог "Ян Матусевіч").

Слова *пакліканне* — ад *паклікаць*, якое мае трывалыя карані свайго спрадвечнага карыстання. Адно з яго значэнняў — 'узнімаць, быць матывам для чаго-небудзь'. На месцы *пакліканне* нашыя слоўнікі падаюць пазычанне з расійскае мовы *прызванне* (*призвание*). Рас. *призвание* мае ў беларускай мове наступныя адмысловыя адпаведнікі. У РБС-53 (с. 908) чытаем: "1. (действие) *кліканне, заклікание,* (призыв) *заклік;* 2. (склонность) *схільнасць, нахіл, призвание к музыке — схільнасць (нахіл) да музыкі;* 3. *Прызначэнне*". Гэты артыкул цалкам захаваны і ў "Русско-белорусском словаре" 1998 г. (Т. 2. С. 777). І ўтваральны дзеяслоў *призвать* перакладаецца адэкватна: "*Призвать* сов. 1. (позвать) *паклікаць; призвать на помощь — паклікаць на дапамогу;* 2. (на военную службу) *прызваць;* 3. (к чему) *заклікаць* (на што і да чаго); *призывать к защите Родины — заклікаць на абарону (да абароны) Радзімы; призывать к порядку — заклікаць да парадку*" (РБС-53. С. 508).

Як бачым, слова *призвать* захаванае толькі як вайсковы тэрмін. Але сёння, падчас нашага адраджэння, і тут сталі выкарыстоўвацца свае словы: "*Призыв* I (агитация) — *заклік,-ку, призыв* II (на военную службу) *набор, -ру; призывник — бранец, нававбранец*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 159).

Такім чынам, значэнне 'ўнутраная цяга і здольнасць да якой-небудзь справы, прафесіі' натуральна выяўляецца праз беларускае слова *пакліканне* (а таксама *схільнасць, прызначэнне*). Словы *прызваць* (ад яго — утварэнне *прызванне*), *прызвацца* — з вайсковай тэрміналогіі і ўсесаюзнага стандарту, што і засведчыў новы "Тлумачальны слоўнік" (ТСБЛМ. С. 512).

***Прызбавы — а не прызбенны.*** Слова *прызбенны* бачым у "Тлумачальным слоўніку" 1996 года. На с. 512 чытаем: "*Прызба,* ж. Земляны невысокі насып уздоўж знадворных сцен хаты // прым. *прызбенны, -ая, -ае*". Аднак гэтае штучнае структуры *прызбенны* не падае ніводны даведнік, нават "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Словазмяненне. Націск" (Мн., 1987), які змяшчае шматлікія вытворныя словы і іх формы. Утварэнні з

суфіксам *-енн-* неўласцівыя беларускай мове. Функцыю гэтага расійскамоўнага суфікса ў беларускай мове спраўна выконвае афікс *-ав-(-ов-, -ев-, -ёв-)*; параўн.: *язвавы (язвенный), фірмавы (фирменный), дарэформавы (дореформенный)* ды пад.

У беларускай мове пры ўтварэнні прыметнікаў ад асновы назоўніка, якая канчаецца збегам зычных з фінальным губным зычным (б, п, м, в ), выкарыстоўваецца суфікс *-ав-*, таму натуральным тут мае быць утварэнне *прызбавы* (а не *прызбенны*).

***Скрыўлены, перакручаны ці скажоны?*** *Скажоны* — гэта фанетычны варыянт рас. *искажённый*, якое ад *исказить/искажать*. Гэтым расійскамоўным словам беларуская мова мае адмысловыя адпаведнікі: *перакручваць (ён знарок **перакручвае** мае словы), перакрыўляць* (мяняць выраз твару); *страх **перакрыўляе** яго твар* (РБС-53. С. 183). Гэты артыкул паўтарылі РБС-93 і РБС-98 (Т. 1. С. 578). Тут бачым адмысловыя адэкваты і да вытворных назоўнікаў і прыметнікаў: "*Искажение* 1. (действие) *перакручванне*; 2. (неправильность, ошибка) *скрыўленне; искаженный* 1. *перакручаны*, мног. *наперакручваны*; 2. *Перакрыўлены*" (Тамсама).

Апошнім часам стаў выкарыстоўвацца з гэтым значэннем і прыметнік *скрыўлены*. "*Тэкст (п'есы "Тутэйшыя") ажывае і сёння, уражвае сваёй непрыхаванай калькаю з "нядаўняга жыцця" сучаснай "менскай брахалкі". Але неяк не па-людску ажывае. Ірацыянальнае, намерана **скрыўлены** вобраз ісціны, становіцца найрэальнейшай рэальнасцю*" (Ігар Жук. Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя эцюды. С. 106). Тэрмін *скрыўлены* адэкват рас. *искаженный* выкарыстоўваецца і ў фізічнай навуцы. Напрыклад, яго падае "Руска-беларускі фізічны слоўнік" (Гродна: ГрДУ, 1999).

***Моваznaўчы — а не моваведскі***. Гэтае самаробнае "моваведскі" бачым у "Тлумачальным слоўніку" 1996 года. На с. 349 чытаем: "*Моваed*... м. Тое, што і *мовазнавец* / / прым. *моваведскі,-ая,-ае*". А далей падаецца наступны лексікаграфічны артыкул: "*Мовазнавец*... м. Спецыяліст у галіне мовазнаўства / / прым. *мовазнаўчы, -ая, -ае*". Адсюль вынікае, што гэтае "моваведскі" нібыта адэкватнае нарматыўнаму *мовазнаўчы*. Але ж прыметнікі такога кшталту ўтвараюцца ад словаў-назваў навукі з дапамогаю суфікса *-ч-*: *прыродазнаўства прыродазнаў-чы* (з адцінаннем фіналі -ств-); *правазнаўства — правазнаўчы, музыказнаўства — музыказнаўчы*. Як бачым, адно штукарства — *моваed* — пацягнула за сабою і наступнае — *моваведскі*. Нарматыўным ёсць натуральнае ўтварэнне *мовазнаўчы*. А вось суфікс *ск-* тут не выкарыстоўваецца (яго мы бачым у прыметніках кшталту *людаедскі* (ад *людаед*), *гарадскі* (ад *горад*) ды пад. Штучнасць прыметнікавага ўтварэння *моваведскі* абумоўленая штучнасцю самога назоўніка *моваed*. Яго ўтваральным мусіць быць "*моваведства*" (як і *мовазнавец* — утварэнне ад *мовазнаўства*, на што паказвае і дэфініцыя лексемы *мовазнавец* 'спецыяліст у галіне мовазнаўства'. Але ж такога слова не мае беларуская мова, а толькі *мовазнаўства*. Параўн.: "*Мовазнаўчы, -ая, -ае*. Які мае адносіны да мовазнаўства. *Мовазнаўчая тэрміналогія*" (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 170).

***Экзамен і іспыты.*** Апошнім часам у інструкцыйных лістах Мінадукацыі Рэспублікі Беларусь стала выкарыстоўвацца побач з *экзамен* слова *іспыты*: "*Неабходны змены ў структуры і формах вядзення ўступных **іспытаў***".

Слова *іспыт(ы)* не падае "Расійска-беларускі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). Праўда, няма тут і слова *экзамен*. В.Ластоўскі фіксуе: "*Экзамен* м. лац. *Выспыт*" (ПРК(Б)С. С. 754). Не падае гэтага слова і РБС-53 і ўсе яго наступныя перавыданні як эквівалента слова *экзамен*. Але бачым яго як адэкват рас. *испытание*. На с. 186 чытаем: "*Испытание* ср. 1. *выпрабаванне*; 2. (экзамен) *іспыт*". У БРС-62: "*Іспыт* (экзамен) *испытание* (с. 362). РБС-93, РБС-98 падаюць: "*Испытание* ср. 1. (действие) *выпрабаванне, проба*; 2. (экзамен) толькі мн. *іспыты*; *испытание по математике — іспыты па матэматыцы*; 3. (тягостное переживание) *выпрабаванне*; (невзгоды) *нягоды*" (Т. 1. С. 586—587).

Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў падае цэлы шэраг супольных з расійскаю моваю аднакаранёвых словаў. На с. 556 першага тома чытаем: "*Іспытвацца* несов. страд. *экзаменоваться, испытываться*; *Іспытваць* несов. *экзаменовать, испытывать*: *Іспытны — экзаменационный, испытательный*". Аднак "Тлумачальны слоўнік" занатаваў толькі адно слова (назоўнік): "*Іспыт* м. 1. звыч. мн. (*іспыты, -аў*). *Праверка ведаў; экзамен*. 2. Перан. *Выпрабаванне, праверка*" (Т. 2. Мн., 1978. С. 561).

Як бачым, *іспыт(ы)* — гэта нульсуфіксавае ўтварэнне ад *іспытваць* (яно ўласцівае расійскай мове). Сучасная мовазнаўчая практыка рэдка карыстаецца гэтым словам, замяніўшы яго лексемаю *экзамен*, якое мае багатае лексічнае гняздо — з 7 адзінак: *экзамен, экзаменаваны, экзаменавацца, экзаменаваць, экзаменатар, экзаменатарскі, экзаменацыйны, экзаменацыйнік*.

З прааналізаванага вынікае, што на сёння няма патрэбы аднаўляць гэтае небеларускае структуры (з прыстаўкаю *іс-*(*из*) слова. Яно застарэлае і не мае ў літаратурнай мове сваіх аднакаранёвых суродзічаў, а расійскім словам з гэтым коранем у сучаснай беларускай літаратурнай мове адпавядаюць адмысловыя іншакаранёвыя словы (*выпрабаваць, выпрабаванне, праверка, проба*).

***Назапашаны, назбіраны, набыты, намножаны, набраны — а не накоплены.*** У перыядычным друку, на радыё нярэдка натыкаешся на такія словазлучэнні: *накоплены вопыт, накопленыя грошы, накопленыя веды* ды пад. Але ж беларус так не кажа. І нашыя акадэмічныя слоўнікі гэта пацвярджаюць. Так, "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы засведчыў: "***Накопленный — назапашаны, назбіраны, сабраны; набыты, намножаны; прымножаны, набраны; накопленный опыт — набыты вопыт; накопленный материал — сабраны (назбіраны) матэрыял; накопленные знания — набытыя веды***" (Т. 1. С. 481). Гэты артыкул цалкам захаваны і ў наступных перавыданнях — РБС-93, РБС-98 (Т. 2. С. 128).

І гэта натуральна, бо і ўтваральныя дзеясловы гэтага рас. *накопленный*

маюць адпаведныя беларускія адэкваты: "*Накопить* сов. *назбіраць, сабраць, назапасіць; набыць, прымножыць, намножыць... Накапливать* несов. *збіраць, запасіць, набываць, прымнажаць; накапливать силы, энергию — запасіць сілу, энергію; накапливать материал — збіраць матэрыял: накапливать знания (набывать знания) набываць (прымнажаць) веды*" (РБС-93. Т. 2. С. 128, 124). І вытворныя назоўнікі з гэтым коранем маюць у беларускай мове іншакаранёвыя адпаведнікі: "*Накопитель* (о человеке) *скнара, жмінда; Накопление* 1. (действие) *збіранне, запашанне, набыванне, прымнажэнне, намнажэнне, набіранне*". Толькі з тэрміналагічным значэннем слоўнікі падаюць тут усесаюзныя лексемы: "*Накапливать* эк. *накопліваць; Накопление* эк. *Накапленне*" (Тамсама). Адсюль, відаць, і пайшлі гуляць у недасведчаных аўтараў гэтыя *накопліваць, накапляць* і *накапленне* ў розных стылях мовы.

***Пісьменства — а не пісьменнасць.*** Слова *пісьменства* з значэннем 'сістэма графічных знакаў, якія ўжываюцца для пісання', 'гурт пісьмовых помнікаў якой-небудзь гістарычнай эпохі пэўнага народу' засведчыў "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча. На с. 236 чытаем: "*Пісьменства* н. — *письменность, словесность, литература*". Выкарыстоўвалі гэтае слова класікі беларускай літаратуры. Аднак акадэмічныя слоўнікі 30—80-х гадоў на месцы гэтае адмысловае лексемы замацавалі слова ўсесаюзнага стандарту. У РБС-53 чытаем: "*Письменность* ■ разн. знач. *пісьменнасць,-ці* ж." (с. 421). Тое сама бачым і ў РБС-82 (Т. 2. С. 65). Гэтае догмы трымаецца і ТСБМ. Праўда, тут падаецца і беларускае слова, але з кваліфікацыяй "застарэлае". На с. 260 (Т. 4. Мн., 1980) чытаем: "*Пісьменства*, н. Уст. Тое, што і *пісьменнасць*". І падаюцца прыклады з тэкстаў такіх слынных постацяў (філолагаў, прафесараў, пісьменнікаў), як У.Калеснік і А.Мальдзіс: "*Цераз пераклады ўваходзіць нацыянальнае **пісьменства** ў скарбніцу сусветнай літаратуры*" (Калеснік). Ну як тут не здзіўляцца "звышкампетэнтнасці" складальнікаў слоўніка, якія адгарадзілі адмысловае беларускае слова гэтым вось "устарэлае", нягледзячы на яго агульнамоўнае выкарыстанне ў шматлікіх тэкстах.

Сучасны нацыянальны друк карыстаецца менавіта гэтым словам, ■ не штучным, усесаюзным стандартам *пісьменнасць* — амографам да слова з значэннем 'уменне чытаць і пісаць, наяўнасць ведаў у якой-небудзь галіне' — *пісьменнасць*.

Улічыўшы маўленчую практыку, "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае ўжо слова *пісьменства* як эквівалент рас. *письменность* (Т. 2. С. 542). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 477) безаглядна перанёс з свайго папярэдніка кваліфікацыю гэтага слова як архаічнага: "*Пісьменства*, н. (уст.). Тое, што і *пісьменнасць*".

Але ж адмысловае беларускае слова *пісьменства* мае сваю натуральную будову, яно ўтворанае ад ранейшага *пісьмёны* 'сістэма графічных знакаў, якія ўжываюцца для пісьма; тое, што напісана з дапамогай гэтых знакаў' (ТСБМ. Т. 4. С. 260). А вось *пісьменнасць* не мае ў беларускай мове свае ўтваральнае

базы, бо рас. *письменный* адпавядае беларускае *пісьмовы* (*пісьмовы знак, пісьмовая праца* ды пад.). Уся недарэчнасць чужога *пісьменнасць* выяўляецца і з дэфініцыі (апісання значэння) гэтага слова, якую падае "Тлумачальны слоўнік" (Т. 4. С. 260): "*Пісьменнасць*, ж. 2. Сукупнасць *пісьмовых* помнікаў якой-небудзь гістарычнай эпохі пэўнага народа". Дык калі помнікі *пісьмовыя* (а не "пісьменныя"), то адкуль тое "пісьменнасць"? Вось гэтымі варункамі і тлумачыцца адмаўленне ў сучаснай маўленчай практыцы ад чужой, штучнай словаўтваральнай структуры — *пісьменнасць* — на карысць натуральнага слова *пісьменства*. Параўн.: "***Скарбніца беларускага пісьменства*** — *адмысловая рубрыка ў часопісе "Роднае слова"*" (Гл., напрыклад, у № 2 1999 г. С. 43).

І тут нашыя тлумачальныя слоўнікі толькі дэзарыентуюць чытача.

***Перадусім, найперш і перш за ўсё.*** "*Процістаянне традыцыяналістаў і рэфарматараў было вельмі вострым, дзякуючы* ***перадусім*** *актыўнасці прыхільнікаў кансерватыўнага лагеру*" (Сяргей Запрудскі. Правапісныя рэформы ў славянскіх літаратурных мовах у XX стагоддзі. Беларускі камітэт славістаў. Мн., 1998. С. 6). "*Цікавасць да тэарэтычных спрэчак не перашкаджае нам аддаць найбольшую ўвагу ў нашым даследаванні эвалюцыі ўласна палітэканоміі.* ***Перадусім*** *нас будуць цікавіць аўтары, якія зрабілі сапраўды арыгінальныя адкрыцці ў гэтай галіне*" (Анры Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. Мн., 1996. С. 6).

Гэтае прыслоўе — *перадусім* — вельмі актыўнае ў сённяшнім друку, але нашыя слоўнікі чамусьці яго не падаюць. Праўда, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года зафіксаваў: "*Перад усім — прежде всего*" (с. 662), але памылкова кваліфікуе элемент *перад* як прыназоўнік. Менавіта з гэтых двух кампанентаў і ўтварылася (шляхам зліцця іх у адно цэлае) слова *перадусім*. Яно адэкватнае сваім значэннем прыслоўю *найперш*, якое зафіксаваў двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988. С. 731): "*Найперш* нареч. разг. *прежде всего, в первую очередь*". Яго аднатомавы папярэднік яшчэ не падае гэтага слова. Відаць, таму слова *найперш* і збаяліся нашыя складальнікі падаць без стылёвага абмежавання "размоўнае". Але ж прыметнік *найпершы* тут зусім натуральна не мае гэтага стылёвага абмежавальніка, а гэта і сведчыць пра неправамоцнасць яго і пры прыслоўі *найперш*. Падаюцца з значэннем прыслоўя *перадусім* і словы *перш, перш-наперш* (рас. *перво-наперво, прежде всего*), устойлівае спалучэнне *перш за ўсё* (рас. *прежде всего*).

З разгледжанага відаць: прыслоўе *перадусім* мае натуральную структуру і адэкватную семантыку згаданых прыслоўяў, што і заслугоўвае ягонага ўлучэння ў літаратурны слоўнік.

***Парывісты, гвалтоўны (вецер) — а не буйны.*** "Тлумачальны слоўнік" 1996 года падае: "*Буйны... Моцны, парывісты. Буйны вецер*" (с. 96). Аднак іншыя беларускія слоўнікі не фіксуюць гэтай лексемы. БРС-62 падае: "*Буйны* в разн. знач. *крупный; буйны дождж — крупный дождь, буйны вучоны — крупный ученый*" (с. 134). Двухтомавы БРС-88, 89 таксама не пацвярджае згаданага ў ТСБМ. Тут бачым толькі: "*Буйны... 1. крупный; буйная бульба —*

*крупный картофель*; 2. (о растительности) *буйный; буйная збажына — буйные хлеба*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 201).

"Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы падае слова *буйный* (з націскам на першым складзе) толькі ў левай, расійскамоўнай частцы: "*Буйный* 1. (бурный) *бурны*; (порывистый) *парывісты*, (сокрушительный) *гвалтоўны*; *буйный ветер — парывісты (гвалтоўны) вецер*; 2. (о растительности) *вялікі, пышны, буйны; буйные хлеба — вялікая (буйная) збажына*; 3. (своенравный) *буяны*; (сумасшедший) *шалёны, звар'яцелы; буйный характер — буяны (шалёны) характар*". Гэты артыкул захаваны без зменаў і ў РБС-93 і ў РБС-98 (Т. 1. С. 129).

Згаданы "Тлумачальны слоўнік" 1996 года перанёс на свае старонкі тое, што падае "Словарь русского языка" С.Ожагава (М., 1980. С. 58): "*Буйный* 1. Порывистый, сильный. *Буйный ветер*. 2. Быстрый в росте, обильный (о растительности). 3. Своенравный, непокорный, шумный. *Буйный нрав. Буйный характер*". А вось што фіксуе ТСБЛМ (с. 96): "*Буйны* 1. Неспакойны, дзёрзкі, свавольны. *Буйны нораў*. 2. Моцны, парывісты. *Буйны вецер*. 3. Пра расліннасць: багаты, раскошны. *Буйная збажына*". Тут толькі месцамі памяняліся пункты 2 і 3. Дарэчы тут будзе нагадаць, што і яго папярэднік — пяцітомавы ТСБМ — таксама шмат безаглядна перанёс на свае старонкі з 4-томавага "Словаря русского языка". У іх ліку і гэты артыкул "Буйны" (з націскам на першым складзе, як і ў расійскай мове), дзе падаюцца тыя ж расійскія значэнні і ілюстрацыі (Т. 1. Мн., 1997. С. 416).

І вытворныя з гэтым коранем маюць розную форму ў беларускай і расійскай мовах: "*Буйство — буянства; буйствовать — буяніць*" (РБС-93; РБС-98. Т. 1. С. 129).

***Значнасць, вартасць* — ■ *не значымасць*** Слова *значымасць* — утварэнне ад *значымы*, якое ад *значыць* (*знач-ымы*). Утварэнні з суфіксамі *-ем-*, *-ім-(-ым-)* неўласцівыя беларускай мове; яны характэрныя для расійскае мовы; параўн.: *уважаемый — паважаны, спрягаемый, склоняемый — скланяльны, спрагальны, обтекаемый — абцякальны, гонимый — гнаны, доказуемый — доказны, делимый — падзельны* ды інш.

Ніводны перакладны слоўнік не падае гэтых словаў — *значымы, значымасць* у беларускай частцы слоўнікавага артыкула, а толькі ў расійскай. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй знаных пісьменнікаў і навукоўцаў акадэмікаў Я.Коласа, К.Крапівы і члена-карэспандэнта АН БССР П.Глебкі (М., 1953. С. 168) засведчыў: "*Значимость — значнасць, важнасць, значэнне; значимый — значны, важны*". Двухтомавае перавыданне яго — РБС-82 і трохтомавыя — РБС-93 і РБС-98 цалкам пацвярджаюць гэта; у іх дадаецца толькі ілюстрацыя: *значимые слова* лингв. *значныя словы* (РБС-93. Т. 1. С. 531).

Не бачым гэтых небеларускай структуры словаў *значымы* і *значымасць* у двухтомавым БРС-88, 89, дзе нямала штучных, небеларускіх словаў. У першым томе на с. 530 чытаем: "*Значнасць* ж. 1. *Значительность*; см. *значны*; 2. *значительность; значимость; сацыяльная значнасць — социальная значимость; Значны* 1. (большой по размеру) *значительный; порядочный*,

изрядный, солидный; 2. (важный) *значительный; значимый*; 3. Разг. *заметный; ледзь значная ўсмешка — едва заметная улыбка*".

А вось у "Тлумачальным слоўніку", які занатаваў і свае, беларускія словы *значны* і *значнасць*, бачым і чужыя, расійскамоўныя дублёры іх: "*Значымасць*, ж. 1. Наяўнасць значэння, сэнсу. *Значымасць слова.* 2. Важнасць, значнасць (у 2 знач.). *Значымы* 1. Які мае значэнне, сэнс. *Значымыя гукі. Значымыя словы.* 2. Важны па значэнню. *Значымыя падзеі*" (ТСБМ. Т. 2. С. 501). Але з тымі сама значэннямі і іх дэфініцыямі падаюцца на гэтай сама старонцы і свае натуральныя словы *значнасць* і *значны*. Дык для чаго спатрэбіліся гэтыя няпрошаныя дублёры? Каб хутчэй выціснуць з ужытку свае словы?

Штучнасць гэтых "*-ымых*" структураў відаць ужо з таго, што складальнікі тлумачальнага слоўніка не знайшлі ніводнай ілюстрацыі выкарыстання лексемы *значымы*, а вось натуральнае *значны*, як паказваюць ілюстрацыі пры ім, выкарыстанае ў творах Я.Коласа, К.Крапівы і шмат іншых пісьменнікаў.

Калі пагадзіцца з гэтым *значымы*, то тады трэба пісаць (і казаць) і "шматзначымыя" словы, пяцізначымыя (лікі) ды пад., але ж натуральнымі ёсць словы *шматзначныя, пяцізначныя*. Дык адкуль узяліся гэтыя *значымасць* і *значымы*? Адказ вядомы: іх перапісалі з 4-томавага "Словаря русского языка" (М., 1957—1961, другое выд. 1981). Гэта пацвярджае і поўнае супадзенне слоўнікавых артыкулаў з гэтымі лексемамі ў абодвух слоўніках. Параўнайце ўжо згаданае з ТСБМ і вось гэтае з СРЯ (Т. 1. М., 1981. С. 618): "*Значимость, значение, смысл. Значимость слова.* 2. Важность, значительность (во 2 знач.). Значимый. 1. Обладающий значением, смыслом. *Значимые звуки. Значимые слова.* 2. Важный по значению, значительный".

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не падае гэтых неўласцівых нашай мове словаў "значымае" і "значымасць", а толькі *значны* і *значнасць*.

Апошнім часам як сінонім для *значнасць* выкарыстоўваецца слова *вартасць*: "*Тэарэтычная і практычная вартасць дысертацыі*" (Янушкевіч С.А. Уласныя назвы паселішчаў Заходняй Гродзеншчыны. Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Мн., 1998. С. 3).

***Бунт, мяцеж, рокаш.*** Слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі слова *бунт* і яго вытворныя *бунтаваць, бунтаванне, бунтавацца, бунтаўнік, бунтаўніца, бунтоўны* (рас. *бунтарский*) (БРС-26. С. 50). І гэта натуральна, бо слова *мяцеж* не мае ў беларускай мове дзеяслоўнае асновы і народнага выкарыстання (яго не падаюць дыялектныя слоўнікі, "Слоўнік беларускай мовы" І.Насовіча ды інш.). Не рэгіструе гэтага слова ў беларускай і ўкраінскай мовах М.Фасмер у "Этимологическом словаре русского языка", яно зафіксаванае ў стараславянскай мове, балгарскай *метеж*, у славенскай *metež* 'мяцеліца', 'завіруха', чэшскай *metež* 'безлад' 'перапалох', 'разгубленасць'. Паходзіць ад *мяту, мутить* (Т. 3. М., 1971. С. 31). Такім чынам, рас. *мятеж* (этым. *метеж*) ад *метать(ся), мутить*; параўн. *смять — зламаць* (ваен.). Беларускай мове неўласцівыя ні суфікс *-еж*, ні ўтваральная аснова яго: рас. *ме-*

*тать — кідаць, нераставаць, класці (ікру), метаться — кідацца, мітусіцца, бегаць, гойсаць; мутить — бунтаваць, падбухторваць, баламуціць; мутить людей — баламуціць (бунтаваць, падбухторваць) людзей* (РБС-53. С. 268, 255, 638). Параўн. рас. "*мятущийся — утрапёны, неспакойны, бунтоўны*" (РБС-53. С. 270).

Як вайсковы тэрмін рас. *мятеж* перакладаецца словам *рокаш; мятежный — рокашны, мятежник — рокашнік* (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 104). Было ўласцівае яно і старажытнай мове. Пасля рэпрэсіяў 30-х гадоў слова *мяцеж* сталі падаваць і ў беларускай частцы перакладных слоўнікаў. Трапіла яно і ў тлумачальныя слоўнікі як дублет слова *бунт*.

***Рысунак і чарцёж.*** Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі слова *чарцёж*, а толькі *рысунак*. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 281) чытаем: "*Рысунак — рисунок, чертеж*". Гэтае слова замацавала "Беларуская навуковая тэрміналогія. Ч. 1. Элементарная матэматыка". Слова мае цэлае гняздо аднакаранёвых лексемаў, якія таксама падае слоўнік: "*Рыса — черта; рысавальнік — чертежник, рысавальня — чертёжная, рысаваць — чертить, рыска — черточка*".

Пасля моўнае рэформы 1933 года слоўнікі перайшлі на *чарцёж* і ў беларускай частцы перакладу. Аднак гэта пярэчыць натуральнасці беларускай мовы, бо ёй неўласцівая структура гэтага слова — яе каранёвая частка *чарц-* (рас. *черта — рыска*) і фармант *-ёж*. Таму тэрміналагічныя слоўнікі незалежнай Беларусі сталі выкарыстоўваць слова *рысунак* як адэкват рас. *чертёж*. Так, у "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" Т.Сухой, Р.Еўдакіменкі, В.Траццякевіча, Н.Гудзень (Мн., 1993. С. 88) чытаем: "*чертёж — рысунак, чертить — рысаваць, черчение — рысаванне*". І ў РБСМ (с. 126): *чертёж — рысунак, оборочный чертёж — зборкавы рысунак; чертёжник — рысавальнік, черчение — рысаванне.*

І гэта натуральна, бо ўтваральнае слова *рысаваць* мае значэнне 'перадаваць прадметы на плоскасці ад рукі пры дапамозе графічных сродкаў (звычайна контурамі, рыскамі і пад.).' "*Дзед браў вялізныя лісты медзі, **рысаваў** на іх розныя геаметрычныя фігуры.* Змітрок Бядуля" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 738). Або: "*Абрысаваць* зак. Абвесці рыскай, абчарціць" (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 74).

***Падвергнуць, падвяргаць, падвергнуты.*** Ці ўласцівыя яны беларускай мове? Пра неўласцівасць іх (і аднакаранёвых ім словаў) беларускай мове сведчыць ужо тое, што яны не фіксуюцца слоўнікамі 20-х гадоў. У пазнейшыя часы іх жыўцом уціснулі ў перакладныя слоўнікі. Але пра ненатуральнасць іх сведчыць ужо тое, што ў саміх слоўніках папярэджваецца: "*Лепш перакладаць (часцей так і робіцца) дзеясловамі, адпаведнымі пэўным назоўнікам, а таксама зваротамі з іншымі дзеясловамі з значэннем 'ставіць у пэўны стан, рабіць прадметам якога-небудзь дзеяння) ставіць, выстаўляць, падстаўляць, выводзіць, рабіць, накладаць, аддаваць, даваць, браць, дзейнічаць; подвергать обсуждению — абмяркоўваць,*

*ставіць на абмеркаванне; подвергать осмотру — ставіць на агляд, аглядаць, подвергать опасности свою жизнь — ставіць пад небяспеку сваё жыццё, рызыкаваць сваім жыццём; подвергать операции — рабіць аперацыю, подвергать пытке — караць; подвергать допросу — рабіць допыт, дапытваць; подвергать заключению (юр.) — знявольваць, подвергать штрафу — накладаць штраф, штрафаваць, подвергать критике — крытыкаваць, подвергать мукам — мучыць...*" Тое сама бачым і пры словах *подвергаться, подвергнуть(ся)*. Гэтыя слоўнікавыя артыкулы "Русско-белорусского словаря", выдадзенага пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953. С. 438—439), амаль поўнасцю паўтарылі ўсе яго перавыданні (РБС-82, РБС-93, РБС-98 ды інш.).

І гэта натуральна, бо аднакаранёвыя дзеясловы з іншымі прыстаўкамі перакладаюцца на беларускую мову сваімі іншакаранёвымі дзеясловамі: "*Ввергать — укідаць, укідацца, уганяць; ввергать в печаль — уганяць у смутак*" (РБС-53. С. 49). "*Отвергать — адхіляць, адкідаць, выракацца; отвергаться — адхіляцца, адкідацца*" (Тамсама. С. 368); "*отверженный* — 1) *занядбаны, адрынуты, прыгнечаны;* 2) *адхілены, адкінуты*" (Тамсама). Гэтыя артыкулы засталіся амаль без зменаў у РБС-82, РБС-93, РБС-98.

А вось двухтомавы БРС-88, 89 ужо падае: "*Падвергнуць* сов. *подвергнуть, падвергнуць крытыцы, падвергнуць бамбардзіроўцы*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 39). А ў "Тлумачальным слоўніку" (Т. 3. Мн., 1979. С. 517) акрамя гэтых *падвергнуцца, падвергнуць* бачым ужо і ... *падвержанасць, падвержаны*. Праўда, без ілюстрацыі з твораў беларускіх аўтараў. Гэтую недарэчнасць прадубляваў і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 409), перапісаўшы артыкулы з згаданымі словамі з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. Параўн.: "*Подвергнуть* сов. Сделать предметом какого-нибудь действия, поставить ■ какое-нибудь положение. *Подвергнуть опасности* / / несов. *подвергать* (М., 1982. С. 471) і "*Падвергнуць* зак. Зрабіць прадметам якога-небудзь дзеяння, паставіць у якое-небудзь становішча. *Падвергнуць небяспецы* / / незак. *Падвяргаць*".

Але ж самыя новыя перакладныя слоўнікі не фіксуюць гэтых *падвержаны* і *падвержанасць* у беларускай мове. Так, у РБС-93 і РБС-98 (Т. 2. С. 586) чытаем: "*Подверженность — схільнасць; подверженность болезням — схільнасць да хвароб, хваравітасць; подверженный — схільны; подверженный болезням — схільны да хвароб, хваравіты*". І няма тут гэтага "падвергнуцца небяспецы". І рас. *ввергать* не мае ў беларускай частцы гэтага штучнага "ўвяргаць", а толькі: *укідаць, укідваць*, а таксама (перан.) *уганяць, уводзіць, рабіць* (якім); *ввергать в печаль — уганяць (уводзіць) у смутак. Ввергнутый* 1. *укінуты*; 2. *перен. увагнаны, уведзены, зроблены* (якім) (Т. 1. С. 144—145). *Отвергнутый — адхілены, адкінуты, не прыняты, не прызнаны. Отвергнуть — адхіліць, адкінуць, не прыняць* (каго-н.) *вырачыся; не прызнаць* (РБС-98. Т. 2. С. 379).

***Ухіляцца, унікаць, абходзіць, абыходзіць, абмінаць, мінаць — а не пазбягаць.*** Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова *пазбягаць* (калька рас.

*избегать*, дзе неўласцівая беларускай мове прыстаўка *из-* замененая на *па-*: *избегать пазбягаць*). Рас. *избегать* В.Ластоўскі перакладае словам *унікаць*. *Унікаць людзей* і *ўхінацца ад людзей* (ПРК(Б)С. С. 219). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 325) чытаем: "*Унікаць, унікнуць* чаго — *избегать, -жать. Уніканьне* н. — *избежание*. А вось РБС-53, выдадзены ў Маскве, да рас. *избегать*, падаючы беларускія адэкваты *ўнікаць* (каго-чаго), *ухіляцца* (ад чаго), *абходзіць, абыходзіць, абмінаць, мінаць* (каго-што), выкарыстоўвае і калькаванае *пазбягаць*, ставячы яго на першае месца. Як і: "*Избегнуть* сов. *пазбегнуць, унікнуць, ухіліцца, абысці, абмінуць, мінуць*". Наступныя даведнікі РБС-82, РБС-93 паўтарылі гэтыя артыкулы з РБС-53. "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. Мн., 1979. С. 597) падае гэтае пазычанне *пазбягаць* як амонім да свайго слова *пазбягаць* '*збегчы, спусціцца ўніз* — пра ўсіх, многіх' і *сцячы* — пра ўсё, многае. З самога тлумачэння відаць дубляванне свайго слова пазычаным: "*Пазбягаць* незак. 1. *Унікаць, ухіляцца*; 2. *пазбаўляцца, вызваляцца*". Паўтарыў гэты артыкул і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 423).

Дык ці трэба ствараць тут аманімію, калі мы маем шмат сваіх адпаведнікаў да калькаванага чужога *пазбягаць: унікаць, ухіляцца, абыходзіць, абмінаць?* Адсюль відаць і штучнасць пазычанняў *непазбежнасць, непазбежны* на месцы *немінучасць, няўхільнасць, немінучы, няўхільны* (РБС-53, РБС-82).

***Знішчальны, зруйнавальны, разбуральны ці сакрушальны.*** Слова *сакрушальны* не фіксавалі слоўнікі 20-х гадоў. Няма яго і ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі. Рас. *сокрушительный* тут перакладаецца так: *скрышальны, зруйнавальны, разбуральны* (М., 1953. С. 644).

*Сакрушальны* — падагнанае пад беларускую марфеміку рас. *сокрушительный* (рас. суфікс *-тельн-* / *-итель-* заменены на *-льн*). Рас. прыметнік ад дзеяслова *сокрушить* / *сокрушать: сокруши-тельный*. У беларускай мове няма тут прыстаўкі *со-*, а толькі *с-* (*з-*). Дый не фіксуецца цяпер і дзеяслоў *крышаць*, яго адпаведнік *скрышываць*, а законч. трыванне — *скрышыць*. Таму тут было б "скрышальны". Але калі адкінуць гэтую штучнасць *скрышальны*, то слоўнікі даюць дакладныя, натуральныя яго адэкваты: *знішчальны, зруйнавальны, разбуральны* (РБС-82. Т. 2. С. 416). Пра гэта сведчыць і пераклад рас. *сокрушитель* — *знішчальнік, зруйнавальнік, разбуральнік* (РБС-82. Т. 2. С. 416).

Слова *сакрушальны* не падае ніводнае перавыданне РБС-53: ні РБС-82, ні РБС-93, ні РБС-98. Упершыню яго бачым у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 832): "*Сакрушальна* нареч. *сокрушительно; сакрушальны — сокрушительный*". Прадубляваў яго і двухтомавы БРС-89 (с. 429).

Тлумачальныя слоўнікі падаюць толькі адно слова: "*Сакрушальны, -ая, -ае.* Вялікай сілы, магутны, знішчальны. *Сакрушальны ўдар*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 22). "*Сакрушальны, -ая, -ае.* (высок.). Знішчальны,

вялікай сілы. *Сакрушальны ўдар*" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 580). Гэтыя артыкулы перапісаныя з расійскіх слоўнікаў.

***Рабунак, рабаванне і грабеж.*** Слова *грабеж* утварылася ад *грабіць* з выкарыстаннем суфікса *-еж (граб-еж)*. Яго не фіксуе "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). Дый у пяцітомавым ТСБМ гэтае слова падаецца як сінонім да *рабаваць* з выкарыстаннем твораў Леніна (без аўтара перакладу на беларускую мову) (Т. 2. Мн., 1978. С. 73). Дарэчы, як і ўсе вытворныя з гэтым коранем (пазычанні-калькі з расійскай мовы) *грабеж, грабежнік, грабежніцкі, грабежніцтва.*

БРС-26 фіксуе: *рабаваньне — грабительство, грабеж; рабаваць — грабить, разорять; рабованы — награбленный, рабоўнік — грабитель, рабоўны — грабительский, рабунак — грабеж* (с. 267). Першы акадэмічны слоўнік — РБС-53 — падае два словы (пры перакладзе расійскіх з коранем *граб-)* "*Грабеж — грабеж, рабунак; грабитель — грабежнік, рабаўнік, грабительский — грабежніцкі, рабаўніцкі, грабительство — грабежніцтва, рабаўніцтва, грабить — грабіць, рабаваць*" (с. 102).

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы пайшоў яшчэ далей да "зліцця моваў": слова *рабаванне* і *рабунак* ён кваліфікуе як застарэлыя, даючы прастор рас. *грабеж.* На с. 773—774 чытаем: "*Рабаванне* ср. уст. *грабеж; Рабунак, -нку*, м., уст. *Грабеж*". Праўда, іншыя аднакаранёвыя словы — *рабаваць* (рас. *грабить)*, *рабаўнік (грабитель)*, *рабаўніцкі (грабительский)*, *рабаўніцтва (грабительство*) пакуль да застарэлых словаў не залічваюцца. Двухтомавае яго перавыданне — БРС-88, 89 — ужо здымае бірку "застарэлае" з лексемы *рабаванне*, а *рабунак* застаецца з ранейшаю стылістычнаю кваліфікацыяй ("уст."). А вось ТСБМ (Т. 4. Мн., 1980. С. 550) здымае яе і з гэтага слова: "*Рабунак*, м. Гвалтоўны захоп чужой маёмасці; *грабеж*". Тут бачым і новыя словы з коранем раб-: "*Рабаўнічы* (тое, што і *рабаўніцкі)*"; *рабаўніцтва* кваліфікуецца як "тое, што і *рабаванне*" (Тамсама. С. 546).

Перавыданні РБС-53 (другое — РБС-82, трэцяе — РБС-91, чацвёртае — РБС-93, пятае — РБС-94, шостае — РБС-98) пры перакладзе рас. *грабёж, грабить* дый іншых падаюць па два беларускія адпаведнікі, ставячы на першым месцы супольнае з расійскім слова: "*Грабить* несов. *грабіць, рабаваць; грабёж — грабеж, рабунак, рабаванне* ды пад.".

***Тамсама і там жа.*** У сучаснай маўленчай практыцы запанавала прыслоўе *тамсама* на месцы ранейшага словаспалучэння *там жа* (рас. *там же)*. Напрыклад, "*10. Служба быту Беларусі. 1989. № 6. С. 6. 11. Тамсама*" (Роднае слова. 1998. № 9. С. 54)*; або: "Спасылкі. 1. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. Ф. 1106, ап. 1. С. 18. Л. 1; 2. Тамсама. Ф. 1107, ап. 1. С. 11. Л. 192* (Гарадзенскія запісы: Старонкі гісторыі і культуры. Выпуск 3. Гродна, 1997. С. 49); "*2. Божым шляхам. 1978. № 1 (149). С. 2; 3. Тамсама*" (Свіцязь: Гістарычна-культуралагічны часопіс. № 1. Гродна, 1994. С. 85).

Лексема *тамсама* ўзнікла на ўзор *таксама* (цяпер выкарыстоўваецца і *гэтаксама*). Нашыя слоўнікі падаюць прыслоўе і злучнік *таксама* як адпа-

веднік рас. *также* (РБС-93. Т. 3. С. 497), а рас. прыслоўе *там же* перакладаюць як *там жа* (Тамсама. С. 499). Як бачым, слоўнікі ідуць тут у фарватары расійскае мовы, а не беларускае.

***Ваяка, ваяўнік, ваяр, воін, войнік, ваец, жаўнер, салдат.*** Пашыраным раней было ў беларускай мове слова *ваяка*. Яго падае БРС-26 як адпаведнік рас. *воин, вояка* (с. 58), а слова *воін* тут не фіксуецца. У беларускія слоўнікі яно трапіла з расійскае мовы. Пра гэта ўскосна сведчыць і РБС-53, які падае: "*Воин — воін*, але ў складзе ўстойлівага спалучэння — толькі *ваяка: один в поле не воин — адзін у полі не ваяка*" (с. 67). Бачым тут і бел. *ваяўнік* як адэкват рас. *воитель* (уст). Менавіта ад яго ўтварыліся прыметнік *ваяўнічы* як адпаведнік рас. *воинствующий* і прыслоўе *ваяўніча — воинственно*.

Побач з *ваяка* слоўнікі фіксуюць і аднакаранёвыя *ваяр* (з суф. *-яр*), *войнік, ваец* (ПРК(Б)С. С. 80). У савецкі час стала выкарыстоўвацца *баец* (рас. *боец*). У сучаснай маўленчай практыцы і *ваяр* (утварэнне на ўзор *ваяр*). "*Узровень жыцця ў Расіі і Беларусі павінен быць аднолькавы. І пачынаць Беларусь будзе з пенсіянераў, асабліва з былых **ваяроў***" (Народная воля. 16.10.98. С. 2). Падчас Другой сусветнай вайны, калі замест *Чырвоная Армія* сталі выкарыстоўваць *Савецкая Армія*, слова *чырвонаармеец* (рас. *красноармеец)* замянілі на *салдат*. У беларускай мове натуральным ёсць слова *жаўнер*.

Яго выкарыстоўвалі Я.Колас, К.Чорны, К.Крапіва, М.Гарэцкі, Ц.Гартны ды інш. БРС-62 і яго двухтомавае перавыданне фіксуе *жаўнер* як застарэлае, адэкват рас. *солдат*, а тлумачальныя слоўнікі — толькі як 'салдат польскай арміі'. Аднак гэтыя акрэсленні неапраўданыя. Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 101) засведчыў: "*Жаўнер* м. — *солдат; жаўнерка* ж. — *солдатка; жаўнерскі — солдатский*".

Сучасныя вайсковыя тэрміналагічныя даведнікі падаюць: "*Воин — ваяр, воін, вой, баяр; воинский — вайсковы; солдат — жаўнер*" (С.Суднік, С.Числаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. С. 33, 194).

Словы *жаўнер, ваяр, ваяка* шырока выкарыстоўваюцца ў нацыянальным друку суверэннай Беларусі (гл. Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. Мн., 1995; Язэп Найдзюк, Іван Касяк. Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Мн., 1993; Г.М.Сагановіч. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994) ды інш.

***Упрыгожанне — а не ўпрыгажэнне.*** Слова *ўпрыгажэнне* — акцэнтавая калька рас. *украшение*. Менавіта такія калькаваныя формы замацоўваліся рэформай 1933 года. Натуральным тут ёсць *упрыгожанне* — ад *упрыгожыць* (з захаваннем націску ўтваральнага дзеяслова). Гэта пацвярджае і форма *ўпрыгожванне*, якая захоўвае акцэнтаванне дзеяслова *ўпрыгожваць*. На жаль, нашыя акадэмічныя слоўнікі, фіксуючы натуральнае слова *ўпрыгожванне*, разам з тым падаюць і штучную акцэнтавую форму *ўпрыгажэнне* — адэкват рас. *украшение*. Але ж і ў расійскім вытворным назоўніку захоўваецца націск утваральнага дзеяслова (на тым сама складзе): *украшать — украшение*. Неапраўданую форму *ўпрыгажэнне* бачым у РБС-53 (на с. 713

чытаем: "*Украшать* несов. *Упрыгожваць, убіраць, аздабляць... Украшение*. 1. (действие) *упрыгажэнне, аздабленне*, неоконч. *упрыгожванне, убіранне; украшение ёлки — упрыгажэнне (упрыгожванне, убіранне, аздабленне) ёлкі*; 2. (предмет) *аздабленне, упрыгажэнне, убор, аздоба; ёлочные украшения — ёлачныя аздабленні (цацкі).*" Як відаць, нармаванымі тут ёсць формы *ўпрыгожванне* (ад *упрыгожваць*) і *ўбіранне, аздабленне* (ад *убіраць, аздабляць*).

Гэтае памылковае формы *ўпрыгажэнне* не падае БРС-62, дзе фіксуюцца толькі: "*Упрыгожанне* ср. *украшение;* см. *упрыгожыць*; *упрыгожванне*, ср. *украшение;* см. *упрыгожваць*" (с. 961).

Але ж памылковую форму *ўпрыгажэнне* перанеслі і ў наступныя перавыданні гэтага слоўніка: РБС-82, РБС-91, РБС-93, РБС-94, РБС-98. Тлумачальныя слоўнікі намерыліся сумясціць натуральнае з штучным і падалі абедзве формы: "*Упрыгожанне, -я*, н. Тое, што і *ўпрыгажэнне*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1994. С. 40). Гэтую недарэчнасць бачым і ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года. Прычым абедзве формы адсылаюцца да таго самага ўтваральнага дзеяслова *ўпрыгожыць* (ТСБЛМ. С. 693). Двухтомавае перавыданне БРС-62, каб наблізіцца да ўсесаюзнага стандарту, падае ўжо апрача натуральнае формы *ўпрыгожанне* і штучную *ўпрыгажэнне* з тым сама значэннем. Да таго ж касуючы натуральную форму на карысць штучнай. На с. 617 (Т. 2. Мн., 1989) чытаем: "*Упрыгажэнне* ср. (предмет) *украшение. Упрыгожанне* ср. см. *упрыгажэнне*".

Натуральнаю, нармаванаю ёсць форма *ўпрыгожанне*, якая вынікае з акцэнтавання ўтваральнага дзеяслова *ўпрыгожыць — упрыгожваць*. Як і *аздабляць — аздабленне, убраць — убранне, уплятаць — уплятанне*. Прычым значэнне працэсавасці і значэнне прадметнае не вымагаюць рознага акцэнтавання.

У звязку з гэтым нагадаем, што натуральная форма назоўніка *паседжанне* (ад дзеяслова *паседжваць*, які фіксуецца слоўнікамі, гл. БРС-89. С. 136) рэформаю 1933 года была замененая на *пасяджэнне* (супольную акцэнтавую з рас. *заседание*). Але гэтае *пасяджэнне* — паланізм: пол. *posiedzenie (przerwac posiedzenie — перапыніць пасяджэнне)*.

Такім чынам, беларусы маюць сваё — *паседжанне*, расійцы — *заседание*, палякі — *posiedzenie*.

***Змацаванне, клямар, шпона — а не скрэпа.*** Рас. *скрепа* і *скрепление* — ад *скрепить — скреплять* (нульсуфіксавае ўтварэнне). У беларускай мове ім адпавядаюць свае дзеясловы: "*Змацаваць* сов. прям. перен. *скрепить; змацаваць рэйкі гайкамі — скрепить рельсы гайками; змацаванне* ср. прям. перен. *скрепление*: см. *змацаваць*" (БРС-88. С. 524). Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 629) падае да рас. *скрепа* тры адмысловыя беларускія лексемы: *змацаванне, клямар, шпона*; але ж дзеля набліжэння да ўсесаюзнага стандарту — і ...*скрэпа* (ідзе на першым месцы); *железная скрепа — жалезная скрэпа, жалезнае замацаванне.* Але ж і тут бачым: "*Скрепить* сов. 1. (проч-

но соединить) *замацаваць*; (бумагу и т.п.) *сашчапіць; скрепить узы* перен. *замацаваць повязі*; 2. (удостоверить) *змацаваць*". І вытворнае ад *скрепа* слова *скрепка* мае беларускі адэкват *сашчэпка*. Дык чаму "*скрэпа*", а не *змацаванне* ці *клямар, шпона*? Тым больш што гэтае "*скрепа*" — варыянт слова *скрепление*, якое мае свае беларускія адэкваты: "*Скрепление* ср. 1. *Змацаванне, сашчапленне, змацоўванне, сашчэпліванне*, 2. техн. *змацаванне*; (скрепка) *скрэпа*; (скоба) *клямар*; (шпонка) *шпона*" (Тамсама. С. 629).

Новы "Тлумачальны слоўнік" падае толькі *змацаванне* — "прыстасаванне для злучэння частак чаго-небудзь (спец). *Рэйкавыя змацаванні*" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 244).

***Згуртаваць і згуртаваны ці спаяць і спаяны (калектыў)?*** Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі гэтага "спаяць калектыў". На месцы яго выкарыстоўвалася *згуртаваць*. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 456) падае: "*Згуртаваць* — аб'яднаць; зрабіць узгодненымі, аднадумнымі чые-небудзь дзеянні. *Верны, светлы праклала нам шлях. Згуртавала, з'яднала нас воляй адзінай.* Танк". Ад гэтага дзеяслова і дзеепрыметнік *згуртаваны* — 'прасякнуты аднадушшам; дружны, згуртаваны калектыў' (Тамсама). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы засведчыў: "*Згуртаваць... сплотить, спаять*". "*Згуртаваны — ...сплочённый, спаянный*" (М., 1962. С. 332). Гэта пацвердзіў і яго двухтомавік (БРС-88. С. 510). Аднак, фіксуючы гэтыя беларускія адпаведнікі, слоўнікі разам з тым падаюць і гэтае ўсесаюзнае *спаяны*, праўда, без ілюстрацыі з беларускіх крыніцаў. А ў перакладных яно стаіць нават на першым месцы: "*Спаянный* 1. *спаяны, злітаваны*; 2. перен. *спаяны, згуртаваны*" (РБС-53. С. 651; РБС-93. Т. 3. С. 425). А вось "Тлумачальны слоўнік" 1996 года справядліва не падае гэтага *спаяны*, а толькі *згуртаваны* (с. 298).

***Неперасягнуты, неперавышаны, недасяжны, найдасканалейшы, крайні — ці непераўзыдзены?*** Нашая мова мае шмат адмысловых лексічных адзінак, каб перадаць самыя тонкія нюансы думкі, пачуцця. Складальнікі слоўнікаў нярэдка гэтага не ўлічваюць і механічна пераносяць у беларускую мову словы з іншых моваў (асабліва з расійскай). Так сталася і з рас. *непревзойденный*, якое перанеслі на старонкі беларускіх слоўнікаў. ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 387) падае: "*Непераўзыдзёны, -ая, -ае.* Такі, што нельга пераўзысці, перавысіць... *Дазвольце павіншаваць Вас, вялікага,* ***непераўзыдзенага*** *майстра кароткага апавядання.* Прокша". Штучнасць гэтага слова ў беларускай мове відаць ужо з таго, што слоўнікі не падаюць дзеяслова *пераўзысці*, і няма бяссуфіксавага "пераўзыдзены". "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі падае: "*Превзойдённый — перасягнуты, перавышаны; превзойти — перасягнуць, перавысіць; превзойти (самого) себя — перасягнуць (самога) сябе*" (М., 1985. С. 493). Гэта пацвярджаюць і пазнейшыя яго перавыданні: РБС-93, РБС-98 (Т. 2. С. 736).

Рас. *непревзойдённый* РБС-53 перакладае адмысловымі беларускімі словамі: *неперасягнуты, неперавышаны; недасяжны; (самый совершенный)*

*найдасканалейшы, самы дасканалы; (достигший крайней степени) крайні; неперазызыдзены; непревзойдённый образец искусства — неперасягнуты (неперавышаны, недасяжны) узор мастацтва; непревзойдённый художник — найдасканалейшы мастак; непревзойдённая жестокость — крайняя жорсткасць* (с. 312). Як бачым, тут у ілюстрацыях нідзе няма гэтага штучнага слова *непераўзыдзены* (яно і структуру мае небеларускую: *уз*-ыйдз(*ены*) на месцы *ўз*-ыдз(*е*)*ны*.

Пазнейшыя слоўнікі пры перакладзе рас. *непревзойдённый* на першае месца ставяць (у беларускім сінанімічным шэрагу) вось гэтае штучнае (скалечанае расійскае) *непераўзыдзены* (РБС-82. Т. 1. С. 532). Аднак рас. *превзойдённый* перакладаюць толькі як *перасягнуты, перавышаны* (РБС-82. Т. 2. С. 171). Дык дзе тут логіка? Няма ў беларускай мове словаў "пераўзысці", "пераўзыдзены", дык адкуль павінна з'явіцца "непераўзыдзены"? Тым болей, што мы маем цэлы шэраг адмысловых лексемаў — адэкватаў рас. *непревзойдённый*: *неперасягнуты, перавышаны, недасяжны, найдасканалейшы, крайні*.

***Па́данне, спад, спаданне, зніжэнне — ■ не падзенне.*** Ад дзеяслова *падаць* утварыўся назоўнік *па́данне*, ад *спадаць — спаданне* ці *спад*. Форма *падзенне* — штучная, яе цяжка растлумачыць. Хіба што ад *падзець* (рас. *девать, деть*) магчымае такое *падзенне*? Але і яго не ведае беларуская мова. Рас. *падение* мае ў беларускай мове свае адмысловыя адэкваты: 1) *зніжэнне* (вады ў рацэ), 2) *заняпад* (духу), 3) *ападанне* (лісця). Гэта пацвярджаюць і слоўнікі (РБС-53. С. 386, 117; РБС-93. Т. 2. С. 434). Але разам з тым бачым гэтае "падзенне" і ў беларускай частцы перакладных слоўнікаў. У згаданых РБС-53 і РБС-93 чытаем: "*Падение* (действие) *падзенне; падение с лошади — падзенне з каня*". Але трохі вышэй на гэтай старонцы (с. 386) падаецца: "*падать с лошади — валіцца (скідацца) з каня*". Дык чаму *падзенне, а не паданне* (*звальванне, скіданне*), якое натуральна вынікае з *падаць* (*звальвацца, скідацца*). Дарэчы, да рас. *падать* беларуская мова мае свае адмысловыя словы, што таксама засведчылі слоўнікі: "*Падать* несов. 1. *валіцца, скідацца* (адкуль, з чаго); 3. *выпадаць, вывальвацца* (пра валасы, зубы); 4. *кла́сціся* (на каго); 5. *спадаць, звісаць* (пра валасы); 6. *ападаць, зніжацца* (пра тэмпературу хворага, узровень вады); 7. *занепадаць, змяншацца, зніжацца* (пра ўплыў); *падать в обморок — млець (траціць прытомнасць)*" (РБС-53. С. 386; РБС-93. Т. 2. С. 433).

Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 207) засведчыў: "*Паданьне* н. — *падение*". Гэтае нормы і трэба пільнавацца.

***Сталы, нязменны, заўсёдны і пастаянны.*** Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова *пастаянны*, а толькі *сталы* як адэкват рас. *постоянный*. В.Ластоўскі засведчыў: "*Постоянный — непераменчывы, роўны, аднастайны — сталы, сталасць*" (ПРК(Б)С. С. 617). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (с. 199) чытаем: "*Сталы — основательный, постоянный*". І гэта натуральна, бо беларускай мове аддзея-

слоўныя ўтварэнні з суфіксам -*нн*- неўласцівыя. Дарэчы, украінская мова таксама не мае такіх словаў (з суф. -*нн*-). Параўн.: (рас.) *постоянный — постійный, сталый, стійкий*. У беларускай тэрміналогіі на месцы рас. *постоянный, постоянная* выкарыстоўваюцца лексемы *сталы* (і *канстанта; газавая канстанта, касмічная канстанта* ды пад.). Або: *сталыя* зубы (рас. *постоянные*) (гл. У.Самайлюковіч, У.Пазняк, А.Сабалеўскі. Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994. С. 170—171; Анатомический словарь (Рекомендован Научно-методическим центром учебной книги и средств обучения Минобразования Республики Беларусь. Мн., 1998. С. 59—60)). Аднак парэформавыя (1933 г.) слоўнікі пры перакладзе рас. *постоянный*, падаючы шэраг беларускіх адэкватаў, змяшчаюць і гэтае *пастаянны* (дый на першым месцы!). Так, у РБС-53 (с. 484) чытаем: "*Постоянный* 1. (всегдашний) *пастаянны, заўсёдашні, заўсёдны; постоянные ветры — заўсёдашнія вятры*; 2. (неизменный) *сталы; нязменны; у него постоянный характер — у яго сталы характар*; 3. (верный) *верны, нязменны; он постоянен в дружбе — ён верны ў дружбе*; 4. (на долгий срок) *пастаянны, сталы; постоянное расписание — сталы расклад; постоянная величина — сталая (пастаянная) велічыня*". Перавыданні гэтага слоўніка пакінулі ўсё без зменаў (РБС-82. Т. 2. С. 158; РБС-93 і РБС-98. Т. 2. С. 711). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы таксама фіксуе: "*Сталы* (неизменный) *постоянный; сталы погляд на рэчы — постоянный взгляд на вещи*; (на долгий срок) *постоянный; сталы расклад — постоянное расписание*" (с. 885). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1983. С. 300) занатаваў гэтае слова з наступным вызначэннем ягонага сэнсу: "*Сталы, -ая, -ае. Пастаянны, нязменны*; разлічаны на доўгі час, не часовы" (З ілюстрацыяй з твора Я.Скрыгана). Але ў чацвёртым томе (Мн., 1980. С. 88): "*Пастаянны... бесперапынны, нязменны, той жа самы. Пастаянны састаў вучняў*". Ужо сама гэтая ілюстрацыя сведчыць пра штучнасць слова і яго атачэння, дзе натуральным ёсць *сталы склад вучняў* (а не *пастаянны састаў*).

З ілюстрацыяў перакладных слоўнікаў відаць, што слова "пастаянны" амаль не выкарыстоўваецца ў агульнамоўным значэнні.

***Склад і састаў.*** Слоўнікі 20-х гадоў падавалі толькі *склад* і вытворныя ад яго: *складальны — составной*. $\text{НТ}_2$; *складнік — составная часть* (БРС-26. С. 289, 230). І гэта натуральна, бо састаў (рас. *состав*) неўласцівае беларускай мове, гэта — утварэнне ад *составить*, якому звычайна адпавядае слова *скласці*. Сама лексема *склад* шматзначная, яе семантычныя варыянты адпавядаюць розным рас. словам: 1. *состав* (асабовы склад); 2) *слог, склад речи, стиль, силлаба*. $\text{НТ}_2$; 3) *стан*; 4) *склад* (помещение) (БРС-26. С. 289). Акадэмічныя беларускія слоўнікі па-рознаму перакладаюць на беларускую мову рас. *состав*. РБС-53 падае: "*Состав* 1. *склад, састаў; командный состав — камандны склад (састаў)*; 2. (хим. соединение) *састаў*; 3. (ж.-д.) *састаў; состав преступления — склад злачынства; в составе — у*

*складзе*" (с. 648). Як бачым, да ўстойлівых зваротаў падаецца натуральнае беларускае *склад*; а ў іншых выпадках — ужо *састаў*, хоць з першым значэннем усё ж далей на першым месцы — *склад*. РБС-82 пайшоў яшчэ далей на "зліццё моваў". У ім і з першым значэннем ужо на першае месца высунутае *састаў*, і ў ілюстрацыях амаль знікла *склад*, саступіўшы месца *саставу*: "*Состав* 1. *састаў, склад; командный состав — камандны састаў; состав президиума — састаў (склад) прэзідыума; личный состав — асабовы склад; состав преступления — састаў злачынства; в составе — у складзе*" (Т. 2. С. 422). Прадублявалі гэта і наступныя яго перавыданні — РБС-93, РБС-98 (Т. 3. С. 416). Аднак гэтай расправе з словам *склад* пярэчыць як утваральны дзеяслоў *складваць (скласці)*, так і іншыя вытворныя ад іх. У тым сама РБС-53 чытаем: "*Составить* сов. 1. *скласці*; (сборник, словарь и т.п. — еще) *укласці;* (сделать) *зрабіць*; *составить предложение — скласці сказ; составить словарь — скласці (укласці) слоўнік, составить протокол — скласці пратакол; составить акт — скласці акт*; *составить лекарство — саставіць (зрабіць) лякарства*; 2. (организовать) *скласці;* 3. (скопить) *сабраць, скласці*; 4. (образовать какое-л. количество) *скласці*; 5. (создать путем наблюдения) *скласці (скласці думку)*; 6. (явиться, представиться) *скласці; з'явіцца* (чым), *быць* (чым); *это не составит затруднений — гэта не складзе цяжкасці, гэта не з'явіцца* (не будзе) *перашкодай*; 7. (приобрести) *здабыць*; (достичь) *дасягнуць*". Тыя сама адпаведнікі бачым і пры незакончаным трыванні *составлять*. Пры зваротнай форме *составляться* выкарыстоўваецца толькі беларускі адпаведнік *скласціся* (і няма яго дублёра "саставіцца") ва ўсіх 5 значэннях. І асабовыя назоўнікі ўтвораныя толькі ад дзеяслова *складацца*: *составитель* (автор) *складальнік, укладальнік, составительница — складальніца, укладальніца*. Толькі *составитель поездов* і ў беларускай частцы падаецца без перакладу — *саставіцель паяздоў* (толькі напісанае па-беларуску).

Тэрміналагічныя слоўнікі незалежнай Беларусі выкарыстоўваюць *склад, сумесь*, а не *састаў*, бо бачаць ненатуральнасць гэтага *састаў* для беларускай мовы: утварэнні з прыстаўкаю *са-* парушаюць словаўтваральную сістэму беларускай мовы. Так, цяпер і ў пазычаных словах гэтую прыстаўку мяняюць на *су-*: *соискатель* (степени) — *суіскальнік*.

"Руска-беларускі фізічны слоўнік" 1994 года падае: "*Состав — склад, атомный состав — атамны склад; составление — складанне, составляющая компонента — складовая кампанента; складовая хуткасць імпульсу*..." (с. 225—226). У "Руска-беларускім фізічным слоўніку" 1999 года занатавана:"*состав — склад* (атамны, хімічны ... *склад*), *составление — складанне; составляющая — складовая, кампанента; составной — складаны*" (с. 342). "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" 1997 года таксама засведчыў: "*Состав* I (веществ) *сумесь; состав* II (поезд) *склад, командный состав — камандны склад, личный состав — асабовы склад*..." (с. 196).

І ў граматычнай тэрміналогіі таксама натуральным ёсць *склад* і вытворныя

тэрмінаэлементы ад гэтага слова: *аднаскладовы сказ* — сказ з складам адна-го галоўнага члена, *двухскладовы сказ* — ...у якім ёсць і склад дзейніка, і склад выказніка. *Аднаскладовыя* і *шматскладовыя* словы ды інш.

Як бачым, беларуская мова мае свае адмысловыя адпаведнікі да рас. *состав* (і яго аднакаранёвікаў).

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) справядліва не падае слова "*састаў*", а толькі *склад*.

***Паўсюдна і паўсюдны — а не паўсямесна і паўсямесны.*** Тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы ўжо "знайшлі" і слова *паўсямесны*, якое тлумачыцца так: "Які адбываецца, праходзіць усюды". Праўда, без спасылкі на аўтара (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 124). А новы ТСБЛМ знайшоў нават і вытворнае ад яго — *паўсямеснасць* (с. 455). Толькі крыніца яго — тая сама — старонкі "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 468), дзе бачым: "*Повсеместный...* Бывающий, проходящий всюду, везде // сущ. *Повсеместность*". І ў беларускім слоўніку: "*Паўсямесны...* Які адбываецца, праходзіць усюды // наз. *Паўсямеснасць*". Але ж ніводны акадэмічны перакладны слоўнік не падае гэтых словаў (*паўсямесны, паўсямеснасць*) у беларускай частцы слоўнікавых артыкулаў, а толькі ў расійскай: "*Повсеместно* нар. *усюды, скрозь, паўсюдна, повсеместность — паўсюднасць, повсеместный — паўсюдны*" (РБС-53. С. 434). Тое сама і ў РБС-82 (Т. 2. С. 81), РБС-93 і РБС-98 (Т. 2. С. 572), РБС-99 (с. 661).

***Страсць, страсна, страсны.*** Чые гэта словы? Слоўнікі 20-х гадоў падавалі слова *страсть* толькі ў расійскай частцы слоўнікавага артыкула. У БРС-26 бачым: "*Пал* м. — *страсть*. $НТ_{2,4}$" (с. 217). Гэтае слова як адэкват рас. *страсть* было замацаванае ў "Беларускай навуковай тэрміналогіі. Выпуск другі. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. Выпуск чацвёрты. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі". Ад *пал* прыметнік *палкі — страстный* і ўтвораны ад яго назоўнік *палкасць — страстность*. $НТ_2$ (БРС-26. С. 218). В.Ластоўскі фіксуе: "*Страсть — духовы парыў да чаго, неакялзанае хаценьне, жаданьне; жорскасьць, жарскі, жарсьць, жарлівасьць, запальчывасьць... Жарсьці сваёй пастрымаць няможна. Губіць яго жарсьць да жанок ды гарэлкі*" (ПРК(Б)С. С. 687). Этымалагічна *жарсць* паходзіць *ад жар; жар — асць жарсць* (ЭСБМ. Т. 3. Мн., 1985. С. 216). Слова *жарсць* занатаваў і "Віцебскі краёвы слоўнік" М.І.Касьпяровіча (Віцебск, 1927), і "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы". Выкарыстоўваецца яно і ў сучасным нацыянальным друку. Але савецкія акадэмічныя слоўнікі яго не фіксуюць.

*Жарлівасць* з знач. рас. *страстность* засведчана ў старабеларускай мове: *жарливость* 'палкасць' (М.Прыгодзіч, Г.Ціванова. Старабеларускі лексікон. Мн., 1997. С. 56).

Рас. *страсть* этымолагі лічаць утвораным ад *страдать: strad-ть* (Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Т. 3. М., 1971. С. 771).

Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі фіксуе тры слоўнікавыя артыкулы з рас. *страсть*, і

толькі ў адным з іх бачым гэтае *страсць* побач з беларускімі *пал* і *гарачае, моцнае, нястрымнае каханне*; пры гэтым у ілюстрацыі *страсць* не падаецца: *быть охваченным страстью — быць ахопленым гарачым (нястрымным) каханнем* (с. 665). Тут яно і ў форме множнага ліку — *страсти (страдание)* уст. рел. *пакута, мука, мучэнне*. З першым, асноўным, значэннем рас. *страсть* мае наступныя беларускія адэкваты: *гарачае, моцнае пачуццё, захапленне, цяга, схільнасць, прыхільнасць, заўзятасць, слабасць, ахвота, жаданне, запал, азарт. Страсть* II. перакладаецца словамі *страх, жах; "страсти да и только — страх (жах) ды і толькі; до страсти* — разг. *страшэнна, страшна. Страсть* III. нареч. простореч. *страшэнна; страшна, страх; страсть люблю — страшэнна (страшна) люблю; народу на улицах — страсть — народу на вуліцах — страх*". Гэтыя слоўнікавыя артыкулы поўнасцю захаваныя і ў пазнейшых яго перавыданнях: РБС-82 (Т. 2. С. 450), РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 467), толькі *пал* замененае на *палкасць*.

Але некаторыя акадэмічныя слоўнікі і ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула пакінулі тое, што і ў расійскай. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" (Т. 2. Мн., 1989. С. 514) чытаем: "*Страсць* ж. в разн. знач. *страсть; сунімаць страсці — сдерживать страсти; з усёй страсцю душы ён змагаўся за праўду*". Тут ужо і ўсе вытворныя расійскія словы — у абедзвюх частках артыкулаў: "*Страсна* нареч. (пылко, чувственно) *страстно. Страснасць* ж. — *страстность*".

А вось у перакладным слоўніку (РБС-53), які вытрымаў шэсць выданняў, расійскія словы маюць адмысловыя беларускія адэкваты: "*Страстность* 1. *гарачае пачуццё, гарачая пачуццёвасць; адданасць;* 2. *заўзятасць;* 3. *палкасць. Страстный* 1. (очень сильный) *моцны;* (горячий) *гарачы;* (преданный) *адданы; страстное желание — моцнае (гарачае) жаданне; страстная любовь к родине — гарачая адданая любоў да радзімы;* 2. (крайне увлеченный чем-л.) *заўзяты, страшэнны, страшны; страстный любитель музыки — заўзяты аматар музыкі;* 3. (пылкий, чувственный) *страсны, палкі, гарачы; страстный взгляд — палкі погляд; страстный поцелуй — гарачы пацалунак*" (РБС-93 і РБС-98. Т. 3. С. 466—467). "*Страстно* нареч. 1. (очень сильно) *моцна;* (горячо) *горача;* (преданно) *аддана;* 2. (с крайним увлечением) *заўзята, страшэнна, страшна;* 3. (пылко, чувственно) *страсна, палка, горача*" (Тамсама. С. 466).

Як бачым, з усіх шматлікіх значэнняў і выкарыстанняў рас. *страстный, страстно* ў беларускай частцы падаюцца толькі аднойчы гэтыя словы як дублеты да сваіх адмысловых *палкі, гарачы* і *палка, горача* (перанесеныя з РБС-53).

Не зважаючы на гэта, нашыя тлумачальныя слоўнікі перацягнулі на свае старонкі ўсе гэтыя "страсці" і "страсныя".

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) дык скапіяваў свае артыкулы з выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 686—687.

Такім чынам, беларуская мова мае свае адэкватныя адмысловыя лексемы да расійскіх ***страсть*** — *палкасць, жарсць, гарачае моцнае пачуццё, захапленне, цяга, схільнасць, прыхільнасць, заўзятасць, слабасць, ахвота, жаданне, запал, азарт, страх, жах;* ***страстно*** — *моцна, горача, аддана, заўзята, страшэнна, страшна, палка;* ***страстный*** — *моцны, гарачы, адданы, заўзяты, страшэнны, палкі;* ***страстность*** — *гарачае пачуццё, гарачая пачуццёвасць; адданасць; заўзятасць, палкасць, жарлівасць.*

***Пасярэдніцтва, пасярэдніцкі, пасярэднік — ці пасрэдніцтва, пасрэдніцкі, пасрэднік?*** Слова *пасярэднік* утворана ад *пасярод, пасярэдзіне (пасярэд-нік)*, ад *пасярэднік* — прыметнік *пасярэдніцкі (пасярэднік+скі)*, а ад яго назоўнік *пасярэдніцтва (пасярэднік+ства)*. Даслоўнае значэнне слова *пасярэднік* — 'той трэці, які стаіць пасярод двух і спрыяе пагадненню, дамове паміж імі'. Рас. *посредник* — ад *посреди (посред-ник), посреднический, посредничество* — ад *посредник*. Натуральнае беларускае слова *пасярэднік* засведчыў яшчэ В.Ластоўскі. У "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" чытаем: "*Посредник, трэцьці выбраны двумя старанамі для спагоды, пасярэднік*" (Факсімільнае выданне. Мн., 1990. С. 517). Тут падаецца і вытворнае слова: "*Посредствовать — пасярэднічаць; посредство* ср. — *спосаб, пасяродак*".

Парэформавыя (1933 г.) слоўнікі перайшлі на расійскамоўныя формы слоў: "*Посредник — пасрэднік, посредничать — пасрэднічаць, посреднический — пасрэдніцкі, посредство — пасрэдніцтва*". Але ж гэтая штучнасць відавочная: на той сама старонцы слоўнікаў бачым розныя ў беларускай і расійскай частках формы ўтваральных слоў: "*Посреди* 1. нареч. *пасярэдзіне*; 2. предлог с род. п. *сярод* (каго-чаго), *пасярод* (каго-чаго), *пасярэдзіне* (каго-чаго)" (РБС-82. Т. 2. С. 156).

Гэтыя словы з неўласцівай беларускай мове непаўнагалоснай формай *пасрэд-(посред-)*, на жаль, бачым ва ўсіх перакладных і тлумачальных беларускіх слоўніках (у тлумачальных — з перапісанымі з расійскіх слоўнікаў дэфініцыямі). Для савецкага часу гэта было законам — каб не аддаляцца ад усесаюзнага стандарту — расійскай мовы. У суверэннай Беларусі сталі выкарыстоўвацца свае — паўнагалосныя — формы: *пасярэднік, пасярэдніцкі, пасярэдніцтва, пасярэднічаць*. Улічыўшы маўленчую практыку, "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае гэтыя беларускія словы на сваіх старонках. Праўда, не як адзінанармаваныя, а як паралельныя да ранейшых. На с. 709 трэцяга тома бачым: "*Посредник — пасрэднік, пасярэднік; посредница — пасрэдніца, пасярэдніца, посредничать* несов. разг. *пасрэднічаць, пасярэднічаць; посреднический — пасрэдніцкі, пасярэдніцкі; посредничество — пасрэдніцтва, пасярэдніцтва*".

Мяркуем, што беларускія формы стануць адзінымі ў слоўніках незалежнай Беларусі.

***Цяць, выцяць ці толькі ўдарыць?*** У перыядычным друку ды ў творах непатрабавальных да мовы аўтараў амаль не сустрэнем адмысловых бела-

рускіх словаў *цяць, выцяць*, а толькі *ўдарыць*. Між тым акадэмічныя беларускія слоўнікі — перакладныя і тлумачальныя — падаюць як адэкват рас. *ударить* і словы *выцяць, цяць*. РБС-53 засведчыў: "*Ударить* сов. 1. (нанести удар) *ударыць, выцяць; ударить палкой — ударыць (выцяць, стукнуць) палкай; ударять* (наносить удары) *ударяць, выцінаць; ударяться — ударацца, выцінацца, ударенный — удараны, вытнуты*" (с. 707). Тое сама бачым і ў перавыданнях: РБС-82 (Т. 2. С. 515), РБС-93 (Т. 3. С. 587). Аднак формы незаконченага трывання ўжо чамусьці не маюць гэтых адмысловых словаў *выцяць* і *выцяцца*, а толькі *ударяць*. Вось як набліжалі нашую мову да расійскай. Праўда, БРС-62 і БРС-89 падаюць і свае словы: "*Выцяцца* сов. *удариться, ушибиться; балюча выцяцца галавой — больно удариться (ушибиться) головой. Выцяць* сов. *ударить* (причинить ушиб -ещё) *ушибить; выцяць сабаку — ударить собаку; выцяць нагу — ударить (ушибить) ногу*" (БРС-62. С. 191). Бачым тут і менш пашыраныя формы *вытнуцца* і *вытнуць* (з адсылкай см. *выцяцца, выцяць* (с. 188). Падае слоўнік і "*Тнуць* сов. однокр. обл. 1. *ударить; тнуць пугай — ударить кнутом;* 2. (о насекомых) *укусить, ужалить*" (с. 919). Двухтомавы БРС-88, 89 фіксуе таксама: "*Цяць* сов. 1. *ударить; хлестнуть;* 2. *укусить, хватить; сабака моцна цяў за нагу — собака сильно укусила (хватила) за ногу;* 3. (чем-л.острым) *резануть, рубануть; хватить; цяць сякерай — рубануть (хватить) топором*" (Т. 2. С. 688—689). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) таксама фіксуе словы *выцяцца, выцяць* (с. 135), *цяць, тнуць:* "1. Ударыць, стукнуць чым.-н. *Цяў (тнуў) яму прыкладам у грудзі.* 2. Балюча ўкусіць. *Сабака цяў (тнуў) за нагу*" (с. 740). Праўда, не бачым тут зваротнай формы *цяцца* і *тнуцца*, якія таксама актыўна выкарыстоўваюцца ў народнай мове. "*Чаго ты носісся круга хаты, па-за вуглох? Каб дзе ні цяўсё аб вугло*" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

Такім чынам, беларуская мова мае і свае адмысловыя лексемы *цяць, цяцца, выцяцца, тнуць, вытнуцца* (а не толькі *ўдарыць, ударыцца, ударацца*).

***Купленка ці пакупка?*** Слова *пакупка* ад *пакупіць;* але такой лексемы беларуская мова не мае. *Пакупка* — гэта суфіксавае ўтварэнне ад *покупать* (*покуп-ка*). Гэтым *покупать, покупка* ў беларускай мове адпавядаюць бяспрэфіксавыя словы: "*Купля* ж. — *покупка, куплянне* — ср. *покупка, купляць* несов. *Покупать*" (БРС-62. С. 408); а таксама вытворныя *куплены — покупной; купленае палатно — покупное полотно* (БРС-88, 89. С. 626).

Тлумачальныя слоўнікі даюць такое азначэнне гэтаму слову: "*Пакупка*, ж. Купленая рэч. *Паказаць новую пакупку*" (ТСБМ. С. 427). Ужо сама дэфініцыя (азначэнне) выяўляе штучнасць слова *пакупка*, бо калі гэта *купленая рэч*, то і натуральнае імя яе *купленка*. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 154) засведчана: "*Купля, купоўля* ж. — *покупка*". Як і "*купец* м. — *покупатель*". А ў акадэмічных слоўніках бачым словы, перанесеныя з расійскіх даведнікаў. Так, у згаданым "Тлумачальным слоўніку" 1996 года слоўнікавыя артыкулы з рэестравымі словамі *пакуп-*

*ка* і *пакупнік* (*покупатель*, паўкалька яго, дзе на месцы суф. *-тель* ужыты *-нік*) цалкам перанесеныя з выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 488. Параўн.: "*Покупатель,-я*, м. Человек, который покупает что-л. / / ж. *покупательница,-ы* / / *покупательский*". І ў беларускім слоўніку: "*Пакупнік, -а* м. Чалавек, які купляе што-н. / / ж. *пакупніца,-ы* / / прым. *Пакупніцкі*" (ТСБЛМ. С. 427). Але *покупатель* натуральна матывуецца словам "покупает", ад якога яно і ўтворанае (покупа-тель), беларускія ж *пакупнік* і *купляе* ніяк не "вяжуцца" між сабою: калі ён *пакупнік*, то і "пакупае", а калі "купляе", то "купляннік" ці "купец". Менавіта гэтае натуральнае *купец* і падае БРС-26: "*Купец* м. — *покупатель*" (с. 154). Але замест сваіх словаў слоўнікі замацавалі (як лексічную норму!) *пакупка* і *пакупнік*, а слова *купец* падалі як "просторечное" (хоць яго бачым як нейтральнае, агульнамоўнае слова ў класікаў нашай літаратуры Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага ды інш.). Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы чытаем: "*Купец, -пца* м. 1. *купец*; 2. прост. *Покупатель*" (БРС-62. С. 408; БРС-88. С. 626).

В.Ластоўскі падае слова *купленік* (ПРК(Б)С. С. 295), якое таксама матывуецца ўтваральным словам *куплены* (*купленая рэч*).

Такім чынам, натуральнымі, сістэмна абумоўленымі словамі з значэннем 'купленая рэч' можна лічыць словы *купленка* (ці *куплёнка*) або *купленік*. Відаць, першае з іх варта замацаваць як літаратурную норму нацыянальнай беларускай мовы.

***Пакаштаваць, паспытаць, паспрабаваць*** — ■ ***не адведаць***. Акадэмічныя перакладныя слоўнікі фіксуюць слова *адведаць* як адэкват рас. *проведать; адведаць хворага — проведать больного* (БРС-88, 89. С. 69). Ад гэтага дзеяслова ўтвораны назоўнік *адведзіны* 'сяброўскае наведванне каго-н.' *Прыйсці (прыехаць) у адведзіны* — рас. *навестить* (Тамсама). А вось "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 33) знайшоў у слове *адведаць* і яшчэ адно значэнне — адэкват рас. *отведать* 'пакаштаваць, паспытаць': "*Адведаць спелых груш*". Аднак такога значэння ў беларускай мове слова *адведаць* не мае. Расійскаму *отведать* адпавядаюць беларускія іншакаранёвыя словы. Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй акадэмікаў Я.Коласа, К.Крапівы і члена-карэспандэнта АН БССР П.Глебкі сведчыць: "*Отведать* сов. прям., перен. *пакаштаваць, паспытаць, паспрабаваць; отведанный — пакаштаваны, паспытаны, паспрабаваны*" (с. 386). Тое сама бачым і ў яго перавыданнях: РБС-93 і РБС-98 (Т. 2. С. 379). З значэннем 'наведаць' дзеяслоў *адведаць* выкарыстоўваюць класікі нашай літаратуры, слынныя сучасныя майстры слова. Да прыкладу: "*Вашая ранейшая настаўніца колькі ўжо часу хварэе, а вы?.. Хоць бы разочак схадзілі **адведаць**! Ганьба!..*" (Брыль); "*Яму хацелася **адведаць** дом, зноў паглядзець на роднае гняздо*" (Танк). І калі ў вершаваных радках, дзеля захавання рыфма-мелодыкі, некаторыя пісьменнікі неагляднa выкарысталі слова *адведаць* з значэннем 'пакаштаваць', то гэта не значыць, што яго трэба цягнуць на старонкі літаратурнага слоўніка, як гэта бачым і ў ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 121).

***Выкруціць — а не выверцець.*** *Выверцець* — закончанае трыванне ад *вярцець*. Гэтым небеларускім дзеясловам адпавядаюць словы *выкруціць* і *круціць*. Згаданы РБС-53 падае: "*Вертеть* несов. в разн. знач. *круціць; вертеться — круціцца; вертеться под ногами — круціцца пад нагамі; вертеться на языке — круціцца на языку; не вертись, говори правду — не круціся, гавары праўду*" (с. 53). *Вывертеть* сов. *выкруціць* (с. 79). Тое сама бачым і ў самых апошніх перавыданнях гэтага найбольш аўтарытэтнага слоўніка: РБС-93 і РБС-98: "*Вертеть* несов. в разн. знач. *круціць... вертеть носом — круціць носам; вертеть хвостом — круціць хвастом; как ни верти — як ні круці; вертеться под ногами — круціцца (блытацца) пад нагамі*" (Т. 1. С. 155). "*Вывертеть* сов. прост. *выкруціць*, мног. *павыкручваць*, см. *вывернуть* 1. *Вывернуть* 1. *Выкруціць*. мног. *Павыкручваць*" (Тамсама. С. 241)

Дык адкуль такое: "*Выверцець* зак., што (разм.). Разгарнуўшы, раскруціўшы, выняць. *Выверцець харчы з хустачкі*" (ТСБЛМ. С. 121). Хіба не натуральным тут ёсць *дастаць*? Адкуль такое змешванне розных моваў? Усё адтуль — з расійскамоўных слоўнікаў (гл.: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 99).

***Круцёлка — ■ не вяртушка.*** Слова *круцёлка* — натуральнае ўтварэнне ад *круціцца (круц-ёлк-а)*. Яго падае В.Ластоўскі: "*Вертушка ж., пяровертка на восі для запіраньня:* ***круцёлка***" (ПРК(Б)С. С. 60). Гэтае слова з двума значэннямі фіксуе "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 734): "*Круцёлка*, ж. Разм. 1. Назва розных прадметаў, прыстасаванняў, якія круцяцца. 2. Легкадумны, ветраны чалавек (пераважна пра жанчыну)". Занатаваў гэта і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Мн., 1988. Т. 1. С. 618): "*Круцёлка* ж. разг. 1. техн. *вертушка; волчок*; 2. (легкомысленная женщина) *вертушка*".

Натуральнасць гэтага *круцёлка* і як тэхнічнага тэрміна пацвярджаюць і іншыя вытворныя, у іх ліку і тэрміналагічныя адзінкі; да прыкладу, "*кругігалойка* ж. зоол. *вертишейка, вертиголовка*" (Тамсама). Дый значэнне дзеяслова *круціцца* як адэквата рас. *вертеться*, якое падае гэты слоўнік: "*Круціцца* несов. *вращаться, вертеться; кола круціцца — колесо вращается (вертится)*".

Здзіўляе ў звязку з гэтым падача як тэхнічнага тэрміна — на месцы натуральнага *круцёлка* — слова *вяртушка* ў перакладных РБС. Так, у РБС-53 зафіксаванае: "*Вертушка* I техн. *вяртушка,-кі*, ж. *Вертушка* II (легкомысленная женщина) разг. *Круцёлка*" (с. 54). БРС-62 падае ўжо два бел. адпаведнікі рас. *вертушка*: "*Вяртушка* ж. техн. *Вертушка*" (с. 195) і "*Круцёлка* ж. разг. *Вертушка*"(с. 402). РБС-82 (Т. 1. С. 91), насуперак свайму папярэдніку (РБС-53), падае два словы ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула да рас. тэхнічнага тэрміна: "*Вертушка* I. техн. *вяртушка, -кі*, ж, разг. *круцёлка, -кі*, ж." Гэта прадублявалі і ўсе астатнія перавыданні — РБС-93, РБС-98 (Т. 1. С. 156), РБС-99 (С. 90).

"*Вяртушка* як назва розных прадметаў, інструментаў, якія свабодна *кру-*

*цяцца*", не падмацоўваецца ніводным прыкладам яго выкарыстання (гл. ТСБМ. Т. 1. С. 602), тым часам як *круцёлка* ілюструецца тэкстамі з твораў Якуба Коласа, Янкі Брыля ды іншых пісьменнікаў. Штучнасць гэтага *вяртушка* адчулі складальнікі новага "Тлумачальнага слоўніка" (Мн., 1996), які змяшчае на сваіх старонках толькі беларускае слова (і няма тут *вяртушка):* "*Круцёлка*, ж. 1. Назвы розных прыстасаванняў, прадметаў, якія круцяцца. 2. Легкадумная, ветраная жанчына" (с. 302). Гэта пацвярджаюць і найноўшыя тэрміналагічныя слоўнікі: вертушка — круцёлка (РБФС-99. С. 41).

***Апорны — а не нясучы.*** У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 438) чытаем: "*Нясучы*. 2. у знач. прым(етніка). Спец. Які падтрымлівае сабой што-н. нерухомае, служыць *апорай* для чаго-небудзь. *Нясучы брус рамы сеялкі*". Дык чаму не *апорны*, калі ён (брус) служыць апорай? Складальнікі ТСБМ механічна перанеслі ў беларускі слоўнік рас. *несущий* (замяніўшы суф. *-ущ-* на *-уч-*), не парупіўшыся заглянуць у "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі, дзе засведчана: "*Несущий* прил. техн. *Апорны*" (М., 1953. С. 318). Іх не бянтэжыла і тое, што гэтае "нясучы" знаходзіцца ў межах той сама лексемы з значэннем 'які нясе шмат яец (пра птушак)'. *Нясучая парода курэй*. І тое, што ўтварэнні з суфіксам *-уч-(-юч-)* беларускай мове неўласцівыя. У першым томе "Беларуска-рускага слоўніка" (Мн., 1988. С. 810) чытаем: "*Нясучы* 1. прич. *несущий;* 2. прил. техн. *несущий; нясучая плоскасць — несущая плоскость; нясучая канструкцыя — несущая конструкция*". Як бачым, тут ужо цалкам "зліліся" мовы. А вось тэрміналагічныя слоўнікі незалежнай Беларусі падаюць натуральны тэхнічны тэрмін: "*Паверхня апорная — поверхность несущая*" (У.Самайлюковіч, У.Пазняк, А.Сабалеўскі. Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994. С. 159).

Слова *апорны* як адэкват рас. *несущий* бачым і ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" 1993 і 1998 гадоў (Т. 2. С. 234). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) справядліва не падае штучнага слова "нясучы".

***Нясуха ці нясушка?*** Аддзеяслоўныя адушаўлёныя назоўнікі жаночага роду ўтвараюцца ў беларускай мове з выкарыстаннем суфікса *-ух-а: спяваць — спявуха, балбатаць — балбатуха, лапатаць — лапатуха* ды пад. Звычайна ім адпавядаюць аднакаранёвыя назоўнікі мужчынскага роду на *-ун-: лапатуха* і *лапатун, скакуха — скакун.*

У літаратурным слоўніку не так даўно з'явілася слова *нясун* (злодзей, які крадзе — "нясе" з сабой пэўныя рэчы з маёмасці прадпрыемства, дзе ён працуе). Асоба жаночага полу — *нясуха*. І іншыя адушаўлёныя назоўнікі (неасабовыя) таксама падпадаюць пад гэтую словаўтваральную мадэль: *скакун* — 'конь з высокімі бегавымі якасцямі' (ТСБМ. С. 600). Назоўнік жаночага роду — *скакуха* (Тамсама). Паводле гэтай мадэлі ўтварылася і слова *нясуха* 'курыца, якая нясе яйкі'. Яго засведчыў "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962. С. 533): "*Нясуха* ж. разг. *Несушка*". Форма *нясушка* — штучная для беларускай мовы. Яна ўласцівая расійскай мове. Беларускія адэкваты маюць тут іншыя суфіксы. Параўнайма: *береговушка — бе-*

*ражанка* (ластаўка), *боковушка — бакоўка, гнилушка — гнілка* (груша), *раскладушка — раскладанка, легковушка — легкавік* (як і *грузавік*).

Як бачым, натуральным найменнем курыцы, якая нясе яйкі, ёсць *нясуха*.

***Улік, уліковы, уліковец — а не учот, учотны, учотчык.*** Словы *учот, учотны, учотчык* — штучныя ў беларускай мове, яны не маюць свае матывацыі і ўтваральнае асновы.

*Учёт* — ад *учесть / учитывать*. У беларускай мове ім адпавядаюць утварэнні з коранем *лік-*: *палічыць, падлічыць, улічыць*. В.Ластоўскі зафіксаваў: "*Учесть* што каму: *улічыць; учёт* м. — *залічка*" (ПРК(Б)С. С. 732). БРС-26 падае: "*падлічаць, -чыць* што — ... *учитывать, учесть. Падлік — подсчёт, учёт. Падлічка* ж. см. *падлік*" (с. 210). І ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 729) засведчана: "*Учесть* сов. — *улічыць, падлічыць; я учел его замечание — я ўлічыў яго заўвагу; учесть расходы — улічыць (падлічыць) выдаткі; учитывать* несов. — *улічваць, падлічваць; учитываться* страд. — *улічвацца, падлічвацца*". Перавыданні гэтага слоўніка (РБС-82, РБС-93, РБС-98) пакінулі згаданыя лексікаграфічныя артыкулы без зменаў, толькі вылучылі два значэнні (замест аднаго): "*Учесть* сов. 1. *улічыць; прыняць пад увагу*; 2. (подсчитать) *улічыць, падлічыць*" (РБС-82. Т. 2. С. 548; РБС-93 і РБС-98. Т. 3. С. 645). Аднак рас. *учёт* падзяляецца на 2 часткі і першая з іх мае не пераклад, а толькі напісанне па-беларуску ў правай (беларускай) частцы: "*Учёт* 1. (регистрация) *учот; снять (сняться) с учета — зняць (зняцца) з учоту; стать на учёт — стаць на ўчот; брать на учёт — браць на ўчот*; 2. в др. знач. *улік, падлік; учёт товаров — улік (падлік) тавараў; бухгалтерский учёт — бухгалтарскі ўлік (падлік); учёт труда — улік (падлік) працы; вести учёт — весці ўлік (падлік)*. *Учётный* 1. (относящийся к подсчету) *падліковы*; 2. Относящийся к учету, регистрации) *учотны*; *учётная карточка — учотная картка; учетчик — учотчык, учётчица — учотчыца*" (БРС-82. С. 729). Тое сама і ў РБС-82 (Т. 2. С. 548). І пайшлі гуляць гэтыя *ўчот, учотны, учотчык* па старонках усіх акадэмічных слоўнікаў. І нават на месцы таго, што ў слоўніках мела беларускі адэкват *падлік, падліковы*. Так, у 60—80-х гадах у выхадных звестках кнігаў ужо бачым колькасць не *падліковых* аркушаў, а *учотных*. Напрыклад, у кнізе "З жыцця роднага слова: Лексікалагічны зборнік" (Мн.: Навука і тэхніка, 1968. С.180) чытаем: "*Уч(отна)*-выд. арк. 9,9". Тое сама і ў кнізе П.У.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі / Рэд. М.М.Бірыла. Мн.: Навука і тэхніка, 1977. С. 320: "Уч.-выд. арк. 17,5". Аднак з утварэннем суверэнных дзяржаваў распаўся і агульны лексічны фонд. Нацыянальны друк перайшоў на свае натуральныя словы: *падлік, улік, падліковы, уліковы, падліковец*. І гэта натуральна, бо не стасаваліся расійскамоўныя *ўчот, учотны, учотчык* і іх дэфініцыі. Як, да прыкладу, вось такое: "*Учотчык,-а*, м. Асоба, якая вядзе *ўлік* чаго-н. *Учотчык палявой брыгады*". "*На фермах... няма ні вартаўнікоў, ні **ўчотчыкаў** — даяркі самі вядуць улік надоенага малака*. Кухараў" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 94). "Русско-белорусский словарь"

1993 года (і РБС-98, яны ідэнтычныя), улічыўшы маўленчую практыку, факты нацыянальнага друку, ужо не падае гэтых штукарстваў *учотны* і *ўчотчык*, а толькі беларускія іх адэкваты. На с. 645—646 (Т. 3) чытаем: "*Учётный* 1. (относящийся к подсчёту) *падліковы*; 2. (относящийся к учёту, регистрации) *уліковы*; *учётная карточка — уліковая картка; учётчик — падліковец*". Але і тут бачым гэтае "ўчот" як адпаведнік рас. *учёт* (регистрация кадров). Праўда, прыметнік *учётный* (относящийся к учёту, регистрации) ужо перакладаецца як *уліковы*: *учётная карточка — уліковая картка*. Але як магло ўзнікнуць найменне *ўліковы* ад *учот*? Натуральна *ўліковы* — утварэнне ад *улік* (*улік-овы*). Значыць, слова "ўчот" — штукарства, ад якога ніяк не маглі ўтварыцца прыметнікі *ўліковы*, *падліковы* і назоўнік *падліковец*. Натуральным тут ёсць *падлік* і *ўлік* (корань словаў *-лік-*).

Гэтую недарэчнасць прадубляваў і "Русско-белорусский словарь общеупотребительной лексики" (Мн., 1999. С. 1108).

У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996) бачым усё, што панавала ў савецкіх слоўніках (БРС-88, 89, РБС-82 ды інш.). На с. 703 чытаем: "*Учот, учотны; Учотчык* — асоба, якая вядзе ўлік чаго-н. *Учотчык палявой брыгады* / / ж. *Учотчыца*". Гэты беларускі аднатомавік складаўся на падставе яго расійскага аналага: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 752), дзе чытаем: "*Учётчик, -а*, м. Работник, ведущий учёт кого-чего-л. / / ж. *Учётчица*". Як бачым, аўтар беларускага даведніка добрасумленна спісаў дэфініцыю з расійскага слоўніка, замяніўшы *учёт* на *ўлік*. Але ж як тады растлумачыць у беларускім тэксце: *учотчык ... вядзе ўлік*. Калі гэта *ўчотчык*, дык ён вядзе *ўчот*, а калі вядзе *ўлік*, то гэта ўжо *ўліковец (падліковец)*.

***Седніца, сядальня і сядальны — ці сядалішча і сядалішчны?*** Утварэнні з суфіксам *—лішч-а* для беларускай мовы нехарактэрныя. (Невыпадкова слова *вучылішча* замяняецца іншасуфіксавымі ўтварэннямі *вучэльня* і *навучальня*). Таму нават у тэрміналогіі бачым аднакаранёвыя дэрываты (вытворныя) з іншымі суфіксамі. Так, у біялогіі (анатоміі) выкарыстоўваецца *седніца* і *сядальня* як адэкват рас. *седалище, сядальны — седалищный*. Іх падае "Анатомический словарь" (русско-белорусско-латинский... Мн., 1998): "*Ягодица, седалище — крумянок, седніца*" (с. 192), *седалищный — сядальны, седалищная кость — сядальная косць*" (с. 150). У "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (Мн., 1993) бачым аднакаранёвае "*сядальня — седалище*" (с. 258).

Аднак слоўнікі савецкага часу падавалі толькі ўсесаюзныя тэрміналагічныя стандарты. РБС-53 фіксуе: "*Седалище* 1. анат. *сядалішча*, ср. 2. (место для сиденья) уст. *сядзенне* ср.; *седалищный* анат. *сядалішчны; седалищный нерв — сядалішчны нерв*" (с. 616). Як бачым, тут ужо знікла беларускае слова. Праўда, наступныя яго перавыданні (РБС-82, РБС-93, РБС-92) падаюць гэтыя словы, але як застарэлыя: "*Седалище*, уст. шутл. 1. анат. *сядалішча*; 2. (место для сидения) *сядзенне*" (РБС-82. Т. 2. С. 371; РБС-93. Т. 3. С. 323).

А "Тлумачальны слоўнік" 1996 года ўжо не згадвае гэтых абмежаванняў:

"*Сядалішча, -а* н. Частка чалавечага цела, на якую садзяцца; *ягадзіцы* / / прым. *сядалішчны,-ая,-ае*" (с. 647). Перапісанае з расійскага слоўніка: "*Седалище, -а*, ср. То же, что *ягодицы* (спец.) / / прил. *седалищный*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. С. 630).

***Ганіцель... Чыё гэта слова?*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Ганіцель, -я*, м. Той, хто праследуе, прыгнятае каго-н./ / *ж. ганіцелька...*" (с. 143). Калі кіравацца дэфініцыяй, то тут натуральнымі мусяць быць словы (ад падставовых у тэксце *праследуе, прыгнятае) перасьледнік* і *прыгнятальнік*. Але гэтае *ганіцель* і яго азначэнне перапісаныя з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 123): "*Гонитель, -я,* м. *Притеснитель, преследователь / / ж. Гонительница*". У расійскай мове *гонитель* — утварэнне ад *гнать* 'притеснять, подвергать гонениям' (Тамсама. С. 120). А ў згаданым "Тлумачальным слоўніку" 1996 года дзеяслоў *гнаць* натуральна не мае такога значэння (гл. с. 152). У яго папярэдніку (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 63) слова *гнаць* з значэннем 'прыгнятаць, мучыць' кваліфікуецца як застарэлае. Рас. *гнать* (притеснять) мае беларускія адпаведнікі *прыгнятаць, уціскаць* (РБС-82. Т. 1. С. 180). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы засведчыў: "*Уціск, -ку* м. — *гнёт, притеснение, угнетение, преследование*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 635).

Як бачым, *ганіцель* — штучнае пазычанне, пра гэта сведчыць як яго будова (суфікс *-цель(<тель)*, так і адсутнасць матывавальнай базы. Такім жа штучным ёсць і слова *ганенне (<*рас. *гонение)*, якому адпавядаюць *перасьлед, прыгнёт, уціск*.

***Адметны, адмысловы — а не адменны.*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 153) змяшчае на сваіх старонках перанесенае з "Словаря русского языка" (В 4 т. М., 1957—1961. 2-е изд. Т. 2. С. 601) слова *адменны (<*рас. *отменный)* з двума значэннямі: "1. Не такі, як усе; своеасаблівы, адметны. 2. Самы лепшы, незвычайны". У згаданым "Словаре...": "*Отменный*. 1. Очень хороший по качеству; отличный, превосходный. 2. Устар. Не похожий на других, не такой, как другие; отменный". Як бачым, тут толькі месцамі памяняліся пункты 1 і 2. А перакладныя акадэмічныя РБС рас. *отменный* перакладаюць як *выдатны, вельмі добры* (РБС-53. С. 374; РБС-82. Т. 1. С. 629; РБС-93. Т. 2. С. 397; РБС-98. Т. 2. С. 397). БРС-26 падае гэтае сугучнае з рас. слова з зусім іншым значэннем. На с. 22 чытаем: "*Адменны — переменный, разновидный*". Гэты тэрмін бачым у "Беларускай навуковай тэрміналогіі. Вып. 6. Батаніка агульная і спецыяльная". А таксама: "*Адменьнік* м. — *вариант*".

"Беларуска-рускі слоўнік" пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы невядома чаму падае: "*Адменна* нареч. *отменно. Адменны — отменный, отличный; особый*" (с. 61). У двухтомавым перавыданні ўжо чытаем: "*Адменны — (непохожий) отличный, особенный*" (Т. 1. Мн., 1988. С. 84). Тут ужо няма прыслоўя *адменна* (яго функцыю выконвае слова *выдатна)* і прыметнік мае больш вузкае значэнне — па сутнасці дублюе прыметнік *адметны*. Па-

раўнайма: "*Адметны — отличительный; отличный, заметный*". Падаецца тут і беларускае слова: "*адмысловы — особый, особенный...*"

Як бачым, беларуская мова мае свае дакладныя адпаведнікі да рас. *отменный*: *адметны* і *адмысловы*.

***Судовасць, падсуднасць, суджанасць — а не судзімасць.*** *Судзімасць* — утварэнне ад *судзімы* (*судзім-асць*). Беларускай мове вытворныя з суфіксам -*ім*- неўласцівыя. Параўн. *падсудны* ■ знач. сущ. *подсудимый* (БРС-89. С. 62). Даведнікі 20-х гадоў яго не фіксавалі. Тлумачальныя слоўнікі падаюць і гэтае слова з той дэфініцыяй, што і ў расійскіх даведніках: "*Судзімасць*, -*і*, ж. Судовы прыгавор за учыненае злачынства, ■ таксама прававы вынік асуджэння". Але раз гэта "*судовы прыгавор*", то мусіць быць *судовасць*, а не *судзімасць*. Дарэчы, самога слова *судзімы* тлумачальныя слоўнікі не падаюць, што таксама сведчыць пра штучнасць нематываванага назоўніка *судзімасць*. Рас. *судимый* адпавядае бел. *суджаны* — 'той, каго судзілі' (БРС-89. С. 523). Таму тут магчымае *суджанасць* (а не *судзімасць*).

***Спаборнік, спашукальнік і саіскальнік.*** Слова *саіскальнік* тлумачыцца як: "1. Удзельнік конкурсу на атрыманне чаго-небудзь (прыза, узнагароды, прэміі). 2. Той, хто рыхтуецца да атрымання вучонай ступені за навуковую працу або вучонага звання" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 20). Гэтае слова — *саіскальнік* — упершыню зафіксаваў "Русско-белорусский словарь" 1982 года: "*Соискатель — саіскальнік, -ка, спаборнік на атрыманне чаго*" (Т. 2. С. 415). І тут яно, як бачым, падаецца побач з *спаборнік на атрыманне*. Ранейшыя слоўнікі рас. *соискание* і *соискатель* перакладалі словамі *спаборніцтва* і *спаборнік*. Так, яшчэ В.Ластоўскі зафіксаваў: "*Соискание* ср. — *спаборніцтва, спаборнік, спаборніца*" (ПРК(Б)С. С. 674). Першы акадэмічны даведнік — "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 643) засведчыў: "*Соискание — спаборніцтва (конкурс) на атрыманне (для атрымання), атрыманне, -ння*, ср.; *соискание премии — спаборніцтва на атрыманне прэміі; диссертация на соискание ученой степени — дысертацыя на атрыманне вучонай ступені; соискатель — спаборнік на атрыманне (для атрымання); соискательство — спаборніцтва на атрыманне (для атрымання)*". "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы падае слова *спаборнік* з паметай "уст. *Соревнователь*" (М., 1962. С. 873).

У 80-х гадах слова *спаборнік (на атрыманне, для атрымання)* было адкінутае, на яго месца пастаўлены ўсесаюзны стандарт. Але каб хоць трохі прыстасаваць яго да беларускай мовы, суфікс -*тель* замянілі на ўласцівы беларускай мове -*льнік*. Так слова *соискатель* набыло форму *саіскальнік*. Рас. *соискатель* ад *искать*. Слову *искать* у беларускай мове адпавядаюць: 1. *шукаць; искать глазами — шукаць вачамі* (каго); 2. (стремиться, добиваться) *шукаць; імкнуцца, дамагацца; искать встречи — шукаць сустрэчы* (РБС-93. Т. 1. С. 578). Ад слова *искать* і вытворны назоўнік *искатель*, якому адпавядае бел. "*шукальнік; искатель приключений — шукальнік прыгод*" (Тамсама). Але форма *саіскальнік* таксама штучная, бо прыстаўка *са*-(<*со*-)

нехарактэрная для беларускай мовы. Таму РБС-93 ужо падае: "*Соискатель — суіскальнік*" (Т. 3. С. 403). Аднак зважаючы на тое, што беларускай мове неўласцівае слова "іскаць", а рас. *искать* (імкнуцца, дамагацца) адпавядае бел. *шукаць*, было створана слова *спашукальнік* як адэкват рас. *соискатель*. І ўсе яго аднакаранёвікі: *спашуканне, спашукальніцкі, спашукальніцтва*. Натуральна гучыць: *спашуканне навуковай ступені* замест пазычання *саісканне* (ці *суісканне) вучонай ступені* (<*соискание ученой степени...*), *спашукальнік навуковай ступені*. Слова спашукальнік выкарыстоўваюць нацыянальныя часопісы "Роднае слова", "Полымя", газета "Наша слова" ды інш. Напрыклад: "Ірына Чэбан. Малодшы навуковы супрацоўнік аддзела прапаганды Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, *спашукальнік* НАН РБ" (Роднае слова. 2000. № 4. С. 77). "Кацярына Іванаўна Шальманава... *Спашукальнік* кафедры лексікалогіі англійскай мовы МДЛУ" (Роднае слова. 2000. № 12. С. 39).

***Бацька і айцец.*** Словы *ойтець* і *ойцець* 'бацька, духоўнік' бытавалі ў старажытнай беларускай мове (прыйшлі з пол. *ojciec*, гл. ЭСБМ. Т. 1. Мн., 1978. С. 98). У сучаснай беларускай літаратурнай мове слова *айцец* выкарыстоўваецца з значэннем 'служка культу', рас. *отец* (БРС-88. С. 112). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 206) таксама кваліфікуе яго як застарэлае. А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 51) ужо здымае памету застарэласці і тлумачыць яго вось так: "*Айцец, айца*, м. 1. Служыцель культу. *Святы айцец* (пачцівы зварот да служыцеля культу). 2. Бацька. *Ці я ў мамкі не радзілася, ці ў **айца** не гадавалася* (з нар.)". Атрымліваецца, што слова *айцец* выступае як нарматыўнае з тым сама значэннем, што і *бацька*. Але гэта пярэчыць лексічнай сістэме сучаснай беларускай мовы, дзе з значэннем 'мужчына ў дачыненні да сваіх дзяцей' выкарыстоўваецца слова *бацька*. Так, у самым новым РБС-98 (як і яго папярэдніках — РБС-53, РБС-82, РБС-93) чытаем: "*Отец* 1. *бацька, -кі* м.; *посаженый отец — пасаджоны бацька;* 2. (служитель культа) церк. "уст. *айцец*, род. *айца* м." (Т. 1. С. 387). БРС-88 (с. 176) засведчыў: "*Бацька*, род. *бацькі*, м. в разн. знач. *отец; бацька родны — отец родной; увесь у бацьку — весь в отца*".

Аўтар слоўнікавага артыкула "айцец" спадар І.М.Бунчук усё тут пераблытаў. Перанёсшы ілюстрацыю "Ці я ў мамкі не радзілася, ці я ў айца не гадавалася (з нар.)" з ТСБМ (Т. 1. С. 296), ён адкінуў памету "ўст.", якую мае гэтае слова ў слоўніку: "*Айцец, айца*, м. Уст. 1. Служка культу. 2. Мужчына ў дачыненні да сваіх дзяцей; бацька". У сучаснай маўленчай практыцы слова *айцец* 'служка культу' сапраўды не ёсць застарэлае (такім яно лічылася за савецкім часам, калі рэлігія выганялася з свядомасці людзей як "опіум для народа"). А вось з знач. 'бацька' яно і сёння застарэлае. (Дый адкуль у дэфініцыі — слова *служыцель*, калі па-беларуску *служка*, што і падае ТСБМ?)

Недасведчаны чытач, які абмяжуецца толькі гэтым аднатомавым ТСБМ і пачытае яго "Прадмову", будзе перакананы ў нарматыўнасці слова *айцец* 'бацька' (бо на с. 4 зафіксавана: "Слоўнік з'яўляецца нарматыўным даведнікам...").

***Служка — а не служыцель.*** Утварэнні з суфіксам *-цель(<-тель)* беларускай мове неўласцівыя. В.Ластоўскі рас. *служитель* перакладае як *служак, служака* (ПРК(Б)С. С. 661). Акадэмічны РБС-53 падае: "*Служитель* 1. уст. *служка;* 2. (работник в какой-л. области) *служыцель; служитель науки — служыцель навукі; служительница — служка*" (с. 634). Тут бачым і наступнае: "*Служка* церк. *служка, -кі,* м." БРС-82 паўтарыў гэты артыкул, дадаўшы слова *служанка: служительница — служка, служанка.* Захаваны тут без змены і артыкул "*Служка* церк. *Служка*". Без усякіх зменаў прадублявалі гэта наступныя перавыданні: РБС-93, РБС-98 (Т. 3. С. 377). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1983. С. 208—209) падае 2 словы (*служка* і *служыцель*) з наступнай дэфініцыяй: "*Служка,* ж. 1. м. і ж. Работнік (работніца), слуга. (Падаюцца цытаты з твораў Коласа, Броўкі, Пысіна, Чарнышэвіча.) 2. м. Слуга ў манастыры, царкве або пры архірэю. *Служыцель, -я,* м. 1. Тое, што і *слуга.* 2. Ніжэйшы служачы ў некаторых установах. *Служыцель музея.* 3. Чалавек, які служыць чаму-н., працуе і прыносіць карысць сваёй працай у якой-н. галіне (навукі, мастацтва і пад.). *Служыцель навукі* / / Пра духоўных асоб. *Служыцель культу. Служыцельніца, -ы,* ж. Жан. да *служыцель*". БРС-89 (с. 481—482) не падае (як і РБС) *служыцельніца,* ■ толькі: "*Служка* 1. м. і ж. (о мужчине) *служитель;* (о женщине) *служительница;* 2. церк. *Служка*".

Тлумачальны слоўнік перанёс на свае старонкі ўсё тое, што фіксуе "Словарь русского языка" С.І.Ожагава (М., 1982. С. 651). Новы, аднатомавы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 609) акуратна прадубляваў свайго папярэдніка, без уліку маўленчай практыкі пры адраджэнні нашай мовы і культуры. На яго старонках тыя ж *служачы, служачая...* Сваё натуральнае слова *службовец* падаецца толькі як размоўны дублет да *служачы.* А натуральнымі мусяць быць свае: *службовец (<службовы чалавек)* і *служка.* Невыпадкова ў першым томе ТСБМ, які рэдагаваў знаны лексікограф і пісьменнік Мікола Лобан, засведчана "*служка культу*" (у артыкуле "*Айцец*"), а не *служыцель культу.*

***Жаба — а не лягушка.*** Слова *жаба* ў беларускай мове мае больш шырокае значэнне, чым у расійскай. Рас. *жаба* называе бясхвостую чатырохногую земнаводную жывёліну з барадаўкаватаю слізкаю скураю бурага колеру, якая водзіцца ў цёмных сырых месцах. Па-беларуску яе называюць і словам *рапуха* (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 246). Акрамя гэтага, бел. *жаба* мае тое значэнне, што і рас. *лягушка* 'бясхвостае земнаводнае з доўгімі заднімі нагамі, прыстасаванымі для скакання' (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 295).

Беларускай мове слова *лягушка* неўласцівае. Яшчэ В.Ластоўскі занатаваў: "*Жаба ж. па-расійску — лягушка*" (ПРК(Б)С. С. 173). А рас. *жаба* ён перакладае словам *рапуха.* "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1985. С. 190—191) фіксуе слова *жаба* з шасцю значэннямі: "1) земнаводная жывёліна; 2) хвароба горла; 3) дэталь у плузе для прымацавання паліцы і ручак, рэгулятар мельнічных жорнаў; 4) загана ў палатне, калі ўток

слаба прыбіты бердам; 5) карабатае месца на вастрыі касы; 6) адмоўная назва дзяцей; рабая, маршчыністая жанчына".

Усе акадэмічныя РБС рас. *лягушка* перакладаюць словам *жаба*: "*Лягушка — жаба*" (РБС-53. С. 243, РБС-93 і РБС-98 (Т. 2. С. 13). Тут бачым і вытворныя з гэтым коранем, якія маюць беларускія адэкваты з *жаб-*: *лягушатник — жабнік*; *лягушачий, лягушечный, лягушиный — жабіны, жабін*; *лягушонок — жабяня* і *жабянё* (РБС-93, РБС-98). Рас. *лягушка* (і *лягуха*) (памянш. *ляжка*) ад *лягать(ся)* — 'біць, ударацъ нагою' (ЭСРЯ. Т. 2. С. 548). *Лягать(ся)* — па-беларуску *брыкаць (брыкацца)*.

Як бачым, беларуская мова мае свае адметныя словы да рас. *лягушка* (і *лягать(ся)*). Але беларускія слоўнікі 70—80-х гадоў падаюць на сваіх старонках і гэтае *лягушка*. Так, у згаданым ТСБМ (Т. 2. С. 246) чытаем: "*Жаба*... 2. Разм. Тое, што і *лягушка*". Падае гэтае слова і БРС-88: "*Лягушка* ж. обл. *лягушка*" (с. 656). І гэта пры тым, што на с. 408 чытаем натуральнае: "*Жаба* ж. 1. *жаба*; 2. *лягушка*; 3. м. і ж. пренебр. *сопляк*, м.; *соплячка* ж.; *пнецца як жаба на купіну — лезет как лягушка на кочку*".

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не падае рэестравага слова *лягушка*, якое бачым у яго папярэдніку, дзе яно мае абмежавальную прымету: "*Лягушка*, ж. Абл. *Жаба*" (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 71). Але гэтае абласное (дыялектнае) слова трапіла ў тэкст самога азначэння слова *жаба*. На с. 197 чытаем: "*Жаба*, ж. 1. Падобная на *лягушку* бясхвостая земнаводная жывёліна з барадаўчатай скурай. 2. Тое, што і *лягушка*".

І як зразумець тут, што такое *жаба* 'лягушка', калі самога слова *лягушка* чытач у слоўніку не знойдзе. Аўтар артыкула — Н.М.Лявончык "добрасумленна" спісала яго з лексікаграфічнага даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. С. 197, дзе засведчана: "*Жаба*, ж. Сходное с лягушкой бесхвостое земноводное животное с бородавчатой кожей".

***Супольны, сумесны, агульны — а не сукупны. Спалучнасць, спалучэнне — ■ не сукупнасць.*** Слова *сукупны* з знач. рас. *совокупный* не засведчыў ніводны РБС. РБС-53 пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі падае: "*Совокупный — супольны*, (совместный) *сумесны*" (С. 641). Тое сама і ў РБС-82 (Т. 2. С. 413), у РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 398). Тут падаецца і прыслоўе *совокупно — супольна, совместно — сумесна*; (вместе) *разам* (Там сама). Праўда, невядома адкуль рас. *совокупность* — як утварэнне ад *совокупный (совокупн-ость)* ужо перакладаецца не беларускім вытворным (ад прыметніка *супольны*) словам *супольнасць* ці *спалучэнне* (ад *спалучыць*), а толькі штучным *сукупнасць* — знявечаным утварэннем ад рас. *совокупность* (дзе на месцы пачатковай часткі *сово-* ўжыта *су-*). На яго штучнасць у беларускай мове паказваюць і ілюстрацыі да выкарыстання гэтага *сукупнасць*, бо побач падаюцца і свае словы: *всё в совокупности — усё ў сукупнасці, усё разам*.

Рас. *совокупный* — утварэнне ад застар. *совокупить — спалучыць, совокупиться* (соединиться) *спалучыцца*. Рас. *совокупиться* перакладаецца і

так: (о половом акте) *савакупіцца*; (о животных — ещё) *спараваацца*. Як бачым, няма і тут дзеяслова "сукупіцца", ад якога магло б утварыцца *сукупны*, а ад яго — *сукупнасць*. Бо нават як біялагічны тэрмін гэтае "сукупіцца" не падаецца. Але не зважаючы на знявечанасць гэтага *сукупнасць*, яго замацоўваюць у акадэмічных слоўніках. БРС-62 яшчэ не падае слова *сукупны*, але ілюстрацыі да слова *сукупнасць* ужо не маюць тут паралельных *разам, усё разам*, а толькі — *у сукупнасці* (с. 898). А вось яго двухтомавае перавыданне пад той сама рэдакцыяй К.Крапівы ўжо фіксуе: "*Сукупны — совокупный; сукупны грамадскі прадукт — совокупный общественный продукт*" (БРС-89. С. 525).

Калі ісці ад здаровага сэнсу, то на месцы штучнага *сукупнасць* мусіць быць натуральнае слова (утварэнне ад *спалучацца, спалучыцца* — адэквата рас. *совокупиться, совокупляться*) *спалучэнне* або *спалучнасць* (ад *спалучны → спалучн-асць*), бо дзеяслоў *спалучыцца* якраз і значыць "злучыцца адначасова, аб'яднацца ва ўзаемнай адпаведнасці". Гэтае значэнне слова *спалучыцца* падае "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996. С. 615). Бачым тут і вытворны ад яго назоўнік *спалучэнне*. Дык чаму не выкарыстаць яго і як спецыяльны тэрмін і як натуральнае агульнанароднае слова — адэкват рас. *совокупность?* Яго бачым і ў згаданым ТСБЛМ (с. 636) з наступнаю дэфініцыяю: "*Сукупнасць* ж. Спалучэнне, агульная колькасць, сума чаго-небудзь. *Сукупнасць прадметаў, фактаў*". Падаецца тут і прыметнік: "*Сукупны, -ая, -ае*. Аб'яднаны, *сумесны*, агульны. *Сукупныя намаганні. Сукупны грамадскі прадукт...*" Але штучнасць гэтага вынікае ўжо з саміх прыкладаў-ілюстрацыяў, бо беларус кажа: *агульнымі намаганнямі, сумеснымі намаганнямі* (дамагчыся карэнных зменаў), а не "сукупнымі" (намаганнямі). Дый... *супольны грамадскі прадукт* — натуральны тэрмін, які выразна выяўляе тое, што ён (гэты прадукт) створаны *супольнасцю* людзей (грамадствам).

***Ключыцавы — а не ключычны.*** Прыметнік *ключыцавы* лёгка стасуецца з утваральным словам *ключыца*, маючы тую сама форму асновы: *ключыц-авы*. А вось *ключычны* такой празрыстай структуры не мае. Недарэмна тэрмінолагі адмовіліся ад слабаматываванай формы *ключычны* (да таго ж і немілагучнай — з элементам *-чычн-*) і замянілі яе на натуральную *ключыцавы*. Так, у даведніку "Анатомический словарь (русско-белорусско-латинский, белорусско-латинский; латинско-белорусский)" (Мн., 1998. С. 65) чытаем: *ключичный — ключыцавы*. Як і *паясніцавы* (а не *паяснічны*), *патыліцавы* (не *патылічны*), *селязёнкавы* (не *селязёначны*), *пятавая косць* (а не *пятачная*, якое стасуецца з *пятак*).

А вось акадэмічныя слоўнікі ўвесь час дублююць расійскія формы. Напрыклад: *ключичный — ключычны, поясничный — паяснічны, затылочный — патылічны, селезёночный — селязёначны, пяточный — пятачны.*

***Цырата — а не кляёнка.*** Слова *цырата* з значэннем рас. *клеёнка* падаюць усе акадэмічныя беларускія слоўнікі, а таксама слоўнікі 20-х гадоў. В. Ластоўскі занатаваў: "*Клеёнка* ж. Тканіна, прасычаная якой кляістай ма-

сай: *цырата, вашчанка*" (ПРК(Б)С. С. 260). БРС-26 (С. 340): "*Цырата* ж. — *клеёнка*". А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978) знайшоў(?) і *кляёнку*. На с. 703 чытаем: "*Кляёнка*, ж. Разм. Тое, што і *цырата*". І падаецца прыклад з твора А.Савіцкага. Праўда, вытворныя ад яго не змяшчаюцца. Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 735) фіксуе толькі нарматыўнае *цырата*. І яго вытворныя *цыратны* і *цыратовы*. Падае гэтае *кляёнка* і БРС-88 (с. 6—7), але з адсылкаю да *цырата* і з стылёваю паметаю "размоўнае".

***Заканчэнне — а не заключэнне.*** У сучасным друку, навуковых працах нярэдка бачым гэтае *заключэнне* як адзін з раздзелаў працы (уступ, галоўная частка, заключэнне). Але ці апраўданае яно тут? Акадэмічныя перакладныя слоўнікі справядліва лічаць нарматыўным тут слова *заканчэнне*, бо гэта ж канец працы, яна заканчваецца. Яшчэ першы акадэмічны даведнік "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 147) засведчыў: "*Заключение* ср. 1. *замыканне;* (в тюрьму и т.п.) *зняволенне, знявольванне;* 2. (вывод) *заключэнне, вывад;* 3. (конец) *заканчэнне;* 4. (договора, мира и т.п.) *заключэнне*". Як бачым, з значэннем рас. *заключение* тут падаецца бел. *заканчэнне*. Дый замест "*вывад, заключэнне*" сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае слова *высновы*. Толькі як дыпламатычны, афіцыйны тэрмін выкарыстоўваецца пазычанае (з рас.) *заключэнне*.

І ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" чытаем: "*Заканчэнне*, н. 1. Давядзенне да канца, завяршэнне чаго-небудзь. 2. Заключная частка, канец чаго-небудзь" (Т. 2. Мн., 1978. С. 321). Але ж на старонцы 328 ужо бачым і: "*Заключэнне*... апошняя, *заключная* частка твора, прамовы і пад. *Дысертацыя складаецца з уступу, трох глаў і заключэння*". Аднак гэтая штучнасць і рэестравага слова, і яго азначэння відавочная. Гэты артыкул амаль цалкам перанесены з расійскіх тлумачальных слоўнікаў (гл.: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 185). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы рас. *заключение* перакладае як *заканчэнне* (завяршальная частка твора ды пад.) (РБС-82. Т. 1. С. 264). Гэта пацвярджае і РБС-93 і РБС-98 (Т. 1. С. 465).

Натуральны па-беларуску і ўстойлівы зварот *на заканчэнне* як адпаведнік рас. *в заключение*. Дарэчы, ён тут таксама згадваецца.

На жаль, гэтую норму беларускай мовы парушае і "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 214), скапіяваўшы артыкул "Заключэнне" з "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 185).

***У жывым эфіры — ці ў прамым эфіры?*** Па радыё апошнім часам чуем: "***У жывым эфіры*** — *перадача спаборніцтваў*..." Гэта значыць, ідзе беспасярэдная трансляцыя спаборніцтваў (а не перадача ў запісе). Удалая замена штучнага пазычання "ў прамым эфіры" (<в прямом эфире).

Наш нацыянальны друк у незалежнай Беларусі паспяхова пазбаўляецца ўсесаюзных стандартаў, замацоўваючы сваямоўныя намінацыі. Так, замест ранейшага "прамая трансляцыя" (<прямая трансляция) выкарыстоўваецца і

натуральнае *беспасярэдная трансляцыя*. Як і замест штучнага "хадзячая энцыклапедыя" натуральнае — *жывая энцыклапедыя*. Параўнайма: *жывыя грошы*.

Замест *прамы вагон* па-беларуску натуральна *бесперасадачны вагон*. На месцы *прамое значэнне — першаснае (даслоўнае) значэнне*, г.зн. тое, якое замацавалася за адпаведным гукаспалучэннем у самым пачатку ўзнікнення слова.

Натуральнае ў беларускай мове *простая прапарцыйнасць*, а не пазычанне *прамая прапарцыянальнасць* (<*прямая пропорциональность*).

***Прапазіцыйны, прапарцыйны — ці прапазіцыянальны, прапарцыянальны?*** Прыметнік *прапазіцыйны* ўтвораны ад назоўніка *прапазіцыя* (*прапазіцый-ны*), а *прапарцыйны* ад *прапорцыя* (*прапарцый-ны*). Гэтыя прыметнікі выразна стасуюцца з утваральнымі словамі, маюць празрыстую словаўтваральную будову: поўная аснова назоўніка плюс спрадвечнабеларускі словаўтваральны сродак (суфікс) *-н-*. Таму не выпадкова гэтыя матэматычныя тэрмінаадзінкі падаюць сёння галіновыя даведнікі. Так, "Русско-белорусский математический словарь" пад рэдакцыяй доктара фізічна-матэматычных навук, прафесара Я.Радыны (Мн.: Вышэйш. школа, 1993. 239 с.) фіксуе: "*пропорциональность — прапарцыйнасць, полиноминальное* — (размяшчэнне) — *паліномнае*, (отрезок) *симплициальный* — (адрэзак) *сімпліцыйны*, (отношение) *функциональное* — (дачыненне) *функцыйнае...*" I ў другім галіновым даведніку "Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" (Аўтары: Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень. Мн., 1993. 183 с.) чытаем: "*пропозициональный — прапазіцыйны, пропорционально — прапарцыйна*", а таксама "*синусоидальный — сінусоідны, сфероидальный — сфероідны, тероидальный — тэроідны*".

А вось акадэмічныя слоўнікі ўсё яшчэ паўтараюць ранейшыя — усесаюзныя — формы гэтых словаў у беларускай частцы перакладных слоўнікаў. На жаль, бачым іх і ў перавыданнях 90-х гадоў. Новы "Тлумачальны слоўнік" 1996 года таксама не ўлічыў рэаліяў суверэннай Беларусі і прадубляваў свайго пяцітомавага папярэдніка. А нярэдка перанёс на свае старонкі гэтыя і падобныя расійскія рэестравыя словы ці нават цэлыя слоўнікавыя артыкулы з расійскіх тлумачальных слоўнікаў. Так, у ТСБЛМ бачым: *прапарцыянальны* і вытворнае ад яго *прапарцыянальнасць* (с. 498).

***Дастасавальны, дастасоўны, прыдатны — а не прымянімы.*** Слова *прымянімы* небеларускае, пра што сведчыць і яго словаўтваральная структура (суфікс *-ім-* беларускай мове неўласцівы). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 511) засведчыў: "*Применимый — дастасавальны;* (пригодный) *прыдатны*". А вось яго двухтомавае перавыданне пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы (РБС-82. Т. 2) ужо адкідвае гэтыя адмысловыя беларускія адпаведнікі рас. *применимый* і падае расійскае слова і ў беларускай частцы. На с. 200 чытаем: "*применимый — прымянімы*". ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 515) поўнасцю пацвердзіў крыніцу гэтага слова ў беларускай мове. Параўнайма: 1) "*Применимый, -ая, -ое*. Такой,

который можно применить. *Вполне применимый способ.* / / сущ. *Применимость*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 527). 2) "*Прымянімы, -ая, -ае.* Такі, які можна прымяніць. *Прымянімы спосаб.* / / наз. *Прымянімасць*" (ТСБЛМ. С. 515). І гэта пры тым, што на с. 171 бачым сваё, натуральнае: "*Дастасавальны, -ая, -ае.* Такі, які можна дастасаваць. *Лёгка дастасавальны спосаб.* / / наз. *Дастасавальнасць*". Наступны лексікаграфічны артыкул гэтага слоўніка сведчыць: "*Дастасавацца* зак. *Прымяніцца, прыйсці ў адпаведнасць з чым-н.*"

Тэрміналагічныя даведнікі падаюць свае, беларускія адэкваты рас. *применимый*. Так, у згаданым "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" чытаем: *прыдатны — применимый* (с. 62), *дастасоўны — прикладной* і *дастасоўваць — применять* (с. 108), у РБСМ: *применимый — ужывальны*; (пригодный) *прыдатны*; *применяемость — ужывальнасць*; (пригодность) *прыдатнасць* (с. 79).

***Прыдатны і прыгодны.*** Слова *прыгодны* — утварэнне ад *прыгадзіцца* (*прыгод-ны*). Але такога дзеяслова не падае ніводны БРС (нават БРС-88, 89). Рас. *пригодиться* мае беларускі адпаведнік *спатрэбіцца* (РБС-53, РБС-82, РБС-93, РБС-98). Прыметнік *прыгодны* — пазычанне з расійскай мовы. Яму, як мы ўжо пераканаліся, адпавядае бел. *прыдатны*, што і засведчыў РБС-53 (с. 511). В.Ластоўскі таксама занатаваў: "*Пригодный — прыдатны, прыдатнасць, здатнасць*" (ПРК(Б)С. С. 546). БРС-26 падае гэтае слова з іншым значэннем: "*Прыгодны — полезный, выгодный*" (с. 252).

Але ж для "ўзбагачэння" беларускай мовы гэтае *прыгодны* РБС-53 (на с. 511 мы бачылі: "*пригодный — прыдатны*") асобным артыкулам падае: "*Пригодность — прыгоднасць, прыдатнасць; пригодный — прыгодны, прыдатны*" (с. 506). Гэты артыкул прадублявалі і ўсе яго перавыданні. А таксама БРС-62 і БРС-88, 89.

Штучнасць слова *прыгодны* яскрава выяўляецца з яго дэфініцыі: "*Прыгодны, -ая, -ае.* Які можа спатрэбіцца для чаго-н., *здатны* для чаго-н.; *прыдатны* для карыстання. *Прыгодны да вайсковай службы. Прыгодная для апрацоўкі зямля* / / наз. *Прыгоднасць*" (ТСБЛМ. С. 510). Падаючы гэты лексікаграфічны артыкул, "Тлумачальны слоўнік" 1996 года разам з тым фіксуе і наступнае: "*Прыдатны, -ая, -ае.* Такі, які мае патрэбныя якасці, які падыходзіць для каго-н., чаго-н.; *здатны* да чаго-н. *Прыдатны для яды. Прыдатная кандыдатура* / / наз. *Прыдатнасць*" (с. 511). Як бачым, сваё слова *прыдатны* перадае ўсе тыя значэнні, што і пазычанне *прыгодны*. Яно выразна матывуецца дзеясловам *прыдацца* 'аказацца патрэбным, спатрэбіцца, падысці' і словаўтваральна стасуецца з ім: *прыда(цца) → прыдатны*. Гэтыя словы шырока выкарыстоўваюцца класікамі беларускай літаратуры: "*У добрай гаспадарцы ўсё **прыдасца***" (Я.Брыль); "*Не ведаю толькі, як **прыдалася** да працы*" (Я.Колас); "*Каб я зусім не заглух у вёсцы, сябры пачалі клікаць мяне ў Мінск, абяцаючы падшукаць **прыдатную** работу*" (К.Крапіва); "*Дзед Сёмка маленькі, вяртлявы, бародка як моху касмык,* / /

*Прыдатны на смешныя справы, / / Вядомы дзівак-жартаўнік*" (Я.Колас).

Рас. *пригодный* мае тое значэнне, што і *годный*, якое па-беларуску перакладаецца таксама словам *прыдатны*: "*Годный — прыгодны, прыдатны*" (РБС-53. С. 99; РБС-82. Т. 1. С. 181; РБС-93 і РБС-98. Т. 1. С. 317). Як бачым, і гэтае беспрыстаўкавае слова мае тыя сама адэкваты, што і *пригодный*. В.Ластоўскі таксама засведчыў: "*Годный — здатны, прыдатны, надатны. Здатны, прыдатны да навукі, да работы, да ўжытку*" (ПРК(Б)С. С. 126).

Такім чынам, беларуская мова мае свае словы для перадачы адпаведнага значэння, якое ў расійскай азначаецца словамі *годный, пригодный*. Гэта лексемы *прыдатны, здатны* і *надатны* (ад *надавацца* 'падыходзіць'). І няма патрэбы пазычаць гэтыя *прыгодны, прыгоднасць*, маючы свае дакладныя іх адэкваты.

***Прыёмыш і прымук, прыймак.*** Тлумачальныя слоўнікі змяшчаюць слова *прыёмыш* без ілюстрацыі яго выкарыстання ў беларускіх тэкстах, перанёсшы гэты слоўнікавы артыкул з расійскамоўных тлумачальных слоўнікаў: "1) *Прыёмыш, -а,* м. (Разм.). Прыёмны сын або прыёмная дачка. *Узяць прыёмыша*" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 511). "2) *Приемыш, -а,* м. (разг.) Приемный сын или приемная дочь. *Воспитать приемыша*" (СРЯ. М., 1982. С. 523).

Штучнасць слова *прыёмыш* у тым, што яно парушае словаўтваральную сістэму беларускай мовы: нашай мове неўласцівы суфікс *-ыш*. Расійскамоўным утварэнням на *-ыш* адпавядаюць бел. з іншымі фармантамі: *-ак, -нік-, -к-і, -еч, -ун: заморак* (рас. *заморыш*), *зародак* (*зародыш*), *кормнік* (*выкормыш*), *абіркі* (*аборыш*), *сляпун* (*слепыш*), *малеча* (*малыш*) ды інш. Рас. *приёмный* звычайна натуральна адпавядае бел. *прыймовы, прыймальны* (РБС-53. С. 507) або *прыйманы* (утварэнне ад *прыймо- прием*. БРС-26. С. 254). Беручы усё гэта пад увагу, В.Ластоўскі так перакладае гэтае расійскае слова: "*Приёмыш — прыймак, прымук*" (ПРК(Б)С. С. 559). Натуральным тут можа быць *прынятка* — утварэнне ад *прыняты* (*прынятае* на выхаванне дзіця).

Як бачым, у беларускай мове ёсць свае адмысловыя словы (на месцы гутарковага рас. *приёмыш*) → *прынятка, прыймак, прымук*. На маю думку, найбольш прыдатнае слова *прынятка* 'прынятае на выхаванне дзіця'.

***Прашэнне і хадайніцтва, заява.*** Слова *прашэнне* — утварэнне ад *прасіць* (*прашу*): *праш-энне*. Яно выкарыстоўваецца класікамі беларускай літаратуры як афіцыйная назва дакумента пра хадайніцтва аб чым-небудзь. Напрыклад: "*Назаўтра напісаў Лабановіч **прашэнне** аб перамяшчэнні і стаў збірацца ў дарогу*" (Якуб Колас. На ростанях). Падаюць гэтае слова і нашыя тлумачальныя слоўнікі: "*Прашэнне,* н. Пісьмовае хадайніцтва аб чым-н. па афіцыйна ўстаноўленай форме. *Падаць прашэнне*" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 394). Аднак тлумачальныя слоўнікі чамусьці адгароджваюць гэтае слова стылёвай паметай "устарэлае", хоць у сучаснай маўленчай практыцы яно выкарыстоўваецца ў нацыянальным друку як слова актыўнай лексікі (замест афіцыйна-савецкіх *хадайніцтва* (рас. *ходатайство*), *заява* (<*заявление*). Новы "Тлумачальны слоўнік" "сфатаграфаваў" гэты артыкул з вы-

дання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 558): "*Прошение, -я*, ср. (уст.). Письменное ходатайство о чем-н. *Подать прошение*". І ў ТСБЛМ (с. 506): "*Прашэнне, -я*, н. (уст.). Пісьмовае хадайніцтва аб чым-н. / / *Падаць прашэнне*". Падганяецца беларускае слова пад расійскія (калі там застарэлае, значыць, такім яно ёсць і ў беларускай мове?).

***Найпрасцейшыя (заалаг.) — а не прасцейшыя.*** У чацвёртым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн., 1980. С. 373) чытаем: "*Прасцейшы, -ая, -ае.* 1. Выш. ст. прым. *просты...* 2. У знач. наз. *прасцейшыя,-ых. Тып аднаклетачных жывёлін*". Гэты артыкул перапісаны з кнігі "Словарь русского языка в четырех томах" (Изд. 2-е. М., 1984. С. 525): "*Простейший, -ая, -ее.* 1. Превосх. ст. к прил. *простой.* 2. В знач. сущ. *простейшие, -их.* Тип одноклеточных животных". Але калі ў расійскай мове тут усё нармаванае, усё зразумелае, то ў беларускай мове другое значэнне не стасуецца з першым. Тып аднаклеткавых жывёлінаў — гэта тып *найпрасцейшых*, першасных жывёлінаў. Рас. *простейшие* — калька грэц. *Protozoa*, дзе *protos* — першасны + *Zool* — жывёла, а таму тут заалагічны тэрмін дакладна перадае існасць паняцця 'першасны'. У беларускай мове *прасцейшыя* — гэта 'больш простыя' (за іншыя), але не *сама простыя*, не *першасныя* паводле сваёй прыроды. Таму па-беларуску тут нармалёва мусіць быць *найпрасцейшыя* або *першасныя*. Менавіта ў тэрміналагічных даведніках і бачым такую адпаведнасць: *простейший — найпрасцейшы* (Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 65). Аналагічныя формы з прыстаўкаю *най-* як адпаведнікі расійскіх бяспрэфіксавых з суфіксамі *-ш-,-ейш-/-айш-* бачым і ў "Анатомическом словаре" 1998 года (Мн.: Дызайн ПРО. С. 48, 53, 100, 188): *высший — найвышэйшы, длиннейший — найдаўжэйшы, низший — найніжэйшы, широчайший — найшырэйшы.* Такую выснову пацвярджаюць і перакладныя БРС: "*Найсвятлейшы* (о титуле) *светлейший; найсвятлейшы князь — светлейший князь;* (в знач. сущ. дорев.) *светлейший. Найсвяцейшы* (в титулах) *святейший*" (Беларуска-рускі слоўнік / Пад рэд. акадэміка К.Крапівы. Мн., 1988. С. 732).

На жаль, "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не ўлічыў практыку тэрміналагічных слоўнікаў, нацыянальнага друку суверэннай Беларусі, у ім бачым усё тое ж механічнае перапісванне з расійскіх слоўнікаў: "*Прасцейшыя* (спец.). Тып аднаклетачных жывёлін..." (с. 502). А нармаваным тэрмінам тут мусіць быць *найпрасцейшыя*, або *першасныя, аднаклеткавыя.*

***Пратрута — а не пратрава.*** Слова *пратрута* — бяссуфіксавае ўтварэнне ад *пратруціць: пратруц(іць) → пратрут-а* (з чаргаваннем *ц/т*). Дзеяслоў *пратруціць* (спец.) мае чатыры значэнні: "1) Выпаліць чым-небудзь едкім (кіслатой). *Пратруціць узор на медзі.* 2) Апрацаваць пратрутай. *Пратруціць тканіну.* 3) Спецыяльна апрацаваць для абеззаражвання перад сяўбой, пасадкай. *Пратруціць насенне.* 4) Труціць некаторы час" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 377). Слова *пратрута* мае той сама корань (*-трут-*), што

і слова *атрута, атруціць* (ЭСБМ. Т. 1. Мн., 1978. С. 202). У расійскай мове яму адпавядае *-трав-: отрава, отравить* і *протрава, протравить.*

Нашыя акадэмічныя слоўнікі побач з сваімі словамі падаюць і расійскамоўныя (толькі напісаныя па-беларуску). РБС-53 (с. 547): "*Протрава — пратраўліванне, пратручванне; протравитель* 1. (вещество) *пратрава, пратрута*". Згаданы "Тлумачальны слоўнік" падае дзеясловы *пратруціць* і *пратравіць* з тым сама значэннем, як і *пратрута* і *пратрава*. Але ж рас. *отрава* слоўнікі перакладаюць толькі так: "*Отрава* прям., перен. — *атрута, отравитель — атручальнік; отравить* сов. прям., перен. *атруціць*, мног. *Наатручваць*" ды інш. (РБС-93. Т. 2. С. 407).

Усё гэта сведчыць пра нарматыўнасць у беларускай мове ўтварэнняў з коранем *-трут-* (а не *-трав-): пратрута, пратруціць, пратручальнік* (а не *пратрава, пратравіць*)... "Тлумачальны слоўнік" 1996 года безаглядна дублюе словы *пратрута, пратруціць* пазычаннямі *пратрава, пратравіць* (с. 503). Параўн.: "*Пратруціць* зак., што. Тое, што і *пратравіць*".

***Прастаходны — а не прамаідучы.*** Пра тое, што ў 30—80-х гадах ішло вынішчэнне нацыянальнага, адметнага дзеля ўкаранення ўсесаюзнага стандарту, сведчаць і прыклады вось гэтага кшталту: "*Прямоидущий* прил. (только в терминологическом значении) *прамаідучы*"; "*прямостоящий* (прил. только в терминологическом значении) *прамастаячы*". Гэтыя ды іншыя "пэрлы" падае двухтомавы "Русско-белорусский словарь" 1982 года пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 2. С. 264), хоць яго папярэднік — РБС-53 не меў такіх перакладаў. Гэтыя штучныя структуры прадубляваныя і ў пазнейшых перавыданнях слоўніка (РБС-93, РБС-98). Бачым гэтае *прамаідучы* і на с. 496 "Тлумачальнага слоўніка" 1996 года ("прамаідучы" — перанесенае рас. *прямоидущий*, з прыстасаваннем да беларускай фанетыкі, але з парушэннем лексічна-словаўтваральных законаў беларускай нацыянальнай мовы). Па-беларуску тут мусіць быць: *прастаходны, прастастойны*, г.зн. 'той, што ходзіць, стаіць проста'. Параўн.: *пальцаходныя* (рас. пальцеходящие) у РБС-93 (Т. 2. С. 438).

***Дапаможны, дадатковы, другарадны, падможны — ці падсобны?*** Слова *падсобны* — ад *падсобіць (падсабляць)*. Але ж такія словы беларускай мове неўласцівыя. Рас. *подсобить, подсоблять* адпавядаюць у беларускай мове *памагчы, памагаць* (РБС-93. Т. 2. С. 622). Таму і да рас. *подсобный* бел. эквіваленты *дапаможны, дадатковы*. Фіксуючы гэтыя беларускія адпаведнікі, нашыя слоўнікі разам з тым падаюць і *падсобны*. На старонках РБС-53 чытаем: "*Подсобный — дапаможны, падсобны; подсобные рабочие — падсобныя (дапаможныя) рабочыя; подсобное хозяйство — дапаможная (падсобная) гаспадарка; подсобный заработок — дапаможны заработак; играть подсобную роль* перен. *іграць дапаможную ролю*" (с. 452). Гэты артыкул паўтарылі і ўсе наступныя яго перавыданні (РБС-82, РБС-93 ды інш.), дадаўшы яшчэ адзін беларускі адпаведнік — *дадатковы* (*дадатковы заработак*. РБС-93. Т. 2. С. 622).

"Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. Мн., 1979. С. 566), падаючы гэтае *падсобны*, тлумачыць яго так: "прызначаны ў дапамогу каму-, чаму-н.; *дапаможны; другарадны*". (І падаюцца ілюстрацыі з твораў Гроднева, Сапрыкі.) Бачым тут і вытворнае ад гэтага *падсобны* — назоўнік *падсобнік*. І дзеяслоў *падсобіць* — "трохі дапамагчы". Праўда, яно кваліфікуецца як дыялектнае.

Але ж з гэтым значэннем на с. 542 фіксуюцца дзеясловы *падмагаць* і *падмагчы: "Не журыся... Неяк будзе. Мы* ***падможам****.* Пестрак". Занатаваў слоўнік і лексему *падмога*, разм. *дапамога, падтрымка*. Бачым гэтае слова ў тэкстах славутых беларускіх пісьменнікаў: *"Варочаў глебу працавіты трактар, / / А на* ***падмогу*** *коні ды валы / / У гаспадарцы той былі.* Крапіва. *Ноччу на* ***падмогу*** *Белабародаву Сцяпан Фёдаравіч паслаў другую роту.* Мележ" (с. 545). Вось ад гэтага слова *падмога* натуральнымі ёсць і прыметнік *падможны*, і назоўнік *падможнік* (на месцы пазычанняў *падсобны* і *падсобнік*).

***Баханка — а не буханка.*** Адну штуку печанага хлеба беларусы называюць *баха́нка* і *бохан*. У жывой народнай мове *баханка* — гэта меншы бохан хлеба. Напрыклад, у зэльвенскіх гаворках: *"Той* ***бохан*** *можа і сыры, а гэтая* ***баханка*** *ўжэ сьпяклася"* (в. Грабава). Слова ведаюць украінская, польская, чэшская (стараж.) мовы. У старажытнай беларускай мове яно фіксавалася ў форме *бохон, бохан, бохен* (лічыцца пазычаннем з сярэдневерхненямецк. *vochnze, tochnze* 'від пірага або белы хлеб' (ЭСБМ. Т. 1. Мн., 1978. С. 374). У расійскай мове замацавалася форма *буханка* (звязаная, як мяркуюць этымолагі, з дзеясловам *бухнуть)*. Паводле структуры *баханка* — памяншальнае ўтварэнне ад *бохан (бахан-ка)*. Як і *баханец (бахан-ец)*. У слоўніках падаюцца дзве формы гэтага слова: натуральнае *баханка* і штучнае *буханка*. У РБС-53 у абедзвюх частках слоўнікавага артыкула тая сама форма, на с. 46 чытаем: "*Буханка* разг. *буханка, -кі*, ж". А на с. 194: "*Каравай* м. 1. *бохан*, м.; *буханка* ж.; 2. (свадебный) *каравай, -вая* м." Аднак БРС-62 і БРС-88 нармаванаю справядліва лічаць толькі форму *баханка*. На с. 204 (Т. 1. Мн., 1988) засведчана: "*Буханка* ж. разг. см. *баханка*". "*Баханка* ж. — *буханка*" (Там-сама. С. 176; БРС-62. С. 119). ТСБМ фіксуе абедзве формы: "*Баханка*, ж. Тое, што і *буханка*" (Т. 1. Мн., 1977. С. 350). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" 1996 года натуральнае формы *баханка* зусім не падае (хоць гэтае слова мае і дзве аднакаранёвыя адзінкі: *бохан, баханец*). На с. 98 чытаем: "*Буханка* ж. Адна штука печанага чорнага хлеба; *бохан* / / прым. *Буханачны*". Але як тут дастасаваць гэтае *буханка* з сінанімічным *бохан?*

І этымалагічна, і словаўтваральна нармаваным ёсць слова *баханка*, а не пазычанне (расійскае) *буханка*. Ад *баханка* — і форма прыметніка *баханкавы*.

***Абцас — а не каблук.*** Слова *абцас* з знач. рас. *каблук* зафіксаваў БРС-26. Тут падаюцца нават дзве яго формы: *абцас* і *абсац*. Акадэмічныя РБС засведчылі бел. *абцас* (і яго вытворныя) як адэкваты рас. *каблук* (і яго дэрыватаў): "*Каблук — абцас,-са*, м.; *держать под каблуком* (фал.) — *трымаць пад пятой; каблучный — абцасавы; каблучок* 1. уменьш. *абцасік,-ка* м."

(РБС-53. С. 190; РБС-93. Т. 1. С. 598). А вось БРС-62 фіксуе і слова *каблук* у абедзвюх частках слоўнікавага артыкула (с. 364). Праўда, яго двухтомавае перавыданне выпраўляе памылку. Тут фіксуецца толькі: "*Абцас* м. — ***каблук; трымаць (быць) пад абцасам — держать (быть) под каблуком***" (Т. 1. С. 51).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 85) падае: "*Абцас, -а,* м. Цвёрдая набойка на падэшве абутку пад пятой; ***каблук***". "*Каблук, -а,* м. Тое, што і *абцас. Стук* ***каблукоў****. Падбіць* ***каблукі***" (Т. 2. Мн., 1978. С. 569). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не фіксуе рээстравага слова ***каблук,*** але дэфініцыя слова *абцас* захавала тое, што было ў яго пяцітомавым папярэдніку: "Цвёрдая набойка на падэшве абутку пад пятой; ***каблук***" (с. 24).

Лексічнаю нормаю ёсць слова *абцас*. Яно фіксуецца БРС-88, РБС-93 і РБС-98. Этымолагі лічаць, што слова *абцас* (*<абсац*) непасрэдна прыйшло з нямецкай мовы (*<Absatz*) у выніку распаўсюджання нямецкага рамяства ў гарадах Беларусі (ЭСБМ. Т. 1. Мн., 1978. С. 61—62).

***Куфель — а не кружка.*** У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 140) чытаем: "*Гакнулі па тры* ***кружкі*** *піва*" (у артыкуле "Гакнуць"). Аднак слова *кружка* як рээстравага не падае нават гэты слоўнік. Рас. *кружка* мае чатыры адмысловыя беларускія адпаведнікі: "*Кружка* ж. 1. *конаўка;* (глиняная) *кубак;* (пивная) *куфаль;* 2. (для сбора денег) *скарбонка*". Гэты лексікаграфічны артыкул РБС-53 (с. 223) без зменаў падаюць усе яго перавыданні (напр., РБС-93. Т. 1. С. 692). Няма слова *кружка* і ў ТСБМ, і БРС-88, 89. Тут бачым: "*Куфель, -фля* м. — *пивная кружка*" (БРС-88. С. 628). "Тлумачальны слоўнік" (Т. 2. Мн., 1978. С. 764) засведчыў: "*Куфель, -фля* і *кухаль, -хля* м. Бакал для піва. *Па шкле* ***куфля*** *аплывала белая пена і шлёпалася пад ногі.* Лобан. *Сабе Апейка папрасіў* ***кухаль*** *піва*... Мележ".

Дык ці ёсць патрэба ў літаратурнай мове, якая мае шэраг сваіх адмысловых словаў, пазычаць гэтае — няпэўнай семантыкі — *кружка?* Але складальнікі ТСБЛМ настойліва прапануюць яго: "*Куфель,* м. Спецыяльная кружка для піва" (с. 309). Не выпадкова ў гэтым аднатомавым тлумачальным слоўніку столькі небеларускага, перапісанага з расійскіх слоўнікаў. (Пра гэта падрабязна ў маёй рэцэнзіі: "Набытае і страчанае. Да выхаду новага Тлумачальнага слоўніка" // Полымя. 1998. № 1. С. 227—249).

***Дзяя́ч ці дзе́яч?*** Назоўнікі на *-ач* маюць націск на гэтым суфіксе: *глядач, уцякач, слухач, чытач, рухач, галавач, гарлач, лабач, лупач, пузач, брыкач* ды інш. Дарэчы, у старажытнай беларускай мове фіксаваліся і іншыя словы на *-ач: выкладач, даглядач, дыспутач, змысляч* (гл. Старабеларускі лексікон. Мн., 1997). Пра натуральнасць акцэнтавання *дзяяч* сведчыць і форма жаночага роду *дзяячка*. Але ж у слоўнікі трапіла *дзе́яч* — супольнае акцэнтаванне з рас. *деятель*.

Сучасны нацыянальны друк вяртаецца да сваіх вытокаў. У ім бачым: *дзяяч* (як і *дзяя́чка*).

***Гласар і гласарый.*** У тлумачальных слоўніках фіксуецца: "*Глоса, -ы,* ж.

Тлумачэнне незразумелага слова або выразу, якое даецца на палях або ў самім тэксце старажытных і сярэднявечных рукапісаў. *Глосы ў скарынінскіх тэкстах* [ад гр. *Glossa* — устарэлае слова, якое патрабуе тлумачэння]" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 57). А на папярэдняй старонцы: "*Гласарый, -я, м.* Тлумачальны слоўнік малавядомых і ўстарэлых слоў да якога-н. тэксту, звычайна старажытнага [лац. glossarium]".

Але калі гэта слоўнік для *глосаў*, то натуральная форма яго наймення — *гласар (глас-ар)*, а не *гласарый*, бо беларускай мове неўласцівая фіналь *-ый(-ій)*. Недарэмна сучасны друк карыстаецца іншамоўнымі словамі без гэтай штучнай канцавіны *-ый / -ій*. Так, на старонках навукова-метадычнага часопіса Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Роднае слова" падаюцца: *сцэнар, каментар* (а не *сцэнарый, каментарый*). Дый у сучасных тэрміналагічных даведніках іншамоўныя словы не маюць гэтых штучных фінальных частак. Напрыклад, "Анатомический словарь (русско-белорусско-латинский, белорусско-латинский, латинско-белорусский)" (Мн., 1998) фіксуе беларускія адпаведнікі без гэтых штучных фіналяў: *ганглий — гангль* (с. 48), *гипонихий — гіпаніх* (с. 48), *мезотелий — мезатэль* (с. 79), *переганглий — параганглъ, параметрий — параметр* (с. 116), *периметрий — перыметр, примизий — прыміз, переневрий — перынеўр, перионихий — перыяніх* (с. 118), *перихондий — перыхонд* (с. 119), *эмиссарий — эмісар, эндометрий — эндаметр, эндомизий — эндаміз, эндоневрий — эндaнеўр, эндотелий — эндатэль* (с. 191), *эпиневрий — эпінеўр, эпителий — эпітэль, эпонихий — эпаніх* (с. 192).

Дарэчы, у дэфініцыях згаданых словаў *глоса, гласарый*, што падаюцца ў ТСБМ, бачым і іншыя небеларускія формы: *скарынінскія* тэксты — на месцы *скарынаўскія, грэчаскі* — замест *грэцкі*. Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) прадубляваў свайго папярэдніка, не ўлічыўшы практыку падачы іншамоўных словаў у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн., 1994) і ў кнізе "Назовы хімічных элементаў" Я.Міляшкевіча, З.Санько, А.Глушко (Мн., 1995). У ім бачым: "*Гласарый, -я*, мн., *-і, -яў*, м. Тлумачальны слоўнік устарэлых малазразумелых слоў, пераважна да старажытных тэкстаў // прым. *гласарыевы, -ая, -ае*" (с. 151). А слоўнікавы артыкул "Глоса" падаецца без аніякіх зменаў. Тут і тая самая ілюстрацыя: "*Глосы ў скарынінскіх тэкстах*". І гэта пасля таго, як у перыядычным друку нераз паказвалася штучнасць прыметніка *скарынінскі*. На месцы гэтай расійскай формы мусіць быць беларускае нарматыўнае *скарынаўскі* (як і *крапівоўскі, шамякінаўскі*), бо гэты прыметнік утвораны ад асновы назоўніка мужчынскга роду. Параўн.: *бацька — бацькаў*, але *матка — матчын*. Адсюль і *бацькоўскі*, але *мацярынскі*. Таму і ад (Францішак) Скарына — *скарынаўскі*.

***Займеннікавы — а не займенны***. Ад назоўнікаў — лінгвістычных тэрмінаў з фінальнаю часткаю *-нік* прыметнікі ўтвараюцца з дапамогаю суфікса *-ав-*, які далучаецца да поўнае (нескарочанае) утваральнае асновы: ***назоўнік — назоўнікавы, прыметнік — прыметнікавы, лічэбнік —***

*лічэбнікавы, прыназоўнік — прыназоўнікавы, злучнік — злучнікавы, выклічнік — выклічнікавы*. Да гэтага словаўтваральнага тыпу належыць і прыметнік *займеннікавы*. Гэтую натуральную форму засведчыў і спецыяльны даведнік. "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн.: Наука и техника, 1988. С. 50): "*местоименный — займеннікавы, займеннікавы дзеяслоў, займеннікавыя прыслоўі, займеннікавы прыметнік, займеннікавае скланенне, займеннікавыя формы прыметнікаў...*" Аднак акадэмічныя слоўнікі ўсё яшчэ падаюць застарэлую форму *займенны* як адпаведнік рас. *местоименный* (РБС-53. С. 254; РБС-82. Т. 1. С. 437; РБС-93 і РБС-98. Т. 2. С. 50). Фіксуе яго і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 317): "*Займенны, -ая, -ае*. Які мае адносіны да займенніка. *Займеннае скланенне. Займеннае прыслоўе*". Гэтая штучная форма *займенны* ўтварылася ад ранейшага *займя*, якое фіксуе БРС-26: "*Займя* н. — *местоимение*". Яно належыць да іншага словаўтваральнага тыпу, дзе ўтваральнае слова мае фіналь *-ие* і яна пры ўтварэнні прыметніка скарачаецца (адцінаецца); да скарочанае асновы далучаецца суфікс *-н-*: *местоимен-(ие) -ный, причастие — причастный, наречие — наречный*. Паводле гэтай мадэлі — з адцінаннем фіналі *-j-* — утварыліся тэрміны *прыслоў-ны* (ад *прыслоўе*) і *дзеепрыслоўны*. А таксама штучная форма *дзеепрыметны* (калька рас. *причастный*, ад *причастие*), пра якую ўжо ішла гаворка.

На жаль, новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) не выкарыстаў матэрыялы згаданага тэрміналагічнага даведніка па лінгвістыцы і механічна паўтарыў памылку свайго папярэдніка. На с. 212 бачым: "прыметнік *займенны*". А вось аўтарытэтны сучасны мовазнаўчы даведнік "Беларуская мова: Энцыклапедыя" (Мн., 1994. С. 212) падае натуральныя формы: *займеннікавыя назоўнікі, займеннікавыя прыметнікі, займеннікавыя лічэбнікі, займеннікавыя прыслоўі, займеннікавыя словы...*

***Адыгранае, адыгранка — а не адыгрыш.*** Як ужо згадвалася, суфікс *-ыш* беларускай мове неўласцівы (як і іншыя з элементам *-ш-*: *-аш-а, -ш-а, -уш-а, -ушк-а, -ыш-, -ышк-а, -яш*). *Адыгрыш* — гэта расійскае гутарковае слова *отыгрыш*, падагнанае пад беларускую фанетыку і марфеміку. Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі яго. У тлумачальных слоўніках падаецца без усякай ілюстрацыі з беларускіх тэкстаў, што таксама сведчыць пра яго штучнасць: "*Адыгрыш,-у*, м. Разм. Што-небудзь адыгранае (грошы, рэчы і пад.)" (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 197). Але ж калі гэта *адыгранае*, то і назоў яму такі — *адыгранка*. Як і *маляванае → маляванка, выцінанае → выцінанка* ды інш.

***Адштукаваць — а не адстроіць.*** Дзеяслоў *адстроіць* (кватэру) — гэта прыстаўкавае ўтварэнне ад *строіць*. Але беларускай мове ён неўласцівы. Рас. *строить* адпавядае бел. *будаваць*. А з значэннем 'хараша вырабіць, аздобіць' у беларускай мове бытуе дзеяслоў *адштукаваць* — утварэнне (з прыстаўкаю *ад-*) ад *штукаваць* 'выдумляць, майстраваць, вынаходзіць' (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. С. 403). Слова *адштукаваць* мае значэнні: "1. Прыдаць закончаны выгляд, хараша вырабіць. 2. Аздобіць, упрыгожыць, размаляваць. *Адштукаваць кватэру*" (ТСБМ. Т. 1. Мн., 1977. С. 195). Падаўшы гэты дзеяслоў, згаданы

слоўнік змяшчае і вось такое: "*Адстроіць*, зак. *Абгладзіць, агледзець; аздобіць. Адстроіць кватэру*" (Тамсама. С. 180). Дзе тут лексічная норма? Старадаўняе слова *штукаваць* мае шмат сваіх аднакаранёвікаў у беларускай мове: *штука, штукаваць, штукар, адштукаваць, выштукаваць* і вытворныя ад іх прыметнікі і дзеепрыметнікі. Гэтыя словы выкарыстоўваюцца ў творах класікаў нашай літаратуры і сучасных знакамітых пісьменнікаў. Дарэчы, гэта бачым і ў тэкстах-ілюстрацыях, што падаюць тлумачальныя слоўнікі. А вось слова *адстроіць* нічога гэтага не мае. Яно занатаванае без аніякага тэксту з твораў беларускіх пісьменнікаў. А прыклад-ілюстрацыя той сама, што і пры слове *адштукаваць* (гл. вышэй).

Усё гэта сведчыць на карысць адмысловага слова *адштукаваць* (а не *адстроіць*).

***Адклікаць і адазваць.*** Перакладныя слоўнікі падаюць першае слова (і вытворныя ад яго) як эквівалент рас. *отозвать* (і яго дэрываты). Так, "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т. 1. Мн., 1988. С. 79) засведчыў: "*Адкліканне* ср. 1. *отзыв* м.; 2. офиц. *отозвание, отзыв* м.; *права адкілкання — право отзыва. Адкліканы — отозванный. Адклікацца* несов. 1. (отвечать на зов) *отзываться*. 2. страд. *отзываться. Адклікаць* сов. 1. (заставить отойти) *отозвать;* 2. офиц. (прекратить функцию кого-л.) *отозвать. Адклікнуцца* сов. (ответить на зов) *отозваться*".

Як бачым, нават як афіцыйны тэрмін замацавалася беларускае слова. На жаль, тлумачальныя слоўнікі не трымаюцца зафіксаванае нормы і замяняюць гэтыя словы (з коранем *-клік-*) на *адазваць (<отозвать), вызваць*. Так, у ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 113, 536) чытаем: "*Адазваць*, зак. Тое, што і *адклікаць. Вызваць* зак. Тое, што і *выклікаць*". Недарэмна з дазволу гэтага слоўніка чытаем: "*Вызаў у суд. Вызаў таксі*" ды інш.

***Авечкагадоўля, авечкагадовец — а не авечкаводства, авечкавод.*** Галіна жывёлагадоўлі, дзе займаюцца гадоўляй авечак, мае назву *авечкагадоўля*, а спецыяліст па авечкагадоўлі — *авечкагадовец*. Ад назоўніка *авечкагадоўля* — і прыметнік *авечкагадоўчы*. Гэтыя беларускія лексемы засведчыў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 98). У расійскай мове ім адпавядаюць складаныя словы з другой часткай *-вод, -водство, -водческий*. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962. С. 43) засведчыў: "*Авечкагадовец, -доўца* м. — *овцевод; авечкагадоўля* ж. — *овцеводство* ср.; *авечкагадоўчы — овцеводческий*". Праўда, дзеля набліжэння да расійскай мовы тут падаюцца і *авечкавод (<овцевод)*. Але ж штучнасць яго непрыхаваная, бо *авечкавод* — гэта ўтварэнне ад "*авечкаводства*" (назва спецыяліста ў галіне "авечкаводства"), а гэтага слова слоўнік не падае. Не бачым яго і ў РБС-53, а толькі наступнае: "*Овцевод — авечкавод, -да,* м.; *овцеводство* ср. *авечкагадоўля,-лі,* ж.; *овцеводческий — авечкагадоўчы*" (с. 347). Без усякіх зменаў артыкул падаецца ўсімі наступнымі перавыданнямі гэтага перакладнога слоўніка (РБС-82, РБС-91, РБС-93, РБС-94, РБС-98).

Штучнасць гэтага *авечкавод* добра разумелі складальнікі ТСБМ і рэдак-

тар першага тома Мікола Лобан, таму на старонках слоўніка няма рэестравага слова "авечкавод" (яно стасуецца з словазлучэннем "вадзіць авечак"). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 28) фіксуе і гэтае штучнае слова: *"Авечкавод,-а,* м. Тое, што і *авечкагадовец"*. Праўда, вытворныя ад яго ў артыкуле яшчэ не падаюцца. А вось двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988. С. 58) знайшоў месца і для вытворных словаў. На с. 58 зафіксаванае: "*Авечкавод,* м. см. *авечкагадовец; авечкаводства* ср. см. *авечкагадоўля; авечкаводчы* см. *авечкагадоўчы*". Далей падаюцца: "*Авечкагадовец, -доўца,* м. — *овцевод; авечкагадоўля ж.* — *овцеводство* ср.; *авечкагадоўчы* — *овцеводческий*". Праўда, пры іншых намінацыях пэўных галінаў жывёлагадоўлі бачым толькі адно расійскамоўнае слова ў беларускай частцы артыкула. Так, на с. 119 засведчана: "*Аленегадовец, -доўца,* м. — *оленевод; аленегадоўля* ж. — *оленеводство,* ср.; *аленегадоўчы* — *оленеводческий; аленявод,* м. — *оленевод*". На месцы сучасных груваcткіх (складаных) найменняў галінаў сельскагаспадарчай вытворчасці ў 20-х гадах існавалі лаканічныя іх адпаведнікі: *айчарства* (на месцы *авечкагадоўля*), *свінарства* (*свінагадоўля*), *птушніцтва* (*птушкагадоўля*) (гл. Тэрміналагічны бюлетэнь. Вып. 2. Мн., 1999. С. 40). Дарэчы, і сучасныя слоўнікі захавалі найменне гэтага кшталту *пчалярства* (ад *пчаляр*, з выкарыстаннем суфікса *-ств-а*).

Так што замест гэтых штучных *авечкаводства* і *авечкавод* можна выкарыстаць і ранейшыя *айчар* і *айчарства*. Слова *айчар* фіксуе і БРС-26.

***Дзяліць, дзяліцца, выдзеліць, аддзяліць — ці чляніць, чляніцца, адчляніць?*** У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 48) чытаем: "*Адчляніць*, зак. Аддзяліць, вылучыць з цэлага асобныя часткі чаго-н. / / незак. *Адчляняць* / / наз. *Адчляненне*". *Адчляніцца* і *адчляняцца*... А на с. 747 яшчэ і вось гэта: "*Чляніцца*, незак. *Дзяліцца на асобныя часткі, члены; расчляняцца. Слова* ***чleніцца*** *на корань і суфіксы* / / зак. *Расчляніцца*".

Беларускія школьнікі, калі верыць гэтаму слоўніку, не *падзяляюць слова* на корань і афіксы, а "членяць" яго! Адкуль гэта? Крыніца ўсё тая ж — "Словарь русского языка" С.І.Ожагава (М., 1982. С. 788), дзе бачым: "*Члениться* (книжн.) несов. Делить на отдельные части; сов. *Расчлениться*". Аўтары ТСБЛМ нават "удакладнілі" С.Ожагава, бо, паводле іх меркавання, у слове "вычляняюцца" толькі корань і суфіксы. А як быць з прыстаўкаю і канчаткам? Іх не вылучаюць пры "чляненні" слова? Дый у слоўніку С.Ожагава пазначана кніжнасць слова "члениться", а нашыя аўтары-перапісчыкі ўжо знялі гэтае абмежаванне і зрабілі "чляніць" і вытворныя ад яго агульнапашыранымі. Але ці такімі ёсць гэтыя пазычанні ў беларускай мове? "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977) не падае гэтых небеларускіх *адчляніць, адчляняць, адчляненне, адчляніцца, адчляняцца*. Іх адпаведнікамі выступаюць *аддзяліць, аддзяляць, вылучыць, вылучаць* ды іх вытворныя.

***Буславы і буслiны — ці толькі бусліны?*** Прыметнікі з значэннем прыналежнасці маюць у сучаснай беларускай мове выразную заканамернасць у выкарыстанні словаўтваральных фармантаў: з суфіксам *-ав-(-аў, -оў, -ов-ы,*

*-ев-ы)* утвараюцца ад назоўнікаў мужчынскага роду, з *-ін(-ін-ы, -ын, -ын-ы)* — ад словаў жаночага роду: *бацька — бацькаў (бацькавага...), баба — бабін (бабінага...)*. Ад назоўніка *ліс* прыметнік *лісаў (лісавы)*, а ад *ліса — лісін (лісіны)*.

Ад *бусел* прыналежны прыметнік *буслаў*. У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 425) засведчана: "*Буслаў, -ава*. Які належыць буслу. *Буслава дзюба. На схіленай вершаліне хвоі красавалася старадаўняе **буслава** гняздо.* Колас". Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) ужо касуе гэтую норму. На с. 98 чытаем: "*Бусел, -а, -сла.* мн. *буслы, -оў,* м. / / прым. *бусліны, -ая, -ае. Б. клёкат*".

Прыметнік *буслаў* фіксуюць усе акадэмічныя слоўнікі: БРС-62: "*Буслаў — аистовый, аиста; буслава гняздо — гнездо аиста*" (с. 136); "*Буслаў — аиста, аистовый; буслава гняздо — гнездо аиста*" (БРС-88. С. 204). Форма *бусліны* звычайна мае пераноснае значэнне — 'як у бусла': *бусліныя ногі, буслiная хада*. БРС-53 не падае прыметніка ад слова *бусел*. Яго перавыданні рас. *аистовый* перакладаюць двума ўтварэннямі: *бусліны* і *буслаў* (РБС-82, РБС-93). А вось найноўшы тлумачальны слоўнік, як мы бачылі, ужо выганяе нармаваную форму, фіксуючы толькі *бусліны*. Але гэта пярэчыць словаўтваральнай сістэме беларускай мовы. Параўн. *зайцаў* (гл. вышэй), *асятровы* (гл. вышэй). Формы кшталту *бусліны* ўзніклі, відаць, па аналогіі з *лісіны*, дзе форма мужчынскага роду *ліс* менш ужывальная, а таму прыналежнае значэнне мае *лісіны* (утварэнне ад *ліса)*. Напрыклад, у БРС-88 (с. 647) чытаем: "*Лісіны* прям., перен. *лисий, лисиный; лісіны след — лисий след; лісіны каўнер — лисий воротник*".

***Бягуха (бягунка) — але не бягуння.*** "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі рас. *бегунья* перакладае як *бягуха* (с. 28). Гэты артыкул падаюць без зменаў (*бегунья — бягуха, -хі*, ж.) усе яго перавыданні (РБС-82, РБС-93, РБС-98 ды інш.). А вось "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 138) ужо касуе гэтую норму і падае толькі: "*Бягуння* ж. *бегунья*", гэта значыць падае тую сама лексему (расійскую), толькі падпарадкаваўшы яе беларускай фанетыцы (рас. *бегун/j/a* → бел. *бягун-ьja* → *бягуння*, дзе суфікс *-j-* у выніку асіміляцыі даў падоўжаны гук, які абазначаецца падвойнай літарай). Аднак двухтомавае яго перавыданне фіксуе ўжо два варыянты гэтай лексемы і нарматыўным вызнае адзін: "*Бягуння*, ж. разг. см. *бягуха; бягуха* ж. — *бегунья*" (БРС-88. С. 207). А вось ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 434) і ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 99) паўтараюць памылку БРС-62: падаюць расійскамоўную форму *бягуння*. І гэта прытым, што іншыя жаночыя адпаведнікі маюць у ТСБЛМ нарматыўную форму: *балбатун — балбатуха* (с. 80), *крыкун — крыкуха* (с. 303), *рагатун — рагатуха* (с. 532), *скакун — скакуха* (с. 600) ды інш.

Як спартовы тэрмін тут магчымае і ўтварэнне з фармантам *-к-а*, які далучаецца да асновы назоўніка мужчынскага роду: *бягун* і *бягунка, скакун* і *скакунка*. Як *спартсмен і спартсменка, чэмпіён* і *чэмпіёнка*. (Утварэнні на *-уха(-юха)* звычайна маюць дадатковае эмацыйна-ацэнкавае значэнне.)

***Знаходзіцца, быць — ці прабываць? Знаходжанне — ці прабыванне?*** Словаў *прабываць, прабыванне* не фіксуе БРС-62. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі гэтыя расійскамоўныя словы перакладае наступным чынам: "*Пребывание — знаходжанне, -ння,* ср.; *пребывать* несов. *(находиться) знаходзіцца, (быть) быць*" (М., 1953. С. 439). А перавыданне яго пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы (РБС-82) ужо "злівае" мовы. "*Пребывание — прабыванне, знаходжанне; пребывать* несов. книж. *прабываць, знаходзіцца; быць*" (Т. 2. С. 171). Прадубляваны гэты артыкул і ў наступных перавыданнях (РБС-93. Т. 2. С. 736). Бачым гэты русізм (стараславянскага паходжання з прыстаўкаю *пре-* на месцы *пере-*) і ў БРС-89 (с. 241).

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) справядліва не падае яго як рэестравага слова. Але на с. 119 бачым наступнае: "*Вучнёўства, -а,* н. *Прабыванне* ў становішчы вучня (у 1 і 2 знач.)". Адкуль гэтае *прабыванне?* А з вядомай, ужо неаднойчы згаданай, крыніцы: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 752): "*Ученичество* ср. *Пребывание* ■ *положении ученика* (в 1 и 2 знач.)". Дарэчы, на старонкі ТСБЛМ перанеслі і безліч іншых расійскамоўных словаў: *брадзяга* (бел. *валацуга, валачай, бадзяга*), *вадзіцель* (*шофер, кіроўца*), *выклеваць* (*выдзеўбці*), *гнілушка* (*гнілка*), *губчаты* (*губкаваты*), *рызіна* (*гума*), *дольчаты* (*долькавы*), *дымчаты* (*дымковы, дымчасты*), *загавор* (*змова*), *устарэлы* (*застарэлы*), *верацярпімасць* (*верацярплівасць*), *кляваць* (*дзяўбці, брацца, торкаць*), *дзешава* (*танна*), *зверавод, здзелка, здзельшчык, каленчаты* (*каленцавы*), *кампілятыўны* (*кампіляцыйны*), *кольчаты* (*кольцавы*), *рашаючы* (*вырашальны*)...

***Сечная — а не сякучая.*** У новым "Тлумачальным слоўніку" чытаем: "*Сякучая, -ай,* мн., *-ыя, -ых,* ж. У матэматыцы: прамая лінія, якая перасякае крывую. *Правесці сякучую*" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 647). Гэта — амаль поўная копія з СРЯ Ожагава: "*Секущая,* ж. В математике: прямая линия, пересекающая кривую (в двух и более точках)" (с. 631). А сучасныя матэматычныя даведнікі падаюць не штучнае *сякучая* (<рас. *секущая*), а натуральны яго адпаведнік *сечная*. Так, у "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" Т.Сухой, Р.Еўдакіменкі, В.Траццякевіча, Н.Гудзень (Мн., 1993. С. 72) засведчана: "*Секущая — сечная, секущий — сечны*". І "Русско-белорусский математический словарь" (Мн., 1993. С. 177) пацвярджае гэта: "*Секущая окружности — сечная акружнасці, сечная акружыны*". Тое сама бачым і ў "Руска-беларускім фізічным слоўніку" У.Самайлюковіча, У.Пазняка, А.Сабалеўскага (Мн., 1994. С. 214): *секущая — сечная.*

***Дыбы — ці хадулі?*** Слова *дыба,* ж. як адпаведнік рас. *ходуля* засведчыў "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 99). Тут побач падаецца і дзеяслоў "*дыбаць* — ходить, поднимаясь на ножные пальцы, медленно идти". Ад гэтага *дыбаць* нульсуфіксавым спосабам і ўтварыўся назоўнік *дыба* (мн. *дыбы*). Лексему *дыбы* як адэкват рас. *ходули* падае і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962). На с. 256 чытаем: "*Дыбы, -баў,* ед. *дыба,* ж. 1. *ходули;* 2. перен. ирон.

длинные ноги". Двухтомавае перавыданне слоўніка (БРС-88. С. 396) поўнасцю пацвярджае гэта. Апрача таго, тут бачым і аднакаранёвыя словы: "*Дыбаць* несов. разг. *идти, шагать; дыбачкі* і *дыбчыкі*". Падаюцца таксама ўстойлівыя звароты з гэтымі словамі: "*блізка відаць, ды далёка дыбаць* (посл.) — *глазам видно, да ногам обидно; хадзіць на дыбачках (дыбчыках) — ходить на цыпочках*".

Як бачым, слова *дыбы* (і яго вытворныя) маюць трывалую аснову ў беларускай мове (пра што сведчыць іх удзел у фраземах), а таксама натуральную структуру, чаго не скажаш пра слова *хадуля*. Слова *хадулі* не фіксуюць слоўнікі В.Ластоўскага, М.Байкова і С.Некрашэвіча, І.Насовіча. Але пяцітомавы "Тлумачальны слоўнік" не падае гэтага *дыбы* як эквівалента рас. *ходули*, а толькі *хадулі*. І доўгія ногі тут ужо не *дыбы*, а *хадулі* (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 169). Перакладныя РБС да рас. *ходули* падаюць два бел. адпаведнікі, дый на першым месцы — агульнасаюзны стандарт: "*Ходули* мн. *хадулі*, ед. *хадуля; дыбы*, ед. *дыба*" (РБС-53. С. 745; РБС-82. Т. 2. С. 572; РБС-93. Т. 3. С. 689). ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 188) фіксуе: "*Дыбы*, -аў, адз. *дыба*, -ы, ж. 1. Высокія шасты з прыступкамі для хадзьбы, не згінаючы ног. 2. перан., іран. Пра доўгія ногі". Тут падаюцца і словы *дыбаць* ('ісці мерна, ступою'), *дыбачкі, дыбкі*". Аднак бачым тут і *хадулі (=дыбы)* (С. 717). Аддзеяслоўныя ўтварэнні з суфіксам *-ул-я* літаратурнай беларускай мове неўласцівыя (гл. П.У.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн., 1977. С. 67—68).

Параўнальна *з дыбы* слова *хадулі* не ўтварае ўстойлівых зваротаў, не мае натуральных назоўнікавых вытворных, што і сведчыць пра яго пазычанасць.

***Ялавічына — а не гавядзіна.*** Слова *гавядзіна* лучыцца з праславянскім *govedo* 'буйная рагатая жывёла, скаціна'. Ад яго ўтворана *govendjь*, якое дало "говяжий" (ЭСБМ. Т. 3. Мн., 1985. С. 10). Па-беларуску тут натуральны прыметнік *гавяджы* (чаргаванне *д/дж*). Аднак у беларускай літаратурнай мове замацаваліся найменні *ялавічны, ялавічына* — утварэнне ад назоўніка *ялавіца* 'ялавая (бясплодная) карова': *ялавіц(а)-ін-а → ялавічына* (з чаргаваннем *ц/ч*).

Слова *ялавічына* як адпаведнік рас. *говядина* фіксуюць слоўнікі 20-х гадоў. В.Ластоўскі падае два беларускія адпаведнікі: "*Говядина*, ж. — *валавіна, ялавічына*" (ПРК(Б)С. С. 126). Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 99) таксама засведчыў: "*Говядина — ялавічына, -ны*, ж.; *говяжий — ялавічны*". Гэтую ж лексічную норму зафіксаваў і БРС-62: "*Ялавічына*, ж. — *говядина, говяжье мясо*" (с. 1046). І ў двухтомавым яго перавыданні таксама бачым: "*Ялавічына* ж. — *говядина*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 745). І тлумачальныя слоўнікі трымаюцца гэтае нормы: "*Ялавічына*, ж. Мяса каровы як ежа. *Наварыць ялавічыны*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. С. 500). У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 781): "*Ялавічына,-ы*, ж. Мяса каровы як ежа // прым. *ялавічны, -ая, -ае*".

Слова *гавядзіна* падаецца тлумачальнымі слоўнікамі толькі як абласное. Такім яго засведчылі і перакладныя БРС. У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы чытаем: "*Гавядзіна* ж. обл. говядина" (БРС-62. С. 196). І ў двухтомавым перавыданні: "*Гавядзіна, ж.* обл. говядина" (БРС-88. С. 302). "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" зусім не фіксуе рэестравага слова *гавядзіна*. Тут бачым толькі: "*Гавяджы*, дыял. 'жывёльны, для жывёлы" (ЭСБМ. Т. 3. Мн., 1985. С. 10). Гэты прыметнік — *гавяджы* — як дыялектнае слова падаюць таксама БРС-62 і БРС-88 з наступнай кваліфікацыяй: "*Гавяджы* обл. *скотный; для скота; гавяджы хлеў — скотный хлев*" (БРС-88. С. 302).

Здзіўляе ў звязку з гэтым другое і наступныя перавыданні РБС-53, у якіх ужо бачым расійскамоўнае слова і ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула: "*Говядина — ялавічына,-ны*, ж, *гавядзіна,-ны*, ж." (РБС-82. Т. 1. С. 181). Тут падаецца і прыметнік *гавяджы* як сінонім да *ялавічны*. Але ж гэтае "гавяджы" не ёсць адпаведнік рас. *говяжий*, бо апошняе — адэкват рас. *скотный* (БРС-88. С. 302). *Гавяджы* — (дыял.) прыметнік ад *гавяда* (дыял.) 'буйная рагатая жывёліна' (Тамсама). Усё гэта сведчыць пра механічны перанос у беларускую мову расійскамоўных словаў, на месцы якіх нашая мова мае свае адмысловыя словы — *ялавічына* і *ялавічны*. Гэтае лексічнае нормы і трэба трымацца.

На жаль, і "Тлумачальны слоўнік" 1996 года змяшчае бязглуздае *гавяджы* як вытворнае ад *гавядзіна*. Але ж як яно магло ўтварыцца ад *гавядзіна?* Тут было б *гавядзін-ны* ці *гавядзін-авы*, але не *гавяджы*, бо яно, як мы ўжо пераканаліся, ад *гавяда* (як і *мядзведжы* ад *мядзведзь*).

***Злучнікавае слова ці злучальнае слова?*** У сучасных граматыках і лінгвістычных даведніках выкарыстоўваецца сінтаксічнае вызначэнне *злучальнае слова*. Аднак семантыка яго досыць няпэўная. Тлумачальныя слоўнікі не пацвярджаюць такога значэння ў слове *злучальны* і не фіксуюць аналітычнай лексемы *злучальнае слова*, хоць іншыя граматычныя (сінтаксічныя) тэрміны і тэрмінаэлементы тут падаюцца. Так, прыметнік *злучальны* фіксуецца з наступнымі значэннямі: "1. Які служыць для злучэння чаго-н.; прызначаны для злучэння. *Злучальная трубка*. 2. Які служыць для злучэння частак складанага слова. *Злучальная галосная* / / Які служыць для злучэння аднародных членаў сказа або частак складаназлучанага сказа. *Злучальныя злучнікі* / / Які паказвае на злучэнне (у 5 знач.). *Злучальная сувязь*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 482). Бачым тут і вызначэнне часціны мовы: "*Злучнік, -а*, м. Службовае слова, якое ўжываецца для сувязі слоў і сказаў. *Злучальныя злучнікі. Падпарадкавальныя злучнікі*" (Тамсама. С. 483). У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 243) зафіксавана: "*Злучнік, -а*, мн. *-і, -аў*, м. У граматыцы: службовае слова, якое ўжываецца для злучэння сказаў і слоў унутры сказа / / прым. *злучнікавы, -ая, -ае*". У гэтым артыкуле бачым і вытворнае (ад *злучнік*) слова *злучнікавы* (адпавядае рас. *союзный*), што пацвярджае магчымасць тэрміна *злучнікавае слова* — адэкват рас. *союзное слово*. Беларускія нетэрміналагічныя (акадэмічныя) даведнікі

не падаюць прыметніка *злучнікавы*, а толькі: "*Злучальны* 1. биол., грам. *соединительный; злучальная галосная — соединительная гласная;* 2. грам. *сочинительный; злучальная сувязь — сочинительная связь; злучальная тканка — соединительная ткань*" (БРС-88. С. 521—522). З гэтага вынікае, што тэрмін *злучальнае слова* адпавядае рас. "*соединительное слово*" або "*сочинительное слово*". Але такіх тэрмінаў няма, а ёсць паняцце (і яго тэрміналагічнае выяўленне) — *союзное слово*, г.зн. слова, якое выконвае функцыю гэтай часціны мовы (*союза*) і захоўвае сваё першаснае значэнне.

Пра натуральнасць тэрміна *злучнікавае слова* сведчаць і адпаведныя беларускія адэкваты расійскамоўных тэрмінаў: *союзное местоимение — злучнікавы займеннік; союзное наречие — злучнікавае прыслоўе*, якія бачым у даведніку "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн.: Наука и техника, 1988. С. 114).

Менавіта з гэтым значэннем выкарыстоўваецца намінацыя *злучнікавае слова* і ў наступным выпадку, які фіксуе "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы": "*Дзе* 1. займ., прысл. і *злучнікавае слова*. У якім месцы. *Дзе вы працуеце? Горад, дзе я жыў...*" (с. 175).

Прааналізаваны матэрыял сведчыць, што намінацыя *злучнікавае слова* дакладна перадае той сэнс, які ў расійскай мове выяўляецца тэрмінам *союзное слово*. Беларускі тэрмін *злучальнае слова* невыразны, ён не выяўляе адэкватнай семантыкі. Таму варта замяніць яго на новы — *злучнікавае слова*. Гэты тэрмін выразна перадае паняцце пра сінтаксічную (граматычную) катэгорыю, дзе займеннікі і займеннікавыя прыслоўі, не губляючы сваёй семантыкі, выконваюць дадатковую функцыю злучніка.

***Пратокавы і праточны.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Праточны, -ая, -ае*. 1. гл. *пратока*. 2. Пра ваду, вадаём: цякучы, не стаячы. *Праточная вада. Праточнае возера*" (с. 503). Але ж калі гэта прыметнік ад *пратока*, то больш выразным тут будзе *пратокавы*. А калі гаворка ідзе пра ваду, то тут натуральныя сінонімы да *праточны працякальны, нестаялы*. Параўн.: "*Стаялы... Стаялая вада (не праточная)*" (ТСБМ. Мн., 1996. С. 627). Але ж замест гэтага бачым перапісанае з расійскіх слоўнікаў. Параўн.: "*Проточный, -ая, -ое*. О воде, водоеме: текущий, не стоячий. *Проточная вода. Проточный пруд*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 556). І ў пяцітомавым ТСБМ (Т. 4. Мн., 1980. С. 376) — усё перапісанае з "Словаря русского языка в 4 томах" (Т. 3. С. 537): "*Проточный, -ая, -ое*. Текущий, не стоячий (о воде) // С текучей, не стоячей водой". І ў беларускім слоўніку: "*Праточны, -ая, -ае*. Цякучы, не стаячы (пра ваду) // З цякучай, не стаячай вадой" (с. 376).

Але ж у расійскай мове формы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану маюць розныя суфіксы: *-уч-(-юч-)*, *-ач-(-яч)* для прыметнікаў і *-ущ-(-ющ-)*, *-ащ-(-ящ-)* у дзеепрыметніках. У беларускай мове гэтыя дзве розныя катэгорыі словаў супалі і выклікаюць невыразнасць семантыкі саміх тэкстаў.

***Застарэлы, састарэлы і ўстарэлы.*** У тлумачальных слоўніках фіксуюцца ўсе тры аднакаранёвыя словы з living рознымі прыстаўкамі (як і іх утваральныя дзеясловы). ТСБЛМ (с. 277) падае: "*Застарэць,* зак. (разм.) Закаранець, устарэць. *Метады кіраўніцтва* ***застарэлі***. *Застарэлы* (разм.). Закаранелы, невылечны, непапраўны. *Застарэлая хвароба. Застарэлыя звесткі*". На с. 587 бачым: "*Састарэлы, -ая, -ае.* 1. Які стаў стары. *Састарэлы чалавек. Дом для састарэлых.* 2. перан. Які перастаў быць сучасным, *устарэлы. Састарэлы метад*". Далей чытаем: "*Састарэлы* гл. *старэць*". На с. 626 зафіксавана: "*Старэць* незак. 1. Рабіцца старым. *З гадамі чалавек старэе.* 2. Станавіцца ўстарэлым. *Тэхніка старэе* / / зак. *састарэць* (да 1 знач.) і *ўстарэць* (да 2 знач.). Яшчэ далей (с. 698) прачытаем: "*Устарэлы, -ая, -ае.* Які не адпавядае сучасным патрабаванням, выйшаў з ужытку, моды. *Устарэлы погляд. Устарэлае слова* / / наз. *Устарэласць*". Гэтыя артыкулы з рэестравым словам *устарэлы* і *састарэлы* — з "Словаря русского языка" С.І.Ожагава ("*Устарелый, -ая, -ое.* Вышедший из употребления, не соответствующий современности. *Устарелый взгляд. У. Обычай* / / *сущ. Устарелость*" (с. 747). "*Стареть,* несов. 1. Становиться старым. 2. Становиться устарелым" (с. 679). "*Застарелый, -ая, -ое.* Укоренившийся, неизлечимый, неисправимый. *З. ревматизм. З. предрассудок*" (с. 197).

Аднак гэтыя слоўнікавыя артыкулы "Тлумачальнага слоўніка" 1996 года (перапісаныя, як мы пераканаліся, з "Словаря русского языка" С.Ожагава) не адпавядаюць рэчаіснасці. Пяцітомавы яго папярэднік засведчыў слова *застарэлы* якраз з тым значэннем, якое мае небеларуская структура з прэфіксам *у-*. У другім томе (Мн., 1978. С. 389) чытаем: "*Застарэлы...* 3. Які не адпавядае сучасным патрабаванням, нормам. *Застарэлыя звесткі*".

Як бачым, беларуская мова мае сваё, натуральнае структуры слова *застарэлы* з тым значэннем, што і рас. *устарелый.*

Бачым тут побач з *застарэлы* і яго ўтваральны дзеяслоў: "*Застарэць,* зак. 1. Укараніцца, стаць несапраўдным. *Хвароба застарэла.* 2. Стаць неадпаведным сучасным патрабаванням, нормам. *Трэба аджывіць школу, бо спосабы... заняткаў (Лабановіча) так* ***застарэлі***, *што напэўна перасталі быць цікавымі для дзяцей* (Якуб Колас)".

Як бачым, свае, натуральныя словы, якімі карысталіся класікі беларускай літаратуры і якія актыўна ўжываюцца сучасным нацыянальным друкам, слоўнікі чамусьці падаюць як гутарковыя, а стылёва нейтральнымі ўзаконьваюцца ўсесаюзныя з прыстаўкаю *у-* (*устарэць, устарэлы*). Але, як мы не раз казалі, утварэнні з гэтым прэфіксам для беларускай мовы нехарактэрныя.

***Лядачы, лядашчы, састарэлы, трухлявы, спарахнелы — а не драхлы.*** У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн., 1996. С. 184) чытаем: "*Драхлы, -ая, -ае.* Слабы, нядужы ад старасці. *Драхлы стары* / / наз. *драхласць, -і,* ж." Аднак пяцітомавы яго папярэднік гэтага слова не фіксуе. Затое бачым яго ў аднатомавым "Словаре русского языка" С.Ожагава: "*Дряхлый, -ая, -ое.* Слабый, немощный от старости. *Дряхлый старик* / / сущ. *дряхлость, -и,* ж." (М., 1982. С. 161). ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 71) падае з гэтым

значэннем словы *лядачы* і *лядашчы*: "*Лядашчы* 1. Кволы, хілы, нядужы, слабы. 2. Стары, струхлелы; збуцвелы". І перакладныя слоўнікі пацвярджаюць гэта: "*Лядашчы* 1. (о человеке) дряхлый; одряхлелый, одряхлевший... 2. (о предмете, вещи) дряхлый, обветшалый, ветхий" (БРС-88. С. 656). Дарэчы, і аднатомавы ТСБЛМ (с. 325) занатаваў гэта: "*Лядашчы*... 1. Кволы, слабы, хілы. 2. Стары, струхлелы, збуцвелы".

Слоўнікі 20-х гадоў таксама не фіксуюць слова *драхлы*. А вось даведнікі 30—80-х гадоў ужо падаюць яго (разам з адмысловымі беларускімі), да таго ж на першым месцы. РБС-53: "*Дряхлый — драхлы, лядашчы, стары; трухлявы, спарахнелы*" (с. 129). Гэты артыкул з невялікімі зменамі паўтораны ў наступных яго перавыданнях. РБС-82 (Т. 1. С. 233): "*Дряхлый* (о человеке) *драхлы, лядачы, лядашчы, стары,* (о предмете) *трухлявы, спарахнелы*". Тое сама і ў РБС-93 (Т. 1. С. 410).

Дык ці ёсць патрэба ў пазычанні гэтага *драхлы*, калі беларуская мова мае значны шэраг сваіх адмысловых лексемаў для выяўлення адпаведнага значэння: *лядачы, лядашчы, кволы, састарэлы, трухлявы, спарахнелы?*

***Збан — але не жбан.*** Беларускае слова *збан* як адпаведнік рас. *жбан* падаюць амаль усе беларускія акадэмічныя слоўнікі: "*Жбан — збан.* род. *збан,* м." (РБС-53. С. 134). Тое сама ў РБС-82 (Т. 1. С. 241), РБС-93 і РБС-98 (Т. 1. С. 424). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года (с. 323): "*Збан,* род *збан* м. — *кувшин, жбан, кринка*". Тут бачым і вытворныя словы: *збанок — кувшинчик, крыночка і збаночак* (Тамсама). Двухтомавае перавыданне (БРС-88. С. 496) захоўвае гэты артыкул. Праўда, тут ужо бачым і форму *жбан,* але як нелітаратурную: "*Жбан,* род *жбан,* м. обл. см. *збан*". Гэта пацвярджае і ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 255), дзе *жбан* і *жбанок* кваліфікуюцца як дыялектныя: "*Жбан, -а,* м. абл. *Збан. Жбанок, -нка,* м. абл. Збанок".

***Замóва — а не загавор.*** Слова *замова* як эквівалент рас. *зáговор* было замацаванае беларускай навуковаю тэрміналогіяй. Вып. другі. "Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва". Яго засведчыў і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 112): "*Замова,* ж. — *заговор.* $HT_2$". Падае яго і РБС-62 (с. 296): "*Замова* ж. (заклинание) *заговор,* м." Бачым тут і аднакаранёвы дзеяслоў: "*Замовіць* сов. (заклясть) *заговорить; замовіць ад хваробы — заговорить от болезни*". Двухтомавае яго перавыданне таксама занатавала: "*Замова* ж. этн. (закликание) *зáговор* м. *Замовіць* сов. этн. (заклясть) *заговорить; замовіць ад хваробы — заговорить от болезни*" (БРС-88. С. 457). І першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі засведчыў: "*Заговор* этн. *Замова, -ы, ж.*" (М., 1953. С. 142). І наступныя яго перавыданні занатавалі гэта: "*Загавор,* м. II этн. *замова, -ы, ж.*" (РБС-93. Т. 1. С. 449).

Як бачым, усталявалася лексічная норма. І ў ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 349) гэта засведчана: "*Замова,* ж. Набор слоў і выразаў, якому забабонныя людзі прыпісваюць магічную сілу; заклінанне. *Вярталіся бацькі дамоў, / / Агляд-валі старыя сохі / / Пад шэпты дзедаўскіх замоў.* Глебка". Але ж аднато-

мавы ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 208) ужо падае: "*Загавóр*[2], м. У забабонных уяўленнях: магічныя словы, якія маюць гаючую, лекавую сілу. *Загавор ад болю зубоў*". Адкуль такое пярэчанне выпрацаванай лексічнай норме? Усё задтуль — з даведніка "Словарь русского языка" С.Ожагава, дзе чытаем: "*Заговор*[2], м. По суеверным представлениям: магические слова, обладающие колдовской или целебной силой. *Заговор от болезни*" (М., 1982. С. 180). Дый навошта спатрэбілася яно — гэтае *загавор*, калі на с. 219 падаецца натуральнае беларускае нармаванае слова: "*Замова*, ж. Паводле забабонных уяўленняў: магічныя словы, якія валодаюць чароўнай або гаючай сілай. *Замова ад хваробы* // прым. *замоўны. Замоўныя словы*". Дарэчы, гэтае парушэнне літаратурнае лексічнае нормы бачым і ў ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 294), дзе таксама гэтыя *загавор*[1] і *загавор*[2] перанесеныя з расійскіх тлумачальных слоўнікаў (хоць больш познія па часе выдання слоўнікі — РБС-93, РБС-94 не падаюць *загавор*, а толькі *замова*). І яе пасляхова рэалізоўвалі ТСБМ і БРС-88, 89. У БРС-88 у абедзвюх частках слоўнікавага артыкула тыя сама словы: "*Загавор I (тайное соглашение) зáговор; Загавор II (заклинание) зáговор*" (БРС-88. С. 428). Засталося толькі... напісаць аднолькава. Але ж у БРС-62 гэтага няма. У гэтым слоўніку толькі: "*Замова — зáговор*" (гл. вышэй).

***Змова* — ■ *не загавор*.** Слова *змова* "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 491) падае з наступным азначэннем: "*Змова, -ы*, ж. Тайнае пагадненне некалькіх асоб аб сумесных дзеяннях супраць каго-н., чаго-н. для дасягнення пэўных палітычных мэт. *Насельніцтва пачало ўсё больш і больш пераконвацца, што гэта дума з'яўляецца новай* ***змовай*** *буржуазіі і самаўладства*. Колас. // Тайны загавор, дамоўленасць. *Дык гэта і ёсць* ***змова*** *дваіх супроць трэцяга*. Крапіва". Гэтае слова з адэкватным значэннем фіксуе і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962. С. 342): "*Змова*, ж. (тайное политическое соглашение) *заговор*, м.; *сговор* м.; *контррэвалюцыйная змова — контрреволюционный заговор*". Гэты артыкул захаваны і ў двухтомавым перавыданні слоўніка (БРС-88. С. 526). У абодвух слоўніках бачым і аднакаранёвыя словы: *змовіны — помолвка, сговор; змовіцца — сговориться; падпальшчыкі вайны* ***змовіліся*** *дзейнічаць разам — поджигатели войны сговорились действовать вместе; змоўнік і змоўшчык — заговорщик, змоўніца і змоўшчыца — заговорщица, змоўніцкі — заговорщицкий, змоўленасць — сговоренность* (БРС-26. С. 342—343; БРС-88. С. 526). Як бачым, слова *змова* мае трывалыя карані ў беларускай мове. Перакладныя РБС таксама падаюць гэтае слова як адэкват рас. *сговор, заговор*. У слоўніках В.Ластоўскага, М.Байкова і С.Некрашэвіча бачым толькі *змова* як адпаведнік рас. *заговор*. А вось акадэмічныя перакладныя слоўнікі 50—80-х гадоў да рас. *заговор* падаюць у беларускай частцы ўжо два словы: сваё *змова* і *загавор* (рас.< *заговор*). Так, у РБС-53 бачым: "*Заговор* м. (тайное соглашение) *загавор, змова*". І вытворныя расійскія словы маюць па два адпаведнікі: "*Заговорщик* —

*загаворшчык, змоўшчык; заговорщица — загаворшчыца, змоўшчыца; заговорщицкий — загаворшчыцкі, змоўніцкі"*. Аднак двухтомавае яго перавыданне ўжо не падае гэтых расійскіх дублетаў (вытворных ад *загавор*). У ім бачым: *"Заговорщик — змоўшчык; заговорщица — змоўшчыца, заговорщицкий — змоўніцкі"* (РБС-82. Т. 1. С. 255). Без усякіх зменаў захаваны гэты артыкул і ў РБС-93 і РБС-98 (Т. 1. С. 449). Няма гэтых *загаворшчык* і *загаворшчыца* і ў ТСБМ. А вось слова *загавор* яшчэ захоўваецца, дублюючы расійскую частку слоўнікавага артыкула ў РБС: "*Заговор*[1]. Тайнае пагадненне. *Загавор*[2]. Тое, што і *замова*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 294). БРС-62 таксама падае *загавор — заговор*. Але іншых словаў тут няма. А яго двухтомавае перавыданне (БРС-88) фіксуе толькі *загаворшчыцкі*, а астатнія русізмы — усе тут (с. 429). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 208) ужо апярэдзіў і свайго папярэдніка: у ім бачым не толькі *загавор*[1] і *загавор*[2], але і *загаворшчыка* і *загаворшчыцу*. І гэта пры тым, што на с. 245 засведчаныя натуральныя беларускія лексемы: *змоўнік* і *змоўніцкі*, *змоўшчык* і *змоўшчыцкі*.

***Варажыць і гадаць.*** В.Ластоўскі засведчыў: "*Гадать*, дазнавацца невядомага варажбой: *варажба, варажыць, варажбіт*" (ПРК(Б)С. С. 115). БРС-88 зафіксаваў гэтае слова з наступнымі рас. адпаведнікамі: "*Варажыць* несов. 1. *гадать, ворожить; варажыць на картах — гадать (ворожить) на картах*; 2. (*строить догадки*) *гадать*; 3. *предрекать, предсказывать*; 4. разг. *привлекать, зачаровывать, чаровать, завораживать*; 5. перен. разг. *колдовать; скульптар **варажыў** над глінай — скульптор **колдовал** над глиной*". Тут бачым і аднакаранёвыя словы: *варажэнне — гадание; варажбітны — гадальный* ды інш. (с. 219). Слова *гадаць* гэты слоўнік падае з наступным вызначэннем: "*Гадаць* несов. 1. (предполагать) *гадать*; 2. обл. *гадать, ворожить*" (с. 303). Гэтае нормы пільнуюцца ўсе акадэмічныя РБС: "*Гадать* несов. 1. *варажыць*; 2. (предполагать) *варажыць, меркаваць*" (РБС-53. С. 93). "*Гадалка — варажбітка, гадание — варажба, варажэнне*" (Тамсама). Гэты артыкул паўтораны і ў наступных перавыданнях. Так, у двухтомавым "Русско-белорусском словаре" 1982 года пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы чытаем: "*Гадалка — варажбітка, варожка, гадальный — варажбітны, гадальщик — варажбіт, гадальщица — варажбітка, варожка; гадание — варажба, варажэнне; гадать* несов. 1. *варажыць*; 2. (предполагать) *варажыць, меркаваць, гадаць*" (Т. 1. С. 168). Без усякіх зменаў гэты артыкул падаюць і апошнія слоўнікі: РБС-93 і РБС-98 (Т. 1. С. 293).

А вось тлумачальныя слоўнікі парушаюць гэтую норму, перанёсшы на свае старонкі слова *гадаць* з расійскіх слоўнікаў. Напрыклад, у ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 139) бачым копію артыкула з СРЯ Ожагава: "*Гадаць* незак. 1. У забабонных людзей: даведацца пра будучае або мінулае (па картах ці па якіх-н. прыметах. *Гадаць на картах*. 2. Меркаваць (разм.) / / зак. *Пагадаць*". І ў расійскім слоўніку: "*Гадать* несов. 1. У суеверных людзей: узнавать будущее или прошлое (по картам); 2. Строить догадки, предположения / / сов. *Погадать*".

***Дамаўленне, заручыны — а не згавор.*** Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 614) засведчыў: "*Сговор* м. 1. *дамаўленне*, неодобр. *змова*; 2. (помолвка) *заручыны*". І ў БРС-26: "*Змовіны* ж. — мн. — *сговор*" (С. 128). Бачым тут і: "*Змова* ж. — 1) *уговор, соглашение*; 2) *заговор*". Але няма гэтага "згавор", якое ў 80-х гадах запанавала на месцы *змова (дамова), дамаўленне*. РБС-82 ужо падае: "*Сговор* 1. *Згавор; згаворванне*, неодобр. *змова*; 2. уст. (помолвка) *заручыны*". Бачым тут і: "*Сговоренность — згаворанасць; дамоўленасць*, неодобр. *Змоўленасць*" (Т. 2. С. 368). Гэты артыкул паўтораны і ў выданнях 90-х гадоў: РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 318). А БРС-88 (с. 507) пайшоў на поўнае "зліццё моваў" у гэтым выпадку. Тут чытаем: "*Згавор, -ру*, м. в разн. знач. *сговор*".

***Наросхрыст — а не нараспашку.*** Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі засведчыў: "*Нараспашку* нареч. *наросхрыст; душа нараспашку — душа наросхрыст, шчырая душа*" (М., 1953. С. 286). Гэты артыкул паўтораны і ў РБС-82 (Т. 1. С. 491). Тут дадаецца толькі адна ілюстрацыя: *жить нараспашку — жыць раскошна*. Поўнасцю паўтораны гэты артыкул і ў пазнейшых перавыданнях (РБС-93 і РБС-98. Т. 2. С. 146). БРС-62 таксама занатаваў: "*Наросхрыст* нареч. *Нараспашку*" (с. 494). "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. Мн., 1979. С. 301) так выяўляе значэнне гэтага слова: "*Наросхрыст*, прысл. Расшпіліўшыся, раскінуўшы краі адзежы". Падаецца пры гэтым слове і ўстойлівы зварот: *душа наросхрыст*. На дзіва бачым тут (с. 298) і вось такое: "*Нараспашку*, прысл. Тое, што і *наросхрыст*". Але ж гэты дублет не мае свайго кораня ў беларускай мове. Рас. *нараспашку* ад *распахнуть*, якому ў беларускай мове адпавядае: "1. (окно, дверь) *расчыніць*, мног. *Парасчыняць*" (РБС-93. Т. 3. С. 204). "Беларуска-рускі слоўнік" (Т. 1. Мн., 1988. С. 751) не лічыць гэтае *нараспашку* за нарматыўную лексічную адзінку і адсылае да нарматыўнага *наросхрыст*. Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 373) безаглядна паўтарыў свайго папярэдніка, хоць усе астатнія беларускія слоўнікі нарматыўным лічаць сваё слова *наросхрыст* (як адпаведнік рас. *нараспашку*). Яно — утварэнне ад *расхрыстацца — распахнуться; расхрыстаны — распахнутый* (БРС-89. С. 399). І гэта пры тым, што на с. 374 ТСБЛМ падаецца і наступнае: "*Наросхрыст*, прысл. Расшпіліўшыся, раскінуўшы краі вопраткі. *Паліто наросхрыст. Душа наросхрыст* (перан.: пра адкрытага, шчырага чалавека)".

***Маслены выключацель.*** Што гэта такое? "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 336) падае: "*Маслены*... Які працуе на масле. *Маслены выключацель*". Як зразумець беларусу гэтае "маслены выключацель"? Беларуская ж мова мае назоўнік *выключальнік* (а не ўтварэнне з неўласцівым ёй суфіксам *-цель*), што бачым і ў гэтым слоўніку на с. 126: "*Выключальнік, -а*, м. Прыстасаванне для выключэння і ўключэння электрычнага току". Апрача таго, хіба дэталі прыстасаванняў змазваюць маслам, а не аліваю? Вось якую неразвязальную задачу задаюць чытачу складальнікі ТСБЛМ! А ўсё праз тое, што

спадарыня З.Кудрэйка ішла не ад беларускай маўленчай практыкі, а ад расійскае, дзе не адрозніваецца *тлушч* рознага кшталту і прызначэння. Беларусы ж не атаясамліваюць *масла* і *алей* ці *аліву* (яны маюць сваю, адметную сферу выкарыстання). А вось З.Кудрэйка (з згоды рэдактараў слоўніка) ліквідавала і *алей*, і *аліву*, аддаўшы ўсё лексеме *масла*. Адсюль і *маслены выключальнік* (ці як у яе артыкуле — *выключацель*).

Засталося толькі не адрозніваць розныя віды тлушчавага адкладання ў целе жывёльнага арганізма і прадукту з гэтага рэчыва, што ў расійскай мове абазначаецца адной лексемай *сало*. Дарэчы, у выніку механічнага перапісвання слоўнікавых артыкулаў з расійскіх тлумачальных слоўнікаў бачым на старонках ТСБЛМ і гэта. На с. 581 чытаем: "*Сальная свечка (з сала)*". Гэта з рас. *сальная свеча (из сала)*, якое падае "Словарь русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 617). Беларусы свечкі рабілі з *лою*, а не з *сала*. Нагадаем, што рас. *сало* ў беларускай мове адпавядаюць словы-найменні розных відаў гэтага жывёльнага тлушчу: "*Сало* ср. (жир) *тлушч;* (свиное) *сала;* (нутряное, свиное) *здор;* (баранье, говяжье) *лой;* (гусиное) *шмалец;* (жидкое, топленое) *тук*". Гэтыя беларускія адэкваты рас. *сало* засведчыў двухтомавы "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (Мн., 1982. Т. 2. С. 347). Згаданы слоўнікавы артыкул без аніякіх зменаў падаюць і РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 279).

***Падліковец, лічыльнік і лічыльшчык.*** "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. Мн., 1979. С. 56) падае два апошнія словы з наступнымі вызначэннямі: "*Лічыльшчык*, м. Той, хто робіць падлік каго-, чаго-н. *Лічыльшчыкі па перапісу насельніцтва; Лічыльнік*, м. Апарат для аўтаматычнага ўліку чаго-н. *Газавы лічыльнік. Лічыльнік таксі*". Гэты артыкул паўтораны і ў ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 321). Дэфініцыі гэтых словаў і ілюстрацыі супадаюць з расійскамоўным артыкулам "*Счетчик*", дзе бачым лексему *счетчик* з двума значэннямі — 'асоба' і 'прылада' (СРЯ Ожагава. С. 697). Беларускія лексікографы вырашылі размежаваць гэтыя значэнні і замацаваць іх за асобнымі словамі: асабовае значэнне за вытворным з фармантам *-льшчык (лічы-льшчык)*, а неасабовае — за словам з суфіксам *-льнік (лічы-льнік)*. Гэта засведчыў і РБС-53 (с. 673) і БРС-62 (с. 422). Аднак наступныя перавыданні РБС-53 ужо не трымаюцца такога размежавання і падаюць: "*Счетчик* 1. (лицо, подсчитывающее что-л.) *лічыльнік;* 2. (прибор) *лічыльнік; электрический счетчик — электрычны лічыльнік...*" (РБС-82. Т. 2. С. 462).

Гэты артыкул цалкам паўтораны і ў РБС-93 і ў РБС-98 (Т. 3. С. 489). І гэта натуральна, бо ўтварэнні з суфіксам *-льшчык* беларускай мове неўласцівыя. Аднак з асабовым значэннем больш прыдатнае тут *падліковец* (утварэнне ад *падліковы, падлік)*. Бо асоба, якая робіць падлік, і мусіць мець адпаведную назву — *падліковец*. ТСБМ (с. 413) падае: "*Падліковы, -ая, -ае*. Які служыць, прызначаны для *падліку. Падліковая камісія*". БРС-89 (с. 49) занатаваў: "*Падліковец*, м. — учетчик. *Падліковы* (служащий для счета) *счетный;* (служащий для подсчета) *учетный; падліковая камісія — счётная комиссия; падліковыя аперацыі — учетные операции*".

Такім чынам, натуральнымі ў беларускай мове ёсць словы: *падліковец* — асоба, якая робіць *падлік* (*падліковец перапісу насельніцтва*), і *лічыльнік* — прыбор (*лічыльнік электраэнергіі*). Як і *лічыльнікі* (=рас. *счеты*).

***Сухадарожны, сухаземны, сухаезны — ці сухапутны?*** Прыметнік *сухапутны* з рас. *сухопутный*, якое ўтворана ад *сухой путь* (*сухо-пут-ный*). Слоўнікі 20-х гадоў падавалі сваямоўныя адпаведнікі. Так, В.Ластоўскі занатаваў: "*Сухопутный — сухаземны, сухаезны*" (ПРК(Б)С. С. 694). У "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 306) засведчана: "*Сухадарожны — сухопутный*". І гэта добра стасуецца з самой паняткаваю існасцю гэтых намінацыяў. Аднак слоўнікі 50—80-х гадоў перайшлі на ўсесаюзны стандарт. Але ці стасуецца тут гэтая намінацыя: "*Сухапутны, -ая, -ае*. 1. Які праходзіць па сушы, размешчаны на ёй. 2. Які жыве або расце на сушы. 3. Які адбываецца на сушы // Які дзейнічае на сушы" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 397). "*Сухапуцце, -я*, н. Разм. Суша, зямля, а таксама дарога па сушы" (Тамсама). У прыкладах-ілюстрацыях, што падаюцца з гэтымі пазычанымі словамі, прапанаваныя слоўнікамі 20-х гадоў адпаведнікі натуральна кладуцца: "1. *Усё роўна граніца ці* ***сухапутная*** (***сухадарожная*** — *П.С.*) *ці марская, яна павінна ахоўвацца з усёй пільнасцю.* 2. *Пазней беларускія купцы накіроўваліся ў заходнееўрапейскія краіны ўжо* ***сухапутным*** (***сухаезным***) *шляхам праз Польшчу і Германію.* 3. *Чайкі скардзіліся на нахабнае парушэнне* ***сухапутнай*** (***сухаземнай*** — *П.С.*) *птушкай іхніх марскіх межаў*".

Слова *сухапуцце* (< *сухопутье*) таксама мае сваямоўныя адэкваты. Калі гэта "*дарога па сушы*" — *сухадарожжа*, а калі "*суша, зямля*" — то *сухазем'е*. І ў прыкладзе-ілюстрацыі яны добра стасуюцца: "*Унізе, на бязмежным чорным фоне зямлі разляглася агромністая прасціна Выганаўскага возера. Самалёт крыху збочвае ад яго на* ***сухапуцце*** (***сухазем'е*** — *П.С.*)".

Сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае згаданыя сваямоўныя словы: *сухаземны, сухаезны, сухадарожны* (*шлях*); *сухадарожжа, сухазем'е* (на месцы пазычанняў *сухапутны, сухапуцце*): "*У выніку Беларусь і сёння застаецца* ***сухаземнай*** *краінай*" (Міхась Скобла. Дзярэчынскі дыярыюш. Мн., 1999. С. 147).

***Цеплыня — а не цяплынь.*** Адпрыметнікавыя назоўнікі ўтвараюцца ў беларускай мове з выкарыстаннем суфікса *-ін-я*(*-ын-я*): *глыбокі — глыбіня, шырокі — шырыня, доўгі — даўжыня, ціхі — цішыня, высокі — высачыня* і *вышыня, цёплы — цеплыня*. Акадэмічная "Беларуская граматыка" (Ч. 1. Мн., 1981. С. 248) засведчыла гэты тып словаўтварэння. Утварэнні на *-ынь*(*-інь*) беларускай мове неўласцівыя. У названай граматыцы яны нават не згадваюцца. А вось тлумачальныя слоўнікі знайшлі месца і для іх. На с. 740 новага "Тлумачальнага слоўніка" (Мн., 1996) чытаем: "*Цяплынь, -і*, ж. Тое, што і *цеплыня* (часцей пра надвор'е)". Гэта — перанесенае з расійскамоўных тлумачальных слоўнікаў: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 706): "*Теплынь, -и*, ж. (разг.). Очень теплая погода. *На улице теплынь*". Нашыя

перакладныя РБС не падаюць *цяплынь* у беларускай частцы слоўніка (яго бачым толькі ў расійскай). РБС-53: "*Теплынь* ж. разг. — *цеплыня, -ні, ж.*" (с. 68). У перавыданнях слоўніка таксама няма гэтага *цяплынь*. РБС-82: "*Теплынь* ж. разг. — *цеплыня, цяпло, цеплата*" (Т. 2. С. 475). Гэты артыкул без аніякіх зменаў падаюць і самыя новыя слоўнікі: РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 513). Гэта толькі асіміляцыйныя слоўнікі "з' ядналі мовы". БРС-89: "*Цяплынь* ж. (о погоде) *теплынь*" (с. 688).

А норму вызначыў яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 342): "*Цяплыня ж. — теплынь, тепло, теплота*". Калі ж трымацца тлумачальных слоўнікаў і БРС-89, то ўжо мусіць быць і *шырынь, даўжынь, цішынь, глыбінь* ды пад. Але ж нармаваная форма адпрыметнікавых назоўнікаў мае канцавую частку *-ыня(-іня): цеплыня, цішыня...*

***Галлё, ламачча — а не хвораст.*** Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі зафіксаваў: "*Хворост* 1. *Галлё, ламачча*; (сырые березовые ветви) *хвораст;* 2. кул. *хрушчы*, ед. *хрушч, хруст; хворостина — дубец, хворостинник* обл. *хмызняк*" (М., 1953. С. 742). Гэты артыкул амаль без зменаў захаваўся ў яго двухтомавым перавыданні (РБС-82. Т. 2. С. 567). РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 681) зусім не падаюць гэтага *хвораст* у беларускай частцы слоўнікавага артыкула. Тут бачым: "*Хворост* м. 1. *Сухое галлё*; (сырые березовые ветви) *вецце;* 2. кул. *хрушчы*, ед. *хрушч; хворостина — дубец; хворостинник* обл. *хмызняк*". Гэтае лексічнае нормы і трэба трымацца. Але ў перакладных БРС бачым і вось такое: "*Галлё* собир. ср. 1. *ветви, ветки;* 2. *хворост*" (БРС-62. С. 199). "*Ламачча*, собир. ср. 1. *лом;* 2. *валежник, хворост*" (Тамсама. С. 412). А на с. 993: "*Хворост*, собир. (ветви для веника, метлы), *прутья* мн." Гэтыя артыкулы прадубляваныя і ў двухтомавым БРС-88, 89 (Т. 1. С. 307, 633; Т. 2. С. 664). А ў тлумачальных слоўніках надзіва вось гэтакае: "*Хвораст* зб. Сухія галінкі з дрэў або хмызняку // Галінкі для веніка, мятлы. *Нарэзаць хворасту на венікі*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 190). Новы "Тлумачальны слоўнік" ужо не фіксуе гэтага *хвораст* з значэннем 'вецце на венікі', а толькі "*хвораст*, зб. Сухія галінкі, адпаўшыя з дрэў або хмызняку. *Падпаліць печ хворастам.* // прым. *хварасцяны*". Гэта — копія з выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 766): "*Хворост*, собир. Сухие отпавшие ветви деревьев... *Топить хворостом.* // прил. *хворостяной*".

Як бачым, гэтае *хвораст* механічна перанеслі з расійскамоўных слоўнікаў, дзе фіксуюцца і вытворныя словы: "*Хворостина* ж. Длинный, сухой прут, ветка. *Подгонять козу хворостиной*" (Тамсама).

***Страта, шкода — а не ўрон.*** Слова *ўрон* не фіксавалі слоўнікі 20-х гадоў. В.Ластоўскі занатаваў: "*Урон*, м. — *страта, упад*" (ПРК(Б)С. С. 727). Няма гэтага слова *ўрон* і ў БРС-26. Рас. *урон* (=потеря, ущерб, убыль) (СРЯ: В 4 т. Т. 4. М., 1984. С. 513) нашыя слоўнікі перакладаюць па-рознаму. РБС-53, падаючы беларускія яго эквіваленты, разам з тым паставіў гэтае слова на першым месцы і ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула. На с. 721

чытаем: "*Урон, м. — урон, страта, шкода*". Яго двухтомавае перавыданне адсоўвае *ўрон* на апошняе месца: "*Урон — страта, шкода, урон*" (РБС-82. Т. 2. С. 537). Прадубляваны гэты артыкул і ў пазнейшых выданнях: РБС-93 (Т. 3. С. 625).

Штучнасць гэтага *ўрон* вынікае ўжо з таго, што вытворныя ад яго ў беларускай мове не выкарыстоўваюцца, а расійскія маюць іншакаранёвыя беларускія адэкваты. Так, РБС-82 занатаваў: "*Уроненный* 1. *упушчаны; выпушчаны; згублены; скінуты*; 2. *страчаны*; *Уронить* сов. 1. *упусціць, выпусціць, згубіць, скінуць*; 2. перен. (слово) *кінуць, сказаць*; 3. (слезу) *выраніць*; 4. (голову) *апусціць*, мног. *паапускаць*; 5. перен. (достоинство, авторитет) *страціць*" (с. 537). Як бачым, толькі ў адным выпадку тут фіксуецца аднакаранёвае слова: *выраніць (слязу)*. Але беларус і тут кажа: *пусціць слязу* (гл. БРС-89. С. 337). Гэты артыкул цалкам паўтораны і ў самых апошніх па выданні слоўніках: РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 625).

А вось тлумачальныя слоўнікі і БРС-88, 89 даюць волю і гэтаму штучнаму дублету *ўрон*. Так, на с. 619 другога тома БРС-89 чытаем: "*Урон, -ну* м. *урон; ущерб; потеря* ж." ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 49): "*Урон, -у*, м. Страта, шкода... *Прамысловасці Беларусі быў нанесен значны ўрон...*" Як бачым, і ілюстрацыя — штучная (калька рас. ... *был нанесен значительный урон*). А натуральныя лексемы *страта, шкода* — адпаведнікі рас. *урон* — маюць ілюстрацыі з тэкстаў знакамітых майстроў слова: "*Памёр ляснічы наш!.. То пойдзем, браце, // Паплачам хоць па сваёй **страце**.* Колас. *О, як ён рад быў зноў, калі сваю пабачыў **страту**.* Танк. *Атрад сарваў планы немцаў на ўчастку фронту, многа зрабіў ворагу **шкоды**.* Чорны".

З прааналізаванага вынікае: літаратурнаю лексічнаю нормаю ёсць словы *страта, шкода* (але не *ўрон*).

***Паспешлівы, паспешны, шпаркі — а не таропкі.*** У аднатомавым "Тлумачальным слоўніку" чытаем: "*Таропкі, -ая, -ае.* Схільны спяшацца; хуткі, паспешны. *Таропкі чалавек. Таропкія крокі //* наз. *таропкасць*" (с. 654). Гэты артыкул перанеслі з ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 479). А туды ён трапіў з 4-томавага "Словаря русского языка" (М., 1957—1961), дзе падаецца: "*Торопкий*. Прост. То же, что и *торопливый*". Рас. *торопкий* — ад *торопиться (тороп-к-ий)*. Сучасныя слоўнікі расійскае мовы амаль не фіксуюць гэтага прастамоўнага слова (яго не падае "Словарь русского языка" С.Ожагава). Затое складальнікі аднатомавага ТСБЛМ надумалі "ўзбагаціць" беларускую мову гэтым нелітаратурным расійскім словам. Літаратурным тут выступае рас. *торопливый*, якому адпавядаюць іншакаранёвыя беларускія адпаведнікі. Так, РБС-82 засведчыў: "*Торопливый* 1. (склонный, привыкший торопиться) *паспешлівы; торопливый человек — паспешлівы чалавек;* 2. (быстрый, поспешный) *паспешны, паспешлівы; шпаркі; торопливые шаги — паспешныя (паспешлівыя, шпаркія) крокі*" (Т. 2. С. 486). Гэты артыкул цалкам паўтораны і ў выданнях РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 533). Тут бачым і ўтваральныя дзеясловы: "*Торопить* несов. *падганяць; прыспешваць;*

*торопиться — спяшацца*, а таксама *торопливость* 1. *паспешлівасць;* 2. *паспешнасць, шпаркасць*".

Як бачым, няма падставы засмечваць літаратурную беларускую мову гэтымі штучнымі *таропкі* і *таропкасць*.

***Пайназначны — а не знамянальны.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Знамянальны,-ая,-ае.* 1. Важны, значны. *Знамянальныя падзеі. Знамянальная дата.* 2. У мовазнаўстве: які мае самастойнае значэнне; проціл. *службовы. Знамянальныя часціны мовы.* / / наз. *знамянальнасць*" (с. 246). Гэты артыкул — копія з "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 208): "*Знаменательный, -ая, -ое.* 1. Важный, значительный. *Знаменательная дата. Знаменательные события.* 2. В языкознании: обладающий самостоятельным значением; противоп. *служебный. Знаменательные слова.* / / сущ. *знаменательность*".

А між тым у акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953) не было гэтага *знамянальныя часціны мовы.* На с. 167 чытаем: "*Знаменательный...* 2. грам. *называльны; знаменательные части речи — называльныя часціны мовы*". І гэта надта дакладна: *называльныя часціны мовы* — тыя, што *называюць* прадметы, іх прыметы (якасць, колькасць, працэсавую адзнаку), а *службовыя* гэтых уласцівасцяў не маюць: яны абслугоўваюць называльныя часціны мовы. Недарэмна іх яшчэ называюць паўназначнымі. "*Пайназначныя часціны мовы* (іначай *самастойныя) маюць пэўнае самастойнае значэнне (называюць прадметы, іх колькасць, якасць, дзеянне) і выконваюць ролю членаў сказа... Службовыя часціны мовы выконваюць не самастойную, а толькі службовую ролю...*" (Беларуская мова. Ч. 1. Падручнік для навучэнцаў педвучылішчаў і каледжаў. Мн.: Вышэйш. школа, 1998. С. 144).

Гэтае *знамянальны* — рас. *знаменательный* (з выкінутым *-тель-).* Згаданы РБС-53 падае і свае, беларускія адпаведнікі: "*Знаменательный* 1. *Паказальны, характэрны*"; "*Знаменательность — паказальнасць, характэрнасць*". У расійскай мове шмат аднакаранёвых словаў: *знамя, знаменатель, знаменовать, знамение* ды інш., да якіх нашая мова мае свае іншакаранёвыя адэкваты. Да прыкладу: *знаменовать — азначаць, сведчыць; знаменоваться — азначацца, выяўляцца; знаменитый — славуты; знамение — знак, адзнака, сімвал; знамя — сцяг* ды інш. (Тамсама). Аднак слоўнікі 60—80-х гадоў пайшлі на замену беларускіх словаў на расійскія. Так, у БРС-62 ужо чытаем: "*Знамянальны...* 2. грам. *знаменательный; знамянальныя часціны мовы — знаменательные части речи*" (с. 345). А ў ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 499) і такое: "*Знаменаваць.* Кніжн. Азначаць што-н., сведчыць аб чым-н. *Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя знаменавала сабою пачатак новай эры...*" Праўда, ТС-96 яшчэ не падае гэтага *знаменаваць.* РБС-93 сведчыць: "*Знаменовать* несов. *азначаць* (што), *сведчыць* (аб чым, пра што); *знаменоваться — азначацца, выяўляцца*" (Т. 1. С. 530). А вось *знамянальны* бачым і тут (побач з *паказальны, характэрны*) як адэкват

рас. *знаменательный*. І "знамянальныя часціны мовы". Толькі што яны "знамянуюць"?

***Галіна навукі — а не вобласць.*** Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 76) засведчыў: "*Галіна* ж. — *ветвь; веды — область знания.* $НТ_2$". Гэта замацавала "Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва". Падае гэтае слова і БРС-62: "*Галіна*... 3. Отрасль, область; *у галіне прыродазнаўства — в области естествознания*" (с. 199). Пацвярджае гэта і БРС-88: "*Галіна́*, мн. *галіны* ж. 1. *Отрасль, область*" (с. 307). І перакладныя РБС фіксуюць гэта: "*Область*... 5. перен. (сфера, отрасль) *галіна, абсяг; область знаний — галіна ведаў*" (РБС-93. Т. 2. С. 279). А вось як тлумачыцца гэтае слова ў ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 19): "*Галіна́*, *-ы*, ж. Асобная *вобласць* навукі, вытворчасці і пад.; пэўная сфера заняткаў, дзейнасці". Бачым гэтае *вобласць* і ў ТС-96: "*Галіна*, ж... Асобная *вобласць* навукі, дзейнасці, творчасці" (с. 142). Дык адкуль гэтая *вобласць?* З "Словаря русского языка" Ожагава, дзе чытаем: "*Отрасль* 3. Отдельная область деятельности, науки, производства" (с. 422).

***Танна, таннець — а не дзешава, дзешавець.*** У ТС-96 чытаем: "*Затанна* прысл. (разм.). За невысокую цану, надта *дзешава*" (с. 228). Ці нарматыўнае гэтае слова *дзешава?* "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (БРС-62) фіксуе слова *дзешава* і яго аднакаранёвыя *дзешавець* і *дзешавей* толькі з адсылкаю да нарматыўных беларускіх адпаведнікаў. На с. 245 чытаем: "*Дзешава* нареч. см. *танна; Дзешавей* нареч. сравн. ст. см. *танней; Дзешавець* несов. см. *таннець*". Паводле прадмовы слоўніка, калі "загаловачнае слова або якое-небудзь яго значэнне без перакладу адсылаецца да другога слова, гэта значыць, што спасылачнае слова, хоць і сустракаецца ў літаратуры, аднак знаходзіцца за межамі літаратурнай мовы і не рэкамендуецца да ўжывання" (Тамсама. С. 9. "Значэнне спасылак"). Гэтую кваліфікацыю згаданых словаў бачым і ў двухтомавым перавыданні — РБС-88 (с. 379). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 114) зусім не падае ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула гэтых словаў (а толькі ў расійскай).

Тут чытаем: "*Дешеветь* несов. *таннець; дешевизна* разг. *таннасць; купить по дешёвке — купіць танна, купіць за бясцэнак (за бесцань)*; перен. *тандэт, безгустоўнасць, пусцяковіна; Дешевле* сравн. ст. 1. нареч. *таней;* 2. прил. *танейшы; эта сумка дешевле — гэта сумка танейшая; Дёшево* нареч. *танна; а дёшево и сердито — танна і добра; дёшево отделаться — лёгка адрабіцца (адчапіцца); Дешёвый*, прям., перен. *Танны*". І вытворныя прыстаўкавыя словы адэкватна перакладаюцца. "*Продешевить*, сов. разг. *працаніць, танна (затанна) прадаць; продешевлённый* разг. *пратанены; продешевлять* несов. разг. *пратаньваць, (затанна) танна прадаваць*" (Тамсама. С. 528).

Наступныя перавыданні гэтага слоўніка амаль нічога не дадаюць да таго, што зафіксаваў РБС-53. Толькі ва ўсіх словах з коранем *-тан-* пішуцца дзве

літары *н*: *таннець, танней, таннейшы* (гл. РБС-82. Т. 1. С. 208; РБС-93. Т. 1. С. 365—366).

А "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 171) пайшоў на парушэнне лексічнай нормы, змясціўшы словы *дзешавець, дзешавізна* з наступнай іх кваліфікацыяй: "*Дзешавець, -ее;* незак. Паніжацца ў цане, станавіцца дзяшовым. *Тавары дзешавеюць; Дзешавізна, -ы,* ж. Разм. Нізкі ўзровень цэн". І далей, на с. 183: "*Дзяшовы, -ая, -ае.* Які мала каштуе, недарагі, танны; *Дзяшоўка.* Разм. Нізкая цана, невысокая вартасць чаго-н. // Недарагі тавар, дзяшовая рэч".

Гэтыя артыкулы цалкам перапісаныя з расійскіх тлумачальных слоўнікаў. Недарэмна пры гэтых словах не бачым прыкладаў з тэкстаў беларускіх майстроў слова. Новы "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не падае рэестравых слоў *дзешава, дзешавець, дзешавізна.* Аднак бачым тут: "*Дзяшоўка,* ж. (разм.) 1. Невысокая цана на тавары. *Купіў па дзяшоўцы.* 2. перан. *Нешта безгустоўнае, пазбаўленае каштоўнасці* (пагард.). *Яго карціны — дзяшоўка*" (с. 180). Гэты артыкул скапіяваны з "Словаря русского языка" Ожагава (М., 1982. С. 146): "*Дешёвка,-и,* ж. (разг.); 1. Низкая, дешёвая цена. *Продать по дешёвке.* 2. перен. Нечто безвкусное, лишённое ценности (пренебр.). *Эти стихи — дешёвка*". А ў дэфініцыі рэестравага слова *Затанна* (с. 228) чытаем: "...За невысокую цану, надта *дзешава*". Як бачым, тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы нярэдка ствараліся не на аснове свайго лексікону, а на падставе расійскамоўных даведнікаў.

***Макаўка — а не макушка.*** Слова *макаўка* як адпаведнік рас. *макушка* засведчыў БРС-26 (с. 164). В.Ластоўскі таксама падае *ма́каўка* (а не *макушка.* ПРК(Б)С. С. 315). Гэта пацвярджае і РБС-53: "*Макушка — макаўка;* (верхушка) *вяршок, верхавіна*" (с. 244). БРС-62: "*Макаўка* (верхняя оконечность) — *макушка, верхушка*" (с. 431). Тое сама і ў яго двухтомавым перавыданні (БРС-88. С. 663). "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. Мн., 1979. С. 87) падае гэтае слова з пяццю значэннямі: "*Макаўка, -і,* ж. 1. Плод маку — каробачка, дзе знаходзіцца насенне. 2. Разм. Купал царквы. 3. Верхняя частка, вяршыня чаго-н. 4. Верхняя частка галавы. 5. Канец кораня конскага хваста". Аднак бачым тут і *макушку* з знач. верхняй часткі дрэва (верхавіна) і верхняй часткі галавы. "*Шапка-кубанка сядзела на самай макушцы.* Лынькоў" (Тамсама. С. 88). Прадубляваў гэты артыкул і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 329). Абодва слоўнікі перапісалі артыкулы з рэестравым словам *макушка* з расійскамоўных даведнікаў (гл. Словарь русского языка: В 4 т. Т. 2. С. 218 і "Словарь русского языка" Ожагава. С. 297). Бачым у ТСБМ і слова *макаўка*, але яно тут падаецца як размоўнае, а стылёва нейтральным прызнаецца — *макушка*, хоць у яго папярэдніку *макаўка* мела стылёвае абмежаванне толькі ў адным выпадку ('купал царквы'), а астатнія чатыры засведчаныя як агульнаўжывальныя. Дык адкуль такія змены ў стылёвай кваліфікацыі слова? А ўсё адтуль — з "Словаря русского языка" Ожагава, дзе слова *маковка* мае адпаведную стылёвую кваліфікацыю: "*Маковка, -и,* ж. 1. Плод мака. 2. Купол церкви (разг.). 3. То же, что и *макушка* (разг.)" (с. 297). А ўтварэнне з

суфіксам *-ушка* стылёвых абмежаванняў не мае: "*Макушка, -и,* ж. 1. Верхняя оконечность, вершина чего-л. 2. Верхняя часть головы. *Шапка на макушке. / / прил. макушечный*". І ў ТС-96: "*Макушка, -і,* ж. 1. Вяршыня чаго-н. 2. Верхняя частка галавы. *Шапка сядзела на самай макушцы. / /* прым. *макушачны*".

Аднак утварэнні з суфіксам *-ушк-а* беларускай мове неўласцівыя. Перакладныя акадэмічныя БРС або зусім не падаюць слова *макушка,* або кваліфікуюць яго як ненарматыўнае.

***Непрыдатны ці непадыходзячы?*** "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 падае: "*Непадыходзячы — неподходящий*" (с. 517). Але на с. 519 — натуральнае слова: "*Непрыдатны — негодный, непригодный; неподходящий*". Гэтую штучную кальку (з рас. *неподходящий)* бачым і ў яго двухтомавым перавыданні: "*Непадыходзячы* прил. *неподходящий*" (БРС-88. С. 787). Праўда, і тут падаецца натуральная лексема: "*Непрыдатны — неподходящий*" (с. 790). РБС-82 таксама не прамінуў засведчыць "еднасць" дзвюх моваў. На с. 531 (Т. 1) чытаем: "*Неподходящий* прил. *непадыходзячы;* (непригодный) *непрыдатны;* (несоответствующий) *неадпаведны;* (неудобный) *нязручны; неподходящие условия — непадыходзячыя (непрыдатныя) ўмовы...*" Як паказвае ілюстрацыйны прыклад, натуральнае беларускае слова *непрыдатны* здатнае замяніць штучнае пазычанне (кальку) *непадыходзячы.* Пра гэта сведчыць і ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 378): "*Непадыходзячы...* Такі, які не падыходзіць... не адпавядае каму-н., чаму-н.; *непрыдатны*". Тую сама дэфініцыю мае і яго натуральны адэкват: "*Непрыдатны.* Які... не падыходзіць для чаго-н." (с. 385). Новы "Тлумачальны слоўнік" зусім справядліва не падае гэтае штучнае дзеепрыметнікавае структуры. Праўда, адгалосак яго бачым у наступным прыкладзе: "*Няўчасны...* Які адбываецца ў *непадыходзячы* момант" (с. 397).

Ад штучных структураў з дзеепрыметнікавымі суфіксамі *-ач-,(-яч-), -уч-(-юч-)* адмовіліся нават тэрміналагічныя слоўнікі (па фізіцы, матэматыцы ды інш.).

***Летась і леташні.*** Нашыя акадэмічныя слоўнікі адметнае, адмысловае, што мае беларуская мова, нярэдка імкнуліся пазначыць як стылёва непаўнавартаснае (гутарковае ці застарэлае або дыялектнае). Гэта відаць і з кваліфікацыі слова *летась.* Так, БРС-62 падае: "*Летась* нареч. разг. *в прошлом году, прошлым летом*" (с. 417). А вось *леташні* (утварэнне ад *летась)* такога абмежавання ўжо не мае: "*Леташні — прошлогодний*" (Тамсама). Чаму? А таму, што і ў расійскай мове яго адэкватам выступае аднаслоўная (сінтэтычная) лексема. Слова ж *летась* не адпавядала гэтай роўніцы. Гэтую недарэчнасць бачым і ў "Тлумачальным слоўніку" (Т. 3. Мн., 1979. С. 38): "*Летась,* прысл. Разм. У мінулым годзе". Сваё адмысловае слова тлумачыцца расійскім (калькаваным) зваротам. Але гэтай выснове "разм." пярэчыць і прыклад-ілюстрацыя: "*Ляцяць, як і* ***летась****, у вырай з наседжаных гнёздаў жураўлі.* Астрэйка". Або з маўлення настаўніцы: "*Я ўжо так прывыкла да вучняў... У мяне ў гэтым годзе іх больш, чым* ***летась****.* Шахавец" (Тамсама).

Гэтую недарэчнасць "размоўнае" паўтарыў і ТС-96: "*Летась*, прысл. (разм.). У мінулым годзе" (с. 317).

А вось "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 158) засведчыў гэтае слова без абмежаванняў: "*Летась* — в прошлый год". Гэта пацвярджае і акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 550), дзе чытаем: "*Прошлое... а в прошлом году — летась (у леташнім годзе, у мінулым годзе)*". Гэта бачым і ў самых апошніх па часе выдання перакладных РБС: "*Прошлый — мінулы; в прошлом году — летась, у мінулым годзе*" (РБС-93. Т. 3. С. 120; ■ таксама ў РБС-98. Т. 3. С. 120).

Пра неапраўданасць паметы "размоўнае" пры слове *летась* сведчыць і адсутнасць яе пры антоніме *сёлета* і *сяголета*: "*Сяголета* нареч. *в этом (нынешнем) году*" (БРС-62. С. 910).

***Высечка і высека* — ■ *не вырубка і парубка*.** Словы *высека* і *высечка* — утварэнні ад *высякаць/высечы*. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 1. Мн., 1977. С. 574—575) падае гэтыя словы з наступным вызначэннем іх сэнсу: "*Высека*, -*і*, ж. Месца, дзе высеклі лес. *На высеках, глухіх палянах, у бары, на чарналессі — усюды густы мядовы пах*. Сачанка; *Высечка*, -*і*, ж. 1. Дзеянне паводле дзеяслова *высечы* (у 1—3 знач.). 2. Месца, дзе высеклі лес; *высека*".

Разам з гэтымі натуральнымі ў беларускай мове словамі, якія маюць выразную словаўтваральную структуру і значэнне (*высечы → высечка, высякаць → высека*), бачым на старонках слоўніка і такое: "*Вырубка*, -*і*, ж... 1. Дзеянне паводле дзеяслова *вырубіць*. 2. Месца, дзе *высеклі* лес; выруб, *высечка*" (Тамсама. С. 572). Але ж дзеяслоў *вырубіць* мае тут значэнне 'здабыць руду, вугаль'. Дык як яго дастасаваць да *высечкі лесу?* І як зразумець "месца, дзе высеклі лес" — *вырубка? Вырубка* — ад *вырубіць* (*выруб-ка*). Але сам слоўнік не падае гэтага слова. Сучасныя РБС перакладаюць яго наступным чынам: "*Вырубить* сов. 1. *высечы*, мног. *павысякаць*; горн. *вырубіць*, мног. *павысякаць*; горн. *вырубіць*, мног. *павырубліваць*; *Вырубка* ж. 1. (действие) *высяканне, высечка; выдрубліванне, вырубка; Вырубленный* 1. *высечаны*, мног. *павысяканы*; 2. *выдрублены*, мног. *павырублівaны*" (РБС-93. Т. 1. С. 273).

Як бачым, складальнікі ТСБМ механічна перанеслі з расійскамоўных слоўнікаў лексікаграфічны артыкул *вырубка*, стварыўшы непатрэбны дублет да свайго слова *высечка* (слова *вырубка* — гэта горны тэрмін). Бо на старонках ТСБМ бачым і *парубка* з тым сама значэннем, што і бел. *высечка*. У чацвёртым томе (Мн., 1980. С. 61) чытаем: "*Парубка*, -*і*, ж. Месца, дзе высечаны або высякаецца лес; *вырубка*". Бачым тут і: "*Парубшчык*, -*а*, м. Той, хто займаецца парубкай, высечкай лесу".

Натуральныя беларускія лексемы: *высякаць, высяканне* (працэсавае значэнне), *высечка* (і *высека*), *высякальнік* (і *высякач*).

На жаль, вось гэтыя *вырубка, парубка, парубшчык* неабачліва перанеслі і ў слоўнік, выдадзены ў суверэннай Беларусі (ТСБЛМ. Мн., 1996).

***Сужытнік, сужывец, каханак — а не сужыцель.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Сужыцель, -я*, м. 1. Чалавек, які жыве з кім-небудзь у адной кватэры (уст). 2. Мужчына, які знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі з якой-н. жанчынай; *палюбоўнік*" (с. 635). Гэта амаль копія з "Словаря русского языка" С.Ожагава (М., 1982. С. 662): "*Сожитель, -я*, м. 1. Человек, который живет с кем-н. вместе. *Мой сожитель по комнате* (разг.). 2. То же, что *любовник* (в 1 знач.; прост.)".

Бачым гэтага *сужыцеля* і ў ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 371), ён "перабег" сюды з "Словаря русского языка" (Т. 4. С. 183).

Рас. *сожитель* — прэфіксавае ўтварэнне ад *житель (со-житель)*, якому ў беларускай мове адпавядае *жыхар*. РБС-93: *житель — жыхар* (Т. 1. С. 432). Ад *сожитель* утварыліся *сожительница, сожительство, сожительствовать*. У беларускай мове рас. *сожительство* адпавядае *сужыццё* (БРС-89. С. 524). Засведчылі гэтае слова і тлумачальныя слоўнікі: "*Сужыццё, -я*, н. 1. Сумеснае жыццё, сумеснае існаванне. 2. Разм. Палавая сувязь" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 1. С. 571); "*Сужыццё, -я*, н. 1. Сумеснае жыццё ў адной кватэры (уст.). 2. Інтымныя, пазашлюбныя адносіны паміж мужчынам і жанчынай" (ТСБЛМ. Мн., 1996. С. 635). Адсюль натуральна вынікае беларускае ўтварэнне *сужытнік*. Або адэкват рас. *сожитель* бел. *сужывец*: "***Сужыўцы** — мужчына і жанчына, якія жывуць супольна*" (Г.Дзербіна. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн.: Тэхналогія, 1997. С. 167). Утварэнні ж суф. *-цель* беларускай мове неўласцівыя. Дый увогуле, ці патрэбныя застарэлыя, прастамоўныя расійскія словы беларускай мове? З значэннем рас. *любовник* беларуская мова мае адэкватнае *каханак*. А для чалавека, які жыве ў адной кватэры, ёсць намінацыя *сукватэрнік*. Ну, а калі майстру слова (пісьменніку) спатрэбіцца іншае слова, то такім можа быць і *сужывец*.

***Трыбухаты, трыбухач, пузаты, пузач — а не таўстабрухі.*** Тлумачальныя слоўнікі падаюць на сваіх старонках складанае слова *таўстабрухі*. Так, у ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. С. 484) чытаем: "*Таўстабрухі, -ая, -ае*. Разм. З тоўстым, вялікім жыватом". Гэта — копія з "Словаря русского языка" (Т. 4. С. 376): "*Толстобрюхий, -ая, -ое*. Прост. С большим, толстым брюхом". Толькі натуральны кампанент *брюхом* замянілі ў дэфініцыі на *жыватом*. Аднак такая замена разбурыла саму лексему *(таўстабрухі)*, бо ў семантызацыі яе няма другога кампанента складанага слова. Гэта і выяўляе штучнасць слова "таўстабрухі" ў беларускай мове (ёй неўласцівая лексема *бруха)*. Рас. *брюхо* ў беларускай мове адпавядаюць іншыя словы. РБС-93 падае: "*Брюхо* разг. *пуза, чэрава*". Бачым тут і аднакаранёвыя словы: "*Брюхан* прост. *пузан, пузач; брюхастый — пузаты, брюхач — пузач; брюховина*, ж. анат. *страўнік*; (у животных) *трыбухі*, мн." (Т. 1. С. 127).

"Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962 і Мн., 1988, 1989) не падае слова *бруха*. У ім занатаваныя: "*Пуза* ср. разг. *брюхо, а адгадаваць пуза — отрастить брюхо*" (БРС-62. С. 766; БРС-89. С. 335). Засведчана тут і: "*Трыбух* прост. ирон. *Брюхо*" (БРС-62. С. 926; БРС-89. С. 565).

Ад слова *трыбух* і вытворныя, якія падаюць гэтыя слоўнікі: *трыбухаты — брюхастый, трыбухач — брюхач* (Тамсама).

Здзіўляе, што выдадзены ў суверэннай Беларусі новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 655) паўтарыў гэтую бязглуздзіцу: "*Таўстабрухі* (разм.). З тоўстым, вялікім жыватом". Бачым, на жаль, і ў гэтым аднатомавым выданні і рас. *брюхо*, толькі напісанае па-беларуску: "*Бруха*, н. (разм.) 1. Тое, што і жывот жывёлы. *Бруха акулы*. 2. Жывот чалавека. *Адгадавай бруха*" (с. 94). Гэта — спісанае з "Словаря русского языка" С.Ожагава: "*Брюхо, -а*, ср. 1. Живот животного. *Брюхо акулы*. 2. Живот человека (прост.). *Брюхо отрастил*" (с. 57).

Падаюцца ў ТС-96 і вытворныя ад гэтага *бруха*: *брухаты, брухач* — з неадэкватнай семантызацыяй іх: "*Брухач* — чалавек з вялікім *жыватом*". Але з такога тлумачэння (семантызацыі) вынікае не *брухач*, а "*жыватач*".

***Метлавы, мяцёлкавы, мяцеліцавы (мяцелічны), а не мяцёлчаты, мяцелісты.*** Беларуская мова мае як лексічную норму *мяцеліца* 'снежная бура, завея' (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 195). Ад яго натуральнае ўтварэнне *мяцеліцавы* ці *мяцелічны*. Аднак у слоўніках бачым і ...*мяцелісты* (БРС-88. С. 706). Як магло ўтварыцца яно? Дзе яго ўтваральная база? Гэта — вытворнае ад рас. *метель (метел-истый)*, дзе яно мае і свой словаўтваральны варыянт *метельный (метель-ный)*. "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (БРС-62. С. 461) засведчыў: "*Мяцелічны — метельный; мяцелічны снег — метельный снег*". А вось яго двухтомавае перавыданне ўжо, апрача натуральнага слова *мяцелічны — метельный*, падае і вось такое: "*Мяцелісты* разг. *метелистый, метельный*". Як бачым, тут расійскае слова пераносіцца і ў беларускую частку слоўнікавага артыкула, парушаючы тым сама словаўтваральна-лексічныя законы беларускай мовы.

Тлумачальныя слоўнікі не фіксуюць гэтага штучнага *мяцелісты*. Але тут бачым іншую недарэчнасць: "*Мяцёлчаты, -ая, -ае* (спец.). Які мае суквецце ў выглядзе *мяцёлкі* (у 2 знач.)". І далей: "*Мяцёлка*, ж. 1. Гл. *мятла*. *2*. Суквецце некаторых раслін, якое мае *мяцёлчаты* выгляд" // прым. *мяцёлачны*" (ТСБМ. С. 355). Як тут зразумець чытачу вось гэтыя два прыметнікі: *мяцёлачны* (ад *мяцёлка*) і *мяцёлчаты* — які мае суквецце ў выглядзе *мяцёлкі* (у 2 знач.). Гэтая невыразнасць вынікла з механічнага пераносу расійскай словаўтваральнай структуры ў беларускі тэкст. Параўн.: "*Метелчатый, -ая, -ое*. Напоминающий по виду метелку (во 2 знач.). Бот. Имеющий соцветие ■ виде метелки" (Словарь русского языка: В 4 т. Т. 2. М., 1982. С. 260).

А натуральнае ў беларускай мове *мяцёлкавы* — такі , што нагадвае сваім выглядам *мяцёлку*. Параўнайма бел. *метлавы* — (ад *мятла*), якое фіксуе РБС-82 (Т. 1. С. 439): "*Метельный I* (от *метла*) *метлавы*..." Але, на жаль, тут бачым і такое: "*Метельный II* (от *метель*) *мяцелісты; завірушны, завейны; метельная зима — мяцелістая (завірушная, завейная) зіма*". Як бачым, прыметнікі *завірушная* і *завейная* ўтвораныя з дапамогаю суфікса *-н-* ад назоўнікаў *завіруха* (з чаргаваннем *х / ш*) і *завея (завеj-ная)*, якія быту-

юць як нарматыўныя ў беларускай мове. А вось *мяцелісты* не мае (як ужо згадвалася) сваёй словаўтваральнай базы ў беларускай мове. Гэта добра ўсведамлялі складальнікі РБС-53 і яго навуковыя рэдактары Я.Колас, К.Крапіва, П.Глебка. У гэтым акадэмічным слоўніку падаецца сваямоўная *мяцеліч-ны* (ад *мяцеліца)*. На с. 255 чытаем: "*Метельный II* (от *метель) мяцелічны; (вьюжный) завірушны, завейны; метельная зима — мяцелічная (завірушная, завейная) зіма*". А вось яго двухтомавае перавыданне пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы пайшло на парушэнне марфемна-словаўтваральнай нормы беларускай мовы, замяніўшы беларускае слова *мяцелічны* на рас. структуру *(метелистый) мяцелісты*. Гэтая бязглуздзіца засталася і ў наступных перавыданнях слоўніка. Так, у РБС-93 бачым: "*Метелистый* разг. *мяцелісты; завірушны, завейны*" (Т. 2. С. 52). Хоць гэтага *мяцелісты* не падае нават "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979). Праўда, яго ўціснулі ў дадатковы том (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 573), дзе чытаем: "*Мяцелісты, -ая, -ае.* Разм. Багаты мяцеліцамі; з мяцеліцамі. *Мяцелістая зіма*". Але з гэтае семантызацыі павінна вынікаць натуральнае слова *мяцеліцавая (зіма)*, бо яна... *багатая мяцеліцамі, з мяцеліцамі*. А вось *мяцелістая* — гэта "багатая на *мяцелі*" (а не *мяцеліцы)*. Як не разумелі гэтага складальнікі дадатковага тома і яго рэдактар М.Р.Суднік? Але задача, відаць, была не тая — не захаваць сваё, натуральнае слова *мяцеліцавы* ці *мяцелічны*, а перайсці на ўсесаюзны стандарт. І было зроблена гэта завуалявана: нібыта дзеля размежавання розных значэнняў, якія ўласцівыя словам *мяцелічны* і *мяцелісты*. Таму пасля *мяцелісты* падаецца і слова *мяцелічны* — "які мае адносіны да мяцеліцы". І падаецца прыклад "*...мяцелічны снег трапіў у рукаў*... Кандрусевіч".

Калі трымацца гэтае логікі, то ўжо трэба мець і дадатковыя словы (побач з натуральнымі *завірушны* і *завейны)* "*завірушысты*" і "*завеісты*". Хоць у мове безліч словаў, якія маюць два і больш значэнняў. Дарэчы, у расійскай мове прыметнікі *метельный* і *метелистый* маюць тое сама значэнне: "*Метелистый.* Разг. Сопровождаемый метелями, метельный, вьюжный... *Метельный*... Сопровождаемый метелями, с метелями" (Словарь русского языка: В 4 т. / Под ред. А.П.Евгеньевой. 2-е изд., испр. и доп. Т. 2. М.: Русский язык, 1982. С. 260).

Як бачым, рас. *метелистый* — гэта гутарковы варыянт агульналітаратурнага *метельный*. А вось нашыя складальнікі, захаваўшы тую сама стылёвую прымету ("размоўнае"), надумалі "ўзбагаціць" беларускую мову штучным пазычаннем "мяцелісты". Новы "Тлумачальны слоўнік" зусім справядліва не падае на сваіх старонках гэтага штукарства "мяцелісты", а толькі *мяцелічны*.

Такім чынам, натуральнымі словамі, якія адпавядаюць лексічна-словаўтваральным нормам нацыянальнай беларускай мовы, ёсць *метлавы́* (ад *мятла)*, *мяцёлкавы* (ад *мяцёлка)*, *мяцеліцавы* і *мяцелічны* (ад *мяцеліца)*, а не *мяцёлчаты, мяцелісты*.

***Прыназоўнікі з і са.*** Беларускай мове ўласцівы прыназоўнік **з**, якому адпавядае ў расійскай мове **с**. Параўнайма: *ехаў з намі — ехал с нами, з агню —*

*с огня, з дарогі — с дороги*... У расійскай мове прыназоўнік *с* набывае свой варыянт *со*, ён узнікае перад словамі, што пачынаюцца збегам зычных, сярод якіх ёсць *р, л, н*, а таксама перад словамі з пачатковымі *з, с, щ* : *со льдом, со слезами, со щавелем, со сметаной, со слов, со зла, со всяким, со многими, со мною* (гл. Словарь русского языка: В 4 т. Изд. 2-е. М., 1984. С. 168). Аднафанемны кансанантавы прыназоўнік ***с*** набывае дзвюхфанемную форму за кошт з'яўлення галоснага *о*: *с > со* (як і *к > ко*).

У беларускай мове прыназоўнік **з** не мае варункаў для пераходу ў аднафанемны варыянт *с*, з якога мог бы развіцца ***са***. ***З*** можа набываць дзвюхфанемны варыянт ***за***: у жывой мове пачуем: ***прыйшоў за школы, размаўляў за мною***.

Прыназоўнік ***са*** *(<со)* стаў пашырацца ў беларускай мове дзеля набліжэння яе да ўсесаюзнага стандарту. У творах класікаў беларускай літаратуры бачым выкарыстанне прыназоўніка *з*, а не *са*. Гэта пераканаўча сцвердзіў знаны беларускі навуковец, чуйны да слова пісьменнік Уладзімір Содаль. У артыкуле "З ці Са" (Наша слова. № 27. 1993) ён зазначае: "Такога пераходу прыназоўніка *з* у *са* ў нашай моўнай гістарычнай практыцы не было. У нашым славутым Статуце Літоўскім таксама маем: *з старастам, з старшыною*". У "Беларускай граматыцы" Б.Тарашкевіча таксама не выкарыстоўваецца гэты прыназоўнік *са*, а толькі *з: з сваіх месц, з сваёй работай, з страхі*... І "Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (Мн., 1959) не фіксуюць прыназоўніка *са*. У школьных падручніках і дапаможніках для ВНУ чытаем: "Перад словамі, якія пачынаюцца спалучэннем зычных, дзе першыя *з, с, ж, ш, м* замест прыназоўніка *з* вымаўляецца і пішацца прыназоўнік *са: са станцыі, са Жлобіна, са мною*". Фактычна гэта — расійскамоўная норма: *со станции, со Жлобина, со мной*.

Гэтае правіла таксама перапісанае з расійскага. Яно пярэчыць моўнай практыцы, бо пішам жа мы *з мноствам, з мнагазначнымі словамі, з СНД, з ЗША*, а не *са мноствам, са мнагазначнымі словамі, са СНД, са ЗША*.

Прыназоўнік **з** пры ўтварэнні (на базе іменна-прыназоўнікавых спалучэнняў) вытворных словаў становіцца прыстаўкаю: *змалку, зверху, зранку*... У беларускай мове няма і фанемы-прыстаўкі **с**, а толькі **з**, на што паказвае выкарыстанне яе ў моцнай фаналагічнай пазіцыі — перад галоснымі і санорнымі зычнымі: *зусім (< з усім), зэканоміць, зыначыць, змарнець, звіць, зліваць*. Гэта ў расійскай мове тут фанема *с: сэкономить, совсем, свить, слить*.

Аднак нашыя слоўнікі насуперак здароваму сэнсу лічаць прыстаўку **з** не першаснай, а варыянтам няіснай *с*. Вось што чытаем у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 272): "*З*... прыстаўка (гл. *с*). Ужываецца замест *с*... перад звонкімі зычнымі, напрыклад *збіць, звесці, змяніць, змалоць, зрушыць*". І далей: "*З*... прыстаўка (гл. *с*) ужываецца замест *с*... перад галоснымі "е", "ё", "я", напрыклад: *з'есці, з'ехацца, з'ёлкнуць, з'явіцца, з'яднацца*". Дык што і замест чаго ўжываецца? Як няма ў беларускай літаратурнай мове прыназоўніка *с*, так і няма прыстаўкі-фанемы *с*, а ёсць **з**. Гэта толькі ў напісанні (і ў шэрагу выпадкаў у вымаўленні) на месцы **з** мы

пішам (і чуем) *с*: *кідаць — скідаць, пісаць — спісаць*. Але *віць — звіць, мыць — змыць, ехаць — з'ехаць, рабіць — зрабіць*. Прыстаўка *с* — гэта варыянт прыстаўкі-фанемы *з* у слабой пазіцыі — перад глухімі зычнымі, дзе звонкі гук *з* аглушаецца і пераходзіць у парны глухі *с*. На гэтым прынцыпе і заснаванае правіла правапісу: *ссыпаць, ссаць, скінуць*. Гэта значыць, прыстаўка-фанема *з* рэалізуецца ў гуку *с*, які зліваецца з наступным зычным гукам у адзін доўгі гук. Дарэчы, фанема *з* можа рэалізавацца і ў іншых гуках, якія асімілююць гэты звонкі *з*, і ў выніку чуецца доўгі шыпенны *ж*: *зжынаць* → [*жжынац'*] ці *ш*: *сшыць* → [*шшыц'*]. Менавіта гэта выяўляецца ў моўнай плыні і ў дачыненні да прыназоўніка *з* перад збегам зычных: *з шыбы* → [*ш шыбы*], *з школы* → [*ш школы*] і *з жыта* → [*ж жыта*]. Тут дзейнічае той сама закон асіміляцыі гука *з* у прыназоўніку *з* і ў прыстаўцы *з-*. Таму натуральна гучаць спалучэнні прыназоўніка *з* з пачатковымі гукамі наступных слоў, зліваючыся ў адзін доўгі гук — той, якім пачынаецца наступнае слова: *з зруба* → [*з зруба*], *з славай* → [*с славай*], *з шрубай* → [*ш шрубай*], *з школы* → [*ш школы*], *з жменьку* → [*ж жменьку*]. І ўсё тут натуральнае, адпаведнае фанетычным законам беларускай літаратурнай мовы.

Выкарыстанне ж на месцы прыназоўніка *з* яго расійскага адпаведніка *са*(< *со*) вядзе да разбурэння фанетычнай сістэмы беларускай мовы, атаясамлення яе з расійскаю. Але ж у расійскай мове фанема *с* выступае і перад санорнымі зычнымі: *свить, слить, смыть, сносить, срубить*, тым часам як у беларускай мове тут маем фанему (і графему-літару) *з*: *звіць, зліць, змыць, зруб*.

З прааналізаванага відаць, што ў сучаснай беларускай нацыянальнай мове натуральным ёсць прыназоўнік *з*. *Са* — гэта варыянт няіснага ў сучаснай беларускай мове прыназоўніка *с*. Таму гэтае *са* і ўсведамляецца як чужы элемент у сістэме нацыянальнай беларускай мовы. Як і прыстаўка *с-* — перад галоснай, напрыклад *сэканоміць*, што пацвярджаюць і сучасныя слоўнікі, дзе на месцы рас. прыстаўкі *с-* бачым бел. *з-* (перад галосным гукам): *сэкономить — зэканоміць* (РБС-93). Дарэчы, РБС-53 яшчэ фіксаваў расійскамоўную структуру гэтага слова. На с. 675 чытаем: "*Сэкономить* сов. *сэканоміць; сэкономленный — сэканомлены*". Гэта паўтараў і БРС-62: "*Сэканоміць* сов. *сэкономить; сэканомлены — сэкономленный*" (с. 910). Але РБС-82 ужо выпраўляе гэтую памылку. На с. 465 (т. 2) занатавана: "*Сэкономить* сов. *з'эканоміць; сэкономленный — з'эканомлены*". І ў двухтомавым БРС (Т. 1. Мн., 1988. С. 570): "*З'эканоміць* сов. *сэкономить; з'эканомлены — сэкономленный*". І "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 551) засведчыў гэта: "*З'эканоміць*, зак. Эканомячы, сабраць, назапасіць, зберагчы. *З'эканоміць грошы*".

Праўда, напісанне гэтых слоў з апострафам неапраўданае. Таму ў пазнейшых даведніках яго ўжо няма. Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 770) засведчыў: "*Эканоміць*... / / зак. *зэканоміць*". Тое сама бачым і ў РБС-93 і РБС-98: "*Сэкономить* сов. *зэканоміць*" (Т. 3. С. 493).

Такім чынам, сістэмна абумоўленым у сучаснай беларускай літаратурнай

мове ёсць прыназоўнік *з*. Ён паслядоўна выкарыстоўваецца ў розных фанетычных пазіцыях. Прыназоўнік *са* — гэта вакалізаваны варыянт аднафанемнага прыназоўніка *с*, уласцівага расійскай мове: *с крыши, с неба, со дна, со слезами*.

У беларускай мове прыназоўнік *з* аднолькава вымаўляецца перад наступным зычным паўназначнага слова, без увагі на тое, уваходзіць гэты пачатковы гук у спалучэнне зычных ці не, параўн.: *з шафы (ш шафы)*, і *з школы (ш школы)*, *з сынам (с сынам)* і *з свайго (с свайго)*, *з жыта (ж жыта)* і *з жмені (ж жмені)*.

***Морквавы або морквінны — але не маркоўны.*** "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 110) падае: "*Маркоўны, -ая, -ае.* Які мае адносіны да *морквы*. / / Прыгатаваны з *морквы. Маркоўны сок*". Але ж структура гэтага прыметніка паказвае, што *маркоўны* ўтварылася ад "маркоў" шляхам далучэння фарманта *-н-ы: маркоў-ны*. Ад беларускага *морква* было *морквавы*. Або *морквінны* — ад назоўніка *морквіна*, яго засведчыў "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы. У першым томе (Мн., 1988) на с. 699 чытаем: "*Морквіна*, ж., разг. (отдельное растение, корень) *морковка*".

Словы *моркаўка* і *маркоўка* — гэта расійскамоўныя формы. Па-беларуску памяншальна-ласкальнае ўтварэнне — *морквачка, морквінка*. Параўн. у М.Лужаніна: "*Дзве цыбулінкі і дзве морквінкі, / / Кропу жменька...*" / / Полымя. 2000. № 10. С. 35). Перанесеныя з расійскай мовы і формы *маркоўнік* і *маркоўны*, якія бачым у БРС-88: "*Маркоўнік*, бот., кул. *морковник*; *маркоўны — морковный*" (с. 673). На гэта паказвае і супадзенне акцэнтавання ў прыметніку з націскам назоўніка *морко́вь*. У РБС-53 няма формы *маркоўка* (ці *моркаўка*), а толькі: "*Морковка* разг. *морква, -вы*, ж." Гэты артыкул захаваны і ў РБС-93 (Т. 2. С. 80).

Такім чынам, натуральныя ў беларускай мове словы *морква* і ўтварэнні ад яго *морквіна, морквачка, морквавы* і *морквінны, морквіннік*.

***Сопкая і рассыпістая (бульба) — але не рассыпчатая.*** Слова *сопкі* з значэннем 'які лёгка разварваецца, рассыпісты' занатаваў яшчэ БРС-26, дзе чытаем: "*Сопкі — рассыпчатый*" (с. 295). Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 581) таксама засведчыў: "*Рассыпчатость — рассыпістасць, сопкасць; рассыпчатый — рассыпісты;* (о фруктах, картофеле — *ещё*) *сопкі*". Гэты артыкул захаваўся амаль без зменаў ва ўсіх перавыданнях слоўніка: РБС-82 (Т. 2. С. 315), РБС-93 (Т. 3. С. 219) ды інш. Тут толькі апушчана "о фруктах", якое падавалася ў дужках (*сопкі* мае дачыненне толькі да бульбы).

А вось тлумачальныя слоўнікі надумалі "ўзбагаціць" беларускую мову яшчэ адным утварэннем — *рассыпчаты* ( і *рассыпчатасць*), перанёсшы яго на свае старонкі з расійскіх слоўнікаў. І гэта не зважаючы на тое, што прыметнікі з суфіксам *-чат* беларускай мове неўласцівыя, ім адпавядаюць ўтва-

рэнні з *-ав-*, *-ават-*, *-іст-*, *-аст-*. Параўнайма: *стрэлкавы* (рас. *стрельчатый*), *пузыраваты* і *пузырысты* (*пузырчатый*), *пералівісты* (*переливчатый*), *сеткаваты* (*сетчатый*), *складкаваты* (*складчатый*)... Гэтыя ды іншыя беларускія адпаведнікі да расійскіх на *-чатый* падае БРС-88, 89. Слова *рассыпчатый* гэты слоўнік кваліфікуе як ненармаванае: "*Рассыпчаты* см. *рассыпісты*" (Т. 2. С. 394). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 556), не зважаючы на ўсё згаданае, перанёс *рассыпчаты* на свае старонкі: "*Рассыпчаты, -ая, -ае*. Тое, што і *рассыпісты*. / / наз. *рассыпчатасць*" (З выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. Мн., 1982. С. 592). І гэта пры тым, што тут занатаваныя і свае натуральныя словы: "*Рассыпісты, -ая, -ае*. Які лёгка рассыпаецца на крупінкі, крошкі, які крышыцца. *Рассыпістая бульба*. / / наз. *рассыпістасць*" (с. 556); "*Сопкі, -ая, -ае*. Які лёгка разварваецца; рассыпісты. *Сопкая бульба*. / / наз. *сопкасць*" (с. 613).

На жаль, бачым на старонках гэтага слоўніка і іншыя небеларускія прыметнікі на *-чаты*: *дольчаты*, *дымчаты*, *каленчаты*, *лапчаты*, *палавінчаты*, *пальчаты*, *перапончаты*, *расплыўчаты*, *рэпчаты*, *сустаўчаты*, *тасёмчаты*, *трубчаты*. Спынімся на іх аналізе.

***Долькавы — а не дольчаты.*** *Долькавы* — 'той, які мае ў сваім складзе *долькі*, *долі*, складаецца з іх'. Гэты прыметнік (як і іншыя прааналізаваныя) утварыўся ад назоўніка з асноваю на *-к* з выкарыстаннем прадукцыйнага суфікса *-ав-*: *долькавы*; форма *дольчаты* ўласцівая расійскай мове: "*Дольчатый, -ая, -ае*. Состоящий из долей, долек. *Дольчатый плод*" (СРЯ Ожагава. С. 154). Гэты артыкул прадубляваў ТСБЛМ: "*Дольчаты*. Які складаецца з долек. *Дольчаты плод*" (с. 181). Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі расійскамоўнага слова *дольчаты*. Адчуваючы яго штучнасць у беларускай мове, РБС-53 падае яго эквівалент (з суфіксам *-ав-ы*) *ча́сткавы* (с. 122). БРС-62 кваліфікуе гэтае слова як размоўнае: "*Дольчаты* разг. *Дольчатый*" (с. 249).

***Дымчасты, дымаваты, смуговы — а не дымчаты.*** *Дымчаты* — утварэнне ад *дымка*. Гэта рас. *дымчатый*, якому ў беларускай мове адпавядае *дымаваты* і *дымчасты*. Параўн.: "*Дырчатый — дзірчасты, дзіркаваты*" (БРС-93. Т. 1. С. 415). ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 219) таксама занатаваў *дымчасты*: "*Дымчастая сурвэтка пакрывала абажур настольнай лямпы*".

Рас. *дымка* адпавядае бел. *смуга* (РБС-93. Т. 1. С. 415). Таму тут натуральным ёсць і *смуговы*, г.зн. шараваты, які нагадвае сваім колерам смугу, падобны да смугі. Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова *дымчаты*. В.Ластоўскі падае толькі *дымовы*. Тлумачальныя слоўнікі перанеслі на свае старонкі лексікаграфічны артыкул з расійскамоўных.

Нармаванымі, адпаведнымі лексічна-словаўтваральнай сістэме беларускай нацыянальнай мовы ёсць словы *смуговы*, *дымаваты* ці *дымчасты* (але не *дымчаты*).

***Каленцавы, каленкавы — а не каленчаты.*** У "Тлумачальным слоўніку" (Т. 2. Мн., 1978. С. 586) чытаем: "*Каленчаты*... Які складаецца з каленцаў... *Каленчатыя сцёблы*". Але чаму не *каленцавыя сцёблы*: яны ж маюць ка-

*ленцы*. Параўн.: "*Створкавы*... Які мае створкі, складаецца з іх. *Створкавыя дзверы*" (ТСБЛМ. С. 628). Бел. *створкавы* адпавядае рас. *створчатый* (РБС-93. Т. 3. С. 451). Таму натуральным ёсць *каленцавы*, а не *каленчаты*. "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 139) занатаваў: "*Каленкавы — коленчатый*". Гэта ўтварэнне ад *каленка*, якое слоўнік падае як адэкват рас. *колено* (Тамсама). *Каленчаты* — гэта рас. *коленчатый*, толькі напісанае па-беларуску.

***Галоўкавы — а не галоўчаты.*** У другім томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мн., 1978. С. 21) чытаем: "*Галоўчаты, -ая, -ае*. Які мае галоўку, з галоўкай (у 2 знач.). *Галоўчаты лён*". Якая штучнасць! Натуральнае тут — *галоўкавы лён*. Як і *палавінкавая цэгла, долькавы плод* ды *інш*. Параўнайма аднаструктурнае і з той сама семантызацыяй: "*Створкавы*... Які мае створкі, складаецца са створак... *Створкавыя дзверы. Створкавы клапан*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. С. 324).

Але падчас нацыянальнага адраджэння сваямоўныя ўтварэнні заваёўваюць сваё месца. Так, у кнізе "Анатомический словарь" (русско-белорусско-латинский... Мн., 1998) бачым: *галоўкавы* (рас. *головчатый*, с. 49), *грабянцовы* (*гребенчатый*, с. 50), *губкаваты* (*губчатый*), *косць галоўкавая* (*головчатая*, с. 68), *нерв сферычна-мяшочкавы* (*мешотчатый*, с. 98) ды інш.

***Колцавы ці кольчаты?*** Слоўнікі падаюць: "*Кольчаты*... які складаецца з кольцаў. *Кольчаты ланцуг*" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 709). Але калі ён складаецца *з кольцаў*, то мусіць быць *кольцавы* (а не *кольчаты*). Форма *кольчаты* расійскамоўная. Параўн.: "*Кольчатый*... Состоящий из колец" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 253).

Расійскамоўнаму *кольчаты* ў беларускай мове адпавядае *колцавы* (*кольцавы*) — аднамадэльнае з *долькавы, створкавы* ды пад. Параўн.: зубцовае кола — зубчатое колесо (В.Р.Лупачоў, В.І.Рагаўцоў. Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні. Мн.: Веды, 1998. С. 46).

***Ла́пісты, лапчасты — ■ не ла́пчаты.*** Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі засведчыў: "*Лапчатый — лапча́сты*" (М., 1953. С. 229). Гэты прыметнік выкарыстаны і як кампанент складанага заалагічнага тэрміна: "*Лапчатоногий* зоол. *лапчастаногі*" (Тамсама). Артыкул з невялікімі зменамі паўтораны і ў РБС-93 і РБС-98: "*Лапчатоногие* мн. сущ. зоол. *лапчастаногія, -гіх; лапчатоногий — лапчастаногі*" (Т. 1. С. 709). *Лапчатый — лапчасты*. Гэтае лексічнае нормы трымаецца і БРС-62: "*Лапчасты — лапчатый; лапчастыя лісты — лапчатые листья*" (с. 413). А вось двухтомавае яго перавыданне, захаваўшы тое, што было ў аднатомавым папярэдніку, разам з тым асобным артыкулам падае і такое: "*Лапчаты* в разн. знач. *лапчатый*" (БРС-88. С. 635). Між тым у расійскай мове адна лексема выкарыстоўваецца з рознымі значэннямі: "*Ла́пчатый* 1. Похожий по форме на лапу. *Лапчатый лист. Лапчатая борона*. 2. Имеющий лапы с перепонками. *Лапчатая птица*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 281). Нашыя тлумачальныя слоўнікі перанеслі на свае старонкі гэтае *лапчаты* як тэрмін. Параўн.: "*Лапчаты*. Які

мае лапы з перапонкамі. *Лапчатыя птушкі*" (ТСБМ. Т. 3. С. 22). Тое сама і ў ТСБЛМ (с. 313).

У жывой народнай мове бытуе прыметнік *лапісты* з тым значэннем, што і згаданае *лапчасты*. "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. С. 21) таксама падае: "*Лапісты*. З вялікімі лапамі. *Лапістыя елкі* / / Падобны на лапу (пра лісце раслін). *Лапістае лісце*".

Дык ці ёсць патрэба ў пазычанні слова *лапчаты*, калі нашая мова мае свае адэкваты: *лапчасты* і *лапісты?* І дзеля чаго спатрэбілася новаму "Тлумачальнаму слоўніку" (Мн., 1996) падаваць гэтае расійскамоўнае слова *лапчаты*, калі РБС-82, РБС-93 не фіксуюць *лапчаты* ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула, а толькі ў расійскай (у беларускай — *лапчасты*). Да таго ж слоўнік 1996 года ўжо не падае і слова *лапісты*, якое было ў яго папярэдніку.

***Палавінкавы — а не палавінчаты.*** Слова *палавінчаты* тлумачыцца наступным чынам: "1. Які складаецца з дзвюх розных частак, палавін. *Палавінчатая цэгла*. 2. перан. Пазбаўлены цэласнасці, паслядоўнасці, які не даводзіць чаго-н. да канца. *Палавінчатае рашэнне*" (ТСБЛМ. С. 427). Гэта цалкам перапісаны артыкул з расійскамоўнага даведніка: "*Половинчатый*. 1. Состоящий из двух разных частей, половин... *Половинчатый кирпич*. 2. Перен. Лишенный цельности, последовательности, не доводящий чего-н. до конца. *Половинчатое решение*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. Мн., 1982. С. 491).

Але, як паказвае семантызацыя гэтага слова — 'які складаецца... з палавін(ак)', натуральным тут ёсць *палавінкавы*. Як і разгледжаныя *колцавы*, *долькавы* ці *створкавы* ды інш. Менавіта так кажа беларус: *палавінкавая цэгла* (а не *палавінчатая*).

***Па́льчыкавы, пальцавы — ці пальчаты?*** "Тлумачальны слоўнік" 1996 года падае: "*Пальчаты, -ая, -ае* (спец.). Падобны на палец. *Пальчатыя лісты*" (с. 430). Гэты артыкул скапіяваны з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 433): "*Пальчатый, -ая, -ое* (спец.). Похожий на палец. *Пальчатые листья*". Між тым яго папярэднік фіксуе наступнае: "*Пальцавы*... Спец. Які мае механічныя пальцы" (ТСБМ. Т. 3. Мн., 1979. С. 642). Тое сама значэнне мае тут і слова "*пальчаты* — 'які мае пальцы' (у 3 знач.). *Пальчаты культыватар*". У жывой народнай мове і нацыянальным друку выкарыстоўваецца з гэтым значэннем і вытворны аднакаранёвы прыметнік з суфіксам *-ав-*: *пальчыкавы вінаград*, *пальчыкавае лісце*, *пальчыкавы культыватар*. Параўн. аднаструктурныя *ча́сткавы* (на месцы *дольчаты*), *створкавы* (*створчаты*), *каленцавы* (*каленчаты*), *мяцёлкавы* (*мяцёлчаты*)...

***Балонкавы, перапонкавы ці перапончаты?*** Слова *перапонкавы* і *перапончаты* — ад *перапонка*; першае з іх утворанае паводле беларускае словаўтваральнае мадэлі: *перапонк-авы*, другое — расійскае: *перепончатый*. "Тлумачальны слоўнік" 1996 года падае другое з гэтых словаў: "*Перапончаты, -ая, -ае*. З перапонкамі. *Перапончатыя лапы ў гусей*" (с. 469). Гэты ар-

тыкул перанесены з выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 449): "*Перепончатый, -ая, -ое.* С перепонками. *Перепончатые лапы у гуся*". Між тым біёлагі выкарыстоўваюць тут беларускі тэрмін: "*балонка — перепонка*" (А.Ятусевіч, В.Капліч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 240). Таму натуральным тут ёсць тэрмін *балонкавы* (а не *перапончаты*).

***Вейкавы ці расн***і***чны, расн***і***часты?*** У згаданым "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" засведчана: "*Вейкавы — ресничатый*" (с. 241). "*Вейкавы* — утварэнне ад *вейка — ресница*" (БРС-62. С. 148). РБС-93 таксама фіксуе: "*Ресница, ж. вейка, ресничка* биол. *раснічка; ресничные* мн. сущ. зоол. *раснічныя; ресничный* 1. *вейкавы;* 2. биол. *раснічны; ресничные черви — раснічныя чэрві...*" (Т. 3. С. 249). РБС-53: "*Ресница — вейка, -кі,* ж; *ресничатый* зоол. *раснічасты*" (с. 591). ТСБЛМ падае *раснічны* (с. 552).

Вось як нішчылася сваё на карысць усесаюзнага стандарту. Калі словаўтваральная аснова тут яшчэ свая (*вейка — ресница*), то тэрміналагічныя адзінкі ўжо — пазычанні.

***Расплывісты — а не расплыўчаты.*** Слова *расплывісты* з значэннем рас. *расплывчатый* зафіксаваў акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 577): "*Расплывчатый* в разн. знач. *расплыўчаты, расплывісты*". А вось "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 804) ужо адкінуў сваё адмысловае ўтварэнне *расплывісты*, пакінуўшы толькі агульнасаюзнае ўтварэнне (з суфіксам *-чат-*) *расплыўчаты* (рас. *расплывчатый*). Праўда, двухтомавае яго перавыданне падае і *расплывісты* (а таксама вытворныя ад яго *расплывіста* і *расплывістасць*), але з адсылкаю да *расплыўчаты* (і яго вытворных) (РБС-89. С. 388). "Тлумачальны слоўнік" (Т. 4. Мн., 1980. С. 666) фіксуе: "*Расплывісты.* 1. Які не мае выразных абрысаў. 2. Перан. Недастаткова выразны, няпэўны, няясны. *Расплывістае рашэнне. Расплывісты адказ*". Праўда, бачым тут і ўтварэнне з суфіксам *-чат-* з тым сама значэннем: "*Расплыўчаты* 1. Які не мае выразных абрысаў, ліній, форм. 2. Перан. Недастаткова выразны, няпэўны, няясны. *Расплыўчатае выказванне*" (Тамсама). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 554) ужо і не згадвае пра *расплывісты*. Тут бачым толькі: "*Расплыўчаты, -ая, -ае.* 1. Які не мае выразна акрэсленых абрысаў. *Расплыўчатыя абрысы гор.* 2. Перан. Невыразны, няпэўны, няясны. *Расплыўчаты адказ вучня.* // наз. *расплыўчатасць*". Дык чаму не трапіла адмысловае беларускае *расплывісты* ў гэты слоўнік? А таму, што яго няма ў "Словаре русского языка" Ожагава, на падставе якога ствараўся беларускі слоўнік. Дарэчы, і дэфініцыя гэтага *расплыўчаты* перапісаная з Ожагава (с. 588).

Хоць заглянулі б яго складальнікі ў ТСБМ, дый у РБС-93, дзе рас. *расплывчатый* адпавядае беларускае *расплывісты* (Т. 3. С. 207). Тут падаюцца і вытворныя ад яго: *расплывіста, расплывістасць.* І гэта ў поўнай згодзе з іншымі словамі таго самага словаўтваральнага тыпу: *пералівісты* (рас. *переливчатый*).

***Рэпкавы ці рэпчаты?*** Слова *рэпчаты* тлумачыцца так: "падобны па форме на рэпу. *Рэпчатая цыбуля*" (ТСБЛМ. С. 576). Але чаму не *рэпкавая цыбуля?* Яна ж падобная на *рэпку* (невялікую рэпу). Гэта тая сама мадэль утварэння, што і *мяцёлкавы* — падобны да мяцёлкі, *пальчыкавы* ды інш. Форма *рэпчаты* механічна перанесеная з расійскае мовы. Параўн.: "*Репчатый*... Сходный по виду с репой. *Репчатый лук*" (С.Ожегов. Словарь русского языка. С. 603).

***Тасёмкавы ці тасёмчаты?*** Прыметнікі на *-чаты* слоўнікі падаюць з наступнай дэфініцыяй (апісаннем значэння): "*Тасёмчаты, -ая, -ае.* З тасьмой, тасёмкай. *Тасёмчатыя ўпрыгожанні*" (ТСБЛМ. С. 655). Як паказвае дэфініцыя, натуральным тут мае быць утварэнне з суфіксам *-ав-: тасёмкавы.* Параўн.: *створкавы* — з створкамі, *колцавы (кольцавы)* — з колцамі (кольцамі) ды інш. Дарэчы, гэтае і іншыя словы падае ТСБМ (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1980. С. 482): "*Тасёмкавы* — зроблены *з тасьмы*". А таксама "*Тасёмачны* — які мае адносіны да тасьмы, тасёмкі; звязаны з вырабам тасьмы, тасёмкі. *Тасёмчаты* — з тасьмой, тасёмкай. *Тасёмчатыя ўпрыгожанні*". Але дзеля чаго тут небеларускае ўтварэнне *тасёмчаты?* Яго функцыю спраўна выконвае натуральнае ўтварэнне з суфіксам *-ав-: тасёмкавы.* Параўн.: "*Тесёмчатый* 1. Сделанный из тесьмы. 2. Похожий на тесьму (спец.)" (СРЯ Ожагава. С. 708). Як бачым, тут тое сама слова мае два значэнні. У беларускай мове адэкватам яму ёсць слова *тасёмкавы.*

***Лінейчасты і лінеісты — а не лінейчаты.*** Беларускія слоўнікі засведчылі слова *лiнéйчасты* як адпаведнік рас. *линейчатый:* "*Линейчатый* — *лінейчасты*" (РБС-53. С. 235; РБС-93. Т. 1. С. 724). БРС-88: "*Лінейчасты* — *линейчатый*" (с. 646). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 46) падае яго з наступным значэннем: "*Лінейчасты, -ая, -ае.* Які складаецца з ліній. *Лінейчасты спектр.* / / Які мае на сваёй паверхні лініі. *Лінейчасты ліст*".

У жывой народнай мове і нацыянальным друку выкарыстоўваецца і *лінеісты* з тым сама значэннем. А вось новы "Тлумачальны слоўнік" не падае гэтых натуральных беларускіх словаў, а толькі расійскамоўнае: "*Лінейчаты, -ая, -ае.* Які мае на сваёй паверхні лініі ў адным напрамку. *Лінейчаты ліст*" (Мн., 1996. С. 318). Гэта — копія з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 287: "*Линейчатый,-ая,-ое* (спец.). Покрытый линиями... в одном направлении. *Линейчатый лист*".

***Гурт і група.*** Слова *гурт* бытуе ў беларускай і расійскай мовах. Нярэдка недасведчаныя моўнікі выкарыстоўваюць у беларускіх тэкстах слова *гурт* толькі з тым значэннем, якое мае яно ў расійскай мове — 'статак буйной рагатай жывёлы, аб'яднанай характарам гаспадарчага карыстання, а таксама статак аднародных свойскіх жывёлаў': "*Гурт молодняка. Гурт черно-белых овец*" (Словарь русского языка: В 4 т. Т. 1. М., 1981. С. 357—358). Тым часам у беларускай мове слова *гурт* мае больш шырокае значэнне. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 98) падае гэтае слова з наступ-

ным абсягам значэнняў: "*Гурт, -у*, м. 1. Натоўп, група людзей. *Гурт дзяцей вясёлых на ўрок спяшаецца*... 2. Статак буйной рагатай жывёлы, авечак, чарада птушак і пад. 3. У знач. прысл. *гуртам*. Сумесна, групай; усе разам. *Хлапчукі гуртам узяліся цягнуць лодку да берага*".

Асобна вылучанае тут і такое значэнне слова *гурт* — 'група якіх-небудзь аднародных прадметаў'. "*Гурт грыбоў*..." Як бачым, слова *гурт* выступае ў беларускай мове і як сінонім слова *група*. На гэта паказваюць і дэфініцыі слова: "*Гурт*: 1... *група* людзей; 2. *Група* аднародных прадметаў; 3. *Гуртам*... *Групай*". Пра тое, што гэтыя два словы — *гурт* і *група* — сінанімізуюцца ў маўленні, сведчаць і вытворныя ад гэтых словаў. Параўнайма: "*Гуртавацца* / / *Групавацца. Часці рыхтаваліся да атакі і* ***гуртаваліся*** *ў бярозавым гаі*. / / *Гуртаваць*... *Групаваць*... *А ваш абавязак*... *збіраць народ*, ***гуртаваць*** *яго ў баявыя групы*. Колас". "*Гурток*. *Група* людзей, аб'яднаных агульнасцю поглядаў, інтарэсаў. *Рэвалюцыйны гурток* / / *Група* людзей, з якой праводзяцца заняткі... *Харавы гурток*".

Такім чынам, у беларускай мове слова *гурт* у шэрагу выпадкаў мае тое значэнне, што і *група*. Параўн. у Я.Брыля: "... *пачалі збірацца "нёманцы", у прыязным утульным сяброўскім* ***гурце***" / / Полымя. 2000. № 11. С. 13). І яно адэкватнае рас. *ряд*. Як і слова *шэраг*. Невыпадкова апошнім часам лексема *гурт* выкарыстоўваецца і як элемент лінгвістычнага тэрміна: *сінанімічны гурт* — рас. *синонимический ряд* (Słownik terminołogii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski. Białystok, 1994. S. 65, 97). А таксама: *моўны гурт* (спалучнасць) — *языковой союз* (Тамсама. С. 118).

***Шэраг і рад.*** Слова *рад* у беларускай мове мае свой адэкват — *шэраг*. "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962. С. 1034) засведчыў: "*Шэраг* м. 1. ряд; *шэраг пытанняў — ряд вопросов*; 2. Воен. *шеренга*, ж.; *стаць у два шэрагі — стать в две шеренги*". Двухтомавае яго перавыданне (Т. 2. Мн., 1980. С. 725) пацвярджае гэта: "*Шэраг, -гу*, м. 1. В разн. знач. *ряд; шэраг дамоў — ряд домов; шэраг пытанняў — ряд вопросов*; воен. см. *шарэнга*; ◊ *у першых шэрагах — в первых рядах*". "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 4. Мн., 1980. С. 552—553) лексікаграфічны артыкул з рэестравым словам *рад* поўнасцю перапісаў з даведніка "Словарь русского языка" (Т. 3. М., 1984. С. 748—749). Параўн.: "Ряд... м. 1. Совокупность предметов, лиц, расположенных один к одному, друг за другом, в одну линию. / / Строй ■ одну линию; шеренга. / / Места для сидения в театре, кино и т.п. 2. Совокупность явлений, событий, отрезков времени, следующих одно за другим..." І гэтак далей. У ТСБМ (Т. 4): "*Рад*... м. 1. Сукупнасць прадметаў або асоб, размешчаных адзін каля аднаго, адзін за адным, у адну лінію. / / Строй у адну лінію, шарэнга. / / Месцы для сядзення... 2. Сукупнасць з'яў, падзей і пад., якія ідуць адно за другім"... І гэтак далей.

Пра тое, што словы *рад* і рас. *ряд* не з'яўляюцца міжмоўнымі адэкватамі, сведчаць і наступныя неадпаведнасці, якія фіксуюцца перакладнымі РБС. Так, "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 599—600) занатаваў: "*Ряд* 1. в разн. знач. *рад;* 2.

(значительное число) *рад, шэраг; ряд поколений — рад (шэраг) пакаленняў; ряд учёных — рад (шэраг) вучоных; Рядком* нареч. *поруч, побач, поплеч, урадок; Рядом* нареч. *поруч, побач*; (о людях) *поплеч*; (о зданиях) *помеж*; (около) *каля, ля*; (совсем близко) *недалёка, паблізу, блізка*; ◊ *сплошь и рядом — скрозь, вельмі часта; скрозь і ўсюды*". "*Рядышком* нареч. 1. *поруч, побач*; (о людях — еще) *поплеч*; 2. (очень близко) *блізенька*". Гэтыя артыкулы падаюць і наступныя перавыданні слоўніка. Напрыклад, РБС-93 (Т. 3. С. 274).

Адэкватнасць словаў *шэраг* і *рад* выяўляецца і ў выкарыстанні іх як кампанентаў лінгвістычных тэрмінаў: *незамкнуты шэраг словаў — незамкнутый ряд слов* (Słownik terminologii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski. Białystok, 1994. S. 49). А таксама: *сінанімічны шэраг, фанемны шэраг* (Тамсама. С. 65, 97).

Як вайсковы тэрмін бачым слова *шэраг* у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 183): "*Ряд — шэраг, -гу*". Падаюцца тут і вытворныя словы: "*рядовой* I (сущ.) *шараговец, -гоўца; рядовой* II (прил.) *шараговы*".

Такім чынам, слова *шэраг* набыло ў наш час тыя значэнні, што рас. *ряд*. Параўн.: *у шэрагу сказаў — в ряде предложений; у шэрагу выпадкаў — в ряде случаев* ды інш. У згаданых кантэкстах слова *рад* у беларускай мове не выкарыстоўваецца зусім. Як і ў іншых выпадках. Ідзе працэс адціскання слова *рад* адмысловай лексемай *шэраг*. Гэта фіксуюць і тэрміналагічныя слоўнікі па матэматыцы: *ряд универсальный — шэраг універсальны, ряд числовой — шэраг лікавы, ряд расходящийся — шэраг разбежны* (Русско-белорусский математический словарь. Мн., 1993. С. 173—174).

***Захапляльны — а не захапляючы.*** "Тлумачальны слоўнік" 1996 года падае: "*Захапляльны, -ая, -ае*. Тое, што і *захапляючы. Захапляючы, -ая, -ае*. Які выклікае захапленне, цікавасць. *Захапляючы раман*" (с. 230). Як бачым, аўтары і рэдактары ТСБЛМ усё яшчэ аддаюць даніну ідэі "зліцця" моваў, бо аддзеяслоўныя ўтварэнні з суфіксам *-уч-(-юч-)* беларускай мове неўласцівыя. Гэтая словаўтваральная мадэль была накінутая нашай мове рэформаю 1933 года. Папярэднік гэтага слоўніка — ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978) на с. 407 фіксуе слова *захапляльны* з ілюстрацыяй з мовы твораў знакамітага беларускага навукоўца, культуролага, доктара філалагічных навук, аўтара шматлікіх кніжак Арсеня Ліса: "*У купальскіх песнях сабрана ўсё, што толькі ёсць для беларускіх сялян самага святочнага, таямнічага, **захапляльнага**, радаснага і гуллівага*". А яго дублет *захапляючы* ў слоўніку характарызуецца як дзеепрыметнік незалежнага стану цяперашняга часу ад *захапляць*. А слова ж *захапляльны* атаясамліваецца толькі з другім значэнем слова на *-ючы*: "2. У значэнні прыметніка. Які выклікае захапленне; займальны, цікавы". Дзіўна атрымліваецца: слову *захапляльны* ТСБЛМ надае значэнне дзеепрыметніка(?!).

Штучнасць гэтага *захапляючы* вынікае ўжо з таго, што ад яго не ўтвара-

еціа вытворны назоўнік "захапляючасць". Слоўнікі фіксуюць толькі: "*Захаплляльнасць, -і, ж.* Уласцівасць захаплляльнага. *Захаплляльнасць сюжэта*" (ТСБЛМ. Т. 2. С. 407).

Праўда, гэта не перашкодзіла савецкім слоўнікам падаваць назоўнік *захаплляльнасць* як адэкват да рас. *увлекательность* без фіксацыі яго ўтваральнага слова *захаплляльны*, месца якога заняў яго штучны адпаведнік *захапляючы*. Менавіта гэта бачым у БРС-88 (с. 486): "*Захапляючы* прил. *увлекательный, захватывающий; неотразимый*". Калькаю гэтага *захватывающий* і ёсць *захапляючы*.

І калі ранейшыя слоўнікі (30—80-х гадоў) зусім не падавалі прыметніка на *-льны (захаплляльны)*, то сёння мы ўжо бачым побач з штучнаю структураю на *-ючы (захапляючы)* і натуральнае слова *захаплляльны*, якое ў поўнай згодзе з марфемна-словаўтваральнай сістэмай нацыянальнай беларускай мовы. Дарэчы, у самой дэфініцыі рэестравага слова бачым аднаструктурнае з ім слова *займальны*. Слоўнікі 20-х гадоў не фіксуюць штучнае структуры *захапляючы*.

***Зеўра, зеўранне — а не зіянне.*** Што значыць у беларускай мове гэтае *зіянне?* Як сведчыць будова, яно ад *зіяць (зія-нне)*. Але такога дзеяслова беларуская мова не ведае. Гэтаму расійскамоўнаму слову ў нашай мове адпавядаюць свае адмысловыя словы. Так, у акадэмічным даведніку "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі: "*разявацца, быць раскрытым; под ногами зияла бездна — пад нагамі зеўрала (разявалася, была раскрыта) бездань; зияющий* прил. *разяўлены, раскрыты*". Падаецца тут і пераклад аддзеяслоўнага назоўніка: "*Зияние* (отверстие т.п.) *зеўранне, разяванне*". Гэтыя артыкулы з невялікімі ўдакладненнямі захаваліся і ў наступных перавыданнях слоўніка. Так, БРС-93 і БРС-98 нічога не змянілі ў артыкуле з рэестравым словам "*зиять*" і трошкі — у артыкуле "*зияние*": "1. (действие) *зеўранне;* 2. (пустота, провал), *правал,* разг. *зеўра*". Праўда, застаўся накінуты ідэяй "зліцця моваў" тэрмін *зіянне* — як элемент агульнасаюзнага тэрміналагічнага фонду (хоць ён не мае сваіх каранёў у беларускай мове). А чаму не *зеўра* ці *зеўранне* — слова, якое адпавядае рас. *зияние* і ўтворана ад *зеўраць* — адэквата рас. *зиять*?

Лексікаграфічны артыкул з рэестравым словам *зіянне* цалкам скапіяваны з расійскіх слоўнікаў. Параўнайма: "*Зіянне, -я,* н. У мовазнаўстве: збег дзвюх ці больш галосных у слове або на стыку двух слоў, напр. *аэраплан...*" (ТСБЛМ. С. 242). І ў расійскім даведніку: "*Зияние, -я,* ср. В языкознании: стечение двух или более гласных ■ слове или на стыке двух слов, напр. *аэроплан...*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 207).

Мяркую, што слова *зеўранне* — надта празрыстае, выразна матываванае і як лінгвістычны тэрмін. Тэрміны ж таксама павінны падпарадкоўвацца законам роднай мовы (а такога пачатковага сегмента *зія-* беларуская мова не мае).

***Найлепшы — а не лепшы.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чыта-

ем: "*Лепшы, -ая, -ае.* Найвышэйшая і вышэйшая ступень да *добры. Самае лепшае насенне. Лепшыя людзі вытворчасці*" (С. 316). Дзе ў гэтых сказах-ілюстрацыях слова *лепшы* само па сабе мае значэнне найвышэйшай ступені? Такога тут няма. *Лепшы* — гэта словаформа (суплетыўная) вышэйшай ступені (мае суфікс *-ш-*, параўн. *леп-ей)* да *добры*. Найвышэйшая ступень утвараецца ў беларускай мове з выкарыстаннем прыстаўкі *най-*, якая далучаецца да словаформы вышэйшай ступені: *святлейшы* і *найсвятлейшы, лепшы* і *найлепшы*. Гэтак утвараюцца простыя (іначай сінтэтычныя) формы ступеняў параўнання. Аналітычныя (г.зв. "складаныя") формы найвышэйшай ступені ўтвараюцца далучэннем да прыметнікаў прыслоўных словаў *найбольш, найменш, сáма* ці займенніка *самы: спелы* і *найбольш (найменш) спелы, сáма спелы* і *самы спелы*. У згаданай ілюстрацыі ТСБЛМ бачым: *самае лепшае насенне*, дзе ролю паказальніка найвышэйшай ступені бярэ на сябе займеннік *самае, лепшае* — паказчык вышэйшай ступені параўнання. Дый само словаспалучэнне *самае лепшае* — ненатуральнае (нармаваным ёсць *найлепшае* або *самае добрае)*, бо займеннік *самы* далучаны тут да формы вышэйшай ступені, а нармавана ён далучаецца да г.зв. нулявой ступені параўнання: *самае добрае*. Параўн. *самы светлы* (а не *самы святлейшы)*.

Як бачым, складальнікі слоўніка ўсё тут пераблыталі: механічна перанеслі ў ТСБЛМ лексікаграфічны артыкул з рэестравым словам *лучший* з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 293): "*Лучший, -ая, -ее.* Превосх. и сравн. ст. к *хороший*". У расійскай мове абедзве формы ступеняў параўнання — вышэйшая і найвышэйшая — утвараюцца з дапамогаю суфіксаў, а ў беларускай — з дапамогаю суфіксаў утвараецца толькі вышэйшая ступень параўнання, а найвышэйшая — гэта прыстаўкавае ўтварэнне.

Такім чынам, рас. *лучший* перадае два значэнні, што пацвярджае РБС-93 (Т. 2. С. 7): "*Лучший* 1. сравн. ст. *лепшы;* 2. превосх. ст. *найлепшы*".

Гэтая блытаніна з формамі ступеняў параўнання яскрава выяўляецца і пры характарыстыцы прыстаўкі *най-*, якую бачым у ТСБЛМ. На с. 365 запісана: "*Най...*, прыстаўка. Надае вышэйшай і найвышэйшай (?!) ступені прыметнікаў і вышэйшай ступені прыслоўяў значэнне гранічнай меры прыметы, напр. *найлепшы, найчасцей*". Але ж прыстаўка *най-* у беларускай мове далучаецца да словаформы толькі вышэйшай ступені прыметнікаў. На гэта паказваюць і прыклады-ілюстрацыі (с. 365) *найлепшы* і *найчасцей*. Гэта ў расійскай мове *най-* дадаецца да словаформаў найвышэйшай ступені прыметнікаў і надае ім словаўтваральнае значэнне лімітавай (=рас. предельной) ступені чаго-небудзь: *наилегчайший, наискорейший* (гл.: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 334).

Справядлівую характарыстыку функцыі прыстаўкі *най-* бачым у "Тлумачальным слоўніку" (Т. 3. Мн., 1979. С. 252): "*Най...*, прыстаўка. Ужываецца пры ўтварэнні найвышэйшай ступені прыметнікаў і прыслоўяў і надае ім значэнне самай высокай якасці, напрыклад: *найлепшы, найгоршы, найвышэйшы, найчасцей*".

Механічна з расійскіх даведнікаў перапісаны ў "Тлумачальным слоўніку" 1996 года і лексікаграфічны артыкул "*Найбольш*, прысл. больш за іншых, асабліва. *Найбольш старанны вучань*" (с. 365). Параўн.: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 334): "*Наиболее*, нареч. более других, особенно". Пра штучнасць такога вызначэння "больш за іншых" сведчыць прыклад-ілюстрацыя, што падаецца тут: "найбольш старанны вучань". *Найбольш старанны вучань* — гэта самы старанны вучань, больш старанны за ўсіх іншых вучняў, а не больш за іншых. Апошняе значэнне — "больш за іншых" — гэта значэнне вышэйшай ступені (а не найвышэйшай).

***Вырашальны — а не рашаючы.*** Прыметнік *рашаючы* — гэта былы дзеепрыметнік, утвораны паводле расійскай мадэлі, ці проста пазычанне рас. *решающий* з прыстасаваннем да беларускай марфемікі. Замест яго беларуская мова мае натуральны адпаведнік *вырашальны* — аддзеяслоўны прыметнік (ад *вырашаць: выраша-льны*). Дзеяслоў *вырашаць* якраз і адпавядае рас. *решать*. РБС-93 падае: "*Решать (принимать решение) вырашаць. Решитель — вырашальнік*" (Т. 3. С. 253). Слова *вырашальны* фіксуе і БРС-88 як адпаведнік рас. 1. *разрешимый*; 2. *решающий; вырашальны год пяцігодкі — решающий год пятилетки* (с. 280). Ад гэтага натуральнага слова і назоўнік *вырашальнасць*, які тут падаецца. А вось штучнае *рашаючы* такога ўтварэння не мае. І ўсё ж слоўнікі 30—80-х гадоў дзеля набліжэння беларускай мовы да расійскай падавалі (як адэкват рас. *решающий*) і пазычанне *рашаючы*, часам побач з *вырашальны* (РБС-53, РБС-82). А БРС-62 нават і не згадвае слова *вырашальны*, ■ фіксуе толькі: "*Рашаючы* 1. прил. *решающий; рашаючая перамога — решающая победа*; 2. деепр. *решая*" (с. 817). Яго двухтомавае перавыданне (БРС-89. С. 405) поўнасцю захавала гэты артыкул, дадаўшы нават устойлівы зварот: *рашаючы голас — решающий голос*. Праўда, у першым томе, як мы ўжо згадвалі, зафіксаванае і *вырашальны* з адэкватным значэннем. Гэтым самым слоўнік свядома замацоўваў беларуска-расійскую трасянку. На жаль, і ў перавыданнях, здзейсненых у суверэннай Беларусі, усё яшчэ прапагандуецца гэтая трасянка. Так, у "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Рашаючы, -ая, -ае*. Найбольш істотны, галоўны. *Рашаючая перамога*. а *Рашаючы голас — права галасаваць* (на з'ездзе, канферэнцыі і пад.)" (с. 563). Гэты артыкул скапіяваны з "Словаря русского языка" С.Ожагава, дзе бачым: "*Решающий, -ая, -ае*. Главный, важнейший. а *Решающий голос* — право голосовать (на съезде, конференции и т.п." (с. 605). Але сучасны нацыянальны друк карыстаецца сваім словам *вырашальны (голас)*, а не штучным пазычаннем *рашаючы (голас)*. Дарэчы, ТСБЛМ таксама занатаваў: "*Вырашальны, -ая, -ае*. 1. Такі, які можна вырашыць. *Вырашальная задача*. 2. Рашаючы, галоўны, найбольш важны. *Вырашальны перыяд у жыцці народа*. / / наз. *вырашальнасць*" (с. 131).

***Запэцкаць — а не выпацкаць.*** Натуральным у беларускай мове ёсць утварэнне з прыстаўкаю *за-*. ТСБМ (Т. 2. Мн., 1978. С. 372) зафіксаваў: "*Запэцкаць*, зак., каго-што. 1. у што і без дапаўн. *Забрудзіць, вымазаць. Максім*

***запэцкаў*** *рукі і гімнасцёрку ў смалу.* Шамякін. *Барада за гэтыя дні адрасла, і здаецца, што гэта... Раман свой твар нечым* ***запэцкаў***. Чорны. 2. перан. *Зняславіць, зганьбіць. Маёй душы нікому не* ***запэцкаць***. Панчанка". Падаюцца тут і вытворныя словы: *Запэцкацца, запэцканы*. Апошняе слова мае наступную дэфініцыю: "*Нячысты, брудны. Чыгуначнікі ў* ***запэцканых*** *сініх спяцоўках стаялі маўклівыя...* Навуменка".

Нарматыўнасць гэтага слова засведчыў акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа. К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 85, 185), дзе чытаем: "*Выпачкать* сов. *запэцкаць; выпачкаться — запэцкацца; испачканный — запэцканы; испачкать* — сов. *запэцкаць; испачкаться — запэцкацца*".

Але пазней, дзеля набліжэння беларускай мовы да ўсесаюзнага стандарту, у слоўніках скалькавалі і рас. *выпачкать(ся)* і атрымалі *выпацкаць*. Гэта падае ўжо БРС-62 і перавыданні першага акадэмічнага слоўніка. Так, РБС-82 фіксуе: "*Выпачканный — запэцканы*, мног. *пазапэцкваны, выпацканы; выпачкать* сов. разг. *запэцкаць*, мног. *пазапэцкваць, выпацкаць*, мног. *павыпэцкваць; выпачкаться — запэцкацца*, мног. *павыпэцквацца, выпацкацца*, мног. *павыпэцквацца*" (Т. 1. С. 152). "*Испачканный — запэцканы, забруджаны; испачкать* сов. *запэцкаць; испачкать* сов. *запэцкаць, забрудзіць, запачкаться — запэцкацца, забрудзіцца*" (Тамсама. С. 399). Гэтыя артыкулы захаваліся і ў наступных перавыданнях слоўніка (РБС-93, РБС-98).

Пра штучнасць гэтых *выпацкаць, выпацкацца, выпацканы* сведчыць ужо тое, што яны дублююць значэнне натуральных словаў з прыстаўкаю *за-*. Апрача таго, перанос націску з кораня на прыстаўку робіць іх вымаўленне ненатуральным, бо усе ўтварэнні з гэтым коранем маюць сталы націск на корані: *пэцкаць, пэцканіна, пэцканне, пэцканы, пэцкацца, пэцкаць, пэцнуць, апэцкаць, запэцкаць, напэцкаць, упэцкаць*.

Як сведчыць пяцітомавы "Тлумачальны слоўнік", дзеясловы *выпацкацца* і *выпацкаць* маюць тое значэнне, што і *запэцкацца, запэцкаць*. Параўнайма: "*Выпацкацца*, зак. Разм. Забрудзіцца, вымазацца. *Выпацкацца ў гразь. Выпацкацца ў сажу*" (Т. 1. Мн., 1977. С. 561). "*Выпацкаць* зак. Забрудзіць, вымазаць. *Выпацкаць паліто, твар, рукі*" (Тамсама). "*Запэцкацца*, зак. Забрудзіцца, вымазацца. *Запэцкацца чарнілам. Вучні запэцкаліся ў смалу і гразь*. Скрыпка. *Запэцкаць*, зак. Забрудзіць, вымазаць" (Т. 2. С. 732).

Новы "Тлумачальны слоўнік" справядліва не падае на сваіх старонках гэтага *выпацканы*, відаць, добра ўсведамляючы, што гэта чужое ўтварэнне, тут толькі *ч* замененае на *ц*: *выпачканы → выпацканы*. Праўда, гэтыя чужыя формы пракраліся і сюды, хоць яны падаюцца без тлумачэння, толькі з адсылкаю: "*Выпацкацца, -ць* гл. *пэцкацца, пэцкаць*" (с. 129).

Дык ці патрэбныя нашай мове словы-калекі *выпацканы, выпацкацца, выпацкаць*, калі беларуская мова мае свае адмысловыя словы *запэцканы, запэцкацца, запэцкаць?*

***Вучыць, навучаць — а не абучаць.*** Дзеяслоў *абучаць* не фіксавалі

слоўнікі 20-х гадоў, а занатавалі натуральную форму *навучаць*. Так, у "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 177) чытаем: "*Навучаць, -чыць* каго — 1. Наставлять, -вить; 2. обучать, -чить". Тут падаюцца і іншыя аднакаранёвыя словы: "*Навучальны — учебный, навучанне — обучение*". В.Ластоўскі занатаваў: "*Обучать* каго, чаго — *навучаць, навучаньне, навучаны, навучнік, навука*" (ПРК(Б)С. С. 398).

Аднак пазней, каб наблізіцца да расійскай мовы, ужо нельга было без усесаюзнага *абучаць (< обучать)*. Так, яго ўціснулі ў РБС-53: "*Обучать* несов. *навучаць, вучыць; абучаць; обучаться — навучацца, вучыцца; абучацца; обучаться иностранным языкам — вывучаць замежныя мовы; обучаться стрельбе — вучыцца страляць; обучение — навучанне, вучэнне; абучэнне; всеобщее обязательное семилетнее обучение — усеагульнае абавязковае сямігадовае навучанне*" (с. 345). Гэты артыкул захаваны і ў перавыданнях 1982 года і наступных (РБС-82. Т. 1. С. 581; РБС-93. Т. 2. С. 309). Як бачым, хоць у слоўніках і падаецца (на апошнім месцы) побач з сваімі натуральнымі словамі гэтае штучнае *абучаць*, але ў ілюстрацыях яно не выкарыстоўваецца: *вучыцца стральбе* (а не *абучацца*). Рэдактары першага акадэмічнага слоўніка (РБС-53) Я.Колас, К.Крапіва, П.Глебка разумелі ўсю штучнасць формы *абучаць*, якая складаецца з прыстаўкі *аб-* і няіснага ў беларускай літаратурнай мове кораня *-уч-*. Перад каранёвым *у* ў нашай мове развіваецца прыстаўны (пратэзавы) гук [в]: *вучань, навучанне, вучыць, навука* ды інш.

У ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977) падаецца: "*Абучаць*, незак. каго. Праводзіць ваенную падрыхтоўку. *Абучаць салдатаў*" (с. 84). Аднак тэрміналагічныя даведнікі не падаюць гэтага слова: "*Обучать — навучаць, вучыць, обучение — навучанне; военное обучение — вайсковае навучанне*" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997. С. 119).

А вось новы "Тлумачальны слоўнік" ужо выкарыстоўвае (у дэфініцыях) гэтае *абучаць (абучацца)*, як і ў расійскай мове: "*Гадаванец*. Той, хто выхаваны, вывучаны кім, чым-н. або *абучаецца* дзе-н." (с. 139). Праўда, на с. 24 слова *абучацца* мае толькі наступнае значэнне: "Праходзіць ваенную падрыхтоўку". Атрымліваецца, што *выхаванец* — гэта толькі той, хто "праходзіць (прайшоў) ваенную падрыхтоўку". Вось да якога абсурду даходзяць складальнікі ТСБЛМ — капіявальнікі расійскіх слоўнікаў.

Выснова: беларускай мове неўласцівыя словы з каранёвай часткай *-уч-*, а толькі *-вуч-*. Недарэмна рас. *всеобуч* перакладаецца як *усенавуч* (РБС-53. С. 75; РБС-93. Т. 1. С. 225).

***Малы, малеча, малюк — а не малыш.*** Слоўнікі 20-х гадоў не фіксавалі слова *малыш*. В.Ластоўскі занатаваў словы *малы, малюк, малец, малюся* (ПРК(Б)С. С. 315). І гэта натуральна, бо беларускай мове ўтварэнні з суфіксам *-ыш* неўласцівыя. Параўнайма: *зародак* (рас. *зародыш*), *заморак (заморыш)*, *кормнік (выкормыш)*, *паскробак (поскребыш)* ды інш.

Але слоўнікі 30—80-х гадоў слова *малыш* фіксуюць у абедзвюх частках слоўнікавага артыкула (каб наблізіць беларускую мову да расійскай). Тлумачальныя слоўнікі падаюць гэтае *малыш* як гутарковае слова з той дэфініцыяй,

што і *малеча*. Так, у ТСБМ (Т. 3. С. 98) чытаем: "*Малыш, -а*, м. Разм. Маленькі хлопчык, дзіця. *І ўпершыню ў сваіх калысках / / Заснулі ціха **малышы***. Астрэйка" "*Малеча, -ы*, ж. Разм. 1. зб. Маленькія дзеці. ***Малеча і старыя**... з дня ў дзень снавалі па лесе з лазовымі каробкамі і кошыкамі*. Мележ. 2. Маленькае дзіця, дзіцяня. *Але глядзі, чаму не спіць **малеча?** Чаму з калыскі цягне ручаняткі?* Дзяргай" (с. 96). З гэтым значэннем ужываецца (у ролі назоўніка) і слова *малы*. "*Хлопец прыпыніў каня і ўзяў **малога** на воз*. С.Александровіч" (Тамсама. С. 98).

І БРС-88 засведчыў гэта: "*Малы* II сущ. *ребёнок, дитя, младенец*" (с. 668).

Але ж каб замацаваць савецка-расійскае *малыш* як адзіны адпаведнік рас. *малыш*, БРС-88 пайшоў і на вось ґэтае: "*Малеча* собир. ж. *мелюзга, мелкота*" (с. 667). Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 331) фіксуе: "*Малыш, -а* (разм.). Маленькі хлопчык / / ж. *Малышка* / / прым. *малышовы*". Гэта копія з расійскага даведніка: "*Малыш,-а*, м. (разг.). Ребенок, маленький мальчик / / ж. *Малышка* / / прил. *малышовый*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 298).

Але беларусы кажуць: *малы (малая, малое), малеча, малютка, малюк*. Дарэчы, ТСБЛМ таксама засведчыў: "*Малы²*, *-ога*. м. (разм.). *Дзіця. Падвезлі **малых** у школу / / ж. Малая*". А рас. *малыш*, як сведчыў СРЯ Ожагава (гл. згаданае), і ёсць *дзіця* (рас. *ребёнок*).

***Тыповы — а не тыпічны***. Слоўнікі 20-х гадоў фіксавалі толькі першае слова — утварэнне з спрадвечнабеларускім суфіксам: "*Тыповы — типический, типичный*". А таксама і вытворнае ад яго: *тыповасць — типичность* (БРС-26. С. 318). А вось слоўнікі 30—80-х гадоў дадалі сюды і ўсесаюзнае: "*Типичный — тыповы, тыпічны*" (РБС-53. С. 683). Гэты артыкул паўтораны і ў перавыданнях слоўніка (РБС-82, РБС-93). Аднак "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года і яго двухтомавае перавыданне 1988—1989 гадоў нармавальным вызнаюць толькі сваямоўнае ўтварэнне: "*Тыпічны* см. *тыповы. Тыповы* 1. *Типичный, типический; тыповы выпадак — типичный (типический) случай*; 2. (представляющий собой тип) *типический; тыповы вобраз — типический образ*" (БРС-62. С. 932). Тое сама і ў БРС-89 (с. 573).

Здзіўляюць у звязку з гэтым нашыя тлумачальныя слоўнікі, у якіх бачым і гэтае штучнае *тыпічны*, якому неапраўдана надаецца той статус, што і ў нарматыўнага *тыповы*. Але самі ілюстрацыі пярэчаць гэтаму. Так, у ТСБМ (Т. 5. Кн. 1. С. 564) з словам *тыповы* падаюцца прыклады-ілюстрацыі з працаў знаных беларускіх літаратуразнаўцаў (Перкіна, Шкрабы ды інш.), з манаграфіяў, тым часам як *тыпічны* — толькі з маўлення паэта Няхая.

ТСБЛМ (с. 670) безапеляцыйна сцвярджае: "*Тыпічны*. Тое, што і *тыповы*". Тэрміналагічныя слоўнікі падаюць: *типичный — тыповы* (РБСМ. С. 115).

***Каляды, Коляды, Народзіны Хрыста — а не Раджджаство Хрыстовае***. У настольным перакладным календары на 1998 год чытаем: "Чацвер. 7 студзеня. *Раджджаство Хрыстовае* (праваслаўнае)". На якой гэта мове? У беларусаў не можа быць такога слова — *раджджаство*. Гэта старaславянскае слова (ад *рождаться, рождение*). Яно замацавалася ў расійскай мове (як і

безліч іншых стараславянізмаў). В.Ластоўскі падае наступныя яго беларускія адпаведнікі: "*Рождество* ср. *нараджэньне; свята нараджэньня Хрыста: Каляды, Коляды*" (ПРК(Б)С. С. 618). "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 139) таксама засведчыў: "*Каляда ж.* — 1) праздник Рождества; 2) поздравление с Рождеством". РБС-53: "*Рождественский — калядны; рождество* мн. нет, рел. *коляды, каляда, ж.*" (с. 594). Тое сама і ў яго перавыданнях. РБС-82: "*Рождество* мн. нет. рел. *каляды, коляды; каляда, ж.*" (Т. 2. С. 337, РБС-93. Т. 3. С. 260). Перакладныя БРС таксама пацвярджаюць гэта: "*Коляды* и *каляды* ед. нет рел. *рождество* ср." (БРС-62. С. 396; БРС-88. Т. 1. С. 608). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 2. Мн., 1978. С. 595) падае: "*Каляды, -ляд;* адз. няма. Царкоўнае хрысціянскае свята нараджэння Хрыста, якое адзначалася 25 снежня па ст.ст. і ў наступныя дні да вадохрышча". "*Коляды* гл. *каляды*" (Тамсама. С. 709). Гэтае слова мае ў беларускай мове шэраг вытворных: *калядá* (абрад, песня, падарункі), *калядаванне, калядаваць, калядні̇к, калядніца, калядны, калядоўшчык* (Тамсама. С. 595).

Пры імкненні наблізіцца да царкоўнаславянскае формы (*рождество*) найбольш падыходзяць аднакаранёвыя словы *нараджэнне* і *народзіны*. Апошняе, як менш карыстанае ў штодзённым маўленні, якраз і здатнае да ўзвышанага арэолу. Таму зусім натуральнае тут *Народзіны Хрыста*.

***Галодны, галадоўнік — а не галадаючы.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года (с. 141) чытаем: "*Галадаючы, -ага.* м. Той, хто галадае". Гэта — копія з "Словаря русского языка" ў 4 тамах (Т. 1. М., 1981. С. 327): "*Голодающий*. Тот, кто голодает". У беларускай мове *галадаючы* натуральна ўсведамляецца як нязменная форма дзеяслова — дзеепрыслоўе: *жыць галадаючы (недаядаючы)*. Беларускія слоўнікі 20-х гадоў не падавалі гэтага *галадаючы*. У слоўнікі 30—80-х гадоў яно было ўціснута дзеля набліжэння да ўсесаюзнага стандарту. Але і тут побач з ім падаецца і натуральнае слова *галодны*. Так, РБС-82 засведчыў: "*Голодающий* 1. прич. *які (што) галадае*; 2. Сущ. *галодны, -нага*, м." (Т. 1. С. 182). Гэты артыкул падае без зменаў і РБС-93 (Т. 1. С. 319). Сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае і ўтварэнне ад *галадаваць (галадоўля): галадоўнік*. БРС-26 якраз засведчыў: "*Галадаваць — голодать, галадоўля* ж. — *голодуха, голодное время*" (с. 76). Можна сустрэць і "савецкае" вытворнае з суфіксам *-шчык: галадоўшчык*.

Найбольш прыдатным тут ёсць *галадоўнік* і *галодны* як адэкваты рас. *голодающий*.

***Прылада, начынне, інструмент, рэч, уласцівасць, прымета — а не прыналежнасць.*** У нярaз ужо крытычна згаданым "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Галантарэя...* Агульная гандлёвая назва дробных *прыналежнасцей* туалету (гальштук, істужкі, пальчаткі, ніткі, гузікі і пад.)" (с. 141). Што значыць тут вылучанае слова *прыналежнасцей?* Ніводны беларускі слоўнік не фіксуе такой намінацыі ў беларускай мове. У РБС-82 чытаем: "*Принадлежность* ж. 2. (о предмете) *прылада;* (для работы — обычно) *начынне, інструмент; снасць, прыпасы, рэч; канцелярские принадлеж-*

*ности — канцылярскія прылады; письменные принадлежности — пісьмовыя прылады; столярские принадлежности — сталярскія інструменты; рыболовные принадлежности — рыбалоўныя снасці (прылады, прыпасы); постельные принадлежности — пасцельныя рэчы; принадлежности туалета — рэчы туалету;* 3. (признак) *прымета;* (свойство) *уласцівасць*)" (Т. 2. С. 201). Тое сама і ў РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 13).

Дарэчы, не паказвае такога значэння ў слове *прыналежнасць* і сам слоўнік, апісваючы семантыку гэтага рэестравага слова. Праўда, ТСБЛМ скапіяваў іншыя значэнні рас. *принадлежность* з слоўніка С.Ожагава. Параўн.: "*Прыналежнасць, -і,* ж. 1. да чаго. Знаходжанне ў складзе чаго-н., уваходжанне ў склад чаго-н. (кніжн.). *Прыналежнасць да якой-н. арганізацыі, партыі, класа.* 2. Неад'емная ўласцівасць, прымета каго-чаго-н. *Дапытлівасць — прыналежнасць маладосці*" (ТСБЛМ. С. 515). У даведніку: С.И.Ожегов. Словарь русского языка (М., 1982. С. 528): "*Принадлежность,-и,* ж. 2. к чему. Нахождение, пребывание в составе чего-н., вхождение в состав чего-н. (книжн.). *П. к какой-н. группировке, партии, классу.* 3. Неотъемлемая особенность, свойство кого-чего-н. *Любознательность — принадлежность молодости*". І гэта пры тым, што РБС-93 (як і РБС-82, РБС-53) з значэннем 'неад'емная прымета, уласцівасць', як мы пераканаліся, не фіксуе ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула гэтага *прыналежнасць*. Натуральна па-беларуску: *Дапытлівасць — уласцівасць, прымета маладосці* (а не *прыналежнасць...*). Неўласцівасць слова *прыналежнасць* беларускай мове асабліва выразна выяўляецца пры перакладзе ўстойлівых словаспалучэнняў. Так, "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй К.Крапівы засведчыў: "*Принадлежность... а по принадлежности — каму (куды) належыць; обратиться по принадлежности — звярнуцца да каго (куды) належыць; передать по принадлежности — перадаць каму (куды) належыць*" (Т. 2. С. 201). Тое сама бачым ва ўсіх РБС (РБС-53, РБС-93, РБС-98 ды інш.).

***Галяк і галыш.*** У слоўніках савецкага часу (дзеля набліжэння моваў) прапагандаваліся словы з усесаюзнаю структураю. Так, апрача прааналізаванага *малыш* (ды інш.) бачым і *галыш.* У РБС-53 чытаем: "*Голыш — галыш*" (с. 1000). Тое сама і ў яго перавыданнях (РБС-93 ды інш.). У "Тлумачальным слоўніку" (Т. 2. Мн., 1978. С. 22) таксама чытаем: "*Галыш, -а,* м. Разм. 1. Голы чалавек, голае дзіця. 2. Бедны чалавек. 3. Круглы гладкі камень". Гэта — копія з кнігі "Словарь русского языка: В 4 томах". Т. 1. С. 329.

Але ў беларускай мове бытуе і сваямоўнае ўтварэнне (з суф. *-ак*) з гэтым коранем — *галя́к* (як і *бядняк* ад *бедны*). Дарэчы, яго занатаваў і слоўнік. На той сама старонцы бачым: "*Галяк,-а,* м. разм. 1. Пагард. *Бядняк, галыш* (у 2 знач.). 2. у знач. прысл. *галяком.* Без адзення, будучы голым. *Не хадзі **галяком***". Як паказваюць назіранні, слову *галяк* уласцівыя ўсе тыя значэнні, што і пазычанню *галыш* (<рас. *голыш*). У жывой народнай мове яно мае форму жаночага роду (*галячка*) і множнага ліку — *галячкі* 'голыя часткі цела'. Напрыклад, на роднай мне Зэльвеншчыне кажуць: "*Хавай свае **галячкі**, а*

*то насцёбаю па іх пугаю*" (в. Грабава). А вось у перакладных РБС словы *галяк* і *галяком* нават не згадваюцца, скрозь толькі *галыш, галышом*, хоць утварэнні з суфіксам *-ыш* беларускай мове неўласцівыя.

***Гіль і снягір.*** Слова *гіль* як адпаведнік рас. *снегирь* занатаваў В.Ластоўскі: "*Снегирь, птушка Loxia pyrrhula, гіль*" (ПРК(Б)С. С. 667). Зафіксаванае яно і ў "Віцебскім краёвым слоўніку" М.Касяровіча (Віцебск, 1927): "*Гіля злавіў у сіло*". "Тлумачальны слоўнік" (Т. 2. Мн., 1978. С. 51) падае: "*Гіль, -я*, м. Разм. Тое, што і *снягір*. *Чым болей ад дому, меней гілёў са сваімі чырвонымі грудкамі, — не пырхаюць з куста на куст*. Пташнікаў". "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962. С. 207) засведчыў: "*Гіль* м. зоол. — снегирь". Двухтомавае яго перавыданне пацвердзіла гэта (БРС-88. С. 322). А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) ужо і не згадвае бел. *гіль*, а толькі: "*Снягір*, м. Невялікая пеўчая птушка з атрада вераб'іных з чырвонай афарбоўкай пер'я на грудзях (у самцоў)" (с. 612). Копія слоўнікавага артыкула з кнігі: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 656: "*Снегирь, -я*, м. Небольшая певчая птичка из отряда воробьиных, серая, с красной грудью (у самцов)".

***Шклянка і стакан.*** Назвы канкрэтных прадметаў нярэдка пераносяцца на іншыя прадметы і з'явы на падставе пэўных асацыяцый. Так, да прыкладу, слова *куст* набыло і значэнне аб'яднання — *метадычны куст*. Тэрміналагічныя значэнні нярэдка маюць у сваёй аснове канкрэтнапрадметнае значэнне. Параўн.: "*Стакан* 1. Стеклянный цилиндрический сосуд без ручки, служащий для питья. 2. Цилиндрическая металлическая оболочка, корпус артиллерийского снаряда. 3. Названия различных деталей в форме полого цилиндра (спец.)" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 678).

Падчас савецкай улады тэрміналагічныя значэнні ўсесаюзнага стандарту накідваліся нацыянальным мовам. Гэта выразна ілюструе і лексема *шклянка*. У перакладных слоўніках гэтую намінацыю пакінулі толькі для абазначэння пасудзіны для піцця, а астатнія значэнні ўжо выконвалі не свае семантычныя варыянты гэтага слова, а рас. *стакан*. Напрыклад, у РБС-53 чытаем: "*Стакан* м. 1. (сосуд) *шклянка, -кі*, ж. 2. воен., горн. *стакан, -на*, м.; *буря в стакане воды — бура ў шклянцы вады*" (с. 657). Між тым тэрміналагічныя слоўнікі суверэннай Беларусі не пацвярджаюць гэтага. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 200) бачым: "*Стакан* I (посуда) — *шклянка; стакан* II (техн.) — *рулька; стакан снаряда — рулька снарада, бумажный стакан — папяровая рулька*". Або ў РБС-26: "*Шкляначка — 1) стаканчик; 2) стеклянный пузырек*" (С. 349). А вось "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 623) падае слова *стакан* з тымі значэннямі і дэфініцыямі, што і ў расійскіх слоўніках: "*Стакан, -а*, м. (спец.). 1. Гільза артылерыйскага снарада. 2. Назва дэталей рознага прызначэння, якія маюць цыліндрычную форму // прым. *стаканны*".

***Свянцоны і асвянцоны, пасвячоны.*** Слова *свянцоны* засведчыў "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983). На с. 98 чытаем: "*Свянцоны, -ая, -ае. Пасвячоны, асвячоны. Свянцоны хлеб. Свянцоная*

*вада. Лячыла мяне ад хваробы суседская бабуля... Паіла настоем **свянцоных** купальскіх траў.* Асіпенка". *Свянцоны* — ад *свянціць*, якое занатаваў і гэты слоўнік: "*Свянціць, свянчу, свенціш, свенціць;* незак. што. Тое, што і *свяціць²*. *На вербніцу мая маці брала дубец, што распускаўся ў бутэлечцы на акне, **свянціла** ў касцёле і, вярнуўшыся дадому, сцёбала мяне па нагах і прыгаворвала.* Адамчык". На с. 104 падаецца: "*Свяціць² свячу, свеціш, свеціць;* незак. каго-што. Выконваць над кім-н., чым-н. царкоўны абрад асвячэння; *асвячаць. Свяціць ваду. Свяціць хлеб*".

"*Асвячоны, -ая, -ае.* Дзеепрым. зал. пр. ад *асвяціць²*" (Тамсама. С. 277). Тут падаецца і *асвячаць* (незак. да *асвяціць*). БРС-88 (с. 145): "*Асвяціць* II сов. церк., перен. *освятить. Асвячацца* несов. страд. церк., перен. *освящаться, святиться. Асвячаць* несов. церк., перен. *освящать, святить. Асвячоны*, церк. перен. *освященный, свячёный*". Другі том слоўніка (БРС-89. С. 451) зафіксаваў: "*Свянцоны* см. *асвячоны; свянціць* несов. см. *свяціць* II. *Свяціць II* несов. церк. *святить; свяціць ваду — святить воду*" (с. 453). Як бачым, слоўнік аддае перавагу формам, супольным з усесаюзнымі. Як і ў безлічы іншых выпадкаў. Гэтую арыентацыю на ўсесаюзны ўзор замацавалі ўсе перакладныя слоўнікі. Аднак "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" заняў аб'ектыўную пазіцыю, засведчыўшы раўнапраўнасць абодвух варыянтаў гэтых аднакаранёвых словаў.

В.Ластоўскі зафіксаваў кантамінаваныя формы: "*Освящать* што, *асвянчаць, асвянчоны*" (ПРК(Б)С. С. 420).

Формы кшталту *пасвянціць, асвянціць* дазваляюць унікнуць аманіміі: *аспасвяціць* (ліхтарыкам) і *пасвянціць* (ваду), *асвяціць* (ліхтарыкам) *і асвянціць* (ваду) ды пад. Але перакладныя слоўнікі зусім не падаюць другіх словаў з гэтых параў, хоць яны засведчаныя ТСБМ: "*Пасвянціць*, зак. каго, што. Тое, што і *пасвяціць²* (у 1 знач.) — *Хлопчык мой памёр... Ну, як жа без бацюшкі... Хоць зямліцу **пасвянціць***. Чарот" (Т. 4. Мн., 1980. С. 71).

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) справядліва змяшчае і *свянціць, свянцоны* як стылёва раўнапраўныя з *свяціць² і пасвячоны, свячоны*. На с. 592 чытаем: "*Свянціць*, незак., што. Тое, што і *свяціць²* / / зак. *пасвянціць. Свянцоны,-ая,-ае. Пасвячоны, асвячоны. Свянцоная вада. Свянцоны хлеб*".

***Цякучы, бягучы, сыпучы ды іншыя "-учыя".*** У выніку штучнай замены расійскамоўных дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *-ащ-/-ящ-* і *-ущ-/-ющ-* на беларускія з *-ач-/-яч-* і *-уч-/-юч-* сталі не размяжоўвацца ў беларускай мове розныя катэгорыі словаў: дзеепрыметнікі (калькі з расійскамоўных) і прыметнікі з суфіксамі *-ач-/-яч-* і *-уч-/-юч-*. Гэта відаць і на беларускім перакладзе рас. *текучий* і *текущий*. Так, рас. *текущий* перакладаецца як *бягучы: текущие дела — бягучыя справы, текущий счет — бягучы рахунак* (РБС-53. С. 678; РБС-82. Т. 2. С. 471). І гэта пры тым, што ў іншых значэннях, калі гэтаму стараславянізму *текущий* расійская мова мае і іншыя семантычныя адпаведнікі, і ў беларускай частцы падаюцца свае натуральныя словы: "3. (теперешний, настоящий)

*цяперашні;* (этот) *гэты;* (современный) *сучасны; в текущем году — у гэтым годзе; текущий момент — цяперашні (сучасны) момант*" (РБС-82. С. 471). Але ў перыядычным друку і тэкстах саміх слоўнікаў запанаваў менавіта эквівалент на *-учы: у бягучым годзе, бягучы момант, бягучы ўлік ведаў, бягучы рамонт, бягучая атэстацыя* і безліч іншых. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 138) чытаем: "*Бягучы — текущий;* (о воде) *быстро текущий; бягучыя справы — текущие дела,* (*шукай*) *бягучага вољка след* (погов.) — *ищи ветра в поле*".

Між тым чатырохтомавы "Словарь русского языка" (М., 1984. Т. 4. С. 346) размяжоўвае розныя формы: "*Текучий, -ая, -ое.* 1. Способный течь, жидкий. *Текучие тела.* / / Способный растекаться, расползаться (о грунте). *Текучие глины.* 2. Текущий, находящийся в движении (о воде); проточный. 3. Часто меняющийся, неустойчивый, непостоянный. *Состав бригады постоянно текучий*". А на наступнай, 347-й с.: "*Текущий.* 1. Прич. наст. от *течь*[1]. 2. Теперешний. *Текущий момент.* 3. Повседневный. *Обычные текущие дела.* ◊ *Текущий ремонт. Текущий счет*". БРС-89 (с. 687): "*Цякучы* прям., перен. *текучий; цякучыя целы — текучие тела; цякучы састаў брыгады — текучий состав бригады; цякучыя воды — текучие воды*".

Дарэчы, "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 280) поўнасцю скапіяваў артыкул з гэтым рэестравым словам з СРЯ (Т. 4. С. 346). Параўнайма: "*Цякучы* 1. Які здольны цячы; вадкі. *Цякучыя целы.* 2. Які цячэ, знаходзіцца ў руху; праточны (пра ваду). *Цякучыя воды.* 3. перен. Які часта мяняецца; няўстойлівы, зменлівы. *Цякучы састаў брыгады*".

Пра штучнасць гэтага *цякучы* сведчыць ужо тое, што яно не падмацоўваецца тэкстамі з мовы твораў знаных беларускіх пісьменнікаў, вучоных. Гэта цалкам расійскамоўныя кантэксты (*Текущий состав бригады — цякучы састаў брыгады*). Усе тыя сама словы. толькі напісаныя па-беларуску. А беларус кажа: *зменлівы (рухомы) склад брыгады. Плыўкія целы, цечная (плынная) вада.* Параўн.: *текучесть — цечнасць* (Руска-беларускі фізічны слоўнік. Мн., 1994. С. 238). А ў РБС-53 і БРС-62: *цякучасць.* Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 739) пайшоў яшчэ далей на ліквідацыю адмысловых беларускіх лексемаў. Тут чытаем: "*Цякучы, -ая, -ае.* 1. Вадкі, здольны цячы. *Цякучыя і сыпучыя целы.* 2. Які працякае, дзіравы. *Цякучае вядро.* 3. Які знаходзіцца ў руху, цячэ (пра ваду); праточны. 4. перан. Які часта мяняецца; непастаянны, няўстойлівы. *Цякучы састаў рабочых* / / наз. *цякучасць*". Гэта — перапісанае з чатырохтомавага СРЯ і слоўніка Ожагава (с. 704). Тут складальнікі слоўніка нават "узбагацілі" бедную беларускую мову "цякучым вядром". І целы ўжо не *сыпкія* (як гэта бачым на с. 645: *сыпкія рэчывы*), а *сыпучыя*. Засталося яшчэ дадаць "магучыя" і "кіпучыя". І гэта пры тым, што лянавукоўцы абгрунтавалі неўласцівасць беларускай нацыянальнай мове ляманту "-уючых" (А.Клышка). Але ж складальнікі "Тлумачальнага слоўніка" 1996 года кіраваліся іншым: капіявалі расійскамоўныя артыкулы адпаведных слоўнікаў, механічна пераносілі штучныя (але больш блізкія да ўсесаюзных) формы з пяцітомавага свайго папярэдніка. Так трапілі ў аднатомавы "Тлума-

чальны слоўнік" *электрарухаючы, шматабяцаючы, дзікарастучы, прэтэндуючы, лятаючыя* (аб'екты), *рэжучы* (інструмент), *здзйўляючае нешта, захапляючы, жывародзячы* ды інш. Іх бачым у тэкстах тлумачэнняў семантыкі рэестравых словаў. Праўда, у некаторых дэфініцыях дбайныя аўтары выкарыстоўваюць натуральныя лексемы і іх словаформы. Напрыклад, у слоўнікавым артыкуле з рэестравым словам "Цэцэ" чытаем: "Афрыканская *жывародная* муха..." (с. 737), "*Лятальны* апарат" (с. 326, у артыкуле "Лятаць")... Але ў артыкуле "Саламонаў" чытаем: "саламонава рашэнне (кніжн.) — мудрае і простае рашэнне цяжкавырашальнага пытання [паводле біблейскага падання аб судзе цара Саламона, які вызначыў, якая з дзвюх *прэтэндуючых* на дзіця жанчын з'яўляецца яго маці]. Тут правільнае *цяжкавырашальны*, але штучнае *прэтэндуючых жанчын*; натуральным ёсць: *жанчын-прэтэндэнтак*. У артыкуле "*фрэза*" (с. 714) — "Шматлязовы *рэжучы* інструмент" замест правільнага *рэзальны*. "*Цуд* — нешта *здзіўляючае* сваёй незвычайнасцю". Дый астатнія згаданыя "уючыя" маюць свае натуральныя беларускія адпаведнікі: *электрарухальны* (а не *электрарухаючы*, *шматабяцальны*, *дзікарослы*, *захапляльны*, *дзіўны*, *апорны* (а не *нясучы*)...

***Тэлевізія — тэлевізар і тэлебачанне — "тэлебачар"***. Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года засведчыў: "*Телевидение* ср. *тэлебачанне*, ср. *тэлевізія*, ж." (с. 678). Гэтае *тэлевізія* зафіксаваў і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1962. С. 933). Яно паходзіць ад televisio (грэц. tele — далёка і лац. visio — бачанне). Слова *тэлевізія* мае вытворныя: *тэлевізійны*, *тэлевізійнік*, *тэлевізар*... Семантыка гэтага слова і яго вербальная (слоўная) аснова ўваходзяць у склад вытворных словаў: "*Тэлевізар*, м. Апарат для прымання *тэлевізійных* перадач і іх гукавога суправаджэння" (ТСБЛМ. С. 672). Слова *тэлебачанне* — паўкалька рас. *телевидение* (*теле + бачанне* (< *видение*)). Яно не мае сваіх вытворных. Хіба што іранічна-здзеклівае *тэлебачар* (створанае па мадэлі слова *тэлевізар*).

Без выкарыстання ўтваральнага слова *тэлевізія* цяжка зразумець структуру і сэнс вытворных, замацаваных сучаснымі акадэмічнымі слоўнікамі. Слова *тэлевізійны* тлумачальныя слоўнікі падаюць з дэфініцыяй "які перадаецца ці прымаецца па тэлебачанні. *Тэлевізійны фільм*" (ТСБЛМ. С. 672). Але ж *тэлевізійны фільм* — гэта фільм, які перадаецца і прымаецца *па тэлевізіі*; пра гэта сведчыць і структура слова *тэлевізійны* (*тэлевізій(а)-ны*). Ад *тэлебачанне* быў бы "тэлебачанны" (а не *тэлевізійны*). Тыя, хто не ведае, як назваць па-беларуску апарат для прымання тэлебачання, кажуць "тэлебачар" (утварэнне ад *тэлебачанне*). Невыпадкова сучасны нацыянальны друк, слынныя пісьменнікі карыстаюцца гэтым "непазбежным словам" *тэлевізія*. Напрыклад, у Пімена Панчанкі чытаем: "*Бачыў толькі тое, што паказвалі па беларускай **тэлевізіі**, і тое, што расказала ўнучка Ксеня*" (Полымя. 1998. № 8. С. 145).

***Вока, вокны і вакно — ці толькі акно?*** Слова *вока* і *вокны* — роднасныя. Паводле этымалагічных даведнікаў, *окно* ад *око: ок-ьно*. У беларускай

мове перад націскным каранёвым *о* развіўся пратэзавы гук [в]: *вока*. Захоўваюць яго ўсе словаформы, хоць націск прыпадае і на іншы склад: *вока* і *вачэй, вачамі, вачах*. І вытворныя словы: *увачавідкі, уваччу*.

Пратэзавы гук [в] мае і этымалагічна вытворнае ад *вока* слова *вакно* (дарэчы, як і ў іншых мовах: укр. *вікно*, верхнялуж. *wokno*). Яго фіксуе І.Насовіч: *вокно, воконце, вокенница* (СБМ. С. 64). Засведчыў гэта і "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 55): "*Вакенечка* н. — *окошечко; Вакеньніца* ж. — *ставень; Вакно* н. — *окно; Ваконка* ж. — *окошко; Ваконца* н. — *оконце, окошечко*". Было *ваконца* і ў назве пецярбургскага беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца". Але пазней, відаць, каб не было разыходжанняў з усесаюзным стандартам (рас. *окно*), слоўнікі 50—80-х гадоў падаюць толькі *акно, аконца* ды пад. Але ці апраўдана гэта? Думаю, што не. Тым болей, што мы пішам *навокал* і *наваколле, восем* і *васьмі, востры* і *вастрыць* ды пад. Сучасны нацыянальны друк вяртаецца да ранейшай формы слова — *вакно*: "*Адзін толькі ля вакна спрабаваў штось зазначыць не ў лад — удакладніць ці запярэчыць*" (Васіль Быкаў. Камень. Прыпавесць // Народная воля. 1998. 4 снежня); "— *Як твая маці кажа: акно ці вакно? — Канешне, вакно*" (Леанід Левановіч. Ларыса, або Прыгоды аўтамабіліста. Мн., 1998. С. 88).

***Тлумачыць (і меркаваць, казаць, гутарыць, расказваць) — а не талкаваць.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Талкаваць*, незак. (разм.) 1. Гутарыць, весці гаворку. *Мужчыны талкавалі пра нарыхтоўку кармоў*. 2. каму. Растлумачыць што-н. *Колькі не талкавалі яму — нічога не мог зразумець*. // наз. *талкаванне*" (с. 651). Аднак ніводны перакладны акадэмічны слоўнік не падае гэтага. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 685) засведчыў: "*Толкование* в разн. знач. *тлумачэнне; толкователь — тлумачальнік; толковать* несов. 1. (объяснять) *тлумачыць*; 2. (говорить) *гаварыць, казаць*; (разговаривать) *размаўляць*; (беседовать) *гутарыць, гаманіць*; (рассказывать) *расказваць*; (рассуждать) *меркаваць*; (обсуждать) *абмяркоўваць; толковаться* страд. *тлумачыцца*". Гэты артыкул амаль без зменаў захаваўся ў РБС-82 (Т. 2. С. 482) і ўсіх наступных перавыданнях. Толькі слова *толковаться* набыло два значэнні: 1. *гаварыцца, расказвацца*; 2. страд. *тлумачыцца*" (РБС-93 і РБС-98. Т. 3. С. 526). Нават "Беларуска-рускі слоўнік" 1988—1989 гадоў не падае гэтага слова. Тут занатавана: "*Тлумачыць* несов. 1. (истолковывать) *объяснять, толковать*; 2. (определять смысл, значение) *толковать, пояснять; тлумачыць сэнс слоў — толковать (пояснять) смысл слов*". Тут падаюцца і вытворныя словы: "*Тлумачыцца* несов. страд. *объясняться; толковаться; поясняться; Тлумачэнне* ср. 1. объяснение, толкование; 2. толкование, пояснение; 3. объяснение; *Тлумачальнік* м. — *толкователь, истолкователь; тлумачальнік сноў — толкователь (истолкователь) снов; Тлумачальны* 1. (дающий разъяснения) *пояснительный, объяснительный*; 2. (содержащий толкование) *толковый; тлумачальны слоўнік — толковый словарь*" (Т. 2. С. 555).

Змешчанае ў ТСБЛМ — гэта перапісанае з расійскамоўных тлумачальных слоўнікаў. Нават ілюстрацыя тая сама: "*Колькі не талкавалі яму — нічога не мог зразумець*". Гэта крыху змененае (і з памылкаю — часціца "не" на месцы "ні") рас. "*Сколько ему ни толкуй — ничего не хочет слушать*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 711).

Здзіўляе толькі, чаму тады сам слоўнік называецца *тлумачальны*, а не "талковы". У ім жа даецца "талкаванне" словаў.

А лексічная норма вызначаецца ўжо ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча, дзе чытаем: "*Тлумачыць* што — *толковать, объяснять; Тлумачэнне* н. — *толкование, объяснение*" (Мн., 1926. С. 313).

***Цараваць і цараванне — ці царстваваць і царстваванне?*** У беларускай мове дзеясловы звычайна ўтвараюцца ад назоўнікаў з выкарыстаннем суфіксаў *-ава-, -і-(-ы-): зіма — зімаваць, гаспадар — гаспадарыць...* Ад назоўніка *цар* утварыўся дзеяслоў *цараваць* 'быць царом; кіраваць дзяржавай // Цалкам гаспадарыць дзе-н., валодаць кім-, чым-небудзь'. Ад *цараваць* назоўнік *цараванне. Царстваваць* — утварэнне з суфіксам *-ствава-*, які для беларускай мовы нехарактэрны. Гэта засведчыў і акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі: "*Царствование — цараванне; в царствование Петра Первого — у цараванне Пятра Першага; Царствовать* несов. 1. (быть царём) *царстваваць, цараваць;* 2. перен. (господствовать) *панаваць; глубокое молчание царствовало кругом — глыбокая цішыня панавала навокал*" (М., 1953. С. 749). Як бачым, рас. утварэнням з суфіксам *-ствова-* ў беларускай мове адпавядаюць словы з *-ава-: царствование — цараванне, цараваць, господствовать — панаваць*. Форма *царстваваць*, уціснутая ў слоўнікавы артыкул (яе паставілі на першым месцы), не пацвярджаецца ілюстрацыяй. Гэты артыкул і ў наступных перавыданнях слоўніка добра ілюструе паступовы наступ на адмысловасць беларускага слова. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы (М., 1962. С. 999) ужо чытаем: "*Цараваць* несов. см. *царствовать. Царстваваць* несов. (быть царём) царствовать". Праўда, тут захавалася яшчэ лексема *цараванне — царствование*. А вось РБС-82 (Т. 2. С. 578) ужо падае і *царстваванне* (побач з *цараванне*), але ў ілюстрацыі — толькі *цараванне: у цараванне Пятра Першага*. Гэта бачым і ў РБС-93 і РБС-98 (Т. 2. С. 700). Двухтомавае перавыданне БРС-62 ужо касуе ўласнае ўтварэнне *цараванне*, вызнаючы за норму толькі ўсесаюзны стандарт: "*Цараванне* ср. см. *царстваванне*" (БРС-89. С. 673); "*Цараваць* несов. см. *царстваваць*" (тамсама).

"Тлумачальны слоўнік" (Т. 5. Кн. 2. Мн., 1984. С. 228—229), змяшчаючы паралельныя формы *цараваць* і *царстваваць*, аддае перавагу ўсесаюзнай: "*Цараваць* незак. Тое, што і *царстваваць*". Але ж гэта не пацвярджаецца прыкладамі-ілюстрацыямі. Так, форма *царстваваць* мае толькі адну ілюстрацыю з мовы персанажа (а не аўтара). Тым часам як натуральнае *цараваць* ілюструецца тэкстамі з твораў Барадуліна, Мележа ды іншых пісьменнікаў.

Уціснулі сюды і іншыя расійскамоўныя словы: "*Царственны, -ая, -ае.* 1.

Устар. Які належыць цару. *Царственная ўлада.* 2. перан. Кніжн. Велічны, вялікасны. *Царственны выгляд*" (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. С. 229). Але ці ўласцівыя беларускай мове такія структуры — з суфіксам *-ственн-*? Дый сама ілюстрацыя штучная, небеларуская. Беларус кажа: "*Царская (царовая) ўлада*", а не *царственная.* Але складальнікі і рэдактар тома (М.Р.Суднік) уціснулі сюды ўсё, што знайшлі ў расійскамоўных слоўніках: *царстваванне, царстваваць, царственнасць, царственны.*

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) неабачліва паўтарыў свайго папярэдніка. Праўда, тут не падаюцца застарэлыя словы *царственнасць* і *царственны.* Але штучнай форме *царстваваць* надаецца нават больш значэнняў, чым натуральнаму слову *цараваць.*

***(Недаверліва) падазроны, недаверлівы, надумлівы, спадумлівы — а не мніцельны.*** Слова *мніцельны* — утварэнне з суфіксам *-цельн-* ад ***мніць*** (*мні-цельны*). Але беларускай мове суфікс *-цельн-* неўласцівы. Няма ў нашай мове і дзеяслова ***мніць***. Пра гэта сведчаць і РБС. Так, "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 260) засведчыў: "*Мнить* несов. *думать;* (предполагать) *меркаваць;* (представлять себе, воображать) *уяўляць;* (считать) *лічыць; много о себе мнить — шмат аб сабе думаць (уяўляць), мнить себя учёным — лічыць сябе вучоным; мниться* безл. уст. *думацца, здавацца, уяўляцца. Мнительность* (недаверлівая) *падазронасць, недаверлівасць; мнительный* (недаверліва) *падазроны, недаверлівы*". Гэты артыкул амаль без зменаў падаецца і ў перавыданнях слоўніка. Так, у РБС-82 і РБС-93 дадаецца толькі яшчэ адзін беларускі адпаведнік: "*Мнительный* (недаверліва) *падазроны, недаверлівы, надумлівы*" (РБС-93. Т. 2. С. 66). В. Ластоўскі фіксуе: *спадумлівы* (ПРК(Б)С. С. 330).

А вось БРС пад рэдакцыяй К.Крапівы без усякіх падставаў падаюць словы ***мніцельнасць*** і ***мніцельны*** (БРС-62. С. 454; БРС-88. С. 696). Але ж і тут яны бескаранёвыя, бо дзеяслова *мніць* няма. Відаць, гэтыя словы — з маўлення самога К.Крапівы, бо ў ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 168) з словам ***мніцельны*** падаецца прыклад-ілюстрацыя з К.Крапівы: "[Наталля] *Вы страшэнна* ***мніцельны*** *і выдумляеце сабе ўсялякія страхі.* Крапіва". Неабачліва гэтае ***мніцельны*** трапіла і ў ТС-96: "*Мніцельны, -ая, -ае.* Які ўсюды бачыць для сябе небяспеку, непрыемнасць; недаверлівы. // наз. ***мніцельнасць***" (с. 348). Гэта — копія з рас. "*Мнительный, -ая, -ое.* Видящий во всём для себя опасность, что-н. неблагоприятное. // сущ. ***мнительность***" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 314).

Такім чынам, беларуская мова мае свае дакладныя адпаведнікі да рас. ***мнительный,*** і пазычаць яго няма ніякай патрэбы, бо гэта парушае лексічна-словаўтваральныя законы беларускай нацыянальнай мовы.

***Нядбайны, нядобрасумленны, халатны — а не наплявацельскі.*** Слова *наплявацельскі* ўціснулі ў беларускія слоўнікі дзеля культывацыі моўнае трасянкі. Структура гэтага слова парушае марфемна-словаўтваральныя законы беларускай мовы: суфікс *-цельск-* неўласцівы беларускай мове (параўн.: *здзеклівы — издевательский*). Яго адэкватамі выступаюць бела-

рускія прыметнікі *нядбайны, пагардлівы* (РБС-93. Т. 2. С. 142). У тлумачаль-
ныя беларускія слоўнікі яго (разам з дэфініцыяй і ілюстрацыяй) перанеслі з
расійскіх слоўнікаў (чатырохтомавага "Словаря русского языка" Ожагава).

***Нержавейны (і нержавейка) — а не нержавеючы.*** Натуральным у
беларускай мове ёсць прыметнік *нержавейны* — утварэнне ад асновы дзея-
слова цяперашняга часу *(не)ржавей-(уць) → нержавей-ны*. Форма *нержа-
веючы* — штучная, расійскамоўная (<*нержавеющий*). Гэта пацвярджае і
дэфініцыя слова *нержавейка*, якую бачым у ТСБМ (Т. 3. Мн., 1979. С. 391):
"*Нержавейка*, ж. Разм. *Нержавеючая сталь*". Але ж гэты назоўнік мае на-
туральную семантызацыю — 'нержавейная сталь'. Бо ад *нержавеючы* была б
форма *нержавеючка*. Крыўдна за нашых складальнікаў ТС-96, якія неа-
бачліва і сёння падаюць гэтыя штучныя структуры.

***Нападальнік, нападач — а не нападаючы***. Словы з фармантамі *-ачы*
*(-ячы)*, *-учы(-ючы)* — натуральныя дзеепрыслоўі. Гэтая катэгорыя складае
прадукцыйны і абсяжны тып адзінак у беларускай мове. Функцыя дзеепры-
метнікаў ім неўласцівая. Як ужо няраз згадвалася, такія дзеепрыметнікі —
гэта штучныя калькі расійскамоўных дзеепрыметнікаў (з суфіксамі старасла-
вянскага паходжання *-ащ-(-ящ)*, *-ущ-(-ющ-)*. У беларускія слоўнікі яны за-
ганяліся дзеля рэалізацыі ідэалогіі на зліццё моваў. Так, ТСБМ (Т. 3. Мн.,
1979. С. 278) зафіксаваў: "*Нападаючы, -ага*, м. Адзін з ігракоў нападзення ў
гульнях (у футбол, хакей і пад.)". Гэта — калька рас.: "*Нападающий, -его*, м.
Игрок нападения в футболе, хоккее и т.п." (Словарь русского языка: В 4 то-
мах. Т. 2. С. 376). Але ж у расійскай мове *нападающий* — гэта субстантыват
(дзеепрыметнік у ролі назоўніка). Беларускія тлумачальныя слоўнікі гэтага
не згадваюць, але дэфініцыю амаль без усякіх зменаў пераносяць на свае ста-
ронкі. І як дастасаваць гэтыя (у адным сказе) "ігрок у гульнях"? Калі нату-
ральнае *гульні*, то і *гулец* (а не *ігрок*). А чаму не *нападальнік* ці *нападач*,
калі гаворка ідзе пра чалавека, асобу, што бярэ ўдзел у *нападзенні*: *нападаць*
і *напад-ач* ці *напада-льнік*. Аддзеяслоўныя назвы асобы па дзеянні з су-
фіксам *-льнік* складаюць высокапрадукцыйны тып утварэнняў. Дый вытвор-
ныя з *-ач* уласцівыя беларускай мове. Нагадаю, што ў старажытнай белярус-
кай мове бытавалі *даглядач* (сучаснае *даглядчык*), *дыспутач*, *выкладач*,
*змышляч (выдумшчык)*, *павядач (вястун)* ды інш.

На жаль, і новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 370) неабачліва
паўтарае свайго папярэдніка.

Пра гэты лямант "уючых" ужо згадвалася няраз. Але, чытаючы "Тлума-
чальны слоўнік", выдадзены ў суверэннай Беларусі, увесь час спатыкаемся на
гэтыя -"учыя" і -"ачыя". Нярэдка ўся дэфініцыя рэестравых словаў складаец-
ца з іх. Вось яшчэ колькі прыкладаў.

"***Праточны, -ая, -ае.*** Пра ваду, вадаём: *цякучы, не стаячы*". *Праточ-
ная вада* (ТСБЛМ. 1996. С. 503). Дык чаму не напісаць натуральна, па-бела-
руску: *які цячэ, не стаіць?* Аднак складальнікі пайшлі на парушэнне гра-
матычных нормаў беларускай мовы, скапіяваўшы гэты артыкул з "Словаря

русского языка" С.Ожагава, дзе чытаем: "*Проточный, -ая, -ое.* О воде, водоёме — текучий, не стоячий. *Проточная вода*" (с. 556).

"***Пачынаючы, -ая, -ае.*** Які нядаўна распачаў якую-н. дзейнасць, які-н. род заняткаў. *Пачынаючы паэт. Дапаможнік для пачынаючых* (наз.)". Гэта таксама копія з згаданага слоўніка Ожагава: "*Начинающий, -ая, -ее.* Недавно приступивший к какой-н. деятельности, к какому-н. роду занятий. *Начинающий художник. Книга для начинающих* (сущ.)" (с. 351). Але ж нацыянальны друк незалежнай Беларусі адмовіўся ад гэтых штучных формаў. Так, БРС-93 засведчыў: "*Начинающий* 1. прич. *які (што) пачынае; які (што) распачынае*; 2. сущ. *пачатковец*" (Т. 2. С. 174). А вось у "Тлумачальным слоўніку" 1996 года не знайшлося месца для гэтага беларускага слова. І гэта пры тым, што яго папярэднік — ТСБМ (Т. 4. Мн., 1980. С. 141) засведчыў: "*Пачатковец, -ткоўца,* м. Той, хто пачынае якую-н. дзейнасць. *Прагляд раённых газет паказвае, што вакол кожнай з іх групуецца чалавек дзесяць, а то і болей,* ***пачаткоўцаў.*** Лужанін".

"***Пануючы, -ая, -ае.*** 1. Які мае ўладу, знаходзіцца на чале ўлады. *Пануючы клас.* 2. Які пераважае, найбольш распаўсюджаны. *Пануючая парода дрэў.* 3. Які ўзвышаецца над чым-н. *Пануючая вышыня*" (ТСБЛМ. С. 435). Гэта зноў-такі спісанае з "Словаря русского языка" (Т. 1. М., 1981. С. 338): "*Господствующий.* 2. Имеющий власть; находящийся у власти. *Господствующий класс.* 3. Преобладающий, наиболее распространённый. 4. Возвышающийся над чем-либо".

А па-беларуску гэта: *панавальныя класы, пераважальная парода дрэваў, найвышэйшы пункт.*

"***Плаў: на плаве*** *(спец.)* — пра судны, плавальныя сродкі: на вадзе, у плаваючым стане. *Трымацца на плаве*" (ТСБЛМ. С. 479). І ў "Словаре русского языка" С.Ожагава (с. 459): "*Плав: на плаву (спец.) — о судах: на воде, в плавающем состоянии*".

Дзіўна бачыць у беларускім тэксце натуральныя *плавальныя сродкі* побач з штучным "у плаваючым стане". А чаму не ў *стане плавання*? Але ж у СРЯ Ожагава так: *в плавающем...*

***Здыхаць — а не дохнуць.*** Пра нармаванасць першага слова гэтай пары сведчыць ужо тое, што ўсе вытворныя маюць яго аснову. Так, у БРС-88 (с. 515) чытаем: "*здыхата* (рас. *дохлятина*), *здыхаць (дохнуть, подыхать; здыхаць ад нуды — подыхать от тоски)*, *здыхліна* і *здыхляціна (дохлятина), здыхля (дохлый, дохлятина), здыхляк (дохлятина)*". Форма *дохнуць* і вытворныя ад яго ўласцівыя расійскай мове: "*Дохнуть* несов. *здыхаць; мухи дохнут* ирон. *мухі здыхаюць* (РБС-53. С. 127). *Дохлый*, прям., перен. *здохлы; дохлятина* ж. разг. *здыхляціна, здыхліна, здыхата, здыхля;* (о мужчине) *здыхляк; дохляк* прост. *здыхляк* (РБС-92. Т. 1. С. 229). Не зважаючы на ўсё гэта, бачым тут і: "*Дохнуть* несов. *дохнуць, здыхаць;* ◊ *мухи дохнут — мухі дохнуць*" (Тамсама). І калі ў ілюстрацыі РБС-53 захоўвалася "мухі здыхаюць", то ў РБС-82 ужо ў абедзвюх частках — тыя самыя словы.

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С.182) падае ўжо не *здохлы*, як

гэта бачым ва ўсіх РБС (гл. РБС-93: *дохлый* — прям., перен. *здохлы*. Т. 1. С. 403), а *дохлы* (с. 182). Знайшлося тут месца і дзеяслоўным формам *дохнуць* і *падохнуць* (с. 182). Але ж у РБС-53 і РБС-93 рас. *подохнуть* мае бел. эквівалент *здохнуць* і *паздыхаць* (Т. 2. С. 612).

***Завулак — а не правулак.*** Слова *правулак* ТСБМ (Т. 4. С. 310) тлумачыць як "вузкая дарога паміж дамамі". А новы ТСБЛМ (Мн., 1996. С. 488) як "вузкая вуліца паміж дамамі". Дык што ж гэта такое — *правулак*? Вуліца ці дарога? Каму верыць? Дый ці мае пашырэнне гэтае небеларускай структуры слова (з прыстаўкаю *пра-*<*про-*)? У расійскай мове слова *проулок* кваліфікуецца як прастамоўнае з тым сама значэннем, што і *переулок*: "*Проулок, -лка*, м. (прост.) *Переулок*, маленькая узкая улица" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 557).

Дык ці трэба ўціскаць гэтае прастамоўнае расійскае слова ў беларускі слоўнік, калі мы маем сваё натуральнае *завулак*?

***Раздзяўбці — а не расклёваць.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Расклёваць*, зак., што. 1. Клюючы, з'есці ўсё. *Куры расклявалі зерне*. 2. Клюючы, пашкодзіць што-н. або пашырыць пашкоджанне ў чым-н. *Груганнё расклявала рану*. / / незак. *расклёўваць*" (с. 551). Але ж такога слова не падае ніводны з БРС. У іх бачым: "*Раздзяўбці* сов. 1. расклевать. 2. раздолбить" (БРС-62. С. 786; БРС-89. С. 363). РБС-53 таксама засведчыў: "*Расклевать* сов. *раздзяўбці*" (с. 575). Падаючы *расклёваць*, ТСБМ, праўда, не змяшчае на сваіх старонках утваральнага слова *кляваць*, ■ толькі *дзяўбці*, якое мае наступныя значэнні: "1. Есці, хапаючы дзюбай зерне і пад. (пра птушак). *Галубы дзяўблі крупы*. 2. Біць дзюбай. *Куры дзяўблі адна адну*". Ды інш. (с. 180).

*Расклёваць* — гэта закончанае трыванне ад *кляваць* (*расклёваць*). Калі няма *кляваць*, дык адкуль узялося *расклёваць*? Адказ той жа: спісанае, механічна перанесенае з расійскіх слоўнікаў, дзе бачым: "*Клевать* несов. 1. Есть, хватая пищу клювом (о птицах). 2. Ударять клювом. 3. Хватать приманку, насадку на удочке (о рыбе). 4. перен. безл. Идти на лад, удаваться. "*Клевать носом. Денег куры не клюют...*" (Словарь русского языка: В 4 томах. Т. 2. Изд. 2. М., 1982. С. 56).

Усё гэта перанеслі на свае старонкі складальнікі ТСБМ (Т. 2. С. 703): "*Кляваць*, незак. 1. Есці, хапаючы, адшчыпваючы ежу дзюбай (пра птушак). 2. Біць, ударaць дзюбай. 3. Хапаць прынаду, насадку на вудачцы (пра рыбу). 4. безасаб. Разм. Ідзе на лад; атрымліваецца, удаецца. ◊ *Кляваць носам... Куры не клююць...*" Вось як ствараўся 5-томавы "Тлумачальны слоўнік"! Як пашыралася моўная трасянка! Бо што значыць "есці, хапаючы, адшчыпваючы ежу дзюбай"? — Гэта *дзяўбці* (есці дзюбай). А вось складальнікі ТСБМ называюць гэта ... *кляваць*. Але ж *кляваць* — ад *клюв*. Рас. *клюв* — па-беларуску *дзюба* (РБС-93. Т. 1. С. 637), *клевать* (о птицах) *дзяўбці* (Тамсама. С. 633). Або: "біць, ударaць дзюбай" — гэта *дзяўбці*. А ў складальнікаў ТСБМ гэта *кляваць*. Але ж *клевать* натуральнае для расійскай мовы, дзе яно і значыць "ударять клювом", "есть, хватая пищу клювом", што і засведчыў згаданы СРЯ.

Не зважаючы на ўсё гэта, новы "Тлумачальны слоўнік" пераносіць на свае старонкі ўсю бязглуздзіцу з 5-томавага папярэдніка... У нашым выпадку — няіснае, бескаранёвае *раскляваць* (на месцы *раздзяўбці)*.

***Дзеці — а не рабяты.*** Рас. *ребята* — форма множнага ліку ад *ребёнок* (як і *орлята* — ад *орлёнок)*. Паказчык множнага ліку *-ят-а* далучаецца да скарочанай утваральнай асновы (адымаецца суфікс адзіночнага ліку *-енок* з значэннем недарасласці, маладой істоты): *реб-енок → реб-ята*. У беларускай літаратурнай мове гэтага не адбываецца: фармант множнага ліку *-ят-* далучаецца да асновы адзіночнага ліку: *арляня → арлян-яты, ваўчаня → ваўчан -яты*. Таму структура слова *рабяты* вымагае бачыць у ім утварэнне ад *рабя: рабя → раб-яты*. Але ж такога слова няма ў літаратурнай мове. Таму лексема *рабяты* — штучная ў беларускай мове.

В.Ластоўскі зафіксаваў: "*Ребя*, ср. *ребенок* м. — *дзіця, дзяцё, дзіцятка, дзяцюк*" (ПРК(Б)С. С. 609). Не падае гэтага *рабяты* і БРС-26. Акадэмічны РБС-53 занатаваў: "*Ребята* 1. (мн. от *ребёнок) дзеці*, адз. *дзіця*, ср.; 2. разг. (парни) *хлопцы;* (девушки) *дзяўчаты; рабяты*; *Ребятишки* разг. *дзеці*, собир. *дзетвара; Ребятки* 1. разг. *дзеткі;* 2. разг. (парни) *хлопчыкі;* (девушки) *дзяўчаткі; рабяткі*; *Ребяческий* 1. (детский) *дзіцячы;* 2. перен. *дзяціны; Ребячество* прям. перен. *дзяцінства; Ребячий* разг. *дзіцячы; Ребячиться* несов. разг. *дзяцініцца; Ребячливо* нареч. *дзяцінліва; Ребячливость* разг. *дзяцінлівасць; Ребячливый дзяцінлівы*" (с. 587).

Як бачым, усім расійскім словам з коранем *реб-* у беларускай мове адпавядаюць лексемы з *дзец- / дзіц-*. Але ж "дзеля ўзбагачэння беларускай мовы" (гл. Предисловие. С. 6) і ў гэты артыкул уціснута (хоць і на апошнім месцы) *рабяты*. Праўда, без дадатковага тлумачэння. А вось пры перавыданні гэтага слоўніка ўжо вырашылі неяк "абгрунтаваць" патрэбу ў гэтым пазычанні. Так, РБС-82 (Т. 2. С. 325) зафіксаваў: "Ребята II. (только мн.) разг. (парни) *хлопцы;* (девушки) *дзяўчаты;* (молодежь обоего пола) *рабяты; веселые ребята — вясёлыя рабяты*". А вось БРС-62 (с. 774) падае гэтае слова як цалкам адэкватнае расійскаму: "*Рабяты, -бят*, ед. нет *ребята*". Праўда, двухтомавае яго перавыданне змяшчае гэтае слова як размоўнае: "*рабяты, -бят*, ед. нет, разг. *ребята*" (БРС-89. С. 345). "Тлумачальны слоўнік" (Т. 4. Мн., 1980. С. 551) падае гэтае слова з такой кваліфікацыяй: "*Рабяты, -бят;* адз. няма. *Хлопчыкі і дзяўчынкі; дзеці. Больш чым 900 тысяч беларускіх рабят носяць чырвоныя гальштукі*. "Маладосць". Як бачым, штучнасць слова і праілюстраваная штучна. Выкарыстанне гэтага бескаранёвага ў беларускай мове слова *рабяты* выклікала гарачую дыскусію. Вялікі артыкул у часопісе "Полымя" надрукаваў пра гэтае слова Рыгор Шкраба. Былі і іншыя публікацыі. Выснова: гэтае слова чужое для беларускае мовы. Настаўнікі ў школе сталі карыстацца словам *дзеці* (а не *рабяты)*. А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996. С. 532) зноў падае гэтае слова, праўда, з паметаю "размоўнае" і без усякай ілюстрацыі, перапісаўшы яго вызначэнне з свайго папярэдніка: "*Рабяты, -бят* (разм.). *Хлопчыкі і дзяўчаткі; дзеці*".

***Пасціць, пасціць і поснічаць***. Слова *пост* мае шмат вытворных: *посны, поснік, поснасць, посніцкі*. Усе гэтыя вытворныя словы маюць сталы нерухомы націск на корані. Аднак у слоўніках бачым: *пост*, але *пасціць*, хоць дзеяслоўная парадыгма (сістэма словаформаў) захоўвае ўвогуле націск на корані. "Слоўнік беларускай мовы" 1987 года фіксуе: *пасціць* незак. *пашчу, посціш, посціць, посцім, посціце, посцяць* (с. 549). Думаецца, што тут змешваюцца акцэнтавыя нормы розных моваў — беларускай і расійскай: у апошняй дзеяслоўныя формы маюць сталы націск не на корані, а на канчатку ці суфіксе асновы інфінітыва: *поститъ(ся), пощусь, постишься, постится, постимся, поститесь, постятся*.

"Тлумачальны слоўнік" (Т. 4. М., 1980) перанёс на свае старонкі *поснічаць*. Параўн.: рас. *постничать* — 'поститься, воздерживаться от скоромной пищи' (Словарь русского языка: В 4 томах. Т. 3. С. 323). І на с. 293 ТСБМ: "*Поснічаць*, незак. *Пасціць, устрымлівацца ад скаромнай ежы*". Аднак перакладныя слоўнікі не падаюць гэтага слова ў беларускай частцы артыкула: "*Постничать* несов. разг. *пасціць*" (РБС-53. С. 484; РБС-93. Т. 3. С. 711). "*Пасціць* несов. *поститься, постничать*" (РБС-62. С. 637). Праўда, у двухтомавым яго перавыданні бачым: "*Поснічаць* сов. разг. *постничать*" (БРС. Т. 2. Мн., 1989. С. 237). Але новы "Тлумачальны слоўнік" справядліва не падае гэтага расійскага ўтварэння з суфіксам *-ніча-*(*-нича-*).

Такім чынам, сістэмным у беларускай мове ёсць *пост* і *посціць* (як і ўсе вытворныя з коранем *пост-*: *посны, поснік, посніца, поснасць*), а не *пасціць* і *поснічаць*. Гэта пацвярджае і маўленчая практыка: "*Посціць то я пошчу, але ты чаму не хочаш разам з намі посьціць?*" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

***Самаробны і самаробак — а не самадзельны і самадзелка***. У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года (с. 583) чытаем: "*Самадзелка*, ж. (разм). *Самаробная рэч*". Як зразумець тут гэтую моўную трасянку? *Самаробная рэч* — гэта *самаробак*, а *самадзелка* — гэта "*самадзельная*" *рэч*. Дарэчы, бачым тут і такое: "*Самадзельны, -ая, -ае (разм)*. Самаробны, зроблены хатнімі сродкамі. *Самадзельны радыёпрыёмнік*". І ўсё гэта — механічны перанос з даведніка: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 618): "*Самоделка, -и, ж. (разг). Самодельная вещь. Самодельный, -ая, -ое. Сделанный домашними средствами. Самодельный радиоприёмник*". І гэта прытым, што расійскія словы маюць у беларускай мове свае адмысловыя адэкваты: "*Самоделка*, ж. разг. *Самаробак, м., самодельный — самаробны, самодельный радиоприёмник — самаробны радыёпрыёмнік*" (РБС-53. С. 603; РБС-82. Т. 2. С. 349; РБС-93. Т. 3. С. 282). У БРС-62 слова *самадзелка* фіксуецца толькі як абласное (дыялектызм, с. 835). Падаецца тут з той сама стылёвай кваліфікацыяй і "*Самадзелкавы* обл. *самодельный*". А вось двухтомавае яго перавыданне ўжо безапеляцыйна падае: "*Самадзелка* ж. разг. *Самоделка. Самадзельны — самодельный*" (РБС-89. С. 434). Але слова *самадзелка* не падае нават 5-томавы "Тлумачальны слоўнік". У ім бачым: "*Самаробак, -бка*, м. Разм. *Самаробная рэч*" (Т. 5. Кн. 1. Мн., 1983. С. 44).

Складальнікі аднатомавага слоўніка надумалі сумясціць у адным слоўнікавым артыкуле расійскае рэестравае слова *самоделка* і беларускую дэфініцыю з свайго папярэдніка. Тыповы прыклад моўнай трасянкі, якая добра адпавядала ідэалогіі набліжэння беларускай мовы да ўсесаюзнага стандарту. Прыклады гэтай трасянкі бачым ужо ў РБС-53, дзе рас. *самодельщина* перанесеная і ў беларускую частку артыкула. Але пазнейшыя перавыданні гэтага даведніка не падаюць згаданага небеларускага слова. Так, РБС-82 (Т. 2. С. 349) засведчыў: "*Самодельщина* ж. разг. *самаробак, м.*" Тое сама і РБС-93 і РБС-98 (Т. 3. С. 282).

***Нашчадкі — а не патомства.*** Слова *нашчадак (нашчадкі)* падавалі слоўнікі 20-х гадоў. В.Ластоўскі засведчыў: "*Потомок* м. — *нашчадак*; *Потомство — якія пасля будуць; нашчадзь; потомный — нашчадны*" (ПРК(Б)С. С. 520). У 30—80-х гадах побач з сваім словам падаецца і расійскае: "*Потомок — патомак, нашчадак; потомство — патомства, нашчадкі*" (РБС-53. С. 486). Гэты артыкул прадубляваны і ў наступных перавыданнях, замацоўваючы моўную трасянку.

"Тлумачальны слоўнік" 1996 года падае толькі: "*Нашчадак*. м. 1. Чалавек у адносінах да сваіх продкаў. 2. мн. людзі будучых пакаленняў. 3. Сын, наследнік або наогул сваё дзіця" (с. 383). Але разам з тым і: "*Патомства*, зб. 1. Маладое пакаленне ў адносінах да старэйшых, бацькоў. 2. Людзі будучых пакаленняў" (с. 451). Гэта — скапіяваны артыкул з "Словаря русского языка" С.Ожагава (с. 507), толькі замест першага значэння "Потомки" падаецца расшыфроўка яго з артыкула "Нашчадак" (мн.).

Дык ці ёсць патрэба ў пазычанні *патомак, патомства*, калі нацыянальная беларуская мова мае свае адмысловыя адэкваты *нашчадак, нашчадкі?*

***Лаўка (у вагоне) — а не полка.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "*Полка*, ж. 2. Лаўка ў вагоне для сядзення ці ляжання. *Верхняя полка*" (с. 484). Гэта перанос рас. *полка* з вядомага СРЯ Ожагава: "*Полка*, ж. 2. Место для лежания в железнодорожном вагоне" (с. 491). Усе акадэмічныя РБС рас. *полка* перакладаюць бел. *лаўка*: "*Полка*, ж. 1. *паліца, книжная полка — кніжная паліца*; 2. (в вагоне) *лаўка*" (РБС-53. С. 466; РБС-82. Т. 2. С. 130; РБС-93. Т. 2. С. 661). І пяцітомавы "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. С. 25) засведчыў: "*Лаўка*, ж. 3. Прыстасаванне ў вагоне для сядзення або ляжання пасажыраў. *Паходня без асаблівых прыгод на гэты раз заняў месца ў вагоне на ніжняй* ***лаўцы***. Хадкевіч".

Слова *лаўка* мае 4 значэнні і ілюструецца прыкладамі выкарыстання з твораў Я.Коласа, І.Мележа, У.Дамашэвіча ды іншых пісьменнікаў. Праўда, не абышлося ў ТСБМ і без трасянкі. На с. 290 чацвёртага тома бачым і гэтую *полку* (з маўлення Кулакоўскага).

***Жабрак — а не папрашайка.*** Рас. *попрошайка* ў беларускай мове адпавядае слова *жабрак*. Гэта засведчылі ўсе РБС. Так, у РБС-53 чытаем: "*Попрошайка* м. і ж. 1. (нищий) *жабрак*, м; (*нищенка*) *жабрачка*, ж." (с. 477). Пацверджана гэта і ўсімі перавыданнямі слоўніка (РБС-82. Т. 2. С. 146; РБС-93. Т. 2. С. 691 ды інш.).

Аднак тлумачальныя слоўнікі перапісалі з расійскіх даведнікаў слова *попрошайка* з усімі яго значэннямі. Так, у ТСБМ (Т. 4. Мн., 1980. С. 27) чытаем: "*Папрашайка*, м. і ж. 1. Чалавек, які займаецца жабрацтвам, пабіраецца; *жабрак*. 2. Той, хто ўвесь час выпрошвае што-н., дакучае ўсім просьбамі". З самой дэфініцыі вынікае, што "чалавек, які займаецца *жабрацтвам*, і ёсць *жабрак*". Гэтую бязглуздзіцу *папрашайка* прадубляваў і ТС-96: "*Папрашайка*... Тое, што *жабрак*..." (с. 439). Тут бачым і вытворны дзеяслоў: "*Папрашайнічаць*... Быць, паводзіць сябе папрашайкай". Так касуецца і адмысловае беларускае слова *жабраваць*. А вось РБС, які вытрымаў 7 выданняў, фіксуе: "*Попрошайничать* несов. (нищенствовать) *жабраваць*" (РБС-93. Т. 2. С. 691). А БРС-26 (с. 141) занатаваў: "*Канькала* аг. *попрошайка; каньканьне*, н. *попрошайничество; канькаць — попрошайничать*".

***Корак, затор — а не пробка.*** У беларускай мове слова *корак* шматзначнае. Ім называецца вонкавы абмерлы слой кары некаторых драўляных раслінаў (асабліва развітай у коркавага дуба), затычка для бутэлек і іншага падобнага посуду (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 714), а таксама *абцас* (ТСБЛМ). Гэтае слова здатнае для выкарыстання і як назва электрычнага засцерагальніка. Але дзеля стварэння агульнасаюзнага тэрміналагічнага фонду замест свайго слова было накінута рас. *пробка*. Так, у РБС-53 чытаем: "*Пробка*, ж. 1. (кора растений) *корак*; 2. (для закупорки) *корак, затычка*; 3. эл. *пробка*; 4. перен. (скопление) *затор; пробковый — коркавы; пробковый шлем — коркавы шлем; пробковый пояс — коркавы пояс; пробковая подошва — коркавая падэшва*..." (с. 524). Гэты артыкул паўтораны ўсімі перавыданнямі слоўніка. Але дзеля набліжэння беларускае мовы да расійскае да слова *затор* дадаецца рас. *пробка* (РБС-82. Т. 2. С. 220). Гэта, на жаль, прадубляваў і РБС-93. Бачым гэтую недарэчнасць і ў ТС-96: "*Пробка*, ж. 1. Электрычны засцерагальнік. 2. перан. Вялікая колькасць каго-, чаго-н., якая перашкаджае нармальнаму руху (разм.). *Пробка на чыгуначным пераездзе*" (с. 506). Артыкул перапісаны з расійскіх слоўнікаў. У беларускай мове слова *корак* здатнае перадаваць усе значэнні рас. *пробка*.

***Шмат — а не памногу.*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года (с. 431) чытаем: "*Памногу*, прысл. (разм.). У вялікай колькасці, многа (звычайна пра тое, што паўтараецца). *Памногу перапісваць адно і тое ж*". Артыкул спісаны з СРЯ Ожагава: "*Помногу*, нареч. В большом количестве (обычно о повторяющемся)" (с. 496). Штучнасць перапісанага выдае і зварот *адно і тое ж* (рас. *одно и то же*) на месцы натуральнага *тое сама*. Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі засведчыў: "*Помногу* нареч. разг. *шмат*" (М., 1953. С. 472). І гэта натуральна. Параўнайма: *подолгу — доўга, попусту — дарма, дарэмна, марна* ды інш. Але слоўнікі 60—80-х гадоў нярэдка замест сваіх натуральных формаў падаюць агульнасаюзныя стандарты: *памногу, падоўгу* ды інш. Гэта асабліва выявілі тлумачальныя слоўнікі. Так, у ТС-96 чытаем: "*Падоўгу*, прысл. На працягу доўгага часу" (с. 414). Спісанае з СРЯ Ожагава: "*Подолгу*, нареч. В течение продолжительного времени" (с. 478).

***Выпускаць (з рук), губляць, апускаць, кідаць, прыніжаць, траціць — а не раняць.*** "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 549) падае: "*Раняць* незак, каго-што. Даваць магчымасць упасці, скаціцца таму, што аддзялілася, адарвалася. *Раняць горкія слёзы* (перан.: плакаць.)". Паводле гэтага вызначэння трэба казаць: *дрэвы раняюць лісце; яблыня раняе плады* ды пад. Але ж беларус так не кажа. Па-беларуску: *з дрэваў ападае лісце, ападаюць плады*... Слова *раняць* беларускай мове неўласцівае. Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 595) засведчыў: "*Ронять* несов. 1. (выпускать из рук) *упускаць*; (терять) *губляць*; 2. (голову на грудь) *апускаць*; 3. (слёзы) *раняць*; 4. перен. (слова) *кідаць, цадзіць*; 5. перен. (достоинство, авторитет) *прыніжаць, траціць*". Гэты артыкул цалкам захаваны і ў перавыданнях слоўніка (РБС-82, РБС-97, РБС-98). Толькі дадаецца яшчэ адно значэнне (терять, лишаться) — *губляць; ронять листву — губляць лісце, ронять перья — губляць пер'е* (РБС-82. Т. 2. С. 338; РБС-93. Т. 3. С. 262). Як бачым, слова *раняць* у беларускай частцы слоўнікавага артыкула выкарыстанае толькі ў дачыненні да слова *слёзы*. Але і тут яно ненатуральнае. Як сведчыць "Словарь русского языка" (В 4 томах. Т. 3. М., 1984. С. 731), *ронять слёзы* — гэта ўстойлівае словазлучэнне з знач. 'плакаць'. Яно не ўваходзіць у характарыстыку семантыкі рэестравага слова *ронять*.

Не падае гэтага неўласцівага беларускай мове *раняць* і "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы (М., 1962). Праўда, у двухтомавым выданні бачым: "*Раняць* несов. (слёзы) *ронять*" (Т. 2. Мн., 1989. С. 378). Але, як мы ўжо пераканаліся, слова *раняць* — гэта частка фразеалагізма і самастойна не выкарыстоўваецца. Пяцітомавы слоўнік (Т. 4. Мн., 1980. С. 639) неапраўдана надае гэтаму штучнаму ў беларускай мове слову *раняць* і іншыя значэнні ('скідаць плады', 'прыніжаць аўтарытэт' ды інш.), перапісаўшы артыкул з гэтым рэестравым словам з расійскамоўных тлумачальных слоўнікаў.

***Падзельнасць — а не дзялімасць.*** Слова *дзялімасць* ад *дзялімы* (з выкарыстаннем суфікса *-ім-: дзял-ім-ы*). Такія аддзеяслоўныя структуры беларускай мове неўласцівыя. Гэта механічна перанесеныя расійскія формы *делимый, делимость*. "Русско-белоруский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 111) занатаваў: "*Делимое* сущ. мат. *дзеліва; делимость — падзельнасць; делимый* прил. *падзельны; делитель* мат. *дзельнік*". Бачым гэтыя натуральныя беларускія адпаведнікі і ў БРС-62: "*Падзельнасць* ж. — *делимость; падзельны — делимый*" (с. 564). Але ў гэтым даведніку, выдадзеным пад рэдакцыяй К.Крапівы, чытаем і наступнае: "*Дзялімае* сущ. мат. *делимое; Дзялімасць* ж. мат. *делимость*" (с. 247). Так стваралася беларуска-расійская моўная трасянка, каб потым цалкам перайсці на расійскамоўную тэрміналогію. У перавыданні РБС-53 (РБС-82. Т. 1. С. 203) ужо чытаем: "*Делимое* сущ. мат. *дзялімае; дзеліва, делимость — падзельнасць, дзялімасць*". Трапіла гэтая трасянка і на старонкі іншых слоўнікаў (БРС-88, 89; ТСБМ. Т. 2).

Аднак тэрміналагічныя матэматычныя даведнікі падаюць толькі наступнае: "*делимое*, ср. — *дзеліва*, н. *делимость неограниченная — падзельнасць неабмежаваная*" (Русско-белорусский математический словарь / Под общей ред. д-ра физико-математических наук, проф. Я.В.Родыно. Мн.: Выш. школа, 1993. С. 42). Тое сама і ў "Тэрміналагічным слоўніку па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" (Мн., 1993. С. 23): *делимое — дзеліва, делимость — падзельнасць*. Гэта пацвярджаюць і пазнейшыя тэрміналагічныя выданні: *делимое — дзеліва* (РБФС-99. С. 76). Засведчыў гэта і "Тэрміналагічны бюлетэнь" (Вып. 1. Мн., 1997), які змясціў "Руска-беларускі слоўнік асноўнай матэматычнай тэрміналогіі школьных падручнікаў": *делимое — дзеліва*. Дарэчы, тут бачым натуральныя беларускія формы і пры перадачы іншых расійскіх тэрмінаў з суфіксамі *-им-*, *-ем-*: *обратимая функция — абарачальная функцыя, слагаемое — складнік, уменьшаемое — змяншыва, вычитаемое — адымнік*.

Дзіўна бачыць на старонках "Тлумачальнага слоўніка", выдадзенага ў 1996 годзе, вось такое: "*Падзельнасць, -і*, ж. Тое, што і *дзялімасць*" (с. 411).

***Ператрус, абшукванне, вобшук* — ■ *не вобыск*.** Рас. *обыск* — бяссуфіксавае ўтварэнне ад *обыскивать/обыскать*. Адэкваты гэтых дзеясловаў у беларускай мове — *абшукваць/абшукаць*. Гэта засведчылі ўсе перакладныя слоўнікі. БРС-26: *Абшукваць, -каць* што — *обыскивать, -скать*. (с. 16). РБС-93: *обыскивать* несов. *абшукваць; обыскать* сов. *абшукаць* (Т. 2. С. 317). Ад гэтых дзеясловаў утварыліся назоўнікі і прыметнікі (дзеепрыметнікі): *абшукванне, абшуканы* (БРС-26. С. 16; БРС-62. С. 41; БРС-88. С. 53—54). З значэннем "обыскивать" у беларускай мове выкарыстоўваецца і дзеяслоў *трэсці*: "*Трэсці* несов. 2. (кого-что) разг. *производить обыск* (у кого, в чём); *паліцыя трэсла вёску* (жыхароў вёскі) — *полиция производила обыски в деревне* (у жителей деревни)" (БРС-62. С. 928; БРС-89. С. 568). Ад дзеяслова *трэсці* ўтварылася прыстаўкавая форма закончанага трывання *ператрэсці* з значэннем 'абшукаць', што таксама занатаваў гэты слоўнік: "*Ператрэсці* сов. 3. (каго-што) *произвести обыск* (у кого, в чём); *паліцыя ператрэсла ўсіх жыхароў вёскі* (усю вёску) — *полиция произвела обыск у всех жителей деревни* (во всей деревне)" (БРС-89. С. 211). Ад дзеяслова *ператрэсці* ўтварыўся (бяссуфіксавым спосабам) назоўнік *ператрус*.

Менавіта словы *абшукванне* і *ператрус*, а таксама *вобшук* выкарыстоўваюцца як адэкваты рас. *обыск*. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Мн., 1997. С. 120) засведчана: "*Обыск — вобшук, -ку, абшукванне, ператрус, -су*". Дый В.Ластоўскі яшчэ ў 20-х гадах занатаваў: "*Обыскивать* каго, *шукаць* чаго ў каго; *трасьці; Обыск* м. *потрус, пяротрус, пяротрусы, пяротрусны*" (ПРК(Б)С. С. 400). Бачым тут і "*Обыщик* м. *пяротрусьнік, ператрусьнік*".

А вось слоўнікі 30—80-х гадоў падаюць толькі рас. *обыск — вобыск*, падпарадкаваўшы яго беларускай фанетыцы. ТС-96 фіксуе: "*Вобыск, -у*, м. Афіцыйны агляд каго-, чаго-н. з мэтай знайсці што-н. забароненае, недазволе-

нае і пад. *Зрабіць вобыск. Знайсці пры вобыску*" (с. 115). Перапісанае з рас.: "*Обыск, -а,* м. Официальный осмотр кого-, чего-н. с целью найти укрываемое, недозволенное. *Произвести обыск. Найти при обыске*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 388). І гэта прытым, што на с. 479 фіксуецца: "*Ператрэсці* зак. 2. каго-што. Зрабіць вобыск. // незак. *ператрасаць*".

***Жабраваць — а не пабірацца.*** Пры перапісванні расійскіх слоўнікавых артыкулаў на старонкі беларускіх даведнікаў нярэдка пераносяцца і расійскамоўныя словы з адпаведных дэфініцыяў. Так, у артыкуле з рэестравым словам *папрашайка* чытаем: "1. Чалавек, які займаецца жабрацтвам, *пабіраецца...*" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 27). Тое сама і далей: "*Папрашайнічаць.* 1. Займацца жабрацтвам; *пабірацца*". Аднак такое слова — *пабірацца* — беларускай мове неўласцівае. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 430) засведчыў: "*Побираться,* несов. разг. *жабраваць; побируха, побирушка* (о мужчине) *жабрак* м.; (о женщине) *жабрачка*". Тое сама бачым і ў перавыданнях слоўніка: "*Побираться* несов. разг. *жабраваць*" (РБС-93. Т. 2. С. 563). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы занатаваў: "*Жабраваць* несов. 1. просить подаяние, нищенствовать, *побираться;* 2. пренебр. *попрошайничать*" (М., 1962. С. 264). Пацвярджае гэта і двухтомавае выданне БРС-88 (с. 408).

А вось "Тлумачальны слоўнік" (Т. 3. Мн., 1979. С. 462) падае гэтае небеларускае слова асобным слоўнікавым артыкулам: "*Пабірацца, -аюся, -аецца;* зак. разм. Прасіць міласціну, жабраваць. — *Мы не ведаем, — сказала Надзя. — Нічога не ведаем. Мы сіроты,* ***пабіраемся...***" Гэты артыкул перапісаны з даведніка "Словарь русского языка" (Т. 3. С. 152): "*Побираться, -аюсь, -аешься;* несов. разг. Просить милостыню, подаяние, жить нищенством". Толькі "перапісчык" замяніў (памылкова) граматычную памету "несов." на "зак." Дый прыклад узяты не з аўтарскай мовы, а з маўлення персанажа.

***Літасць, ласка — і міласць.*** Слоўнікі 20-х гадоў засведчылі: "*Літасць,* ж. — *жалость; снисхождение, милосердие*" (БРС-26. С. 159). "*Милостивый — ласкавы, ласкавасць*" (ПРК(Б)С. С. 327). "*Міласць,* ж. — милость, любовь" (БРС-26. С. 170). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі занатаваў: "*Милость* 1. (милосердие) *літасць, міласць; сменить гнев на милость — змяніць гнеў на міласць; сдаться на милость победителей — здацца на літасць пераможца;* 2. (благоволение, одолжение) *ласка; втереться в милость — убіцца ў ласку; быть в милости — быць у ласцы; из милости — з ласкі; а милости просим!* разг. *будзьце ласкавы!, калі ласка!; сделать милость — зрабіць ласку, будзьце ласкавы; скажите на милость — скажыце, калі ласка*" (М., 1953. С. 257—258). Гэты артыкул паўтораны і ў перавыданнях слоўніка. Толькі дапоўнены ўстойлівымі зваротамі: *по милости* кого (чьей) — *праз ласку* каго (чыю); *милостью божьей — ласкаю божай, оказать милость — зрабіць ласку* (РБС-82. Т. 1. С. 443; РБС-93 і РБС-98. Т. 2. С. 59).

Падаюцца і вытворныя прыметнікі: "*Милостивый — літасцівы, міла-*

*сціві, ласкавы; будь(те) милостив(ы) — будзь(це) ласкавы*" (РБС-82. Т. 1. С. 443; РБС-93. Т. 2. С. 59).

Як паказваюць назіранні, рас. *милость, милостивый* у беларускай мове звычайна адпавядаюць *літасць, літасціві* і *ласка, ласкавы*. Але тлумачальныя слоўнікі пераносяць на свае старонкі і расійскія ўстойлівыя звароты. Так, у ТСБМ (Т. 3. С. 154) чытаем: "*Міласці просім* гл. *прасіць. На міласць бога... Па міласці каго... Скажы на міласць* гл. *сказаць*". Неабачліва паўтарыў гэтае "зліццё моваў" і "Тлумачальны слоўнік" 1996 года (с. 345).

***Кій, кульбака і посах.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926. С. 146) падае: "*Кій* м. — *палка, трость*". Першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 483) засведчыў: "*Посох — кій*, род. *кія*, м.; *Посошок* 1. (палка) уменьш. *кіёк;* 2. (рюмка) шутл. *шапачнае; выпить на дорогу посошок — выпіць на дарогу шапачнага*". БРС-62 зафіксаваў: "*Кій* м. 1. *палка*; 2. (для опоры при ходьбе) *палка, трость, посох*; 3. (бильярдный) *кий*; ◊ *не кіем, дык палкай — что в лоб, что по лбу; не мытьём, так катаньем; Кіёк* род. *кійка* м. уменьш.-ласк. 1. *палочка*; 2. (для опоры при ходьбе) *палочка, посошок*" (с. 389). Гэта пацвярджае і двухтомавае яго перавыданне (БРС-88. С. 598), дзе бачым і дадатковыя ўстойлівыя звароты: "*у старца кій адабраць — у нищего посох отнять*".

Як бачым, рас. *посох* адпавядае бел. *кій*. Толькі гэтае слова *кій*, як мы ўжо пераканаліся, занатавалі БРС-26 і РБС-53. А вось БРС-62 і БРС-89, апрача адмысловага беларускага *кій*, змяшчаюць і *посах* у абедзвюх частках слоўнікавага артыкула, тым самым памнажаючы моўную трасянку. ТСБМ (Т. 4. Мн., 1980. С. 293) падае гэтае слова без усякай ілюстрацыі: "*Посах, -а*, м. Доўгі кій, на які апіраюцца пры хадзьбе. / / Жазло ў свяшчэннаслужыцеляў". Гэта — перапісаны артыкул з чатырохтамовага "Словаря русского языка" (Т. 3. С. 320): "*Посох, -а*, м. Длинная палка, трость для опоры при ходьбе. / / Жезл высших священнослужителей..."

А між тым беларуская мова мае яшчэ адну намінацыю з значэннем рас. *посох*. Гэта — *кульбака* (і *кульба*). Яе занатаваў "Тлумачальны слоўнік" (Т. 2. Мн., 1978. С. 753): "*Кульба, -ы*. ж. Разм. Палка з загнутым верхнім канцом для апоры пры хадзьбе. *Абапёршыся на кульбу, дзед уважліва разглядаў дзяцей*. Рылько; *Кульбака, -і*, ж. Тое, што і *кульба. Свату падзяка або кульбака*. З нар."

Такім чынам, у беларускай мове адэкватамі рас. *посох* выступаюць *кій* і *кульбака (кульба)*. Слова *посах* неўласцівае беларускай мове, яно трапіла ў беларускія слоўнікі, выдадзеныя пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы (БРС-62 і РБС-82, БРС-89).

"Тлумачальны слоўнік" 1996 года таксама засведчыў: "*Кульба* і *кульбака*, ж. Палка з загнутым верхнім канцом для апоры пры хадзьбе" (с. 306). А вось слова *кій* ужо не мае ў слоўніку значэння рас. *посох*. Дый нашто яно, калі з гэтым значэннем занатавана *посах?*

***Нядбайна, пагардліва — а не наплявацельскі.*** Рас. *наплевательски* —

утварэнне (прыслоўе) ад прыметніка (з суфіксам *-тельск-*) *наплевательский*. Беларускай мове такія словаўтваральныя структуры неўласцівыя. Параўн.: *издевательский — здзеклівы, издевательски — здзекліва, издевательство — здзек* (РБС-53. С. 174). Гэтаму стылёва абмежаванаму (гутарковы стыль) расійскаму слову ў беларускай мове адпавядаюць *нядбайны, пагардлівы; наплевательское отношение к делу — нядбайныя адносіны да справы* (РБС-53. С. 285; РБС-82. Т. 1. С. 489; РБС-93. Т. 2. С. 142).

Не зважаючы на штучнасць для беларускай мовы гэтага слова *наплявацельскі* яго ўціснулі ў слоўнікі. "Беларуска-рускі слоўнік" 1988 года нават змясціў наступнае: "*Наплявацельскі* нареч. разг. *наплевательски; наплявацельскія адносіны да справы — наплевательское отношение к делу*" (с. 747). Але ж у беларускай мове прыслоўі ад назоўніка на *-скі* ўтвараюцца конфіксавым спосабам: *мужчынскі → па-мужчынску*. РБС-53 і РБС-82 так і аформілі гэтае прыслоўе: *наплевательски — па-наплявацельску*.

Адчуваючы штучнасць гэтага рас. *наплевательски*, "Тлумачальны слоўнік" 1996 года не падае адэкватнага яму прыслоўя *па-наплявацельску*, а толькі: "*Наплявацельскі, -ая, -ае* (разм.). Нядбайны, нядобрасумленны, халатны. *Наплявацельскія адносіны да справы*" (с. 372). Гэта — копія з расійскіх даведнікаў (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 340 ды інш.). Бачым гэты слоўнікавы артыкул і ў пяцітомавым "Тлумачальным слоўніку" (Т. 3. С. 288). Але без аніякай ілюстрацыі з тэкстаў беларускіх аўтараў, што таксама сведчыць пра неўласцівасць яго беларускай мове. Дарэчы, і вызначэнне семантыкі яго досыць няпэўнае. Параўн.: "*Наплевательский* — нядбайны, пагардлівы" (РБС-53, РБС-82. РБС-93) і "нядобрасумленны, халатны, нядбайны" (ТСБМ).

***Сумленны ці добрасумленны?*** Слова *сумленны* слоўнікі вызначаюць як 'шчыры, старанны, з высокімі маральнымі якасцямі, праўдзівы, адкрыты' (ТСБМ. Т. 5. Кн. 2. С. 376—377). *Добрасумленны* — 'які чэсна і старанна выконвае свае абавязкі, дбайны, акуратны, шчыры' (ТСБМ. Т. 2. С. 196). Як бачым, семантычна яны не адрозніваюцца. Толькі першае, простае слова *сумленны* як натуральнае ілюструецца шматлікімі прыкладамі выкарыстання з твораў майстроў слова, другое — складанае *добрасумленны* не мае гэтага, што і паказвае на ненатуральнасць яго ў маўленні, калькаванасць. Пра гэта сведчаць і пераклады расійскамоўных лексемаў з першай часткай *добро-* на беларускую мову. Параўнайма: *добропорядочный — прыстойны; добродушный — лагодны; доброжелательный — прыхільны, спрыяльны* (РБС-53. С. 118). Гэтыя аднакаранёвыя адпаведнікі бачым і пры перакладзе расійскамоўных складаных словаў з першаю асновай *благ-(благо): благовидный — прыстойны; благодарный — удзячны; благодатный — багаты, раскошны, спрыяльны; благодушный — лагодны; благожелательный — прыхільны, спрыяльны; благонравный — прыстойны; благообразный — самавіты, паважны, гожы; благополучный — шчаслівы, удачны, паспяховы, благоприобретенный — набыты; благопристойный — прыстойны; благоприятный — спрыяльны, зручны, слушны; благоразумный — раз-*

*важны, асцярожны, разумны; благосклонный — прыхільны; благоустроенный — упарадкаваны; благоуханный — пахучы, духмяны* (Тамсама).

У гэтым акадэмічным слоўніку (РБС-53) бачым і паралельнае выкарыстанне ў беларускай частцы аднакаранёвага (аднаасноўнага) і дзвюхасноўнага слова: *Благовидный — прыстойны, добрапрыстойны; благонадежный — надзейны і добранадзейны; благопристойный — прыстойны, добрапрыстойны; благоустроенный — упарадкаваны, добраўпарадкаваны* (Тамсама).

Як бачым, у шмат якіх выпадках нашыя слоўнікі механічна калькуюць расійскамоўныя складаныя словы, перакладаючы іх складанымі беларускімі структурамі, хоць натуральна было б ужыць тут простае (аднакаранёвае) слова. Так, *благожелательный* перакладаецца як *добразычлівы, зычлівы* (РБС-82. Т. 1. С. 62), *благосклонный — прыхільны; добразычлівы* (Тамсама). А БРС-88 падае: "*Зычлівы — доброжелательный, благожелательный*" (с. 540). Праўда, на с. 384 чытаем і наступнае: *добразычлівы — благожелательный, доброжелательный, благосклонный.* Або: *добрасумленны — добросовестный* (Тамсама) і *сумленны... добросовестный* (БРС-89. С. 525).

Слоўнікі 20-х гадоў не падавалі такіх штучных складанакалькаваных словаў. БРС-26 не зафіксаваў ніводнага такога слова. Тут бачым: "*Зычлівы — доброжелательный*" (с. 131), "*сумленны — добросовестный*" (с. 304) ды інш.

***Развязаць, развязваць (задачу, праблему) ці рашаць?*** Слоўнікі 20-х гадоў занатавалі: "*Разьвязваць, -заць* што — *разрешать, -шить* (задачу); *Разьвязак* м. — *решение* (задачи); *Разьвязваньне*, н. — *решение* (процесс)" (БРС-26. С. 272). Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі таксама засведчыў гэта: "*Решать* несов. 1. (задачу, уравнение)... *развязваць*; *Решение* (действие)... *развязанне і развязванне*; *Решенный* (о математической задаче)... *развязаны*" (М., 1953. С. 592). Але ўжо "Беларуска-рускі слоўнік", выдадзены пад аднаасобнай рэдакцыяй К.Крапівы, адкінуў усё гэта і перайшоў на ўсесаюзны стандарт (*рашыць, рашаць, рашэнне*). І гэта не зважаючы на тое, што дзеяслоў *рашыць* мае ў беларускай нацыянальнай мове значэнне 'знішчыць, забіць, загубіць' (БРС-62. С. 817; РБС-93. Т. 3. С. 254). Гэтая недарэчнасць укаранялася і ў падручнікі. Але падчас нацыянальнага адраджэння тэрміналагічныя матэматычныя даведнікі, выдадзеныя ў 1992—1994 гадах, выкарыстоўваюць свае адмысловыя тэрмінаадзінкі: "*решать — развязваць, решаемый — развязальны, які развязваецца; решать в целых числах — развязваць у цэлых ліках; решать уравнение относительно неизвестного — развязваць раўнанне ў дачыненні да невядомага; решение* (действие) *развязанне;* (результат) *развязак; решение графическое — развязанне графічнае; развязак графічны...*" (Т.Сухая, Р.Еўдакіменка, В.Траццякевіч, Н.Гудзень. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн., 1993. С. 71). І ў падручніках і навучальных дапаможніках чытаем: "*Задача была накіравана*

*Лейбніцу, які адразу **развязаў** яе*" (А.А.Гусак. Развіццё матэматыкі ў XVIII—XIX стагоддзях. Тэксты лекцый для студэнтаў механіка-матэматычнага факультэта... Мн., 1988. С. 3). "*Фур'е паспяхова карыстаўся трыганаметрычнымі шэрагамі пры **развязванні** раўнанняў матэматычнай фізікі і тым самым канкрэтна ажыццявіў агульныя ідэі Д.Бернулі*" (Тамсама. С. 24).

Выкарыстоўваюцца гэтыя тэрміны — *развязаць, развязваць, развязанне, развязаны, развязак* — і спецыялістамі іншых галінаў навукі. "... *Можна было б адчуць, што праблемаў у беларускай мове можа быць менш. Разумеючы, аднак, нерэальнасць глабальнага **развязання** праблемы, варта звярнуцца да некаторых прыватных асаблівасцяў, улік якіх мог бы дапамагчы звузіць кола праблемных слоў*" (Валеры Варановіч. Шапэн ці Шапен: Супярэчнасці ў напісанні іншамоўных прозвішчаў / / Полымя. 1998. № 12).

А вось новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1996) зусім не згадвае гэтых казловаў, хоць яго пяцітомавы папярэднік зафіксаваў: "*Развязаць* зак., каго-што. 2. перан. Разм. Рашыць, вырашыць што-н. заблытанае. — *Зараз! — Адмахнуўся Казік і зноў схіліўся над задачай, якую ніяк не мог развязаць да канца... Справа тут складаная... мне не пад сілу развязаць яе*" (ТСБМ. Т. 4. Мн., 1980. С. 585). У аднатомавым ТСБЛМ словы *рашаць, рашыць, рашэнне* падаюцца з тымі значэннямі, якія занатаваў РБС-53 у расійскай частцы слоўнікавых артыкулаў. Нагадаем: "*Решать* несов. 2. (принимать решение) *вырашаць; решить* сов. 2. (принять решение) *вырашыць; я решил остаться — я вырашыў астацца; а решить чью-либо судьбу — вырашыць чый-небудзь лёс; решение*... 3. (постановление) *пастанова; судебное решение — пастанова суда; по решению общего собрания — па пастанове агульнага сходу; принять решение — прыняць пастанову*; 4. (заключение, вывод) *вывад; прийти к решению — прыйсці да вываду*" (с. 592). А вось што бачым у ТС-96: "*Рашыць*, зак. 1. Абдумаўшы, прыйсці да якога-н. выніку, заключэння. *Рашыў ехаць сягоння*. 2. Вынесці рашэнне. *Праўленне калгаса рашыла пачаць будаўніцтва... Рашэнне*. 2. Пастанова. *Рашэнне з'езда*. 3. Заключэнне, вывад..." (с. 563). Усё, як у даведніку: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 563.

***Раўнанне і ўраўненне.*** Слоўнікі 20-х гадоў засведчылі: "*Раўнаньне* н. — *уравнение*. $HT_4$" (БРС-26. С. 277). Тэрмін быў замацаваны Тэрміналагічнай камісіяй. Гэтая натуральная форма — *раўнанне* — утварэнне ад дзеяслова *раўнаваць* што, каго — *сравнивать, уравнивать* (Тамсама). В.Ластоўскі таксама падае: "*Уравнивать — раўнаваць, раўнавацца*"... (ПРК(Б)С. С. 726). І "Тлумачальны слоўнік" (Т. 4. Мн., 1980. С. 703) занатаваў: "*Раўнаваць*, незак. 1. што. Рабіць роўным, выраўноўваць. *Некалькі чалавек ачышчалі месца пад забудову — секлі кусты і раўнавалі грунт*. Чорны. 2. каго-што. Лічыць роўным, аднолькавым у якіх-н. адносінах. *Пры ацэнцы ведаў нельга ўсіх раўнаваць*".

Форма *ўраўненне* — гэта рас. *уравнение* — утварэнне ад *уравнивать*

*/ уравнять.* Падчас "пабудовы камунізму" (30—80-я гады) сваё слова *раўнанне* было замененае на пазычанне (<рас. *уравнение*). Тэрміналагічныя даведнікі, выдадзеныя ў суверэннай Беларусі, аднавілі ранейшы тэрмін *раўнанне*. Ім карыстаюцца і падручнікі, навучальныя дапаможнікі (гл. прыклады вышэй). А вось ТС-96 падае толькі *ўраўненне*, цалкам скапіяваўшы гэты артыкул з слоўніка С.Ожагава (с. 744).

***Канец, вынік — а не зыход.*** Слова *зыход* (калька рас. *исход*) не падаюць ні БРС-26, ні БРС-62. "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953. С. 188) засведчыў: "*Исход*, м. 1. (выход) уст. *выйсце, выхад; не было другого исхода — не было іншага выйсця (выхаду)*; 2. (окончание) *конец*; (результат) *вынік, исход болезни — канец (вынік) хваробы; лето на исходе — лета падыходзіць к канцу; патроны на исходе — патроны канчаюцца; в исходе — пад канец; в исходе дня — пад канец дня*". Перавыданне гэтага слоўніка (РБС-82. Т. 1. С. 335), пацвярджаючы свайго папярэдніка, разам з тым падае ўжо дублеты з словам *зыход*, праўда, не скрозь (іх амаль няма ў ілюстрацыях). Каб было відаць, як ішоў наступ на беларускае слова, падамо цалкам гэты слоўнікавы артыкул: "*Исход* м. 1. (действие) уст. *выхад*; 2. (способ разрешить какое-либо затруднение) *выйсце, выхад; найти исход в чём — знайсці выхад (выйсце) у чым*; 3. (окончание, завершение) *канец; зыход; быть на исходе — канчацца*; (о времени — еще) *мінаць*; (реже) *быць на схіле; исход болезни — канец хваробы; на исходе (закате) дней — на схіле дзён*; 4. (результат) *вынік; зыход; исход войны — вынік (канец) вайны; лето на исходе — лета канчаецца; лета на зыходзе; патроны на исходе — патроны канчаюцца; патроны на зыходзе; в исходе* книжн. *пад канец*; ■ *исходе дня — пад канец дня*". Гэты артыкул цалкам паўтораны ў наступных перавыданнях (РБС-93, РБС-98 ды інш.).

Рас. *исход* — бяссуфіксавае ўтварэнне ад *исходить*, якому ў беларускай мове адпавядаюць *выходзіць, ісці, паходзіць* (РБС-93. Т. 1. С. 594). Але дзеля набліжэння нашае мовы да ўсесаюзнага стандарту ў слоўнікі заганяліся словы больш блізкія да расійскіх (калькаваныя). Так, шляхам замены прыстаўкі *ис-* на *зы-* "вынайшлі" гэтае штучнае *зыход*. І калі ў БРС яно — толькі дадатак, дублёр словаў, то ў БРС-88 ужо чытаем: "*Зыход, -ду*, м. в разн. знач. *исход*" (с. 540). І ў ТСБМ бачым: "*Зыход, -у*, м. Заканчэнне, завяршэнне, канец. *Губернатар дазволіў затрымацца ў Адэсе да зыходу хваробы брата.* Мехаў. / / Вынік чаго-н. *Зыход спаборніцтваў, зыход паядынкаў. На зыходзе* — у канцы". Гэта — перапісанае з "Словаря русского языка" (Т. 1. С. 693): "*Исход, -а*, м. Окончание, завершение, конец. / / Результат, итог чего-л. ◊ *На исходе* — в конце чего-л." Неабачліва прадубляваў гэта і ТСБЛМ (с. 250).

***Асвечваць ці азараць?*** Слова *азараць* не падавалі слоўнікі 20-х гадоў. Іх аўтары добра ўсведамлялі неўласцівасць гэтага слова беларускай мове. Рас. *озарять* — утварэнне ад *заря*, якое ў беларускай мове мае абмежаванае значэнне (у нашай мове замацавалася з гэтым значэннем *зорка*). Параўнайма:

*на заре — на досвітку, на світанні; ни свет, ни заря — чуць свет* (РБС-53. С. 156). Не выпадкова ў РБС падаюцца да рас. *озарять* беларускія адэкваты з коранем *-свет-*. Так, у РБС-53 бачым: "*Озарять* несов. прям. перен. *асвечваць; озаряться — асвечвацца; озарение — асвятленне; озаренный — асвечаны, озарить — асвяціць; солнце озарило поля — сонца асвятліла палі; лицо озарилось улыбкой — твар асвяціўся ўсмешкай*" (с. 352). Але дзеля "зліцця моваў" побач падаюцца і расійскамоўныя дублеты. Гэты артыкул цалкам паўтораны і ўсімі перавыданнямі слоўніка (РБС-82, РБС-93, РБС-98 ды інш.).

Тлумачальныя слоўнікі пайшлі яшчэ далей, механічна пераносячы на свае старонкі расійскамоўныя лексікаграфічныя артыкулы. Дзіўна бачыць вось такія недарэчныя сказы ў ТСБМ (Т. 1. Мн., 1977. С. 201): "*Святло ад лямпы азарыла твар. Маланка азарыла сілуэт* (Гаўрусёў)".

Новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн., 1992. С. 51) падае не толькі амаль скапіяваныя лексікаграфічныя артыкулы з словамі *азарыць, азараць, азарэнне,* але і слова *зара* з усімі расійскамоўнымі значэннямі. На с. 223 чытаем: "*Зара, -ы,* мн. *зоры,* ж. 1. Яркая афарбоўка гарызонта перад усходам і заходам сонца. *Вячэрняя зара. Ні свет, ні зара* (надта рана). 2. перан. Пачатак, зараджэнне чаго-н. радаснага. *Зара свабоды* (да 1 знач.). *Заравы захад*". Гэта копія з расійскіх слоўнікаў: "*Заря, -и,* мн. *зори, ж.* 1. Яркое освещение горизонта перед восходом и после захода солнца. *Вечерняя заря.* 2. перен. Начало, зарождение чего-н. радостного. *Заря свободы.* / / прил. *зоревой* (к 1 знач.). *Зоревой закат*" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С. 196).

А між тым РБС-53, які вытрымаў 7 выданняў, падае ўсе гэтыя значэнні толькі ў расійскай частцы, а ў беларускай — толькі асобныя. Параўнайма: "*Заря, ж.* 1. (окраска горизонта) *зара;* 2. (раннее утро) *золак, досвітак, світанне; на заре — на золку, на досвітку, на світанні; ни свет, ни заря — чуць свет, яшчэ і на дзень не займалася;* 3. перен. *заранак, світанне, досвітак; заря новой жизни — заранак (світанне) новага жыцця; на заре юности — на заранку (на світанні) юнацтва*" (с. 156). Амаль без зменаў захаваўся гэты артыкул у 2—7 выданнях (РБС-82—РБС-98). У іх толькі асобна падаюцца ўстойлівыя звароты: *ни свет, ни заря — чуць свет, яшчэ і на дзень не займалася* (РБС-82. Т. 1. С. 280; РБС-93 і РБС-98. Т. 1. С. 495).

***Камора (каморка) — а не жалудачак і не клетка***. Яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча засведчыў: "*Каморка ж.* — 1) кладовка; 2) клетка (биол.) (*Нэрвовая каморка*). $НТ_4$" (с. 140). Падаецца тут і вытворны прыметнік: "*Каморкавы — клеточный*. $НТ_6$". Гэтыя словы як тэрмінаадзінкі замацаваныя ў "Беларускай навуковай тэрміналогіі. Вып. 6. Батаніка агульная і спецыяльная". У "Слоўніку зоапаразіталагічных тэрмінаў" А.Ятусевіча і В.Капліча (Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 247) занатавана: "*Камора — желудочек сердца*". У жывой народнай мове слова *камора* мае значэнне 'асобная клетачка ў сотах', 'складка ў смаржках' (Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 4. Мн., 1988. С. 226). РБС-53 падае *каморка* як адэкват рас. *клетушка* (с. 202). Слова *жалудачак* — памяншальнае

ўтварэнне ад "жалудак". Беларуская ж мова не мае гэтага "жалудак". Рас. *желудок* адпавядаюць у беларускай мове: "1. *страўнік*. 2. жывот; *расстройство желудка — расстройства жывата; несварение желудка — нястраўнасць*" (РБС-93. Т. 1. С. 426). Насуперак логіцы памянш. рас. *желудочек* было перанесенае ў беларускія слоўнікі з той сама дэфініцыяй: "*Жалудачак, -чка*, м. Частка сэрца, якая сваімі скарачэннямі абумоўлівае рух крыві па крывяноснай сістэме" (ТСБМ. Т. 2. Мн., 1978. С. 249). Копія з СРЯ Ожагава (с. 170). Слоўнікі 20-х гадоў не змяшчалі на сваіх старонках гэтага *жалудачак*. Дык ці ёсць сёння патрэба ў ім, калі беларуская мова мае свае адмысловыя словы *камора, каморка*?

## 5.1. ЛІТАРАТУРА


*Скрыган Я*. Ранішнія росы. Мн., 1965.

*Скрыган Я*. Блізкія сэрцу думкі // Полымя. 1968. № 8.

*Садоўскі П*. Час одуму // Полымя. 1968. № 5.

*Сцяцко П*. Шанаваць слова // Полымя. 1968. № 8.

*Сцяцко П*. Унармаваная і жывая // ЛіМ.1970. 22 мая.

*Каўрус А*. Пошукі слова // Полымя. 1971. № 10.

*Сцяцко П*. Набыткі і прыкрытыя агрэхі // Полымя. 1972. № 7.

*Сцяцко П*. Дзеепрыметнікавая тэрміналагічная лексіка рускай мовы і яе беларускія адпаведнікі // Научно-технический прогресс и проблемы терминологии. Киев, 1980.

*Сцяцко П*. Жывое народнае слова ў творах Якуба Коласа // Творчая спадчына Я.Купалы і Я.Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур: Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі. Мн., 1982.

*Каўрус А*. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989.

*Сцяцко П*. Шанаваць роднае слова // Полымя. 1989. № 11.

*Сцяцко П*. З пашанай да народнай мовы // Полымя. 1990. № 4.

*Сцяцко П*. Вярнуцца да свайго карэння: Нататкі пра некаторыя пашыраныя дублеты // Роднае слова. 1992. № 12.

*Сцяцко П*. Земляроб ці хлебароб? // Наша слова. 1992. № 24.

*Сцяцко П*. Пра выставу і сметанковае масла // Роднае слова. 1992. № 6.

*Сцяцко П*. Пра слова "дзякуй" // Роднае слова. 1992. № 4.

*Сцяцко П*. Пра слова "пазычаны" // Наша слова. 1992. № 28.

*Сцяцко П*. Спраўна // Наша слова. 1992. 17 верасня.

*Сцяцко П*. Ці можа рыба кляваць? // Наша слова. 1992. № 23.

*Содаль У*. Ашануйце беларускіх расіянаў // Наша слова. 1993. № 50.

*Сцяцко П*. Дакуль будзем пагарджаць сваімі словамі? // Наша слова. 1993. № 39.

*Сцяцко П*. Заробак. Адробкі // Наша слова. 1993. № 6.

*Сцяцко П*. Напой. Сваё ці пазычанае? // Наша слова. 1993. № 5.

*Сцяцко П*. Пытанні адраджэння і ўнармавання беларускай літаратурнай мовы // Праблемы нацыянальнай філалагічнай адукацыі ў ВНУ Беларусі: Матэрыялы рэспубліканскай канферэнцыі. Гродна, 1993.

*Сцяцко П*. Час адраджэння // Полымя. 1993. № 3.

*Панчанка П*. У нас ёсць свае словы // Наша слова. 1993. № 11.

*Сцяцко П*. Якія назвы нашых фабрык? // Наша слова. 1993. № 16.

*Каўрус А*. Пакуль слоўнік рыхтуецца // Полымя. 1993. № 12.

*Даніловіч М.* Фразеалагізмы і алагізмы фразаў: Рускамоўныя ўстойлівыя слова-злучэнні на беларускай глебе // Полымя. 1993. № 10.

*Карпуць І.* Сучасная грамадска-палітычная тэрміналогія беларускай мовы і нацыянальнае адраджэнне // Праблемы нацыянальнай філалагічнай адукацыі ў ВНУ Беларусі. Гродна, 1993.

*Сцяцко П.* Вонкавы, знадворны, навакольны, замежны — а не знешні // Наша слова. 1994. № 4.

*Сцяцко П.* Выстава... Натуральнае ў беларускай мове слова // Роднае слова. 1994. № 1.

*Сцяцко П.* Гутарка, размова, сумоўе — ці субяседаванне? Размоўца, суразмоўнік, суразмоўца — ці субяседнік? // Роднае слова. 1994. № 7 — 8.

*Сцяцко П.* Ростул і росчын, ростулка і росчынка // Наша слова. 1994. № 10.

*Сцяцко П.* Субяседнік. Што значыць гэтае слова? // Свіцязь: Гістарычна-культурны часопіс. Гродна, 1994. № 1.

*Сцяцко П.* У мовы свае законы // Полымя. 1994. № 1.

*Сцяцко П.* Вавёрка, вавёркавы, вавёрчын — а не белка, белчын // Наша слова. 1995. № 37.

*Кайрус А.* Да свайго слова // Полымя. 1995. № 5.

*Сцяцко П.* Весялосць і весялун — а не вяселле і весяльчак // Наша слова. 1995. № 51.

*Сцяцко П.* Вырак, прысуд — а не прыгавор // Наша слова. 1995. № 33—34.

*Сцяцко П.* Далей, цяплей // Наша слова. 1995. № 30.

*Сцяцко П.* Дзеепрыметнікавы — а не дзеепрыметны // Роднае слова. 1995. № 10.

*Сцяцко П.* Зразумелае і цьмянае: Заканамерныя беларускія ўтварэнні і іх іншамоўныя заменнікі // Наша слова. 1995. № 2.

*Сцяцко П.* Карыстацца сваімі словамі // Наша слова. 1995. № 52.

*Сцяцко П.* Небеларускія словы ў беларускіх слоўніках // Полымя. 1995. № 10.

*Сцяцко П.* Праблемы ўдасканалення структуры тэрміналагічных адзінак нацыянальнай беларускай мовы // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі. Мінск, 4—6 мая 1994 года. Мінск, 1995. С. 22—37.

*Сцяцко П.* Родная мова — мова навукі: Праблемы нармавання лінгвістычнай тэрміналогіі // Роднае слова. 1995. № 4.

*Сцяцко П.* Слынны, славуты, знакаміты, знаны — а не відны, знатны, вядомы // Наша слова. 1995. № 12.

*Сцяцко П.* Ці выйшаў з актыўнага ўжытку выраз “расійская мова”? // Наша слова. 1995. № 44.

*Сцяцко П.* Што абараняе рэцэнзентка? // Наша слова. 1995. № 37.

*Сцяцко П.* Што можна пазычаць? Яшчэ раз пра “пазычаныя” і “запазычаныя” словы // Роднае слова. 1995. № 8.

Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы нацыянальнай канферэнцыі. Мінск, 4—6 мая 1994 года. Мн., 1995.

*Даніловіч М.* Праблемы беларускай пчалярскай тэрміналогіі // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: Матэрыялы Першай нацыянальнай канферэнцыі. Мн., 1995.

*Карпуць І.* Аб лексемах з элементам -ір-(-ыр-) у беларускай тэрміналогіі // Тамсама. С. 46—54.

*Цыхун Г.* Як абяззброіць “траянскага каня”: Шляхі ўдасканалення беларускай тэрміналогіі // Наша слова. 1995. № 28.

*Кайрус А.* Збіраецца скарб: З тэрмінатворчасці 40—90-х гг. // Полымя. 1996. № 6.

*Лужанін М.* Мова — гоман векавога бору // Звязда: Спадчына. 1996. 6 чэрвеня.

*Сцяцко П.* Да ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі // Полымя. 1996. № 7.

*Сцяцко П.* На месцы сваіх словаў — штучныя пазычанні // Наша слова. 1996. № 6.

*Сцяцко П.* Непатрэбныя дублёры // Наша слова. 1996. № 10.

*Сцяцко П.* Словы-чужынцы і іх натуральныя эквіваленты // Роднае слова. 1996. № 1.

*Сцяцко П.* Слухаючы добрых людзей // Наша слова. 1996. № 9.

*Сцяцко П.* Так пісаў Якуб Колас: Пра некаторыя формы ўласных асабовых імёнаў // Наша слова. 1996. № 14.

*Сцяцко П.* Ці нашыя гэта словы? // Полымя. 1996. № 2.

*Вараповіч В.* Асабовыя назоўнікі: Шлях да гармоніі // Полымя. 1997. № 1.

*Суднік С., Чыслаў С.* Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн., 1997.

*Сцяцко П.* Дэкларацыйны // Наша слова. 1997. № 2.

*Сцяцко П.* Дакуль будзем падсякаць свае карані? // Наша слова. 1997. № 12.

*Сцяцко П.* Паўтаратонка, двухзменка, сардэчнік? Пра небеларускую структуру гэтых і некаторых іншых словаў // Роднае слова. 1997. № 10.

*Сцяцко П.* Чарговая бязглуздзіца: Пра словы "бяседа" і "субяседнік" у новым "Тлумачальным слоўніку" // Наша слова. 1997. № 10.

*Сцяцко П.* Шануйма народную казку: Пра некаторыя выпадкі парушэння нормаў літаратурнай мовы // Роднае слова. 1997. № 3.

*Кайрус А.* Словы з дзеяслова: Пра дзеепрыметнікі ды іх адпаведнікі // Маладосць. 1997. № 7.

*Сцяцко П.* Натуральнасць формы і дакладнасць думкі // Наша слова. 1997. № 17.

*Бурлыка І., Даніловіч М., Памецька Н., Сцяцко П.* Ці няма ў артыкуле П.Шубы беларусафобства? // Роднае слова. 1997. № 12.

*Сцяцко П.* Набытае і страчанае: Да выхаду новага "Тлумачальнага слоўніка" // Полымя. 1998. № 1.

*Сцяцко П.* Праблемы нацыянальна-культурнага адраджэння: Лексічная сістэма сучаснага варыянту беларускай літаратурнай мовы // Адам Міцкевіч і сусветная культура: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі. 12—17 мая 1997 года, Гродна — Навагрудак. Кн. 5. Гродна, 1998.

*Сцяцко П.* З чужой маўленчай практыкі // Полымя. 1998. № 17.

*Сцяцко П.* Шануйце роднае слова! // Гармонія беларускага слова: Падручныя нарысы для журналістаў. Гродна, 1999.

*Сцяцко П.* І хрысціны, і заручыны // Роднае слова. 1999. № 2.

*Сцяцко П.* Беларуская народная тэрміналогія: праблемы і кірункі спарадкавання // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1. Гродна, 1999.

*Сцяцко П.* З слоўнікавых агледзінаў // Полымя. 1999. № 6.

*Сцяцко П.* Супярэчлівасць, неадэкватнасць лексікаграфічных даведнікаў // Полымя. 2000. № 3.

*Сцяцко П.* Пра нормы літаратурнае мовы і пра тое, хто і што "ўзаконьвае" // Наша слова. 2000. 7 чэрвеня.

*Сцяцко П.* Новы час непатрэбнае крышыць // Настаўніцкая газета. 2000. 29 чэрвеня.

*Сцяцко П.* Сучасныя моўныя рэальнасці і праект новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" // Роднае слова. 2000. № 3.

*Сцяцко П.* Беларуская навуковая тэрміналогія ў II палове 90-х гадоў XX ст. // Роднае слова. 2001. № 1.

## Паказальнік
## прааналізаваных моўных адзінак

В



Г

I



K

**Р**

Т



У



Ф



Х



Ц

## ЗМЕСТ

Раздзел 5

**Лексічнае нармаванне** 96

Навукова-папулярнае выданне

**Сцяцко**
Павел Уладзіміравіч

# Культура мовы

Рэдактар
*Алена Трусава*

Карэктары
*Алена Наварай,*
*Яніна Марціновіч,*
*Маргарыта Хадановіч*

Тэхнічны рэдактар
*Ала Таўстая*

Мастацкае афармленне
*Віталь Катовіч*

Макетаванне
*Кастусь Санько*

Падпісана да друку 25.03.02. Фармат 60х90 1 / 16. Папера афсетная. Гарнітура Antiqua.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 28,0. Ул.-выд. арк. 34,5. Наклад 2000 паасобнікаў.
Замова № 3483.
Выдавецтва "Тэхналогія". ЛВ № 73 ад 07.08.01. 220007, г. Мінск, вул. Ляўкова, 19.
Сертыфікат выдавецкай дзейнасці МН № 0000385, выдадзены 19.03.99
Беларускай гандлёва-прамысловай палатай.
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства "Паліграфічны камбінат імя Я.Коласа".
220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.